НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

# ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга I




Мінск
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2004



# ДА ЧЫТАЧА

Чытачу прапануецца кніга, якая з'яўляецца першым томам энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі». Гэта першае ў гісторыі Беларусі фундаментальнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і бібліяграфічных крыніц адлюстроўваецца гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Важнасць такога выдання відавочная. Кожнаму чалавеку дарагія Радзіма, горад, вёска, дзе ён нарадзіўся, жыве, працуе. Ён хоча болей ведаць канкрэтнага і змястоўнага пра родныя месцы. Цікавасць да айчыннай гісторыі істотна расце.

Гісторыя і сучасны стан асобных гарадоў, пасёлкаў і вёсак Беларусі знайшлі пэўнае адлюстраванне ў працах беларускіх даследчыкаў. Каштоўныя звесткі маюцца ў 5-томнай «Гісторыі Беларускай ССР», 12-томнай «Беларускай савецкай энцыклапедыі», 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», у 18-томным выданні «Беларускай энцыклапедыі». Пра асобныя гарады выдадзены манаграфіі. Разам з тым відавочна, што навуковай інфармацыі і аналітычных матэрыялаў пра беларускія гарады і вёскі ўсё яшчэ вельмі мала. Пра пераважную большасць населеных пунктаў наогул няма ніякіх звестак. А гэта значыць, наспела патрэба ў спецыяльным даследаванні.

Першы том энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі» прысвечаны 11 раёнам Гомельскай вобласці. Гомельская вобласць утворана 15.1.1938 г. на паўднёвым усходзе Беларусі. 8.1.1954 г. да яе далучана тэрыторыя ліквідаванай Палескай вобласці, а таксама Акцябрскі і Парыцкі раёны Бабруйскай вобласці. Зараз Гомельская вобласць уключае 17 гарадоў, у тым ліку 2 абласнога падпарадкавання, 21 сельскі раён і 4 раёны ў Гомелі, 18 гарадскіх пасёлкаў, 275 сельсаветаў. Мяжуе на поўначы з Магілёўскай, на паўночным захадзе — з Мінскай, на захадзе — з Брэсцкай абласцямі Беларусі, на поўдні — з Ровенскай, Жытомірскай і Кіеўскай, на паўднёвым усходзе — з Чарнігаўскай абласцямі Украіны, на ўсходзе — з Бранскай вобласцю Расіі. Плошча 40 364 км$^2$, насельніцтва 1505,4 тыс. чалавек, шчыльнасць 37 чал. на 1 км$^2$. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986 г.) жыхары 275 населеных пунктаў перасялены ў 1986—2003 гг. у чыстыя месцы. 70,2% складае гарадское, 29,8% сельскае насельніцтва. Вобласць мае высокі інтэлектуальны, прамысловы і сельскагаспадарчы патэнцыял. Разведаны і распрацоўваюцца радовішчы каменнай і калійнай солей, мелу, гліны, шкловых і фармовачных пяскоў. На Гомельшчыну прыпадаюць усе выяўленыя на Беларусі радовішчы нафты, 11% запасаў торфу; увесь рэспубліканскі аб'ём здабычы нафты і сталовай солі, вырабу пракату чорных металаў, фасфатных угнаенняў, кармаўборачных камбайнаў, паліраванага шкла, лінолеуму, 93% вытворчасці ў рэспубліцы сталі, 54% маргарынавай прадукцыі. Прадпрыемствы вобласці выпускаюць 20,5% рэспубліканскага аб'ёму прамысловай

*прадукцыі. 36% тэрыторыі вобласці займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Дзейнічаюць 7 вышэйшых і 24 сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, 21 музей, 4 тэатры, 115 бальнічных і 270 амбулаторна-паліклінічных устаноў. 44,9% тэрыторыі заняты лесам, тут размешчана больш за палавіну дуброў Беларусі.*

*Фундаментальная праца аб гарадах і вёсках Гомельшчыны ствараецца ў беларускай гістарыяграфіі ўпершыню. Падрыхтавана яна на падставе экспедыцыйных даследаванняў, энцыклапедычных выданняў, вывучэння статыстычных звестак, архіўных матэрыялаў і бібліяграфічных крыніц пра сацыяльна-гаспадарчае, культурнае, архітэктурнае і горадабудаўнічае развіццё, пра памятныя падзеі і выдатных людзей. У выданне ўключаны найбольш значныя звесткі аб усіх існуючых у наш час населеных пунктах, выкладзеныя ў энцыклапедычным стылі ў тых памерах, якія дазваляюць навуковая даследаванасць праблемы і аб'ём в энцыклапедычнага выдання. У томе змешчана інфармацыя і пра населеныя пункты, жыхары якіх у сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пераселены ў чыстыя месцы.*

*У гэтым выданні — шматвяковая гісторыя Гомельшчыны і найбольш важныя даныя аб сучасным жыцці рэгіёна. Кніга складаецца з уводзін, апісання абласнога цэнтра, гісторыка-эканамічных звестак пра кожны раён і яго населеныя пункты (у алфавітным парадку). Да асноўнага тэксту дадаюцца алфавітныя паказальнікі населеных пунктаў, імянны і літаратура па праблеме. Назвы гарадоў і вёсак дадзены пераважна паводле «Слоўніка назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці» Я.П.Рапановіча (Мн., 1986). Звесткі пра сучасны стан населенага пункта даюцца па стане на 1.1.2004 г. Даты да лютага 1917 г. — па старым стылі, з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю 14 лютага (1 лютага па старым стылі) 1918 г. — па старым і новым стылі (апошні даецца ў дужках), з 14.2.1918 г.— па новым каляндарным стылі. Былыя населеныя пункты, якія зараз не існуюць, пазначаны ў матэрыялах пра сяленні ў цэнтрах сельсаветаў, у склад якіх яны ўваходзілі. Ілюстрацыі дапаўняюць гістарычную характарыстыку (пры наяўнасці) і наглядпае ўяўленне пра сучасны стан пэўнага населенага пункта.*

*Выданне будзе карысным дапаможнікам для навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў школ і ВНУ, краязнаўцаў, кіруючых кадраў і спецыялістаў народнай гаспадаркі, а таксама шырокага кола чытачоў.*




ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
По колькасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
Паводле адміністрацыйнага значэння і тыпу паселішча
ГОМЕЛЬ Цэнтры абласцей
ЖЫТКАВІЧЫ Іншыя гарады
Капаткевічы Пасёлкі гарадскога тыпу
Камаровічы Сельскія населеныя пункты
Цэнтр вобласці і цэнтры раёнаў вылучаны чырвоным колерам.
ГРАНІЦЫ
дзяржаў
абласцей
раёнаў (на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь)
Зона адсялення ў выніку аварыі на ЧАЭС
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Аўтамабільныя дарогі
рэспубліканскія магістральныя
рэспубліканскія іншыя
мясцовага значэння
Рачныя парты і прыстані
Аэрапорт
Рэкі і меліярацыйныя каналы
Азёры і вадасховішчы
Маштаб 1:1 500 000
ГОМЕЛЬ
ЖЛОБІН
РАГАЧЁЎ
СВЕТЛАГОРСК
РЭЧЫЦА
МАЗЫР
КАЛІНКАВІЧЫ
ЖЫТКАВІЧЫ
ПЕТРЫКАЎ
ЕЛЬСК
НАРОЎЛЯ
ХОЙНІКІ
БРАГІН
ЛОЕЎ
ДОБРУШ
ВЕТКА
ЧАЧЭРСК
БУДА-КАШАЛЁВА
ВАСІЛЕВІЧЫ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК ПРЫПЯЦКІ
ПАЛЕСКІ РАДЫЯЦЫЙНА-ЭКАЛАГІЧНЫ ЗАПАВЕДНІК
ЧАРНІГАЎ
СЛАЎГАРАД
БЫХАЎ
СЛАВУЦІЧ
ПРЫПЯЦЬ (нежылы)
ЧАРНОБЫЛЬ (нежылы)
ОЎРУЧ
МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛ.
МІНСКАЯ ВОБЛ.
БРЭСЦКАЯ ВОБЛ.
РОВЕНСКАЯ ВОБЛ.
ЖЫТОМІРСКАЯ ВОБЛ.
КІЕЎСКАЯ ВОБЛ.
БРЯНСКАЯ ОБЛ.



# ГОМЕЛЬ

Адміністрацыйны цэнтр Гомельскай вобласці — Гомель (летапісны Гомей, Гомій, Гомін, Гомъ, Гомъе) — горад абл. падпарадкавання (з 27.9.1938), адм. цэнтр Гомельскай вобл. і р-на, на ПдУ Беларусі, у сутоку р. Сож і яе прытока р. Гамяюк, чыг. вузел (5 напрамкаў) і шашэйных дарог, порт на р. Сож, аэрапорт, за 301 км ад Мінска. Пл. 114 кв.$^2$ Падзяляецца на 4 адм. раёны — Навабеліцкі, Савецкі, Цэнтральны, Чыгуначны. 481,2 тыс. жыхароў (2004 г.).




Выяўленыя археолагамі стаянкі неаліту і бронзавага веку, гарадзішчы мілаградскай і зарубінецкай культур (на ўскраіне горада і каля воднай станцыі), гарадзішча 11—13 ст. (на правым беразе р. Сож, каля ўпадзення ў яе ручая Гамяюк, ва ўсх. частцы горада) сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай мінуўшчыне. Дзядзінец стараж. Гомеля размяшчаўся на мысе паміж правым берагам ракі і левым берагам ручая. Насельніцтва жыло ў наземных і заглыбленых у зямлю пабудовах, займалася рамёствамі, земляробствам, жывёлагадоўляй, гандлем. Аб шырокіх стараж. гандл. сувязях Гомеля сведчыць



*Віслая пячатка (правы і адваротны бакі) 12—13 ст. з Гомеля.*



*Гомельскі замак. Малюнак з карты 16 ст.*

знойдзены тут у 1822 г. скарб манет Арабскага халіфата 9—10 ст. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1142 г. у сувязі з ваен. процістаяннем смаленскага кн. Расціслава Смаленскага і чарнігаўскіх Ольгавічаў. Як і многія інш. пасяленні, Гомель быў у вадавароце княжацкіх міжусобных войнаў. У 1159 г. сюды з Кіева ўцякае вял. кн. кіеўскі Ізяслаў Давыдавіч, а пасля яго смерці Гомель пераходзіць да чарнігаўскага кн. Святаслава Ольгавіча (1161), потым да яго сына Алега, пры якім Гомель адышоў да Наўгарод-Северскага княства. Наступным уладальнікам Гомеля стаў Ігар — герой паэтычнага «Слова пра паход Ігаравы». У той час горад быў цэнтрам воласці і выконваў функцыю ўмацаванага пункта, які кантраляваў водны шлях, што звязваў Паўд. Русь са Смаленскам. Каля 1335 г. далучаны Альгердам да ВКЛ. Разам са Старадубам складаў удзел кн. П.Нарымунтавіча, пляменніка Альгерда. У ліку інш. гарадоў упамінаецца пад 1430 у акце ўзвядзення Свідрыгайлы на літоўскі трон. У 1446 вял. кн. ВКЛ Казімір I аддаў Гомель кн. Васілю Яраславічу, у 1452 г. перайшоў да кн. Свідрыгайлы. 1.7.1496 г. вял. кн. Аляксандр Ягелончык пажалаваў Гомель кн. Сімяону Мажайскаму. У 1500 г. заняты рус. войскамі. У 1503 г. па дагавору аб 6-гадовым пераміры адышоў да Маскоўскай дзяржавы. Пад 1508 г. упамінаецца ў перапісцы вял. князя Маскоўскага Васіля з вял. кн. ВКЛ Жыгімонтам. У 1535 вернуты пад уладу ВКЛ, у тым жа годзе вял. кн. ВКЛ Жыгімонт заснаваў Гомельскае староства. Упамінаецца ў дакументах у 1556 г. ў сувязі з заключэннем 6-гадовага перамір'я паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1560 г. гораду нададзены герб. З 1565 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле метрыкі ВКЛ у 1572 г. староства Гомельскае атрымаў Б.Сапега. У 1576 г. рус. войскі зноў авалодалі горадам, але ў хуткім часе ўлада ВКЛ над ім была адноўлена. У 1640 Гомельскае староства ўваходзіла 40 сёл з 202 дымамі, дарогай звязана з Рагачовам.



*Гомельскі манетны скарб.*

У 1648 г. Гомелем авалодалі казакі Багдана Хмяльніцкага, падтрымку ім аказалі мясцовыя жыхары, незадаволеныя феад. прыгнётам. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. застаўся ў складзе ВКЛ. Права на пажыццёвае валоданне Гомельскім стараствам (уключала ў 1565 Засожскую, Лакуцкую і Прадсожскую вол.) атрымаў М.Радзівіл. У 1670 г. Гомелю даравана магдэбургскае права. У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. у горадзе размяшчаліся рус. войскі пад камандаваннем А.Д.Меншыкава. У 1730—72 гг. Гомелем валодаў канцлер ВКЛ М.Ф.Чартарыйскі, які ператварыў Гомельскі замак у даволі моцную крэпасць: была збудавана новая драўляная сцяна і дубовыя будынкі з байніцамі, а праз роў перакінуты пад'ёмныя масты.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1796 г. ўтворана Беларуская губ., з якой у 1802 г. вылучыліся Віцебская і Магілёўская губ. Значная частка сучаснай Гомельскай вобл., у т.л. і Гомель, увайшлі ў Магілёўскую губ. У 1775 г. ў Гомелі пражывала 5 тыс. чалавек, ён уваходзіў у Рагачоўскую правінцыю, быў канфіскаваны ў казну, з 1777 г. ў Беліцкім пав. Кацярына II даравала Гомель і старастваген.-фельдмаршалу графу П.А. Румянцаву-Задунайскаму. Староства ўключала ў 1779 г. 82 вёскі з 12 665 дварамі. На месцы абарончых збудаванняў і драўлянага замка М.Чартарыйскага ў 1785—93 гг. узведзены мураваны палац, які ў наступныя дзесяцігоддзі значна пашыраны і ўпрыгожаны. Фельдмаршалы П.А.Румянцаў і І.Ф.Паскевіч неаднаразова прымалі ў ім высокіх асоб з Пецярбурга ў час іх паездак на поўдзень. У 1770-я г. П.А.Румянцаў-Задунайскі заснаваў суконную мануфактуру. На беразе Сажа ў 1793 г. пабудавана Ільінская царква — 3 пастаўленыя адзін на адным па адной восі зрубы (зараз помнік драўлянага дойлідства). У 1795 г. па спадчыне Гомель перайшоў да сына фельдмаршала графа М.П.Румянцава. У 1794—1805 гг. да палаца прыбудаваны флігелі і галерэі, якія завяршаліся квадратнымі ў плане павільёнамі, а ў 1837—48 гг. узведзена чатырохкутная шмат'ярусная вежа. У 1804 г. адкрыта палатняная, у 1809 г. шклаp обчая, у 1828 г. талесная вытворчасці. У 1815 г. пабудавана духоўнае вучылішча і памяшканне для ліцэя (па ўзору Царскасельскага). Пачало дзейнічаць параходства. Гомельскі параход быў першым параходам на Беларусі. У 1816 г. 185 двароў. У 1824—33 гг. замест драўлянай узведзена мураваная Троіцкая царква (не захавалася). У 1832 г. пачаў працаваць цукровы, у 1840 г. сальна-свечачны, у 1853 г. крупарушны з-ды. Склалася рэгулярна-планіровачная схема з кампазіцыйным цэнтрам — палацам (зараз тут абласны краязнаўчы музей і Палац школьнікаў), паркам і цэнтральнай Кірмашовай плошчай з двух'ярусным гасцінным дваром і гандл. радамі. Дзве прамянёвыя вуліцы, Румянцаўская і Замкавая, звязвалі палац з інш. раёнамі горада і ўтваралі 2-прамянёвую планіровачную сістэму. У 1809—19 гг. па праекту арх. Дж.Кларка, які ў 1800—26 гг. жыў і працаваў у Гомелі, пабудаваны Петрапаўлаўскі сабор. У яго кампазіцыі выкарыстаны характэрны для архітэктуры класіцызму прыём: каланада, якая апаясвае сабор, стварае цікавыя прасторавыя эфекты. Дамінантай з'яўляецца прарэзаны 12 вокнамі барабан, увенчаны паўсферычным купалам з гранёнай лукавічнай галоўкай на завершы. Да нашага часу збярогся і паляўнічы домік М.П.Румянцава (пабудаваны ў 1813).

У 1831 г. мястэчка было куплена казной. Староства ў 1834 г. набыў ген.-фельдмаршал князь Варшаўскі І.Ф.Паскевіч-Эрыванскі. У 1838 г. і Гомель перайшоў да І.Ф.Паскевіча. Гомельскі маёнтак складаўся з 8 эканомій, у якіх мелася 209 662 дзес. зямлі. Аб памерах зберажэнняў гаспадара маёнтка сведчыць той факт, што з яго калекцыі ў 1919 г. было перададзена ў Гістарычны музей Масквы каля 100 пудоў золата і серабра ў манетах, шмат вырабаў прыкладнога мастацтва і мастацкіх твораў. Цераз

*Гомельскі палац. Галоўны корпус.*



*Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі. Пач. 19 ст.*

*Гомельская капліца. 1870—89.*





Сож дзейнічаў мост на плытах (175 сажняў). На левым беразе мелася насыпная плаціна з 9 драўлянымі мастамі (знесены веснавой паводкай у 1845). 25.9.1852 г. Гомелю нададзены статус горада, ён стаў цэнтрам павета Магілёўскай губ., а ў 1854 г. да яго як прадмесце далучаны горад Новая Беліца (1646 жыхароў, 3 мураваныя і 302 драўляныя дамы, 2 драўляныя царквы і 2 яўр. малітоўныя школы, царкоўнапрыходская школа, крупяны і запалкавы з-ды, 4 ветракі). У склад павета ў 1877 г. ўваходзілі 457 тыс. дзес. зямлі, 18 600 двароў, у 1905 г. — 554 тыс. дзес. зямлі і 33 866 двароў, у 1912 г. аб'ядноўваў 18 валасцей з 302 пасяленнямі. Гомель з'яўляўся і цэнтрам воласці (у 1912 г. 16 сяленняў), меў зацверджаны 16.1.1855 г. новы герб (падзелены на 2 роўныя часткі шчыт: у верхняй — герб Магілёўскай губ., у ніжняй — рысь на блакітным полі).

У сярэдзіне — 2-й пал. 19 ст. актыўна развіваліся гандл. сувязі. У 1860 г. на прыстані былі разгружаны 40, а загружаны 108 суднаў і 160 плытоў. Праводзіліся 3 кірмашы ў год, асн. таварамі на якіх з'яўляліся вырабы са скуры, кадкі, колы, бочкі. У 1846 г. на Гомельскія кірмашы (Васільеўскі, Троіцкі, Узвіжанскі) было завезена тавараў на 477,4 тыс. руб. і прададзена на 252 тыс. руб. У 1857 г. пабудаваны арачны мост цераз р. Сож, які злучыў Гомель

*Фрагменты аздаблення Гомельскай капліцы.*





з Навабеліцай. У 1858 г. — 13 659 жыхароў, 6 праваслаўных цэркваў, касцёл, капліца, сінагога, цукровы з-д (зараз у яго будынку аранжарэя), 2 скураапрацоўчыя і 5 цагельных прадпрыемстваў, 534 рамеснікі. У 1866 г. — 16 377 жыхароў, 74 мураваныя і 1150 драўляных будынкаў. У 1857 г. мост цераз р. Сож перабудаваны, паспяхова працавала і пераправа, дзейнічалі 2 паштовыя станцыі. У 1850 г. праз горад пракладзена шаша Пецярбург—Кіеў і тэлеграфная лінія Пецярбург—Севастопаль, у 1872 г. пачаў працаваць першы тэлефонны апарат. Уступілі ў строй дзеючых Лібава-Роменская (1873) і Палеская (1887) чыгункі. У 1881 г. адкрыты паштовы тракт Гомель—Рэчыца. Вялікі пажар 1856 г. знішчыў 540 дамоў, цяжкім быў і пажар 1907 г., але горад даволі хутка адбудоўваўся. У 1868 г. зацверджаны план яго забудовы. У 2-й пал. 19 ст. ўзніклі лесапільні, гарбарныя і канатныя прадпрыемствы. У 1879 г. пачалі працаваць запалкавая ф-ка «Везувій» (каля 400 рабочых), у 1874 г. — чыг. рамонтныя майстэрні (зараз вагонарамонтны з-д), у 1892 г. — чыгуналіцейныя майстэрні (цяпер станкабудаўнічы з-д імя С.М.Кірава), у 1895 г. — рамонтна-мех. майстэрні (зараз з-д тарфянога машынабудавання). У 1850 г. дзейнічалі павятовае і прыходскае духоўныя вучылішчы (120 вучняў). 27.10.1878 г. адкрыта трохгадовае вучылішча па падрыхтоўцы паравозных машыністаў, тэлеграфістаў і другіх спецыялістаў для чыг. транспарту. У 1919 г. на базе гэтага вучылішча быў створаны тэхнікум. У 1884 г. дзейнічалі 4 мужчынскія, 2 жаночыя дзярж. і 1 прыватная школы, 2 кніжныя лаўкі, 2 б-кі, друкарня (з 1875), тэлеграфная станцыя. У канцы 19 — пач. 20 ст. узводзяцца будынкі гар. управы (цяпер ф-ка «Палесдрук»), мужчынскай (1898) і жаночай (1904) прагімназій, банка (1904). Колькасць жыхароў у 1880 г. павялічылася да 22 тыс., мураваных дамоў да 161, драўляных да 2494. У 1872



*Фрагмент аздаблення Гомельскай капліцы.*

г. пачалося асвятленне гар. вуліц (у 1880 г. — 212 газавых ліхтароў), а ў 1900 г. для асвятлення палаца і парку была выкарыстана электрычнасць. У 1874—77 гг. саламяныя дахі былі заменены на драўляныя, з 1876 г. пачалося машчэнне тратуараў. Гомель быў цэнтрам воласці (да 8.12.1926), у якую ў 1890 г. ўваходзілі 25 пасяленняў з агульнай колькасцю 1977 двароў. Меліся пазыкова-ашчадныя касы, 1.9.1896 г. адкрыты Мікалаеўскі сельскі банк. Паводле перапісу 1897 г. ў Гомелі 36 775 жыхароў, з якіх 48,5% пісьменныя, 17 навуч. устаноў, у т.л. 2 прагімназіі і тэхнічнае чыг. вучылішча, б-ка, 7 кніжных лавак. З восені 1904 г. да сак. 1905 г. выходзіла першая бальшавіцкая газета на Беларусі «Полесский листок», з 17.10.1909 г. да 27.12.1911 г. — грамадска-паліт. і літ. газ. «Полесская жизнь», з 24.9.1909 г. да 7.10.1912 г. — газ. «Полесье». У 1908—14 гг. дзейнічала муз.-драм. т-ва. У 1912

*Вуліца Замкавая (цяпер праспект Леніна) у Гомелі. Пач. 20 ст.*







*Аздабленне акон жылых дамоў у Гомелі. Пач. 20 ст.*

г. на 41 прамысл. прадпрыемстве працавалі 3,5 тыс. чалавек. У 1913 г. ў горадзе 104,5 тыс. жыхароў. Гомельскі пав. налічваў у гэты час 102 120 жыхароў, а яго плошча складала 4719,4 кв. вёрст.

Па прыкладу Пецярбурга і інш. прамысл. цэнтраў Расіі зараджаецца і атрымлівае развіццё с.-д. рух. У 1904 г. ствараецца Палескі к-т РСДРП(б) з цэнтрам у Гомелі. У маі 1905 г. адбыўся I з'езд гэтай арг-цыі. 18.12.1905 г. на шматлюдным мітынгу рабочыя горада вырашылі пачаць забастоўку і не прапускаць вайсковыя эшалоны для ўдушэння рэв. выступленняў у гарадах Расіі. Спынілі работу Лібава-Роменская і Палеская чыгункі. 9 снеж. забастоўка стала ўсеагульнай. Улада на чыг. вузле перайшла ў рукі рабочых. 19 снеж. ў Гомель прыбыў карны атрад на чале з ген. Арловым. Выступленне рабочых было падаўлена. 22.10.1916 г. ў адказ на здзекі над салдатамі паўстала каля 4 тыс. салдат і казакаў размеркавальнага пункта. Яны абяззброілі вартавых, вызвалілі з гаўптвахты 800 арыштаваных і знішчылі абвінаваўчыя дакументы. Карную роту паўстанцы сустрэлі ружэйным агнём, але салдацкае выступленне было хутка задушана. 26.10.1916 г. паўстанне аднавілася, але жорстка падаўлена: 9 кіраўнікоў і актыўных яго ўдзельнікаў былі расстраляны, 2 сасланы на катаргу, 5 накіраваны ў арыштанцкія роты.

У пач. сак. 1917 г. ўзніклі Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, 30.10(12.11). 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З 30.10(12.11).1917 г. да студз. 1918 г. выходзіла газ. «Известия Гомельского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов», якая ў 1919 г. мела назвы: «Известия революционного комитета г. Гомеля и уезда», «Известия Гомельского Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов», «Путь Советов», з 1920 г. — «Полесская правда», а ў 1938 г. перайменавана ў «Гомельскую праўду».

З 1.3.1918 да 14.1.1919 г. ў акупіраваным германскімі войскамі Гомелі дзейнічаў падп. рэв. камітэт, які з'яўляўся штабам партыз. руху на Палессі. У сак. 1918 г. герм. ўлады перадалі Гомель і павет Украіне. На Гомельшчыну ўступілі гайдамакі гетмана Скарапацка-

га. У студз. 1919 г. адбылася забастоўка пратэсту рабочых супраць герм. акупацыі. Падп. рэўкомы існавалі на Гомельскай чыгунцы і ў Новай Беліцы. З выгнаннем акупантаў скончылася самапраўства і гайдамакаў.

24—29.3.1919 г. адбылося антысав. паўстанне, якое ўзначаліў штабс-капітан царскай арміі М.Стракапытаў. Мяцежнікі захапілі чыг. вузел, школу, тэлеграф, падавілі супраціўленне ўзброеных атрадаў рэўкома і сталі поўнымі гаспадарамі горада. На барацьбу з паўстанцамі былі накіраваны часці Бранскага і Смаленскага гарнізонаў, браняпоезд з Масквы, атрады з гарадоў і мястэчак Гомельшчыны. Паўстанне было хутка падаўлена. У сак.—маі 1920 г. жорсткія баі вяліся каля горада супраць польскіх інтэрвентаў. З 26.4.1919 г. — цэнтр Гомельскай губ. РСФСР. 16—17.6.1919 г. Гомель наведаў старшыня ЦВК РСФСР М.І.Калінін з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Ён выступіў перад чырвонаармейцамі, на надзвычайным сходзе Гомельскай арг-цыі РКП(б), перад рабочымі горада і наведаў Лібава-Роменскія майстэрні. У сувязі з эпідэміяй тыфу гар. клуб у лют. 1920 г. быў перададзены для пашырэння гар. заразнай бальніцы, будынак былой Прабражэнскай школы — для гар. прыёмніка-ізалятара, а ў будынку санітарнага бюро размясціўся ваенны шпіталь. Газ. «Полесская правда» 7.5.1921 г. паведамляла аб адкрыцці 3 дамоў адпачынку ў прыгарадзе Гомеля Чонках, пазней тут быў адкрыты санаторый. У 1921 г. ўступіла ў лік дзеючых ф-ка «Палесдрук», створаная на базе некалькіх дробных друкарняў. 8.12.1926 г. Гомельская губ. ліквідавана, горад з Гомельскім і Рэчыцкім паветамі далучаны да БССР. Паводле перапісу 17.12.1926 г. ў Гомелі 86,4 тыс. жыхароў, 35,5% з якіх складалі яўрэі.



*Вуліца Рынычная (цяпер Працоўная) у Гомелі. Пач. 20 ст.*

Адначасова з нацыяналізацыяй жылога фонду буйных домаўладальнікаў вялася значная работа па рамонце і аднаўленні жылых будынкаў. Атрымала распаўсюджанне практыка будаўніцтва дамоў, разлічаных на хуткае атрыманне жылой плошчы. Да ліку такіх адносіліся каркасна-шчытавыя і каркасна-абшыўныя дамы з уцяпленнем з апілак, саламіту, шлакавай засыпкі. Тэрмін эксплуатацыі такіх дамоў прадугледжваўся 10—15 гадоў. Але на практыцы эксплуатаваліся яны многія дзесяткі год. На рабочых ускраінах паяўлялася асвятленне, па магчымасці рабілася цвёрдае пакрыццё. Пераадольваючы шматлікія цяжкасці, гамяльчане вярталі да жыцця старыя прадпрыемствы, рабілі першыя крокі ў іх рэканструкцыі. Новыя імпульсы для свайго развіцця атрымалі дробныя прадпрыемствы саматужнага і паўсаматужнага тыпу, якія працавалі пераважна на мясцовай сыравіне. У ліп. 1920 г. пачалі дзейнічаць суднарамонтныя майстэрні (з 1935 суднарамонтны з-д). Прафсаюзы Гомеля ў 1921 г. кожны тыдзень праводзілі масавыя суботнікі і тыднёвікі, якія адыгралі істотную ролю ў аднаўленні нар. гаспадаркі. У 1922—24



*Будынак чыгуначнага вакзала ў Гомелі. Пач. 20 ст.*



*Помнік на брацкай магіле гомельскіх апалчэнцаў і Ц.С.Барадзіна.*

гг. пабудаваны і ўступілі ў строй ф-ка «Праца» і хлебакамбінат, на базе лесазаводаў «Калектыўная праца» і «Сацыялізм» у Навабеліцы створаны лесакамбінат. 29.4.1923 г. адбыўся пуск 1-й чаргі гар. электрастанцыі. 4.11.1928 г. адкрыты рух на чыг. лініі Навабеліца—Прылукі (Украіна) у напрамку Чарнігава. 12.8.1928 г. пачалося будаўніцтва «Гомсельмаша» (на паўн.-зах. ускраіне, на тэр. былога Навікоўскага гаю), у 1929 г. — мясакамбіната, у 1930 г. — тлушчакамбіната, у 1929—32 гг. ўзведзены дрэваапрацоўчы камбінат. У 1933 г. заснаваны рачны порт. У 1935 г. зацверджаны Ген. план рэканструкцыі горада.

Хутка пашыралася сетка ўстаноў культуры. 7.11.1919 г. заснаваны краязнаўчы музей. Дзейнічалі нар. кансерваторыя (з 1919), нар.-пралетарская муз.-драм. студыя (з 1919), рус. драм. трупа (1921—22). У 1920—26 гг. выходзіла газ. «Новая деревня». З 1928 г. працавала радыёвяшчальная станцыя. У 1929 г. пабудаваны Палац чыгуначнікаў імя У.І.Леніна з кінатэатрам (рэканструяваны ў 1950), у 1936 г. — настаўніцкі ін-т, у 1929—31 гг. — Дом камуны, у 1935 г. — Дом спецыялістаў. У 1930 г. на базе ляснога аддзялення Бел. НДІ сельскай і лясной гаспадаркі быў адкрыты НДІ лясной гаспадаркі, а 21.6.1930 г. заснаваны Бел. лесатэхнічны ін-т. У кастр. 1930 г. пачаў працаваць 2-гадовы аграпедагагічны (рэарганізаваны ў 1933 у педагагічны) ін-т. У 1932—37 гг. Гомель з'яўляўся пастаяннай базай Бел. дзярж. тэатра (БДТ-3) пад кіраўніцтвам У.І.Галубка. У 1933 г. адкрыты філіял Дзярж. б-кі БССР, у 1938 г. ператвораны ў абл. б-ку. У 1931—35 гг. дзейнічаў тэатр рабочай моладзі, на базе якога быў створаны і ў 1935—37 гг. працаваў першы на Беларусі калгасна-саўгасны тэатр пад кіраўніцтвам Е.А.Міровіча. У 1932 г. адкрыта муз. вучылішча. У 1937 г. заснаваны настаўніцкі ін-т (у 1950-я г. аб'яднаны з пед. ін-там). У 1939—41 гг. дзейнічаў абл. рус. драм. тэатр, у 1938—48 гг. — Дзярж. тэатр лялек БССР.

З 5.1.1938 г. цэнтр Гомельскай вобл. 19.7.1940 г. ўтвораны Чыгуначны, Навабеліцкі і Цэнтральны раёны горада. Як у эканамічных, так і ў культурных адносінах Гомель стаў адным з

*Панарама Гомеля.*



развітых гарадоў Беларусі, буйным цэнтрам па падрыхтоўцы спецыялістаў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі самых розных прафесій. У 1940 г. ў горадзе працавалі 16 б-к, 15 клубных устаноў, 5 кінатэатраў, 20 сярэдніх, 5 сямігадовых і 1 пачатковая школа з агульнай колькасцю навучэнцаў у іх 17 202 чалавекі. Выдаваліся газ. «Гомельская праўда», «Чыгуначнік Беларусі», «Беларускі фарватэр» і інш. У 1940 г. — 144,2 тыс. жыхароў.

У сувязі з нападам фаш. Германіі былі сфарміраваны добраахвотныя знішчальныя атрады. Гамяльчане склалі аснову 151-й і 132-й стралк. дывізій, 17-й асобнай дарожна-будаўнічай брыгады. Ствараліся брыгады па рамонце ваен. тэхнікі. У фонд абароны былі перададзены ўвесь аўтатрактарны парк і значная частка харчовых запасаў. Пад шпіталь і раскватараванне вайсковых часцей адводзіліся школы і вучэбныя ўстановы. 16.7.1941 г. з Рослаўля перабазіраваліся ў Гомель ЦК КП(б)Б, Савет Нар. Камісараў і Вярх. Савет БССР, дзе яны знаходзіліся да 19.8.1941 г. У Гомелі размяшчаўся і Штаб Цэнтр. фронту, вылучаны 24.7.1941 г. з Зах. фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Ф.І.Кузняцоў). Хутка пераключалася на ваен. лад нар. гаспадарка. З-д імя С.М.Кірава асвоіў выпуск мінамётаў, Навабеліцкі лесакамбінат і



Набярэжная р. Сож у Гомелі.

запалкавая ф-ка «Везувій» наладзілі выраб супрацьтанкавых мін, ложкавая ф-ка і электрастанцыя выпускалі супрацьпяхотныя міны, металакамбінат арганізаваў выраб ручных гранат, «Гомсельмаш» і з-д «Рухавік рэвалюцыі» перайшлі на рамонт ваен. тэхнікі. Калектыў паравознага дэпо пераабсталяваў пад браняпоезд 2 паравозы з платформамі. З 28.6.1941 г. ў Гомелі выдавалася рэсп. газ. «Звязда». Друкавалася і рэсп. газ. «Советская Белоруссия». У ліп. 1941 г. пачало друкавацца сатырычнае выданне «Раздавім фашысцкую гадзіну» (зараз час. «Вожык»), першым рэдактарам якога быў нар. пісьменнік Беларусі К.Крапіва. Сродкамі сатыры гэта выданне выкрывала зверствы захопнікаў, заклікала да рашучай барацьбы з імі, выхоўвала ў людзей пачуцці нянавісці да ворага, праслаўляла гераізм і доблесць нашых воінаў і партызан. На базе гомельскай



Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека ў Гомелі.

ф-кі «Палесдрук» была створана рухомая друкарня (кіраўнік Р.І.Дзегцяроў), якая ў ноч з 18 на 19 жн. пераехала ў Церахоўку. Шэраг прадпрыемстваў быў эвакуіраваны ў тыл краіны: у г. Курган — «Гомсельмаш», на базе якога быў наладжаны выпуск мінамётаў; у Сталінград — дрэваапрацоўчы камбінат (выпускаў абаронную прадукцыю); у Башкірыю на Краснаводскі шклаpобчы з-д — Касцюкоўскі шклозавод; у г. Аткарск Саратаўскай вобл. — прадпрыемства па выпуску торфаздабыўнога абсталявання; у Свярдлоўскую вобл. — станкабудаўнічы з-д; паравозавагонарамонтны з-д размясціўся на вытв. плошчах прадпрыемства такога ж профілю на Урале. Дзякуючы выкарыстанню абсталявання Гомельскай ЦЭЦ была пашырана цеплаэлектрацэнтраль Томска. Два дадатковыя патокі выпуску абутку былі арганізаваны на скураным камбінаце ў Казані на аснове абсталявання Гомельскай абутковай ф-кі. Панчошна-трыкатажная ф-ка (заснавана ў 1926) была эвакуіравана ў Арэнбург і выпускала прадукцыю для фронту. У Сталінград былі эвакуіраваны экспанаты Гомельскага абл. краязнаўчага музея.

У дапамогу Чырв. Арміі для адпору ворагу 9—12.7.1941 г. арганізаваны асобны батальён добраахвотнікаў пад камандаваннем маёра Н.С.Ісаева. Па колькаснаму складу ён быў роўны палку. Нягледзячы на рашучае супраціўленне сав. часцей і страты ворага, ням.-фаш. войскі 20.8.1941 г. захапілі горад, а 23.8.1941 г. і яго прадмесце Навабеліцу. Акупанты стварылі тут 5 лагераў смерці і 6 іх аддзяленняў. На тэрыторыі дыслакацыі былой кавалерыйскай дывізіі Чырв. Арміі і з-да «Рухавік рэвалюцыі» быў створаны цэнтр. лагер ваеннапалонных, у якім загублена больш за 100 тыс. чал. З 20.8.1941 г. да 26.11.1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (каля 100 патрыят. груп і арг-цый). Высокай актыўнасцю вызначаліся падпольшчыкі друкарні і чыг. вузла. Толькі ў жн.—ліст. 1943 г. яны вывелі са строю 18 паравозаў, знішчылі 18 цыстэрнаў з палівам, склад паліўнасмазачных матэрыялаў, 2 вагоны з авіяматорамі і правялі шэраг інш. аперацый. Каардынаваў дзейнасць падпольшчыкаў створаны ў ліст. 1941 г. апаратыўны цэнтр на чале з Ц.С.Барадзіным. Са жн. 1941 г. да вер. 1943 г. дзейнічала падп. патрыят. група І.І.Жалезнякова. Многія Гомельскія падпольшчыкі былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, а Е.І.Барыкіну, Ф.П.Котчанку, А.Л.Ісачанку і Ц.С.Барадзіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Гомель вызвалены 26.11.1943 г. Двадцаці тром злучэнням і часцям Чырв. Арміі, якія вызначаліся ў баях за горад, было прысвоена найменне



*Набярэжная Сажа ў Гомелі.*

«Гомельскія». Маршал Сав. Саюза К.К.Ракасоўскі, генералы арміі А.В.Гарбатаў і І.І.Фядзюнінскі, Маршал авіяцыі С.І.Рудэнка з'яўляюцца ганаровымі грамадзянамі Гомеля. У горадзе з 7.12.1943 г. да 10.4.1944 г. знаходзіўся штаб Бел. фронту. 31.12.1943 г. спецпоездам з Масквы ў Гомель пераехалі ЦК КП(б)Б і Савет Міністраў Беларусі.

Акупанты на 80% разбурылі Гомель. З 1765 камунальных і ведамасных устаноў засталося 600, а з 8750 прыватных дамоў — крыху больш за 4 тыс. Былі разбураны ўсе прамысл. прадпрыемствы. Аднаўленне і развіццё горада вялося хуткімі тэмпамі. 25.3.1944 г. ў Навабеліцы пачала працаваць радыёстанцыя «Савецкая Беларусь». 25.9.1944 г. першае шкло даў завод у Касцюкоўцы. На базе маторарамонтных майстэрань у 1944 г. ствараецца завод пускавых рухавікоў. У 1946 г. пабудаваны чыг. мост цераз Сож. У 1947 г. зацверджаны Генплан аднаўлення і развіцця Гомеля, адкрыўся аўтобусны рух, паявіліся першыя таксі. У 1952 г. завяршылася будаўніцтва 1-й чаргі Гомельскага піваварнага з-да. У 1961 г. горад атрымаў прыродны газ. У 1963 г. пачата будаўніцтва хімічнага з-да, які ў 1966 г. даў першую прадукцыю — серную кіслату, а ў 1968 г. — двайны грануляваны суперфасфат (сёння вядомы як суперфасфатны з-д). У канцы 1982 г. ўступілі ў строй дзеючых заводы ліцця і нармалей, малочны і інш. прадпрыемствы. На долю Гомеля зараз прыпадае каля 60% валавой прамысл. прадукцыі вобласці.

Вял. работа вялася па аднаўленні і будаўніцтве жылля і ўпарадкаванні горада. Першы Генплан Гомеля (1935, арх. І.Сяргееў, Т.Патарочына, Б.Белапухаў, А.Марозаў, Б.Вальфензон; удакладнены ў 1937, 1938, 1940) прадугледжваў ператварэнне веернай сістэмы планіроўкі горада ў радыяльна-кальцавую з занальным размяшчэннем галін прамысловасці. У пасляваен. праекце аднаўлення і рэканструкцыі Гомеля гэта ідэя атрымала далейшае развіццё (1946, арх. Сяргееў, Т.Сяргеева, Г.Дзесяткаў, Белапухаў, І.Бербукоў, Вальфензон; удакладнены ў 1952 і 1961). Захаваны асн. магістралі: прамянёвыя і перпендыкулярныя да іх вул. Перамогі і злучаныя з ёю прамянёвыя вуліцы вызначылі трохкутнік цэнтра з плошчамі імя У.І.Леніна, Прывакзальнай і Савецкай. Удасканальвалася планіровачная структура горада, яго забудова, інжынернае абсталяванне і добраўпарадкаванне. За пасляваен. дзесяцігоддзі пабудаваны: чыг. вакзал (1948, арх. К.Міцін), тэатр (праект 1941, пабудаваны ў 1947—56, арх. Тарасенка), гасцініца «Сож» (арх. В.Бурлак), шматпавярховыя жылыя дамы на гал. магістралях, спарт. палац (1960, арх. С.Паўлаў, І.Спірын), універмаг (1961), рэстаран «Беларусь» (1967, арх. Л.Тумакоў), шэраг школ, кінатэатраў. Быў рэканструяваны парк культуры і адпачынку, створаны пляж, новы пешаходны мост цераз Сож. 20.5.1962 г. здадзены ў эксплуатацыю першы тралейбусны маршрут, а ў 1996 г. — прыгарадны чыг. вакзал. Гомель інтэнсіўна пашыраўся і паглынаў бліжэйшыя да яго сельскія населеныя пункты: у 1934 г. — в. Любны, пасёлкі Мільчанск, Самавоўк, у 1948 г. — вёскі Ціценка і Верхні Брылёў, у 1954 г. — Новікаўская Рошча, Хутар, у 1957 г. — Прудок, Якубаўка, пас. Чапаева, у

*Гомель навагодні.*



1960 г. — в. Ляшчынец, у 1961 г. — в. Ніжні Брылёў, у 1963 г. — в. Паўлава, Масцішча, пас. Хутар, у 1965 г. — в. Брылёва, у 1968 г. — пас. Сонечны (да 1965 пасёлак Гомельскай РТС), в. Падгорная, у 1972 г. — пас. Чырвоны Кастрычнік, у 1976 г. — пас. Будзёнаўскі, у 1974 г. — в. Валатава, у 1983 г. — пас. Спутнік Міра, в. Новая Мільча, в. Старая Мільча, у 1979 г. — пас. Навікі, у 1989 г. — пас. Новае Жыццё.

Актыўнае развіццё атрымала сетка ўстаноў культуры, адукацыі і навукі. У 1953 г. заснавана гар. б-ка № 2 імя І.П.Мележа, у ліст. 1954 г. адкрыты абл. драм. тэатр, у 1967 г. — абл. філармонія, у лют. 1968 г. створаны абл. тэатр лялек, у 1972 г. ўзведзены будынак цырка. 1.10.1953 г. адкрыты Бел. ін-т інжынераў чыг. транспарту і пед. ін-т, якія ў 1969 г.ператвораны ва ун-т. У студз. 1980 г. створаны навук.-даследчы ін-т прыкладной фізікі АН БССР (на базе аддзела фізікі неразбуральнага кантролю), пачаў выдавацца ўсесаюзны навук. час. «Трение и износ». У кастр. 1980 г. адкрыты політэхн. ін-т (на базе Гомельскага філіяла політэхн. ін-та), ператвораны затым ва ун-т. Яркім сведчаннем развіцця нар. творчасці з'яўляецца прысваенне звання «народны» многім самадзейным калектывам.

У горадзе дзейнічаюць Гомельскі дзярж. ун-т, Бел. ун-т інжынераў транспарту, політэхн. ун-т, кааператыўны і мед. ін-ты, 8 навук.-даследчых устаноў, у т.л. Бел. НДІ лясной гаспадаркі і Ін-т механікі металапалімерных сістэм Нац. АН Беларусі, 12 прафесійна-тэхн. вучылішч, у т.л. вышэйшае вуч. электронікі, вуч. алімпійскага рэзерву, вышэйшае вуч. кулінарыі, тэхнікумы сельскагаспадарчы і чыг. транспарту, політэхн., машынабудаўнічы, дарожнабудаўнічы, ПТУ-тэхнікум, пажарнатэхн. і мед. вучылішчы, каледж мастацтваў, музычна-пед. каледж, гідраметэастанцыя. Працуюць 58 б-к, 16 клубных устаноў, у іх ліку 4 Палацы культуры, 7 кінатэатраў, парк культуры і адпачынку (плошча 281 га), абл. краязнаўчы музей (адкрыты 7.11.1919 на базе нацыяналізаваных калекцый князя Паскевіча), 116 дашкольных устаноў, 82 агульнаадукацыйныя, 3 муз. і 6 школ мастацтваў, 14 праектных інстытутаў і філіялаў, 684 магазіны, 1223 спарт. збудаванні, 18 бальніц, 153 дашкольныя ўстановы і 306 прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Выдаюцца абл. газ. «Гомельская праўда» (з 1917), гарадскія газ. «Гомельскія ведамасці» (з 1991) і «Вячэрні Гомель», шматтыражкі «Сельмашавец» (з 1930 на з-дзе «Гомсельмаш»), «Трыкатажніца» (з 27.11.1959 на трыкатажнай ф-цы «8 сакавіка»), «Гомельский университет» (з верасня 1969). Дзенічаюць абл. радыёвяшчанне,



*Панарама Гомеля.*

абл. студыя тэлебачання (з 31.12.1957), абл. аддзяленні саюзаў пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, архітэктараў. Ва ўрочышчы Чонкі — турысцкая база «Сож». У 1990 г. пачала працаваць штаб-кватэра Міжнар. агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ). 31.1.1990 г. рашэннем Архірэйскага сабора рус. правасл. царквы ўтворана Гомельская правасл. епархія. Паводле перапісу насельніцтва Гомеля складала: у 1959 г. — 168,3 тыс., у 1979 г. — 400 тыс., у 1989 г. — 500 тыс. жыхароў.

Гомель — радзіма бел. археолага, фалькларыста, этнографа, краязнаўца і педагога, правадзейнага члена Рус. геагр. т-ва Е.Р.Раманава (нарадзіўся ў былым мястэчку Новая Беліца, цяпер у складзе горада), Герояў Сав. Саюза І.Б.Катуніна (яго імем названы пас. у Архангельскай вобл. і вуліца ў Гомелі), ген.-м. С.Д.Крэмера (ганаровы грамадзянін гарадоў Маладзечна Мінскай вобл. і Тукуліс, Латвія), А.І.Лізюкова (яго імем названы Саратаўскае ваен. вуч., вуліца ў Варонежы) і П.І.Лізюкова (імем братоў Лізюковых названа вуліца ў Гомелі), Ю.А.Шандалава, Ц.С.Барадзіна, Б.А.Царыкава, М.А.Неўскага, І.Е.Каленікава, П.С.Сінчукова, Г.М.Скляznёва, Д.Н.Пенязькова, поўнага кавалера ордэна Славы В.Д.Вятошкіна, дзярж. і парт. дзеяча БССР І.Я.Палякова, нар. мастака Расіі, акадэміка Акадэміі мастацтваў СССР, двойчы лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Г.Р.Ніскага, акадэмікаў Нац. АН Беларусі В.М.Чачына, А.Г. Шашкова, Л.У.Хатылёвай, чл.-кар. Нац. АН Беларусі А.А.Кавалёва, Л.А.Шматкова, парт. і дзярж. дзеяча Беларусі А.А.Малафеева, пісьменнікаў В.Б.Спрынчана, М.А.Вішнеўскага, Дз.Е.Лапо, І.А.Ласкова, У.І.Дадзіёмава, Л.Л.Шакіры, мастакоў Н.П.Варвановіч, В.А. Дзядок, В.Ф.Казачэнкі, К.І.Максімава, Ф.І.Махаўцова, В.П. і Я.П. Паташкіных, М.А.Шырокава, кампазітараў Л.М.Гуціна, У.А.Дамарацкага, І.У.Хадоскі, З.А.Яўтуховіча, А.М.Гулая, Э.А.Казачкова, Р.К.Пукста, нар. артыста БССР І.П.Сайкова, засл. артыстаў БССР Т.М.Пастунінай, У.М.Кавальчука, Р.В.Асіпенкі, ген.-лейт. інжэнерна-авіяц. службы М.А.Левіна, дактароў навук К.П.Кабашнікава, С.М.Алукера, А.С. Карлюка, М.В.Мякіннікавай, А.Я.Журава, С.А.Падокшына, С.Я.Рассадзіна, А.Ф.Рогалева, дзярж. дзеяча Беларусі, журналіста, канд. гіст. навук А.М.Міхальчанкі, чэмпіёна свету па класічнай барацьбе А.А.Лібермана (1973), засл. майстра спорту СССР Л.Р.Гміштара, ген.-м. А.А.Паўловіча і многіх інш. вядомых людзей Беларусі.



# АКЦЯБРСКІ РАЁН

Утвораны 28.6.1939 г. на ПнУ Беларускага Палесся ў складзе Палескай вобл. з цэнтрам у в. Карпілаўка, з 31.8.1954 г. — г.п. Акцябрскі. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай вобл. 25.12.1962 г. скасаваны, тэр. далучана да Светлагорскага р-на, а 30.7.1966 г. адноўлены. На Пд мяжуе з Петрыкаўскім і Калінкавіцкім, на У — з Светлагорскім р-нам Гомельскай вобл., на Пн — з Бабруйскім і Глускім р-намі Магілёўскай вобл., на З — з Салігорскім р-нам Мінскай вобл. Уключае г.п. Акцябрскі і 8 сельсаветаў: Валосавіцкі, Ламавіцкі, Любанскі, Ляскавіцкі, Акцябрскі, Парэцкі, Пратасаўскі, Чырвонаслабодскі. Пл. 1386 км$^2$, насельніцтва 18,4 тыс. чал. (2004 г.). Рэльеф раўнінны. Рака Пціч (прыток р. Прыпяць) з прытокамі Арэсай і Нератоўкай, прытокі апошняй — Ветка і Бежыца. Пракладзены Слаўкавіцка-Ямінскі і Валожынскі асушальныя каналы. Праходзіць чыгунка Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін. Карысныя выкапні: торф, гліна, жвір, пясок. 55% тэр. займаюць лясы. Пад сельгасугоддзямі 32% тэрыторыі. З прамысловых прадпрыемстваў маслазавод, хлебапякарня, леспрамгас, спіртзавод, міжкалгасбуд, раённае аб'яднанне «Сельгастэхніка», дзяржплямстанцыя і інш.; 17 агульнаадукацыйных школ, прафтэхвучылішча, 25 бібліятэк, 37 клубных і 16 дашкольных устаноў, 56 спартыўных збудаванняў, 3 бальніцы, 18 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 95 магазінаў і 27 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

**АКЦЯБРСКІ** — гар. пасёлак і чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), цэнтр Акцябрскага с/с і Акцябрскага р-на, 190 км ад Гомеля, 230 км ад Мінска, на р. Нератоўка (прыток р. Пціч), на З — канава Серабранская, злучаная з р. Пціч, вакол лес. Аўтадарогамі злучаны з Глускам, Азарычамі, Парычамі, Капаткевічамі. 8,1 тыс. жыхароў (2004 г.).

Узнік 31.8.1954 г. ў выніку аб'яднання сумежных вёсак Рудабелка, Карпілаўка і Рудня, кожная з якіх мае сваю гісторыю. Вёска Рудабелка па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. пад назвай Рудыя Бялкі. У 1507 г. кароль Жыгімонт І Стары даў яе на 10 гадоў кн. Радзівілу, потым яна ва ўласнасці казны. У 1552 г. 99 дымоў. У 1560 г. ўпамінаецца ў сувязі





*Будынак раённага Цэнтра гісторыі і культуры ў г.п. Акцябрскі.*

*У адной з залаў Акцябрскага музея народнай славы.*

з апісаннем яе межаў. З 1588 г. ў арэндзе Ю.М.Зяновіча, затым А.М.Вішнявецкага, з 1661 г. — А.Г.Палубінскага, з 1685 г. зноў у валоданні Радзівілаў. У маёнтку Радзівілаў мелася б-ка. У 1683 г. пабудавана царква, меліся карчма, лесапільня, рудня. У 1742 г. Мікалай Фаўстын Радзівіл аддаў у якасці фундушу в. Руда-Бела мясц. царкве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, цэнтр Рудабельскай (з 1920 г. Акцябрскай) вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У склад воласці ў 1885 г. ўваходзілі 35 сяленняў з 570 дварамі. У маёнтку, што быў побач, у 1798 г. нарадзіўся М.Дз.Лапа, які з 1819 г. служыў падпрапаршчыкам лейб-гвардыі Ізмайлаўскага палка і за ўдзел у Паўн. т-ве дзекабрыстаў быў зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Памешчык А.Лапа меў у вёсцы ў 1855 г. 7242 дзес. сялібнай і ворнай зямлі, 2610 дзес. сенажацей і 1745 дзес. лесу. У 1863 г. заснавана нар. вучылішча (у 1891 г. 82 вучні). З 1867 г. ў валоданні барона А.Я.Урангеля, потым — ген.-м. А.Ф. Ліліянфельда. Замест састарэлай у 1887 г. збудавана новая драўляная царква. З канца 19 ст. ў маёнтку дзейнічаў спіртзавод. У 1911 працавалі вінакурны і рэктыфікацыйны з-ды (закрыты ў маі 1915 г.). З 1916 г. дзейнічаў тэлеграф. У 1917 г. ў сяле і маёнтку 276 жыхароў. 22.11.1917 г. створаны валасны рэв. к-т, які абвясціў сав. ўладу. У час акупацыі германскімі (1918 г.) і польскімі войскамі (1919—20 гг.) у Рудабельскай і суседніх валасцях Бабруйскага пав. захоўвалася сав. ўлада і гэта тэр. ў лютым—лістападзе 1918 г. насіла назву «Рудабельская рэспубліка», у ліку арганізатараў якой былі П.Д.Малаковіч, А.Р.Салавей, М.А.Ляўкоў. Летам 1918 г. ў Рудабелцы арганізаваны першы ў Беларусі партыз. атрад (400 чал., кіраўнікі М.К. і М.А. Ляўковы), які змагаўся супраць акупантаў. У канцы 1918 г. ў маёнтку арганізавана камуна, працаваў вадзяны млын. 16.1.1920 г. палякі спалілі Рудабелку. У гэтым жа годзе Рудабельская вол. перайменавана ў Акцябрскую. У былым маёнтку барона Урангеля быў створаны саўгас «Рудабелка». Вясковая школа 1-й ступені ў 1926 г. ператворана ў сямігадовую. У 1930 г. арганізаваны калгас. У сярэдзіне 1931 г. пачалося будаўніцтва чыгункі Бабруйск—Старушкі (здадзена ў эксплуатацыю ў 1932 г., участак Рабкор—Старушкі разбураны ў Вял. Айч. вайну і не адноўлены). Аснову рабочых брыгад складала моладзь Рудабельшчыны і суседніх раёнаў. У гонар працоўнай доблесці маладых рабочых ст. Ударная была перайменавана ў ст. Рабкор (рабочая асобая брыгада камсамольскіх арг-цый раёна). Вёска Карпілаўка па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы



*Фальклорны ансамбль «Рудабельская пацеха» з г.п. Акцябрскі.*



*Помнік Ц.П.Бумажкову ў г.п. Акцябрскі.*

Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 10 двароў, 38 жыхароў, у складзе маёнтка Рудабелка. З 1833 г. дзейнічаў касцёл. У 1863 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1906 г. для яе ўзведзены свой будынак. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 345 жыхароў, заезны дом. У 1908 г. 73 двары, 642 жыхары, царква, школа, малітоўны дом, касцёл, цагельня, млын, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. З 28.6.1939 г. да 31.8.1954 г. цэнтр Акцябрскага р-на. Вёска Рудня вядома з 18 ст. У 1908 г. 37 двароў, 297 жыхароў.

Гар. пасёлак Акцябрскі — цэнтр Акцябрскага р-на, з 25.12.1962 г. ў Светлагорскім р-не, з 30.7.1966 г. зноў цэнтр Акцябрскага р-на Гомельскай вобл. Першым сакратаром райкома партыі з 1939 г. працаваў Ц.П.Бумажкоў — вядомы ў часы ваен. ліхалецця арганізатар і кіраўнік партыз. руху на Палессі. У Вял. Айч. вайну 22.6.1941 г. створаны штаб абароны раёна і ўзбр. атрад на чале з Бумажковым. 6.8.1941 г. Ц.П.Бумажкову і Ф.І.Паўлоўскаму — першым з партызан у Вял. Айч. вайну — прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У сак.—крас. 1942 г. і з 24.1 да 27.6.1944 г. акупіраваны ням. захопнікамі. 2.4.1942 г. карнікі спалілі жывымі ў памяшканні клуба спіртзавода 643 жыхары (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму па вул. Бумажкова), расстралялі, а затым спалілі яшчэ 700 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму па вул. Савецкай), загубілі 600 жыхароў былой в. Рудня (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 0,5 км ад пасёлка, каля дарогі ў в. Азарычы), 3.4.1942 г. расстралялі і спалілі 486 жыхароў былой в. Карпілаўка (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму па вул. Гастэлы). Па сутнасці г.п. Акцябрскі быў цэнтрам партыз. зоны. Тут базіраваліся Акцябрскі падп. райком КП(б)Б, штаб 123-й партыз. брыгады імя 25-годдзя БССР, раённыя органы сав. улады, выпускалася газ. «Народны мсцівец», а ў лют. 1942 г. адбылася першая падп. раённая парт. канферэнцыя, на якой быў выбраны ваен. савет партыз. зоны. 12.12.1942 г. ням. авіяцыя падвергла бамбардзіроўцы вёскі Рудабелка і Карпілаўка. Вызвалены 27.6.1944 г. У баях за вызваленне райцэнтра і наваколля ў чэрв. 1944 загінулі 272 воіны Чырв. Арміі і 41 партызан (пахаваны на брацкіх могілках па вул. Савецкай).



Інтэр'ер Свята-Пакроўскай царквы ў г.п. Акцябрскі.




Помнік на магіле ахвяр фашызму ў г.п. Акцябрскі.

У 1969 г. ў гар. пасёлак перасяліліся жыхары суседняй в. Дзертка. Планіроўка квартальная, выцягнутая з Пд на Пн. Рака падзяляе пасёлак на паўн. і паўд. часткі. Асн. планіровачным ядром з'яўляецца цэнтр. плошча, дзе размешчаны адм. будынкі і гандл. цэнтр. На У у апошнія дзесяцігоддзі склаўся мікрараён, забудаваны 3- і 5-павярховымі жылымі дамамі. Адна з вуліц носіць імя В.А.Іванова — героя-піянера, удзельніка падполля ў Вял. Айч. вайну, закатаванага ням. карнікамі. У 1987—93 гг. узве-

дзена 189 мураваных, катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Дзейнічаюць масласырзавод, аграпрамтэхніка, хлебапякарня, спіртзавод, лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання, дзяржплямстанцыя, райаграпрамэнерга, міжкалгасбуд, вузлы паштовай і электрычнай сувязі, прамысл. аб'яднанні «Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія», гідраметэастанцыя, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, цэнтр гісторыі і культуры (з 14.11.1995 г.), 3 сярэднія і муз. школы (адкрыта 1.9.1969 г.), карцінная галерэя (з 1990 г.), раённая б-ка, раённая бальніца, 3 дашкольныя ўстановы, прафтэхвучылішча сельскай гаспадаркі, цэнтр адпачынку. Цэнтр саўгаса «Акцябрскі». Выходзіць раённая газ. «Чырвоны Кастрычнік» (з 1939 г.). 23.1.1996 г. адкрыта Святатроіцкая царква. Радзіма аднаго з удзельнікаў Кастр. рэвалюцыі, грамадз. вайны і барацьбы за сав. ўладу на Беларусі А.Р.Салаўя (яго імя носіць вуліца ў пасёлку), аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Магілёўшчыне ў Вял. Айч. вайну П.С.Равякава (быў камісарам партыз. брыгады № 17 Магілёўскай вобл.) і ўдзельніка Мінскага падполля Л.Я.Адзінцова (яго імя носяць вуліцы ў Мінску і г.п. Акцябрскі).

Да Вял. Айч. вайны ў складзе Акцябрскага с/с былі: в. Вежын, якую ням. акупанты ў лют. 1942 г. спалілі (30 двароў) і загубілі 70 жыхароў; в. Пераколле, якую ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі (27 двароў) і загубілі 76 жыхароў (не адрадзіліся, увекавечаны ў мемарыяльным комплексе «Хатынь»); в. Рудня, якую ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі (74 двары) і загубілі 341 жыхара (не адрадзілася); да 1969 г. — в. Дзертка, пасёлкі Калініна, Гарадзец, да 1971 г. — х. Вяцер, да 1974 г. — пас. Забоззе, да 1982 г. — х. Колбік, да 1987 г. — пас. Булец (не існуюць).



*У мастацкай карціннай галерэі ў г.п. Акцябрскі.*

**АЛЬБІНСК** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 37 км на З ад Акцябрскага, 30 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 240 км ад Гомеля, на Пд і У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Слуцк—Мазыр. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як маёнтак Альбінск (ён жа Загалле) у валоданні памешчыка А.М.Статкевіча. У 1844 г. 6 двароў, 37 жыхароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. 20 двароў, 217 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, працавалі кузня і стальмашня. У 1940 г. 66 двароў, 300 жыхароў. Ням. акупанты ў Вял. Айч. вайну стварылі тут свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. Некаторы час у вёсцы базіраваўся Мінскі падп. абком КП(б)Б, штабы Мінскага партыз. злучэння, партыз. злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падп. друкарня. У крас. 1942 г. карнікі спалілі вёску і загубілі 137 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. У складзе саўгаса «Арэса» (цэнтр — в. Ляскавічы); клуб, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца з Пн другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**АНДРЭЕЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 16 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 250 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. засценак у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1885 г. 15 двароў, 130 жыхароў, царква, у Азарыцкай вол. У 1908 г. 16 двароў, 180 жыхароў. У 1916 г. 25 двароў. Побач складвалася в. Новая Андрэеўка. З 1921 г. дзейнічала школа. У 1925 г. 175 жыхароў. У 1931 арганізаваны ў в. Андрэеўка калгас «Чырвоная зорка», у в. Новая Андрэеўка — калгас «Чырвоны франтавік», працавалі 2 кузні. У канцы 1930-х г. вёскі і калгасы аб'ядналіся. У 1940 г. 27 двароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 4 двары, загубілі 14 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕРКАЎ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Акцябрскага, 10 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Харомцы—Парэчча. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як засценак у Бабруйскім пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Харомцы. У 1908 г. 22 двары, 219 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. У 1921 г. адкрыта школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1940 г. 24 двары. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1942 г. ням. акупанты спалілі 5 двароў і загубілі 25 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе саўгаса «Парэчча» (цэнтр — в. Парэчча). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**БУБНАЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 10 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 245 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на З — яе прыток р. Арэса. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Належыла ў канцы 18 ст. ген.-м. В.К.Вішчынскаму. У 1795 г. 14 двароў, 92 жыхары, праз вёску праходзіла ваеннакамунікацыйная дарога. У 19 ст. ва ўладанні М.Война, потым Абуховічаў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. вёска (37 двароў, 244 жыхары, царква) і фальварак (3 двары, 32 жыхары, вадзяны млын, лаўка). У 1908 г. 327 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. пачала дзейнічаць школа. Арганізаваны калгас «Полымя рэвалюцыі» (1931 г.), працавалі вадзяны млын і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. карнікі спалілі 2 двары, загубілі 33 жыхары. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада); магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач піянерскі лагер.

**БУДА** — вёска ў Парэцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 13 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 247 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 55 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар Парэцкая Буда, 8 двароў, 55 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 12 двароў. У 1916 г. 20 двароў, 119 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавала кузня. У 1940 г. 38 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУЛКАЎ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 12 км на Пн ад г.п. Акцябрскі, 14 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 185 км ад Гомеля, на Пн Валожынскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтамабільных дарогах, якія адыходзяць ад г.п. Акцябрскі. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 28 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. 7 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам лодак. У 1916 г. 12 двароў, 70 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў крас. 1942 г. загубілі 88 жыхароў. Частка з іх пахавана ў магіле ахвяр фашызму на могілках. 4 аднавяскоўцы загінулі на фронце. Падпольшчыкі Бабруйска вывезлі на аўтамашыне з ням. друкарні шрыфт, вярстатку, паперу, валік і ў лесе паблізу вёскі арганізавалі друкарню, дзе было надрукавана 55 назваў лістовак агульным тыражом 25,5 тыс. экзэмпляраў, а з ліст. 1942 г. выдавалася газ. «Бобруйский партизан». Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУМАЖКОВА** — пасёлак і чыг. станцыя (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), у Акцябрскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра, 217 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам, на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае пасёлак з г.п. Акцябрскі. Назва ў памяць Героя Сав. Саюза Ц.П.Бумажкова. 15 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як засценак Залессе ў Бабруйскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 3 двары, 19 жыхароў, у 1834 г. 4 двары. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 72 жыхары, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 88 жыхароў, у 1917 г. 21 двор, 109 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З уводам у дзеянне ў 1932 г. чыгункі Бабруйск—Старушкі ад лініі Асіповічы—Жлобін тут пачала дзейнічаць чыг. ст. Залессе. Хутка рос пасёлак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 9 двароў, загубілі 21 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 268 жыхароў. Сучасная назва чыг. станцыі і пасёлку нададзена Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР 21.1.1969 г. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі). Дзейнічаюць прадпрыемствы па дрэваапрацоўцы, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з выг-

нутай амаль мерыдыянальнай вуліцы, на У ад якой размешчаны невялікі адасоблены ўчастак забудовы і чыг. станцыя. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВАЛОСАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Валосавіцкага с/с, за 22 км на ПдУ ад Акцябрскага, 25 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 185 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 167 гаспадарак, 445 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1,2 км на ПдУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1552 г. вёска, 95 жыхароў муж. полу. У 1560 г. ўпамінаецца ў дакументах аб межаванні. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 30 двароў, у складзе аднайменнага маёнтка, уладальнік якога памешчык С.Ф.Калчэўскі меў у 1840 г. 925 дзес. зямлі і 4 карчмы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 40 двароў, 297 жыхароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 586 жыхароў, царква, царкоўнапрыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 64 двары. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. З 20.8.1924 г. цэнтр Валосавіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Парыцкага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У Вял. Айч. вайну партызаны ў студз. 1942 г. разграмілі гарнізон, які стварылі ў вёсцы акупанты. Карнікі спалілі вёску і загубілі 137 жыхароў. 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе; сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом нар. творчасці, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных паміж сабой двума завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—90 гг. узведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

У склад Валосавіцкага с/с уваходзілі да 1966 г. в. Дзерць, да 1969 г. в. Гуслішча, да 1974 г. в. Некрашы (не існуюць).

**ВОЗЕМЛЯ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 21 км на Пн ад г.п. Акцябрскі, 5 км ад чыг. ст. Ратміравічы, на аўтадарозе г.п. Глуск — в. Шкава, 190 км ад Гомеля, на Пд Валожынскі канал, на Пн мяжуе з лесам. 33 гаспадаркі, 48 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Слабодка (яна ж Воземля), 38 двароў, 249 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 86 двароў, 453 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа, настаўніцай у якой некаторы час у 2-й палове 1920 г. працавала В.Я.Кліменка — прапраўнучка рус. паэта А.С.Пушкіна. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Воземлянскага с/с Глускага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавала кузня. Вясковая пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 130 двароў, 425 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 18.7.1941 г. байцы знішчальнага батальёна пад камандаваннем Ц.П.Бумажкова сумесна з воінамі 66-га стралк. корпуса пад камандаваннем падпалк. Л.В.Курмашова, пры падтрымцы браняпоезда № 52 (на ветцы Бабруйск—Рабкор) разграмілі штаб ням. дывізіі,

вызвалілі вёску, захапілі палонных і вял. трафеі, у тым ліку аператыўную карту з планам наступлення гітлераўскіх войск на Гомельска-Чарнігаўскім і Аршанскім напрамках, якая была перададзена ў штаб 21-й арміі. У крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 114 двароў і загубілі 61 жыхара. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 289 жыхароў. У складзе падсобнага прадпрыемства райаграпрамтэхнікі (цэнтр — в. Шкава); пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца кароткая, аднабакова забудаваная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВОСПІН** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад Акцябрскага, 32 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 259 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. У 1922 г. ўзведзены будынак і адкрыта школа. У 1925 г. 39 двароў. У 1940 г. 63 двары, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 12 двароў і загубілі 30 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе калгаса імя А.М.Горкага (цэнтр — в. Дзербін). Планіровачна складаецца з трох адасобленых, невялікіх участкаў бессістэмнай забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад г.п. Акцябрскі, 14 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 170 км ад Гомеля, на р. Нератоўка (прыток р. Пціч) і аўтадарозе Парычы—Акцябрскі, на Пд меліярацыйныя каналы. 45 гаспадарак, 87 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст., у складзе маёнтка Качай-Балота Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1844 г. 12 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 216 жыхароў. У 1925 г. 45 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У 1940 г. 65 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1943 г. спалілі 18 двароў і загубілі 30 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск на зах. ускраіне (пастаўлены ў 1969 г.). Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Майсееўка); клуб, пач. школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАДУНІ** — вёска ў Любанскім с/с, за 15 км на У ад Акцябрскага, 19 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 245 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У 1775 г. кароль Станіслаў Аўгуст падараваў вёску М.С.Лопату. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. ў маёнтку Качай-Балота. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 172 жыхары. У 1908 г. 35 двароў, 229 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1922 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 53 двары. У 1930 г. арга-

нізаваны калгас. У 1940 г. 74 двары, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 48 жыхароў. У пач. снеж. 1943 г., калі сав. войскі ўступілі ў Акцябрскую партыз. зону, тут, паблізу вёсак Майсееўка, Гадуні і Любань, утварыўся разрыў у варожай абароне (каля 10 км), вядомы як «Рудабельскія вароты». Праз іх адбываліся прамыя зносіны паміж партыз. фарміраваннямі і часцямі 65-й арміі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 288 жыхароў. У складзе калгаса імя Ц.П.Бумажкова (цэнтр — в. Любань); магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРОХАВІШЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Акцябрскага, 30 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 150 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 126 гаспадарак, 358 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (5 насыпаў, 3 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст., калі вёска ўваходзіла ў склад маёнтка Дуброва. У 1857 г. 14 двароў, 99 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Дубровенскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 225 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Побач быў прыселак Гарохавішча (ён жа Гаравая Данілаўка), 4 двары, 29 жыхароў. У 1908 г. 46 двароў, 290 жыхароў. У 1925 г. 75 двароў. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Гарохавішчанскага с/с Парыцкага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі створаны ням. акупантамі ў вёсцы апорны пункт. Карнікі ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 130 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі вызначыліся полк пад камандаваннем А.М.Валошына і наводчык гарматы Дж.Тураеў (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). 38 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вызвалення некаторы час тут размяшчаўся штаб 354-й стралк. дывізіі, куды ў снеж. 1943 г. прыбылі з-за лініі фронту для каардынацыі сумесных дзеянняў камандзір партыз. злучэння І.Дз.Вятроў і камандзір 123-й партыз. брыгады імя 25-годдзя БССР Герой Сав. Саюза Ф.І.Паўлоўскі. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. Цэнтр калгаса «1 Мая»; сярэдняя школа (у 1996 г. ўзведзены новы мураваны будынак), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, шавецкая майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ГАЦЬ** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Акцябрскага, 12 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 212 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы, на У і Пд меліярацыйныя каналы. 188 гаспадарак, 453 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1495 г. ўпамінаецца ў Літоўскай метрыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Рудабелка, належала барону А.Я.Урангелю, потым ген.-м.

А.Ф.Ліліянфельду. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 115 жыхароў. У 1908 г. 39 двароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. адкрыта школа, для якой у 1922 г. выдзелены 2 дзес. зямлі. У 1924 г. 276 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», з 1934 г. працавала кузня. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 48 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі створаны ням. акупантамі ў вёсцы апорны пункт. У крас. 1942 г. карнікі спалілі 9 двароў і загубілі 9 жыхароў. 41 вясковец загінуў на фронце. З 20.9.1944 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Гацкага с/с Акцябрскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 255 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Заазер'е» Акцябрскага раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія»; жывёлагадоўчы комплекс, сярэдняя школа (у 1995 г. ўзведзены новы мураваны будынак), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. У 1991—92 гг. узведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Адна з вуліц носіць імя ўраджэнца вёскі О.А.Драпезы — актыўнага змагара за сав. ўладу ў раёне (загінуў у 1941 г. ў баі супраць ням. дыверсантаў). Маці-гераіня Г.П.Каранова выгадавала 10 дзяцей.

**ГРАБ'Ё** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 22 км ад Акцябрскага, 29 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 252 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы, на З і Пн — меліярацыйныя каналы. 38 гаспадарак, 138 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пад 1560 г. пазначана ў сувязі з межаваннем, якое тут праводзілася. У 1750 г. 19 двароў, дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Была цэнтрам аднайменнага казённага маёнтка. У 1850 г. ўзведзены новы драўляны будынак Раствабагародзіцкай царквы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1857 г. 141 жыхар. У 1883 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1864 г. для яе пабудавана сваё памяшканне. У 1885 г. 26 двароў, 216 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 280 жыхароў, царква. У 1908 г. 58 двароў, 463 жыхары, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 73 двары. 15.11.1920 г. вызвалена ад польскіх акупантаў. З 20.8.1924 г. да 5.9.1929 г. цэнтр Граб'ёўскага с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Культура», працавалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы гарнізон, які партызаны 29.5.1943 г. разграмілі. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 363 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Ламавічы); клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. юрыста Беларусі В.І.Шалаенкава, доктара с.-г. навук, праф. Л.А.Халадок.

**ДЗВЕСНІЦА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 36 км на З ад Акцябрскага, 29 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 266 км ад Гомеля, на Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Слуцк—Капаткевічы. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. фальварак, 1 двор, 9 жы-

хароў, у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Актыўна забудавалася ў 1920-я г. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на востраве Добры і ва ўрочышчы Дзвесніца, што за 2 км на З ад вёскі, базіраваліся Мінскі падп. абком КП(б)Б, штабы Мінскага партыз. злучэння і партыз. злучэння Мінскай і Палескай абласцей, падп. друкарня. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада); камбікормавы з-д, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЕРБІН** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Акцябрскага, 28 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 182 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Акцябрскі—Азарычы. 127 гаспадарак, 357 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1925 г. 44 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Гігант Палесся», працавала кузня. У 1940 г. 75 двароў, 405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 47 двароў, загубілі 283 жыхары. Каля вёскі карнікі зрабілі лагер, дзе ўтрымлівалі людзей, якіх прымушалі працаваць на будаўніцтве ўмацаванняў. У баях за вызваленне вёскі і наваколля ў студз.—чэрв. 1944 г. загінулі 237 воінаў 130-й стралк. дывізіі і 215-й асобнай знішчальнай процітанкавай дывізіі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. Цэнтр калгаса імя А.М.Горкага; пач. школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, забудаваных двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. У 1986—87 гг. узведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ЖУКАВІЧЫ** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Акцябрскага, 12 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 225 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У1505 г. кароль Жыгімонт І Стары аддаў с. Жукавічы двараніну Шчаснаму, а ў 1507 г. падцвердзіў гэта. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў, 62 жыхары, ва ўладанні памешчыка Ліпскага. З пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Граб'ё. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 70 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 127 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 25 двароў, 129 жыхароў. У час польскай акупацыі ў 1920 г. ў наваколлі дзейнічаў партыз. атрад К.П.Арлоўскага. 15.11.1920 г. вызвалена ад польскіх акупантаў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 42 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 15 двароў і загубілі 15 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Ламавічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗААЗЕР'Е** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 10 км на У ад Акцябрскага, 14 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 240 км ад Гомеля, на З — воз. Заазерскае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай,

затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 21 гаспадарка, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як засценак, у складзе маёнтка Рудабелка. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 277 жыхароў. У 1908 г. 35 двароў, 263 жыхары, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 307 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1924 г. 60 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», меліся паравы млын, крупарушка, кузня. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты загубілі 19 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Заазер'е» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гаць); магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗААЗЕРШЧЫНА** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад г.п. Акцябрскі, 13 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Асіповічы—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 170 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Парычы. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 5 двароў, 44 жыхары, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 68 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Майсееўка). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска, цэнтр Ляскавіцкага с/с, за 34 км на З ад Акцябрскага, 27 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 237 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ляскавічы—Хорамцы—Парэчча, на Пд і З меліярацыйныя каналы. 198 гаспадарак, 474 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як цэнтр маёнтка Забалоцце, уладанне Валодзькаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1885 г. 15 двароў, 133 жыхары, у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 44 двары, 359 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Пачатковая школа ў 1930 г. ператворана ў сямігадовую. З 28.6.1939 г. цэнтр Ляскавіцкага с/с Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-на, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1940 г. 242 двары, 1200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вяскоўцы стварылі партыз. атрад, які ўзначаліў старшыня калгаса А.П.Пакуша. Ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 142 двары, загубілі 192 жыхары. 5.2.1944 г. карнікі расстралялі і спалілі яшчэ 87 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на вул. Камарова). У баях за вёску і наваколле ў 1943—44 гг. загінулі 42 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 936 жыхароў. У складзе саўгаса «Арэса» (цэнтр — в. Ляскавічы); сярэдняя школа, клуб, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнЗ далучаюцца кароткая прамалінейная вуліца і 3 завулкі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Радзіма бел. паэта М.С.Смагаровіча. Маці-гераіні М.А.Кавалевіч і В.С.Серык выгадавалі па 10 дзяцей.

Да 1998 г. ў склад Ляскавіцкага с/с уваходзіла в. Завярхлессе (не існуе).

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 25 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 232 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), на Пд і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Чырвоная Слабада—Навасёлкі. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў. З пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Дуброва. Па рэвізіі 1858 г. 20 двароў, 154 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 29 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены побач з аўтадарогай.

**ЗАРЫЖЖА** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Акцябрскага, 35 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 258 км ад Гомеля, на Пд — сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 29 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. 8 двароў, 135 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 68 двароў, 289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 38 двароў і загубілі 63 жыхары. 56 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Валосавічы); Дом сац. паслуг, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЦІШША** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 8 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 243 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Навасёлкі—Акцябрскі. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як засценак у складзе маёнтка Рудабелка. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 153 жыхары, кузня і лаўка. У 1908 г. 31 двор, 187 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 52 двары, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 17 двароў і загубілі 64 жыхароў. Некаторы час у вёсцы знаходзілася партыз. друкарня і выходзіла падп. абласная газ. «Бальшавік Палесся». 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цяпер — г.п. Акцябрскі). Планіровачна складаецца з кароткай выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, нячшыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. работніка культуры Беларусі А.І.Перагуды.

**ЗУБ-БУДА (ЗУБАРЭВІЦКАЯ БУДА)** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Акцябрскага, 14 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 167 км ад Гомеля, на р. Нератоўка (прыток р. Пціч), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 14 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі належала Радзівілам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. засценак Зубарэвіцкая Буда (яна ж Дашкевічы), 13 двароў, 102 жыхары,

2 ветракі. У 1917 г. 20 двароў, 119 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Майсееўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з У далучаецца завулак. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІВАНІШЧАВІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, за 18 км на У ад Акцябрскага, 22 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 248 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 14 ст. Пад 1396 г. пазначаны ў лісце кн. Гальшанскага як сяло ў Глускай воласці. У дзярж. актах упамінаецца пад 1671 г. У 1683 г. 9 дымоў, дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Дваранін Гальперын меў тут у 1868 г. 3094 дзес. зямлі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. вёска (51 двор, 260 жыхароў) і аднайменны засценак (20 двароў, 155 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 396, у засценку 138 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1917 г. ў вёсцы 464, у засценку 177 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавала кузня. У 1930-я г. вёска і засценак склалі адзін населены пункт — в. Іванішчавічы. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 83 жыхароў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 211 жыхароў. У складзе калгаса імя Ц.П.Бумажкова (цэнтр — в. Любань). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, нясшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Ф.С.Белага, актыўнага ўдзельніка партыз. руху ў Вял. Айч. вайну (загінуў у баі). Яго імя прысвоена адной з вуліц г.п. Акцябрскі і занесена ў кнігу Народнай Славы раёна.

**ІСТОПКІ** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад г.п. Акцябрскі, 15 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 169 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й паловы 19 ст., калі засценак Істопкі ўваходзіў у Рудабельскую вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 81 жыхар. У 1908 г. 16 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. 99 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 25 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Майсееўка). Забудова драўляная.

**КАВАЛІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 6 км на Пд ад Акцябрскага, 3 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 209 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з г.п. Акцябрскі. 41 гаспадарка, 102 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 24 двары, 162 жыха-

ры. У 19 ст. ў маёнтку Рудабелка, з 1867 г. ўладанне барона А.Я.Урангеля, потым — ген.-м. А.Ф.Ліліянфельда. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. в. Кавалі (яна ж Дзярэўская), 53 двары, 328 жыхароў, карчма. У 1908 г. 80 двароў, 597 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 101 двор, 615 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 134 двары, 615 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2.4.1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 720 жыхароў, сярод якіх значная частка з суседніх вёсак. Пазней карнікі загубілі яшчэ 141 жыхара (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму за 150 м на ПнЗ і 0,8 км на З ад вёскі). 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. Размешчана Акцябрская дзярж. занальная сортавыпрабавальная станцыя; магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАРМА** — вёска ў Любанскім с/с, за 27 км на У ад Акцябрскага, 31 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 253 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1857 г. 14 двароў, 62 жыхары, уласнасць казны. У 1908 г. 28 двароў, 242 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Карма», працавала кузня. У 1940 г. 49 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі створаны ням. акупантамі ў вёсцы апорны пункт. У крас. 1942 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 57 жыхароў. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Гаравішчы). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных мерыдыянальных вуліц. На З — яшчэ адна кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова рэдкая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КУРЫН** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Акцябрскага, 7 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 194 км ад Гомеля, на р. Неслаўка (прыток р. Пціч), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 57 гаспадарак, 103 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў казённым маёнтку Граб'ё. У 1857 г. 17 двароў, 131 жыхар. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 52 двары, 348 жыхароў. У 1908 г. 69 двароў, 487 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 540 жыхароў. 15.11.1920 г. вызвалена ад польскіх акупантаў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1925 г. 92 двары, у Азарыцкім р-не Мазырскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны герой», працавала кузня. У 1940 г. 138 двароў, 700 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лесе, за 5 км ад вёскі, каля дарогі ў в. Подгаць базіраваўся партыз. атрад «Чырвоны Кастрычнік», арганізаваны ў ліп. 1941 г. Ц.П.Бумажковым і Ф.І.Паўлоўскім. Ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, расстралялі і спалілі 601 жыхара (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму за 0,7 км на ПдЗ і за 1 км на Пд ад вёскі). 51 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 307 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Заазер'е» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гаць); клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з трох кароткіх шчыльна пастаўленых прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.





*Ц.П.Бумажкоў.*

*Ф.І.Паўлоўскі.*

**ЛАМАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Ламавіцкага с/с, за 20 км на Пд ад Акцябрскага, 18 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 195 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 174 гаспадаркі, 468 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў казённым маёнтку Граб'ё, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 18 двароў, у 1857 г. 22 двары, 179 жыхароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 453 жыхары. У 1908 г. 104 двары, 726 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 125 двароў, 766 жыхароў. У час польскай акупацыі ў 1920 г. ў наваколлі дзейнічаў партыз. атрад К.П.Арлоўскага. У 1921 г. адкрыта школа. У 1925 г. 136 двароў. З 5.9.1929 г. цэнтр Ламавіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Парыцкага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працаваў паравы млын з лесапільняй. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 160 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 42 двары, загубілі 157 жыхароў. У ліст. 1943 г. партызаны атрадаў імя А.Ф.Каваленкі, «Смерць фашызму», «За Радзіму», «Чырвоны Кастрычнік» 123-й партыз. брыгады, імя М.Ф.Гастэлы 225-й партыз. брыгады разграмілі ням. гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У гэтым баі загінула мужная партызанка Р.І.Шаршнёва. 73 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 550 жыхароў. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава; Ламавіцкае лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом нар. творчасці, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, лазня, пральня, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца два і з Пн — адзін завулак. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1989 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Радзіма засл. работніка культуры Беларусі М.В.Гершмана, маці-гераіні А.А.Пакуш (выгадавала 14 дзяцей).

У склад Ламавіцкага с/с да 1942 г. ўваходзіла в. Селішча, якую ням. акупанты спалілі (29 двароў) і загубілі 95 жыхароў (не адноўлена, увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь»); в. Смалавіца (спалена ням. акупантамі, не адноўлена); в. Смуга (спалена ням. акупантамі, 21 двор, загублена 175 жыхароў, не адноўлена); в. Харомная (спалена ням. акупантамі, не адноўлена); да 1981 г. в. Глебава Паляна (не існуе).

**ЛАЎСТЫКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, 4 км на Пд ад Акцябрскага, 207 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), на З меліярацыйны канал, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 74 гаспадаркі, 179 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рудабельскім войтаўстве Бабруйскага пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. 18 двароў, у складзе маёнтка Рудабелка. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. 76 двароў, 545 жыхароў, у

Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 84 двары. У 1924 г. 448 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 115 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў пач. крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, расстралялі і спалілі 800 жыхароў, у іх ліку і з інш. вёсак (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму ў цэнтры і за 0,2 км на ПдЗ ад вёскі). 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў. Размешчана падсобнае прадпрыемства Мазырскай нафтаразведвальнай экспедыцыі глыбокага свідравання; клуб, б-ка, школа-сад. Планіровачна складаецца з трох каротkіх, шчыльна паміж сабой пастаўленых мерыдыянальных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЕСКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Акцябрскага, 6 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 233 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 34 гаспадаркі, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Бабруйскім пав. Мінскай губ. У 19 ст. ў складзе маёнтка Рудабелка, што належыў Лапам, потым уладанне А.Я.Урангеля, з 1874 г. — ген.-м. А.Ф.Ліліянфельда. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 327 жыхароў. У 1908 г. 71 двор, 458 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 499 жыхароў. У 1924 г. 524 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 6 двароў і загубілі 42 жыхары. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 210 жыхароў. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі); клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮБАНЬ** — вёска, цэнтр Любанскага с/с, за 23 км на ПдУ ад Акцябрскага, 23 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 227 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 165 гаспадарак, 390 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. У 18 ст. ва ўладанні Крыштаповічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Бабруйскім пав. Мінскай губ. У 1795 г. 13 двароў, 65 жыхароў. З 1797 г. ў валоданні арандатара М.С.Чапскага. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 347 жыхароў. У 1908 г. 50 двароў, 408 жыхароў, у Рудабельскай вол. У 1917 г. 420 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Любанскага с/с Парыцкага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. створаны калгас, працавалі цагельня, паравы млын, лесапільня, кузня, сталярная майстэрня, цыркулярка. У 1940 г. 148 двароў, 582 жыхары. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які ням. акупанты ўсталявалі ў вёсцы. У крас. 1942 г. карнікі спалілі 5 двароў, загубілі 85 жыхароў. У пач. снеж. 1943 г., калі сав. войскі ўступілі ў Акцябрскую партыз. зону, паблізу вёсак Майсееўка, Гадуні і Любані ўтварыўся разрыў у варожай абароне шыр. каля 10 км, вядомы як Рудабельскія «вароты». У баях каля вёскі і наваколлі ў 1943—44 гг. загінулі 1100 воінаў 28-й арміі і 7 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Сярод пахаваных Героі Сав. Саюза С.Дз.Роман і В.М.Сядзельнікаў. Пры прарыве варожай абароны каля вёскі вызначыўся батальён на чале з маёрам П.С.Жукавым (удастоены звання Героя



*П.С.Жукаў.*

Сав. Саюза). 71 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 489 жыхароў. Цэнтр калгаса імя Ц.П.Бумажкова; сярэдняя школа, Дом нар. творчасці, б-ка, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт, 2 магазіны, лесапільня, млын, швейная майстэрня, вет. ўчастак. Планіровачна складаецца з трох прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пн далучаецца прамалінейная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

Да Вял. Айч. вайны ў склад Любанскага с/с уваходзіла в. Зімча, якую ням. акупанты спалілі (не адрадзілася).



*М.П.Круцько.*

**ЛЯСКАВІЧЫ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, за 35 км на З ад Акцябрскага, 26 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 238 км ад Гомеля. Аўтадарога злучае вёску з Глускам. 207 гаспадарак, 500 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены каля вёскі скарб з 520 сярэбраных манет (агульная вага 1 фунт 45 залатнікоў) сведчыць пра дзейнасць чалавека ў гэтых месцах у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўзведзены драўляны будынак Свята-Мікалаеўскай царквы. У в. Вялікія Ляскавічы ў гэты час было 70, у слабадзе Ляскавічы — 5 двароў. Побач складвалася в. Малыя Ляскавічы. Сяло было цэнтрам аднайменнага маёнтка двараніна М.Дабравольскага, які ў 1831 г. валодаў 4362 дзес. зямлі. У 1848 г. 60 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча. У склад Ляскавіцкай вол. ў 1885 г. ўваходзіла 26 сяленняў з 434 дварамі. У 1908 г. 147 двароў, 1137 жыхароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. Значнае месца ў дзейнасці вяскоўцаў займала распрацоўка лесу. У 1921 г. дзейнічалі 2 школы — I і II ступені. З 26.7.1930 г. да 28.6.1939 г. цэнтр Ляскавіцкага с/с Глускага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага р-наў Палескай вобл. У пач. 1930-х г. вёскі Вялікія Ляскавічы і Малыя Ляскавічы аб'ядналіся ў адну в. Ляскавічы. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 5.2.1942 г. загубілі 112 жыхароў (пахаваны ў двух магілах ахвяр фашызму каля школы), у крас. 1942 г. спалілі 52 двары і загубілі 171 жыхара, а 5.2.1944 г. загубілі яшчэ 60 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 689 жыхароў. У 1983 г. да вёскі далучана в. Стары Двор. Цэнтр саўгаса «Арэса». Размешчаны рамонтная майстэрня, пач. школа, Дом нар. творчасці, б-ка, 2 дзіцячыя сады, аддз. сувязі, бальніца, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма чл.-кар. НАН Беларусі, д-ра хім. навук М.П.Круцько. Маці-гераіня Е.Ф.Логінава выгадавала 11, а Н.А.Зданевіч — 10 дзяцей.

У склад Ляскавіцкага с/с уваходзіла да 1983 г. в. Стары Двор (не існуе).

**МАЙСЕЕЎКА** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Акцябрскага, 20 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 188 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 165 гаспадарак, 444 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Паводле прывілею 1775 г. ва ўладанні М.С.Лапаты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 21 двор. У 19 ст. ў маёнтку Качай-Балота. Пад 1879 г. пазначана ў

ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 419 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. У 1925 г. 120 двароў, у Раманішчаўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. Пачатковая школа ў 1930-я г. пераўтворана ў сямігадовую. У 1940 г. 140 двароў, 517 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 32 двары і загубілі 23 жыхароў. У пач. снеж. 1943 г., калі сав. войскі ўступілі ў Акцябрскую партыз. зону, паблізу вёсак Майсееўка, Гадуні і Любань утварыўся разрыў у варожай абароне шыр. каля 10 км, які атрымаў назву Рудабельскія «вароты». 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. Цэнтр калгаса «Усход»; 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, амаль паралельна да якой на У і З праходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**МАЛЫН** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 6 км на Пн ад г.п. Акцябрскі, 11 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 236 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі вёска была ў валоданні памешчыкаў Шчаткоўскага і Катлубая. Паводле перапісу 1897 г. Малын (яна ж Залюшы), 9 двароў, 46 жыхароў. У 1917 г. 107 жыхароў, у Рудабельскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 16 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 12 двароў, загубілі 50 жыхароў. У 1944 г. гітлераўскія карнікі загубілі яшчэ 20 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 0,4 км на У ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МЕДУХАЎ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 25 км на З ад г.п. Акцябрскі, 18 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 228 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 19 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., як сяленне ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. На карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г., пазначана як 6 адасобленых, аднайменных засценкаў. У 1908 г. засценак (10 двароў, 115 жыхароў) і пасёлак (3 двары, 32 жыхары), у Ляскавіцкай вол. У пач. 1920-х г. засценак і пасёлак аб'ядналіся ў адну вёску. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 39 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. У складзе саўгаса «Парэчча» (цэнтр — в. Парэчча); магазін. Планіровачна складаецца з трох кароткіх, шчыльна паміж сабой пастаўленых шыротных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІКУЛЬ-ГАРАДОК** — вёска ў Любанскім с/с, за 20 км на У ад г.п. Акцябрскі, 24 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 244 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1870 г. засценак у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 46 жыхароў. У 1908 г. 4 двары. У 1925 г. 29 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавала кузня. У 1940 г. 75 двароў, 302 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 67 жыхароў. У час Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943 г., калі войскі Бел. фронту наблізіліся да Акцябрскага р-на, партызаны 123-й брыгады імя 25-годдзя БССР прарвалі каля вёскі абарону ням. войск і ўстанавілі сувязь з 37-й і 60-й стралк. дывізіямі 65-й арміі. З 28.11.1943 г. да 21.12.1943 г. тут дзейнічалі так званыя Рудабельскія «вароты». У 1944 г. акупанты стварылі паблізу вёскі, на балоце, канцлагер для грамадзянскага насельніцтва. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары. У складзе калгаса імя Ц.П.Бумажкова (цэнтр — в. Любань). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОШНЫ** — пасёлак і чыг. станцыя (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), у Пратасоўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Акцябрскага, 237 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Парычы. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў 2-й пал. 19 ст. У 1908 г. казённая сядзіба, 3 двары, 14 жыхароў, у Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З уводам у эксплуатацыю ў 1932 г. чыгункі Бабруйск—Старушкі пачаў дзейнічаць раз'езд, потым і чыг. станцыя. У 1940 г. 50 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. разам з часцямі Чырв. Арміі абараняў чыг. станцыю батальён добраахвотнікаў. Ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі пасёлак. У жн. 1942 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які тут размяшчаўся, і вывелі са строю лесазавод. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары; пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж чыгункі), да якой з У далучаюцца 3 завулкі. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МУШЫЧЫ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 26 км на ПдУ ад г.п. Акцябрскі, 32 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 256 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць), на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 47 гаспадарак, 104 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пад 1560 г. пазначана ў сувязі з вызначэннем яго межаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Бабруйскім пав. Мінскай губ. У 19 ст. ў казённым маёнтку Нястанавічы. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1857 г. 23 двары, 132 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 338 жыхароў. У 1908 г. 77 двароў, 577 жыхароў, у Рудабельскай вол. 8.7.1920



*Помнік на месцы Рудабельскіх «варот» каля в. Мікуль-Гарадок.*

г. вызвалена ад польскіх акупантаў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарыят», працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 113 двароў, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 105 двароў і загубілі 35 жыхароў. 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Валосавічы); клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі, забудаваных няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НІЎНАЕ** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 23 км на Пд ад г.п. Акцябрскі, 30 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 253 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Акцябрскі—Азарычы. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пазначана пад 1560 г. ў сувязі з апісаннем яго межаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у казённым маёнтку Нястанавічы. У 1850 г. 3 двары, 23 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 52 жыхары. У 1908 г. 11 двароў, 79 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 82 жыхары. У 1925 г. 14 двароў, у Грабаўскім с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 29 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. загубілі 10 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Ламавічы). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 3 км на Пн ад г.п. Акцябрскі, 3 км ад чыг. ст. Бумажкова (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 193 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У — чыгунка і лясны масіў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 92 гаспадаркі, 213 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі перасяленцы з в. Дуброва заснавалі тут невял. сяленне і назвалі яго Новая Дуброва. У 19 ст. ў складзе маёнтка Рудабелка, з 1867 г. ва ўладанні барона А.Я.Урангеля, з 1874 г. — ген.-м. А.Ф.Ліліянфельда. Пазначана на карце Зах. меліярацыйнай экспедыцыі, якая працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. вёска Новая Дуброва (37 двароў, 267 жыхароў) і выселкі Новая Дуброва-II (8 двароў, 46 жыхароў), якія пазней далучыліся да вёскі. У 1908 г. 66 двароў, 486 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 80 двароў, 438 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, у якой некаторы час у 2-й пал. 1920-х г. працавала В.Я.Кліменка — прапраўнучка рус. паэта А.С.Пушкіна. У 1925 г. 92 двары. З 20.11.1938 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Навадуброўскага с/с Глускага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага р-наў Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свядомасць», працавалі кузня і стальмашня. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператорана ў сямігадовую. У Вял. Айч. вайну з жыхароў вёскі і ваеннаслужачых-акружэнцаў быў створаны партыз. атрад «За Радзіму». Ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 2 двары, загубілі 17 жыхароў. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 383 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Калініна. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі); пач. школа, Дом нар. творчасці, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на У праходзіць кароткая вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**НОВІКІ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад г.п. Акцябрскі, 32 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 258 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць), на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (1909 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Бабруйскім пав. Мінскай губ., уладанне памешчыка І.Л.Кялчэўскага, 26 двароў, 184 жыхары. У 19 ст. ў маёнтку Бірча, уладанне памешчыка Месцера. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 29 двароў і загубілі 55 жыхароў. У снеж. 1943 г. карнікі загубілі яшчэ 147 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Валосавічы). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЗАВАЛЁНЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, 4 км на Пн ад Акцябрскага, 4 км ад чыг. ст. Бумажкова (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 233 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 1920-х г., калі з в. Завалёны вылучылася сяленне Новыя Завалёны, а в. Завалёны стала звацца Старыя Завалёны. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. спалілі 2 двары і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НЯСТАНАВІЧЫ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад г.п. Акцябрскі, 29 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 252 км ад Гомеля, на аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 44 гаспадаркі, 88 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пазначана пад 1560 г. ў сувязі з апісаннем яго межаў. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 г. маёнтак Нястанавічы павінен быў пастаўляць коней для фарміравання харугваў у Мінскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Бабруйскім пав. Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. цэнтр аднайменнага казённага маёнтка. У 1857 г. 12 двароў, 68 жыхароў, у валоданні двараніна Яльніцкага, які меў тут у 1870 г. 123 дзес. зямлі. У 1885 г. 16 двароў, 144 жыхары, царква. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 268 жыхароў. У 1908 г. 47 двароў, 273 жыхары, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1914 г. для яе збудавана сваё памяшканне. У 1925 г. 55 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі кузня і конная крупарушка. У 1940 г. 82 двары, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску. Партызаны 29.5.1943 г. разграмілі створаны акупантамі ў вёсцы гарнізон. 123 вяскоўцы загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняй в. Гуслішча. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Валосавічы); ёсць Дом сац. паслуг, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі

вуліцы, якая на Пд далучаецца да кароткай шыротнай вуліцы. На Пд адасоблена размешчана кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, да якой на У далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ПАДВЕТКА** — вёска ў Любанскім с/с, за 21 км на У ад г.п. Акцябрскі, 24 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 251 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў казённым маёнтку Нястанавічы. Паводле рэвізіі 1857 г. 2 двары, 18 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 47 жыхароў, у 1909 г. 10 двароў, 71 жыхар, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 78 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 23 жыхары. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 108 жыхароў. У складзе калгаса імя Ц.П.Бумажкова (цэнтр — в. Любань). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАРАСЛІШЧА** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад г.п. Акцябрскі, 26 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 253 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1925 г. 52 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня. У 1940 г. 70 двароў, 283 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. За 3 км ад вёскі, на балоце, з 17 да 25.3.1944 г. размяшчаўся лагер для цывільнага непрацаздольнага насельніцтва з розных месц. За 7 дзён тут памерла 900 чалавек. 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Валосавічы). Планіровачна складаецца з двух кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАРЭЧЧА** — вёска, цэнтр Парэцкага с/с, за 18 км на З ад г.п. Акцябрскі, 11 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 218 км ад Гомеля, на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Глуск. 249 гаспадарак, 591 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 14 ст. Пад 1396 г. пазначана ў лісце кн. Гальшанскага як сяло ў Глускай вол., якое было аддадзена Кіева-Пячэрскаму манастыру. Упамінаецца пад 1559 г. у матэрыялах рэвізіі пушчаў. У 1683 г. пазначана як цэнтр маёнтка, уладальніку якога Парэчча давала 292 злотых і 22,5 гроша ў год. Паводле 1748 г. ўладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Праз вёску праходзіў тракт Слуцк—Скрыгалаў. У 1846 г. адкрыта нар. вучылішча. Большасць вясковых зямель належала памешчыкам Ф.Валодзьку, К.Клецкаму і А.Быкоўскаму. Пазначана на карце 1866 г., якой карыс-



*Месца паселішча балотнага тыпу на р. Пціч ва ўрочышчы Рагачоўка каля в. Парэчча.*

талася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1876 г. пабудавана драўляная Раства-багародзіцкая царква. З 1885 г. дзейнічала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. с. Парэчча I (76 двароў, 378 жыхароў, 2 царквы, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі), в. Парэчча II (74 двары, 449 жыхароў, лаўка, пастаялы двор), сядзіба Парэчча II (9 двароў, 54 жыхары, лаўка, кузня, карчма) і засценак Парэчча (31 двор, 204 жыхары, кузня). У 1917 г. ў сяле, вёсцы, засценку і фальварку 1401 жыхар. З 20.8.1924 г. цэнтр Парэцкага с/с Глускага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1925 г. ў сяле 122, у вёсцы 104, у засценку 39, у фальварку 9 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камсамольская праўда», працавалі кузня і вадзяны млын. Пачатковая школа ў 1930-я г. пераўтворана ў сямігадовую. У канцы 1930-х г. сяло, вёска, засценак і фальварак склалі адзін населены пункт — Парэчча. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які ням. акупанты заснавалі ў вёсцы. У крас. 1942 г. карнікі спалілі 13 двароў і загубілі 169 жыхароў. За 0,2 км на У ад вёскі, па дарозе ў г.п. Акцябрскі з сак. 1943 г. размяшчаўся аэрадром Палеска-Мінскага партыз. злучэння. У баях каля вёскі загінулі 13 воінаў (пахаваны на могілках). 83 вяскоўцы загінулі на фронце. Адразу пасля вызвалення ў вёсцы быў адкрыты дзіцячы дом для дзяцей, бацькі якіх загінулі ў барацьбе з фаш. нашэсцем. У 1957 г. створаны саўгас, а ў 1958 г. пачала выходзіць саўгасная шматтыражка «Савецкае Парэчча». Паводле перапісу 1959 г. 870 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Парэчча», сярэдняя школа (пры ёй краязнаўчы музей, якому 4.6.1991 г. прысвоена званне «народны»), б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт, лазня, пральня, лясніцтва, цэнтр адпачынку, карцінная галярэя (з ліст. 1990 г.), філіял Акцябрскай муз. школы, вет. пункт, 2 сталовыя, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца Г-падобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

У склад Парэцкага с/с да Вял. Айч. вайны ўваходзіла в. Вовін, якую ням. акупанты спалілі (не адрадзілася), да 1962 г. — в. Чырвоная Дуброва, да 1966 — г.п. Багданаў (не існуюць).

**ПОДГАЦЬ** — вёска ў Ламавіцкім с/с, за 20 км на Пд ад г.п. Акцябрскі, 15 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 225 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 66 жыхароў. У 1908 г. 14 двароў, 83 жыхары, у 1917 г. 123 жыхары. У 1925 г. 24 двары, у Грабаўскім с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 38 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 28 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Заазер'е» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гаць). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПРАТАСЫ** — вёска, цэнтр Пратасаўскага с/с, за 31 км на ПнУ ад г.п. Акцябрскі, 10 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі

Асіповічы—Жлобін), 174 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 126 гаспадарак, 307 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. Паводле каралеўскага прывілею 1775 г. ва ўладанні М.С.Лапаты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў, 52 жыхары. У 1908 г. 77 двароў, 493 жыхары, у Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1920 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 105 двароў. З 21.8.1925 г. цэнтр Пратасоўскага с/с Парыцкага, з 28.6.1939 г. Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавала кузня. У 1940 г. 126 двароў. У Вял. Айч. вайну партызаны ў жн. 1942 г. разграмілі ням. гарнізон, які стварылі акупанты ў вёсцы. Карнікі ў крас. 1942 г. спалілі 105 двароў і загубілі 64 жыхары. У баях за вёску і наваколле загінулі 246 воінаў 28-й арміі і 8 партызан (пахаваны на могілках, у іх ліку Герой Сав. Саюза М.А.Бухтуеў). 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 428 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Рассвет); 9-гадовая школа, Дом нар. творчасці, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якая перакрыжоўваецца прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Пратасаўскага с/с да 1976 г. ўваходзіла в. Нівішчы (не існуе).

**ПРУЖЫНІШЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, за 26 км на У ад г.п. Акцябрскі, 30 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 250 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 58 гаспадарак, 101 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі ўваходзіла ў маёнтак Дуброва. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. 24 двары, 142 жыхары. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Дуброўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 366 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1907 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 64 двары, 404 жыхары. У 1925 г. 108 двароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгасы «2-я пяцігодка» і «Чырвоны ўсход», працавалі 2 ветракі. У 1940 г. 123 двары, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі ням. апорны пункт, які быў створаны ў вёсцы. У крас. 1942 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 111 жыхароў. Пры вызваленні вёскі вызначыліся радавы С.Дз.Роман (закрыў сваім целам амбразуру дзота), гв. лейт. Д.М.Ахмедаў, лейт. Г.Д.Лапацін, камандзіры аддзяленняў В.М.Літвінаў і І.Т.Малка. Ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 332 жыхары. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Гарохавішчы); клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца кароткая вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі. Асобна на У размешчана кароткая шыротная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*С.Дз.Роман.*

**РАБКОР** — пасёлак, чыг. станцыя, у Акцябрскім с/с, за 5 км на Пд ад г.п. Акцябрскі, 208 км ад Гомеля, на Пд канава Серабранская (прыток р. Пціч), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Глуск—Азарычы, 58 гаспадарак, 136 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў 1931 г., калі пачалося будаўніцтва чыг. веткі Бабруйск—Старушкі ад лініі Асіповічы—Жлобін. У пач. будаўніцтва чыгункі станцыя мела назву Ударная, пазней у гонар доблесці моладзі Рудабельшчыны яе назвалі Рабкор (рабочая асобая брыгада камсам. арг-цый раёна). Каля чыг. станцыі складваўся пасёлак, назва якому была нададзена Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. У 1940 г. 20 двароў, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. разам з часцямі Чырв. Арміі чыг. станцыю абараняў батальён добраахвотнікаў. Ням. акупанты 2.4.1942 г. і ў 1944 г. поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 64 жыхары (пахаваны ў магілах ахвяр фашызму за 0,3 км на У, 1,5 км на З і 2 км на ПдУ ад чыг. станцыі). Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. Размешчаны асфальтавы з-д, нафтабаза, база «Сельгасхіміі»; сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі (уздоўж чыгункі), забудаванай аднабакова пераважна драўлянымі жылымі і гасп. (прыстанцыйнымі) будынкамі.

**РАДКОЎ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 26 км на ПдУ ад г.п. Акцябрскі, 29 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 256 км ад Гомеля, на р. Трэмля (прыток р. Прыпяць), на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 261 жыхар. У 1925 г. 96 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавала кузня. У 1940 г. 149 двароў, 750 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 146 двароў і загубілі 120 жыхароў. У снеж. 1943 г. карнікі загубілі яшчэ 9 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўн. ускраіне вёскі). 94 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар. У складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Дзербін). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнУ, на У невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка. Радзіма засл. машынабудаўніка, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі М.Д.Бусела.

**РАЖАНОЎ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 6 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), на р. Пціч (прыток р. Прыпяць), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як цэнтр аднайменнага маёнтка, уладанне памешчыка Ф.Лукаўскага. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 95 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. вёска (14 двароў, 93 жыхары) і фальварак (2 двары, 17 жыхароў). У 1916 г. 18 двароў. У 1925 г. 22 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі апорны пункт, які ўсталявалі акупанты ў вёсцы. У крас. 1942 г. ням. карнікі спалілі 17 двароў і загубілі 31 жыхара. З верасня 1942 г. да чэрвеня 1944 г. тут дыслацыраваўся разведвальна-дыверсійны атрад «Храбрацы» (камандзір А.М.Рабцэвіч). 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе саўгаса «Парэчча» (цэнтр — в. Парэчча). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (уздоўж ракі) і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАМАНІШЧЫ** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Акцябрскага, 17 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асі-

повічы—Жлобін), 173 км ад Гомеля, на З і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Парычы—Акцябрскі. 52 гаспадаркі, 100 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чэрнінскага царкоўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 335 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 50 двароў, 401 жыхар. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1914 г. для яе ўзведзены свой будынак. У 1925 г. 75 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Раманішчаўскага с/с Парыцкага, з 26.6.1939 г. Акцябрскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавала кузня. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 83 двары, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў і загубілі 21 жыхара. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 318 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Рассвет); клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца мерыдыянальная вуліца. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАССВЕТ** (да 1962 г. Качай-Балота) — вёска, цэнтр Пратасаўскага с/с, за 32 км на ПнУ ад Акцябрскага, 16 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 175 км ад Гомеля, на р. Рудзянка (прыток р. Нератоўка), на Пн і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 196 гаспадарак, 459 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Большасць вясковых зямель належала памешчыцы В.Аненкавай. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Заходняя меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. 44 двары, 246 жыхароў. У 1925 г. 56 двароў, у Раманішчаўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Малады ленінец», працаваў паравы млын з лесапільняй. У 1940 г. 95 двароў, 410 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 5 двароў і загубілі 27 жыхароў. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна; мех. двор, сярэдняя школа, культ.-спарт. цэнтр, б-ка, філіял Акцябрскай муз. школы, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд і Пн далучаюцца 3 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. забудавана 50 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сав. Саюза А.М.Пінчука (яго імя носіць адна з вуліц вёскі).



*А.М.Пінчук.*

**РАСТАЎ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 20 км на З ад Акцябрскага, 13 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 223 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Пціч, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Глуск. 41 гаспадарка, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Растаў (яна ж Адальфін), 11 двароў, 73 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны воін». У 1940 г. 33 двары, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням.

акупанты спалілі 9 двароў і загубілі 47 жыхароў. У магіле ахвяр фашызму, што ў цэнтры вёскі, пахаваны расстраляныя карнікамі 4 партызанскія сям'і (14 жыхароў). 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны суседні пас. Багданаў. У складзе саўгаса «Парэчча» (цэнтр — в. Парэчча); магазін. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных прамалінейнай вуліцай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Радзіма бел. мастака, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі, д-ра мастацтвазнаўства, прафесара Л.Н.Дробава.



*Л.Н.Дробаў.*

**РАТМІРАВІЧЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 20 км на Пн ад Акцябрскага, 4 км ад чыг. ст. Ратміраў (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 180 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 31 гаспадарка, 60 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі была ўладаннем царквы. У 1775 г. каралеўскім прывілеем аддадзена ў валоданне М.С.Лапаты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1796 г. 9 двароў, 72 жыхары. У 19 ст. ўласнасць казны. У 1908 г. 44 двары, 286 жыхароў, у Брожскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Настаўніцай у вясковай школе некаторы час у 2-й палове 1920-х г. працавала В.Я.Кліменка — прапраўнучка рус. паэта А.С.Пушкіна. У 1930 г. арганізаваны калгас «Станцыя сацыялізму». З 1934 г. працавалі смолзавод, паравы млын, кузня. У 1940 г. 76 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 64 двары і загубілі 17 жыхароў. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 338 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Праўда» райаграпрамтэхнікі (цэнтр — в. Шкава); магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, лясніцтва, шавецкая майстэрня. Планіровачна складаецца з дугападобнай і прамалінейнай вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных двумя завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАТМІРАЎ** — пасёлак і чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), у Акцябрскім с/с, за 24 км на Пн ад Акцябрскага, 195 км ад Гомеля, на аўтадарозе Глуск—Шкава, вакол лес. 33 гаспадаркі, 54 жыхары (2004 г.).

У 1930 г. чыгунка ад Бабруйска дайшла да Ратміравіч і пачала дзейнічаць чыг. станцыя. Побач паступова складваўся пасёлак. У 1940 г. 20 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 4 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 244 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Праўда» райаграпрамтэхнікі (цэнтр — в. Шкава). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, размешчаных побач з чыгункай. Чыг. станцыя і гасп. пабудовы — на У. Забудова двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Назва пасёлку нададзена 21.1.1969 г. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР.

**РОГ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Акцябрскага, 34 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 260 км ад Гомеля, на Пд і З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 36 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й паловы 19 ст. як хутар у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У пач. 20 ст. дзейнічалі школа і цагельня. У 1925 г. 49 двароў, у Валосавіцкім с/с Азарыцкага р-на Мазырскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і стальмашня. У 1940 г. 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 25 двароў і загубілі 42 жыхары. У баях за вёску і наваколле загінулі 90 сав. воінаў (паха-

ваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў. У складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Дзербін); магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на поўдні далучаецца да кароткай, прамалінейнай, шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**РЭПІН** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 23 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 260 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Слуцк—Капаткевічы. 48 гаспадарак, 92 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. як маёнтак. У 1907 г. тут пачаў працаваць вінакурны з-д (закрыты ў 1915 г.). У 1920-х гадах вёска хутка павялічвалася за кошт перасяленцаў з суседніх населеных пунктаў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 47 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. Некаторы час вясной 1943 г. тут базіраваўся штаб Мінскага партыз. злучэння. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада); клуб, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой далучаюцца з Пн 2 прамалінейныя вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САПЕЙКІ** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Акцябрскага, 19 км ад чыг. ст. Ратміраў (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 187 км ад Гомеля, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 45 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў складзе казённага маёнтка Брожа. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чэрнінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. в. Сапекі (яна ж Сапейкава), 43 двары, 266 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 54 двары, 309 жыхароў, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 69 двароў, у Раманішчаўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 86 двароў, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 16 двароў і загубілі 15 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 228 жыхароў. У складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Майсееўка); магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САСНОЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 26 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 263 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), на Пд сетка меліярацыйных каналаў, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 48 гаспадарак, 110 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў складзе маёнтка Ляскавіцкая Слабада, у валоданні памешчыка Ф.Германа. У 1908 г. 27 двароў, 158 жыхароў, у Парыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 55 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. Некаторы час у вёсцы зімой 1943 г. базіраваўся штаб Мінскага партыз. злучэння. Тут жа размяшчалася падп. друкарня і выходзіла рэсп. газета «Звязда». 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу

1959 г. 282 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада); магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаюцца 2 завулкі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Акцябрскага, 21 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), на Пн меліярацыйныя каналы, на У і Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Парычы—Акцябрскі. 47 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Па каралеўскаму прывілею 1775 г. ў валоданні М.С.Лапаты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў, 69 жыхароў. У 19 ст. ў складзе маёнтка Качай-Балота. Паводле перапісу 1897 г. в. Слабодка (яна ж Качай-Балотная Слабодка), 27 двароў, 203 жыхары, у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 70 двароў, у Раманішчаўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 80 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ўсталявалі ў вёсцы свой гарнізон, які партызаны разграмілі.



*Помнік «Беларусь партызанская» ў в. Слабодка.*

У крас. 1942 г. карнікі спалілі 6 двароў і загубілі 34 жыхары. У 1944 г. акупанты стварылі тут канцлагер, дзе ўтрымлівалі 3 тыс. чалавек, якія выкарыстоўваліся на работах па збудаванні ням. абароны. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 374 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Рассвет); клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пд далучаецца да цэнтра крыху скрыўленай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СМАЛОЎКА** — вёска ў Чырвонаслабодскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 16 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 252 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), на Пд мяжуе з лесам і ўрочышчам Воўчы Бор. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 31 гаспадарка, 48 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар, 4 двары, 22 жыхары, у Камаровіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Асабліва хутка расла вёска ў 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 39 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 6 двароў і загубілі 4 жыхары. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвонаслабодскі» (цэнтр — в. Чырвоная Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца з Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СМЫКОВІЧЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 3 км на У ад Акцябрскага, 9 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 23 км ад Гомеля, на р. Нератоўка (прыток р. Пціч), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасё-

лачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 27 гаспадарак, 55 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі належала А.І.Комару, потым — В.А.Вузлоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 25 двароў, 139 жыхароў. У 19 ст. ў маёнтку Рудабелка, які належаў Лапам, з 1867 г. ў валоданні А.Я.Урангеля, з 1877 г. — ген.-маёра А.Ф.Ліліянфельда. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 257 жыхароў. У 1908 г. 42 двары, 335 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1916 г. 56 двароў, 319 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 54 двары і загубілі 58 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Заазер'е» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гаць); магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 1 км на Пн ад Акцябрскага, 5 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 204 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія праходзяць праз г.п. Акцябрскі. 165 гаспадарак, 426 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі в. Дуброва была ў складзе маёнтка Рудабелка, з 1867 г. ва ўладанні барона Урангеля, з 1874 г. — ген.-маёра А.Ф.Ліліянфельда. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 239 жыхароў. У 1908 г. в. Дуброва Старая, 270 жыхароў, у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Побач была вёска з назвай Дуброва Новая. У 1917 г. 377 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1924 г. 54 двары, 430 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 85 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. карнікі спалілі 24 двары і загубілі 100 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 233 жыхары. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі); магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пн далучаецца кароткая, паўвыгнутая шыротная вуліца. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы Р.П.Жулегі.

**СТАРЫЯ ЗАВАЛЁНЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 4 км на Пн ад Акцябрскага, 6 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 207 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Глуск—Акцябрскі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. ў Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 12 двароў, 60 жыхароў. У пач. 1920-х г. вёска стала называцца Старыя Завалёны, калі частка вяскоўцаў заснавала побач в. Новыя Завалёны. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 11 двароў і загубілі 25 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 33 жыхары. У складзе саўгаса «Акцябрскі» (цэнтр — г.п. Акцябрскі). Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы драўляных сял. сядзіб каля прасёлачнай дарогі.

**ХАРОМЦЫ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Акцябрскага, 20 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), аўтадарога звязвае вёску з в. Чырвоная Слабада, на Пн мелія-

рацыйныя каналы. 100 гаспадарак, 208 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (150 насыпаў паўсферычнай формы, за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Ляскаўшчына, у лесе) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, уласнасць праваслаўнай царквы. Па інвентару 1683 г. ў Рудабельскай вол., у складзе Парэцкага маёнтка, уладальнік якога атрымліваў 163 злотыя і 26 грошаў прыбытку ў год. У 17 ст. 8 дымоў, у Мазырскім пав. У 1748 г. ўваходзіла ў Парэцкую вол., уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 14 двароў. У 1842 г. збудаваны касцёл, які пазней быў перанесены ў в. Карпілаўка (цяпер г.п. Акцябрскі, не захаваўся). У 1844 г. 28 двароў, уладанне двараніна К.Вішчынскага, які ў 1876 г. меў тут 3805 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. сяло, 33 двары, 360 жыхароў, у Ляскавіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. на вясковых могілках пабудавана з дрэва брама (зараз помнік нар. дойлідства), на ўсх. ускраіне закладзены парк (цяпер помнік сядзібна-паркавага мастацтва). Сядзібны дом, што быў у парку, не збярогся. У 1908 г. 102 двары, 766 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 2-й палове 1920-х г. створаны саўгас «Казбек», працавалі паравы млын і кузня. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 226 двароў, 1035 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які партызаны разграмілі. У крас. 1942 г. карнікі спалілі 111 двароў і загубілі 233 жыхары, у 1944 г. загубілі яшчэ 207 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 782 жыхары. У складзе саўгаса «Парэчча» (цэнтр — в. Парэчча); Дом нар. творчасці, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца з Пд кароткая прамалінейная вуліца, а з У — З завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Брама на могілках у в. Харомцы. Помнік народнага дойлідства канца 19 ст.*



*Курганы ў лесе каля в. Харомцы.*

**ЧАРНЯЎКА** — вёска ў Любанскім с/с, за 26 км на У ад Акцябрскага, 30 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 252 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Транспарт-

ныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 31 жыхар. У 1925 г. 23 двары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 27 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Гарохавішчы). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧОРНЫЯ БРАДЫ** — вёска ў Пратасаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Акцябрскага, 6 км ад чыг. ст. Ратміравічы (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 178 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 25 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (15 насыпаў, за 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, у лесе) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі ўваходзіла ў склад казённага маёнтка Брожа. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-я г. У 1908 г. побач з вёскай была казённая сядзіба, 2 двары, 7 жыхароў. У 1925 г. 66 двароў, у Коўчыцкім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», працавалі лесапільны з-д, кузня. У 1940 г. 80 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 56 двароў, загубілі 28 жыхароў. 25.6.1944 г. танк Т-34 пад камандаваннем гв. лейтэнанта Дз.Я.Камарова вырваўся каля вёскі наперад, знішчыў каля ўзвода фашыстаў і некалькі агнявых кропак ворага, а калі скончыліся боепрыпасы і загарэўся танк, яго экіпаж вырашыў ісці на таран ням. браняпоезда, што вёў агонь па сав. танках і пяхоце. Механіку-вадзіцелю танка М.А.Бухтуеву пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Рассвет); б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца 2 прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** (да 1929 г. Германава Слабада) — вёска, цэнтр Чырвонаслабодскага с/с, за 25 км на ПдЗ ад Акцябрскага, 25 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 232 км ад Гомеля, на р. Арэса (прыток р. Пціч), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Навасёлкі. 275 гаспадарак, 634 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя і даследаваныя археолагамі курганы, што былі побач з вёскай, сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст., калі перасяленцы з суседніх вёсак заснавалі тут новае паселішча. Значна пашырыліся памеры вёскі ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. З 26.6.1939 г. цэнтр Чырвонаслабодскага с/с Акцябрскага, з 25.12.1962 г. Светлагорскага, з 30.7.1966 г. Акцябрскага р-наў Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Пачатковая школа ў 1930-я г. ператворана ў сямігадовую. У 1940 г. 228 двароў, 812 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі 10 двароў і загубілі 14 жыхароў. 76 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 957 жыхароў.



*М.З.Асмыковіч.*

Цэнтр саўгаса «Чырвонаслабодскі»; машынны двор, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом нар. творчасці, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, выгнутай шыротнай вуліцы (уздоўж ракі), да якой з Пн далучаюцца 3 злучаныя паміж сабой кароценькія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзена 55 мураваных будынкаў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г. Вял. работа праведзена ў апошнія дзесяцігоддзі па добраўпарадкаванні вёскі, асфальтаванні вуліц. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.З.Асмыковіча і Героя Сац. Працы І.Ц.Вераб'ёва.

Да 1998 г. ў склад Чырвонаслабодскага с/с уваходзіла в. Звесніца (не існуе).



*Помнік на месцы былога лагера смерці ў в. Юркі.*

**ШКАВА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Акцябрскага, 185 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Бумажкоў (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), на р. Нератоўка (прыток р. Пціч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Парычы—Акцябрскі. 162 гаспадаркі, 386 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. ў Мінскім старастве ВКЛ. У 1560 г. ўпамінаецца ў дакументах аб вызначэнні яе межаў. У 1682 г. 13 дымоў, цэнтр войтаўства. Па інвентару 1683 г. ў складзе Парэцкага маёнтка, давала 277 злотых і 5 грошаў прыбытку ў год. Па інвентару 1748 г. 23 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Бабруйскім пав. Мінскай губ. Значная частка вясковых зямель належала памешчыку К.Ванькевічу. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 559 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. Побач была аднайменная сядзіба, вадзяны млын і карчма. У 1908 г. 109 двароў, 804 жыхары, побач аднайменны маёнтак (17 жыхароў), у Рудабельскай вол. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1916 г. 143 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларуская вёска», працавала кузня. У 1940 г. 180 двароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 ням. акупанты спалілі 36 двароў і загубілі 69 жыхароў. 19.8.1942 г. партызаны разграмілі гарнізон, які заснавалі ў вёсцы акупанты. 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 468 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Праўда» Акцябрскай райаграпрамтэхнікі; лесапільня, лясніцтва, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд пад прамым вуглом далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1991—92 гг. узведзена 50 мураваных будынкаў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 г.

**ЮРКІ** — вёска ў Валосавіцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Акцябрскага, 35 км ад чыг. ст. Рабкор (на ветцы Бабруйск—Рабкор ад лініі Асіповічы—Жлобін), 260 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Акцябрскі—Азарычы. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. ў складзе маёнтка Ліцвінавічы, уладанне памешчыка Вольбена. У 1844 г. 6 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 102 жыхары, карчма, у Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 17 двароў, 139 жыхароў. У 1917 г. 172 жыхары. У 1924 г. 25 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў. Каля вёскі яны стварылі канцлагер з мэтай распаўсюджання эпідэміі тыфу сярод насельніцтва і воінаў Чырв. Арміі. Пад адкрытым небам на пляцоўцы, абнесенай калючым дротам, гітлераўцы трымалі каля 10 тыс. старых, жанчын і дзяцей. Вызвалена 19.3.1944 г. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана в. Дзерць. У складзе калгаса імя А.М.Горкага (цэнтр — в. Дзербін). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці, ф. 428, воп. 1, спр. 16.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 1, спр. 173, 175; воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; воп. 30, спр. 5; ф. 42, воп. 1, спр. 658; воп. 2, спр. 107, 125, 127, 129—132, 134, 1425, 1428, 2284, 2306, 2308, 2310, 2313; ф. 60, воп. 1, спр. 404; ф. 332, воп. 1, спр. 474; ф. 1728, воп. 1, спр. 19.

Нацыянальны гістарычны; архіў Беларусі, ф. 333, воп. 9, спр. 47, 48, 166, 166а, 555, 700, 732; ф. 448, воп. 1, спр. 64; ф. 694, воп. 2, спр. 6338; ф. 1461, воп. 2, спр. 10, 19; ф. 1728, воп. 1, спр. 19, 431; ф. 1733, воп. 1, спр. 55; ф. 1781, воп. 1, спр. 19; ф. 2002, воп. 1, спр. 490; ф. 3014, воп. 1, спр. 26; ф. 3203, воп. 1, спр. 1.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 191, 290, 1294, 1332.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния; Т. 9, ч. 4. Минская губерния. СПб., 1848.

Географо-статистический словарь Российской империи. СПб., 1863.

Городские поселения Российской империи. СПб., 1863.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском... Вильна, 1863.

Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.

Список землевладельцев Минской губернии на 1876 г. Мн., 1877.

Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—2. Могилев, 1882—83.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. 7. Бобруйский уезд. Мн., 1879.

Волости и важнейшие селения Европейской России. СПб., 1886.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13, 15. Вильна, 1886—88.

Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892.

Вся Россия. Т. 1—2. СПб., 1900.

Памятная книжка Минской губернии на 1901 г. Мн., 1900.

Обзор Могилевской губернии за 1908 г. Могилев, 1909.

Список населенных мест Минской губернии в алфавитном порядке селений по каждой волости. Мн., 1912.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1914 г. Могилев, 1914.

Литовская метрика. Книга публичных дел. Петроград, 1915.

Очерк истории Литовско-Русского государства. М., 1915.

Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 г. Могилев, 1915.
Список населенных мест БССР б. Минской губернии. Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Материал к отчету Гомельского городского Совета депутатов трудящихся. Гомель, 1940.
Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы). Мн., 1961.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1974.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Мн., 1984.
Мазуров К.Т. Незабываемое. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Павлов Я.С. В суровом сорок первом. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514); кн. 51 (1566—1574). Вильнюс, 1995—2000.
Вяртанне. Мн., 1995.
Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Акцябрскага раёна. Мн., 1997.





Лоеўскі раён
Хойніцкі раён
Украіна
Чарнігаўская вобл.
Кіеўская вобл.
Украіна
52°00'
51°50'
51°30'
51°20'
30°15'
30°30'
п. Майскі
Кананаўшчына
Лубенікі
Журавлёва Рудня
Вял. Лес
Рыжкаў
Каманоў
Петрыцкае
Чырв. Поле
Міхнаўка
п. Нов. Шлях
Вуглы
Пажаркі
Такліноў
Мікулічы
Шкураты
Бакуны
Кавака
Сялец
Марытон
Тэльмана
Гарадзішча
Нов. Макрэц
Хойнікі
Буркі
Кавалі
Сабалі
Катловіца
Стар. Макрэц
Дубройнае
Малейкі
Брагін
Гарадок
Астрагляды*
Красн. Гара
Зарэчча
Вязок*
Бераснёўка
п. Ленінец
п. Чырв. Паляна
Глухавічы*
Рафалоў*
Ясяні*
Сцежарнае
Аляксееўка
Рытаў
Багушы*
Малажын
Казялужцы*
Валахоўшчына
Пераносы
п. Чырв. Ніва
Хатуча*
Ільічы*
Дублін
п. Ленінск
Нудзічы*
Спярыжжа
Стар. Юркавічы
п. Дубраўка
Дабрагошча
Міхалоў
п. Садовы
Чамярысы
п. Калініна
Жылічы
Нов. Грэбля
Нов.-
Хракавічы
Стар.-
Вярховая Слабада*
п. Ленінскі
Выграбная Слабада*
Пучын*
Просмычы
Цалуйкі*
Нежыхаў*
Жэрднае*
Двор-Савічы
Савічы
Грушнае
Асарэвічы
Перасяцінец*
Сувіды*
Голкі
Стар. Сцепаноў*
Ляды*
Нов. Сцепаноў*
Вялле
Кулажын*
Піркі*
Чэрнеў*
п. Ніўкі
Крукі*
Людзвіноў*
Стар. Ёлча
Міхалёўка*
Прыстанскае*
Краснае
п. Капаранскія Ляды*
Славуціч
п. Жалібор*
Залессе*
Галубоўка
Нов. Ёлча
Калыбань*
Прыпяць
Велімоў*
Аляксандраўка
Бярозкі
Пасудава*
Кацічаў
Камарын
Ванкі
Чыкалавічы*
Карлаўка
Кірава
Маштаб 1:400 000
Пасека*
Гдзень
Верх. Жары
Дняпро
Скароднае*
Ніж. Жары



# БРАГІНСКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. на ПдУ Гомельскай вобл. 25.12.1962 да раёна далучаны г.п. Камарын і 8 сельсаветаў скасаванага Камарынскага р-на. Пл. 1954 км$^2$, насельніцтва 16,5 тыс. чал. (2004 г.). Уключае 135 населеных пунктаў. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 4890 сямей (12 526 жыхароў) у 1991—97 гг. перасelены ў чыстыя месцы. Падзяляецца на 11 сельсаветаў, 2 гар. пасёлкі (Брагін і Камарын). На Пд мяжуе з Кіеўскай, на У — з Чарнігаўскай вобл. Украіны, на Пн — з Лоеўскім, на З — з Хойніцкім р-намі. Паверхня слабахвалістая, пераважаюць азёрна-рачныя і водна-ледавіковыя пясчаныя адклады. Ёсць радовішчы торфу (35,5 млн. т) і цагельныя гліны. Праходзіць чыгунка Чарнігаў—Оўруч, аўтадарогі Хойнікі—Брагін—Камарын, Брагін—Холмеч. Рэкі: Дняпро (на мяжы з Украінай), Брагінка з прытокам Несвіч. Глебы пераважна дзярнова-падзолістыя і тарфяна-балотныя, суглінкавыя, супясчаныя, пясчаныя. Якасць ворных зямель 46 балаў, кармавых угоддзяў —30, усіх сельгасугоддзяў — 38 балаў. Каля 30% тэр. займаюць лясы. Частку тэр. раёна займае Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Асн. прам. прадпрыемствы ў Брагіне і Камарыне. Пад сельгасугоддзямі каля 57% тэр., 21 калгас, 7 саўгасаў, 18 агульнаадукацыйных школ, 26 бібліятэк, 26 клубных устаноў, 47 спарт. збудаванняў, 82 магазіны і 19 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

**БРАГІН** — гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета і Брагінскага р-на, 119 км на ПдЗ ад Гомеля, 357 км ад Мінска, 28 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Хойнікі—Васілевічы ад лініі Калінкавічы—Гомель), на р. Брагінка; на Пд меліярацыйныя каналы. Аўтадарогамі злучаны з Хойнікамі, Камарынам, Рэчыцай, Лоевам. 3,6 тыс. жыхароў (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з Брагіна ў чыстыя месцы перасялена 1651 сям'я (4892 чал.).

Выяўлены і даследаваны археолагамі дзядзінец Брагіна адносіцца да 11—13 ст., быў абкружаны па перыметры абарончым валам. Ён заснаваны ў зоне змяшання дрыгавічоў, палян і северан. У час пракладкі газаправода ў 1997 г. на адной з вуліц Брагіна выяўлены гліняны гаршчок з манетамі 1536—49 гг., што сведчыць аб яго тагачасных гандлёвых сувязях. У пісьмовых крыніцах Брагін упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147 г. як горад Кіеўскага княства. Северскія князі Ольгавічы і Давыдавічы ў час барацьбы з кіеўскім князем Ізяславам Мсціслававічам разрабавалі і спустошылі Брагін. Кіеўскі князь Рурык Расціславіч у 1187 г. аддаў Брагін сваёй нявестцы Верхуславе, дачцы Суздальскага вял. князя Усевалада Юр'евіча. З 1360-х г. у складзе ВКЛ. Праз Брагін у 1506 г. татары накіроўваліся да Клецка, Ліды, Ашмян, Ваўкавыска, Гродна, пакуль 5.8.1506 г. войска ВКЛ на чале з М.Глінскім не разбіла іх каля Клецка. У 1503 г. і 1508 г. Брагін упамінаецца ў перапісцы Маскоўскага вял. князя Васіля з вял. князем ВКЛ і каралём Польшчы Жыгімонтам I аб памежных спрэчках. Граматай Жыгімонта I

у 1511 г. Брагіну і яго жыхарам даваўся шэраг ільгот. Пад 1537 г. горад пазначаны ў матэрыялах аб перамовах Маскоўскай дзяржавы з Літвой. Паводле размежавання ў 1564 г. Брагінская воласць увайшла ў склад Мазырскага пав. Кіеўскага, потым Мінскага ваяводстваў. Князь А.А.Вішнявецкі, які з сярэдзіны 16 ст. валодаў Брагінам, па перапісу войска літоўскага 1567 г. павінен быў пастаўляць для фарміравання харугваў 12 коней. З канца 16 ст. Брагін быў асноўнай рэзідэнцыяй князёў Вішнявецкіх. Святамікалаеўскую царкву, якая тут дзейнічала з сярэдзіны 16 ст., Вішнявецкія надзялілі зямлёй і ў 1609 г. заснавалі Праабражэнскі мужчынскі манастыр, ператвораны ў 1842 г. ў прыходскую царкву (не захавалася). Пры двары А.Вішнявецкага адзін з яго слуг аб'вясціў сябе ў 1604 г. царэвічам Дзмітрыем — сынам Івана Грознага і вядомы ў гісторыі як Лжэдзмітрый І. У 1648 г. жыхары Брагіна адчынілі браму казацкім атрадам на чале з Нябабам, Напалічам і Хвяськом, за што карным атрадам Рэчы Паспалітай горад быў разбураны. У 15—17 ст. на месцы дзядзінца размяшчаўся замак — комплекс драўляна-земляных умацаванняў. Паводле інвентару 1574 г. на вале былі сцены-гародні, абарончая вежа з боку ракі, 2-ярусная драўляная вежа-брама з вялікай святліцай наверсе. Замак не аднаўляўся і пераўтварыўся ў гаспадарчы двор Вішнявецкіх. У 1784 г. ўзведзены новы будынак Свята-Мікалаеўскай царквы (не захавалася). Найб. прыкметнымі ў царкве былі абраз Спасіцеля, напісаны на кіпарыснай дошцы, — дараванне імператара Аляксандра Мікалаевіча; евангелле Кіеўскага выдання 1697 г., дакументы кн. Вішнявецкага 1793 г. і 1744 г. на вылучаныя ім землі для царквы. У 1790 г. ўзведзена драўляная Раства-Багародзіцкая царква (на захавалася). З 1770-х г. у Брагіне дзейнічала місія езуітаў з касцёлам.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Брагін у складзе Рас. імперыі.



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму ў г.п. Брагін.

У 1850 г. ў ім 149 двароў, 1233 жыхары. Граф Ракіцкі меў у Брагіне і Мікулічах у 1855 г. 26 650 дзес. зямлі, 2 ветракі, 6 конных млыноў, вадзяны млын, сукнавальню. Тракт звязваў Брагін з Лоевам. У 1860 г. ў Брагіне 261 гаспадарка, 2628 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, касцёл, праводзіліся 2 кірмашы ў год. У 1864 г. адкрыты нар. вучылішча, царкоўнапрыходская школа. Горад быў цэнтрам воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ., у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 24 сяленні з 1297 дварамі. У 1886 г. ў Брагіне 286 двароў, працавала аптэка. Паводле перапісу 1897 г. тут 648 двароў, 4519 жыхароў, 3 царквы, капліца, паштова-тэлегр. аддз., хлебазапасны магазін, паравы млын, піваварны завод, 6 крупарушак, 3 маслабойні, 5 майстэрань па апрацоўцы скур, 5 цагельняў, 82 лаўкі, 2 заезныя двары, карчма і аптэка. 20 сяльчан займаліся ганчарствам. У 1904 г. ўзнікла група РСДРП. У 1920-х г. дзейнічалі 3 пачатковыя і 1 дзесяцігадовая школы, клуб, б-ка, урачэбны ўчастак, ветэрынарны пункт, паштоватэлегр. кантора, с.-г. крэдытнае т-ва, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1929

г. арганізаваны калгас. Працавалі масла-завод, паравы млын, вятрак, кравецкая і шавецкая арцелі, кузня. З 15.7.1935 г. Брагін — мястэчка, з 27.9.1938 г. — гарадскі пасёлак.

У Вял. Айч. вайну з 29.8.1941 г. да 23.11.1943 г. дзейнічала патрыят. падполле. Стварыў і ўзначаліў яго П.Р.Зяновіч, з вясны 1942 г. ім кіраваў М.Л.Дубіна, з кастр. 1942 г. — С.І.Рэпчанка. Падпольшчыкі трымалі сувязь з партызанамі, вялі агіт. работу, перашкаджалі акупантам вывозіць моладзь у Германію, здабывалі для партызан зброю і боепрыпасы. У жн. 1942 г. фашысты арыштавалі і расстралялі многіх падпольшчыкаў. У 1943 г. падпольшчыкі спалілі друкарню, 2 аўтамашыны, сапсавалі электрастанцыю, сумесна з партызанамі ў ноч на 11.4.1943 г. разграмілі варожы гарнізон, пасля чаго разам з сем'ямі пашлі ў партыз. атрад. У 1941—43 гг. ням. фашысты расстралялі 8 тыс. мірных жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на вул. Пясочнай). У баях за Брагін і наваколле загінулі 257 воінаў 9-га гвардз. і 89-га стралк. карпусоў 61-й арміі, а таксама 9 партызан (пахаваны ў брацкіх магілах на могілках на вул. Камсамольскай і Савецкай). Сярод тых, што загінулі, Героі Сав. Саюза П.С.Мамкін і М.Ф.Махаў. У Брагіне размешчаны крухмальны з-д, масласырзавод, лясгас, райсельгасхімія, райаграпрамтэхніка, аграхімлабараторыя, ветлячэбніца, хлебакамбінат, камбінат быт. абслугоўвання, аптэка, муз. школа, гістар. музей з карцінай галерэяй, раённая і дзіцячая б-кі, сярэдняя школа, раённы Дом культуры, раённая бальніца, дзіцячы сад, 2 аддз. сувязі, гідраметэастанцыя. Вядзецца радыёвяшчанне, выходзіць раённая газета «Маяк Палесся». У 1970 г. да Брагіна далучана в. Ліпкі. Пларовачна гар. пасёлак складаецца з сеткі кварталаў, выцягнутых з Пд на Пн уздоўж ракі. Генеральны план яго развіцця распрацаваны ў 1973 г. Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Асноўныя адм. і гандлёвыя будынкі сканцэнтраваны вакол плошчы. У цэнтр. частцы размешчаны 2-, 4- і 5-павярховыя жылыя дамы. Астатняя забудова пераважна 1-павярховая, драўляная. У 1990-я г. пабудавана драўляная царква. Адна з вуліц Брагіна названа імем яго ўраджэнца Ф.І.Скараходава, які ў 1918 г. камандаваў партыз. атрадам (каля 500 чал.) і разграміў некалькі камендатур герм. войск. Радзіма доктара хім. навук, праф. В.С.Скараходава, бел. мастакоў А.Я.Грэся, Я.Г.Панамарэнкі і бел. пісьменніка С.Е.Палуяна. Паблізу ёсць радовішчы жалезняку, гліны і суглінкаў.



С.Е.Палуян.

У склад Брагінскага пас. Савета да 1962 г. ўваходзілі пас. Пуцілавік, да 1970 г. — в. Ліпкі (не існуюць).



Помнік у гонар савецкіх танкістаў у г.п. Брагін.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 45 км на ПдУ ад Брагіна, 4 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 164 км ад Гомеля; на Пд і З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (1999 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 19 ст. як сяленне ў Ялчанскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 30 двароў, 146 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Плані-

Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у в. Асарэвічы.



ровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — вёска ў Малажынскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Брагіна, 38 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 129 км ад Гомеля; на Пд сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 108 гаспадарак, 256 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Аляксееўка», працавалі вятрак (з 1909 г.), кузня. З 10.7.1939 г. цэнтр Крыўчанскага с/с Брагінскага р-на Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Паводле перапісу 1959 г. 548 жыхароў, у складзе калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр — в. Крыўча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаванай па цэнтры дугападобнай вуліцай. На Пд да асноўнай далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**АСАРЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Асарэвіцкага с/с, за 38 км на ПдУ ад Брагіна, 14 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 168 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай; на ПнУ возера Асарэвіцкае, на У пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 186 гаспадарак, 394 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча і бескурганны могільнік 6 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (2 км ад вёскі, на правым беразе р. Лебядзёўка, ва ўрочышчы Пад'ямец) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Аб тым жа сведчыць і знойдзены ў маёнтку скарб з 119 сярэбраных манет 1597—1601 гг. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 48 двароў. Памешчык Насакен меў у вёсках Асарэвічы і Вялле ў 1876 г. 3558 дзес. зямлі і конны млын. Паводле перапісу 1897 г. 88 двароў, 608 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 карчмы, 2 лаўкі. Побач быў аднайменны фальварак. З 8.12.1926 г. цэнтр Асарэвіцкага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. 1093 жыхары, дзейнічалі школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», працавалі паравы млын, вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну ў вер.—кастр. 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі і суседніх населеных месц загінулі 54 воіны 9-га гв. стралк. корпуса і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле, у скверы). Сярод пахаваных Героі Сав. Саюза Е.І.Данільянц, А.Г.Даўлетаў, У.М.Кастрыкін, М.М.Уласаў, М.М.Яромкін, якія вызначыліся ў баях за вызваленне Брагінскага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 886 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры,

б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з трох амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі, да якіх на Пн далучаюцца 2 выгнутыя, паралельныя паміж сабой і злучаныя двума завулкамі вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Захаваўся старадаўні парк.

**АСІННІК** — пасёлак у Новаялчанскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Брагіна, 6 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 158 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. Пасля Чарнобыльскай катастрофы і радыяцыйнага забруджання жыхары (7 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. на б. памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г., 58 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Хаты драўляныя сядзібнага тыпу.

**АСТРАГЛЯДЫ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 11 км на З ад Брагіна, 22 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля; на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары ўсіх 400 сямей пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1574 г. як мяст. Астрагляды ў Кіеўскім пав. Каралеўства Польскага, уладанне Вішнявецкіх. У 1625 г. на сродкі ўладальніка мястэчка М.Харлінскага пабудаваны касцёл (перабудаваны ў 1778 г. і 1850 г.). Пазначана на карце ВКЛ 1613 г. У 1779 г. пабудавана драўляная Свята-Троіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1844 г. ў маёнтку Хвойнікі, які належыў В.К.Прозару. У 1850 г. сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 56 двароў, 380 жыхароў. З 1864 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1885 г. 71 двор, 403 жыхары, школа, царква, касцёл. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 720 жыхароў, царква, касцёл, капліца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, вятрак, карчма. Побач быў аднайменны фальварак з царквой, касцёлам, нар. вучылішчам і карчмой. У 1908 г. сяло (130 двароў, 860 жыхароў) і фальварак (2 двары, 26 жыхароў) у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. У час акупацыі ў 1918 г. герм. войскамі партыз. атрад пад камандаваннем Ф.І.Скараходава (ураджэнца Брагіна) разграміў створаную тут акупантамі камендатуру. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Астраглядскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 2-й пал. 1920-х г. арганізаваны саўгас «Астрагляды», дзейнічалі пачатковая школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае т-ва. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, працавалі 2 кузні, цыркулярка, вятрак (з 1928 г.), сталярня (з 1930 г.). У Вял. Айч. вайну партызаны ў сярэдзіне ліп. 1943 г. разграмілі гаспадарчую базу акупантаў, якая размяшчалася ў вёсцы. Карнікі загубілі 23 жыхары. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 389 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 897 жыхароў. У аднайменнай сядзібе, што была побач, 250 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана суседняя в. Двор-Астрагляды, пас. Папаратнае. Была цэнтрам саўгаса «Астрагляды», размяшчаліся сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на З далучаецца кароткая скрыўленая вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, а з Пд да асноўнай далучаецца скрыўленая працяглая вуліца. На Пд і З адасобленыя забудо-

вы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма бел. драматурга, засл. дзеяча культуры БССР В.П.Палескага (яго імем названа Бабчынская сярэдняя школа Хойніцкага р-на, дзе ён вучыўся), бел. неўрапатолага, доктара мед. навук, прафес. Х.Л.Бельмана, Героя Сац. Працы І.Д.Сіража, засл. настаўніка Беларусі Л.І.Скварцовай. Паблізу ёсць радовішчы гліны.



*В.П.Палескі.*

У склад Астраглядаўскага с/с да 1962 г. ўваходзілі в. Двор-Астрагляды і пас. Папаратнае (не існуюць).

**БАКУНЫ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 12 км на З ад Брагіна, 23 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 121 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 62 гаспадаркі, 116 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 18 двароў, 102 жыхары, уладанне графіні Ракіцкай. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 276 жыхароў, у Мікуліцкай вол. У 1908 г. 118 двароў, 291 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Бакунскага с/с. У 1930 г. 491 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 512 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Буркі). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, забудаваных пераважна двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАГУШЫ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 135 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Камарын. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (195 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 31 двор. У 1850 г. 35 двароў, 276 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сялення ў Астраглядаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 106 двароў, 755 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Мікуліцкай вол. У 1908 г. 128 двароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Багушскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1930 г. 130 двароў, 767 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, працавалі кузня і вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 599 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Астрагляды» (цэнтр — в. Астрагляды). Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх з З далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць радовішчы жалезнякоў.

**БЕРАСНЁЎКА** — вёска ў Малажынскім с/с, за 25 км на У ад Брагіна, 51 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 142 км ад Гомеля; на ПнУ сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 66 гаспадарак, 127 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Дзяражыцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 25 двароў, 136 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Дзяражыцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 404 жыхары, карчма. У 1908 г. 86 двароў, 602 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.1.1927 г. цэнтр Берaснёўскага с/с. У 1930 г. 617 жыхароў. У карыстанні вяскоўцаў было 558 га зямлі. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 499 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з працяглай,

крывалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы з завулкам. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРАЦКІ** (да 1935 г. наз. Макранскі) — пасёлак у Чамярыцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Брагіна, 42 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (13 сямей) перасялены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 19 двароў, 96 жыхароў, 184 га зямлі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Пазней у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Чамярысы). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**БУРКІ** — вёска, цэнтр Астраглядаўскага с/с, за 7 км на З ад Брагіна, 24 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 148 гаспадарак, 398 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя ў 19 ст. археалаг. помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як хутар у Брагінскай вол., ва ўладанні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й пал. 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 31 двор, 316 жыхароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 104 двары, 661 жыхар, школа граматы, 2 ветракі, кузня. У 1908 г. 123 двары, 721 жыхар. З 6.12.1926 г. да 26.11.1959 г. цэнтр Буркаўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 117 двароў, пачатковая школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавалі 2 ветракі, кузня, стальмашня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 143 жыхары, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1966 г. ў скверы. Паводле перапісу 1959 г. 864 жыхары. З 1987 г. цэнтр Астраглядаўскага с/с, у калгасе «Чырвоная ніва». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 выгнутых вуліц, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і злучаных кароткай шыротнай вуліцай. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. працы Т.І.Шкурко.

**БЯРОЗКІ** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 42 км на ПдУ ад Брагіна, 3 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 161 км ад Гомеля; на У возера Кулічоўка і пойма р. Дняпро. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. 87 гаспадарак, 153 жыхары (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 56 двароў. У 1850 г. 271 жыхар, уладанне памешчыка Прозара. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 618 жыхароў. У 1908 г. 635 жыхароў, у Ялчанскай вол. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Бярозаўскага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дняпроўскі араты», працавалі кузня, вятрак. У 1940 г. 180 двароў, 821 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. карнікі спалілі 140 двароў, загубілі 21 жыхара. Вызвалена 24.9.1943 г. войскамі 15-га стралк. корпуса 13-й арміі Цэнтральнага фронту. У баях за вёску вызначыліся сяржант І.А.Юсупаў, капітан М.А.Паўлоцкі, камандзір аддз. разведкі І.Г.Лысанаў (Герой Сав. Саю-

за). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 68 жыхароў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 655 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаецца крыху выгнутая шыротная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ВАЛАХОЎШЧЫНА** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 7 км на Пн ад Брагіна, 36 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 126 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя ў 19 ст. археалаг. помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай мінуўшчыны. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 10 двароў, 66 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 137 жыхароў, у Брагінскай вол. У 1908 г. 25 двароў, 231 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Т.Р.Шаўчэнкі, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 320 жыхароў. У складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Ясені). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудавана драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы І.П.Мартыненкі.

**ВЕЛІМОЎ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 41 км на Пд ад Брагіна, 7 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава), 160 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (14 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар (18 двароў, 90 жыхароў) у Савіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 46 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрвені 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Калыбань). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕРХНІЯ ЖАРЫ** — вёска, цэнтр Верхняжарскага с/с, за 64 км на ПдУ ад Брагіна, 20 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі



*Народны танец «Кабылка» выконвае фальклорны калектыў з в. Бярозкі.*



*Беларускі народны танец выконвае фальклорны калектыў з в. Бярозкі.*

Оўруч—Палтава), 170 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай; на ўсх. ускраіне — возера Любітава і пойма р. Днярро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 109 гаспадарак, 243 жыхары (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Ялчанскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. ва ўладанні Горвата, 48 двароў. У 1850 60 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Жарскім царк. прыходзе. Каля вёскі была прыстань і паромная пераправа праз Дняпро. У 1885 г. пабудавана драўляная царква, 53 двары, 359 жыхароў, вінакурня і конны млын. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 695 жыхароў, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма, лаўка, цагельня; побач сядзіба, 7 двароў, 113 жыхароў. Працаваў сенапрасавальны завод (паравы рухавік, 60 рабочых). З 8.12.1926 г. цэнтр Верхнежарскога с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. 209 двароў, 1044 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рух рэвалюцыі», працавалі кузня, цагельня, вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску 22—24.9.1943 г. вызначыліся камандзір дывізіі П.М.Лашчанка, капітан А.А.Восіпаў, мал. сяржант К.Р.Верцікаў, ст. лейтэнант І.М.Румянцаў, капітан М.М.Сілін, мал. сяржант А.Е.Мішчанка, капітан Ф.М.Калакольцаў, ст. лейтэнант А.Дусухамбетаў, палкоўнік П.М.Гудзь, капітан Д.А.Бакураў, капітан П.К.Баюк, ст. лейтэнант М.І.Агароднікаў, старшына Д.В.Шурпенка. Ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 103 вяскоўцы. У памяць аб іх у 1966 г. каля будынка выканкома сельсавета пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 750 жыхароў. У вёсцы цэнтр падсобнай гаспадаркі «Сельгасхіміі», сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца прамалінейная, шчыльна забудаваная вуліца. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска, цэнтр Вуглоўскага с/с, за 9 км на Пн ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 137 км ад Гомеля; на У канава Шчаўбінская. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 84 гаспадаркі, 253 жыхары (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 25 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 320 жыхароў, школа граматы, вятрак, у Брагінскай вол. Рэчыцкага пав. У 1909 г. 50 двароў, 342 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 16.7.1954 г. цэнтр Вуглоўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 89 двароў, 472 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 56 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 142 вяскоўцы. У памяць аб іх у 1967 г. ў скверы, каля будынка праўлення калгаса пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 401 жыхар. Цэнтр калгаса імя Ф.Энгельса. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць жалезарудныя радовішчы.

У склад Вуглоўскага с/с да 1974 г. ўваходзіў п. Рагозін (не існуе).

**ВЫГРАБНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Брагіна, 35 км ад чыг. ст. Ёлча (на вет-

цы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 160 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на З сетка меліярацыйных каналаў, у іх ліку Слабодскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (136 сямей) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з пач. 19 ст. як вёска Выграбная ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 13 двароў. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Грушкаўскага царк. прыхода. У 1908 г. 35 двароў, 264 жыхары, у Савіцкай вол. З 30.12.1927 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Выграбнаслабодскага с/с Брагінскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1920-я г. дзейнічала школа. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Выграбная Слабада» і «Юны Ленінец», працавалі кузня, 2 ветракі (з 1902 г. і з 1927 г.), конная крупарушка. У 1940 г. 73 двары, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 48 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. Была цэнтрам саўгаса «Слабодскі». Размяшчаліся васьмігадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЗОК** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 14 км на З ад Брагіна, 21 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Камарын. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (137 сямей) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя мясціны.

Вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав., уладанне Прозара. Паводле інвентару 1844 г. ў складзе маёнтка Хвойнікі. У 1850 г. 32 двары, 202 жыхары. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Астраглядаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 361 жыхар, капліца, вятрак. У 1908 г. 60 двароў, 453 жыхары, у Мікуліцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1930 г. 97 двароў, 589 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пабуджэнне», працавалі конная крупарушка (з 1923 г.), кузня, вятрак (з 1902 г.). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Вязоцкага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 690 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Астрагляды» (цэнтр — в. Астрагляды). Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на У далучаецца другая вуліца, а на Пд кароткая, прамалінейная, мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Мікуліцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Брагіна, 23 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. ў Рэчыцкім пав., Мінскай губ. У 1850 г. 8 двароў, 50 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мікуліцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 124 жыхары. У 1908 г. 49 двароў, 144 жыхары, у Мікуліцкай вол. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае поле», працавалі вятрак (з 1927 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Мікулічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай

арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ВЯЛЛЕ** — вёска ў Асарэвіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Брагіна, 9 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 152 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай; на Пд канава Марозаўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 36 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. У 1834 г. 9 двароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Памешчык Насакін меў у вёсках Вялле і Асарэвічы ў 1876 г. 3558 дзес. зямлі і конны млын. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 137 жыхароў, у Ялчанскай вол. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баі за вызваленне вёскі 28.9.1943 г. вызначыліся полк пад камандаваннем А.П.Сярогіна, пам. камандзіра кулямётнага ўзвода А.С.Хайдараў, ст. сяржанты Ц.Г.Халікаў і В.С.Чурумаў, камандзір кулямётнага ўзвода, лейтэнант А.М.Сіманаў, наводчык процітанк. ружжа А.А.Цітоў (ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Асарэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн пад вострым вуглом далучаецца кароткая вуліца. На Пд адасоблены ўчастак забудовы — 2 кароткія вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Жылыя дамы пастаўлены рэдка, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВЯРХОВАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Брагіна, 64 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 155 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (32 сям'і) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Грушкаўскага царк. прыхода. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 65 двароў, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты спалілі 60 двароў і загубілі 29 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Слабодскі» (цэнтр — в. Выграбная Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЛКІ** — вёска ў Асарэвіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Брагіна, 13 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 150 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 63 гаспадаркі, 113 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча эпохі неаліту (250 м на ПдЗ ад вёскі), селішча ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі (500 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Стонча) сведчаць пра засяленне тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Брагінскай вол. ў валоданні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й палове 17 ст. перайшла да Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 14 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 250 жыхароў, карчма. У 1908 г. 50 двароў, у Ялчанскай вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Галкаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 106 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты спалілі 99 двароў, загубілі 18 жыхароў. У баях, якія тут вялі 9-ы гв. стралк. і 7-ы гв. кавалерыйскі карпусы, загінулі 295 воінаў, у іх ліку Героі Сав. Саюза К.Д.Грыцынін і Т.Т.Міндыгулаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-зах. ускраіне). У баях каля вёскі 28.9.1943 г. вызначыліся полк пад камандаваннем

А.П.Сярогіна, ст. сяржант М.А.Сцяпанаў, сяржант К.К.Хайбулін, лейтэнант П.І.Фядотаў, мал. лейтэнант Г.І.Салаўёў, 1.10.1943 г. — разведчык П.М.Яфрэмаў, камандзір коннай разведкі І.Ф.Казачук, мал. сяржант М.А.Якаўлеў (ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 423 жыхары. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Асарэвічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пн участак адасобленай забудовы — кароткая дугападобная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка. Радзіма акад. НАН Беларусі, доктара філасофскіх навук, прафес. Д.І.Шыраканава.

**ГАЛУБОЎКА** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 41 км на ПдУ ад Брагіна, 1 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 160 км ад Гомеля, на аўтадарозе Камарын—Брагін. 52 гаспадаркі, 84 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 305 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з 2 (адна прамалінейная, другая крыху выгнутая) вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, амаль паралельных паміж сабой, а на Пн перакрыжаваных чыгункай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 7 км на У ад Брагіна, 33 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 122 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога, якая звязвае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 31 гаспадарка, 85 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі (100 м на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 50 двароў. Памешчык Прозар меў у вёсцы ў 1876 г. 2 вадзяныя, 1 конны млыны, вятрак, сукнавальню, металургічны завод і тысячы дзесяцін зямлі. На сядзібе, што была побач, у 1885 г. дзейнічалі вінакурня і вадзяны млын, існаваў парк. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 145 жыхароў, лаўка, у Брагінскай воласці. У 1908 г. вёска (101 двор, 721 жыхар) і фальварак (17 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае гарадзішча», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну са жніўня 1941 г. да 23.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. войскамі. Паводле перапісу 1959 г. 233 жыхары. У складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Тэльмана). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных паміж сабой вуліц з завулкам, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 10 км на У ад Брагіна, 38 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 129 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 10 двароў, 50 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Гарадок», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе калгаса «Сцяг Леніна» (цэнтр — в. Зарэчча). Пабудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ГДЗЕНЬ** — вёска ў Верхняжарскім с/с, за 75 км на Пд ад Брагіна, 191 км ад Гомеля, 26 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава), 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 71 гаспадарка, 165 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай

Русі (на паўн.-зах. ускраіне, на левым беразе р. Брагінка, ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Каралеўстве Польскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ва ўладанні Гарватаў, 46 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Жарскім царкоўным прыходзе. У 1885 г. 50 двароў, 381 жыхар, у Ялчанскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 530 жыхароў, царква, школа граматы, лаўка, карчма. У 1908 г. 84 двары, 543 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Гдзенскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. 214 двароў, 1070 жыхароў, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Украіна», працавалі кузня, паравы млын. У Вял. Айч. вайну 14.1.1943 г. ням. акупанты расстралялі 10 вяскоўцаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). У баі каля вёсак Гдзень і Чыкалавічы 22.9.1943 г. вызначыліся камандзір роты ст. лейтэнант У.М.Зарамбо і радавы М.І.Дружынін (захапілі штабны аўтобус праціўніка з каштоўнымі дакументамі, ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). У вер. 1943 г. каля вёскі загінулі 12 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка праўлення калгаса). Вызвалена 23.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 146 землякоў, у памяць аб якіх у 1966 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 1061 жыхар. Цэнтр калгаса «Чырвоная Украіна». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, майстэрня быт. абслугоўвання, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца кароткія вуліцы, шчыльна пастаўленыя паміж сабой. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза П.І.Шпетнага (яго імем названы адна з вуліц і вясковая школа) і Героя Сав. Саюза С.С.Мацапуры (яго імем названа адна з вясковых вуліц).

**ГЛУХАВІЧЫ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Брагіна, 29 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (236 сямей) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Мінскім ваяводстве ВКЛ. З 16 ст. ў валоданні кн. Вішнявецкіх, з 2-й паловы 17 ст. — Канецпольскіх. Дзейнічала Міхайлаўская царква (з 1752 г. захоўваліся метрычныя кнігі). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1811 г. ў валоданні Ракіцкіх. У 1842 г. на сродкі графа Ракіцкага замест састарэлай пабудавана новая драўляная царква. У 1850 г. 67 двароў, 462 жыхары, дзейнічала царкоўнапрыходская школа. У 1885 г. 89 двароў, 504 жыхары, нар. вучылішча. Працаваў спіртаачышчальны завод Д.Т.Мысліна (паравы рухавік, 8 рабочых). У 1908 г. 151 двор, 909 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Глухавіцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 153 двары, пачатковая школа. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Узыходзячая зара» і імя М.І.Калініна, працавалі паравы млын, конная крупарушка (з 1928 г.), вятрак (з 1916 г.), 2 кузні, цыркулярка. У Вял. Айч. вайну ў баі за вызваленне Глухавіч і суседніх вёсак 27.11.1943 г. загінулі 3 воіны і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля Дома культуры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 288 землякоў, у памяць аб якіх у 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле

перапісу 1959 г. 971 жыхар. У 1962 г. да вёскі далучана в. Двор-Глухавічы. У 1970 г. 268 двароў, 906 жыхароў. Васьмігадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, майстэрня быт. абслугоўвання, магазін, кантрольны пункт па назіранні за мясцовасцю, адкуль жыхары пераселены ў чыстыя месцы. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на З пад вострым вуглом далучаецца каротkая прамалінейная, шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма акад. Нац. АН Беларусі, доктара хім. навук, прафес., засл. дзеяча навукі БССР М.М.Паўлючэнкі і Героя Сац. Працы Р.М.Мігая.



*М.М.Паўлючэнка.*

У склад Глухавіцкага с/с да 1962 г. ўваходзіла в. Двор-Глухавічы (не існуе).

**ГРОМКІ** — пасёлак у Малажынскім с/с, за 26 км на У ад Брагіна, 52 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 143 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 19 двароў, 103 жыхары. У карыстанні пасялкоўцамі былі 172 га зямлі. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 27 двароў, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхароў. У баях за вызваленне пасёлка і суседніх вёсак у кастрычніку 1943 г. загінулі 140 воінаў 356-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры пасёлка). Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГРУШНАЕ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Брагіна, 48 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы — Хойнікі ад лініі Калінкавічы — Гомель), 139 км ад Гомеля, на р. Брагінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 82 гаспадаркі, 171 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. У 1792 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1834 г. 11 двароў. У 1850 г. 17 двароў. У 1885 г. 28 двароў, 189 жыхароў, млын. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 256 жыхароў, школа граматы. У 1908 г. 58 двароў, 376 жыхароў, у Савіцкай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Грушанскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольны шлях», працавалі вятрак (з 1907 г.), кузня і стальмашня. Паводле перапісу 1959 г. 595 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Старыя Храковічы). Размешчана аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных кароткай шыротнай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ДАБРАГОШЧА** — пасёлак у Малажынскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Брагіна, 50 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 141 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 13 двароў, 65 жыхароў, 111 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДВОР-САВІЧЫ** – вёска ў Хракавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Брагіна, 46 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы–Хойнікі ад лініі Калінкавічы–Гомель), 137 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын–Брагін. 37 гаспадарак, 74 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1931 г. арганізаваны калгас. Размешчаны НДІ радыяцыі «Двор-Савічы» і эксперыментальная база НДІ сельскай гаспадаркі. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЯМЕЕЎКА** – пасёлак у Малажынскім с/с, за 12 км на У ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы–Хойнікі ад лініі Калінкавічы–Гомель), 125 км ад Гомеля; на Пн і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін–Лоеў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1-й палове 1920-х г. перасяленцамі з вёсак Стары Макрэц і Новы Макрэц, на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 21 двор, 137 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 24 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр – в. Крыўча). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ДУБЛІН** – вёска, цэнтр Спярыжскага с/с, за 6 км на ПдУ ад Брагіна, 34 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы–Хойнікі ад лініі Калінкавічы–Гомель), 136 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын–Хойнікі. 133 гаспадаркі, 354 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя ў 19 ст. археалагічныя помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ВКЛ, уладанне кн. Вішнявецкага, з 2-й пал. 17 ст. – Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 215 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, 477 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, кузня, у Брагінскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 90 двароў, 583 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Дублінскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі, дзейнічала пачатковая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Добраахвотнік», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 83 землякі, у памяць аб якіх у 1970 г. пастаўлена скульптура салдата. Паводле перапісу 1959 г. 609 жыхароў. З 1987 г. цэнтр Спярыжскага с/с, у калгасе імя Ю.А.Гагарына. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на Пн далучаецца да шыротнай вуліцы, а на З да яе пад вострым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Побач ёсць радовішчы торфу.

**ДУБРАЎКА** – пасёлак у Спярыжскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Брагіна, 39 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы–Хойнікі ад лініі Калінкавічы–Гомель), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын–Брагін. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1908 г. ўрочышча (5 жыхароў) у Брагінскай валасці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 16 двароў, 124 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар. У складзе калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр – в. Крыўча). Планіровачна складаецца з кароткай

мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Малажынскім с/с, за 20 км на У ад Брагіна, 46 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 137 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 22 двары, 153 жыхары. У 1908 г. 30 двароў, 181 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны рог», працавала кузня. У 1940 г. 41 двор. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр — в. Крыўча). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ДУБРОЎНАЕ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 11 км на З ад Брагіна, 18 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле інвентару 1844 г. ў складзе маёнтка Хвойнікі, належала В.К.Прозару. У дакументах 1879 г. пазначана як сяленне ў Астраглядаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 316 жыхароў, капліца, млын, у Мікуліцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 60 двароў, 402 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавалі цагельня, кузня і ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У складзе саўгаса «Астрагляды» (цэнтр — в. Астрагляды). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЖАЛІБОР** — пасёлак у Камарынскім пасялковым Савеце, за 44 км на Пд ад Брагіна, 163 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (7 сямей) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 3 жыхары. У 1908 г. 20 двароў, 147 жыхароў, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «XII кастрычнік», працавалі вятрак і ваўначоска. У 1940 г. 42 двары, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1942 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Крукі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЖУРАЎЛЁВА РУДНЯ** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 18 км на Пн ад Брагіна, 35 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 148 км ад Гомеля, на р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая злучае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 66 гаспадарак, 189 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Рудня ў Каралеўстве Польскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 15 двароў, 125 жыхароў, уладанне графіні Ракіцкай. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 226 жыхароў. У 1908 г. 40 двароў, 241 жыхар, у Ручаёўскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Жураўлёваруднянскага с/с Лоеўскага, з 4.8.1927 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай

акруг. У 1930 г. 59 двароў, 361 жыхар, 716 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 78 двароў, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 350 жыхароў. Цэнтр калгаса імя В.П.Чкалава. Клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой пад прамым вуглом з У далучаецца кароткая шыротная вуліца з завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Побач радовішчы жалезных руд і торфу.

**ЖЫЛІЧЫ** — вёска ў Малажынскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Брагіна, 52 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 143 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 47 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 19 двароў, у складзе аднайменнага маёнтка, гаспадар якога Кабыліцкая мела ў 1848 г. 662 дзес. зямлі. У 1850 г. 27 двароў, 157 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Хракавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 284 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін; у маёнтку 3 двары, 21 жыхар. У 1908 г. 70 двароў, 523 жыхары, у Дзяражыцкай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Жыліцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1930 г. 109 двароў, 563 жыхары, 541 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дняпровец», працавалі конны млын, крупарушка, майстэрня (з 1925 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну ў кастрычніку 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. Сав. войскі ў кастрычніку 1943 г. непадалёку ад вёскі фарсіравалі р. Дняпро; 18.10.1943 г. ў баі каля вёскі загінуў Герой Сав. Саюза, камандзір стралк. аддз. сяржант М.Ф.Махаў (пахаваны ў брацкай магіле ў г.п. Брагін). У баі каля вёскі 17.10.1943 г. вызначылася рота пад камандаваннем Г.Я.Чарашнёва (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да яе з У далучаецца кароткая, дугападобная вуліца. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЖЭРДНАЕ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Брагіна, 57 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 146 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (54 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 3 двары, 15 жыхароў. У 1908 г. 65 двароў, 284 жыхары, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Жардзянскага с/с Брагінскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Жэрднае», працавалі конная крупарушка і кузня. У 1940 г. 108 двароў, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты спалілі 86 двароў і загубілі 38 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 52 землякі, у памяць аб якіх у 1960 г. ў вясковым скверы пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 324 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Слабодскі» (цэнтр — в. Выграбная Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; ў Камарынскім пасялковым савеце, за 50 км на Пд ад Брагіна, 4 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава), 163 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (204 сям'і) перасёлены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 19 ст. Тут у 1872 г. дваранін Марціновіч меў 444 дзес. зямлі. Найб. інтэнсіўна вёска павялічвалася ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 130 двароў, 580 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 110 двароў і загубілі 2 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 112 землякоў, у памяць аб якіх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Была цэнтрам саўгаса «Пасудава». Размяшчаліся васьмігадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 4 кароткіх прамалінейных вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, шчыльна паміж сабой пастаўленых і злучаных дарогай. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 7 км на У ад Брагіна, 38 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 149 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Брагіна. 72 гаспадаркі, 209 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 9 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 182 жыхары, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 36 двароў, 202 жыхары. У 1930 г. 218 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сцяг Леніна», працавалі вятрак (з 1912 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 142 землякі, у памяць аб якіх у 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 540 жыхароў. Цэнтр калгаса «Сцяг Леніна». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНКІ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 53 км на ПдУ ад Брагіна, 9 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 171 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 44 гаспадаркі, 78 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 307 жыхароў. У складзе саўгаса «Камарынскі» (цэнтр — г.п. Камарын). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца завулак. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ІЛЬІЧЫ** — вёска ў Спарыжскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Брагіна, 27 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 129 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля Чарнобыльскай катастрофы і радыяцыйнага забруджвання жыхары (122 сям'і) перасёлены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як хутар Ільічы ў Брагінскай воласці, у валоданні кн. Вішнявецкага, у 2-й пал. 17 ст. перайшла да Канецпольскіх. Пас-

ля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне графа Рафайлава. У 1850 г. 25 двароў, 172 жыхары, уладанне графіні Ракіцкай. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 351 жыхар, капліца, вятрак, кузня, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 60 двароў, 398 жыхароў. У 1930 г. 68 двароў, 403 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ільіч», працавалі вятрак (з 1915 г.), кузня і ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 529 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У і З далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць радовішчы гліны.

**КАВАКА** — вёска ў Брагінскім райсавеце, за 4 км на Пн ад Брагіна, 32 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 122 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Брагіна. 63 гаспадаркі, 168 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 18 двароў, 158 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 356 жыхароў, школа граматы, 2 ветракі, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 52 двары, 385 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кавацкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 69 двароў, 209 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», працавалі вятрак (з 1928 г.), конная крупарушка (з 1914 г.), кузня. У Вял. Айч. вайну ў шпіталі, які размяшчаўся ў вёсцы ў 1943—44 гг., памерлі ад ран 14 воінаў (пахаваны на могілках). Іх памяць увекавечвае ўзведзены ў 1967 г. абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 538 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — г.п. Брагін). Ёсць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАВАЛІ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 13 км на З ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 123 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 58 гаспадарак, 150 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. У 1850 г. 12 двароў, уладанне графіні Ракіцкай. У 1908 г. 13 двароў, 115 жыхароў. У 1930 г. 37 двароў, 241 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 312 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Буркі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастацтвазнаўца, мастака, этнографа, праф. М.Ф.Раманюка.

**КАЗЯЛУЖЦЫ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Брагіна, 26 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 128 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (48 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. вёска ў Рэчыцкім пав., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 7 двароў, 79 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Глухавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 212 жыхароў. У 1908 г. 32 двары, 272 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Казялужскага с/с Брагінскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. 40 двароў, 248

жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛІНІНА** (раней в. Просмыцкі) — пасёлак у Хракавіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Брагіна, 42 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 132 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. З сярэдзіны 1920-х г. да канца 1930-х г. 2 пасёлкі: Калініна-1 і Калініна-2. У 1930 г. ў п. Калініна-1 19 двароў, 111 жыхароў, у п. Калініна-2 94 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У складзе калгаса «Світанак» (цэнтр — в. Чамярысы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАЛЫБАНЬ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 41 км на Пд ад Брагіна, 7 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава), 171 км ад Гомеля, на р. Брагінка, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (270 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 1-га тысячагоддзя н.э. (4 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Брагінка) і курганны могільнік (6 насыпаў, 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Замосце) сведчаць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў валоданні Патоцкіх, потым — Масальскіх. У 1795 г. 6 двароў. У 1850 г. 50 двароў, 509 жыхароў. Дваранін Местар меў тут у 1876 г. 1971 дзес. зямлі, вадзяны і конны млыны. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Чыкалавіцкім царк. прыходзе. У 1885 г. 102 двары, 549 жыхароў, конны млын. У выніку пажару 16.8.1895 г. згарэла палова вёскі. Паводле перапісу 1897 г. хлебазапасны магазін, карчма; побач была аднайменная сядзіба. У 1908 г. 170 двароў, 928 жыхароў, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Калыбанскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. 1397 жыхароў, школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавалі 3 ветракі, 2 конныя крупарушкі, кузня, ваўначоска, шорная майстэрня. У 1940 г. 290 двароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 265 двароў, загубілі 7 жыхароў. У баі каля вёскі 23.9.1943 г. вызначыліся камандзір артыл. батарэі ст. лейтэнант І.М.Ляшэнка, камандзір роты ст. лейтэнант В.Л.Мельнікаў, наводчыкі гармат А.Г.Казлоў і М.Д.Ольчаў (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 977 жыхароў, у 1970 г. 741 жыхар. Была цэнтрам калгаса «Ленінскі шлях». Размяшчаліся сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Ф.М.Расюка (быў камісарам 4-й Беларускай партыз. брыгады).

**КАМАНОЎ** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 13 км на Пн ад Брагіна, 33 км ад

чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая звязвае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (канец 1-га тысячагоддзя да н.э. — пачатак 1-га тысячагоддзя н.э., 2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Брагінка) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 15 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 295 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 48 двароў, 359 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Каманоўскага, з 10.7.1939 г. да 16.7.1954 г. Лубенскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 79 двароў, 442 жыхары, 1006 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 95 двароў. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 331 жыхар. У 1974 г. ў вёску перaселены жыхары пас. Рагазін ( не існуе). У складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Жураўлёва Рудня). Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі. Побач ёсць радовішчы торфу.

**КАМАРЫН** — гарадскі пасёлак, цэнтр Камарынскага пасялковага Савета, за 52 км ад Брагіна, 9 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 182 км ад Гомеля, на р. Дняпро; на ПнУ — возера Камарынскае. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае Камарын з Брагінам. Прыстань на Дняпры. 2,2 тыс. жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства ВКЛ. Пад 1449 г. упамінаецца ў Літоўскай метрыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1856 г. 98 жыхароў. У 1866 г. мястэчка, 51 двор. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ёлчанскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. царква, 2 скураапрацоўчыя майстэрні, 12 лавак. У 1899 г. адкрыта паштовае аддзяленне. У 1908 г. 104 двары, 614 жыхароў. Побач было аднайменнае ўрочышча (5 жыхароў, 1 двор), у Ёлчанскай воласці Рэчыцкага пав. З 9.5.1923 г. да 8.12.1926 г. цэнтр воласці Гомельскай губ. РСФСР. З 8.12.1926 г. цэнтр Камарынскага с/с і да 25.12.1962 г. Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 29.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл., з 25.12.1962 г. ў Брагінскім р-не. У 1929 г. дзейнічалі 2 школы, хата-чытальня, бібліятэка, урачэбны ўчастак, ветэрынарны пункт, аддз. спажывецкай кааперацыі, сельскагаспадарчае крэдытнае таварыства. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», працавалі маслазавод, кузня, друкарня (з 1931 г.), цагельна-ганчарны з-д (з 1931 г.), шавецкая і кравецкая майстэрні, буд. арцель, хлебапякарня, вятрак, конны млын, сенапрэсавальны з-д, ваўначоска. Выходзіла раённая газ. «Чырвоны сцяг».

У Вял. Айч. вайну з 28.8.1941 г. да 23.9.1943 г. акупіраваны ням. фашыстамі. Ням. карнікі загубілі 98 жыхароў. У баях за Камарын 22.9.1943 г. вызначыліся бранябойшчык А.П.Цаплін, ст. лейтэнант, камандзір артыл. батарэі У.Я.Цімашэнка, 27.9.1943 г. — нам. кам. ўзвода І.Ц.Шапачка, 28.9.1943 г. — камандзір батальёна, капітан В.П.Храмых, лейтэнант А.Г.Хрыстаў, кам. узвода, старшына М.Я.Ходасаў, лейтэнант М.Р.Шаламцоў (прысвоена званне Героя

Сав. Саюза). Вызвалены 23.9.1943 г. часцямі 15-га стралк. корпуса 13-й арміі Цэнтральнага фронту. Гэта быў першы раённы цэнтр, вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў. Камандзір 360-га стралк. палка 74-й стралк. дывізіі М.І.Сташак — ганаровы грамадзянін г.п. Камарын. У баях за Камарын, вёскі Новая Ёлча і Бярозкі загінулі 627 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Леніна). У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза А.Анаеў, В.І.Баяркін, Д.Ф.Грачушкін, М.Д.Грышчанка, Ф.К.Паўлоўскі, М.А.Якаўлеў. З 17.11.1959 г. Камарын — гар. пасёлак. Адначасова быў ліквідаваны Кіраўскі с/с, а населеныя пункты, якія ўваходзілі ў яго склад, перададзены ў адм. падпарадкаванне пасялковага Савета. Паводле перапісу 1959 г. 1608 жыхароў. У 1971 г. 1,6 тыс. жыхароў. Цэнтр саўгаса «Камарынскі». Размешчаны камбінаты буд. матэрыялаў і быт. абслугоўвання, аддз. «Сельгастэхніка», лясгас, сярэдняя і муз. школы, дзіцячыя яслі-сад, Дом школьнікаў, гар. Дом культуры, 2 б-кі, б-ца, аддз. сувязі. Планіроўка квартальная, утвораная прамалінейнымі вуліцамі, арыентаванымі з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаванымі пад прамым вуглом кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987—94 гг. збудаваны мураваныя дамы на 96 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма мастака, доктара мастацтвазнаўства, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі В.Ф.Шматава.

**КАПОРАНКА** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 41 км на ПдУ ад Брагіна, 6 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 158 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (70 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Па інвентары 1784 г. 15 дымоў, 46 валоў, 36 кароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 28 двароў, 185 жыхароў, уладанне памешчыка Прозара. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 350 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 60 двароў, 383 жыхары, у Ялчанскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Капоранскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. З 1920-х г. дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 317 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай на Пд чыгункай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У сувязі з забруджанасцю ўсе будынкі разбураны і пахаваны пад пластом зямлі.

*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г.п. Камарын.*



*Помнік у гонар воінаў-вызваліцеляў у г.п. Камарын.*



**КАПОРАНСКІЯ ЛЯДЫ** – пасёлак у Новаялчанскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Брагіна, 5 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 156 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары перасселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 23 двары, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 20 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАРЛАЎКА** – вёска ў Камарынскім пасялковым савеце, за 58 км на ПдУ ад Брагіна, 12 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 188 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 72 гаспадаркі, 140 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Ялчанскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Карлаўка-Кацічаў, 32 двары, 224 жыхары. У 1908 г. 34 двары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Карлаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі і яе наваколля загінулі 18 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. У складзе саўгаса «Камарынскі» (цэнтр — г.п. Камарын). Ёсць б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 3 завулкі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАТЛОВІЦА** – вёска ў Малейкаўскім с/с, за 10 км на У ад Брагіна, 34 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 124 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая звязвае Брагін з аўтадарогай Рэчыца—Лоеў. 53 гаспадаркі, 105 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў валоданні кн. Вішнявецкага, а з 2-й пал. 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 19 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 205 жыхароў, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 33 двары, 274 жыхары. У 1930 г. 55 двароў, 322 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 519 жыхароў. У складзе калгаса «Пераможнік» (цэнтр — в. Малейкі). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЦІЧАЎ** – вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 54 км на ПдУ ад Брагіна, 10 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 172 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 12 двароў. У 1850 г. 105 жыхароў, уладанне памешчыка Прозара. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царкоўным прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёска Карлаўка-Кацічаў, 32 двары, 224 жыхары. У 1908 г. 243 жыхары, у Ялчанскай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кацічаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная кветка», працавалі конны млын і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз.

барацьбе загінулі 23 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1979 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца завулак. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КІРАВА** (да 20.4.1939 г. Лукаеды) — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 59 км на ПдУ ад Брагіна, 15 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч — Палтава), 182 км ад Гомеля; на У возера Трасцянец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 148 гаспадарак, 280 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Ялчанскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. ўладанне Гарватаў, 58 двароў. У 1850 г. 65 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Жарскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Старыя Лукаеды (52 двары, 458 жыхароў, карчма) і Новыя Лукаеды (39 двароў, 293 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін); побач сядзіба Лясная. З 8.12.1926 г. цэнтр Лукаедаўскага, з 20.4.1939 г. Кіраўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У канцы 1920-х г. вёскі Старыя і Новыя Лукаеды аб'ядналіся і склалі адну в. Лукаеды. У 1929 г. 1061 жыхар, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.Р. Чарвякова, працавалі кузня, 4 ветракі, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты 14.1.1943 г. часткова спалілі вёску і загубілі 21 жыхара (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 79 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў скверы. Паводле перапісу 1959 г. 917 жыхароў. У складзе саўгаса «Камарынскі» (цэнтр — г.п. Камарын). Размешчаны дзевяцігадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пд далучаецца да крывалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КОНАНАЎШЧЫНА** — вёска ў Мікуліцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Брагіна, 28 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 139 км ад Гомеля; на У — сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 65 гаспадарак, 176 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1765 г. 9 двароў, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 95 жыхароў, уладанне графіні Ракіцкай. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мікуліцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 234 жыхары, у Мікуліцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 37 двароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кананаўшчынскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 72 двары, 367 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Верны шлях», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты ў 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 409 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Мікулічы). Размешчаны пачатковая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — вёска, цэнтр Новаялчанскага с/с, за 39 км на ПдУ ад Брагіна, 2 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 169 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. 146 гаспадарак, 404 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1881 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Солтанаў. У 1931 г. 18 двароў, 120 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Інтэрнацыянал», працавалі кузня, паравы млын (з 1929 г.). У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 174 землякі, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. Цэнтр саўгаса «Краснае». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны, сталовая, кантрольны пункт па назіранні за радыяцыйна забруджанай мясцовасцю, адкуль жыхары пераселены ў чыстыя месцы. Планіровачна складаецца з безсістэмнай забудовы, падзеленай каналам на паўд. і паўн. часткі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ГАРА** — вёска ў Брагінскім райсавеце, за 4 км на З ад Брагіна, 32 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы — Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 121 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Камарын. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.). Пасля Чарнобыльскай катастрофы і радыяцыйнага забруджання жыхары (92 сям'і) перасяліліся ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 369 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Сабалі). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ГОРКА** — пасёлак у Мікуліцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Брагіна, 18 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Брагін—Хойнікі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (20 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 38 двароў, 248 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. Уваходзіў у калгас «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Мікулічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРУГ-РУДКА** — вёска ў Спяражскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 128 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (33 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. У 1920-я г. павялічылася за кошт перасяленцаў з суседніх вёсак. У 1930 г. ў в. Круг 23 гаспадаркі, 134 жыхары, у в. Рудка 11 гаспадарак, 72 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У канцы 1930-х г. вёскі Круг і Рудка склалі адзін населены пункт в. Круг-Рудка. Паводле перапісу 1959 г. 226 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю ўсе будынкі пахаваны пад пластом зямлі.

**КРУКІ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 42 км на Пд ад Брагіна, 18 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 172 км ад Гомеля, на р. Несвіч (прыток р. Брагінка); на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па

прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (170 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 22 двары, 165 жыхароў, уладанне памешчыцы Ванчэўскай. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Чыкалавіцкага царк. прыхода. У 1885 г. 42 двары, 214 жыхароў, цэнтр Крукаўскай воласці, у якую ўваходзілі 19 сяленняў з 477 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 98 двароў, 525 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма, царква, яўрэйскі малітоўны дом; побач знаходзіўся смаляны завод Падзасецкае. У 1908 г. 129 двароў, 711 жыхароў, у Савіцкай воласці. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Крукаўскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 27.6.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. 1254 жыхары, 2 школы, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», працавалі вятрак і ваўначоска. У 1940 г. 280 двароў. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням. гарнізон. У маі 1943 г. фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. У баях за вёску і яе наваколле ў лістападзе 1943 г. загінулі 5 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 101 зямляк, у памяць аб якіх у 1967 г. ўзведзены ў цэнтры вёскі абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 650 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана в. Нарагі. Была цэнтрам калгаса імя У.І.Леніна. Дзейнічалі камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У і З далучаюцца крывалінейныя вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

У склад Крукоўскага с/с да 1962 г. ўваходзіла в. Нарагі (не існуе).

**КРЫЎЧА** — вёска ў Малажынскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Брагіна, 39 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 40 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як хутар Крыўча ў валоданні кн. Вішнявецкага, з 2-й пал. 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 18 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 348 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. вёска (47 двароў, 416 жыхароў) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў) у Брагінскай воласці. З 8.12.1926 г. цэнтр Крыўчанскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пераможнік», працавалі 2 ветракі (з 1907 г.), конная крупарушка (з 1907 г.), 3 кузні. На ўскраіне ў 1930—40 гг. размяшчалася Крыўчанская МТС. У 1940 г. 116 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 115 двароў і загубілі 11 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі і яе наваколля загінулі 22 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Тут жа і скульптура воіна, якая ўвекавечвае памяць 209 землякоў, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 285 жыхароў. Цэнтр калгаса «XVIII партз'езд». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд пад вострым вуглом далуча-

ецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма арганізатара аховы здароўя Пінскага р-на А.Е.Лявонскага (яго імем названа вуліца ў в. Гарадзішча Пінскага р-на). Паблізу ёсць радовішчы жалезнякоў.

Да 1998 г. ў склад Крыўчанскага с/с ўваходзіла в. Чырвоная Дуброва (не існуе).

**КУЛАЖЫН** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 39 км на ПдЗ ад Брагіна, 67 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 156 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (100 сямей) перасялены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча (мясц. назва Гарадок) 1-га тысячагоддзя да н.э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. (1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Несвіч) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 6 двароў, 31 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Чакалавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 208 жыхароў. У 1908 г. 65 двароў, 333 жыхары, у Савіцкай воласці. У час герм. акупацыі ў 1918 г. партыз. атрад пад кіраўніцтвам Ф.І.Скараходава (з Брагіна) разграміў створаную тут акупантамі камендатуру. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кулажынскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 132 двары, 573 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 33 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 461 жыхар. Уваходзіла ў склад калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Крукі). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЕНІНЕЦ** (да 1937 г.п. Ясяні) — пасёлак у Спярыжскім с/с, за 3 км на Пд ад Брагіна, 32 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 122 км ад Гомеля; на У сетка меліярацыйных каналаў. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Ясяні). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЕНІНСК** — пасёлак у Малажынскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Брагіна, 48 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 139 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 29 гаспадарак, 62 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная гаспадарка», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайск» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая ў цэнтры перакрыжоўваецца кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Хракавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Брагіна, 41 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ка-

марын—Брагін. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ленінскага с/с Холмецкага, з 4.8.1927 г. Лоеўскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 38 двароў, 211 жыхароў, 490 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», дзейнічалі 2 ветракі, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Чамярысы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛУБЕНІКІ** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 5 км на Пн ад Брагіна, 38 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 124 км ад Гомеля; на У канава Кярбецкая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая злучае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 74 гаспадаркі, 163 жыхары (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 22 двары, 160 жыхароў, уласнасць казны. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 335 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 53 двары, 403 жыхары. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Лубеніцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 71 двор, пачатковая школа. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 630 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі і наваколля ў кастрычніку 1943 г. загінулі 11 воінаў 89-га стралк. корпуса 61-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На ўшанаванне іх памяці і памяці 22-х вяскоўцаў, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, пастаўлены ў 1968 г. абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары. У складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Жураўлёва Рудня). Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з зігзагападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮДЗВІНОЎ** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 38 км на ПдУ ад Брагіна, 7 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 157 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (44 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. падзялілася на 2 сяленні. У 1834 г. ў в. Бліжняе Людзвінова 43 жыхары, у в. Дальняе Людзвінова 40 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. побач была сядзіба, 7 двароў, 50 жыхароў і вінакурны завод, у Ялчанскай воласці. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая, крыху выгнутая шыротная вуліца. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЛЯДЫ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 26 км на Пд ад Брагіна, 15 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 145 км ад Гомеля; на У канал Марозаўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля ка-

тастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (67 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска і фальварак у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 32 двары, 172 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Герой працы», дзейнічалі цагельня, вятрак, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 380 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Брагінскі» (цэнтр — в. Піркі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЙСКІ** — пасёлак у Вуглоўскім с/с, за 16 км на Пн ад Брагіна, 39 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 125 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая злучае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найб. актыўна забудоўвалася ў 1920-я гады. У 1930 г. 17 двароў, 107 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 18 двароў. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 147 жыхароў. У складзе калгаса імя В.П.Чкалава (цэнтр — в. Жураўлёва Рудня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛАЖЫН** — вёска, цэнтр Малажынскага с/с, за 24 км на ПдУ ад Брагіна, 50 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 154 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 202 гаспадаркі, 599 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя ў 19 ст. археалагічныя помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай мінуўшчыны. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Дзяражыцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 57 двароў, 390 жыхароў, уладанне Юдзіцкіх. Паводле перапісу 1897 г. 125 двароў, 892 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма; побач быў аднайменны фальварак. У выніку пажару 24.7.1902 г. згарэла 108 двароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Малажынскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 143 двары, 750 жыхароў, школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, вятрак (з 1908 г.), нафтавы млын (з 1930 г.), ваўначоска. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Чырвоная гаспадарка» і «Першамайскі». У Вял. Айч. вайну ням. акупанты заснавалі тут свой гарнізон, які партызаны разграмілі. У верасні 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 119 двароў і загубілі 3 жыхары. У баях за вызваленне вёскі ў кастрычніку 1943 г. загінулі 7 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 174 землякі, у памяць аб якіх у 1967 г. ў скверы пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 718 жыхароў. У вёску перасяліліся жыхары пас. Вараўшчына (не існуе). Цэнтр калгаса «Першамайск». Размешчаны вет. ўчастак, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, паралельна да якой на У праходзіць кароткая вуліца, а з З далучаюцца яшчэ 4 кароткія вуліцы, якія ўтвараюць даволі шчыльную забудову. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. узведзены мураваныя дамы на 79 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Паблізу радовішчы жалезнякоў і торфу.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Малейкі.*

**МАЛЕЙКІ** — вёска, цэнтр Малейкаўскага с/с, за 8 км на У ад Брагіна, 32 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 138 км ад Гомеля; на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая звязвае Брагін з аўтадарогай Рэчыца—Лоеў. 142 гаспадаркі, 392 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археалагамі курганны могільнік (30 насыпаў, за 1,2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ва ўладанні кн. Вішнявецкага, у 2-й пал. 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 354 жыхары, хлебазапасны магазін, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губерні. У 1908 г. 56 двароў, 383 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Малейкаўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Дзейнічала пачатковая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў крухмальны з-д. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты ў 1943 г. часткова спалілі вёску. У баях за вызваленне вёскі і наваколля ў 1943 г. загінулі 75 воінаў 356-й стралк. дывізіі, памяць аб якіх ушаноўвае пастаўленая ў 1965 г. скульптура воіна. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 171 зямляк. У памяць аб іх у 1970 г. пастаўлена скульптурная кампазіцыя. Паводле перапісу 1959 г. 497 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана в. Усход. Цэнтр калгаса «Пераможнік». Размешчаны крухмальны з-д, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На З, паралельна да асноўнай, размешчана яшчэ адна кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у в. Малейкі.*

У склад Малейкаўскага с/с да 1962 г. ўваходзілі в. Усход, да 1966 г. пасёлак крухмальнага з-да, да 1998 г. в. Пацкаў (не існуюць).

**МАРЫТОН** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 13 км на З ад Брагіна, 22 км

ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 122 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін— Хойнікі. 16 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (2 насыпы за 100 м ад прасёлачнай дарогі) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. Па інвентары 1844 г. цэнтр фальварка, які ўваходзіў у маёнтак Хвойнікі (належаў В.К.Прозару). Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 167 жыхароў, у Мікуліцкай воласці. У 1908 г. 34 двары, 298 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная ніва» (цэнтр — в. Буркі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з У пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы І.Ф.Зелянкоўскага.

**МІКУЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Мікуліцкага с/с, за 14 км на ПнЗ ад Брагіна, 19 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 144 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Брагін—Хойнікі. 92 гаспадаркі, 244 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (захавалася 29, раней было 60 насыпаў, за 300 м на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ва ўладанні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й пал. 17 ст. — Канецпольскіх. Пад 1550 г. упамінаецца як сяло, якое абрабавалі казакі. Пазначана ў інвентары Гомельскага староства 1640-х г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Богаяўленская царква, у якой захоўваліся дакументы кн. Вішнявецкага (1740 г.) і М.Ракіцкай (1840 г.), метрычныя кнігі з 1827 г. У 1840 г. на сродкі прыхаджан і ўладальніцы вёскі М.Ракіцкай замест састарэлай узведзена новая драўляная царква. У 1795 г. 11 двароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 38 двароў, 309 жыхароў. Граф Ракіцкі меў у Брагіне і Мікулічах у 1855 г. 26 650 дзес. зямлі, 2 ветракі, вадзяны і 6 конных млыноў, сукнавальню. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Цэнтр Мікуліцкай воласці, у якую ў 1890 г. ўваходзілі 35 сяленняў з 1075 дварамі. У 1885 г. 66 двароў, 376 жыхароў, школа. У 1895 г. вяскоўцы (каля 400 чал.) выступілі супраць правядзення палявых работ на зямельным участку, які яны лічылі несправядліва перададзеным памешчыку. Паводле перапісу 1897 г. 96 двароў, 631 жыхар, царква, капліца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, лаўка, млын, 2 ветракі, карчма; побач быў аднайменны фальварак, 3 двары, 40 жыхароў. У 1908 г. 702 жыхары. У час акупацыі герм. войскамі ў 1918 г. партызаны пад камандаваннем Ф.І.Скараходава (ураджэнец Брагіна) разграмілі створаную тут акупантамі камендатуру. З 8.12.1926 г. цэнтр Мікуліцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Дзейнічалі школа, хатачытальня, кааператыў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі кузня (з 1931 г.), 3 ветракі (1895, 1896, 1928 г.), стальмашня. У 1938 г. ў вёску пераселены жыхары пасёлкаў Краснае, Ульянаўка і Краснагорск, в. Новая Вёска. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты загубілі 23 жыхароў, у іх ліку 14.8.1942 г. жывымі спалілі 14 вяскоўцаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 290 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск з імёнамі загінуўшых, пастаўлены ў 1975 г. Паводле перапісу 1959 г. 848 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Размешчаны

лесапільня, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пд далучаюцца да 2 прамалінейных шыротных вуліц. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза П.С.Жукава. Яго імем названа вясковая школа, вуліцы ў г.п. Брагін і в. Любань Акцябрскага р-на. Паблізу ёсць жалезарудныя радовішчы.

У склад Мікуліцкага с/с да 1938 г. ўваходзілі пасёлкі Краснагорск, Краснае, в. Новая Вёска, Ульянаўка, да 1942 г. в. Байдакі (спалена ням. фашыстамі, не аднавілася), п. Уладзімірскі (спалены ням. фашыстамі, не аднавіўся), да 1968 г. хутар Байдакі (не існуе).

**МІХАЛЁЎКА** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 43 км на Пд ад Брагіна, 71 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 162 км ад Гомеля, на р. Несвіч (прыток р. Брагінка), на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (87 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска ў Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Чыкалавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 228 жыхароў. У 1908 г. 55 двароў, 332 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Міхалёўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 82 двары. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты ў 1943 г. спалілі 52 двары, загубілі 4 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 384 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Крукі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд і Пн далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя шыротныя вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Побач ёсць радовішчы гліны.

**МІХАЛОЎ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 11 км на Пд ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (1999 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1873 г. вялікія вясковыя зямельныя надзелы былі ў валоданні купца 1-й гільдыі Канапліна, потым графа Юдзіцкага. У 1908 г. 17 двароў, 129 жыхароў. Побач быў фальварак, 1 двор, 10 жыхароў. У 1930 г. 20 двароў, 150 га зямлі. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1938 г. ў вёску пераселены жыхары п. Рэпішча (не існуе). Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Ясяні). Драўляныя сял. сядзібы размешчаны ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**МІХНАЎКА** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 12 км на Пн ад Брагіна, 35 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля; на Пн канал Вялікі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 11 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Брагінсялецкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 186 жыхароў, вятрак. У 1908 г. 25 двароў, 232 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Міхнаўка», працавалі арцель торфараспрацовак (з 1931 г.), конная крупарушка (з 1914 г.), вятрак (з 1914 г.), кузня. Паводле перапісу 1959

г. 229 жыхароў. У складзе калгаса «Парыжская камуна» (цэнтр — в. Шкураты). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць жалезарудныя і тарфяныя радовішчы.

**МЛЫНОК** (да 15.9.1946 г. Асадым) — пасёлак у Брагінскім райсавеце, за 9 км на Пн ад Брагіна, 37 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Сабалі). Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НЕЖЫХАЎ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Брагіна, 67 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 158 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (44 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Па інвентары 1784 г. 7 дымоў, 20 валоў, 14 кароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 16 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 227 жыхароў, у 1908 г. 47 двароў, 322 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Нежыхаўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 60 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў Слабодскіх лясах, што непадалёку, размяшчаўся Брагінскі падп. райком КП(б)Б і штаб партыз. атрада імя Р.І.Катоўскага. У маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Слабодскі» (цэнтр — в. Выграбная Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на З далучаецца да кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. Нац. АН Беларусі, Засл. дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, доктара гіст. навук, праф. М.Ф.Піліпенкі і бел. пісьменніка С.П.Давыдзенкі.



*М.Ф.Піліпенка.*

**НІЖНІЯ ЖАРЫ** — вёска ў Верхняжарскім с/с, за 69 км на ПдУ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 176 км ад Гомеля, 500 м ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Дняпро. На ПдЗ знаходзіцца крайні паўд. пункт дзярж. мяжы Рэспублікі Беларусь (51°16' паўн. шыраты і 30°35' усх. даўгаты). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 54 гаспадаркі, 97 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска Жары Рэчыцкага пав. Мінскага ваяводства. У 1744 г. пабудавана драўляная Успенская царква, якая на сродкі прыхаджан перабудоўвалася ў 1821, 1845 і 1885 гг. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Ялчанскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 60 двароў, уладанне Горватаў. У 1850 г. 68 двароў. Дзейнічала прыстань па адгрузцы лесу. Паводле перапісу 1897 г. 107 двароў, 660 жыхароў, хлебазапасны магазін, царкоўнапрыходская школа, карчма. У 1908 г. 110 двароў, 677 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр

Ніжнежарскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Дняпровец», працавалі кузня, 2 ветракі, 2 вадзяныя млыны. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі вызначыўся 22.9.1943 г. нам. камандзіра батальёна, ст. лейтэнант М.А.Куратнікаў (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 631 жыхар. Размешчана падсобная гаспадарка раённага ВА «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Верхнія Жары). Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, магазін, б-ка. Драўляная забудова бессістэмная, уздоўж ракі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.А.Клімянка (быў камісарам партыз. брыгады імя М.І.Калініна).

**НІЎКІ** — пасёлак у Новаялчанскім с/с, за 37 км на ПдУ ад Брагіна, 5 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 156 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне пасёлка 28.9.1943 г. вызначыліся нач. штаба кавалер. палка капітан А.В.Красікаў, санінструктар І.М.Пятлюк, радавы Р.Ф.Нагорны (ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Будынкі драўляныя.

**НОВАЯ ГРЭБЛЯ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Брагіна, 43 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 133 км ад Гомеля; на Пд і З пойма р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 15 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 97 жыхароў. У 1908 г. 17 двароў, 128 жыхароў. У 1930 г. 24 двары, 143 жыхары, 224 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новая грэбля», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 90 землякоў, у памяць аб якіх у 1967 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 194 жыхары. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Старыя Хракавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ЁЛЧА** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 41 км на ПдУ ад Брагіна, 2 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 170 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. 78 гаспадарак, 119 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 82 двары, 221 жыхар, уладанне Прозара. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царк. прыходзе. У 1885 г. 333 жыхары. У сядзібе Ёлча дзейнічалі вінакурня, патачны з-д і паравы млын. Цэнтр Ялчанскай воласці, у склад якой у 1890 г. ўваходзіла 36 сяленняў. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 526 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма. У 1908 г. 97 двароў, 549 жыхароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Ялчанскага, з 29.10.1964 г. Новаялчанскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1920-х г. пачалі дзейнічаць школа і кааператыў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты ў 1942 г. загубілі 17 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-ўсх. ускраіне), а ў верасні 1943 г. часткова спалілі вёску. У ноч на 23.9.1943 г. часці 15-га стралк. корпуса

13-й арміі Цэнтр. фронту вызвалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 578 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, пачатковая школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн пад прамым вуглом далучаецца прамалінейная вуліца, перакрыжаваная чыгункай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

У склад Новаялчанскага с/с да 1962 г. ўваходзіла в. Прудавіца (не існуе).

**НОВЫ МАКРЭЦ** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 9 км на У ад Брагіна, 37 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Брагін—Лоеў. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Ручаёўскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. дзейнічала школа граматы. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Навамакрыцкага с/с Лоеўскага, з 4.8.1929 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 62 двары, 321 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. У складзе калгаса «Пераможнік» (цэнтр — в. Малейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СЦЕПАНОЎ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 32 км на Пд ад Брагіна, 61 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 149 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (13 сямей) перасelены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку падзелу в. Сцепаноў на вёскі Стары Сцепаноў і Новы Сцепаноў. У 1920-я г. пачала дзейнічаць школа. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 53 двары, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 41 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. Уваходзіла ў саўгас «Савічы» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ШЛЯХ** — пасёлак у Вуглоўскім с/с, за 10 км на Пн ад Брагіна, 32 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 121 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 32 гаспадаркі, 77 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. хутка пасёлак рос у 1920-я г. У 1930 г. 27 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў. У складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Шкураты). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЛЯДЫ** — вёска ў Новаялчанскім с/с, за 41 км на ПдУ ад Брагіна, 4 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 160 км ад Гомеля; на Пд чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1986 г. перасelены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку падзелу в. Ляды на Старыя Ляды і Новыя Ляды. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Краснае»

(цэнтр — в. Краснае). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ХРАКАВІЧЫ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Брагіна, 43 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 40 гаспадарак, 65 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст., калі перасяленцы з в. Храковічы заснавалі тут сяленне Новыя Хракавічы, а сяло Хракавічы стала наз. Старыя Хракавічы. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 347 жыхароў. У 1908 г. 382 жыхары, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1930 г. 105 двароў, 473 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дняпровец», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 412 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Жураўлёва Рудня). Планіровачна складаецца з блізкай да шыротнай, амаль прамалінейнай вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НУДЗІЧЫ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Брагіна, 28 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (121 сям'я) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ва ўладанні кн. Вішнявецкіх, у 2-й пал. 17 ст. перайшла да Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 22 двары, 167 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 295 жыхароў, капліца, вятрак, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 52 двары, 355 жыхароў. У 1930 г. 70 двароў, 408 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 514 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, другая кароткая) прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пд далучаецца крыху выгнутая шыротная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Побач радовішчы торфу.

**ПАЖАРКІ** — вёска ў Брагінскім райсавеце, за 7 км на Пн ад Брагіна, 35 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 120 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Брагін—Хойнікі. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (2 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 8 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Мікуліцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 191 жыхар. У 1908 г. 29 двароў, 247 жыхароў. У 1931 г. 35 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Сабалі). Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана рэдка драўлянымі сядзібамі.

**ПАСЕКА** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 66 км на ПдУ ад Брагіна, 21 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 182 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (15 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як фальварак у Ялчанскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай

губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 38 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Камарынскі» (цэнтр — г.п. Камарын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пн далучаецца да цэнтра прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПАСУДАВА** — вёска, чыг. станцыя (на лініі Оўруч—Палтава), у Камарынскм пасялковым Савеце, за 45 км на Пд ад Брагіна, 164 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (73 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (мясц. назва Гарадок, 3—4 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Куркова) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га Падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 2 вёскі — Пасудава Верхнія і Пасудава Ніжнія, якія пазней аб'ядналіся, уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. ўладанне Навікоўскага. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Чакалавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 315 жыхароў, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ.; побач знаходзіліся 2 аднайменныя фальваркі. У 1908 г. 79 двароў, 421 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пасудаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. Дзейнічала пачатковая школа. Пасля пабудовы ў 1927 г. чыгункі Чарнігаў—Оўруч пачала працаваць чыг. станцыя. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дзень калектывізацыі», меліся 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баі за вёску ў 1943 г. вызначыліся камандзір кулямётнага разліку Е.Сіхімаў, наводчык гарматы А.Г.Казлоў і камандзір аддз. І.А.Юсупаў (ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 642 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Пасудава» (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай працяглай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой праходзіць такой жа арыентацыі меншая па памеры вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕРАНОСЫ** — вёска ў Малажынскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Брагіна, 39 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 39 гаспадарак, 87 жыхароў (2004 г.).

Вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 20 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 300 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 54 двары, 376 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пераноснага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 75 двароў, 456 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавалі вятрак (з 1929 г.) і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 399 жыхароў. У складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Крыўча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАСЯЦІНЕЦ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Брагіна, 61 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 150 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на З меліярацыйныя

каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (29 сямей) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 13 двароў, 68 жыхароў, уладанне Прозара. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Перасяцінецкага с/с Камарынскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавалі кузня і ваўначоска. У 1940 г. 60 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Савічы» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Г.С.Сарокінай.

**ПЕТРЫЦКАЕ** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Брагіна, 43 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 114 км ад Гомеля. Побач аўтадарога, якая звязвае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 68 гаспадарак, 117 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1834 г. 42 двары. У 1850 г. 50 двароў, 388 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ручаёўскім царк. прыходзе. У 1885 г. 75 двароў, 503 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 106 двароў, 666 жыхароў, царкоўна-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 115 двароў, 749 жыхароў, у Ручаёўскай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Петрыцкага с/с Лоеўскага, з 4.8.1927 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 149 двароў, 859 жыхароў, 1182 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавалі вятрак (з 1920 г.), паравы млын (з 1928 г.), кузня і ваўначоска. У 1940 г. 176 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліпені 1943 г. ням. фашысты спалілі 158 двароў і загубілі 6 жыхароў. Пры вызваленні ў кастрычніку 1943 г. вёскі і наваколля загінулі 36 воінаў 81-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 752 жыхары. У складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Тэльман). Размешчаны лясніцтва, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на У далучаецца да кароткай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменнікаў Міколы Ракітнага (сапр. М.І.Новікаў) і У.М.Верамейчыка.

**ПЕЦЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 12 км на Пд ад Брагіна, 41 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 131 км ад Гомеля, на У у пойме р. Брагінка. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (32 сям'і) перaселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з пач. 20 ст. як хутар у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1906 г. 14 двароў, 108 жыхароў. У 1930 г. 23 двары, 257 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 27 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты спалілі 21 двор. Паводле перапісу 1959 г. 108 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Ясяні). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕЧЫ** — пасёлак у Астраглядаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Брагіна, 24 км ад

чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 136 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (31 сям'я) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 25 двароў, 106 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Астрагляды» (цэнтр — в. Астрагляды). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПІРКІ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 32 км на Пд ад Брагіна, 13 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 147 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (476 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло ва ўладанні Ракіцкіх. У 1850 г. 50 двароў, 343 жыхары, уладанне Прозара. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 496 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1908 г. 120 двароў, 703 жыхары, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Піркаўскага с/с Камарынскага, з 25.12.1962 г. Брагінскага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1920-я г. дзейнічалі школа і аддзяленне спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», працавалі кузня, вятрак. У 1940 г. 196 двароў. У Вял. Айч. вайну ў красавіку 1943 г. партызаны разграмілі створаны акупантамі ў вёсцы гарнізон. Карнікі ў маі 1943 г. загубілі 12 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на зах. ускраіне), а ў лістападзе 1943 г. спалілі 93 двары. У баях за вызваленне вёскі ў верасні—кастрычніку 1943 г. загінулі 123 воіны 89-га і 9-га гвардз. стралк. карпусоў 61-й арміі, а таксама 37 партызан атрада імя М.М.Кацюбінскага (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Сярод пахаваных Героі Сав. Саюза С.К.Галавашчанка і В.Ф.Загайнаў. Паводле перапісу 1959 г. 552 жыхары. Была цэнтрам саўгаса «Піркі». Размяшчаліся камбінат быт. абслугоўвання, б-ка, дзіцячыя яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, якая на У далучаецца да мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПРОСМЫЧЫ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Брагіна, 45 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля, на р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 58 гаспадарак, 132 жыхары (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 218 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Хракавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 360 жыхароў, школа граматы. У 1908 г. 85 двароў, 551 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Просмыцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева, працавалі 2 ветракі (адзін з 1913 г.). Паводле перапісу 1959 г. 517 жыхароў. У складзе саўгаса «Савічы» (цэнтр — в. Савічы). Ёсць б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі), забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРЫСТАНСКАЕ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 36 км на Пд ад Брагіна, 11 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч — Палтава), 153 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (34 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. інтэнсіўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Пасудава» (цэнтр — в. Залессе). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца з завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПУЧЫН** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Брагіна, 47 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 138 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка; на аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (143 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 29 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 384 жыхары, капліца і сядзіба (2 двары, 17 жыхароў), у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 113 двароў, 536 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пучынскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. З 1920-х г. дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі вятрак (з 1909 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партызябарацьбе загінулі 68 землякоў, у памяць аб якіх у 1980 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 588 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Слабодскі» (цэнтр — в. Выграбная Слабада). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой далучаюцца з Пн тры кароткія, шчыльна паміж сабой пастаўленыя мерыдыянальныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАФАЛАЎ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Брагіна, 26 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 128 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (34 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як хутар у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 1873 г. большасць зямель была ў валоданні купца 1-й гільдыі Канапліна. У 1908 г. 9 двароў, 70 жыхароў. У 1930 г. 16 двароў, 110 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі шлях», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАФАЛАЎ** — пасёлак у Спярыжскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 129 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (16 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх зем-

лях. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 116 двароў. Уваходзіў у склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЫЖКАЎ** — вёска ў Мікуліцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Брагіна, 23 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 75 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 12 двароў, 111 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Мікуліцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 263 жыхары, капліца, школа граматы, вятрак. У 1908 г. 81 двор, 431 жыхар, у Мікуліцкай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Рыжкаўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. 97 двароў, 555 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Беларусь», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 570 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Мікулічы). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца з завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**РЫТАЎ** — вёска ў Малажынскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Брагіна, 48 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 139 ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 35 гаспадарак, 91 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. У інвентары Гомельскага староства 1640-х г. пазначана як сяло Рытавічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Найб. актыўна забудоўвалася ў 1920-я г. У 1930 г. 38 двароў, 200 жыхароў, 469 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 46 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты ў верасні 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайск» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У пад прамым вуглом далучаюцца 2 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**САБАЛІ** — вёска ў Брагінскім райсавеце, за 6 км на З ад Брагіна, 34 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 136 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Брагіна. 43 гаспадаркі, 79 жыхароў (2004 г.). Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання 224 сям'і пераселены ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска ў Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 23 двары, 187 жыхароў, уладанне графіні Ракіцкай. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 410 жыхароў, школа граматы, 2 ветракі, кузня, карчма. У 1908 г. 77 двароў, 483 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сабалёўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1930 г. 90 двароў, 469 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі цагельня (з 1930 г.), 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 73 землякі, у памяць аб якіх у 1967 г. ў скверы, каля школы, пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 737 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны п. Пуцілавік. Цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». Размешчаны

лесапільня, млын, швейная майтэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, вет. участак, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой на У праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Р.К.Сабаленкі, яго імем наз. вуліца ў Брагіне. Паблізу ёсць радовішчы гліны.



*Р.К.Сабаленка.*

**САВІЧЫ** – вёска ў Хракавіцкім с/с, за 22 км на Пд ад Брагіна, 22 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 152 км ад Гомеля, на З мяжуе з Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам; на аўтадарозе Камарын—Брагін. 50 гаспадарак, 86 жыхароў (2004 г.). Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання 373 сям'і перасалены ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (мясц. назва Гарадзец, 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Салавіца) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Каралеўстве Польскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.). у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав., памешчыцкая ўласнасць. У 1850 г. 66 двароў. У 1885 г. 94 двары, 580 жыхароў, побач сядзіба з вінакурняй. Цэнтр Савіцкай воласці, у якую ў 1885 г. уваходзілі 18 сяленняў з 824 дварамі. Тысячы дзесяцін зямельных угоддзяў у вёсцы і яе ваколіцах належалі двараніну Прозару. Паводле перапісу 1897 г. 127 двароў, 812 жыхароў, капліца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, яўрэйскі малітоўны дом, 2 лаўкі, карчма; на сядзібе 3 двары, 41 жыхар. У 1908 г. 175 двароў, 874 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савічы», працавалі 2 ветракі (1905, 1909 гг.), крупарушка, стальмашня, паравы млын (1918 г.), кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. група, якую ўзначальвалі С.І. і Ф.І. Філіпенкі. Вясной 1942 г. падпольшчыкі разам з партызанамі разграмілі варожы гарнізон, маслазавод і знішчылі будынак валаснай управы. Карнікі расстралялі і спалілі 33 жыхары (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). Побач з брацкай магілай пахаваны 11 воінаў і 8 партызан атрада імя Р.І.Катоўскага, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1305 жыхароў; побач быў Двор Савічы (345 жыхароў). Цэнтр саўгаса «Савічы». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, лесапільня, млын, сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 частак, падзеленых дарогай: зах. (крыху скрыўленая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаецца прамалінейная вуліца і на Пн ад яе, паралельна да асноўнай, праходзіць кароткая прамалінейная вуліца) і ўсх. (выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САДОВЫ** – пасёлак у Чамярыскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 131 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст., калі тут быў хутар і з 1898 г. працаваў вятрак. У пач. 1920-х г. сюды актыўна перасяляліся з суседніх вёсак. У 1930 г. 21 двор, 122 жыхары, 170 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Садовы», працавалі 2 ветракі і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр – в. Чамярысы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СКАРОДНАЕ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 71 км на Пд ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (21 сям'я) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Засн ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваўся калгас. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Чырвоная Украіна» (цэнтр — в. Гдзень). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СПЯРЫЖЖА** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 9 км на Пд ад Брагіна, 30 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 139 км ад Гомеля, на р. Брагінка. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2004 г.). Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання 125 сямей у 1986 г. перасяліліся ў чыстыя месцы.

Выяўленыя ў 19 ст. археалагічныя помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., калі вёска Спарыж у складзе Брагінскай воласці належала Вішнявецкім, а ў 2-й палове 17 ст. перайшла да Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 28 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім парк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 73 двары, 483 жыхары, капліца, школа граматы, 2 ветракі, лаўка, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 88 двароў, 570 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 1987 г. цэнтр Спярыжскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.)



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у в. Спярыжжа.*

акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Спярыжжа», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 91 зямляк; на ўшанаванне памяці ў 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з пальмавай галінкай. Паводле перапісу 1959 г. 594 жыхары. У складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Ясяні). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У пад вострым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пд адасоблена размешчана крыху выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Побач ёсць радовішчы торфу.

У склад Спярыжскага саўгаса да 1938 г. ўваходзіў п. Рэпішча (не існуе).

**СТАРАЯ ЁЛЧА** — вёска ў Навааялчанскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Брагіна, 2 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 158 км ад Гомеля; на У і Пн возера Ялчанскае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадаро-

зе Камарын—Брагін. 94 гаспадаркі, 185 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча канца 1-га тысячагоддзя да н.э. — пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. і больш позняга часу (ва ўрочышчы Гарадок) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Дзейнічала Міхайлаўская царква, у архівах якой захоўваліся метрычныя кнігі з 1755 г., евангеллі выдання 1773 і 1785 гг. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 38 двароў, уладанне Прозара. У 1885 г. 130 жыхароў, царква. Купец Сялюкоў меў у 1869 г. ў вёсцы і наваколлі 13 597 дзес. зямлі, паравы млын, 2 карчмы, 2 вадзяныя і 1 конны млыны. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 218 жыхароў, школа граматы, царква; побач была сядзіба Ёлча (79 двароў, 46 жыхароў) і вінакурны з-д. Дзейнічалі параходная прыстань і паромная пераправа. У 1908 г. 369 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Стараялчанскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 150 двароў, 611 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 50 двароў і загубілі 18 жыхароў. Вызвалена 23.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 334 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучана в. Прудавіца. У складзе саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай каналам. На Пд да галоўнай далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРЫ МАКРЭЦ** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 12 км на У ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 125 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Лоеў. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 400 м ад вёскі, на узвышшы сярод балот) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 17 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 190 жыхароў. У 1908 г. 39 двароў, 251 жыхар, у Ручаёўскай воласці. У 1929 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў», працавалі 2 ветракі (з 1904 і 1907 г.), 2 кузні і ваўначоска. У 1930 г. 36 двароў, 217 жыхароў. У 1940 г. 57 двароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. У складзе калгаса «Пераможнік» (цэнтр — в. Малейкі). Фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерадыянальнай арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СТАРЫ СЦЕПАНОЎ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Брагіна, 64 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 153 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (30 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як в. Сцепаноў у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 105 двароў, 726 жыхароў. У пач. 1920-х г. в. Сцепаноў падзялілася на 2 — Стары Сцепаноў і Новы Сцепаноў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старасцепаноўскага і з 1938 г. да 12.11.1966 г. — Сцепаноўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўга-

са «Савічы» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЫЯ ЛЯДЫ** — вёска ў Наваелчанскім с/с, за 42 км на ПдУ ад Брагіна, 3 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі — Оўруч—Палтава), 161 км ад Гомеля; на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (15 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска Ляды ў Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 32 двары, 172 жыхары. У пач. 1920-х г. в. Ляды падзялілася на 2 — Старыя Ляды і Новыя Ляды. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 29 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 26 двароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Краснае» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЫЯ ХРАКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Хракавіцкага с/с, за 15 км на ПдУ ад Брагіна, 42 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 172 гаспадаркі, 490 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (мясц. назва Гарадок) 7—3 ст. да н.э. (за 5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Хістына), 4 паселішчы позняга неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага веку (за 0,4—1 км на У і ПдУ ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска Хракавічы ў Рэчыцкім пав. Дзейнічала Мікалаеўская царква (захоўваліся метрычныя кнігі з 1745 г.). У 1776 г. замест састарэлай пабудавана новая драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 334 жыхары, уладанне Юдзіцкіх. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сплавам лесу. У 1885 г. 79 двароў, 507 жыхароў. Цэнтр маёнтка, гаспадар якога Дзмішэвіч валодаў тут 433 дзес. зямлі. Пасля заснавання побач в. Новыя Хракавічы сяло стала звацца Старыя Хракавічы. Паводле перапісу 1897 г. 125 двароў, 513 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 164 двары, 949 жыхароў, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1920-х гадах дзейнічалі школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1930 г. арганізаваны 2 калгасы, працавалі кузня, цагельня (з 1930 г.), 5 ветракоў, 2 конныя крупарушкі. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які партызаны разграмілі. У баях за вызваленне вёскі ў кастрычніку 1943 г. загінулі 40 воінаў 9-га гвардз. стралк. корпуса 61-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 106 землякоў, на ўшанаванне якіх у 1966 г. ўзведзены абеліск каля брацкай магілы. Паводле перапісу 1959 г. 812 жыхароў. З 1987 г. цэнтр Хракавіцкага с/с. Цэнтр калгаса В.І.Чапаева. Размешчаны сярэдняя школа (новы мураваны будынак узведзены ў 1987 г.), аддз. сувязі, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, перакрыжаваныя кароткай шыротнай вуліцай. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1987—94 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 80 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйна-

га забруджання. Паблізу ёсць радовішчы гліны і торфу.

**СТАРЫЯ ЮРКАВІЧЫ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як вёска Юркавічы ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Некаторы час існавалі 2 населеныя пункты: сяло Старыя Юркавічы і вёска Новыя Юркавічы (у 1862 г. 551 жыхар муж. полу, сядзіба памешчыка, 2 ветракі). У 1877 г. ў с. Старыя Юркавічы пабудавана царква, у в. Новыя Юркавічы з 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, з 1884 г. — нар. вучылішча (у 1889 г. 80 вучняў). У 1885 г. 274 двары, 1666 жыхароў, школа, царква, 5 ветракоў, лаўка. У 1890-х г. в. Новыя Юркавічы далучылася да сяла. Цэнтр воласці, у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 10 сяленняў з агульнай колькасцю 1434 двары. Паводле перапісу 1897 г. 352 двары, царква, нар. вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны, 3 лаўкі, карчма. У 1909 г. 3795 дзес. зямлі, дзейнічалі лячэбны пакой і вінная лаўка. У час акупацыі герм. войскамі ў снежні 1918 г. вяскоўцы забілі гетманскага валаснога галаву, абяззброілі атрад ням. салдат і адправілі іх у Гомель. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 294 жыхары. У складзе калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр — в. Крыўча). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СУВІДЫ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 25 км на Пд ад Брагіна, 16 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 143 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (83 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў валоданні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й палове 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. уладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 35 двароў, 201 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Грушкаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 382 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 91 двор, 549 жыхароў, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сувідскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. Дзейнічала пачатковая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працавалі 2 ветракі і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 509 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Брагінскі» (цэнтр — в. Піркі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЦЕЖАРНАЕ** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Брагіна, 36 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 126 км ад Гомеля; навокал меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 96 гаспадарак, 245 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., калі вёска належала кн. Вішнявецкім, а ў 2-й палове 17 ст. перайшла да Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 22 двары, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінсялецкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 438 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 74 двары, 540 жыхароў, у Брагінскай воласці. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сцежарненскага с/с Брагінскага

р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 113 двароў, 643 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны рассвет», працавалі вятрак (з 1910 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 34 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае стэла з барэльефнай выявай воіна, пастаўленая ў 1976 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 592 жыхары. У складзе калгаса «Сцяг Леніна» (цэнтр — в. Зарэчча). Размешчаны клуб, б-ка, пачатковая школа, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. З У да яе далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**СЦЕЖАРЭНСКІ** — пасёлак у Малейкаўскім с/с, за 9 км на У ад Брагіна, 37 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 128 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Брагіна. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі пераважна з в. Сцежарнае на б. памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса «Сцяг Леніна» (цэнтр — в. Зарэчча). Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Брагіна, 35 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 122 км ад Гомеля, на р. Брагінка; на У сетка меліярацыйных каналаў. Побач аўтадарога, якая звязвае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 101 гаспадарка, 261 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 3 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозавік, у пойме р. Брагінка) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Брагін-Сялец у валоданні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й палове 17 ст. — Канецпольскіх. У 1609 г. заснаваны мужчынскі Праабражэнскі і жаночы Добравешчанскі манастыры (дзейнічалі да 1844 г.). У манастырскай б-цы было 102 тамы. З 1609 г. дзейнічала Спасапраабражэнская царква, у якой знаходзіліся мясц. шанаваны абраз Маці Божай з дзіцем (пісаны на палатне), фундушавыя дакументы 1609 г. кн. Вішнявецкага і 1632 г. княгіні Малінскай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 41 двор. У 1885 г. 195 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 44 двары, 283 жыхары, царкоўна-прыходская школа, царква, капліца, вятрак, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 57 двароў, 340 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сялецкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы беларус», працавалі 2 ветракі (з 1909 г. і 1927 г.), конная крупарушка (з 1927 г.), 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 66 землякоў, у памяць аб якіх у 1965 г. ў скверы пастаўлена скульптура воіна ў жалобе. Паводле перапісу 1959 г. 661 жыхар. Цэнтр калгаса імя Э.Тэльмана. Размешчаны клуб, пачатковая школа, б-ка, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Вілейшчыне ў Вял. Айч. вайну А.І.Шаўчэнкі (быў камісарам партыз. брыгады імя К.Я.Варашылава) і бел. пісьменніка У.П.Чапегі.

**ТАКЛІНОЎ** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 9 км на Пн ад Брагіна, 29 км ад чыг. ст. Хойнікі ( на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 118 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе, якая звязвае Брагін з дарогай Лоеў—Рэчыца. 35 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Вядома з 19 ст. як хутар у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 31 двор, 116 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Ланцуцкага, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Вуглы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на У далучаецца да цэнтра прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ТЭЛЬМАН** (да 25.10.1934 г. Двор-Гарадзішча) — вёска ў Малейкаўскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 126 км ад Гомеля, на р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. 57 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі ў сяленні на правым беразе р. Брагінка, каля замка Вішнявецкіх (не збярогся), быў закладзены парк, спланаваны па радыяльна-рэгулярнай схеме.



*Старадаўні парк у в. Тэльман.*

Ад замка ў бок ракі разыходзіліся 3 алеі (зараз помнік садова-паркавага мастацтва 18 ст.). Найб. інтэнсіўна вёска развівалася ў 1920-я г. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты загубілі 13 жыхароў. У час баёў за вызваленне вёскі ў кастрычніку 1943 г. загінулі 6 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Сялец). Размешчаны клуб, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАТУЧА** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Брагіна, 26 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (120 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., як вёска ў валоданні кн. Вішнявецкага, а ў 2-й палове 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 23 двары, 177 жыхароў. З 1873 г. большасць зямель у валоданні купца 1-й гільдыі Канапліна. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 351 жыхар, капліца, вятрак, кузня, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 61 двор, 439 жыхароў і фальварак (12 жыхароў). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Хатуцкага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1930 г. 75 двароў, 422 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі вятрак, кузня і ваўначоска. У 1940 г. 92 двары. У Вял. Айч. вайну ў чэрвені 1943 г. ням. фашысты спалілі 84 двары і загубілі 13 жыхароў.

Паводле перапісу 1959 г. 425 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Астрагляды» (цэнтр — в. Астрагляды). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд пад вострым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЦАЛУЙКІ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Брагіна, 46 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 137 км ад Гомеля, на р. Брагінка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары перасялены ў чыстыя месцы.

Вядома з 19 ст. як вёска ў Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 65 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Грушкаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 135 жыхароў. У 1908 г. 33 двары, 238 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Цалуйкі», працавалі вятрак (з 1905) і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты восенню 1943 г. загубілі 5 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Савічы» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных няшчыльна, драўлянымі сялянскімі сядзібамі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. ў Вял. Айч. вайну В.Ф.Цалуйкі (быў камісарам партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь»).

**ЧАМЯРЫСЫ** — вёска, цэнтр Чамярыскага с/с, за 23 км на ПдУ ад Брагіна, 48 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы — Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 153 км ад Гомеля; на У канава Дзяржаўная. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 209 гаспадарак, 492 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 83 двары, 404 жыхары, уладанне Юдзіцкіх. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Хракавіцкага царк. прыхода. У 1885 г. 89 двароў, 513 жыхароў, у Дзяражыцкай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 155 двароў, 884 жыхары, школа граматы, карчма. У 1908 г. 205 двароў, 1026 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 15.8.1974 г. цэнтр Чамярыскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 2 вёскі: Чамярысы-1 і Чамярысы-2. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Ударнік» і «Чырвоная Беларусь», працавалі цагельня (з 1929 г.), 2 кузні, 2 ветракі. У канцы 1930-х г. вёскі Чамярысы-1 і Чамярысы-2 аб'яднаны ў адзін населены пункт — в. Чамярысы. У 1940 г. 359 двароў, 1436 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты спалілі 307 двароў і загубілі 6 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 152 землякі, памяць аб якіх увекавечвае ўстаноўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 1244 жыхары. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны механічная і швейная майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаюцца дугападобная і прамалінейная вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 64 кватэры, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага за-





*Жанчыны ў святочных касцюмах. Вёска Чыкалавічы.*

бруджання. Радзіма Героя Сац. Працы У.М.Галкі. Паблізу ёсць радовішчы гліны, жалезнякоў і торфу.

**ЧЫКАЛАВІЧЫ** — вёска ў Камарынскім пасялковым Савеце, за 56 км на Пд ад Брагіна, 12 км ад чыг. ст. Пасудава (на лініі Оўруч—Палтава), 165 км ад Гомеля, на тэр. Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (130 сямей) перасалены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча (мясц. назва Гарадок, за 3,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Высокае) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства ВКЛ. Пад 1567 г. пазначана ў попісе войска Вялікага княства Літоўскага. У Васкрасенскай царкве захоўваліся метрычныя кнігі з 1770 г., мелася евангелле 1773 г. кіеўскага выдання. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 2 двары. У 1850 г. 31 двор. У 1886 г. 63 двары, 370 жыхароў, вадзяны млын, узведзены новы драўляны будынак царквы, дзейнічала царкоўнапрыходская школа. У 1908 г. 108 двароў, 433 жыхары, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 15.7.1961 г. цэнтр Чыкалавіцкага с/с саўгаса Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі 2 ветракі і кузня. У 1940 г. 215 двароў, 780 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрвені 1943 г. ням. фашысты спалілі 190 двароў. У баі за вёску 22.9.1943 г. вызначыліся камандзір роты, ст. лейтэнант У.М.Зарамбо, радавы М.І.Дружынін, якія з інш. воінамі захапілі тут штабны аўтобус праціўніка з цэннымі дакументамі (ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 89 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, устаноўлены ў 1966 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 727 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Калыбань). Плані-

ровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. манументаліста і жывапісца, нар. мастака Беларусі Г.Х.Вашчанкі.

**ЧЫРВОНАЕ ПОЛЕ** — вёска ў Мікуліцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Брагіна, 22 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 10 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае поле», працавала кузня. У 1940 г. 14 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Мікулічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАЯ НІВА** (да 1930 г. наз. Ліхтэрня) — пасёлак у Малажынскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Брагіна, 40 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 131 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 28 гаспадарак, 63 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. 26 двароў, 172 жыхары, 118 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе калгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр — в. Крыўча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА** — пасёлак у Малажынскім с/с, за 25 км на У ад Брагіна, 51 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 142 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Вядома з пач. 20 ст. як хутар, з 1914 г. працаваў вятрак. У пач. 1920-х г. сюды перасяліўся шэраг гаспадарак з суседніх вёсак. У 1930 г. 29 двароў, 149 жыхароў, 162 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Будыўнік сацыялізму». У 1940 г. 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. У складзе калгаса «Першамайск» (цэнтр — в. Малажын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.



*Г.Ф.Вашчанка.*

**ЧЭРНЕЎ** — вёска ў Хракавіцкім с/с, за 30 км на Пд ад Брагіна, 11 км ад чыг. ст. Ёлча (на лініі Оўруч—Палтава), 149 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (32 сям'і) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. пазначана як хутар у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Ракіцкіх. У 1834 г. 8 двароў, уладанне Трыпольскай. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ялчанскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 132 жыхары. У 1908 г. 24 двары, 202 жыхары, у Савіцкай воласці Рэчыцкага пав. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Брагінскі» (цэнтр — в. Выграбная Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай

вуліцы з завулкам, забудаванай драўлянымі сялянскімі сядзібамі. У сувязі з высокай забруджанасцю ўсе будынкі разбураны і пахаваны пад пластом зямлі.

**ШКУРАТЫ** — вёска ў Вуглоўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Брагіна, 25 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 135 км ад Гомеля, на аўтадарозе Брагін—Хойнікі. 73 гаспадаркі, 200 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя ў 19 ст. археалагічныя помнікі сведчаць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 25 двароў, 177 жыхароў, уладанне графіні Ракіцкай. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 356 жыхароў, школа граматы, капліца, вятрак, карчма, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 65 двароў, 311 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Шкуратоўскага с/с Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У пач. 1920-х г. адкрыта школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», працавалі кузня, стальмашня, ваўначоска, вятрак (з 1928 г.). У Вял. Айч. вайну ням. фашысты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. Вызвалена 23.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 84 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1948 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар. Цэнтр калгаса «Парыжская Камуна». Размешчаны механічная майстэрня, пачатковая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць жалезарудныя радовішчы.

**ШЧАРБІНЫ** — вёска ў Астраглядаўскім с/с, за 7 км на З ад Брагіна, 20 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 126 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Хойнікі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як хутар у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Па інвентары 1844 г. ў складзе маёнтка Хвойнікі, належала В.К.Прозару. У 1850 г. 15 двароў, 91 жыхар. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Астраглядаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1879 г. 26 двароў, 131 жыхар, у Мікуліцкай воласці. У 1908 г. 29 двароў, 171 жыхар, у 1930 г. 48 двароў, 297 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 338 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Чырвоная Ніва» (цэнтр — в. Буркі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСМЕНЦЫ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Брагіна, 27 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Камарын—Брагін. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (35 сямей) пераселены ў 1986 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. З 1811 г. ўладанне Ракіцкіх. У 1850 г. 11 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Глухавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 195 жыхароў, капліца, вятрак, кузня, у Брагінскай воласці. У 1908 г. 45 двароў, 227 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Краіна саветаў», працавалі вятрак (з 1915 г.) і кузня. Паводле перапісу 1959

г. 173 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Глухавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. У сувязі з высокай радыяцыйнай забруджанасцю ўсе будынкі разбураны і пахаваны пад пластом зямлі. Радзіма Героя Сац. Працы Б.В.Шыльца.

**ЯСЯНІ** — вёска ў Спярыжскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Брагіна, 28 км ад чыг. ст. Хойнікі (на ветцы Васілевічы—Хойнікі ад лініі Калінкавічы—Гомель), 134 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Камарын—Хойнікі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (20 сямей) перасялены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як хутар Ясенаў, валоданне кн. Вішнявецкага, а ў 2-й палове 17 ст. — Канецпольскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 158 жыхароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Брагінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 355 жыхароў, школа граматы, вятрак, у Брагінскай воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 59 двароў, 335 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ясянёўскага сельсавета Брагінскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінец», працавалі цагельня (з 1928 г.), вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 42 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск і скульптурная кампазіцыя (партызан і дзяўчынка), пастаўленая ў 1970 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 504 жыхары. Была цэнтрам калгаса «Запаветы Леніна». Размяшчаліся млын, механічная і швейная майстэрні, васьмігадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі М.П.Ігнаценкі і доктара тэхн. навук. М.М.Ярмоленкі. Побач ёсць радовішчы гліны і торфу.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 34, воп. 1, спр. 807; ф. 46, воп. 1, спр. 5038; ф. 48, воп. 1, спр. 5038, 5039, 5040, 5041, 5042, 5045, 5046, 5090, 5091, 5092, 5097, 5098, 5099, 5100, 5101, 5104, 5105; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 1781, воп. 27, спр. 375.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 333, воп. 9, спр. 56, 58, 262, 343, 347, 349, 364, 698, 699, 700, 701, 701а, 702, 703, 715; ф. 2151, воп. 1, спр. 159.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 389, воп. 1, спр. 871; ф. 1290, воп. 11, спр. 1332.
Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. СПб., 1855.
Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Труды Минского губернского статистического комитета. Мн., 1870.
Список земледельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.
Памятная книжка Минской губернии. Т. 2. Мн., 1878.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 8. Речицкий уезд. Мн., 1879.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2. Могилев, 1884.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 13. Вильна, 1886.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. СПб., 1887.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—90 гг. Мг., 1889.
Волости и гмины. Ч. XXIII. Могилевская губерния. СПб., 1890.

Обзор Минской губернии за 1895 г. Мн., 1896.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.
Вся Россия. СПб., 1902.
Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II. Вильна, 1903.
Обзор Минской губернии за 1903 г. Мн., 1904.
Россия. Полное географическое описание. Т. 9. СПб., 1905.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Литовская метрика. Т. 1. СПб., 1910.
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 38, Вильна, 1914.
Литовская метрика. Т. 33. Ч. 3. Петроград, 1915.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Пг., 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1, 2. Мн., 1935.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.
Степаненко А. Непокоренные. Мн., 1970.
В грозные годы. Мн., 1973.
Сборник законов Белорусской ССР. Мн., 1974.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1982. № 2.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства. М., 1982.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944). Мн., 1995.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 3. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 5 (1427—1506). Вильнюс, 1993.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514). Вильнюс, 1995.



53°00'
Фундамінка
Выдрыца
Варварына
Мікалаеўка
Надзеждзіна
Любань
Прыбар
Сайгасная
Зорка
Чачо
Магілёў
Галавачы
Майсеейка
Аляксандраўка
Курганне
Антонаўка
Лозаў
Лозаўская-Рудня
Дзербічы
Рагінь
Факел
Слабодка
Салтанаўка
Негаўка
Буда-Люшаўская
Люшаў
п. Першамайскі
Каромка
п. Зарэчча
п. Зялёны Дуб
52°50'
Слабада-Люшаўская
Шутнае
п. Рошча
Бронніца
п. Буда
п. Якімаўка
Стрыкі
п. Нов. Забалоцце
Хмяльное
Любавін
Нов. Любавін
Ліпінічы
Забалоцце
п. Гародзішча
Забаб'е
Галы
Перамога
Шарыбаўка
Віктарынская Рудня
п. Мікольск
Харошаўка
Жлобін
п. Чырв. Гарадок
п. Дзёміна
п. Качан
Кастрычка
Зарэчча
п. Баркі*
п. Дубраўка
п. Муравей
п. Куляшова
Польпін
Сялец
п. Баявы*
п. Казі Рог
Гаўлі
Патапаўка
Брылёў
Кашалёў
п. Лук'янаў*
Рудня-Кашалёўская
п. Уютны
п. Нов. Жыццё
БУДА-КАШАЛЁВА
п. Вял. Мох
Леніна
п. Герой*
Лугінічы*
Ліпа*
Андрэеўка*
п. Нов. Гута*
Насьпа
Медзвядзёва
Мачулішча
п. Зацішша
п. Колас
Мікалаеўка
Залунеўе
Бурлак
п. Нов. Ліпа*
п. Камінтэрн
п. Вольны
п. Інтэрнацыянал
п. Дзікава
п. Беразоўка
Броды
п. Калацін*
п. Гара
п. Пабядзіцель
п. Беразіна
Дуравічы
Шырокае
Губічы
Жытанежжа
п. Папаратны
п. Рэкорд
п. Уборкі
Пыцькаўка
Бушаўка
Дубавіца
п. Красны Свет*
п. Бадзёры
п. Ветка
Акцябр
п. Краснагорск
п. Нов. Уза
п. Нов. Свет*
Васільеўка
Марозавічы
п. Высокая Грыва
Міхалёўка
п. Губіцкі Кардон
п. Ясная Паляна
Іванаўка
п. Зялёны Дуб
п. Ясакар
п. Зара
Чэрапаўка
п. Красны Акцябр
52°40'
п. Ясмень
п. Барок
Недайка
п. Берастоўка
п. Чырв. Свет
п. Славянец
Радзеева
п. Цёмны Восаў
п. Усход
Елянец
п. Асавок
п. Светлы
п. Чарняцін
Глазаўка
Пянчын
Завідаўка
Лапічы
Асобіна
п. Уладзіміраўка
п. Камунар
Клёнавіца
п. Баец
п. Нов. Свет
п. Тэклеўка
Блюдніца
Падсямёнаўка
Стар. Буда
п. Чырв. Сцяг
п. Пушча
п. Зялёны Востраў
п. Крылоў
п. Даліна
п. Багамолаўка
п. Першабацунскі
п. Красін
Уза
Смычок
п. Лявада
п. Красны
п. Савет
Уваравічы
Рудзянец
Калініна
Гарадок
п. Зарэчча
Аляксандраўка
п. Красн. Курган
п. Ленінскі
Крыйск
Бацунь
Нов.-Гусявіца
п. Чырв. Сцяг
п. Камсамольск
Зялёная
п. Стаўпішча
п. Порасля
Стар.-
30°45'
Гомель
п. Лебедзеў
п. Сенавец
п. Восаў
п. Пабеда
п. Грыгараўка
п. Баркі
Чабатовічы
п. Зарэчча
Людкава
Рудня-Альхоўка
п. Дунай
п. Чырв. Лужок
Лозкі
п. Яслішча*
Івольск
Гомель
Сінічына
30°15'
Хоўхла
п. Броськаў
п. Забродддзе
п. Расціробы
Маштаб 1 : 320 000
Васільполле
Бярвёнаўка
30°30'
РАГАЧОЎСКІ РАЁН
ЧАЧЭРСКІ РАЁН
ВЕТКАЎСКІ РАЁН
ГОМЕЛЬСКІ РАЁН
РЭЧЫЦКІ РАЁН
ЖЛОБІНСКІ РАЁН



# БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН

На ПнУ Гомельскай вобласці Беларусі, на левабярэжжы р. Дняпро. Утвораны 17.7.1924 г. З ліквідаванага 17.7.1962 г. Уваравіцкага р-на перададзены ў Буда-Кашалёўскі р-н Бярвёнаўскі, Блюдніцкі, Глазаўскі, Івальскі, Калінінскі, Крыўскі, Ліпскі, Смычкаўскі, Акцябрскі, Чабатовіцкі с/с і г.п. Уваравічы. 269 сельскіх населеных пунктаў. Адм. цэнтр г. Буда-Кашалёва. Плошча 1604 км$^2$, насельніцтва 40,9 тыс. чал. (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на працягу 1991—97 гг. пераселены ў чыстыя мясціны жыхары 23 населеных пунктаў (312 сямей, 569 чал.). Сярэдняя шчыльнасць 46 чал. на 1 км$^2$. Гар. насельніцтва складае 16%. Падзяляецца на 19 с/с, 1 гарадскі пасёлак (Уваравічы) і 1 горад (Буда-Кашалёва). Мяжуе на Пд з Гомельскім, на У з Веткаўскім і Чачэрскім, на Пн — Рагачоўскім, на З — Жлобінскім і Рэчыцкім р-намі Гомельскай вобл. Паверхня раўнінная. Пераважаюць вышыні 130—150 м, найвыш. пункт 157,6 м (каля в. Анастасьеўка). Радовішчы: торфу (Кабылянскае, 5,8 млн. т), 3 паклады глін і суглінкаў (6,8 млн. м$^3$). На З р. Дняпро з прытокам Чарамха, на У — правыя прытокі р. Сож — Уза з прытокамі Іволька і Хачэмля, Ліпа з прытокамі Гліна і Прудоўка, Чачора з прытокамі Дулепа, Любіча, Глыбокая. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя глееватыя і глеявыя, тарфяна-балотныя. Асушана 14,4 тыс. га балотаў і забалочаных зямель. 20% тэр. займаюць лясы. 12 калгасаў, 15 саўгасаў, эксперыментальная база. Тэр. раёна перасякаюць чыгунка Мінск—Гомель, шаша Доўск-Гомель і аўтадарога Бабруйск—Гомель, 39 агульнаадук. школ, Буда-Кашалёўскі агратэхн. каледж, 11 дашкольных устаноў, 35 публічных б-к, 40 клубных устаноў, 232 спарт. збудаванні, 7 бальніц, 36 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 132 магазіны і 60 прадпрыемстваў грамадскага харчавання. На тэр. раёна біял. заказнік Буда-Кашалёўскі.

**БУДА-КАШАЛЁВА** — горад раённага падпарадкавання, цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл., чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Гомель), за 48 км на ПнЗ ад Гомеля, 256 км ад Мінска. На Пд, У і З акаймаваны лесам. Аўтадарогамі звязаны з Гомелем, Уваравічамі, Чачэрскам. 9,5 тыс. жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1824 г. як в. Буда, у складзе казённага маёнтка, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічала карчма. У другой пал. 19 ст. назва набыла сучаснае гучанне, але да нашага часу большасць жыхароў раёна карыстаюцца старой назвай — Буда. З пачаткам будаўніцтва Лібава-Роменскай чыг. вёска хутка расла, па заканчэнні чыгункі



*Забудова вуліцы ў г. Буда-Кашалёва.*

ў ліст. 1873 г. пачала дзейнічаць чыг. станцыя III класа, на якой штогод адгружалася каля 90 тыс. пудоў лясных грузаў. Мелася паштова-тэлегр. аддзяленне. З 1888 г. працавала невял. прадпрыемства па вырабу драўляных дэталей для ткацкіх станкоў. Па перапісу 1897 г. ў Буда-Кашалёва меліся 63 двары, 487 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, вятрак, лаўка, аддзяленне паштовай сувязі, лесапільны з-д, карчма. У 1914 г. пабудавана новае памяшканне нар. вучылішча. На чыг. станцыі ўзводзіліся складскія і інш. гасп. збудаванні, на сельніцтва пас. станцыі ў 1909 г. склала 74 чал. З 1911 г. пры школе працавала бібліятэка. У сак.—ліст. 1918 г. Буда-Кашалёва акупіравана герм. войскамі. Актыўную барацьбу супраць акупантаў вёў створаны мясц. актывістамі баявы атрад. Вызвалена 30.11.1918 г. З 9.5.1923 г. да 17.7.1924 г. цэнтр Буда-Кашалёўскай вол. Гомельскай губ. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР. З 27.7.1924 г. цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. — Гомельскай вобл. У 1925 г. было 194 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь». З 1932 г. працавала МТС. У 1934 г. дзейнічалі шавецкая і кравецкая арцелі, маслазавод, МТС з рамонтнай майстэрняй, 4 ветракі і кузня. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак, 3400 жыхароў. У тым жа годзе ўзведзены двухпавярховы мураваны будынак сярэдняй школы. У 1939 г. 3,4 тыс. жыхароў. У пачатку Вял. Айч. вайны быў створаны атрад нар. апалчэння (310 чал., камандзір Даваләў). У сав. тыл была эвакуіравана тэхніка МТС. З жн. 1941 г. да 27.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. карнікі загубілі 485 чал. (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 1,5 км на Пн ад горада). Вызвалена 4-й стралк. дывізіяй (палк. Дз.Дз.Вараб'ёў) і 231-м танк. палком (падпалк. Ф.М.Кавалёў) 48-й арміі пры ўдзеле партызан. У баях за вызваленне Буда-Кашалёва загінуў 31 сав. воін (пахаваны ў брацкіх магілах на паўн.-ўсх. ускраіне і ў скверы па вул. Леніна). За час вайны загінулі 345 жыхароў. У 1959 г. 4600, у 1969 г. 7200 жыхароў. З 31.12.1971 г. горад раённага падпарадкавання.

Дзейнічаюць ільнозавод, масласыразавод, хлебазавод, пладова-агароднінны з-д, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і быт. абслугоўвання, птушкафабрыка, раённыя аб'яднанні «Сельгастэхнікі» і «Міжкалгасбуда», «Сельгасхіміі», агр.-тэхн. каледж (былы лясны тэхнікум), лясгас, аддз. электрасувязі і паштовай сувязі, аграхімлабараторыя, дом-інтэрнат для псіханеўралаг. хворых, аптэка, санэпідэмстанцыя, 2 сярэднія, муз. і дзіцячая спарт. школы, Дом культуры,



В.П.Дрозд.



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г. Буда-Кашалёва.



Бюст П.Я.Галавачову ў г. Буда-Кашалёва.

раённая і дзіцячая б-кі, раённая бальніца, дзіцячы сад, 3 дзіцячыя сады-яслі. Вядзецца мясцовае радыёвяшчанне, выдаецца раёная газета «Авангард» (з 1.10.1931 г.). У 1994 г. ўзведзены новы будынак Святамікалаеўскай царквы. Архіт. планіроўка горада складаецца з сеткі злучаных паміж сабой прамалінейных вуліц. На Пд, Пн і ПнУ вуліцы маюць арыентацыю, блізкую да мерыдыянальнай. Чыгунка падзяляе горад на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. часткі. Грамадскі цэнтр складаюць цэнтр. плошча і вул. Леніна, дзе размешчаны адм. будынкі, гандл. цэнтр і 2—5-павярховыя жылыя і грамадскія будынкі. Астатняя забудова пераважна драўляная. Радзіма віцэ-адмірала В.П.Дразда (загінуў 29.1.1943 г. ў час артабстрэлу на лядовай трасе пад Кранштатам, яго імем названы карабель на Паўн. флоце Расіі, адна з вуліц і пастаўлены помнік у Буда-Кашалёва), доктара гіст. навук, праф. Э.М.Савіцкага, доктара біял. навук Я.Г.Пятрова, Нар. артыста Беларусі Я.Ф.Пятрова, Засл. трэнера БССР кандыдата псіхал. навук Б.М.Зайцава, Заслужанага трэнера Р.Б.Басіна, майстроў спорту М.Р.Буслава і В.М.Жураўлёва, Засл. настаўніка БССР С.П.Зяцікава, паэта Г.Я.Адашкевіча. Адна з вуліц носіць імя Героя Савецкага Саюза Э.В.Лаўрыновіча, актыўнага ўдзельніка партыз. руху на Гомельшчыне (у 1943—46 гг. старшыня Буда-Кашалёўскага райвыканкома, ганаровы грамадзянін горада).

**АДЧАЯННЫ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 5 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На Пд меліярацыйныя каналы, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва — Гомель. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У пачатку 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 61 жыхар. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Забудаваны драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**АКЦЯБР** (да 30.12.1961 г. Сталіна) — вёска, цэнтр Акцябрскага с/с, за 22 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 15 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 26 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. На Пн меліярацыйны канал. 335 гаспадарак, 881 жыхар (2004 г).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (9 насыпаў, на паўн.-зах. ускраіне) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 6 двароў, 43 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Акцябрскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Абуджэнне», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 11 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 11 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі), 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 403 жыхары. Цэнтр саўгаса «Краснаакцябрскі». Аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца шыротная вуліца, на З — вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі (абапал шашы). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Акцябрскага с/с ўваходзілі да 1967 г. пас. Першамайск, да 1969 г. пас. Волкаў, Гром, да 1961 г. пас. Арол, да 1987 г. пас. Луч (не існуюць).

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Гусявіцкім с/с, за 25 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 12 км ад чыг. ст. Уза (на лініі





*Я.Ф.Пятроў.*

*Э.В.Лаўрыновіч.*

Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля, на р. Хачэмля (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Уваравічы—Зарэчча. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст., калі перасяленцы з суседніх вёсак заснавалі тут пасёлак. У 1926 г. 45 двароў, 277 жыхароў, у Старагусявіцкім с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. 37 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Па перапісу 1959 г. 323 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гусявіца). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Рагінскім с/с, за 27 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 73 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. У 1909 г. фальварак, 310 дзес. зямлі, 1 двор, 5 жыхароў, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1920-я г. ішло актыўнае засяленне былых памешчыцкіх зямель перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў, у Прыбарскім с/с Гарадзецкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дзейнічала падпольная група (15 чал.), якую ўзначальваў П.Я.Мацюшкоў. У сак. 1943 г. група склала аснову партыз. атрада на чале з П.Я.Мацюшковым. Па перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе саўгаса «Рагінь» (цэнтр — в. Рагінь). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, паралельных шыротных вуліц, рэдка забудаваных драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 26 км ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель). На З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 23 двары, 128 жыхароў, паштовае аддзяленне. У пачатку 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**АНДРЭЕЎКА** — вёска ў Шырокаўскім с/с, за 25 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 33 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). На Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (29 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (50 насыпаў, за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Ліпа, ва ўрочышчы Востраў) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з пачатку 20 ст. У 1909 г. хутар, 105 дзес. зямлі, 1 двор, 7 жыхароў, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. 32 двары, 175 жыхароў, у Чачэрскім р-не Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 45 двароў, 223 жыхары У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 21 двор, 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Уваходзіла ў склад калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная

вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Рагінскім с/с, за 23 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал. Побач шаша Доўск—Гомель. 19 гаспадарак, 38 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мяркулавіцкай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1880 г. 20 двароў, 120 жыхароў, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 22 двары, 169 жыхароў і аднайменны фальварак, млын. У 1909 г. 31 двор, 199 жыхароў, 165 дзес. зямлі. У 1918 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 25 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 176 жыхароў У складзе саўгаса «Дзербічы» (цэнтр — в. Дзербічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падп. і партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну А.М.Дземчанкі (камісар партыз. атрада, затым камандзір Буда-Кашалёўскай партыз. брыгады).

**АСАВОК** (да 1928 г. Стрэлка) — пасёлак у Старабудскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча канца 2-га — пачатку 1-га тыс. да н.э. (0,5 км на Пн ад пасёлка, на правым беразе р. Ваўчыца) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў другой палове 19 ст. Па перапісу 1897 г. хутар, 2 двары, 12 жыхароў. У 1909 г. 42 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 3 двары. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, няшчыльна забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**АСОБІНА** — вёска ў Камунараўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 5 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 22 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель, на Пн меліярацыйны канал. 61 гаспадарка, 131 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. 61 двор, 604 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 96 двароў, 653 жыхары, 1090 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Асобінскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. 37 яўрэйскіх сямей з Уваравіч перасяліліся ва ўрочышча Асобіна, дзе для іх было выдзелена 305 га зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бранявік», працавалі арцель па здабычы торфу і вятрак. У 1940 г. 110 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 12 двароў. У баях каля вёскі загінулі 8 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На фронце загінулі 36 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 466 жыхароў. Цэнтр міжгаспадарчага аб'яднання «Асобіна». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі шашы), да цэнтра якой далучаецца з У крыху выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара біял. навук, праф. Л.П.Смаляка. Побач размешчана радовішча суглінкаў (распрацоўваецца малым прадпрыемствам «Макаўе»).

**БАГАМОЛАЎКА** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раён-

нага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля. На Пн пачынаецца р. Івалька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў другой палове 19 ст. як хутар у Чабатовіцкай воласці Гомельскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. 2 двары, 28 жыхароў. У 1926 г. 10 двароў, 72 жыхары, паштовае аддз. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 46 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Крыўск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БАДЗЁРЫ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на ліні Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 35 гаспадарак, 79 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЕЦ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 40 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 34 гаспадаркі, 67 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 15 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 98 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БАЛДУІ** — пасёлак у Дуравіцкім с/с, за 3 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе, якія ідуць ад Буда-Кашалёва, 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. хутар, 1 двор, 5 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 67 жыхароў. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БАРАВОЕ ЛЯДА** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 1 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва, 139 гаспадарак, 361 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 34 жыхары. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРКІ** — пасёлак у Забалоцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 35 км ад Гомеля. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (12 сямей) перасялены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 10 двароў, 51 жыхар, у Чачэрскім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў

калгас. Па перапісу 1959 г. 76жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БАРКІ** — пасёлак ва Узаўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 24 км ад Гомеля, 4 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). На Пн і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Уваравічы—Буда-Кашалёва. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 43 двары, 226 жыхароў, паштовае аддзяленне. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе саўгаса «Праўда» (цэнтр — в. Уза). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРОК** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 16 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога, якая звязвае пасёлак з Буда-Кашалёвам. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 19 двароў, у Недайскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы ў 1943 г. базіраваліся партызаны 1-й Буда-Кашалёўскай брыгады. 16 пасялкоўцаў загінулі ў вайну. Па перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАЦУНЬ** — вёска ў Крыўскім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 31 км ад Гомеля. На Пд пяць невялікіх вадаёмаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 230 гаспадарак, 490 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. Сяло Бацуні пад 1503 г. пазначана ў перапісцы аб пагранічных спрэчках паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У сяле былі 3 дымы, 2 службы. Упамінаецца як в. Буцінічы ў матэрыялах 1526—27 гг. У 40-х г. 17 ст. па інвентары Гомельскага староства в. Бацуны, 3 дымы, 2 службы, 3 валы, 3 кані. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. цэнтр староства, у якое ўваходзілі 2 вёскі (240 жыхароў мужчынскага полу), належала Халецкім. У 1861 г. адбываліся хваляванні сялян у сувязі з прыцясненнямі з боку памешчыка, якія падаўляліся ваеннай сілай і судовымі пакараннямі. У 1872 г. адкрыта школа. Гаспадар аднаго фальварка меў у 1877 г. 280 дзес., другога — 623 дзес. зямлі. Па перапісу 1897 г. 75 двароў, 612 жыхароў, хлебазапасны магазін і фальварак (4 двары, 21 жыхар). У 1909 г. 103 двары, 834 жыхары, 1081 дзес. зямлі, школа, млын, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Бацуньскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. — Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пачатковая школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства, паравы млын. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 235 двароў, 882 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 17 двароў і загубілі 5 жыхароў. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 121 вясковец, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1968 г. каля будынка праўлення калгаса. Па перапісу 1959 г. 873 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Пашкоўскі. Цэнтр калгаса «Чырвоны шлях». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз.

сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з двух прамалінейных, паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На У ад іх праходзіць такой жа арыентацыі крывалінейная, крыху выгнутая шыротная вуліца, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Засл. настаўніка Беларусі Н.С.Пашэвіча.

**БАЯВЫ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (19 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 106 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 155 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БЕРАЗІНА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, чыг. ст. Бушаўка (на лініі Жлобін—Гомель), за 3 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 46 км ад Гомеля. На У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 45 гаспадарак, 76 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 212 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БЕРАЗОЎКА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 7 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 43 км ад Гомеля. На У, Пн і З меліярацыйныя каналы, на Пд р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 11 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы Н.В.Кастравай. Паблізу паклады жалезняка.

**БЕРАСТОЎКА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 46 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БЛЮДНІЦА** — вёска ў Камунараўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 24 км ад чыг. ст. Ціханавічы на лініі Жлобін—Гомель, на р. Журбіна (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 37 гаспадарак, 53 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (10 насыпаў, 0,2 км на ПдЗ ад вёскі, на могілках) і курган (0,3 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтай тэр. у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 104 двары, 725 жыхароў., школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У вясковай школе ў 1905 г. навучаліся 66 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак. У 1909 г. 136 двароў, 901 жыхар, 1304 дзес. зямлі, школа, млын. У 1926 г. 171 двор, аддз. сувязі, лаўка, школа. З 8.12.1926 г. да 28.6.1973 г. цэнтр Блюдніцкага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 326 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупанты спалілі 12 двароў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У складзе міжгаспадарчага прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — пас. Камунар). Пачатковая школа, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БРОДЫ** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 8 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 42 м ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Доўск—Гомель. 41 гаспадарка, 85 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 26 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРОННІЦА** — вёска ў Ліпініцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля, на р. Гліна (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 75 гаспадарак. 214 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (4 насыпы, за 2 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 15 гаспадарак, 5 з якіх займаліся пчалярствам. Гаспадар фальварка, што быў побач, валодаў у 1862 г. 5351 дзес. зямлі, вадзяным млынам, сукнавальняй і 4 корчмамі. Як значны населены пункт упамінаецца ў «Географо-статистическом словаре Российской империи». У 1876 г. 29 двароў. Па перапісу 1897 г. 52 двары, 403 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак, у фальварку — 17 жыхароў. У 1909 г. 62 двары, 473 жыхары, 456 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. У фальварку 500 дзес. зямлі, 4 двары, 16 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Перадавік» і «Чырвоны партызан», працавалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ў вёсцы і наваколлі базіраваўся партыз. атрад №108 імя Р.І.Катоўскага. Па перапісу 1959 г. 272 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Пад'ясень. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Пачатковая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы М.Я.Ткачовай, Засл. настаўніка А.С.Юркова і бел. пісьменніка А.С.Кейзарава.

**БРОСЬКАЎ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад раённага

цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 46 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БРЫЛЁЎ** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал. Побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 49 гаспадарак, 81 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Гаспадары фальварка Брылёў мелі ў 1858 г. 213 дзес. зямлі і сад. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 22 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 326 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара эканам. навук. С.Д.Бардунова.

**БУДА**, пасёлак у Ліпініцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў, у Ліпніцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Драўляная забудова ўздоўж кароткай, прамалінейнай шыротнай вуліцы.

**БУДА-ЛЮШАЎСКАЯ** — вёска, цэнтр Буда-Люшаўскага с/с, за 19 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 8 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 67 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож), якая бярэ пачатак непадалёку ад вёскі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 235 гаспадарак, 625 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (2 насыпы, за 1 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтай тэр. ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. Па рэвізіі 1858 г. 24 двары, 202 жыхары, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1876 г. 52 двары. У 1894 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сялянскай хаце, а ў 1908 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне (у 1907 г. 50 вучняў). Па перапісу 1897 г. 68 двароў, 482 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак, піцейны дом. У 1909 г. 71 двор, 597 жыхароў, 743 дзес. зямлі, млын, у Стара-Руднянскай воласці. У 1925 г. 153 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Буда-Люшаўскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дыктатура пралетарыяту», працавалі кузня і шавецкая арцель. У 1940 г. 165 двароў, 796 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 63 двары. У баях каля вёскі ў 1941 г. і 1943 г. загінулі 72 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля клуба). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 190 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае скульпт. кампазіцыя (1969 г.). Па перапісу 1959 г. 574 жыхары. Цэнтр калгаса імя У.І.Ульянава. Камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх паралельных крывалінейных мерыдыянальных вуліц, злучаных прамалінейнай шырот-

най вуліцай. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сял. сядзіб. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 107 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Засл. артысткі Беларусі В.М.Крыловіч і бел. паэта М.М.Чарняўскага.

У склад Буда-Люшаўскага с/с ўваходзілі да 1947 г. пас. Сталіна, да 1964 г. пас. Калініна, да 1969 г. пас. Асінаўка, да 1998 г. пас. Калініна (да 1937 г. імя Бухарына) — не існуюць.

**БУРЛАК** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 14 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля. На У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. Найбольш актыўнае засяленне вёскі прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», працавала кузня. Па перапісу 1959 г. 254 жыхары. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Засл. лесавода Беларусі Б.І.Анішчанкі.

**БУШАЎКА** — вёска ў Марозавіцкім с/с, за 4 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля, на аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 69 гаспадарак, 140 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1825 г. вёска з карчмой, у складзе казённага маёнтка Кашалёў. У 1847 г. 51 двор і 18 незаселеных участкаў, уласнасць казны. У 1884 г. 103 двары, 545 жыхароў, 3 ветракі. З 1886 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 140 двароў, 798 жыхароў, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1895 г.), 2 хлебазапасныя магазіны, 3 ветракі, вінная лаўка, карчма. У 1909 г. 868 жыхароў, 1010 дзес. зямлі, вінная лаўка, млын. У 1925 г. 151 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 52 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 342 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі аўтадарогі) і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**БУШАЎКА** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 9 двароў, 32 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 33 жыхары. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**БЯРВЁНАЎКА** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Буда-Кашалёва, 25 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 13 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Гаспадар фальварка, што быў побач, меў у 1897 г. 1600 дзес. зямлі. У 1883 г. дзейнічаў малітоўны дом. Па перапісу 1897 г. 36 двароў, 226 жыхароў. З



*М.М.Чарняўскі.*

30.12.1927 г. да 15.8.1974 г. цэнтр Бярвёнаўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 98 жыхароў. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 11 вяскоўцаў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Вялікі Рог. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Падсобная гаспадарка Гомельскага з-да станочных вузлоў. Драўляныя дамы сял. сядзіб уздоўж вясковай дарогі.

У склад Бярвёнаўскага с/с ўваходзілі да 1963 пас. Чыжаўка, да 1968 пас. Фашчоўка, да 1969 пас. Вялікі (не існуюць).

**БЯРОЗАВАЯ РОШЧА** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 22 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 31 жыхар. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Драўляная сял. хата каля прасёлачнай дарогі.

**ВАРВАРЫНА** (да 1928 г. Пастралкі), вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 30 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 78 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 13 двароў, 97 жыхароў, у складзе маёнтка Самуйлава. Па перапісу 1897 г. 27 двароў, 162 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 245 жыхароў, 309 дзесяцін зямлі, у Гарадзецкай вол. У 1925 г. 34 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы ў 1943 г. базіраваліся партызаны 1-й Буда-Кашалёўскай брыгады. У вайну загінулі 57 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВАСІЛЬЕЎКА** — пасёлак у Глазаўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 47 км ад Гомеля. На З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 20 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 31 двор, 182 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавалі кузня і ваўначоска. Па перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВАСІЛЬПОЛЛЕ** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 32 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як пасёлак у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. пасёлак (5 двароў, 28 жыхароў) і фальварак (3 двары, 16 жыхароў). У 1909 г. ў фальварку было 510 дзес. зямлі. У 1926 г. 25 двароў, 158 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Па перапісу 1959 г. 115 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары

пас. Хвашчоўка. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з двух невялікіх участкаў безсістэмнай забудовы драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма бел. мастака І.М.Цішына.

**ВЕТКА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 47 гаспадарак, 86 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1950 г. 147 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВІКТАРЫНСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыгуначнай станцыі Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 55 км ад Гомеля, на р. Гліна (прыток р. Ліпа) і аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1799 г. ва ўласнасці Дарыя-Дзерналовічаў. З 1846 г. працавала сукнавальня, з 1884 г. — хлебазапасны магазін. У 1896 г. 26 двароў. У 1909 г. вёска Рудня Віктарынская (яна ж Рудня Ліпініцкая), 228 дзес. зямлі, 30 двароў, 237 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар (7 жыхароў) і фальварак Віктарын, 9282 дзес. зямлі, 3 двары, 36 жыхароў. У 1925 г. 54 двары, у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 57 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 132 жыхары. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВОЛЬНЫ** — пасёлак у Губіцкім с/с, за 15 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 57 км ад Гомеля, на р. Чарамха (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВОСАЎ** — пасёлак у Івольскім с/с, за 21 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 26 км ад Гомеля, на р. Іволька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. У 1846 г. ў гэтых месцах памешчык Акушка меў 112 дзес. зямлі. Найбольш актыўна забудаваўся пасёлак у 1920-х г. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 14 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫДРЫЦА** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 27 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), на р. Дулепа (прыток р. Чачора). У даліне р. Дулепа створана вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. У 1816 г. слабада, 1 двор. Па

рэвізіі 1858 г. 7 двароў, 39 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Сенажэцкага. Па перапісу 1897 г. 14 двароў, 122 жыхары, хлебазапасны магазін, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 26 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Зялёны сад», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну загінулі 40 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 197 жыхароў. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Планіровачна складаецца з двюх кароткіх, паралельных мерыдыянальных вуліц, забудаваных драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВЫСОКАЯ ГРЫВА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 3 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 13 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 18 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 61 жыхар. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВЫСОКАЯ ГРЫВА** — пасёлак ва Уваравіцкім пасялковым Савеце, за 9 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 43 км ад Гомеля. На Пд і У меліярацыйныя каналы, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 37 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 143 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 244 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — в. Уваравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ВЯЛІКІ МОХ** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 1 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Гомель—Жлобін. 65 гаспадарак, 122 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАЛАВАЧЫ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 24 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 72 км ад Гомеля. На Пн р. Чачора (прыток р. Сож). Побач шаша Доўск—Гомель. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Маёнтак Галавачы аб'ядноўваў у 1765 г. 2 вёскі з 15 гаспадаркамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1845 г. дзейнічаў піцейны дом. У 1850 г. 12 двароў, 110 жыхароў, уласнасць казны. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні Я.Весялоўскай. У 1880 г. 53 двары, 312 жыхароў, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 73 двары, 483 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 93 двары, 555 жыхароў, 647 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 59 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 323 жыхары. У складзе саўгаса «Чачора» (цэнтр — в. Саўгасная). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака В.Б.Сідоркіна.

**ГАЛЫ** — вёска ў Патапаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 59 км ад Гомеля. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Побач быў аднайменны фальварак, гаспадар якога ў 1866 г. меў 988 дзес. зямлі. У 1868 г. 12 двароў, 194 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 292 дзес. зямлі. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 25 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРА** — пасёлак у Губіцкім с/с, за 16 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 25 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 43 двары, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 21 двор, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова няшчыльная, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Па перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 8 жыхароў, у Чабатовіцкай воласці. У 1909 г. 7 двароў, 42 жыхары, 182 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Памешчык тут меў 929 дзес. зямлі. У 1926 г. 17 двароў, 89 жыхароў, паштовае аддзяленне. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць паклады гліны.

**ГАРОДЗІШЧА** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Па перапісу 1897 г. хутар, 1 гаспадарка, 5 жыхароў, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Найбольш актыўнае будаўніцтва вялося ў 1920-х г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. некаторы час у пасёлку базіраваліся партызаны 1-й Буда-Кашалёўскай брыгады. 18 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 159 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ГАЎЛІ** — вёска ў Патапаўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 6 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 60 гаспадарак, 160 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1858 г. 31 двор, 184 жыхары. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У выніку пажару 1889 г. згарэлі 54 двары. Па перапісу 1897 г. 62 двары, 512 жыхароў, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1887 г.), хлебазапасны магазін, 3 ветракі, карчма. У 1909 г. 87 двароў, 627 жыхароў, 552 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1932 г. для вясковай школы пабудавана ўласнае памяшканне. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр Гаўлеўскага і з 13.2.1958 г. да 14.12.1961 г. Забабскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ураджай», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 600 землякоў, у тым ліку з суседніх вёсак, памяць аб якіх увекавечвае Курган Славы, узведзены ў 1969 г. за 2 км на У ад вёскі. Па перапісу 1959 г. 617 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Першамайскі. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Аддз. сувязі, клуб, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаюцца дзве крывалінейныя, злучаныя завулкам вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака М.І.Гуршчанкова, Засл. работніка аховы здароўя В.В.Зюзянкова, доктара медыцынскіх навук, праф. М.В.Зязюнкова, доктара эканам. навук В.С.Яцкова і генерал-лейтэнанта М.Ф.Казлова.

**ГЕРОЙ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 11 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 37 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (14 сямей) переселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 11 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 138 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма чл. кар. НАН Беларусі, доктара фізіка-матэмат. навук, праф. А.М.Сердзюкова.

**ГЛАЗАЎКА** — вёска, цэнтр Глазаўскага с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 55 км ад Гомеля. На Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 251 гаспадарка, 599 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Побач быў фальварак, гаспадар якога меў у 1870 г. 1283 дзес. зямлі і піцейны дом. У 1883 г. 112 двароў 743 жыхары, 3 ветракі і млын. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 168 двароў, 1147 жыхароў, Пакроўская царква (драўляная), вінная лаўка, карчма. У аднайменным фальварку 4 двары, 27 жыхароў, царква, карчма. Мелася нар. вучылішча (у 1907 г. 75 вучняў). У 1909 г. 192 двары, 1378 жыхароў, 1236 дзес. зямлі, царква, школа, казённая вінная лаўка, млын. У фальварку — 1387 дзес. зямлі, 34 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Глазаўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічала пачатковая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 13 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле за 0,2 км ад будынка праўлення

калгаса). На франтах загінулі 218 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 942 жыхары. У 1996 г. збудаваны новы будынак царквы. Цэнтр калгаса «Новае жыццё». Пякарня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца дзве працяглыя і дзве кароткія вуліцы, з Пд — дзве кароткія вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

У склад Глазаўскага с/с ўваходзілі да 1969 г. пас. Мікольск, да 1976 г. пас. Чыстае, да 1997 г. пас. Клянок (не існуюць). Паблізу ёсць паклады гліны.

**ГРЫГАРАЎКА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 9 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). На З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 23 двары, 167 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 28 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 143 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гусявіца). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ГУБІЦКІ КАРДОН** — пасёлак у Губіцкім с/с, за 22 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 59 км ад Гомеля, на р. Дняпро. На Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, на месцы, дзе здаўна дзейнічала невялікая прыстань на р. Дняпро. У 1909 г. 3 двары, 24 жыхары, 50 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 6 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 28.6.1943 г. 8 падрыўнікоў партыз. атрада імя В.І.Чапаева пасля выканання задання трапілі на паўд. ускраіне пасёлка на варожую засаду і ў няроўным баі загінулі. На месцы іх гібелі ў 1974 г. пастаўлена стэла. Па перапісу 1959 г. 31 жыхар. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**ГУБІЧЫ** — вёска, цэнтр Губіцкага с/с за 20 км на З ад Буда-Кашалёва, 8 км ад чыг. ст. Шарыбаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 56 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне р. Чарэмха (прыток р. Дняпро). Аўтадарога звязвае вёску з Буда-Кашалёва. 281 гаспадарка, 671 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. У 1525—27 гг. пазначана ў перапісцы Вялікага князя маскоўскага Васіля III і Вялікага князя ВКЛ і караля Польскага Жыгімонта I аб памежных міждзяржаўных спрэчках. У 1560 г. 3 дымы. У 1640-х г. па інвентару Гомельскага староства сяло, 15 дымоў, 4 службы, 12 валоў, 4 кані, 2 пустаўшчызны — Іванаўская і Захарынская. Пасля 1-га падзелу Рэчы



*Фрагмент інтэр'ера хаты. Вёска Губічы.*

Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 44 двары. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 73 двары, 388 жыхароў ва ўладанні памешчыкаў Чышчыцаў і Маеўскіх. Дзейнічалі вінакурня, суканавальня, пазней пачаў працаваць хлебазапасны магазін. У 1895 г. адкрыта школа граматы. Па перапісу 1897 г. 124 двары, 875 жыхароў, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, карчма. У 1909 г. 141 двор, 1004 жыхары, 1162 дзес. зямлі, млын, у Недайскай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. З 20.8.1924 г. цэнтр Губіцкага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 225 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы імя М.І.Калініна і імя Л.Б.Красіна, працавалі смолзавод, кузня, ваўначоска, 4 ветракі. У сав.-фінскую вайну 1939—40 гг. загінулі 3 вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну 17.8.1941 г. пры прарыве каля вёскі варожага акружэння часці 154-й стралк. дывізіі разграмілі штаб 134-й ням. пяхотнай дывізіі і захапілі каштоўныя дакументы. У ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі 113 двароў і загубілі 9 жыхароў. 2.3.1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які акупанты стварылі ў вёсцы. Каля вёскі загінулі 74 сав. воіны, сярод якіх воіны 96-й стралк. дывізіі 56-га стралк. корпуса, якія ўдзельнічалі ў вызваленні вёскі, і 11 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). 153 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 625 жыхароў. Цэнтр калгаса імя Ф.Энгельса. Базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін, аддз. сувязі, Дом рамёстваў. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і перакрыжаванай на У працяглай выгнутай вуліцай. З Пд да галоўнай далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. З 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 139 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Губіцкага с/с ўваходзілі да 1930 г. пас. Дубенск, да 1964 г. пас. Падлессе (да 1929 г. пас. Пяціхатка) — не існуюць.

**ДАЛІНА** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 46 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 20 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДЗЕДАЎ КУРГАН** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 7 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель), 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Па перапісу 1897 г. фальварак, 2 двары, 23 жыхары. У 1909 г. 4 двары, 15 жыхароў, 360 дзес. зямлі, у Недайскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1920-х г. вялася актыўная забудова пасёлка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізма», працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 22 пасялкоўцы. Па перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДЗЕМІДОЎКА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 4 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі

па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч вайны загінулі 15 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДЗЕРБІЧЫ** — вёска ў Рагінскім с/с, за 2 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 57 км ад Гомеля. Побач шаша Доўск—Гомель. 208 гаспадарак, 604 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. Праз вёску праходзіў тракт Рагачоў—Гомель. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. 12 двароў, 91 жыхар, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Побач быў маёнтак памешчыцы Сасноўскай. Значна пашырыліся сувязі вёскі з іншымі сяленнямі пасля ўводу ў эксплуатацыю ў 1850 г. шашы Доўск—Гомель. З 1878 г. працавала крупарушка. Гаспадар фальварка валодаў у 1870 г. 273 дзес. зямлі, памешчык Шаціла меў у 1884 г. 141 дзес. зямлі. У 1893 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. Па перапісу 1897 г. вёска (44 двары, 408 жыхароў, школа, хлебазапасны магазін, вінная лаўка), і 4 фальваркі (6 двароў, 38 жыхароў). У 1909 г. 48 двароў, 367 дзес. зямлі, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. вёска (59 двароў), пасёлак (12 двароў) і хутар (7 двароў), у Рагінскім с/с, Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 127 вяскоўцаў — воінаў і партызан — загінулі ў баях супраць акупантаў. Памяць аб абаронцах Радзімы ўвекавечвае пастаўленая ў 1966 г. каля школы скульпт. кампазіцыя. Па перапісу 1959 г. 626 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Дзербічы». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. З 1962 г. дзейнічае гідралагічны пост. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца прамалінейная шыротная вуліца, а на З — прамалінейная мерыдыянальная вуліца з завулкам. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ДЗЁМІНА** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 59 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Шарыбаўка (на лініі Жлобін—Гомель). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Па перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 10 жыхароў, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Актыўная забудова пасёлка прыпадае на 1920-я г. У 1925 г. 12 двароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДЗІКАВА** — пасёлак у Глазаўскім с/с, за 11 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 50 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Губічы—Буда-Кашалёва. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памеш-

чыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДОБРАЯ НАДЗЕЯ** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 17 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). Побач аўтадарога Чабатовічы—Уваравічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як памешчыцкі маёнтак. У 1846 г. 2 фальваркі, гаспадар аднаго з якіх меў 891 дзес., другога — 149 дзес. зямлі. У 1857 г. засн. мылаварня (5 рабочых). Па перапісу 1897 г. 8 двароў, 33 жыхары, невялікая фанерная фабрыка, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. 9 двароў, 73 жыхары, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 31 жыхар. У складзе калгаса «Чырвоны шлях» (цэнтр — в. Бацунь). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБАВІЦА** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 25 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал, паміж вуліцамі — невялікі вадаём, на У — урочышча Лосева. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 29 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 309 жыхароў. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з двух прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі на Пн і Пд. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 55 км ад Гомеля, 5 км ад чыг. ст. Шарыбаўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДУНАЙ** — пасёлак у Івольскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 26 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Целяшоўскай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1870 г. памешчык меў тут 1000 дзес. зямлі. Па перапісу 1897 г. фальварак Дунай (ён жа Бубнаўка), 5 двароў, 30 жыхароў. У 1926 г. 15 двароў, 58 жыхароў, паштовы пункт. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 39 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 15 двароў. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 103 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ДУРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дуравіцкага с/с, за 12 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 40 км ад Гомеля. Вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 225 гаспадарак, 638 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі тры курганныя могільнікі (65 насыпаў, за 2 км на ПнУ ад вёскі, 1,8 км на ПнЗ і 3 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых тэр. ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска ў Мінскім ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1483 г. даравана князю Мажайскаму. З 1492 г. ў валоданні А.Багданавай. Пад 1640-мі г. пазначана ў інвентары Гомельскага староства. Паводле прывілея караля Аўгуста III ад 5.11.1762 г. ў валоданні Фашчаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. З 1826 г. дзейнічала вінакурня памешчыка Дрыбінцава. Па рэвізіі 1858 г. 42 двары, 307 жыхароў, у валоданні Фашча, які меў тут і ў наваколлі ў 1862 г. 4153 дзес. зямлі, вадзяны млын і вятрак. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 93 двары, 651 жыхар, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, лаўка, карчма. У аднайменным фальварку, што быў побач, 28 жыхароў, капліца. У 1909 г. 108 двароў, 757 жыхароў, 802 дзес. зямлі, млын, вінкурня, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У фальварку 4700 дзес. зямлі, 36 жыхароў. У 1911 г. ўзведзены будынак і пачаліся заняткі ў нар. вучылішчы (у 1907 г. 55 вучняў). З 20.8.1924 г. цэнтр Дуравіцкага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны Кастрычнік» і «Чырвоны прамень», працавалі 3 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ў час падрыхтоўкі і правядзення аперацыі «Баграціён» у сувязі з вялікай працягласцю лініі фронту былі створаны два дапаможныя пункты кіравання войскамі 1-га Бел. фронту. Адзін з іх знаходзіўся ў вёсцы. 5.6.1944 г. маршал Г.К.Жукаў, камандуючы 1-м Бел. фронтам К.К.Ракасоўскі, член ваеннага савета М.А.Булганін, нач. штаба М.С.Малінін, камандзіры і начальнікі радоў войск абмяркоўвалі тут становішча на правым флангу фронту і мерапрыемствы, звязаныя з падрыхтоўкай наступлення. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 188 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1957 г. ў скверы. Па перапісу 1959 г. 903 жыхары. Цэнтр саўгаса «Дуравіцкі». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з трох прамалінейных вуліц (адна працяглая, дзве кароткія), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 100 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Дуравіцкага с/с ўваходзіў да 1976 г. пасёлак Лосеў (не існуе).

**ЕЛЯНЕЦ** — вёска ў Старабудскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёва (на лініі Жлобін—Гомель), 50 км ад Гомеля, на р. Недайка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 109 гаспадарак, 215 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, за 2,5—3 км на ПнУ ад вёскі, абапал лясной дарогі) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1525—27 гг. сяло Елянцы пазначана ў перапісцы Васіля III і Жыгімонта I па пытаннях пагранічных канфліктаў паміж Маскоўскай дзяржавай і Вял. княствам Літоўскім. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Недайскай вол. Беліцкага, затым Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1858 г. 40 двароў, 399 жыхароў, уладанне па-

мешчыка Перасвет-Солтана. Працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 103 двары, 701 жыхар, царк.-прыходская школа, 4 ветракі, крупарушка, кузня, карчма. З 1907 г. дзейнічала нар. вучылішча (62 вучні). У 1909 г. 119 двароў, 917 жыхароў, 1200 дзес. зямлі, школа, млын. У 1925 г. 147 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 арганізаваны калгас. У 1940 г. 215 двароў, 963 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 8 двароў і загубілі 4 жыхары. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульпт. кампазіцыя, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 691 жыхар. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Размешчаны падсобная гаспадарка «Ніва», камбінат быт. абслугоўвання, пачатковая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн пад прамым вуглом далучаюцца два завулкі і кароткая вуліца. На Пд амаль паралельна да галоўнай размешчана кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач паклады цагельных глін.

**ЖЫТАНЕЖЖА** — вёска ў Глазаўскім с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (157 м). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Губічы—Буда-Кашалёва. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 13 двароў, 135 жыхароў, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 43 двары, 371 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, 4 ветракі, у Недайскай вол. Гомельскага павета. У 1909 г. 55 двароў, 412 жыхароў, 926 дзес. зямлі. У 1912 г. ўзведзены будынак і пачаліся заняткі ў земскай школе. У 1925 г. 111 двароў, у Недайскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Трактар», працавалі кузня, вятрак. У Вял. Айч. вайну 28.11.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. На фронце загінулі 72 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 302 жыхары. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Засл. настаўніка Беларусі Г.М.Паўлавай.

**ЗАБАБ'Е** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Гомель), у Патапаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 62 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Рудзенка (прыток р. Окра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель, 30 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. Пад 1529 г. ўпамінаецца як сяло ў валоданні памешчыка Антановіча. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пасля ўводу ў дзеянне ў ліст. 1873 г. чыгункі Бабруйск—Гомель пачаў дзейнічаць раз'езд, а затым чыг. станцыя. Памешчык Кузняцоў меў тут 1327 дзес. зямлі і займаўся коневодствам. Па перапісу 1897 г. 44 двары, 286 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. Побач быў аднайменны фальварак. У 1900 г. ўзведзены будынак для школы і пачаліся заняткі. У 1909 г. 325 жыхароў, 340 дзес. зямлі, у Старарудняскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У фальварку было 1100 дзес. зямлі. З 21.8.1925 г. да 13.2.1958 г. цэнтр Забабскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. тры пасёлкі: Забаб'е I (15 двароў),

Забаб'е II (14 двароў) і Забаб'е III (15 двароў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 135 воінаў і 1 партызан, у ліку якіх воіны 197-й стралк. дывізіі 56-га стралковага корпуса, якія ў ліст. 1943 г. вызвалялі вёску (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне). На фронце загінуў 41 вясковец. Па перапісу 1959 г. 301 жыхар. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Пачатковая школа. Планіровачна складаецца з двух крывалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. і рус. казачніка П.П.Гаспадарава, які за ўдзел у выступленнях сялян у 1903 г. быў высланы з родных мясцін (у 1937 г. ад яго запісана 106 казак, пазначаных вялікай змястоўнасцю і жыццёвай праўдай) і генерал-маёра тэхн. войск А.Т.Мазгавога.

У склад Забабскага с/с ўваходзіў да 1939 г. пас. Паўднёвы Мікольск (не існуе).

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Шырокаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 48 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва і шашы Доўск—Гомель. На Пд і З меліярацыйныя каналы. На Пн бярэ пачатак р. Прудаўка (прыток р. Ліпа). 80 гаспадарак, 191 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (30 насыпаў, за 4,5 км ад вёскі, каля павароту дарогі ў г. Буда-Кашалёва) сведчыць аб засяленні ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1799 г. 48 гаспадарак, з якіх 20 займаліся пчалярствам, ва ўладанні Дарыя-Дзеналовічаў. З 1826 г. працавала вінакурня. Будаўніцтва шашы Доўск—Гомель у 1850 г. дало імпульс для развіцця вёскі, пашырыла яе транспартныя магчымасці. Гаспадар фальварка, што быў побач, валодаў у 1862 г. 4234 дзес. зямлі, карчмой і сукнавальняй. Упамінаецца ў «Географо-статистическом словаре Российской империи» (1863 г.) як значны населены пункт. Мелася Пакроўская царква. У 1877 г. палк. Храпавіцкі меў у вёсцы 3606 дзес. зямлі і 2 карчмы. Па перапісу 1897 г. 104 двары, 617 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 3 вятракі. У фальварку 30 жыхароў. У 1909 г. 665 жыхароў, 618 дзес. зямлі, у фальварку 36 жыхароў, 6410 дзес. зямлі. У тым жа годзе адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 136 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. і з 18.1.1965 г. цэнтр Забалоцкага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Селькор», працавалі торфараспрацоўчая арцель і кузня. У 1940 г. 747 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 9 двароў і загубілі 18 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 73 жыхары, памяць аб якіх ушаноўвае скульптурная група, пастаўленая ў 1956 г. ў цэнтры вёскі. Вызвалена 28.11.1943 г. Па перапісу 1959 г. 821 жыхар. Цэнтр калгаса «Іскра». Размешчаны млын, лесапільня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з ПдУ пад вострым вуглом далучаецца кароткая вуліца. На З галоўная вуліца ўтварае канфігурацыю, блізкую да квадрата. Жылыя дамы пастаўлены двухбакова, драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза А.Ц. Краўцова, Героя Сацыялістычнай Працы, Засл. машынабудаўніка БССР П.К.Кавалёва.



*А.Ц.Краўцоў.*

У склад Забалоцкага с/с ўваходзілі да 1939 г. хутар Дразды, пасёлак Красніца, да 1976 г. пас. Новая Харошаўка, да 1997 г. пас. Пахар, Усход, Доўгі, Курган (не існуюць).

**ЗАБРОДДЗЕ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАВІДАЎКА** — вёска ва Уваравіцкім пас. Савеце, за 17 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 29 км ад Гомеля, 1 км ад чыг. ст. Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель), на З і Пд р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 14 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як пасёлак у Гомельскім павеце Магілёўскай губ. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1926 г. 32 двары, 163 жыхары, у Лапіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі (да 26.7.1930 г.) з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Буда-Кашалёўскім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Завідаўка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — г.п. Уваравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара біял. навук, праф. Ф.Ю.Велічкевіча.

**ЗАЛУНЕЎЕ** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 4 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтамабільных дарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 11 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗАРА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 45 км ад Гомеля. На Пн р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 30 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 115 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Побач размешчаны паклады цагельных глін.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). На ПдУ і Пн мяжуе з лесам, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 75 гаспадарак, 224 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны

калгас «Пралетарый», працавала кузня. У 1940 г. 52 двары, 190 жыхароў. У кастр. 1943 г. ням. карнікі спалілі 49 двароў. Ад рук акупантаў загінулі 9 жыхароў. 14 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Па перапісу 1959 г. 294 жыхары. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на З далучаецца крывалінейная, рэдка забудаваная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — пасёлак у Буда-Люшаўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Буда-Кашалёва, 66 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 20 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 48 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 18 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗАРЭЧЧА** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 23 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 50 км ад Гомеля. На паўн. ускраіне р. Зыбіна (прыток р. Крапіўня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 50 гаспадарак, 98 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 55 двароў, 300 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. г. 294 жыхары. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗАСЦЕННЫ** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (10 сямей) перaселены ў 1990 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 17 двароў, 37 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 80 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы з драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Побач радовішча суглінкаў.

**ЗАЦІШША** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 18 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 29 км ад Гомеля. На У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (21 сям'я) перaселены.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 22 двары, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 пасялкоўцаў. Па перапісу

1959 г. 99 жыхароў. Уваходзіў у склад, саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗІМНІК** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 26 км ад Буда-Кашалёва, 10 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 22 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У складзе міжкалгаснага прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — пас. Камунар). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗОРКА** (да 1930 г. Самуйлаў) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 22 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель, 70 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 39 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1848 г. вёска і фальварак, 645 жыхароў, 3547 дзес. зямлі. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. цэнтр маёнтка, у які ўваходзілі 6 вёсак. У 1875 г. памешчык Супруненка меў тут 1816 г. дзес. зямлі. З 1909 г. дзейнічала школа. У 1929 г. да вёскі далучаны пас. Зборны. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы і наваколлі ў 1943 г. працяглы час базіраваліся партызаны 1-й Буда-Кашалёўскай брыгады. 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 361 жыхар. У складзе саўгаса «Чачора» (цэнтр — в. Саўгасная). Планіровачна складаецца з трох кароткіх прамалінейных вуліц рознай арыентацыі, забудаваных драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗЯЛЁНАЯ** (да 30.7.1964 г. Новая Жэзленка) — вёска у Чабатовіцкім с/с, за 22 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 31 гаспадарка, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як вёска Жэзленка, якая пазней падзялілася на дзве: Старая Жэзленка і Новая Жэзленка. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 24 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 149 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 3 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 48 км ад Гомеля. На Пн мяжуе з лесам, на Пд і З меліярацыйныя каналы.Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 7 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗЯЛЁНЫ** (да 30.7.1964 г. Старая Жэзленка) — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 37 гаспадарак, 51 жыхар (1999 г.).

Засн. ў 19 ст. як в. Жэзленка, якая пазней падзялілася на дзве: Старая Жэзленка і Новая Жэзленка. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 28 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЗЯЛЁНЫ ВОСТРАЎ** — пасёлак ва Уваравіцкім пасялковым Савеце, за 21 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 27 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Ціхінічы (на лініі Жлобін—Гомель). На ўсх. і паўн. ускраінах меліярацыйны канал, злучаны з р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 27 двароў, 130 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — г.п. Уваравічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ ДУБ** — пасёлак у Ліпініцкім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёва (на лініі Жлобін—Гомель), 61 км ад Гомеля. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 8 двароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі ад рук ням. акупантаў. Па перапісу 1959 г. 71 жыхар. У 1969 г. ў пасёлак перасяліліся жыхары пас. Гром. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ ДУБ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля, на Пн р. Уза (прыток р. Сож). На У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 66 гаспадарак, 183 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1929 г. арганізаваны калгас. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Па перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У 1969 г. ў пасёлак перасяліліся жыхары пас. Гром. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Глазаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 130 гаспадарак, 302 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Недайскай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 19 двароў, 216 жыхароў, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. Працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 81 двор, 645 жыхароў, школа граматы, 4 ветракі, крупарушка, кузня, карчма. Больш палавіны гаспадарак займаліся вырабам фурманак, вазоўдрабін, калёс, саней. У 1909 г. 97 двароў, 795 жыхароў, 1221 дзес. зямлі, царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 137 двароў. У 1926 г. 146 двароў, 70 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Агульная праца», дзейнічалі кузня і ваўначоска. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 86 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 434 жыхары. У складзе калгаса «Новае жыццё»

(цэнтр — в. Глазаўка). Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.



*П.С.Малчанаў.*

**ІВОЛЬСК** — вёска, цэнтр Івольскага с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 25 км ад Гомеля, на р. Іволька (прыток р. Уза). Паблізу аўтадарога Жлобін—Гомель. 167 гаспадарак, 486 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі два гарадзішчы (1 км на З ад вёскі, на левым беразе ракі) сведчаць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. З 1818 г. дзейнічала драўляная Праабражэнская царква. У 1848 г. 50 двароў. Побач з вёскай быў фальварак, гаспадар якога дваранін Баркоўскі меў у 1879 г. 330 дзес. зямлі, вятрак і піцейны дом. У 1883 г. 91 двор, 587 жыхароў, млын, цагельня, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 134 двары, 798 жыхароў, царква, вінная лаўка, школа граматы. У фальварку 2 двары, 12 жыхароў, карчма. Дзейнічала нар. вучылішча (адкрыта ў 1902 г., у 1907 г. 51 вучань). У 1909 г. 163 двары, 934 жыхары, 918 дзес. зямлі, царква, школа, казённая вінная лаўка, млын, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. 230 двароў, 1202 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Івольскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пачатковая школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. крэдытнае таварыства. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі нафтавы млын, вятрак, кузня, цыркулярка. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 8 воінаў і 6 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-ўсх. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 263 землякі з вёсак сельсавета, памяць аб якіх ушаноўваюць пастаўленыя ў 1973 г. стэла з барэльефнай шматфігурнай кампазіцыяй, дошка з надпісам-прысвячэннем і 2 пліты з імёнамі загінуўшых. Па перапісу 1959 г. 504 жыхары. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны лесапільня, млын, камбінат быт. абслугоўвання, мех. майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, якая ў цэнтры перакрыжавана прамалінейнай вуліцай, а з Пд да яе далучаюцца дзве прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. У 1996 г. адкрыта царква. Радзіма Нар. артыста БССР і СССР П.С.Малчанава,Засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі М.Ф.Пазнякова, генерал-лейтэнанта А.А.Маркава.

*Помнік землякам у в. Івольск.*



У склад Івольскага с/с ўваходзілі да 1936 г. пас. Крывуля, Свашын, да 1938 г. пас. Галыда, да 1968 г. пас. Пашкоўскі, да 1997 г. пас. Букалаў (не існуюць).

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ** — пасёлак у Губіцкім с/с, за 13 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. На Пн і З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Губічы—Буда-Кашалёва. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 10 двароў, загубілі 5 жыхароў. На фронце загінулі 4 пасялкоўцы. Па перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з двух мерыдыянальных кароткіх вуліц, забудаваных драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАВАЛЁВА** (да 1932 г. Антонцава) — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 3 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 112 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАЛАЦІН** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (18 сямей) пераселены ў 1990 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 63 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАЛІНІНА** (да 1984 г. Сямёнаўка), вёска ва Узаўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 14 км ад Гомеля, 4 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), на шашы Доўск—Гомель. На У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). 284 гаспадаркі, 704 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1858 г. 35 двароў, 227 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Сенажэцкага. З 1876 г. працавала крупарушка. У 1883 г. 110 двароў, 1180 жыхароў, пастаялы двор, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 165 двароў, 1342 жыхары, школа граматы, 2 лаўкі, 3 ветракі, крупарушка, кузня, карчма. У 1909 г. 202 двары, 1433 жыхары, 2361 дзес. зямлі, школа, вінная лаўка, млын, у Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Побач была аднайменная сядзіба. У 1926 г. 267 двароў, лаўка, паштовае аддзяленне, школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Калінінскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. разам з часцямі Чырвонай Арміі каля вёскі трымалі абарону гомельскія апалчэнцы. З ліст. 1941 г. да чэрв. 1942 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі І.Ф.Канцавы і Л.М.Кавальскі). У вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 35 двароў. У баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 6 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах загінулі 76 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 1154 жыхары. У складзе саўгаса «Праўда» (цэнтр — в. Уза). Размешчаны аддз. сувязі, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалі-

нейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (па абодва бакі шашы), да якой на З далучаецца выгнутая вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара с.-г. навук Н.Р.Бачылы, Засл. настаўніка Беларусі В.Д.Брундукова.

У склад Калінінскага с/с ўваходзілі да 1973 г. пас. Новы, да 1990 г. в. Рассветная і пас. Гудок (не існуюць).

**КАЛІНІНА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 14 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 6 км ад чыг. ст. Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 29 двароў, 190 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чангарская дывізія», працавалі кузня і вятрак. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 16 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАМЕНКА** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыходзіцца на 1920-я г. У 1926 г. 26 двароў, 113 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 6 жыхароў. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 98 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАМІНТЭРН** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад Буда-Кашалёва, 19 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля, на У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель, 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 15 двароў, 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 103 жыхары. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай крывалінейнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАМСАМОЛЬСК** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. На З — пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Забудова драўляная, рэдкая, хаатычная, сядзібнага тыпу.

**КАМУНАР**— пасёлак, цэнтр Камунараўскага с/с, за 27 км на ПдЗ ад Буда-Кашалёва, 29 км ад Гомеля, 4 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Побач шаша Доўск—Гомель. 893 гаспадаркі, 2458 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г., на былых памешчыцкіх землях, перасяленцамі з суседніх вёсак, якія стварылі камуну імя К.Маркса. У 1929 г. арганізаваны кал-

гас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 пасялкоўцаў. Пасёлак у 1967 г. атрымаў назву Камунар. З 28.6.1973 г. цэнтр Камунараўскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. У вер. 1968 г. да пасёлка далучаны пасёлкі Высокі і Папаратны. Цэнтр Гомельскай птушкафабрыкі. Размешчаны падсобная гаспадарка Узаўскага камбіната хлебапрадуктаў, Палац культуры, універмаг, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання, гасцініца, сярэдняя школа-інтэрнат, дзіцячы сад-яслі, бальніца, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. Праект забудовы выкананы ў 1968 г. Гомельскімі абл. праектнымі майстэрнямі ін-та «Белдзяржпраект». Пас. кампактны, з дзвюма ўзаемнаперпендыкулярнымі вуліцамі, на скрыжаванні якіх — плошча. Значную частку жылой забудовы складаюць мураваныя 2—5-павярховыя будынкі. Па выніках Рэсп. конкурсу 1967 г. забудова пасёлка ўдастоена дыплома 3-й ступені.

У склад Камунараўскага с/с уваходзілі да 1967 г. пас. Высокі, да 1968 г. Папаратны, да 1969 г. в. Селішча, да 1976 г. пас. Чыстая Лужа, да 1987 г. пас. Беразіна (не існуюць).

**КАНТАРОВІЧЫ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На У, Пн і З





Забудова цэнтральнай плошчы пас. Камунар.

меліярацыйныя каналы, на Пд р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 12 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАРОМКА** — вёска ў Рагінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 59 гаспадарак, 96 жыхароў (2004 г.)

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 30 двароў, 144 жыхары. У 1858 г. 159 жыхароў. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 49 двароў, 342 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 50 двароў, 443 жыхары, 398 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета. У 1925 г. 76 двароў, у Забалоцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Селянін». У Вял. Айч. вайну 28.11.1943

Панарама забудовы пас. Камунар.

г. вызвалена ад ням. фаш. захопнікаў, 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 421 жыхар. У складзе калгаса «Рагінь» (цэнтр — в. Рагінь). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з двума завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка І.І.Шальманава, ганаровага грамадзяніна г. Буда-Кашалёва Р.М.Купрыяшчанкі.

**КАСТРЫШЧА** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 4 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля. На Пн р. Ліпа і меліярацыйныя каналы, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 16 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 18 ст. У пачатку 19 ст. невялікае сяленне з карчмой. У 1850 г. 15 двароў, 55 жыхароў, у складзе Кашалёўскага казённага маёнтка. З 1883 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 29 двароў, 203 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 39 двароў, 278 жыхароў, 281 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1929 г. арганізаваны калгас. На фронце загінулі 32 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 265 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАЧАН** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 62 км ад Гомеля, 3 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 16 двароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 73 жыхары. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КАШАЛЁЎ** — вёска, цэнтр Кашалёўскага с/с, за 4 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 189 гаспадарак, 412 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,5 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Пад 1503 г. і 1508 г. сяленне Кашалёў Лес пазначана ў перамірчай грамаце і ў перапісцы вял. князя маскоўскага Васіля з каралём Жыгімонтам. У 1560 г. 12 дымоў, 4 службы, пустаўшчыны Хлусоўская, Пашкоўская, Гваздоўская, Дзербінская. У 1640-х г. па інвентары Гомельскага староства Кашалёва 12 дымоў, 4 службы, 16 валоў, 13 коней, Свята-Міхайлаўская царква. У 1765 г. маёнтак, валоданне Вышынскага, цэнтр староства, якое аб'ядноўвала 4 вёскі з 72 дварамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1807—09 гг. адбыліся выступленні сялян Кашалёўскай вол. супраць памешчыка. Доўгі час вёска была цэнтрам казённага маёнтка, у склад якога ў 1824 г. ўваходзілі вёскі Кашалёў, Кастрышча, Буда-Славянец, Сяльцо, Рудзенка, Бушаўка. З 1825 г. дзейнічала карчма (уладанне Солтана). Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. Па інвентары 1847 г. 103 двары і 42 незанятыя ўчасткі. У 1886 г. 176 двароў, 983 жыхары, школа (адкрыта ў 1845 г.), царква (валодала зямельным участкам і з 1830 г. сукнавальняй), бальніца, 2 ветракі. З другой паловы 19 ст. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.), у склад якой у

1890 г. ўваходзілі 38 сяленняў з агульнай колькасцю 1064 г. двары. Па перапісу 1897 г. 262 двары, 1643 жыхары, драўляная на мураваным фундаменце царква (згарэла ў 1953 г.), бальніца, вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны, лясніцтва, аддз. паштовай сувязі, 3 ветракі, 8 лавак, карчма. З 1898 г. працавалі 2 лесапільні. У 1908 г. арганізавана крэдытнае таварыства. У 1909 г. 1826 жыхароў, 2019 дзес. зямлі. Пры школе мелася б-ка. 22.10.1919 г. створаны Кашалёўскі валасны рэўком. З 20.8.1924 г. цэнтр Кашалёўскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны 2 калгасы, працавалі 3 ветракі, кузня, 2 конныя крупарушкі, нафтавы млын, народны дом. У Вял. Айч. вайну вызвалена 28.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 141 вясковец, памяць аб якіх ушаноўвае скульпт. кампазіцыя, пастаўленая ў 1966 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 662 жыхары. Цэнтр саўгаса імя П.Я.Галавачова. Маслазавод, базавая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма акадэміка АН БССР, доктара філасофскіх навук, праф., засл. дзеяча навукі БССР К.П.Буслава, двойчы Героя Савецкага Саюза, генерал-маёра авіяцыі П.Я.Галавачова (у Гомелі і Буда-Кашалёве помнікі, яго імем названы вуліцы ў Гомелі і Буда-Кашалёве, саўгас у Буда-Кашалёўскім р-не), актыўнага ўдзельніка партыз. руху ў Глускім р-не ў Вял. Айч. вайну В.М.Шваякова (быў камандзірам партыз. атрада), засл. ўрача Беларусі І.Е.Кутасава. Паблізу ёсць паклады гліны.

**КЛЕНАВІЦА** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1858 г. 15 двароў, 124 жыхары, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. Па перапісу 1897 г. 34 двары, 258 жыхароў, школа граматы. Побач быў аднайменны фальварак. Працавалі сукнавальня, вінакурня, з-д сухой апрацоўкі драўніны, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, крупарушка. У 1909 г. 49 двароў, 240 жыхароў, 513 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У фальварку 12 двароў, 23 жыхары, 4300 дзес. зямлі, шкляное і вугальнае прадпрыемствы, млын. У 1926 г. 61 двор, 325 жыхароў, паштовае аддз., школа. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 75 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 71 двор, 64 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 266 жыхароў. У 1987 г. да вёскі далучаны пас. Пралетарый. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КОЗІ РОГ** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 6 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Каля пасёлка ў 1960 г. і ў 1980 г. выяўлены два скарбы. Знойдзеныя рэчы, вырабленыя ў старажытнарускай ювелірнай майстэрні, захоўваліся з канца 11 да пачатку 13 ст., што сведчыць аб дзейнасці тут чалавека ў далёкай мінуўшчыне. Сучасны пасёлак засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 98 жыхароў. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КОЛАС** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі





*К.П.Буслаў.*

*П.Я.Галавачоў.*

Жлобін—Гомель). На У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 11 двароў, 50 жыхароў, у Ліпскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 32 жыхары. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Забудова драўляная сядзібнага тыпу ўздоўж вясковай дарогі.

**КРАСІН** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 1 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 26 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 9 двароў, 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 166 жыхароў. У складзе міжгасп. аб'яднання «Асобіна» (цэнтр — в. Асобіна). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНАБУДСКІ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 48 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 87 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 101 жыхар. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРАСНАГОРСК** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 29 км ад Гомеля. На Пд, З і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 39 двароў, 185 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала арцель па здабычы торфу. У 1940 г. 49 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 20 двароў, 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 202 жыхары. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ПЛОШЧАДЗЬ** — пасёлак у Івольскім с/с, за 20 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 26 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРАСНЫ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. Побач аўтамабільная дарога Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 96

жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 21 жыхар. Па перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРАСНЫ АКЦЯБР** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 15 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 23 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. 21 гаспадарка, 46 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседняй вёскі Чэрапаўка на былых памешчыцкіх землях. Першапачаткова пасёлак вядомы пад назвай Чэрапаўка-II, у 1924 г. атрымаў сучасную назву. У 1926 г. 8 двароў, 36 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі (абапал шашы) і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРАСНЫ КУРГАН** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 50 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 23 гаспадаркі, 32 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі два курганныя могільнікі (18 і 50 насыпаў, за 1 і 1,5 км на ПнЗ ад пасёлка) сведчаць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 19 двароў, 98 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 13 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). Па перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРАСНЫ СВЕТ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак.У 1925 г. 15 двароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 54 жыхары. 1969 г. ў пасёлак перасяліліся жыхары суседняга пас. Янаўка. Уваходзіў у склад калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з двух кароткіх амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, забудаваных аднабакова драўлянымі сял. хатамі.

**КРЫЛОЎ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 72 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 14 двароў, 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРЫЎСК** — вёска, цэнтр Крыўскага с/с, за 16 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля, на р.

Іволька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 272 гаспадаркі, 694 жыхары (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы ў 1901 г. скарб з іспана-нідэрландскіх, галандскіх, польскіх і іншых манет 17 ст. сведчыць аб дзейнасці чалавека на гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Чабатовіцкай вол. Беліцкага павета Магілёўскай губ. Памешчыца Пазняк мела ў вёсцы ў 1830 г. 251 дзес. зямлі і млын. Затым вёска была ў валоданні памешчыкаў Радзевіча і Караткевіча. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ў складзе маёнтка Аляксандрава, у валоданні В.Быкоўскага. Гаспадар аднайменнага маёнтка валодаў у 1878 г. 1028 дзес. зямлі і піцейным домам. Дзейнічала Мікалаеўская царква на могілках, якая ў 1876 г. была капітальна адрамантавана. У 1883 г. 82 двары, 384 жыхары, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета. Па перапісу 1897 г. 150 двароў, 964 жыхары, царква, 2 хлебазапасныя магазіны, 2 ветракі, 2 маслабойні, карчма. У нар. вучылішчы ў 1907 г. было 67 вучняў. З 8.12.1926 г. цэнтр Крыўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавалі ільнозавод (з 1932 г.), шавецкая майстэрня, кузня, 2 ветракі, сталярня. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 158 жыхароў, памяць аб якіх ушаноўвае скульпт. група і сцяна з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1973 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 719 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Будзішча і Дубраўка. Цэнтр калгаса імя В.І.Чапаева. Ільнозавод, лесапільня, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з З пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На У паралельна да галоўнай ідуць тры кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. пісьменніка М.Н.Карпачова.



*М.Н.Карпачоў.*



*Помнік землякам у в. Крыўск.*

У склад Крыўскага с/с уваходзілі да 1936 г. пас. Яначкаў, да 1969 г. пас. Будзішча, Дуброўка, Рагавы, да 1997 г. пас. Першамайскі (не існуюць).

**КУЛЯШОВА** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 14 двароў, 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 195 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КУЧЫНСК** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 37 км ад Гомеля. На ПдЗ і У меліярацыйныя каналы. Побач шаша Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Па перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 10 жыхароў. У 1925 г. 17 двароў, у Забалоцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КУЛЯШОЎКА** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 54 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў другой палове 19 ст. Па перапісу 1897 г. выселак Куляшоўка (ён жа Сялец), 12 двароў, 97 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1925 г. 18 двароў, у Кашалёўскім с/с Бабруйскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 14 двароў. Па перапісу 1959 г. 147 жыхароў. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Паблізу ёсць паклады гліны.

**КУРГАННЕ** — вёска ў Рагінскім с/с, за 24 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 16 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні. Па перапісу 1897 г. 14 двароў, 107 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 фальваркі. У 1925 г. пасёлак (5 двароў) і аднайменны хутар (9 двароў), якія пазней аб'ядналіся ў адзін населены пункт. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзербічы» (цэнтр — в. Дзербічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛАПІЧЫ** — вёска ва Уваравіцкім пасялковым Савеце, за 16 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 30 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель). На З меліярацыйны канал, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 64 гаспадаркі, 126 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Некаторы час уваходзіла ў склад Чарнігаўскага княства. Пад 1508 г. пазначана ў перапісцы вял. князя маскоўскага Васіля III з каралём Жыгімонтам. Упамінаецца ў 1526—27 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Пазначана ў інвентары Чачэрскага староства 1726 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1864 г. 67 двароў, 318 жыхароў, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. вёска (49 двароў, 315 жыхароў, хлебазапасны магазін) і аколіца (120 двароў, 773 жыхары, 5 ветракоў, крупарушка, 2 кузні, вінная лаўка), у Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддзяленне, 2 пачатковыя школы, паравы млын. З 8.12.1926 г. да 16.5.1954 г. цэнтр Лапіцкага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны кал-

гас імя В.М.Молатава, працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну загінулі 59 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 455 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — г.п. Уваравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. На ПнУ невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Б.Т.Барэйшы.

**ЛЕБЕДЗЕЎ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У хуткім часе тут пачаў працаваць вятрак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 56 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в.Чабатовічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЕНІНА** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 6 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 42 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 44 двары, у Дуравіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 22 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Чабатовічы—Уваравічы. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 16 двароў, 104 жыхары, у Чабатовіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінец», працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 22 пасялкоўцы. Па перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛІПА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 18 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 29 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). На Пд і Пн мяжуе з лесам. Побач шаша Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. ва ўладанні Дарыя-Дзерналовічаў. З 1840 г. працавала сукнавальня. У 1850 г. побач пракладзена шаша Пецярбург—Кіеў. Мелася паштовая станцыя (у 1870 г. 5 коней). У 1880 г. 71 двор, 391 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 126 двароў, 752 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, вадзяны млын, сукнавальня. Побач былі хутары Ліпа і Старая Ліпа. У 1909 г. 797 жыхароў, 1170 дзес. зямлі, млын, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У час наступлення немцаў у 1918 г. парты-

заны разбілі ням. атрад, узялі палонных і трафеі. Пасля гэтага карнікі спалілі вёску і расстралялі частку вяскоўцаў, у ліку якіх былі старыя і дзеці. У 1926 г. 114 двароў, хата-чытальня, лаўка, паштовае аддз., пачатковая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ліпа», працавалі вятрак і кузня. З 8.12.1926 да 8.12.1966 г. цэнтр Ліпаўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі і суседніх населеных пунктаў загінулі 31 воін і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне), 94 вяскоўцы загінулі ў час вайны. Па перапісу 1959 г. 461 жыхар. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Волкаў і Гарадзец. Уваходзіла ў склад саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой на У пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІПІНІЧЫ** — вёска, цэнтр Ліпініцкага с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля, на р. Гліна (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 68 гаспадарак, 179 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Упамінаецца пад 1503, 1526—27 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Пад 1560 г. пазначана ў Актах Галоўнага Літоўскага трыбунала. У 1566 г. зямля Сарыбаўшчына, прыпісаная да в. Ліпінічы, перададзена Б.Даніловічу. Па вопісу 1567 г. маёнтак Ліпінічы павінен быў выдзяляць сваіх апалчэнцаў для фарміравання ўзброеных атрадаў ВКЛ. У 40-х г. 17 ст. пазначана ў інвентары Гомельскага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 67 двароў, 459 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 70 двароў, 517 жыхароў, 497 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У пачатку 1920-х г. для школы было выдзелена нацыяналізаванае памяшканне. Некаторы час пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі ў вясковай школе працаваў будучы нар. пісьменнік і акад. АН БССР М.Ц.Лынькоў. Ён жа ў час акупацыі вёскі герм. войскамі ў 1918 г. быў адным з арганізатараў партыз. атрада. У 1925 г. 122 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Ліпініцкага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1940 г. 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 8 двароў, 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Вызвалена 28.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 303 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура жанчыны з лаўровым вянком, пастаўленая ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 412 жыхароў. Цэнтр калгаса «Зара». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з двума завулкамі, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова пераважна драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь В.В.Крэпастнова.



*М.Ц.Лынькоў.*

У склад Ліпініцкага с/с уваходзілі да 1969 г. пас. Пад'ясень, да 1982 г. пас. Пяцідворка, да 1989 г. пас. Барок, да 1997 г. пас. Дубраўка і Зялёная Рошча (не існуюць).

**ЛОЗАЎ** — вёска ў Рагінскім с/с, за 21 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—

Гомель), 57 км ад Гомеля. На паўн. ускраіне р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 84 гаспадаркі, 136 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. У 1765 г. маёнтак, 16 двароў, 104 жыхары мужчынскага полу, належала Завадскім. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1845 г. 37 двароў, вадзяны млын, карчма (каля прасёлачнай дарогі), хлебазапасны магазін, лазня. Побач быў фальварак. У «Географо-статистическом словаре Российской империи» (1863 г.) пазначана як сяло. Школа граматы, млын, сукнавальня, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета. У 1885 г. ў наваколлі працавала Зах. меліярацыйная экспедыцыя ген. Жылінскага. Па перапісу 1897 г. 92 двары, 578 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 103 двары, 644 жыхары, 1241 дзес. зямлі. У 1925 г. 130 двароў, у Прыбарскім с/с Гарадзецкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну загінулі 110 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 614 жыхароў. У складзе калгаса «Рагінь» (цэнтр — в. Рагінь). На ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Беліца, вядуцца торфараспрацоўкі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пд паралельна да яе праходзіць кароткая вуліца, да якой з ПдЗ далучаецца другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛОЗАЎСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Рагінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. На ўсх. ускраіне меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачора (прыток р. Сож). Побач шаша Доўск—Гомель. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1881 г. 32 двары, 198 жыхароў. Па перапісу 1897 г. Рудня Лозаўская (яна ж Рудзенка), 46 двароў, млын, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 301 жыхар, 431 дзес. зямлі. У 1925 г. 45 гаспадарак, у Рагінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі ад рук ням. карнікаў, 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 249 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзербічы» (цэнтр — в. Дзербічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Невялікая частка забудовы размешчана за каналам, на У ад галоўнай вуліцы. Радзіма засл. настаўніка Беларусі К.П.Лусікавай.

**ЛОЗКІ** — вёска ў Івольскім с/с, за 20 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 24 км ад Гомеля, на зах. ускраіне р. Канава Красная (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 23 гаспадаркі, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Беліцкім, затым Гомельскім паветах Магілёўскай губ. У 1816 г. 8 двароў. Па рэвізіі 1858 г. ў валоданні памешчыка Клячкоўскага. У 1909 г. 30 жыхароў, у Целяшоўскай вол. У 1926 г. 15 двароў, 100 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Лозкі», працавалі вятрак і кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 28 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца з Пд крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУГАВЫ** (да 4.12.1964 пас. імя Сталіна) — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 56 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛУГІНІЧЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 14 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 34 км ад Гомеля. На Пд, У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, а затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (47 сем'яў) пераселены ў 1990—93 гг. у чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Упамінаецца ў матэрыялах 1525—27 гг. аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У інвентары Чачэрскага староства 1704 г. пазначана як вёска. Па вопісу Чачэрскага староства 1765 г. 17 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ў складзе Чачэрскага маёнтка графа І.І.Чарнышова-Круглікава. З 1884 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін, школа граматы, млын, у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 46 двароў, 335 жыхароў, 367 дзес. зямлі. У 1926 г. 62 двары, 363 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Лугініцкага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Баявы», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну загінуў 51 вясковец. Па перапісу 1959 г. 241 жыхар. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛУК'ЯНАЎ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 35 км ад Гомеля. На У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджанннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (6 сямей) пераселены ў 1990 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 17 двароў, 77 жыхароў, у Лугініцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1928 г. арганізаваны калгас «Верны шлях». Па перапісу 1959 г. 82 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛЮБАВІН** — вёска ў Буда-Люшаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1868 г. 29 двароў, 194 жыхары. У 1885 г. адкрыта школа (у 1907 г. 71 вучань), якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. ёй быў перададзены нацыяналізаваны будынак. Па перапісу 1897 г. 53 двары, 388 жыхароў, 2 ветракі, вінная лаўка. У 1925 г. 95 двароў. Пераважную большасць жыхароў складалі польскія сем'і. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Любавінскага с/с

Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага, працавала кузня. Дзейнічаў урачэбны ўчастак. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 53 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 251 жыхар. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Асінаўка. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Планіровачна складаецца з крывалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай на Пн кароткай прамалінейнай вуліцай. У цэнтры да гал. далучаецца з У кароткая дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЮБАНЬ** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 26 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 74 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, далей па шашы Доўск—Гомель. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1816 г. 87 жыхароў. Па рэвізіі 1858 г. 128 жыхароў, у складзе маёнтка Самуйлава, уладанне памешчыка Варварына. У 1886 г. 17 двароў, 134 жыхары, Свята-Мікалаеўская царква, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 31 двор, 215 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 33 двары, 386 жыхароў, 693 дзес. зямлі, царква, школа, у Гарадзецкай вол. У 1930 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 25 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 235 жыхароў. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛЮБЕНЬ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. На Пд р. Крапіўня (прыток р. Дняпро), на З мяжуе з урочышчам Бархаўская Дача. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 38 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЮБІЦА** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛЮДКАВА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 29 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганы паблізу пасёлка сведчаць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыходзіцца на 1920-я г. У 1926 г. 18 двароў, 97 жыхароў, у Старагусявіцкім с/с Увараціцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 15 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 66 жыха-

роў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Старая Гусявіца). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЛЮШАЎ** — вёска ў Ліпініцкім с/с, за 16 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 64 км ад Гомеля. На У р. Гліна (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ва ўладанні Солтанаў, дзе знаходзіўся іх фамільны склеп з грабніцамі. У пачатку 17 ст. пабудаваны касцёл. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Па інвентары 1848 г. вёска і фальварак (183 жыхары) у складзе памешчыцкага маёнтка, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. У 1858 г. 26 двароў, касцёл. У 1878 г. Солтаны мелі ў вёсцы і наваколлі 1413 дзес. зямлі, карчму, 2 млыны і крупарушку. У 1885 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. Па перапісу 1897 г. 39 двароў, 245 жыхароў, хлебазапасны магазін (1884 г.). Побач быў аднайменны фальварак, дзе меўся вятрак. У 1909 г. 290 жыхароў, 380 дзес. зямлі і 15 дзес. зямлі ва ўладанні касцёла. У 1925 г. 112 двароў, у Любавінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня і нафтавы млын. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 39 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 273 жыхары. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Негаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы, паралельна да якой на З праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць паклады гліны.

**ЛЯВАДА** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 12 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца пад прамым вуглом другая кароткая вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**МАЙСЕЕЎКА** — вёска ў Рагінскім с/с, за 25 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 55 км ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. 38 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска, заснаваная перасяленцамі пераважна з в. Галавачы, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. в. Майсееўка (яна ж Новыя Галавачы), 32 двары, 205 жыхароў, хлебазапасны магазін (з 1884 г.), заезны дом. У 1909 г. 40 двароў, 235 жыхароў, 326 дзес. зямлі. У 1925 г. 61 двор, у Прыбарскім с/с Гарадзецкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі ад рук ням. акупантаў, 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 360 жыхароў. У складзе саўгаса «Дзербічы» (цэнтр — в. Дзербічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з трыма завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пд ад га-

лоўнай размешчана кароткая мерыдыянальная (па абодвух баках шашы) вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МАКАЎЕ** — пасёлак у Глазаўскім с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 11 двароў, 71 жыхар, у Глазаўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 10 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МАКАЎЕ** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 5 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 20 км ад Гомеля. Побач шаша Доўск—Гомель. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Размешчаны цагельны завод «Макаўе». Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МАР'ІНА ПОЛЕ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Па перапісу 1897 г. ў пас. Мар'янполле 9 двароў, 63 жыхары, 2 млыны. У 2004 г. 12 двароў, 70 жыхароў, 148 дзес. зямлі, у Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 20 двароў, у Недайскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 44 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай аднабакова, рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**МАРОЗАВІЧЫ**, вёска, цэнтр Марозавіцкага с/с, за 5 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 135 гаспадарак, 389 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў 1503 г., 1526—27 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1560 г. 4 дымы, 1 служба, пустаўшчызны Белавішчына і Міхалёўшчына. У 1640-х г. па інвентары Гомельскага староства сяло, 4 дымы, 2 службы, 5 валоў, 3 кані, 2 пустаўшчызны. Пад 1752 г. пазначана ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1855 г. дзейнічалі прадпрыемства па вырабе цукру, вінакурня і хлебазапасны магазін. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні памешчыка Г.В.Ляшкевіча. У 1882 г. 79 двароў, 514 жыхароў. Мелася народнае вучылішча (у 1907 г. 58 вучняў). Па перапісу 1897 г. вёска (124 двары, 734 жыхары, хлебазапасны магазін) і фальварак (3 двары, 11 жыхароў). У 1909 г. 153 двары, 1059 жыхароў, 880 дзес. зямлі, школа, млын, у Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. З 16.7.1954 г. цэнтр Марозавіцкага с/с. У 1925 г. 275 двароў, у Буда-Кашалёўскім р-не Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 118 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 423 жыхары. Цэнтр саўгаса «Марозавічы». Базавая школа,

Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзетсад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай шыротнай вуліцы, да зах. канца якой далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі Д.І.Сапліцкага.

У склад Марозавіцкага с/с уваходзілі да 1976 г. пас. Восаў і Галенкі (не існуюць).

**МАТЫЛЁЎКА** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 17 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1920 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 36 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в Крыўск). Прамалінейная амаль шыротнай арыентацыі вуліца забудавана рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**МАЧУЛІШЧА** — вёска ў Дуравіцкім с/с, за 7 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 43 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Буда-Кашалёва. 13 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з другой паловы 19 ст. як засценак у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. 1 двор, 8 жыхароў. У 1925 г. 25 двароў, у Дуравіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. Побач быў аднайменны хутар, 9 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 10 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе саўгаса «Дуравіцкі» (цэнтр — в. Дуравічы). Клуб і б-ка. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**МЕДЗВЯДЗЁВА** — вёска ў Патапаўскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. На У і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Гомель. 35 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. як сяленне ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 17 вяскоўцаў. У 1950-х г. дзейнічала база Буда-Кашалёўскай МТС. Па перапісу 1959 г. 381 жыхар. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца з ПнУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІГАЙ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля. На Пд і З меліярацыйныя каналы, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Драўляныя дамы сял. сядзіб пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Губіцкім с/с, за 22 км на З ад Буда-Кашалёва, 65

км ад Гомеля, 14 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель). Вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Недайскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па перапісу 1897 г. 23 двары, 140 жыхароў. У 1909 г. 195 жыхароў, 160 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 12 двароў, 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Паблізу ёсць паклады жалезняку.



*С.А.Панамароў.*

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска, цэнтр Мікалаеўскага с/с, за 27 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 150 гаспадарак, 392 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1848 г. ва ўладанні памешчыка былі вёска і фальварак. У 1852—67 гг. працаваў цукровы з-д. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ў складзе маёнтка Самуйлаў. Па перапісу 1897 г. 53 двары, 335 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, кузня. У 1909 г. ў валоданні вяскоўцаў былі 435 дзес. зямлі, а 37 дзес. належылі Любанскай царкве. У 1925 г. ў вёсцы 62, на хутары 7 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 73 двары, 269 жыхароў У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1944 спалілі 47 двароў. За час вайны загінулі 105 жыхароў Па перапісу 1959 г. 371 жыхар. З 28.6.1973 г. цэнтр Мікалаеўскага с/с. Цэнтр саўгаса «Шлях Ільіча». Лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Героя Савецкага Саюза С.А.Панамарова і засл. дзеяча культуры БССР, дзяржаўнага дзеяча Беларусі Р.Я.Кісялёва (яго імя носіць вясковая сярэдняя школа), засл. настаўніка Беларусі В.Н.Кісялёва. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Мікалаеўскага с/с уваходзілі да 1928 г. пас. Азэтаўка, да 1929 г. пас. Зборны, да 1930 г. пас. Міхееў, да 1969 г. пас. Зялёны Краж, в. Анастасеўка (не існуюць).

**МІКОЛЬСК** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 38 км ад Гомеля. На Пд і З мяжуе з лесам і праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў другой палове 19 ст. Па перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. 416 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. пасёлкі Мікольск-І (23 двары) і Мікольск-ІІ (18 двароў) у Забалоцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 19 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 226 жыхароў. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**МІХАЛЁЎКА** — вёска ў Шырокаўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 28 км ад Гомеля, 17 км ад чыг. ст.

Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель). На Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 31 гаспадарка, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Упамінаецца ў «Географо-статистическом словаре Российской империи», выдадзеным у 1863 г. У 1880 г. адкрыта школа граматы, 54 двары, 302 жыхары. Па перапісу 1897 г. 87 двароў, 569 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма. У 1909 г. 97 гаспадарак, 679 жыхароў, 711 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Міхалёўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі, кузня і арцель па здабычы торфу. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 74 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 396 жыхароў». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МУРАВЕЙ** — пасёлак у Патапаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 57 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Шарыбаўка (на лініі Жлобін—Гомель). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 25 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пачатку 20 ст. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, 10 жыхароў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Па перапісу 1959 г. 326 жыхароў. У складзе гаспадаркі Буда-Кашалёўскага агр.-тэхн. каледжа (цэнтр — г. Буда-Кашалёва). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пн раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАДЗЕЖДЗІНА** (да 1937 Угольцы) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Кіневіча. Па рэвізіі 1858 г. 123 жыхары, у складзе маёнтка Самуйлаў. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 39 двароў, 279 жыхароў, 2 ветракі. У 1909 г. 45 двароў, 377 жыхароў, 762 дзес. зямлі. У 1925 г. 64 двары, у Прыбарскім с/с Гарадзецкага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», працаваў вятрак. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 59 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 439 жыхароў. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейнай вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАСПА** — вёска ў Губіцкім с/с, за 13 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская, 54 км ад Гомеля, на р. Чарамха (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Жлобін—Гомель. 23 гаспадаркі, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Недайскай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Памешчыкі Ёлшыны мелі ў 1835 г. ў вёсцы і наваколлі 11 169 дзес. зямлі. З 1856 г. да 1661 дзейнічаў цукровы завод (належаў В.В.Ёлшыну), на якім у 1859 г. выраблены 342 пуды цукровага пяску, працавалі 122 рабочыя. Пасля адмены ў 1861 г. прыгоннага права вяскоўцы адмовіліся адбываць трохдзённую ў тыдзень паншчыну. Для ўціхамірвання іх была выклікана вайсковая каманда. У

фальварку з 1865 г. працаваў бяроста-дзёгцевы, з 1878 г. — смаляна-дзёгцевы з-ды (5 рабочых). Па перапісу 1897 г. 83 двары, 611 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма, крупарушка. У фальварку 61 жыхар, вадзяны млын. У 1903 г. дзейнічала лесапільня (50 рабочых), з 1908 г. вінакурня і вінная лаўка. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (49 вучняў). У 1909 г. ў сяле 118 двароў, 779 жыхароў, 556 дзес. зямлі, у фальварку 8 двароў, 25 жыхароў, 1131 дзес. зямлі. Працавалі цагельня (у 1913 г. 37 рабочых), вінная лаўка, прыёмны пакой. Ад пажару 30.5.1911 г. згарэў шклозавод Кудрына, які дзейнічаў у фальварку з 1898 г. Амаль поўнасцю ў 1920 г. спалілі вёску польскія акупанты. Адбудаваны шклозавод атрымаў значнае развіццё. Нарошчвалася вытв-сць, будаваўся рабочы пасёлак, дзейнічалі млын, кузня, магазін, вучылішча па падрыхтоўцы спецыялістаў па вырабе шкла. 25.10.1923 г. моцная бура зруйнавала будынкі з-да і многія іншыя пабудовы. Пасля гэтага з-д не аднавіўся. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. У 1925 г. 167 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну загінуў 91 вясковец. Па перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай на У кароткай прамалінейнай вуліцай. Жылыя будынкі размешчаны і на Пд ад ракі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НЕГАЎКА** — вёска ў Ліпініцкім с/с, за 20 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 68 км ад Гомеля. На Пд, У, З і праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гліна (прыток р. Ліпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 193 гаспадаркі, 497 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Старaруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 354 жыхары, уладанне памешчыка Сенажэцкага, які меў тут у 1854 г. 740 дзес. зямлі. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1886 г. 66 двароў, 526 жыхароў. Па перапісу 1897 г. 112 двароў, 780 жыхароў, царк.-прыходская школа, 5 ветракоў, кузня, вінная лаўка, піцейны дом. Побач быў аднайменны фальварак. У 2004 г. 1233 дзес. зямлі, 842 жыхары. У студзені 1918 г. Рагінскі партыз. атрад пасля жорсткага і працяглага бою каля вёскі прымусіў легіянераў Доўбар-Мусніцкага адступіць. У 1925 г. 182 двары, у Буда-Кашалёўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях да камуны», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. часткова спалілі вёску, 137 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 844 жыхары. Цэнтр калгаса «Юбілейны». Базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх амаль паралельных паміж сабой (адна працяглая, другая кароткая) вуліц шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 84 кватэры, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Вялікай Айчыннай вайны М.П.Авяр'янава, Героя Сацыялістычнай Працы У.М.Кірыленкі.

**НЕДАЙКА** — вёска ў Старабудскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 55 км ад Гомеля. На Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога

Жлобін—Гомель. 123 гаспадаркі, 298 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. З 1825 г. дзейнічала вінакурня, якая забяспечвала моцнымі напоямі ўсе корчмы бліжэйшых вёсак. Па рэвізіі 1858 г. 50 двароў, 475 жыхароў, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. Пасля адмены прыгоннага права вяскоўцы ў 1861 г. адмовіліся адбываць двухдзённую ў тыдзень павіннасць на карысць памешчыка. Для ўціхамірвання сялян была выклікана рота Магілёўскага рэзервовага батальёна. У 1862 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1889 г. 52 вучні), а ў 1915 г. быў узведзены ўласны будынак. Памешчык Новікаў у 1878 г. меў у вёсцы і наваколлі 7623 дзес. зямлі, 4 млыны і сукнавальню. У 1886 г. 88 двароў, 688 жыхароў, 2 ветракі, вадзяны і валовы млыны. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Цэнтр вол. (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 20 сяленняў з агульнай колькасцю 747 двароў. Па перапісу 1897 г. 150 двароў, 1114 жыхароў, нар. вучылішча, Свята-Троіцкая царква (адкрыта ў 1873 г., драўляная, а ў 1894 г. ўзведзены мураваны будынак), хлебазапасны магазін, лаўка, 6 ветракоў, маслабойня, 2 кузні, карчма, аддз. паштовай сувязі. Побач быў фальварак. У 1909 г. 190 двароў, 1356 жыхароў, 1562 дзес. зямлі. У фальварку Недайка — 1783 дзес., у другім фальварку — 2609 дзес. зямлі. Мелася лячэбніца, з 1911 г. пры школе працавала бібліятэка. У 1912 г. арганізавана крэдытнае таварыства. Дзейнічаў шклозавод, які ў маі 1917 г. канфіскаваны. 20.6.1924 г. ў выніку пажару згарэлі 263 пабудовы 58 гаспадарак. З 20.8.1924 г. да 1986 г. цэнтр Недайскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 249 двароў, у Недайскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Агульная праца» і «Граніт», працавала цагельня, 4 ветракі, крупарушка, кузня, бальніца, фельчарскі пункт, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле ў ліст. 1943 г. загінулі 78 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 28.11.1943 г. За гады вайны загінулі 113 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 537 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Новая Сямёнаўка. Падсобныя гаспадаркі аграфірмы «Тэхсервіс» і сельгаспрадпрыемства «Недайка», камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, млын, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, фельчарска-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд пад прамым вуглом далучаюцца дзве паралельныя паміж сабой вуліцы і завулак. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма засл. настаўніка Беларусі І.С.Гарунова, засл. работніка МУС СССР М.І.Жырыкава, доктара эканам. навук А.С.Галавачова, майстра спорту міжнар. класа С.Л.Дупанава, бел. пісьменніка М.Л.Стрыгалёва, засл. работніка сельскай гаспадаркі Ф.І.Жырыкава (былы пас. Новая Сямёнаўка). Паблізу ёсць паклады гліны.

У склад Недайскага с/с уваходзілі да 1930 г. пас. Доўгія, да 1936 г. пас. Новая Недайка, пас. Пакроўскі, да 1955 г. пас. Новыя Рэйкі, да 1969 пас. Новая Сямёнаўка, Янаўка.

**НІВА** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 25 км ад Буда-Кашалёва, 26 км ад Гомеля, 3 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, а затым па шашы Доўск—Гомель. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. хутар, 1 двор, 8 жыхароў, у Івольскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 118 жыхароў. У складзе міжгасп. прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — п. Камунар). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — пасёлак у Губіцкім с/с, за 19 км на З ад Буда-Кашалёва, 67 км ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 28 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. ў пасёлак перасяліліся жыхары пас. Дубенск. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 43 двары, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 8 двароў. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВАЕ ЗАБАЛОЦЦЕ** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 50 км ад Гомеля. Побач аўтамабільная дарога Чачэрск—Буда-Кашалёва і шаша Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (5 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі пераважна з в. Забалоцце. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 68 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Драўляныя дамы сял. сядзіб пастаўлены ўздоўж кароткай шыротнай вуліцы.

**НОВАЯ БУДА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля, На Пн і У р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 14 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца завулак. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ГУСЯВІЦА** — вёска ў Гусявіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 11 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля, на аўтадарозе Крыўск—Уваравічы. На У і Пн меліярацыйныя каналы. 215 гаспадарак, 623 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст., калі в. Гусявіца падзялілася на дзве: Старая Гусявіца і Новая Гусявіца, у Рудзянецкай вол. Беліцкага павета Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні графіні А.М.Мелінай. Па перапісу 1897 г. 114 двароў, 795 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма. Больш паловы гаспадарак займаліся вырабам фурманак, вазоў-драбін, калёс, саней. У 1909 г. 817 жыхароў, 1338 дзес. зямлі, школа, млын. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гусявіцкага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца» дзейнічалі вятрак, дрэваапрацоўчая майстэрня і кузня. У Вял. Айч.

вайну ў баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 12 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 189 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1971 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 564 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Старая Гусявіца). Лесапільня, млын, швейная майстэрня, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаюцца дзве крывалінейныя вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы А.Т.Кабрусева.

**НОВАЯ ГУТА** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, а затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (10 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 59 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВАЯ ЛІПА** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам, на У меліярацыйны канал. Побач шаша Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (30 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з в. Ліпа. У 1926 г. 17 двароў, 96 жыхароў, у Ліпскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Ў Вял. Айч. вайну загінулі 17 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 147 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВАЯ УЗА** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 4 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 40 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВЫ ЛЮБАВІН** — вёска ў Буда-Люшаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 63 км ад Гомеля, 8 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з в. Любавін. У 1925 г. 5 двароў, у Любавінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 9 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 103 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СВЕТ** — пасёлак у Глазаўскім с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 35 км ад Гомеля. По-

бач аўтадарога Жлобін—Гомель. 34 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 45 двароў, 244 жыхары, у Глазаўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 236 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Паблізу ёсць паклады гліны. Радзіма бел. паэта М.І.Літвінава.

**НОВЫ СВЕТ** — пасёлак у Шыракаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (14 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 14 двароў, 63 жыхары, у Ліпскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 78 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в Шыракае). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**НОВЫ СВЕТ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 56 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 14 двароў, у Недайскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 75 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ШЛЯХ** — пасёлак у Ліпініцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 14 двароў, у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 46 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПАБЕДА** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 20 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 25 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны шлях» (цэнтр — в. Бацунь). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. хатамі.

**ПАБЯДЗІЦЕЛЬ** — пасёлак у Маразавіцкім с/с, за 3 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 46 км ад Гомеля. На Пд і З меліярацыйныя каналы, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі ў 1943 г. ці памерлі ад ран 49 воінаў і 30 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Па перапісу 1959 г. 62 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПАДСЯМЁНАЎКА** — вёска ў Камунараўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 6 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 21 км ад Гомеля. Побач шаша Доўск—Гомель. 33 гаспадаркі, 53 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі пераважна з в. Сямёнаўка (зараз в. Калініна). У 1926 г. 24 двары, у Асобінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 19 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе міжгаспадарчага прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — пас. Камунар). Планіровачна складаецца з кароткай амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПАДЧЫСТАЕ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 46 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ПАПАРАТНЫ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 4 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАТАПАЎКА** — вёска, цэнтр Патапаўскага с/с, за 6 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 54 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). На Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 403 гаспадаркі, 908 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (50 насыпаў, на тэр. вясковых могілак) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Пад 1824 г. ў ліку сяленняў Кашалёўскай вол. У 1850 г. 54 двары, 400 жыхароў, у Кашалёўскім казённым маёнтку. У 1886 г. 82 двары, 538 жыхароў, вятрак і валовы млын. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У матэрыялах усерас. перапісу 1897 г. пазначаны вёска і засценак. 28.4.1901 г. згарэла 45 двароў і 18 гумнаў. У 1909 г. 116 двароў, 1014 жыхароў, 930 дзес. зямлі, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У засценку Патапаўка (ён жа Махаўцы), 31 дзес. зямлі, 2 двары, 13 жыхароў. У тым жа годзе ўзведзены будынак і пачаліся заняткі ў школе. З 20.8.1924 г. цэнтр Патапаўскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г.

арганізаваны калгас, працавала кузня. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 6 вяскоўцаў. У 1940 г. 320 двароў, 1289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі спалілі 146 двароў, загубілі 7 жыхароў. У баях за вызваленне в. Патапаўка і суседніх сяленняў загінулі 634 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі), 181 вясковец загінуў на фронце. Па перапісу 1959 г. 1917 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Патапаўскі». Мех. майстэрня, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца тры прамалінейныя вуліцы, з З — тры кароткія прамалінейныя і дзве працяглыя крывалінейныя вуліцы (адна на З раздвоена). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара тэхн. навук У.Р.Карцялёва, бел. паэта А.М.Зэкава і празаіка Т.І.Гарэлікавай.

У склад Патапаўскага с/с уваходзілі да 1969 г. пас. Першамайскі, да 1996 г. пас. Беразіна, Адраджэнне (не існуюць).

**ПЕРАГРУЗАЧНЫ** — пасёлак і чыг. станцыя (на ветцы ад лініі Жлобін—Гомель), у Буда-Люшаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 68 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1930-х г. пры торфапрадпрыемстве «Беліцкае» і чыг. ст. «Перагрузачная». Па перапісу 1959 г. 55 жыхароў. Сучасная назва нададзена пасёлку Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969г. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕРАМОГА** — вёска ў Патапаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 2 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У складзе саўгаса «Патапаўскі» (цэнтр — в. Патапаўка). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх амаль паралельных паміж сабой вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАБАЦУНСКІ** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 27 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 33 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі пераважна з в. Бацунь. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны шлях» (цэнтр — в. Бацунь). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Ліпініцкім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 16 двароў, у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пасёлку і наваколлі базіраваўся партыз. атрад № 108 імя Р.І.Катоўскага. Вызвалены ад акупантаў 2.12.1943 г. Па перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПОЙМЫ** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 8 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 56 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне р. Гліна (прыток р. Ліпа). Побач аўтамабільная дарога Чачэрск—

Буда-Кашалёва. 20 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 19 двароў. На фронце загінулі 11 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПОЛЬПІН** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 4 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля. На заход. ускраіне меліярацыйны канал. Побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 16 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПОРАСЛЯ** — пасёлак у Крыўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 25 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 103 жыхары, у Крыўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. Побач аднайменны хутар, 1 двор, 3 жыхары. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 135 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Рагавы. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Крыўск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПРЫБАР** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 24 км на на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 72 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 50 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 16 двароў, 90 жыхароў. У 1858 г. 18 двароў, 109 жыхароў, у складзе маёнтка Прыбар, ва ўладанні памешчыка Варварына. У 1870 г. пачала працаваць сукнавальня. Па перапісу 1897 г. 33 двары, 217 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 42 двары, 278 жыхароў, 331 дзес. зямлі, млын. У 1925 г. 52 двары. З 20.8.1924 г. да 1939 г. цэнтр Прыбарскага с/с Гарадзецкага, з 4.8.1927 г. Рагачоўскага, з 5.4.1936 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі 3 ветракі. У Вял. Айч. вайну спец. атрад сав. воінаў 4.1.1944 г. разграміў штаб ням. 167-й дывізіі, які размяшчаўся ў вёсцы. Гэта аперацыя ў значнай ступені забяспечыла паспяховае наступленне сав. войск і захоп плацдарма на зах. беразе р. Дняпро. На фронце загінулі 46 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 335 жыхароў. У складзе саўгаса «Чачора» (цэнтр — в. Саўгасная). Фельчарска-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПРЫРЭЧЧА** (да 1930 г. Пырачкін) — пасёлак у Губіцкім с/с, за 12 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 54 км ад Гомеля. На Пн р. Чарамха (прыток р. Дняпро), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадаро-

зе Губічы—Буда-Кашалёва. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 6 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 44 жыхары. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПРЫСЕНШЧЫНА** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 32 км ад Гомеля. На Пн і З меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым на шашы Доўск—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (16 сямей) пераселены ў чыстыя месцы..

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 110 жыхароў, у Чачэрскім раёне Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПУШЧА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 20 км ад Буда-Кашалёва, 12 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Гомель. 19 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 105 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ПЫЦЬКАЎКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Доўск—Гомель. 43 гаспадаркі, 71 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 23 двары, 160 жыхароў, уладанне памешчыка Фашча. Не пазней 1884 г. пачаў дзейнічаць хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 75 двароў, 502 жыхары, царк.-прыходская школа, 3 ветракі, крупарушка. У 1909 г. 520 жыхароў, 596 дзес. зямлі, школа, млын. У 1926 г. 90 двароў, паштовае аддзяленне, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пыцькаўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі 2 ветракі, кузня, ваўначоска. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 41 вясковец. Па перапісу 1959 г. 389 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — п. Акцябр). Клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой у цэнтры далучаецца кароткая вуліца, на Пн перакрыжоўваецца кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта В.Х.Габеева.

**ПЯНЧЫН** — вёска ў Гусявіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 4 км ад чыг. ст. Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель), 40 км ад Гомеля. На У і Пн р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 222 гаспадаркі, 619 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1848 г. 55 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні П.П.Солтана. Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 г. ў вёсцы

адбыліся хваляванні ў сувязі з прыцясненнямі, якія па-ранейшаму ўчыняў памешчык. Выступленні сялян падаўляліся ваеннай сілай. Гаспадар аднайменнага фальварка меў у 1862 г. 1691 дзес. зямлі. У 1883 г. 110 двароў, 459 жыхароў. Па перапісу 1897 г. 133 двары, 1000 жыхароў, школа граматы (адкрыта ў 1894 г.), хлебазапасны магазін, 3 ветракі, кузня, карчма. У фальварку 4 двары, 16 жыхароў. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз. і пачатковая школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Пянчынскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рухавік», працавалі цагельня (з 1931 г.), кузня, маслазавод, 3 ветракі. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 109 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна і сцяна з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1962 г. каля школы. Па перапісу 1959 г. 548 жыхароў. Цэнтр эксперыментальнай базы «Пянчын» Гомельскай абл. с.-г. даследчай станцыі. Камбінат быт. абслугоўвання, механічная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАГІНЬ** — вёска, цэнтр Рагінскага с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 68 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, а затым па шашы Доўск—Гомель. 330 гаспадарак, 782 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 28 двароў, 116 жыхароў, уладанне Дзерналовічаў. Пры размежаванні 1824 г. ў вёсцы было 9765 дзес. зямлі. У 1845 г. памешчык С.У.Дзерналовіч меў тут і ў наваколлі 5012 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. У 1848 г. 45 двароў, уладанне памешчыцы Е.Быкоўскай. У 1863 г. ўзведзены будынак і пачаліся заняткі ў нар. вучылішчы (у 1889 г. 45 вучняў). Працавала сукнавальня. У 1886 г. в. Рагінь (яна ж Рагінскія Куракі, Рагінская Сабалеўка, Рагінскае Зарэчча), 79 двароў, 583 жыхары, Свята-Мікалаеўская царква, школа, майстэрня па апрацоўцы скур, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета. З 1895 г. працавала вінакурня. Па перапісу 1897 г. ў сяле 134 двары, 932 жыхары, царква (драўляная), нар. вучылішча (у 1907 г. 66 вучняў), хлебазапасны магазін (з 1884 г. ), лаўка, карчма, у фальварку — 12 двароў, 60 жыхароў, вінакурня, вадзяны млын. З 1911 г. пры школе працавала бібліятэка. У снеж. 1917 г. ў сяло ўварваліся каля 200 уланаў польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага і ўчынілі здзекі над сялянамі. Для барацьбы супраць інтэрвентаў быў створаны мясцовы баявы атрад (начальнік К.Р.Новікаў). У пачатку 1920-х г. у фальварку арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», а пазней — саўгас «Рагінь». У 1925 г. 185 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Рагінскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай, з 27.10.1927 г. да 26.7.1930 г. Гомельскай



*Помнік землякам у в. Рагінь.*

акруг, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Улада Саветаў», меліся вінакурня, торфаапрацоўчая арцель, нафтавы млын, 2 кузні, сталярня, масласыраварня, урачэбны ўчастак, хата-чытальня. У 1938—58 гг. працавала МТС. У Вял. Айч. вайну тэхніка МТС і абсталяванне спіртзавода былі эвакуіраваны ў савецкі тыл. У ліст. 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 301 воін і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 332 землякі, памяць аб якіх увекавечвае скульпт. група, пастаўленая ў 1962 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 1484 жыхары. Цэнтр саўгаса «Рагінь». Спіртзавод, вінзавод, лесапільня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца з У кароткая вуліца з завулкам і з Пд — дзве выгнутыя кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Ёсць парк. Радзіма Герояў Сацыялістычнай Працы І.І.Дзяржынскага і В.А.Жукава, засл. работніка сельскай гаспадаркі БССР В.С.Чарнякова.



*В.К.Цвірка.*

У склад Рагінскага с/с уваходзіў да 1929 г. пас. Культурны (не існуе).

**РАГОЗІШЧА** — пасёлак ва Узаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 26 км ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Уваравічы—Гомель. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 24 двары, 127 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе саўгаса «Праўда» (цэнтр — в. Уза). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**РАДЗЕЕВА** — вёска і чыг. раз'езд (на лініі Жлобін—Гомель) ва Уваравіцкім пасялковым Савеце, за 16 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 30 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 162 гаспадаркі, 381 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Мінскай губ. У 1862 г. памешчык меў тут 800 дзес. зямлі. Пасля здачы ў эксплуатацыю чыгункі Бабруйск—Гомель у ліст. 1873 г. пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд. У 1883 г. 75 двароў, 398 жыхароў, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. вёска (135 двароў, 1002 жыхары, школа граматы, 2 ветракі, кузня, карчма) і фальварак (3 двары, 18 жыхароў). У вясковай школе ў 1905 г. навучаліся 77 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 165 двароў, 2086 дзес., у маёнтку 170 дзес. зямлі. У 1926 г. меліся паштовае аддзяленне, пачатковая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Радзееўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, працавалі кузня, 3 ветракі, сталярня, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 27.11.1943 г., 69 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. ў вёсцы 691, на чыг. раз'ездзе 15 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — г.п. Уваравічы). Аддз. сувязі, клуб, б-ка, базавая школа, фельчарска-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых меліярацыйным каналам вуліц — зах. арыентавана з ПдЗ на ПнУ, усх. — з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма нар. мастака БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі В.К.Цвіркі.

**РАСЦЯРОБЫ** — пасёлак у Івольскім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля.



*В.Ц в і р к а. Мой край родны. 1968.*

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 18 двароў і загубілі 8 жыхароў, 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 68 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**РОШЧА** (да 29.12.1962 г. імя Сталіна) — пасёлак у Буда-Люшаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 66 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы уступілі ў калгас. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**РУДНЯ-АЛЬХОЎКА** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 57 км ад Гомеля. На Пд р. Зыбіна (прыток р. Крапіўня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 37 гаспадарак, 62 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гомельскім павеце Магілёўскай губ. У 1926 г. 127 двароў, 670 жыхароў, паштовае аддз., школа, цэнтр Рудняальхоўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік», дзейнічалі 2 ветракі. Па перапісу 1959 г. 289 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з дзвюх вуліц, якія на Пд злучаюцца, а затым разыходзяцца — адна ў мерыдыянальным, а другая ў паўн.-ўсх. напрамку. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДЗЯНЕЦ** — вёска ва Узаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 1 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 27 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па



*Жанчыны ў святочных касцюмах. Вёска Рудня-Альхоўка.*

прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 148 гаспадарак, 273 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 10—12 ст. (15 насыпаў, непадалёку ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у Беліцкім, з 1852 г. ў Гомельскім павеце Магілёўскай, з 1919 г. Гомельскай губ. У 1795 г. 6 двароў, 39 жыхароў. Побач быў маёнтак, у якім некаторы час жыў архіепіскап, кіраўнік бел. каталіцкай епархіі, затым мітрапаліт рымска-каталіцкіх цэркваў Расіі С.І.Богуш-Сестранцэвіч. Пасля яго смерці ў 1826 г. маёнтак перайшоў да мясцовага касцёла. Праз вёску ў 1848 г. праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. У 1868 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 67, у 1905 г. 167 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1883 г. 88 двароў, 350 жыхароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 32 сяленні з агульнай колькасцю 1475 двароў. Па перапісу 1897 г. вёска (153 двары, 970 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, кузня, аддзяленне паштовай сувязі, карчма) і сяло (5 двароў, 18 жыхароў) у Гомельскім павеце Магілёўскай губ. У 1909 г. 185 двароў, 1105 жыхароў, 1867 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Рудзянецкага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну загінулі 124 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 776 жыхароў. У 1976—81 гг. цэнтр Калінінскага с/с. У складзе саўгаса «Праўда» (цэнтр — в. Уза). Сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У і З далучаюцца па адной кароткай вуліцы, а на Пд яе перакрыжоўвае крыху скрыўленая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ-КАШАЛЁЎСКАЯ** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 3 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля, на р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 19 ст. перасяленцамі з в. Кашалёў у сяленне пад назвай Рудня, у 2-й пал. 19 ст. вёска атрымала сучасную назву. У 1886 г. пачалі працаваць вадзяны млын і сукнавальня. У 1846 г. 18 двароў і 11 незаселеных участкаў, уласнасць казны. Не пазней 1884 г. пачалі дзейнічаць хлебазапасны магазін і карчма. Па перапісу 1897 г. 61 двор, 400 жыхароў, вадзяны млын, крупарушка. У 1909 г. 67 двароў, 515 жыхароў, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавала кузня. Па перапісу 1959 г. 240 жыхароў. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**РЭКОРД** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 3 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель). На Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 58 гаспадарак, 113 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 184 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**САВЕТ** – пасёлак у Крыўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін–Гомель), 34 км ад Гомеля. На ўсх. ускраіне р. Іволька (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жлобін–Гомель. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр – в. Крыўск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**САЛАЎЁВА** – пасёлак у Старабудскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін–Гомель), 43 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін–Гомель. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 42 жыхары. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр – в. Старая Буда). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**САЛАЎЁЎ** – пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін–Гомель), 58 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Жлобін–Гомель. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 87 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 38 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр – в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Побач радовішча пяскоў.

**САЛТАНАЎКА** – вёска ў Ліпініцкім с/с, за 19 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін–Гомель), 67 км ад Гомеля. На У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск–Буда-Кашалёва. 12 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1858 г. 8 двароў, 76 жыхароў. У 1896 г. 26 двароў. У 1925 г. 40 двароў, у Буда-Люшаўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 43 вяскоўцы. Па перапісу 1959 г. 256 жыхароў. У складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр – в. Негаўка). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма бел. паэта У.Р.Бабкова.

**САЎГАСНАЯ** (да 30.7.1964 г. Царкоўе) – вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 35 км на Пн ад раённага цэнтра, 26 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін–Гомель), 80 км ад Гомеля. На ўсх. ускраіне р. Дулепа (прыток р. Чачора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск–Гомель. 163 гаспадаркі, 434 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1816 г. 19 двароў, 41 жыхар. Памешчык валодаў у вёсцы ў 1842 г. 105 дзес. зямлі. У 1848 г. 42 двары. Мелася Раства-Багародзіцкая царква. Штогод летам праводзіўся кірмаш, на якім у 1861 г. было прапанавана для продажу тавараў на 1500 руб. Памешчыца Турчанінава мела тут у 1875 г. 835 дзес. зямлі, вінакурню, 2 вадзяныя млыны і сукнавальню. Па статыстычных звестках 1886 г. в. Царкоўе (яна ж Царкоўе Маскоўскае), 57 двароў, 455 жыхароў, вятрак, вадзяны млын. Па перапісу 1897 г. ў сяле 89 двароў, 704 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, раз у год

праводзіўся кірмаш, у фальварку — 2 двары, 6 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. 102 двары, 618 жыхароў, у Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Кастрычніка», працавала кузня. У 1940 г. 132 двары, 387 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 24 двары і загубілі 33 жыхары. За ваенныя гады загінулі 120 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 568 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Чачора». Лесапільня, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на У далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, на Пд — яшчэ адна вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**СВЕТЛЫ** (да 1933 г. Малахоўскі, затым да 2.10.1975 г. Белы Морг) — пасёлак у Старабудскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1928 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 7 двароў, 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СЕВЕРНЫ** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Буда-Кашалёва, 6 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 23 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 75 жыхароў, у Асобінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 81 жыхар. У складзе міжгаспадарчага прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — пас. Камунар). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЕНАВЕЦ** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 33 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 119 жыхароў, у Чабатовіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 129 жыхароў У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням. акупанты спалілі 20 двароў і загубілі 5 жыхароў, 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Б.Д.Брундукова.

**СІНІЧЫНА** — вёска ў Івольскім с/с, за 24 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 26 км ад Гомеля, на р. Іволька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 101 гаспадарка, 182 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1873 г. 624 дзес. зямлі і піцейны дом. У 1883 г. 58 двароў, 363 жыхары, хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. ў вёсцы 93 двары, 636 жыхароў, школа граматы; у фальварку

4 двары, 16 жыхароў, карчма. У вясковай школе ў 1905 г. навучаліся 42 хлопчыкі і 8 дзяўчынак. У 1909 г. 98 двароў, 722 жыхары, 900 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. 178 двароў, 980 жыхароў, паштовае аддз., 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сінічынскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы свет», працавалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 16 жыхароў, 96 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 694 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА ЛЮШАЎСКАЯ** — вёска ў Буда-Люшаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ да Буда-Кашалёва, 67 км ад Гомеля, 3 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (10 насыпаў, на тэр. сучасных могілак) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 10 двароў. Гаспадар аднайменнага фальварка валодаў у 1860 г. 521 дзес. зямлі. У другім фальварку было 196 дзес. зямлі. Па перапісу 1897 г. 44 двары, 285 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 337 жыхароў, 611 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 49 двароў, у Буда-Люшаўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням. акупантаў загінулі 113 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне). 37 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Па перапісу 1959 г. 215 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца з З другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая сядзібнага тыпу. На Пд перагрузачны пункт чыг. ст. Салтанаўка.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Рагінскім с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 47 км ад Гомеля. На У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пачатку 20 ст. У 1909 г. фальварак, 1 двор, 9 жыхароў, 495 дзес. зямлі, млын, у Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У пачатку 1920-х г. перасяленцы з суседніх вёсак пабудавалі тут, на былых памешчыцкіх землях, свае сядзібы. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 17 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе саўгаса «Дзербічы» (цэнтр — в. Дзербічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СЛАВЯНЕЦ** — пасёлак у Маразавіцкім с/с, за 8 км на ПдУ да раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 43 км ад Гомеля. На З р. Уза (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 25 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 18 ст. як сяленне ў Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1824 г. ў складзе казённага маёнтка Кашалёў. У 1847 г. 21 двор, 8 незаселеных участкаў. Па перапісу 1897 г. 57 двароў, 356 жыхароў, школа граматы,

хлебазапасны магазін (з 1880 г.), вятрак. У 1909 г. 65 двароў, 411 жыхароў, 568 дзес. зямлі. У 1925 г. 80 двароў, у Буда-Кашалёўскім с/с Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 49 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 240 жыхароў. У саўгасе «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СМАЛОВЫЯ ЛОЗКІ** — пасёлак у Івольскім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 2 двары, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 14 двароў. Па перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**СМЫЧОК** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 55 км ад Гомеля. На З пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 100 гаспадарак, 318 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Тут быў пагранічны пункт і вартавая вышка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Уваходзіла ў Недайскую вол. Беліцкага, затым Гомельскага паветаў Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 30 двароў, 165 жыхароў, уладанне памешчыка Перасвет-Солтана. Па перапісу 1897 г. 53 двары, 420 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін (з 1880 г.), 2 ветракі, карчма. У 1909 г. 72 двары, 712 дзес. зямлі. У 1926 г. 114 двароў, 536 жыхароў, паштовае аддз., пачатковая школа, лаўка. З 8.12.1926 г. да 18.1.1965 г. цэнтр Смычкоўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак. У 1930-х г. былі ўзведзены будынкі школы, клуба, шэрагу гаспадарчых збудаванняў. У Вял. Айч. вайну каля вёскі, у Доўгім Бару, базіраваліся Уваравіцкі падп. райком КП(б)Б і партыз. брыгада імя М.А.Шчорса. У баі за вызваленне вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 4 воіны і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 124 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечвае скульптура жанчыны, пастаўленая ў 1962 г. ў скверы. Па перапісу 1959 г. 152 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Дняпроўск. Цэнтр саўгаса «Дняпро». Аддз. сувязі, клуб, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой пад вострым вуглом далучаецца з З кароткая аднабакова забудаваная вуліца. Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу. Побач ёсць паклады жалезняку і глін.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 3 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. На Пд і У меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Чачэрск—Буда-Кашалёва. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СТАРАЯ БУДА** — вёска, цэнтр Старабудскага с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 46 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 194 гаспадаркі, 488 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (22 насыпы, за 1 км на З ад вёскі, на могілках) сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка, што быў побач, валодаў у 1878 г. 1359 дзес. зямлі і піцейным домам. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 72 двары, 517 жыхароў, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 91 двор, 655 жыхароў, 377 дзес. зямлі. У 1926 г. 144 двары, 756 жыхароў, паштовае аддзяленне, пачатковая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старабудскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавалі сталярня, кузня, 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну вызвалена 28.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура жанчыны з лаўровым вянком, пастаўленая ў 1968 г. каля клуба. Па перапісу 1959 г. 424 жыхары. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Мікольск. Цэнтр калгаса «Авангард». Млын, швейная майстэрня, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Пры бібліятэцы дзейнічае дом нар. медыцыны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца дзве і з З адна кароткая вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 55 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма засл. ўрача Беларусі Ф.М.Сідарэнкі.

**СТАРАЯ ГУСЯВІЦА** — вёска, цэнтр Гусявіцкага с/с, за 26 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 32 км ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). На паўн. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Крыўск—Уваравічы. 88 гаспадарак, 215 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст., калі в. Гусявіца падзялілася на дзве: Старая Гусявіца і Новая Гусявіца, у Рудзянецкай вол. Беліцкага павета Магілёўскай губ. У 1883 г. 62 двары, 344 жыхары, хлебазапасны магазін. Больш палавіны гаспадарак займаліся вырабам фурманак, вазоў-драбін, калёс, саней. Па перапісу 1897 г. 98 двароў, 693 жыхары, школа граматы, 2 ветракі. У 1909 г. 114 гаспадарак, 785 жыхароў, 1761 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старагусявіцкага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», дзейнічалі 2 ветракі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 112 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 439 жыхароў. З 27.9.1973 г. цэнтр Гусявіцкага с/с. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца з ПнЗ другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 55 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Гусявіцкага с/с уваходзілі да 1934 г. пас. Шульскае, да 1947 пас. Вараі, да 1979 г. пас. Новае жыццё, да 1982 г. пас. Івашкаў, да 1983 г. пас. Бярозавае Балота, да 1984 г. пас. Чырвоная Хачэмля (не існуюць).

**СТАЎПІШЧА** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 21 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі

Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 29 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 18 двароў, 127 жыхароў, у Чабатовіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СТРУКІ** — вёска ў Ліпініцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля. На У і Пн мяжуе з лесам. На У ад вёскі, ва ўрочышчы Лубянка, пачынаецца р. Любча (прыток р. Чачора). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 50 гаспадарак, 119 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1799 г. 12 гаспадарак, з якіх 8 займаліся пчалярствам, у валоданні Дарыя-Дзерналовічаў. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні памешчыка Ф.В.Дзерналовіча. Пад 1884 г. пазначана ў рэвізскіх матэрыялах як в. Струкава ў Кашалёўскай вол. Па перапісу 1897 г. 49 двароў, 336 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін (з 1884 г.), вятрак. У 1909 г. 53 двары, 397 жыхароў, 436 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 95 двароў, у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну падп. групу ў вёсцы ўзначальваў Э.В.Лаўрыновіч, які затым быў камандзірам дыверсійнай групы і ў 1944 г. ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Партызаны разграмілі створаны тут акупантамі апорны пункт. 12 вяскоўцаў загубілі ням. карнікі. У баях за вызваленне вёскі і наваколля ў ліст. 1943 г., загінулі 96 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 85 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 406 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Клуб, сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з працяглай, дугападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Кашалёўскім с/с, 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 54 км ад Гомеля. На З р. Ліпа (прыток р. Сож), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 65 гаспадарак, 100 жыхароў (2004 г.).

Знойдзены ў вёсцы скарб з польскіх, рыжскіх, прускіх, літоўскіх сярэбраных манет 17 ст. сведчыць аб даўняй заселенасці гэтых месц. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1824 г. в. Сяльца ў казённым маёнтку Кашалёў Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1847 г. 28 двароў і 10 незаселеных участкаў, карчма. Па перапісу 1897 г. 61 двор, 389 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, капліца. У 1909 г. 64 двары, 526 жыхароў, 443 дзес. зямлі. Побач быў аднайменны выселак. У 1925 г. 89 двароў, у Кашалёўскім с/с Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які ў вер. 1943 г. партызаны разграмілі. У баях каля вёскі загінулі 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У кастр. 1943 г. карнікі спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў, 61 вясковец загінуў на фронце. Па перапісу 1959 г. 458 жыхароў. У складзе саўгаса імя П.Я.Галавачова (цэнтр — в. Кашалёў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудава-

най няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сял. сядзіб. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцый месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ТЭКЛЕЎКА** — пасёлак ва Уваравіцкім пасялковым Савеце, за 17 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 2,5 км ад чыг. раз'езда Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель), 30 км ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). На Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 43 гаспадаркі, 95 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 135 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Уваравічы» (цэнтр — г.п. Уваравічы). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**УБОРКІ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 44 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 32 гаспадаркі, 51 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў, у Буда-Кашалёўскім с/с Бабруйскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 21 жыхар. Па перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**УВАРАВІЧЫ** — гарадскі пасёлак, цэнтр Уваравіцкага пасялковага Савета, за 21 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 8 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель),



*Ручнік з г. п. Уваравічы*

25 км ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). На З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы і аўтадарогах, якія ідуць да Гомеля. 2,7 тыс. жыхароў (2004).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 1 км на У ад гар. пас.), курганны могільнік (34 насыпы, за 0,5 км на Пд ад гар. пас.), селішча 1-й палавіны 1-га тыс. н.э. і эпохі Кіеўскай Русі (за 3 км на ПдЗ ад гар. пасёлка на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Уза) сведчаць пра засяленне гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 15 ст. Уваходзіла ў Чарнігава-Старадубскае княства, валоданне князёў Мажайскіх. У перамовах маскоўскіх князёў з ВКЛ часта ўпамінаецца ў ліку сяленняў Старадубскіх валасцей, якія то далучаліся да Расіі, то адыходзілі да ВКЛ і падвяргаліся разбурэнням у выніку ваенных дзеянняў. Пад 1503 г. у трактаце перамір'я паміж вял. князем Іванам III і польскім каралём і вял. князем ВКЛ Аляксандрам пазначана як сяло. У 1508 г. ўпамінаецца ў перапісцы вял. князя маскоўскага Васіля III з каралём польскім і вял. кня-

зем ВКЛ Жыгімонтам І. У 1525 г. пазначана як сяло ў Стрэшынскай вол. З 1566 г. ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства ВКЛ. Пазней у Гомельскім старостве. У 1740-х г. па інвентары Гомельскага староства 11 дымоў, 5 служб, 13 валоў, 9 коней, Святапрачысценская царква, пустаўшчызны Хадзікоўская, Сеўрукоўская, Сірычыка, Акуліцкая, Валужыншчызна. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1825 г. працавалі млын і сукнавальня. У 1826 г. 731 жыхар, у 1838 г. 90 двароў, у 1858 г. 935 жыхароў. З 1859 г. дзейнічала мукамольня (8 рабочых), з 1860 г. — цукровы завод і вінакурня, з 1876 г. — крупарушка, у валоданні памешчыка акцыз. Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 г. адбыліся хваляванні сялян супраць уціску з боку памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа. Гаспадары фальварка мелі ў 1879 г. 8786 дзес. зямлі, вадзяны і ветраны млыны і вінакурню. У 1884 г. 165 двароў, 2 цагельні (1876, 1880), хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. мястэчка, 243 двары, 1441 жыхар, царква (мураваная, пабудавана ў 1876 г.), паштовае аддз., царк.-прыходская і земская школы, папяроваткацкае прадпрыемства, хлебазапасны магазін, 5 ветракоў, 18 лавак, крупарушка, кузня, карчма, лячэбны пакой. Побач быў аднайменны фальварак (5 двароў, 45 жыхароў, вінакурня і крупарушка. Уваходзіла ў склад Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 2372 жыхары, 2 мураваныя і 730 драўляных будынкаў, 2079 дзес. зямлі. Дзейнічала пазыкова-ашчадная каса. Местачкоўцы актыўна змагаліся супраць акупацыі Гомельшчыны герм. войскамі. 30.11.1918 г. Уваравічы былі вызвалены. У 1926 г. 519 двароў, 2391 жыхар, дзейнічалі саўгас «Новы шлях», с.-г. арцель, 2 пачатковыя школы, б-ка, с.-г. крэдытны кааператыў, урачэбны і ветэрынарны пункты, цагельня, сыраварня, вінакурня. З 8.12.1926 г. да 17.4.1962 г. цэнтр Уваравіцкага р-на. У 1929 г. арганізаваны калгас «Рассвет». Выходзіла раённая газета. У 1934 г. працавалі вінзавод (з 1900 г.), цагельня (з 1931 г.), МТС і рамонтная майстэрня (з 1931 г.), сталярня, абутковая, кравецкая, шорная майстэрні, друкарня, маслазавод, млын, вятрак, 3 кузні, хлебапякарня. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. быў створаны атрад нар. апалчэння (588 чал., кіраўнік Клімянок). Каля пасёлка ў жн. 1941 г. цяжкія абарончыя баі вялі часці Чырвонай Арміі разам з апалчэнцамі. Ням. акупанты ў 1942 г. загубілі 247 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-зах. ускраіне). Вызвалена 27.11.1943 г. У баях каля пасёлка ў ліст. 1943 г. загінулі 22 воіны і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў садзе экс-



*Я.Я.Майсеенка. Чырвоныя прыйшлі. 1961.*

перыментальнай базы «Уваравічы»). Малочны з-д, цэх Буда-Кашалёўскага пладова-агародніннага з-да, ільнозавод (з 1952 г.), камбінат быт. абслугоўвання, хлебазавод, цагельня, сярэдняя і муз. школы, дзіцячы дом, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з сеткі амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. На У дзве паралельныя паміж сабой вуліцы амаль шыротнай арыентацыі ідуць ад ракі да асн. ч. забудовы. Будынкі цэнтр. ч. мураваныя, б. ч. забудовы драўляная. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы Э.Н.Модзіна, нар. мастака СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, акад. Акадэміі мастацтваў СССР, лаўрэата Ленінскай прэміі Я.Я.Майсеенкі, нар. настаўніка СССР В.С.Аўраменкі, засл. настаўніцы Беларусі В.У.Каладзінскай, засл. артыста Беларусі В.І.Чэпелева, засл. работніка культуры Беларусі П.І.Свярдлова, засл. работніка сельскай гаспадаркі В.С.Кавалёва, засл. эканаміста К.Ф.Якаўцава. Побач ёсць паклады гліны.

**УЗА** — вёска і чыг. станцыя, цэнтр Узаўскага с/с, за 21 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 24 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 514 гаспадарак, 1257 жыхароў (2004 г.).

За 1 км на Пд ад Узы археолагамі выяўлена гарадзішча жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. З 1830 г. працавала сукнавальня, з 1840 г. — мукамольнае прадпрыемства (у 1859 г. 8 рабочых). У 1868 г. адкрыта школа. Гаспадар фальварка меў тут у 1869 г. 2483 дзес. зямлі і піцейны дом. З уводам у эксплуатацыю чыгункі Бабруйск—Гомель у ліст. 1873 г. пачала дзейнічаць чыг. станцыя, меўся хлебазапасны магазін, аддз. паштовай сувязі. У 1908 г. 202 двары, 1439 жыхароў, 2361 дзес. зямлі. Вяскоўцы актыўна змагаліся супраць герм. войск у час акупацыі імі Гомельшчыны. 14.11.1918 г. на чыг. станцыі, у вагоне камандзіра батальёна войск Чырвонай Арміі, пачаліся перамовы паміж прадстаўнікамі ням. камандавання і сав. дэлегацыяй, якія скончыліся падпісаннем дагавора, згодна якому павінен быў пачацца адвод ням. войск. Але ням. бок парушыў дамоўленасць. Перагаворы былі адноўлены і скончыліся 5.1.1919 г. падпісаннем новага дагавора, які потым рэалізаваўся. У 1926 г. арганізаваны саўгас, працавала кузня, у Рудзянецкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. З 1930 г. працавала кузня. У 1940 г. 107 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 14 двароў. Дзейнічала група падпольшчыкаў, якая была раскрыта і загублена акупантамі, 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 909 жыхароў. У 1973 г. ў вёску перасяліліся жыхары пасёлка Новы. Цэнтр саўгаса «Праўда». Агароднінасушыльны з-д, камбінат хлебапрадуктаў, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, 7 магазінаў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, паралельна да якой на Пн праходзіць прамалінейная вуліца, перакрыжаваная пяццю завулкамі, а на Пд да галоўнай далучаюцца пад прамым вуглом кароткія вуліцы. Забудова шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 100 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма засл. майстра спорту В.І.Пусева.

**УЛАДЗІМІРАЎКА** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 14 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 34 км ад Гомеля, 5 км ад чыг. раз'езда Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 40 гаспадарак, 86 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 44 двары, 250 жыхароў, у Пянчынскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 17 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з кароткай амаль шыротнай вуліцы, перакрыжаванай пад прамым вуглом другой кароткай вуліцай. Забудавана няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**УЛАДЗІМІРАЎКА** (да 1931 г. Пералаз) — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 27 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 26 гаспадарак, 220 жыхароў, 285 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 36 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**УСХОД** (да 1929 г. Пяты Пасёлак) — пасёлак у Старабудскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 42 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 17 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЮТНЫ** (да 1922 г. Пасёлак № 9) — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 12 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. На Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 92 жыхары, у Лугініцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — пас. Акцябр). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**УЮТНЫ** (да 1922 г. Пасёлак № 6) — пасёлак у Губіцкім с/с, за 18 км на З ад Буда-Кашалёва, 66 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Забаб'е (на лініі Жлобін—Гомель). На У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жлобін—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 жыхароў. У складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Губічы). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФАКЕЛ** (да 1968 г. Чырвоны Сцяг) — вёска ў Рагінскім с/с, за 21 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 49 км ад Гомеля. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 40 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 9 двароў, у Рагінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 63 двары, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1942 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў, 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе калгаса «Рагінь» (цэнтр — в. Рагінь). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд і Пн далучаюцца пад прамым вуглом дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. На З — адасобленая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФУНДАМІНКА** — вёска ў Мікалаеўскім с/с, за 30 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 78 км ад Гомеля, на р. Дулепа (прыток р. Чачора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 85 гаспадарак, 170 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мяркулавіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 41 двор, 352 жыхары. Памешчык Сенажэнскі меў тут у 1865 г. 1212 дзес. зямлі, 2 ветракі і карчму. Па перапісу 1897 г. вёска (111 двароў, 764 жыхары, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, карчма) і фальварак (4 двары, 25 жыхароў). У 1909 г. 125 двароў, 1222 дзес. зямлі, школа (у 1907 г. 56 вучняў), вінная лаўка, млын. У 1925 г. ў вёсцы 120, на аднайменным хутары 27 двароў. У 1928 г. да вёскі далучаны пас. Азэтаўка, у 1930 г. пас. Міхееў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Беларусь» і імя К.Я.Варашылава, працавалі 4 ветракі, 2 кузні, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі ў 1943 г. загінулі 8 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах загінулі 125 жыхароў. Па перапісу 1959 г. ў в. Фундамінка 556, у в. Новая Фундамінка 224 жыхары. Крыху пазней гэтыя вёскі аб'ядналіся. У 1969 г. да вёскі далучаны пас. Зялёны Краж. У складзе саўгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Мікалаеўка). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, злучанай завулкам з кароткай шыротнай вуліцай, размешчанай на Пд ад галоўнай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАРОШАЎКА** — вёска ў Шырокаўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля, на р. Прудаўка (прыток р. Ліпа). На З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1832 г. дзейнічала карчма, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 30 двароў, 284 жыхары, 3 ветракі. У 1909 г. 42 двары, 281 жыхар, 230 дзес. зямлі. У аднайменным фальварку, што быў побач, 1 двор, 10 жыхароў, 3221 дзес. зямлі. З 1926 г. працавалі паштовы пункт і пачатковая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Харошаўскага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У канцы 1930-х г. вёскі Старая Харошаўка і Новая Харошаўка. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 27 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. ў в. Старая Харошаўка 221 жыхар. У 1976 г. в. Новая Харошаўка перастала існаваць, а в. Старая Харошаўка стала звацца Харошаўка. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Забалоцце). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ХМЯЛЬНОЕ** — вёска ў Буда-Люшаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 69 км ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Го-

мель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Па перапісу 1897 г. 42 двары, 276 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. Побач быў аднайменны хутар. У 1909 г. ў вёсцы мелася 360 дзес. зямлі. У 1925 г. 62 двары. Побач былі Хмялянскія хутары, 11 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 79 двароў, 357 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 31 вясковец загінуў на фронце. Па перапісу 1959 г. 332 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма чл.-кар. Нац. АН Беларусі, доктара біял. навук, праф., лаўрэата Дзярж. прэміі БССР У.К.Саўчанкі.





*У.К.Саўчанка.*

*А.Л.Ісачанка.*

**ХОЎХЛА** — вёска ў Чабатовіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ да раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 94 гаспадаркі, 173 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Чабатовіцкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. У 1876 г. гаспадар аднайменнага фальварка меў тут 1213 дзес. зямлі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1883 г. 48 двароў, 298 жыхароў. Па перапісу 1897 г. 70 двароў, 544 жыхары, школа граматы. У фальварку 4 двары, 23 жыхары. У 1909 г. 74 двары, 584 жыхары, 476 дзес. зямлі. У 1926 г. 115 двароў, 688 жыхароў, паштовае аддз., пачатковая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Хаўхлянскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», працавалі 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 112 двароў, 358 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 27 двароў і загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 28.11.1943 г. У баях каля вёскі ў 1943 г. загінулі 5 воінаў і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 123 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура жанчыны з лаўровым вянком. З 15.8.1974 г. цэнтр Бярвёнаўскага с/с. Па перапісу 1959 г. 379 жыхароў. У 1987 г. да вёскі далучаны пас. Выган. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Лесапільня, млын, швейная і шавецкая майстэрні, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма Героя Савецкага Саюза, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Гомельскага камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну А.Л.Ісачанкі, ганаровага грамадзяніна Гомеля С.П.Купцова.

**ЦЁМНЫ ВОСАЎ** — пасёлак у Камунараўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 30 км ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 33 двары, 160 жыхароў, у Лапіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 15 пасялкоўцаў. Па перапісу 1959 г. 121 жыхар. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняй в. Селішча. У складзе міжгаспадарчага прадпрыемства «Асобіна» (цэнтр — пас. Камунар). Планіровачна складаецца з кароткай амаль прамалінейнай вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца другая кароткая вуліца. За-

будова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦІХІНІЧЫ** — вёска, чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Гомель), ва Узаўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 27 км ад Гомеля. На Пд р. Журбіна (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па мясцовай, затым аўтадарозе Уваравічы—Буда-Кашалёва. 41 гаспадарка, 82 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя і даследаваныя археолагамі курганы жал. веку, што былі побач з вёскай, сведчаць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рудзянецкай вол. Гомельскага павета Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1883 г. 40 двароў. Па перапісу 1897 г. 43 двары, 415 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, кузня. У 1909 г. 53 двары, 386 дзес. зямлі, касцёл. Побач быў аднайменны маёнтак, 150 дзес. зямлі. У 1926 г. 75 двароў, паштовае аддз., школа, у Рудзянецкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавалі арцель па здабычы торфу, вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну загінулі 30 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У складзе саўгаса «Праўда» (цэнтр — в. Уза). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАБАТОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Чабатовіцкага с/с, за 22 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 70 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне р. Зыбіна (прыток р. Крапіўня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 160 гаспадарак, 383 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (захаваліся 3 насыпы), які належаў радзімічам і датуецца 10—12 ст.



*Жанчына ў святочным адзенні. Вёска Чабатовічы.*

(у цэнтры вёскі), сведчыць аб засяленні гэтай тэрыторыі ў далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1499 г. ўладальнік Гомельскай вол. князь С.І.Мажайскі перайшоў на бок Масквы, часова прыхапіўшы разам з іншымі і с. Габатовічы. Пад 1503 г. і 1525 г. пазначана ў матэрыялах аб паграніічных спрэчках паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1560 г. сяленне ў Гомельскім старостве. У 1640-х г. па інвентары Гомельскага староства ў валоданні памешчыка Халецкага. Аб ваенных дзеяннях каля вёскі ў час казацкіх войнаў 1648—54 гг. сведчаць шматлікія знаходкі зброі тых часоў у суседніх лясах. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім паветах Магілёўскай, з 1919 г. Гомельскай губ. У 1800 г. збудавана драўляная царква. У 1874 г. адкрыта школа. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 40 сяленняў з агульнай колькасцю 1075 двароў. Гаспадар фальварка (побач з вёскай) меў у 1852 г. 4343 дзес. зямлі, млын і карчму. Дзейнічаў хлебазапасны

магазін. У выніку пажару 21.7.1881 г. згарэла 60 двароў, у тым ліку валаснoе праўленне. У 1883 г. 115 двароў, 562 жыхары. У 1874 г. пачаліся заняткі ў нар. вучылішчы (у 1889 г. 65 вучняў). Па перапісу 1897 г. 153 двары, 1162 жыхары, аддз. паштовай сувязі, 4 ветракі. Апрача земляробства вяскоўцы па найму памешчыка займаліся лесараспрацоўкай. У 1909 г. 186 двароў, 1405 жыхароў, 1310 дзес. зямлі, лячэбны пакой, казённая вінная лаўка, млын. У 1914 г. арганізавана спажывецкае таварыства. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз., лячэбны пункт, пачатковая школа, б-ка, хата-чытальня, ветэрынарны пункт, аддз. спажывецкай кааперацыі. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Чабатовіцкага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ударнік пяцігодкі», працавалі кузня, 3 ветракі, валначоска. У 1940 г. 94 двары, 377 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 25.5.1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які акупанты стварылі ў вёсцы. 12.11.1943 г. ням. карнікі спалілі 25 двароў і загубілі 19 жыхароў. Вызвалена 28.11.1943 г. На франтах загінулі 128 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульпт. кампазіцыя, пастаўленая ў 1966 г. ў цэнтры вёскі. Па перапісу 1959 г. 546 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Чабатовічы». Камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, млын, механічная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аптэка, дзіцячы сад, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. Радзіма засл. лесавода Беларусі П.П.Хлебаказава, доктара пед. навук В.Ц.Чэпікава. У склад Чабатовіцкага с/с уваходзілі да 1968 г. пас. Пралетарый, да 1969 г. пас. Дняпроўск, да 1976 г. пас. Першамайскі, Пушкіна (не існуюць).

**ЧАРАТЫ** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 24 км ад Буда-Кашалёва, 15 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 25 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, далей па шашы Доўск—Гомель. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 18 двароў, 94 жыхары, у Міхалёўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 81 жыхар. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧАРНЯЦІН** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 22 двары, 111 жыхароў, у Міхалёўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧАРНЯЦІН** — пасёлак у Глазаўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 39 км ад Гомеля. На Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 23 гаспадаркі, 42 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 32 двары, 155 жыхароў, у Глазаўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прама-

лінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧАРНЯЦКАЯ ПАЛЯНА** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 22 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля. На зах. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 12 двароў, 73 жыхары, у Міхалёўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 22 жыхары. Па перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧАРОТ** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 45 км ад Гомеля. На Пд і Пн мяжуе з лесам, на зах. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧЫРВОНЫ ГАРАДОК** — пасёлак у Кашалёўскім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 53 км ад Гомеля. На Пд р. Ліпа (прыток р. Сож) і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Забалоцце—Буда-Кашалёва. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 74 жыхары. У складзе саўгаса «Шарыбаўскі» (цэнтр — в. Шарыбаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧЫРВОНЫ ЛУЖОК** — пасёлак у Івольскім с/с, за 22 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 24 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жлобін—Гомель. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 7 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Івольск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧЫРВОНЫ СВЕТ** — пасёлак у Гусявіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Буда-Кашалёва, 35 км ад Гомеля, 5 км ад чыг. раз'езда Радзеева (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Буда-Кашалёва—Уваравічы. 37 гаспадарак, 69 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 13 двароў, 111 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 202 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Пянчын» (цэнтр — в. Пянчын). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, забудаваных аднабакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧЫРВОНЫ СЦЯГ** — пасёлак ў Глазаўскім с/с, за 10 км на Пд ад раён-

нага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 48 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 36 двароў, 200 жыхароў, у Глазаўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас. Па перапісу 1959 г. 159 жыхароў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Глазаўка). Планіровачна складаецца з кароткай амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЧЫРВОНЫ СЦЯГ** — пасёлак у Узаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 27 км ад Гомеля, 3 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па мясцовай, затым аўтадарозе Уваравічы—Буда-Кашалёва. 247 гаспадарак, 734 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1962 г. ў пасёлку размясцілася будаўніча-мантажнае ўпраўленне. Размешчаны Буда-Кашалёўскае ПМК-69, аддз. сувязі, ільносемстанцыя, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай пераважна драўлянымі жылымі і вытв. будынкамі.

**ЧЭРАПАЎКА** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 15 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 22 км ад Гомеля, на У невялікі вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. як хутар у Дудзіцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 39 жыхароў, 334 дзес. зямлі. У пачатку 1920-х г. частка перасяленцаў з вёскі заснавала пас. Чэрапаўка-2 (зараз пас. Красны Акцябр). У 1926 г. 30 двароў, 157 жыхароў, у Блюдніцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я. Варашылава, працавалі вятрак, кузня і конная крупарушка. Па перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе саўгаса «Краснаакцябрскі» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ШАРЫБАЎКА** — вёска ў Кашалёўскім с/с, за 8 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 181 гаспадарка, 466 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах мясцовасць, дзе пазней узнікла вёска, вядома як зямля Сарыбаўшчына, якая лічылася за в. Ліпінічы і ў 1566 г. перададзена Б.Даніловічу. Першыя будынкі на гэтых землях адносяцца да 18 ст. У 1799 г. 24 гаспадаркі, у валоданні Дарыя-Дзерналовічаў. Па перапісу 1897 г. 101 двор, 659 жыхароў, хлебазапасны магазін (з 1880 г.), 2 ветракі, карчма, у Кашалёўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У фальварку, што знаходзіўся побач, 3 двары, 30 жыхароў, 2 цагельні. У 1901 г. царк.-прыходская школа ператворана ў нар. вучылішча, для якога ў 1903 г. збудавана памяшканне (у 1907 г. 65 вучняў). Пры вучылішчы мелася бібліятэка. У 1909 г. 111 двароў, 678 жыхароў, 784 дзес. зямлі. У 1925 г. 219 двароў, у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. Інтэнсіўна забудоўвалася вёска ў 1930-х г., скаліся дзве, падзеленыя невялікім ручаём вёскі: Старая Шарыбаўка (усх. частка) і Новая Шарыбаўка (паўн.-зах. частка). У 1930 г. створаны калгасы «Чырвоны араты» і «Авангард», працавалі 2 кузні, цагельня і ваўначоска. У 1940 г. 519 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі

14 двароў і школу. Вызвалена 28.11.1943 г. У баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 52 воіны і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне), 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Па перапісу 1959 г. ў в. Старая Шарыбаўка 360, у в. Новая Шарыбаўка 336 жыхароў. З 1960-х г. гэтыя вёскі складаюць адзін населены пункт. Цэнтр саўгаса «Шарыбаўскі». Механічныя майстэрні, камбінат быт. абслугоўвання, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай другой прамалінейнай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. Нац. АН Беларусі, доктара гіст. навук, праф., засл. дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР С.В.Марцэлева. Побач ёсць паклады суглінкаў.

**ШУТНАЕ** — вёска ў Буда-Люшаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Буда-Кашалёва, 65 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), на р. Ліпа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 10 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў другой палове 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Па перапісу 1897 г. 9 двароў, 83 жыхары. У 1909 г. 16 двароў, 101 жыхар, 371 дзес. зямлі, у Старуднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1916 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 23 двары, у Любавінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. Пераважную большасць жыхароў складалі польскія сем'і. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 25 вяскоўцаў. Па перапісу 1959 г. 107 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Ульянава (цэнтр — в. Буда-Люшаўская). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара с.-г. навук, праф. А.І.Казлоўскага, засл. настаўніка Л.Д.Гусакова.

**ШЫРОКАЕ** — вёска цэнтр Шырокаўскага с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 36 км ад Гомеля. На Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 299 гаспадарак, 880 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1880 г. адкрыта школа граматы. У 1926 г. 33 двары, 178 жыхароў, у Міхалёўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. З 8.12.1966 г. цэнтр Шырокаўскага с/с. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 111 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1970 г. Па перапісу 1959 г. 220 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Камінтэрн». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб. У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 100 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.



*С.В.Марцэлеў.*

У склад Шырокаўскага с/с да 1998 г. ўваходзілі пас. Салаўёў, Новы свет (не існуюць).

**ЯКІМАЎКА** — пасёлак у Ліпініцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Чачэрск—Буда-Кашалёва. 23 гаспадаркі, 57 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ліпінічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ЯРАПОЛЛЕ** — пасёлак у Шырокаўскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 31 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, затым па шашы Доўск—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 6 двароў, 31 жыхар, у Ліпскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 51 жыхар. У складзе саўгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Шырокае). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЯСАКАР** — пасёлак у Марозавіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 41 км ад Гомеля. На З меліярацыйны канал і р. Уза (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Буда-Кашалёва—Уваравічы. 22 гаспадаркі, 41 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 144 жыхары. У складзе саўгаса «Марозавічы» (цэнтр — в. Марозавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЯСЛІШЧА** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 58 км ад Гомеля. На Пн р. Зыбіна (прыток р. Крапіўня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 59 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЯСМЕНЬ** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 19 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 56 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 110 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** — пасёлак у Старабудскім с/с, за 17 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Жлобін—Гомель), 54 км ад Гомеля. На Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 13 двароў, у Губіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 жыхароў. Па перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Старая Буда). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЯСНЫ БОР** — пасёлак у Чабатовіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Буда-Кашалёўская

(на лініі Жлобін—Гомель), 51 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 12 двароў, 81 жыхар, у Чабатовіцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Па перапісу 1959 г. 57 жыхароў. У складзе саўгаса «Чабатовічы» (цэнтр — в. Чабатовічы). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сял. сядзіб.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 165, 167, 176; ф. 30, воп. 5, спр. 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 2108, 2109, 2111, 2113, 2114, 2115, 2116, 2117, 2118, 2119, 2120, 2121, 2122, 2123, 2124, 2125, 2126, 2127, 2128, 2129, 2131, 2132, 2133; ф. 93, воп. 1, спр. 1235; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 4683, воп. 3, спр. 755.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 440, воп. 1, спр. 7; ф. 834, воп. 1, спр. 3; ф. 1257, воп. 1, спр. 10446; ф. 1297, воп. 1, спр. 6417, 10446, 18715, 25156; ф. 1461, воп. 3, спр. 3; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 81, 1125; ф. 2131, воп. 1, спр. 163; ф. 2151, воп. 1, спр. 65, 159, 161, 163, 164, 165; ф. 2152, воп. 1, спр. 163; ф. 2189, воп. 1, спр. 254, 255; ф. 2254, воп. 4, спр. 14; ф. 2294, воп. 4, спр. 14; ф. 2367, воп. 1, спр. 1; ф. 2946, воп. 1, спр. 1; ф. 2978, воп. 1, спр. 1; ф. 3001, воп. 1, спр. 1; ф. 3014, воп. 1, спр. 9; ф. 3363, воп. 1, спр. 436, 438.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 160, 1344, 1366.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1 (1340—1506). СПб., 1846.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Литовская губерния. СПб., 1848.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Акты, относящиеся к истории Западной России (1663—1699). СПб., 1855.
Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. СПб., 1855.
Сборник Муханова. № 79. М., 1856.
Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Живописная Россия. СПб.; М., 1882.
Обзор Могилевской губернии за 1881 г. Могилев, 1882.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2, 3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—90 гг. Могилев, 1889.
Волости и гмины. Ч. XXIII. Могилевская губерния. СПб., 1890.
Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Ч. 1. СПб., 1892.
Вся Россия. СПб., 1902.
Обзор Могилевской губернии за 1901 год. Могилев, 1902.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1905—1906 учебный год. Могилев, 1905.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции за 1907—1908 учебный год. Могилев, 1908.
Литовская метрика. Т. 1. СПб., 1910.
Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Кн. 1. Вильно, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1911 г. Могилев, 1912.
Литовская метрика. Т. 33. Ч. 3. Пг., 1915.
Статистический обзор Могилевской губернии на 1914 г. Могилев, 1915.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Рыбакоў Б.А. Радзімічы // Працы секцыі археалогіі БАН. Т. 3. Мн., 1932.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1, 2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.

Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Мн., 1954.
Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862). Мн., 1959.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1891 гг.). Мн., 1966.
Жуков Г.К. Разгром фашистских войск в Белоруссии. Освобождение Белоруссии. 1944 г. М., 1970.
Кардашев В. Рокоссовский. М., 1972.
В грозные годы. Мн., 1973.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства. М., 1982.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Белоруссия в эпоху капитализма. Мн., 1990.
Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 5 (1427—1506). Вильнюс, 1993.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 8 (1499—1514). Вильнюс, 1995.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944). Мн., 1995.
Вяртанне. Мн., 1996.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная. Вып. 1. Гомель, 1999.
Литовская метрика. Кн. 51 (1566—1574). Вильнюс, 2000.
Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Чачэрскага раёна. Мн., 2000.
Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Буда-Кашалёўскага раёна. Мн., 2001.




ВЕТКА
Маштаб 1 : 300 000
ЧАЧЭРСКІ РАЁН
БРАНСКАЯ ВОБЛ.
ДОБРУШСКІ РАЁН
ГОМЕЛЬСКІ РАЁН
БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН
52°50′
52°42′
52°30′
31°00′
31°15′
31°30′
п. Нов. Заляддзе
Казацкія Балсуны
Перамога
п. Нов. Міхайлаўка
Пералёўка
Дарынполле
Антонаўка
Мал. Нямкі
п. Іванькін
Вял. Нямкі
п. Маліна́ўка
Фёдараўка
Чачэрск
п. Нінэль
п. Памяць
Стаўбунскае
Янова
Будзішча
Навілаўка
Скачок*
Глухаўка
п. Чамярня
п. Зацішша
Габраўка*
п. Неперамажны
п. Лазараў
п. Расуха
Петраполле*
п. Жалуддзе
Сяліцкая*
п. Падлогі*
Акшынка*
Свяцілавічы
Стаўбун
п. Калінін*
п. Гарадок
п. Залужжа*
Усохі*
п. Рэпішча
Сымонаўка*
Коўбаўка
Рыслаўе*
п. Гібкі
Нов. Малкаў
Неглюбка
Стар. Малкаў*
Жалезнікі
п. Зарэчча*
п. Юрга
п. Селішча
п. Перавессе
Несцераўка*
Стаўбунская Рудня
п. Свабада
Ухова*
Някрасава
п. Перадавец
п. Уютны*
п. Першамайскі*
Рэчкі*
Глыбаўка
п. Кута
п. Канавалава
п. Сініцына
Гарысты*
п. Ляды
п. Аднаполле
п. Пралетарскі*
Рудня-Гулева*
Гута*
Быкавец*
Стар. Грамыкі*
Шэйка
Пацёсы*
Хізы*
Рудня-Шлягіна*
п. Камылін*
Нов. Грамыкі*
п. Барчанкі
Прысно
Гутка*
Шарсцін
Вераб'ёўка*
п. Восава*
п. Навіны*
Новаіванаўка*
Барталамееўка*
п. Выгар*
п. Раманаў Лес
Юркавічы
п. Падкаменне*
Даніла́вічы
п. Хрушчоўка
Петухоўка*
п. Зялёная Хвоя
п. Красны Пахар
Беседзь*
п. Ляскі*
п. Амяльное*
п. Васток*
Стар. Закружжа*
Ягаднае
Замосце
Пабужжа*
Пыхань
п. Ляды
Навасёлкі
п. Пралетарскі
Барба*
п. Серадняцкі
Баркі
Кунтараўка
п. Шаўцоў
п. Першамайскі
Радуга
Сіўенка*
Папсуеўка*
п. Нов. Мір
Косіцкая*
Ірынаўка*
п. Нов. Жыццё
Хальч
п. Барэц
Купрэеўка*
п. Станкі
п. Пабеда
п. Канічай
п. Залаты Рог
Тарасаўка
п. Палянаўка
Гомель
Стар. Сяло
Спо́ніцкая Рудня
Тумарын
п. Чыстыя Лужы
Беседзь
Іпуць



# ВЕТКАЎСКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. на У Гомельскай вобл. 25.12.1962 г. скасаваны, 6.1.1965 г. адноўлены. Пл. 1555 км², насельніцтва 20,2 тыс. чал. (2004 г.), адм. цэнтр г. Ветка, 1 гар. і 11 сельскіх Саветаў. Уключае 139 населеных пунктаў. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 3025 сямей (8154 жыхары) пераселены ў чыстыя месцы на працягу 1991—97 гг. На Пд мяжуе з Добрушскім, на Пн — з Чачэрскім, на З і ПдЗ — з Гомельскім р-намі, на У — з Бранскай вобл. Расійскай Федэрацыі. Паверхня раўнінная, на У невялікія марэнныя грады і дзюнна-ўзгоркавыя формы рэльефу. Ёсць 10 невялікіх залежаў цагельных глін і суглінкаў (1,7 млн. м³) і залежы мелу (24 млн. т). Рэкі: Сож з прытокамі Нёманка, Ліпа, Спонка і Беседзь (з прытокамі Пералёўка, Стаўбунка, Вядзергая). Прамысловыя прадпрыемствы пераважна ў Ветцы і Свяцілавічах. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзоліста-глеяватыя і глеевыя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя, дзярновыя глеяватыя і глеевыя, поймавыя тарфяна-балотныя. З мінеральных глеб 35,6 % суглінкавых, 38,2 % супясчаных, 26,2 % пясчаных. Сельгасугоддзі складаюць 52,1 % тэр. раёна. Якасць ворных зямель 45 балаў, кармавых угоддзяў — 26, усіх с.-г. угоддзяў — 37 балаў. 28,7 % тэр. займаюць лясы. Асушана 6,5 тыс. га балот і забалочаных зямель. 5 калгасаў, 10 саўгасаў, 17 агульнаадукац. школ, 39 спарт. збудаванняў, 23 б-кі, 27 клубных устаноў, 6 бальніц, 30 фельч.-акушэрскіх пунктаў, музей нар. творчасці, 76 магазінаў і 24 прадпрыемствы грамадскага харчавання.

**ВЕТКА** — горад, цэнтр Веткаўскага р-на і саўгаса «Веткаўскі», за 22 км на ПнУ ад абл. цэнтра і чыг. ст. Гомель-Пасажырскі (на лініі Жлобін—Церахоўка), за 323 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгоркавы, на ўсх. ускраіне р. Сож (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Аўтадарогамі звязана з Гомелем, Чачэрскам, Добрушам. Прыстань на р. Сож. 7,8 тыс. жыхароў (2004 г.). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання праведзена дэзактывацыя і частка жыхароў пераселена ў чыстыя месцы.

Выяўлены археолагамі селішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. (на могілках), паселішча позняга сярэдня-





*Дамы, аздобленыя традыцыйнай веткаўскай разьбой.*

*Абраз «Пакровы» Веткаўскага музея народнай творчасці.*



вечча (3 км на Пн ад горада, ва ўрочышчы Цялячае) і селішча (2 км на ПнЗ ад горада, на першай надпоймавай тэрасе р. Сож, ва ўрочышчы Селішча), якія сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная Ветка бярэ пачатак з 17 ст., калі ў 1685 г. тут, на землях шляхціца Халецкага, была заснавана слабада. Ветка названа па аднайменным востраве, утвораным р. Сож і невялікімі адасобленымі ад яе затокамі, падобнымі на галінку (на рускай мове «ветка»). Засялілі слабаду стараверы,

*Брама Веткаўскага музея народнай творчасці.*



якія пры цару Аляксею Міхайлавічу ўцякалі з Расіі ад праследавання ўлад. У 1695 г. збудавана і пачала дзейнічаць Пакроўская царква, якая ў хуткім часе стала шырокавядомай сярод раскольнікаў (пазней — Пакроўскі манастыр). Ветка ператварылася ў своеасаблівы цэнтр старавераў. Па палітычных матывах улады Рэчы Паспалітай ахвотна падтрымлівалі беглых старавераў і дазвалялі ім сяліцца на свабодных землях. Пасяленцы своечасова плацілі арэндную плату, стваралі свае абшчыны і жылі сваімі інтарэсамі. Але ў 1735 г. са згоды польскага ўрада 5 конных палкоў пад кіраўніцтвам палкоўніка Сыціна акружылі веткаўскія слабоды, разбурылі малітоўныя дамы і скіты. Прыгодныя да ваеннай службы стараверы былі залічаны ў салдаты, а астатнія пераселены ў аддаленыя раёны Расіі. Аднак гэта акцыя, вядомая пад назвай «першая выганка», не прывяла да радыкальных змен. Раскольнікі хутка вярталіся назад, прыбывалі і новыя перасяленцы. Каля царквы яны заснавалі мужчынскі і жаночы манастыры. У 1764 г. па загаду Кацярыны II ген.-м. Маслаў вывез у Сібір з Веткі і суседніх слабод да 20 тыс. старавераў («другая выганка»). Пасля гэтага яна страціла сваё значэнне як цэнтр арганізацыі расколу, аднак захавала ў стараверстве гіст. і культурны аўтарытэт. У 1772 г. тут 15 тыдняў хаваўся ад праследаванняў Емяльян Пугачоў. У Ветцы яму далі імя цар Пётр III. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Ветка ў складзе Рас. імперыі, з 1784 г. мястэчка Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., у 1796—1802 гг. Беларускай, з 1919 г. Гомельскай губ. У 1834—40 гг. пабудавана Праабражэнская царква. Асноўная частка зямель належала адстаўному ген.-м. В.П.Шлейферу, пазней — памешчыку Станевічу. У 1826 г. ў Ветцы 2057 жыхароў. У аднайменным маёнтку ў 1865 г. было 2354 дзес. зямлі, вадзяны млын, піцейны дом і лаўка. Вяскоўцы





*Рукапісы 16—19 ст., напісаныя крукавым нотным пісьмом. Веткаўскі музей народнай творчасці.*

*Адна з залаў экспазіцыі Веткаўскага музея народнай творчасці.*

займаліся пераважна земляробствам, а таксама кавальскім рамяством, вырабам якараў і канатаў. Развівалася талесная вытворчасць (у 1829 г. выраблена 1680 аршын талесаў). Да 1840 г. працавала суконная ф-ка купца АЛазарава. Актыўна дзейнічалі прыстань і пераправа цераз Сож. У 1860 г. з прыстані адышло 36 суднаў з living рознымі таварамі і 69 лясных плытоў. Было разгружана 47 суднаў. З Пд прыбывалі збожжа, соль і інш. тавары, а ў Херсонскі порт накіроўваліся розныя пароды драўніны, канаты, якары. На верфі, якая дзейнічала з 1840 г., будаваліся драўляныя рачныя судны (бярлінцы). Штогод праводзіліся 2 кірмашы (Сырны і Спасаўскі), на якіх у 1861 г. было прапанавана для продажу тавараў на 34 880 рублёў. У Ветцы праводзілася прадажа Крымскай солі, якая дастаўлялася па Дняпры і Сажы і давала вял. прыбыткі. З 1853 г. працавалі 2 майстэрні па апрацоўцы скуры. Узоры апрацаванай тут скуры экспанаваліся ў Магілёўскім губернскім музеі. У 1864—74 гг. працавалі 3 крупарушкі, у 1870—80 гг. — 6 невялікіх канатна-вяровачных прадпрыемстваў. 11.5.1865 г. пажар знішчыў 98 двароў. У 1885 г. 5982 жыхары, 11 мураваных і 994 драўляныя будынкі, 4 мураваныя і 120 драўляных крам. У 2-й пал. 19 ст. дзейнічалі паштова-тэлегр. аддзяленне, нар. вучылішчы для хлопчыкаў (з 1869 г.) і для дзяўчынак (з 1874 г.), у якіх у 1889 г. навучаліся 113 дзяцей. Цэнтр Веткаўскай вол. (да 8.12.1926 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 21 селенне з агульнай колькасцю 1615 двароў. Паводле перапісу 1897 г. Ветка — мястэчка, 1169 жылых будынкаў, 7134 жыхары, царква, капліца, стараверскі і яўр. малітоўныя дамы, мужчынскае і жаночае нар. вучылішчы, прыёмны пакой, паштова-тэлегр. кантора, аптэка, 2 прыстані, хлебазапасны магазін, 8 млыноў, 12 кузняў, 2 цагельныя і 6 канатных з-даў, 3 кажэўныя майстэрні, 5 крупарушак, 245 лавак, у тым ліку кніжная, б-ка, 5 піцейных дамоў. Побач быў аднайменны фальварак з цагельным з-дам. З 1904 г. дзейнічала с.-д. група Веткі, якая ўваходзіла ў Палескі к-т РСДРП. З 1908 г. дзейнічала пазыкова-ашчадная каса. У 1909 г. 10 340 жыхароў, 15 мураваных і 1752 драўляных (з іх 980 жылых) пабудоў, 2327 дзес. зямлі, школа, вінная лаўка, млын, хлебазапасны магазін, мед. прыёмны пакой, правасл. і стараверская цэрквы, яўр. малітоўны дом. У 1910 г. пабудавана бальніца на 15 ложкаў. У



*Веткаўскі музей народнай творчасці. Фрагмент экспазіцыі.*

крас. 1917 г. створаны валасны Савет салдацкіх дэпутатаў. У канцы ліп. 1917 г. адбылася забастоўка рабочых на канатна-вяровачным з-дзе, якая закончылася перамогай бастуючых. З пач. 1918 г. да 2.12.1918 г. акупіравана герм. войскамі. У пач. мая 1918 г. ням. камандаванне перадала Ветку разам з Гомельскім пав. Украіне. Сюды ўступілі гайдамакі гетмана Скарападскага. Летам 1918 г. мястэчкоўцы для барацьбы супраць акупантаў стварылі партыз. атрад (кіраўнік Дадзілаў). З выгнаннем немцаў былі выгнаны і гайдамакі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 1926 г. ў складзе БССР, цэнтр раёна. 9.10.1919 г. створана арцель «Праца», а 5.1.1920 г. на агульным сходзе жыхароў было прынята рашэнне аб стварэнні с.-г. арцелі «Араты». Валасны выканаўчы к-т у пач. 1924 г. сваёй пастановай перайменаваў амаль усе найбольш значныя па памерах вуліцы — Праабражэнскую ў вул. Леніна, Манастырскую — у Першамайскую, Беседскую ў Кастрычніцкую, Канатскую ў імя Свярдлова, Саломенскую ў Чырвонаармейскую, Вінніцкую ў вул. Камунараў, Зарэчную ў Камсамольскую і г.д. У 1924 г. пабудавана электрастанцыя, у 1930 г. створаны калгас. 20.5.1931 г. пачала выходзіць раённая газета. Працавалі вінзавод, торфараспрацоўчая і трыкатажная арцелі, цагельня, абутковая, кравецкая, шавецкая, вяровачная, дрэваапрацоўчая майстэрні, машынна-трактарная станцыя (з 1934 г.), крухмала-патачны з-д, маслазавод, нафтавы млын. У 1931 г. засн. ткацкая арцель, у 1938 г. — панчошна-трыкатажная ф-ка. Пастановай ЦВК і СНК БССР ад 15.7.1935 г. аднесена да ліку гарадоў, а Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 27.9.1938 г. — да гарадоў раённага падпарадкавання. У 1939 г. 6 тыс. жыхароў.

У першыя дні Вял. Айч. вайны быў створаны атрад нар. апалчэння (140 чалавек, кіраўнік Зарэцкі). 18.8.1941 г. пасля жорсткіх баёў, якія вяла тут 55-я стралк. дывізія, Ветка была занята ням.-фаш. войскамі. Акупанты загубілі больш за 200 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-ўсх. ускраіне). Вызвалена 28.9.1943 г. часцямі 89-й і 159-й танкавых брыгад, 44-й мотастралковай брыгады 1-га танкавага корпуса, 17-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі 2-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса Бранскага фронту. У баях за Ветку загінулі 873 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на вул. Савецкай). У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза, ст. лейтэнант, кам. танкавай роты А.М.Хутаранскі. 568 жыхароў Веткі загінулі на фронце. У Ветцы размешчана бавоўнапрадзільная і ткацкая ф-кі, камб. быт. абслугоўвання, малочны з-д, камбінат будаўнічых матэрыялаў, ПМК-93, ДРСУ-185, раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, райсельгасхімія, райсельэнерга, райаграпрамтэхніка, дом-інтэрнат «Шубіна», лясгас, торфабрыкетны з-д «Веткаўскі», 2 сярэднія і муз. школы, 4 дашкольныя ўстановы, 2 б-кі, гар. Дом культуры, клуб, паліклініка, бальніца, санэпідстанцыя, аптэка, дзярж. музей нар. творчасці (з 1978 г.), аснову экспазіцыі якога складае прыватная калекцыя Ф.Р.Шклярава. Выходзіць раённая газ. «Голас Веткаўшчыны».

Планіровачна складаецца з 4 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж р. Сож і яе поймы, злучаных завулкамі. Другую частку забудовы складаюць 5 вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Усх. ад цэнтр. плошчы частка забудавана кароткімі мерыдыянальнымі вуліцамі. Грамадскі цэнтр — плошча, дзе размешчаны адм. і гандл. будынкі. Па ген. плану, распрацаванаму ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва, новы жылы раён фарміруецца на Пн ад грамадскага цэнтра. Прамысл. прадпрыемствы сканцэнтраваны ў паўн.-ўсх., паўдн. і паўдн.-ўсх. р-нах. Здаўна ў Ветцы і на-

вакольных вёсках шырока выкарыстоўваецца для знадворнага дэкарыравання жылля разьба па дрэве, якая дапаўняецца паліхромнай размалёўкай. Радзіма парт. і дзярж. дзеяча, журналіста і дыпламата У.І.Бровікава, вядомага рус. паэта Дз.М.Кавалёва (яго імя носіць адна з вуліц горада), Героя Сац. Працы Т.В.Васільковай, ген.-м. Д.І.Скарабагатава (яго імя носіць адна з вуліц горада), поўнага Георгіеўскага кавалера К.А.Вышнікава, бел. скульптара А.Т.Курачкіна, жывапісцаў В.Р.Ландарскага, С.М.Цуканава, М.Ф.Шклярава, дзярж. дзеяча БССР Н.Л.Сняжковай, засл. будаўніка Беларусі А.Е.Фаміна, засл. настаўнікаў Беларусі С.П.Гаробчанкі, Н.К.Гаўрыкавай і Е.Р.Іўковіч, бел. кампазітара С.В.Райнера, доктара тэхн. навук В.І.Пракошчыка, доктара фізікаматэмат. навук П.М.Барадзіна.

**АДНАПОЛЛЕ** — пасёлак у Прыснянскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Веткі, 27 км ад Гомеля, на У і Пн — пойма і р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Прысна—Ветка. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак у Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 1 двор, 5 жыхароў, 500 дзес. зямлі. У 1926 г. ў Прыснянскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 35 двароў, 167 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 23.11.1943 г. вызвалены ад ням. акупантаў, 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Прысно). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АКШЫНКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 27 км на Пн ад Веткі, 49 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (64 сям'і) перaселены ў 1993 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Покацкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. 43 жыхары, у валоданні памешчыка В.Шалюты. У 1847 г. 26 двароў, 181 жыхар, 1915 дзес. зямлі. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ў валоданні Язерскіх. У 1881 г. 46 двароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 589 жыхароў, школа граматы, кузня. У аднайменным фальварку, што быў побач, 4 двары, 24 жыхары, капліца, вадзяны і ветраны млыны, крупарушка, сукнавальня. У 1909 г. 112 двароў, 730 жыхароў; у фальварку 1 двор, 7 жыхароў, 1470 дзес. зямлі. У жн. 1918 г., у час герм. акупацыі, партыз. атрад, што дзейнічаў паблізу, заняў вёску і аднавіў Сав. уладу. У 1926 г. 145 двароў, 723 жыхары, аддз. спажывецкай кааперацыі, паштовы пункт, пач. школа. У 1962 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Зара. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Акшынскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.9.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1985 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. (да 1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну 94 жыхары загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса «Усходні». Размяшчаліся 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца з У другая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Акшынскага с/с уваходзіў да 1962 г. пас. Зара (не існуе).

**АМЯЛЬНОЕ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Веткі, 44 км ад Гомеля, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з Веткай. На Пд і З

меліярац. каналы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (44 сям'і) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар. У 1926 г. ў Старазакружскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 32 двары, 183 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 55 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 221 жыхар. У 1969 г. 51 двор. Уваходзіў у склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Старое Закружжа). Планіровачна складаецца з працяглай, прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Веліканямкоўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Веткі, 62 км ад Гомеля, на р. Зборхаў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны — Свяцілавічы. 17 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. як вёска Антаневіч у Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 62 двары, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 4-х жыхароў, 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У складзе калгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАРБА** (да 1928 г. Раманава) — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 13 км на У ад Веткі, 34 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Закружжа — Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (115 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як слабада Раманава ў маёнтку Хальч. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Рас. імперыі. З 1802 г. дзейнічала царква, а ў 1868 г. для яе пабудаваны новы будынак. Уладальнік фальваркаў Раманава, Церабоўка, Папсуеўка меў у 1876 г. 3814 дзес. зямлі. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 668 жыхароў, стараверскі малітоўны дом, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, лаўка. У 1909 г. 85 двароў. Побач была другая аднайменная слабада, 62 двары. Пазней гэтыя сяленні склалі адзін населены пункт, у якім у 1926 г. былі 183 двары, 859 жыхароў, дзейнічалі паштовае аддз., школа, лаўка. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Барбянскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Вязувій», «Ударнік» і «Партызан», працавалі конная крупарушка (з 1915 г.), вятрак (з 1929 г.), 3 кузні. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 441 жыхар. У 1985 г. ў вёску перасялены жыхары пас. Рэвалюцыя. Уваходзіла ў склад калгаса «Пераможац» (цэнтр — в. Папсуеўка). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Згарэла ў 1991 г.

**БАРКІ** — вёска ў Данілавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Веткі, 13 км ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на З сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак, гаспадар якога ў 1866 г. валодаў 1347 дзес. зямлі. З 1890 г. дзейнічала вінакурня. У 1926 г. ў

Замосцеўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр., 20 двароў, 123 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 52 двары, 184 жыхары. 32 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У 1947 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Новафёдараўскі. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У складзе калгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**БАРТАЛАМЕЕЎКА** (Бутрамееўка) — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 17 км на ПнУ ад Веткі, 38 км ад Гомеля, 32 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў); на Пд і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Свяцілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (340 сямей) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі паселішча каменнага і бронзавага вякоў (0,3 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Выдзьма) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. вясковая правасл. Свята-Мікалаеўская царква былаператворана ва уніяцкую. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 392 жыхары. У 1785 г. ў валоданні кн. Халецкага і дваранкі Бычкоўскай. У 1852 г. ўладанне памешчыка Сенажэцкага, 67 двароў. У 1879 г. гаспадар маёнткаў Барталамееўка, Вераб'ёўка і Сенажаткі меў 1688 дзес. зямлі. У 1886 г. 156 двароў, 760 жыхароў, царква, 2 ветракі, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 191 двор, 1218 жыхароў, царква (драўляная), царк.-прыходская школа, вінная лаўка, 3 ветракі, маслабойня, кузня. У 1909 г. 197 двароў, 1350 жыхароў, 2303 дзес. зямлі, у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 238 двароў, пач. школа, хата-чытальня, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 25.6.1962 г. і з 25.6.1970 г. да 11.6.1980 г. цэнтр Барталамееўскага с/с Веткаўскага, з 9.12.1926 г. Чачэрскага, з 25.12.1962 г. Буда-Кашалёўскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барэц», працавалі дрэваапрацоўчая арцель (з 1931 г.), 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 256 двароў, цагельня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле 28.9.1943 г. загінулі 50 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі), 210 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 844 жыхары. У 1968 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоная Зорка і перасяліліся жыхары пас. Гвознае. Была цэнтрам саўгаса «Высакаборскі». Размяшчаліся торфабрыкетны з-д, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 3-х паралельных паміж сабой (дзве працяглыя, адна кароткая) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія перакрыжаваны працяглай вуліцай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Барталамееўскага с/с уваходзілі да 1968 г. пас. Чырвоная Зорка, да 1980 г. пас. Высокі Бор (не існуюць).

**БАРЧАНКІ** (да 1934 г. Вярхулішча) — пасёлак у Прыснянскім с/с за 22 км на ПнЗ ад Веткі, 26 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Прысна—Ветка. 34 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Вядомы па пісьмовых крыніцах з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав., фальварак, 1 двор, 36 жыхароў, 1785 дзес. зямлі, вінакурня (з 1899 г.). У 1926 г. пасёлак у Прыснянскім с/с Гомельскай акр. 27 двароў, 151 жыхар. Побач быў хутар Вярхулішча (4 гаспадаркі, 19 жыхароў), які пазней увайшоў у склад пасёлка. Непа-

далёку знаходзілася і с.-г. арцель «Вярхулішча» (7 гаспадарак, 31 жыхар), створаная ў пач. 1920-х гадоў на базе фальварка. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 52 пасялкоўцы загінулі на фронце. Вызвалена ад ням. акупантаў 22.11.1943 г. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Прысно). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пд, за паркам, невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.Д.Мельнікава.

**БАРЭЦ** — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 6 км на З ад Веткі, 11 км ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка, 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Хальчанскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 12 двароў, 79 жыхароў. У 1940 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 54 жыхары. У складзе саўгаса «Хальч» (цэнтр — в. Хальч). Планіровачна складаецца з кароценькай прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕСЕДЗЬ** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 9 км на Пн ад Веткі, 31 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож); на Пд і У мяжуе з лесам, на З — тарфяны запаведнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (89 сямей) перaселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі 3 неалітычныя стаянкі (на правым беразе р. Беседзь, ва ўрочышчы Шубін і на ўсх. ускраіне) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Веткаўскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў валоданні кн. Халецкага і кн. Любамірскай. На р. Беседзь дзейнічала пераправа праз плаціну з 4 драўлянымі мастамі. У 1852 г. збудавана мукамольня, якая ў 1859 г. перапрацавала 30 тыс. пудоў зерня. У 1871 г. засн. маслабойня. У 1880 г. пачаў дзейнічаць хлебазапасны магазін. У 1885 г. 54 двары, 309 жыхароў, царква, вадзяны млын, 2 крупарушкі. Паводле перапісу 1897 г. 76 двароў, 469 жыхароў, царква, капліца, вінная лаўка, школа граматы, маслабойня. У 1909 г. 88 двароў, 603 жыхары, 1406 дзес. зямлі. Побач быў аднайменны фальварак. У 1921 г. вяскоўцы сабралі і накіравалі галадаючым Паволжа 50 пудоў жыта. У 1926 г. 101 двор, 608 жыхароў, паштовае аддз., пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 436 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 107 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 477 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Размяшчаліся 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, лясніцтва. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пд адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**БЫКАВЕЦ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Веткі, 40 км ад Гомеля; на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (43 сям'і) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (6 насыпаў, 0,5 км на З ад вёскі, на могілках) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай стара-

жытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчкаўскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1848 г. ў складзе памешчыцкага маёнтка. Крыху пазней пачаў дзейнічаць хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 144 жыхары.У аднайменным фальварку, што быў побач, 2 двары, 2 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 146 жыхароў, 230 дзес. зямлі, у фальварку 9 жыхароў, 787 дзес. зямлі і на хутары 14 жыхароў, 180 дзес. зямлі. У 1926 г. 46 двароў, 219 жыхароў, паштовы пункт, у Хізавагуцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Гарысты). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаецца кароценькая вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. Я.В.Савіна.

**ВАСТОК** — пасёлак у Веткаўскім гарсавеце, за 18 км на ПнУ ад Веткі, 37 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (33 сям'і) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-х г. У 1926 г. 15 двароў, 95 жыхароў, паштовае аддз., у Барталамееўскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 136 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕРАБ'ЁЎКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 16 км на ПнУ ад Веткі, 38 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож); на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (49 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчкаўскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 52 жыхары. У 1785 г. ў валоданні кн. Халецкага і княгіні Радзівіл. Па рэвізіі 1858 г. 6 двароў, 56 жыхароў. Гаспадар маёнткаў Вераб'ёўка і Барталамееўка Сенажэцкі меў у 1879 г. 1688 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 153 жыхары. У 1909 г. 39 двароў. Побач была аднайменная аколіца (9 двароў, 66 жыхароў), якая пазней далучылася да вёскі. У 1926 г. 52 двары, 299 жыхароў, пач. школа, у Бяседскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная моладзь», працавалі вятрак (з 1928 г.) і кузня. У 1940 г. 87 двароў, 323 жыхары. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 286 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОСАВА** — пасёлак у Веткаўскім гарсавеце, за 16 км на ПнУ ад Веткі, 38 км ад Гомеля; на Пн — пойма р. Беседзь (прыток р. Сож), на паўд. ускраіне мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (9

сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 8 двароў, 36 жыхароў, у Барталамееўскім с/с Гомельскай акр. У 1940 г. 12 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы, забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫГАР** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Веткі, 10 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (3 сям'і) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-х г. У 1926 г. ў Данілавіцкім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. 12 двароў, 51 жыхар. У 1940 г. 18 двароў, 56 жыхароў, 12 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя І.Г.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ВЯЛІКІЯ НЯМКІ** — вёска, цэнтр Вяліканямкоўскага с/с, за 38 км на ПнУ ад Веткі, 68 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на аўтадарозе Казацкія Балсуны — Свяцілавічы, на Пн — тарфяны запаведнік. 216 гаспадарак, 520 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча) і могільнік (на паўн.-ўсх. ускраіне, ва ўрочышчы Курганне) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. Пад 1471 г. пазначана як в. Нямковічы ў валоданні Ю.Драншчы. У 1589 г. ў Чачэрскай вол. Рэчыцкага пав., уласнасць казны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў валоданні двараніна Д.Маліноўскага. З 1789 г. дзейнічала Свята-Петра-Паўлаўская царква. Мелася паромная пераправа цераз р. Беседзь. Паводле рэвізіі 1858 г. ўладанне палкоўніка П.П.Фрамандэра. 84 двары, 226 жыхароў. У 1860 г. засн. цукровае прадпрыемства, якое ўжо ў першы год вырабіла 1080 пудоў цукру. У 1885 г. 118 двароў, 722 жыхары, вятрак, хлебазапасны магазін. Гаспадары фальварка мелі ў 1870 г. 1315 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, сукнавальню і вятрак. З 1879 г. млын і сукнавальня працавалі і ў сяле. З 2-й пал. 19 ст. дзейнічала нар. вучылішча (у 1889 г. 34 вучні). Паводле перапісу 1897 г. сяло (207 двароў, 1324 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 6 ветракоў, вінная лаўка, карчма) і фальварак (3 двары, 14 жыхароў, кузня, карчма), у Пакоцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 227 двароў, 1546 жыхароў, 1865 дзес. зямлі. У выніку пажару 19.8.1911 г. згарэлі 47 двароў і земскае вучылішча. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад (кіраўнік Е.Анохаў), які дзейнічаў супраць герм. войск. У 1926 г. 305 двароў, хата-чытальня, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Вяліканямкоўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Чачэрскага, з 14.11.1957 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі 2 ветракі, кузня і ваўначоска. У 1940 г. 310 двароў. 20.10.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў, 133 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1124 жыхары.

Цэнтр саўгаса «Нямкі». Размешчаны камб. быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, Палац спорту, школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкамі, да якой на Пд далучаецца працяглая крывалінейная вуліца. На Пд да кароткай шырокай вуліцы далучаюцца з Пн дзве кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.С.Кірушкіна (быў камісарам партыз. брыгады Мазырскай імя А.Неўскага), бел. паэта Э.А.Акуліна.

**ГАБРАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 39 км на Пн ад Веткі, 60 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Нёманка (прыток р. Сож), на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Залессе—Свяцілавічы. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (1999 г.). У выніку Чарнобыльскай катастрофы і радыяцыйнага забруджання вяскоўцы (23 сям'і) перараселены ў 1996 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Стаўбунскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1848 г. вёска і фальварак. У 1868 г. 11 двароў, 89 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 152 жыхары, вятрак. У 1909 г. 40 двароў, 295 жыхароў, 300 дзес. зямлі. Некаторы час у 1920-х г. вёскі Скачок і Габраўка складалі адзін населены пункт. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Скачок-Габраўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 17 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРАДОК** — пасёлак у Стаўбунскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Веткі, 35 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (1 км ад пасёлка, ва ўрочышчы Баяршчына, на каранным правым беразе р. Стаўбунка) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў канцы 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак Гарадок (ён жа Баяршчына) у Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 1 двор, 13 жыхароў. У 1926 г. ў Янаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., *19 двароў, 112 жыхароў.* У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРЫСТЫ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 21 км на ПнУ ад Веткі, 44 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (110 сямей) перараселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1868 г. 24 двары, 170 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав., 57 двароў, 352 жыхары, вятрак, кузня, маслабойня. У 1926 г. ў Хізовагарыстаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 95 двароў, 484 жыхары, паштовы пункт. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 98 двароў. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску загінулі 11 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 220

жыхароў Хізаўскага с/с, з іх 27 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптурная кампазіцыя (пастаўлена ў 1968 г.). Паводле перапісу 1959 г. 396 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса «Зарэчны». Размяшчаліся пач. школа, клуб, б-ка, швейная майстэрня, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГІБКІ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Гомель. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1940 г. 32 двары, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Забудова драўляная, няшчыльная, уздоўж прасёлачнай дарогі. Радзіма бел. мастака У.П.Кароткага.

**ГЛУХАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 37 км на Пн ад Веткі, 58 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Залессе—Свяцілавічы. 56 гаспадарак, 134 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі побач з вёскай курганы жал. веку сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. ўладанне палкоўніка П.П.Фрамандэра, 24 двары, 226 жыхароў. У 1876 г. працавалі вінакурня, крупарушка і майстэрня па апрацоўцы скур, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 492 жыхары, школа граматы, 2 ветракі, кузня, маслабойня. У аднайменнай аколіцы 41 двор, 227 жыхароў, вятрак і кузня. У 1909 г. ў Пакоцкай вол. Гомельскага пав., у вёсцы 78 двароў, 593 жыхары, 767 дзес. зямлі, школа, магазін, у аколіцы 34 двары, 205 жыхароў, 620 дзес. зямлі. У 1926 г. вёска Сялянская Глухаўка (15 двароў, 65 жыхароў), аколіцы Усходняя Глухаўка (15 двароў, 65 жыхароў) і Заходняя Глухаўка (51 двор, 219 жыхароў). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Глухаўскага с/с Свяцілавіцкага р-на, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1936 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, працавалі 3 ветракі і кузня. У 1930-х г. вёска і аколіцы склалі адзін населены пункт. У 1940 г. 136 двароў, 546 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 5 двароў. На франтах загінулі 40 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 441 жыхар. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Ёсць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, падзеленых меліярацыйным каналам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛЫБАЎКА** — вёска ў Стаўбунскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Веткі, 32 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 39 гаспадарак, 60 жыхароў (1999 г.). У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС значная частка жыхароў перасялена ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, за 2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне) і паселішча эпохі мезаліту 8—5-га тысячагоддзяў да н.э. (0,3 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Бабулін Бугор) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Па вопісу 1765 г. 7 дымоў, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы

Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., 47 двароў, 333 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 411 жыхароў, 308 дзес. зямлі. Паблізу вялася распрацоўка вапнякоў. У 1926 г. 66 двароў, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Глыбаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 70 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 47 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 319 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаюцца 2 і з Пд 1 прамалінейная кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУТА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 19 км на Пн ад Веткі, 40 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (46 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне памешчыка І.Грушэцкага. З 1860 г. дзейнічала сукнавальня з млынам, з 1875 г. — вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. аколіца Хізава Гута, 77 двароў, 407 жыхароў, 4 ветракі, 2 маслабойні, кузня, 3 цагельні. У 1926 г. аколіца, цэнтр Хізавагуцкага с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. 98 двароў, 446 жыхароў, паштовы пункт. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 98 двароў. У Вял. Айч. вайну 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 359 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Гарысты). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд і Пн далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы І.Р.Макаранкі.

**ГУТКА** — вёска ў Неглюбскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Веткі, 44 км ад Гомеля, 30 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Закружжа — Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (52 сям'і) пераселены ў 1990 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (34 двары, 232 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін) і хутар (2 двары, 3 жыхары). У 1909 г. 39 двароў, 280 жыхароў, 295 дзес. зямлі. У 1926 г. ў Шэйкагуткаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 58 двароў, 295 жыхароў, паштовы пункт. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Старое Закружжа). Драўляныя сял. будынкі размешчаны каля прасёлачнай дарогі.

**ДАНІЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Данілавіцкага с/с, за 17 км на ПнЗ ад Веткі, 20 км ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), на У меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску з Веткай. 155 гаспадарак, 374 жыхары (2004 г.).

Першыя пісьмовыя звесткі аб вёсцы адносяцца да 14 ст., калі яна ўваходзіла ў Чарнігаўскае княства. У 1432 г. князь літоўскі Свідрыгайла Альгердавіч дараваў вёску А.Юнавічу. У 1483 г. ўпамінаецца як сяло ў ВКЛ, даравана кн. Мажайскаму, з 1492 г. ўладанне А.Багданавай, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв.



Царква ў в. Данілавічы.

У 1508 г. пазначана як сяленне на мяжы з Маскоўскай дзяржавай. Паводле рэвізіі Гомельскага староства ў 1640-х г. 8 дымоў, 9 валоў, 6 коней. У 1752 г. ўпамінаецца ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, цэнтр староства ў Рэчыцкім пав., належала Радзівілам, у 1773 г. аб'ядноўвала 7 вёсак з 672 гаспадаркамі. У 1785 г. ва ўладанні двараніна І.Казлова. З 1816 г. дзейнічала Мікалаеўская царква. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 39 вучняў). Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 75 двароў, 433 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 616 жыхароў, царква, нар. вучылішча, вінная лаўка, карчма. У 1909 г. ў Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 133 двары, 878 жыхароў, 1113 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. цэнтр Данілавіцкага с/с Гомельскага, з 10.2.1931 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», у 1936 г. пачаў працаваць цагельны з-д, у 1940 г. — кузня. У 1940 г. 212 двароў, 948 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 19 воінаў 4-й стралковай дывізіі (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). Вызвалена 22.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 98 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае ўстаноўлены ў 1975 г. ў цэнтры вёскі мемарыяльны знак. Паводле перапісу 1959 г. 659 жыхароў. Цэнтр калгаса імя І.С.Лебедзева. Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой з ПдУ далучаецца кароткая вуліца, а на Пн размешчаны 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя дарогай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Адна з вуліц носіць імя М.А.Гаўрыленкі — сав. патрыёта, закатаванага ням. акупантамі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма аднаго з першых селькораў бел. газет І.С.Лебедзева (загублены бандытамі, яго імя носіць мясцовы калгас і школа ў в. Прысно) і бел. мастацтвазнаўцы А.М.Шныпаркова. Непадалёку ёсць залежы гліны.

У склад Данілавіцкага с/с да 1974 г. ўваходзіў пас. Навалёдаўскі (не існуе).

**ДАРЫНПОЛЛЕ** — вёска ў Веліканямкоўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля, на Пн і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны — Свяцілавічы. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. 23 двары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска (36 двароў, 256 жыхароў, вятрак) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. в. Дарынполле (яна ж Антонаўка), 281 жыхар, 320 дзес. зямлі, млын. У фальварку 1300 дзес. зямлі. У 1926 г. ў Веліканямкоўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 47 двароў. Побач быў аднайменны пасёлак, 16 двароў, 75 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе саўгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ка-

валера 4-х Георгіеўскіх крыжоў Я.І.Новікава.

**ЖАЛЕЗНІКІ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Веткі, 52 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пн — тарфяны запаведнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 15 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі ранняга феадалізму (на ПдУ ускраіне, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе правага берага ракі), могільнік (4 насыпы на ПдЗ ускраіне, каля могілак) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (на ўсх. ускраіне, на краі першай надпоймавай тэрасы правага берага ракі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў складзе Рускай дзяржавы. У інвентары Чачэрскага староства 1704 г. пазначана як баярскі пасёлак у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. з 15 дымамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізіі 1816 г. аколіца, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Аднайменны маёнтак у 1848 г. ў валоданні памешчыка Язерскага. У 1868 г. 116 двароў, 638 жыхароў. У выніку пажару 4.9.1883 г. згарэла 149 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 210 двароў, 1211 жыхароў, Свята-Мікалаеўская царква (мураваная), малітоўня, школа (у 1907 г. 45 вучняў), 3 кузні, 2 ветракі, крупарушка, 3 лаўкі, карчма. У 1909 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 3121 дзес. зямлі. У 1926 г. сяло, 249 двароў, 1156 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Жалезніцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Пралетарый» і саўгас «Жалезнікі», працавалі 2 цагельні (1932, 1933 гг.), 4 ветракі, майстэрня па рамонту сельгасінвентару (1933 г.), 2 кузні. У 1940 г. 275 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты расстралялі 9 жыхароў, на франтах загінулі 72 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 766 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якую на Пд перакрыжоўваюць кароткія шыротныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.Р.Гатальскага.

**ЖАЛУДДЗЕ** — пасёлак у Яноўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Янова—Ветка. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 90 жыхароў, у Будзішчастаўбунскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 94 жыхары. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У складзе саўгаса «Янова» (цэнтр — в. Янова). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛАТЫ РОГ** — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Веткі, 9 км ад Гомеля, на Пн і З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Гомель—Ветка. 117 гаспадарак, 286 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 90 двароў, 509 жыхароў, у Старасельскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 120 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 117 двароў і загубілі 5 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 38 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 518 жыхароў. У складзе конезавода № 59 (цэнтр — в. Старое Сяло). Размешчаны пач. школа, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі

пункт, клуб. Планіровачна складаецца з 3 (2 працяглыя, 1 кароткая) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных 3 папярэчнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛУЖЖА** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 26 км на Пн ад Веткі, 48 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (5 сямей) перaселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1946 г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1959 г. 32 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска у Данілавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Веткі, 19 км ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Данілавічы—Ветка. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Пакалюбіцкай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ва ўладанні дваранiна І.Казлова. У 1855 г. дваране Зяньковічы мелі ў вёсцы 704 дзес. зямлі і вадзяны млын. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне графа І.І.Круглікава-Чарнышова. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 341 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Замосцеўскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 51 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У складзе калгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма сав. патрыёта М.А.Гаўрыленкі, закатаванага ням. акупантамі ў Вял. Айч. вайну. Яго імем названа адна з вуліц ў в. Данілавічы.

**ЗАРЭЧЧА** (да 1937 г. Дзевятае студзеня) — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Веткі, 37 км ад Гомеля; на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (58 сямей) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 43 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 30 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў. Быў у складзе саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЦІШША** — пасёлак у Маланямкоўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 57 км ад Гомеля, на Пд — тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 42 двары, 245 жыхароў, у Маланямкоўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 81 двор. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе саўгаса «Паўночны» (цэнтр — в. Малыя Нямкі). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухба-

ковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНАЯ ХВОЯ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Веткі, 9 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 11 двароў, 51 жыхар, у Данілавіцкім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе саўгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІВАНЬКІН** — пасёлак у Маланямкоўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Веткі, 63 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны — Свяцілавічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. хутар Іванаўскі ў Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 1 двор, 846 дзес. зямлі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 157 жыхароў. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе саўгаса «Паўночны» (цэнтр — в. Малыя Нямкі). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ІРЫНАЎКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 17 км на У ад Веткі, 39 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах Дзям'янкі—Добруш і Добруш—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (42 сям'і) перасалены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. выселак у Вылеўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. 12 двароў, 48 жыхароў, 570 дзес. зямлі. У 1926 г. вёска ў Папсуеўскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 72 двары, 300 жыхароў, паштовае аддз., пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 76 двароў. У Вял. Айч. вайну 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 279 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Пераможац» (цэнтр — в. Папсуеўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЗАЦКІЯ БАЛСУНЫ** — вёска ў Вяліканямкоўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Веткі, 68 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Рас. Федэрацыяй, на р. Беседзь, праз вёску цячэ яе прыток р. Азярышчанская, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з в. Свяцілавічы. 130 гаспадарак, 272 жыхары (2004 г.).

Узнікла ў 1667 г. як застава на мяжы Расіі з Рэччу Паспалітай. Казакам за нясенне службы давалася плата і зямля. Некаторы час уваходзіла ў склад Суражскага пав. Чарнігаўскай губ. У 1926 г. 389 двароў, 2045 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Казацкабалсунскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай акр. (да 26.7.1330 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», працавалі 4 ветракі, кузня. У 1940 г. 315 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. Карнікі 27.1.1943 г. расстралялі сем'і партызанаў Хамякова, Балсуна і Максіменкі (14 чалавек, пераважна дзеці, пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля школы). Вызвалена 28.9.1943 г. На франтах загінулі 149 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1333 жыхары. У складзе саўгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Размешча-



*Кашуля. Вёска Казацкія Балсуны. Пач. 20 ст.*

ны фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з 3 працяглых крывалінейных вуліц, перакрыжаваных 6 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІН** — пасёлак у Стаўбунскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Веткі, 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (39 сямей) перасялены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Яноўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 23 двары, 148 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 42 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 22 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. Уваходзіў у склад саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж прасёлачнай дарогі. Паблізу размешчаны залежы цагельных глін і суглінкаў (запасы 0,3 млн. м³).

**КАМЫЛІН** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Веткі, 36 км ад Гомеля, на З пойма р. Сож (прыток р. Дняпро), на ўсх. ускраіне р. Нёманка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Карма. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (21 сям'я) перасялены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. У 1869 г. памешчыца Шульц мела ў вёсках Камылін і Юркавічы 1754 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 6 двароў, 18 жыхароў. На 1920-я г. прыпадае найбольш актыўная забудова. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 115 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца з З пад прамым вуглом другая кароткая вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАНАВАЛАВА** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Веткі, 58 км ад Гомеля, 46 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**КАНІЧАЎ** — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Веткі, 8 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Ветка. 23 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. Першапачаткова тут быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1866 г. 2354 дзес. зямлі, што дасталася яму па спадчыне. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г., калі тут, на памешчыцкіх землях, пачалі размяшчацца перасяленцы з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Хальчанскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 26 двароў, 151 жыхар. Дзейнічала пач. школа. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 31 двор. 16 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе саўгаса «Хальч» (цэнтр — в. Хальч). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОСІЦКАЯ** — вёска ў Веткаўскім гарасавеце, за 10 км на У ад Веткі, 31 км ад Гомеля, на аўтадарозе Старое Закружжа — Ветка, на Пн меліярацыйны канал; на Пд мяжуе з лесам. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (92 сям'і) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. У 1764 г. рус. войскі пад кіраўніцтвам ген. Маслава выслалі стараавераў, якія тут жылі, у аддаленыя р-ны Расіі. Але ў хуткім часе слабада пачала зноў актыўна засяляцца. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле звестак 1785 г. ва ўладанні кн. І.Халецкага і княгіні Радзівіл. У архіўных дакументах за 1826 г. паведамляецца аб рамонце царквы, вёска была ва ўладанні княгіні Любамірскай. У 1827 г. 270 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. меліся 2 малітоўныя дамы. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1886 г. 488 жыхароў, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. ў Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 115 двароў, 693 жыхары, вятрак, лаўка. У 1909 г. ў валоданні вяскоўцаў было 1607 дзес. зямлі. У 1926 г. 149 двароў, 708 жыхароў, паштовае аддз., школа. Побач былі Косіцкія Хутары, 2 двары, 7 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Косіцкага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перадавік», працавалі 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну 92 вяскоўцы загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 412 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Сівенка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на Пд раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Частка вёскі згарэла ў 1991 г.

**КОЎБАЎКА** — вёска ў Стаўбунскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Веткі, 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. 95 гаспадарак, 181 жыхар (2004 г.) .

Засн. ў 1-й пал. 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. дзейнічала карчма. У 1881 г. 98 двароў, 512 жыхароў, крупарушка і хлебазапасны магазін. У 1885 г. 572 жыхары, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 130 двароў, 928 жыхароў, школа граматы, 3 ветракі, лаўка, крупарушка, маслабойня, цагельня. У вясковай школе ў 1907 г. было 57 вучняў. У 1909 г. 131 двор, 1070 жыхароў, 1037 дзес. зямлі. У 1926 г. 153 двары, паштовы пункт, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Коўбаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ясная зорка», працавалі цагельня, 6 ветракоў, конная крупарушка, кузня. У 1940 г. 212 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. і пры адступленні ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 189 двароў, загубілі 3 жыхароў. 93 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 839 жыхароў.

У складзе саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Ёсць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. У.І.Чахлова.

**КРАСНЫ ПАХАР** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Веткі, 18 км ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), на Пн і З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Данілавічы—Ветка. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. ў Замосцеўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр., 22 двары, 102 жыхары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 102 жыхары. 8 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. У складзе калгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КУНТАРАЎКА** — вёска ў Радужскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Веткі, 13 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель). Побач аўтадарога Данілаўка—Ветка. 48 гаспадарак, 100 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ва ўладанні памешчыка І.Казлова. У рэвізскіх матэрыялах 1884 г. пазначана як вёска ў Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З пач. 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 114 двароў, 748 жыхароў, капліца, 2 хлебазапасныя магазіны, 2 ветракі. У 1909 г. 122 двары, 1238 дзес. зямлі, школа, млын. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кунтараўскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец». У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 30 двароў. На франтах загінулі 155 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 425 жыхароў. У складзе калгаса «Радуга» (цэнтр — в. Радуга). Размешчаны пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза В.П.Мухіна, дзярж. дзеяча, ген.-м. А.Н.Аксёнава.

**КУПРЭЕЎКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 5 км на У ад Веткі, 27 км ад Гомеля, на Пд, Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Веткі. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Тут актыўна сяліліся стараверы — уцекачы з Расіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў валоданні кн. І.Халецкага і княгіні Радзівіл. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 432 жыхары, капліца, школа граматы. У 1909 г. у Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 73 двары, 515 жыхароў, 555 дзес. зямлі. У 1926 г. 977 жыхароў, паштовае аддз., школа. Побач былі Купрэеўскія хутары, 14 двароў, 95 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Купрэеўскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. створаны калгас «Прасвет», працавалі вятрак (з 1927 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 32 двары. На франтах загінуў 71 вясковец. У 1965 г. ў вёску пераехалі жыхары пас. Першае Мая. Паводле

перапісу 1959 г. 293 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Веткаўскі» (цэнтр — г. Ветка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая на У адхіляецца на Пд. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУТЫ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Веткі, 45 км ад Гомеля, 39 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. вартоўня, 1 двор, 3 жыхары, у Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. ў Стаўбунскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 19 двароў, 114 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 160 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**ЛАЗАРАЎ** — пасёлак у Яноўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Янова—Ветка. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Яноўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 45 двароў, 243 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары. У складзе саўгаса «Янова» (цэнтр — в. Янова). Планіровачна складаецца з кароткай амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУГІНЦЫ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Веткі, 20 км ад Гомеля, 14 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як вёска ў Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1866 г. гаспадар аднайменнага маёнтка меў тут 1691 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. З 1872 г. працавала вінакурня. У 1926 г. пас. Нова-Лугінцы ў Замосцеўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр., 24 двары, 109 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. У складзе калгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Планіровачна складаецца з кароценькай, амаль прамалінейнай вуліцы, забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯДЫ** — пасёлак у Шарсцінскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Веткі, 15 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Навасёлкаўскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 34 двары, 205 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 42 двары. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе саўгаса імя 60-годдзя Кастрычніка (цэнтр — в. Навасёлкі). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЯДЫ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Веткі, 58 км ад Гомеля, 46 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Гомель. 22 гаспадаркі, 34 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Размешчаны фельч.-акушэрскі

пункт. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯСКІ** — пасёлак у Веткаўскім гарсавеце, за 11 км на ПнУ ад Веткі, 33 км ад Гомеля, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (33 сям'і) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцам з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Беседскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 28 двароў, 156 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Веткі, 62 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Залессе—Свяцілавічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 36 двароў, 170 жыхароў, у Глухаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 41 двор, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавіцкі» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ НЯМКІ** — вёска, цэнтр Маланямкоўскага с/с, за 42 км на ПнУ ад Веткі, 64 км ад Гомеля, на р. Пералёўка (прыток р. Беседзь); на Пн — тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны — Свяцілавічы, 167 гаспадарак, 429 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (2 насыпы, 1,3 км на Пд ад вёскі) і паселішча 8—5-га тысячагоддзяў да н.э., на паўн.-ўсх. ускраіне, каля могілак сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў карыстанні арандатара К.Вішынскага. Паводле рэвізіі 1816 г. 152 жыхары. У 1850 г. ўладанне казны, 72 двары, 407 жыхароў. У 1885 г. 128 двароў, 722 жыхары, вятрак, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав., 969 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 4 ветракі, кузня, карчма. У вясковай школе ў 1907 г. 85 вучняў. У 1909 г. 1219 жыхароў, 2815 дзес. зямлі. У 1926 г. 205 двароў, 1103 жыхары, паштовы пункт, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 1931 г. цэнтр Маланямкоўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. (да 1930 г.), з 1938 г. Гомельскай вобл. Часта вёска цярпела ад пажараў, асабліва ў 1920-я г. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны маяк». У 1940 г. 218 двароў, 1227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 130 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 749 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Паўночны». Размешчаны пач. школа. Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўн.(прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі з завулкамі на З і У) і паўд. (кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма ўдзельніка барацьбы за сав. ўладу на Гомельшчыне

З.А.Брытава (яго імя носіць вуліца ў вёсцы) і аднаго з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну М.І.Макаранкі, імя якога носіць адна з вясковых вуліц. Радзіма засл. настаўніка Беларусі М.І.Кузьміной, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі А.П.Шуткіна.

У склад Маланямкоўскага с/с да 1939 г. ўваходзілі в. Азерышча, пасёлкі Казачка, Максімава, Чыстыя Лужы, да 1968 г. — пас. Рошча, да 1972 г. — пас. Краснагор'е (не існуюць).

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Шарсцінскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Веткі, 26 км ад Гомеля, 22 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), на У — пойма і р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 243 гаспадаркі, 554 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча бронзавага веку (на паўд. ускраіне) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (на паўн.-ўсх. ускраіне, на краі надпоймавай тэрасы правага берага ракі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару Гомельскага староства 1640 г. ўласнасць казны, 5 дымоў, 5 валоў, 5 коней. У 1752 г. ўпамінаецца ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1804 г. дзейнічала Петра-Паўлаўская царква. Гаспадар аднайменнага фальварка валодаў у 1866 г. 1076 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. З 1876 г. працуюць вінакурня і хлебазапасны магазін. У 1885 г. 57 двароў, 383 жыхары, царква, млын, бровар, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. сяло (96 двароў, 561 жыхар, царква, царк.-прыходская школа, 2 ветракі, лаўка, вінная лаўка, піўная) і фальварак (2 двары, 34 жыхары, вінакурня, кузня), у Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1900 г. дзейнічаў спіртаачышчальны з-д. У 1909 г. 110 двароў, 688 жыхароў, 760 дзес. зямлі, школа, млын. У аднайменным фальварку 63 жыхары, 1500 дзес. зямлі. З 1926 г. ў фальварку дзейнічалі саўгас (25 гаспадарак, 109 жыхароў) і вінзавод (7 гаспадарак, 17 жыхароў). З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавалі кузня (з 1931 г.), сталярная майстэрня (з 1933 г.) і вятрак (з 1926 г.). У 1940 г. 270 двароў, 949 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі ў 1943 г. 254 двары. 67 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 923 жыхары. Цэнтр саўгаса імя 60-годдзя Кастрычніка. Размешчаны леспільня, швейная майстэрня, пач. школа, Дом культуры, б-ка, школа-сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка складаная. На Пд да вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якая ідзе ўздоўж дарогі, далучаецца пад вострым вуглом з З вуліца з завулкам. На У размешчана дугападобная вуліца, на Пн ад якой вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы З.Д.Мохаравай, засл. настаўніка Беларусі М.М.Кісялёва і ген.-л. І.А.Магонава.

**НАВІЛАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 32 км на Пн ад Веткі, 54 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Залессе—Свяцілавічы. 53 гаспадаркі, 101 жыхар (2004 г.).

Выяўлены і раскапаны археолагамі курганны могільнік жал. веку сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. Упамінаецца ў матэрыялах 1525, 1526, 1527 гг. аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. У 1765 г. цэнтр староства ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., у якое ў 1773 г. ўваходзілі 2 вёскі з

489 жыхарамі мужчынскага полу, належалі памешчыку Ф.Шалюце, 42 дымы. У 1785 г. ў валоданні арандатара К.Вішынскага. У 1848 г. 79 двароў, з 1866 г. дзейнічалі сукнавальня і млын. Па рэвізіі 1858 г. 97 двароў, ва ўладанні памешчыка Хаментава. У 1886 г. 104 двары, 581 жыхар, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. ў Покацкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 135 двароў, 939 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 кузні, заезны дом. У 1909 г. 149 двароў, 1079 жыхароў, школа, вінная лаўка, млын. З 8.12.1926 г. да 1986 г. цэнтр Навілаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Чачэрскага, з 24.3.1960 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна», працавалі кузня і ваўначоска. 131 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 514 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2-х крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваных па цэнтры кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма акад. Нац. АН Беларусі і акад. Акадэміі с.-г. навук БССР, доктара с.-г. навук, праф., засл. дзеяча навукі, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР П.П.Рагавога.



*П.П.Рагавой.*

У склад Навілаўскага с/с да 1974 г. ўваходзілі п. Культурны, да 1980 г. — пас. Цёмны Лог (не існуюць).

**НАВІНЫ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Веткі, 11 км ад чыг. ст. Лазурная (па лініі Жлобін—Гомель); на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Данілавіцкім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр., 20 двароў, 113 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 9 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе калгаса імя І.С.Лебедзева (цэнтр — в. Данілавічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НЕГЛЮБКА** — вёска, цэнтр Неглюбскага с/с, за 38 км на ПнУ ад Веткі, 60 км ад Гомеля, 48 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Гомель. 358 гаспадарак, 828 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Суражскім пав.





*Жанчына ў хустцы. Вёска Неглюбка. 1930-я г.*

*Ручнікі з в. Неглюбка.*





*Дзяўчына ў святочным уборы. Вёска Неглюбка. 1930-я г.*

*Ручнік з в. Неглюбка.*

Чарнігаўскай губ. У 1765 г. збудавана Свята-Мікалаеўская царква. З сярэдзіны 19 ст. вядома як цэнтр мастацкага ручнога ткацтва. Асаблівую вядомасць набылі тканыя ручнікі з пераважна старадаўнім геаметрычным і геаметрычна-раслінным арнаментамі. Ад Неглюбкі праз вёскі Свяцілавічы, Покаць, Меркулавічы, Гадзілавічы праходзіла паштовая дарога ў Рагачоў. У 1885 г. 2144 жыхары, паводле перапісу 1897 г. 3500 жыхароў. У час акупацыі герм. войскамі ў 1918 г. ў наваколлі дзейнічаў партыз. атрад. У 1926 г. 750 двароў, 3987 жыхароў, хата-чытальня, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Неглюбскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны с/с «Неглюбка» і калгас «Хваля», працавалі 2 кузні, 3 ветракі (з 1926 г. і 1932 г.), дрэваапрацоўчая майстэрня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 50 двароў. Вызвалена 28.9.1943 г. У баях за вёску загінулі 5 воінаў 287-й стралковай дывізіі (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 463 вяскоўцы загінулі на франтах. Абеліск пастаўлены ў 1963 г., ушаноўвае памяць 395 землякоў з Неглюбскага с/с, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 1675 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Дружба». Дзейнічаюць камбінат быт. абслугоўвання, лесапільня, сярэдняя школа. Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. У 1977 г. Гомельская фабрыка мастацкіх вырабаў адкрыла ткацкі цэх. Неглюбскія ручнікі экспанаваліся на выстаўках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў многіх



*Абрус. Вёска Неглюбка.*

краінах (Японія, Бельгія, Францыя, Канада, ЗША). Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На Пд — невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі пераважна драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма доктара гіст. навук, праф. Я.Д.Дзіранка.

**НЕПЕРАМОЖНЫ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Веткі, 54 км ад Гомеля, на Пн безымянны ручай (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Залессе—Свяцілавічы. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Свяцілавіцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 30 двароў, 132 жыхары. У 1928 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. У 1940 г. 30 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 16 пасялкоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**НЕСЦЕРАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 23 км на Пн ад Веткі, 44 км ад Гомеля, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (22 сям'і) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 19 двароў. З 1835 г. дзейнічалі сукнавальня і цагельня. У 1858 г. 39 двароў, 313 жыхароў. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска (45 двароў, 324 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня) і фальварак (3 двары, 17 жыхароў, вятрак, сукнавальня, кузня), у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губерні. У 1909 г. 43 двары, 343 жыхары, 475 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. 60 двароў, 275 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Малкаванесцераўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. 12 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НІНЭЛЬ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 39 км на Пн ад Веткі, 60 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Залессе—Свяцілавічы. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Глухаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 27 двароў, 146 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 129 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПзУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — пасёлак у Радужскім с/с, за 8 км на З ад Веткі, 12 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Ветка. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Радужскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акругі, 32 двары, 165 жыхароў. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну выз-

валены ад ням. акупацыі 16.10.1943 г. 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 149 жыхароў. У складзе калгаса «Радуга» (цэнтр — в. Радуга). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арынтаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЕ ЗАЛЯДДЗЕ** — пасёлак у Веліканямкоўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Веткі, 72 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Рас. Федэрацыяй, на р. Беседзь (прыток р. Сож); на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 43 двары, 190 жыхароў. 10 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 248 жыхароў. У складзе саўгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАІВАНАЎКА** (да 1924 г. Галодная) — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Веткі. 32 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (20 сямей) перaселены ў 1996 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай культуры (2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе правага берага ракі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. як вёска Галодная. Упамінаецца ў 1503, 1525—1527 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Значную частку жыхароў складалі стараверы. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 207 жыхароў, стараверскі малітоўны дом, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 36 двароў, 302 дзес. зямлі, царква, млын. У 1926 г. ў Беседскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 56 двароў, 246 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Гарысты). Планіровачна складаецца з кароткіх вуліц, якія ўтвараюць П-падобную канфігурацыю. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы В.М.Гладкова.

**НОВАЯ МІХАЙЛАЎКА** (ранейшая назва Прытулле) — пасёлак у Веліканямкоўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны—Свяцілавічы, 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 37 двароў, 195 жыхароў, у Свяцілавіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 15 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У складзе саўгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Забудаваны рэдка, драўлянымі сял. хатамі.

**НОВЫ МАЛКАЎ** — вёска у Свяцілавіцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах Залессе—Свяцілавічы, Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (9 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. як аколіца Малкаў. У 1909 г. 12 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ МІР** — пасёлак у Радужскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Веткі, 13 км ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Радужскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 33 двары, 205 жыхароў. У 1921 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 162 жыхары. У складзе калгаса «Радуга» (цэнтр — в. Радуга). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫЯ ГРАМЫКІ** — вёска ў Неглюбскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Веткі, 43 км ад Гомеля, 37 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), на р. Беседзь (прыток р. Сож); на Пд і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (128 сямей) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе карэннага левага берага ракі), могільнік (2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Грамышчына), паселішчы позняга мезаліту (7—5-е тысячагоддзі да н.э., 0,2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Аўрамаў Бугор) і паселішча каменнага і бронзавага вякоў (2 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як аколіца ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1726 г. 21 двор. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1800 г. дзейнічалі сукнавальня і млын. Гаспадар фальварка меў тут 208 дзес. зямлі, якія дасталіся ў спадчыну ў 1836 г. Цераз р. Беседзь дзейнічала пераправа. У 1868 г. 103 двары, 613 жыхароў. З 1877 г. дзейнічала царква Раства Багародзіцы. У 1880 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 32 вучні). Паводле перапісу 1897 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 165 двароў, 909 жыхароў, 2 кузні, 3 ветракі, лаўка, піцейны дом. У 1926 г. 187 двароў, хата-чытальня, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Новастараграмыцкага, затым Новаграмыцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 25.12.1926 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «Новае жыццё», а у 1930 г. другі калгас — «Гарадок». Працавалі лапцеплётная арцель, вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 137 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 390 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса «Грамыкі». Размяшчаліся 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы. На Пд — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Найбольш шчыльна забудавана зах. частка. Радзіма Героя Сав. Саюза П.М.Буйневіча.



*П.М.Буйневіч.*

У склад Новаграмыцкага с/с да 1947 г. ўваходзілі в. Аляксандраўка, да 1968 г. пас. Грознае (не існуюць).

**НЯКРАСАВА** (да 1938 г. Хлусы) — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 27 км на ПнУ ад Веткі, 48 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курган (на паўн. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне, каля правага берага ракі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Вотарскім войтаўстве Чачэрскага старостава Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1704 г. 2 дымы, у 1726 г. 6 дымоў. У 1765 г. дзяржава, якая аб'ядноўвала 3 вёскі з 14 гаспадаркамі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. дзейнічала карчма, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. Значную частку жыхароў складалі стараверы. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 57 двароў, 290 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. ў Расохскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., 64 двары, 421 жыхар, 792 дзес. зямлі. У 1926 г. 82 двары, 424 жыхары, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Хлусаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. 41 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 327 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаваных 3 кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАБЕДА** — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Веткі, 9 км ад Гомеля і чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель); на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Ветка. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Хальчанскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 48 двароў, 273 жыхары. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 57 двароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 46 двароў. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. У складзе саўгаса «Хальч» (цэнтр — в. Хальч). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАБУЖЖА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 9 км на ПнУ ад Веткі, 31 км ад Гомеля, вакол лес. Побач аўтадарога Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (12 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1722 г. слабада ў складзе маёнтка Хальч у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Веткаўскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1859—61 гг. дзейнічала смалярна-шкіпінарнае прадпрыемства (29 рабочых). Гаспадары фальварка мелі ў 1877 г. 4520 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 117 жыхароў. У 1919 г. створана арцель «Пабужская». У 1926 г. 28 двароў, 138 жыхароў, у Беседскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. Значную частку жыхароў складалі яўрэі (у 1929 г. 15 сямей). У 1929 г. арганізаваны саўгас «Сацыялізм». 9 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Хальч» (цэнтр — в. Хальч). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ПАДГОР'Е** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Веткі, 47 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 19 ст. Па рэвізіі 1816 г. 2 двары. У 1926 г. ў Глыбаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 23 двары, 92 жыхары. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 140 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Грамыкі» (цэнтр — в. Новыя Грамыкі). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПАДКАМЕННЕ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Веткі, 44 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, на Пн мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае пасёлак з Веткай. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (28 сямей) перасeлены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Старазакружскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 27 двароў, 162 жыхары. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. акупанты спалілі 43 двары. На франтах загінулі 6 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Старое Закружжа). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАДЛОГІ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 27 км на Пн ад Веткі, 49 км ад Гомеля, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (53 сям'і) перасeлены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 105 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДЛУЖЖА** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 38 км на ПнУ ад Веткі, 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (27 сямей) перасeлены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 49 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 43 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯНАЎКА** (да 30.7.1964 г. Крысін) — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 4 км на Пд ад Веткі, 14 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), на З — воз. Чачэль. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ветка—Гомель. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. хутар Крысін (1 двор, 6 жыхароў, 312 дзес. зямлі), які належаў памешчыку С.Ф.Заваротнаму. Найбольш інтэнсіўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі 20 двароў, загубілі 4 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе Гомельскага коннага завода № 59 (цэнтр — в. Старое Сяло). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн раздвойваецца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАМЯЦЬ** — пасёлак у Маланямкоўскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Веткі, 60 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Маланямкоўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 16 двароў, 101 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавала кузня. У 1940 г. 35 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У складзе саўгаса «Паўночны» (цэнтр — в. Малыя Нямкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАПСУЕЎКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 15 км на У ад Веткі, 37 км ад Гомеля, 26 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), на аўтадарозе Старое Закружжа—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (108 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як слабада ў складзе маёнтка Хальч, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Засн. яе стараверы, якія ўцяклі з Расіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Была ў валоданні графоў Румянцавых і Паскевічаў. У сярэдзіне 19 ст. мелася стараверчая часоўня. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 396 жыхароў, стараверчы малітоўны дом, хлебазапасны магазін, вятрак, лаўка. У 1909 г. 2 слабады: у адной — 65 двароў, 240 жыхароў, у другой — 41 двор, 181 жыхар. У хуткім часе яны аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт. У 1926 г. 148 двароў, 720 жыхароў, паштовае аддз., пач. школа, лаўка. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Папсуеўскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Перадавік» і «Пераможац», працавалі вятрак (з 1929 г.), 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 145 жыхароў з вёсак калгаса «Пераможац», памяць аб якіх увекавечвае 12-мятровы абеліск, скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 362 жыхары. У 1965 г. у вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Чырвоная Перамога. Была цэнтрам калгаса «Пераможац». Размяшчаліся механічная майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЦЁСЫ** — вёска ў Неглюбскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 59 км ад Гомеля, на р. Вядзерня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (40 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1868 г. 37 двароў, 204 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 299 жыхароў, 2 ветракі. У 1909 г. ў Стаўбунскай вол., 50 двароў, 322 жыхары, 567 дзес. зямлі. Найбольш актыўна забудова вялася ў 1920-х г. У 1926 г. 87 двароў, 419 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пацёскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Вясёлы шлях», працавалі 2 ветракі (1927 г.), конная крупарушка (1927 г.), кузня. У Вял. Айч. вайну 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1947 г. да вёскі далучаны пас. Аляксандраўка. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Грамыкі» (цэнтр — в. Новыя Грамыкі). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАВЕССЕ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Веткі, 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 19 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАДАВЕЦ** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Веткі, 61 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 63 двары, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАЛЁЎКА** — вёска ў Маланямкоўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Веткі, 68 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Рас. Федэрацыяй, на р. Пералёўка (прыток р. Беседзь), на Пд — тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Казацкія Балсуны—Свяцілавічы. 116 гаспадарак, 249 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курган (3 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Сіні Вір) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмо-



*Кашуля. Пас. Перадавец. Пач. 20 ст.*

вых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў карыстанні арандатара К.Вішынскага. Па рэвізіі 1816 г. 207 жыхароў. У 1850 г. ўласнасць казны, 92 двары, 709 жыхароў. У 1885 г. 133 двары, 884 жыхары, Успенская царква (драўляная), вадзяны млын, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 170 двароў, 1098 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін (з 1880 г.), 3 ветракі, карчма. У вясковай школе ў 1907 г. 85 вучняў. У выніку пажару 1907 г. згарэлі 32 двары. Часта цярпела вёска ад пажараў і ў наступныя гады. У 1909 г. 183 двары, 1324 жыхары, 1698 дзес. зямлі, царква, школа, млын. Супраць герм. акупантаў у 1918 г. вяскоўцы больш 5 гадзін вялі цяжкі бой. Дзейнічаў партыз. атрад. Немцы спалілі вёску. У 1926 г. 240 двароў, 1197 жыхароў, паштовы пункт, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пералёўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. ство-

раны калгас «Працаўнік». У 1939 г. ў вёску пераселены жыхары суседніх пасёлкаў Азершчына, Казачка, Максімава, Чыстыя Лужы. У 1940 г. 1521 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. 97 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 767 жыхароў. У 1968 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Рошча. У складзе саўгаса «Паўночны» (цэнтр — в. Малыя Нямкі) дзейнічаюць цагельны з-д, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых ракой частак: паўн. (прамалінейная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ вуліца) і паўд. (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАМОГА** (да 1937 г. Шалухоўка) — вёска ў Веліканямкоўскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Веткі, 66 км ад Гомеля, на У пойма р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пд — тарфяны заказнік. Аўтадарога звязвае вёску са Свяцілавічамі. 80 гаспадарак, 137 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў карыстанні арандатара К.Вішынскага. Па рэвізіі 1816 г. ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ., 70 двароў. Мелася паромная пераправа. У 1850 г. ўласнасць казны, 88 двароў, 614 жыхароў. У 1886 г. 123 двары, 655 жыхароў, 4 ветракі, пастаялы двор. Працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 2 вёскі Шалухоўка ў Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ.: у адной — 162 двары, 985 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, карчма, у другой — 25 двароў, 184 жыхары. У 1909 г. 1146 жыхароў, 1712 дзес. зямлі, школа, млын. У 1926 г. 195 двароў, паштовы пункт, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Шалухоўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 220 двароў. У Вял. Айч. вайну 95 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 941 жыхар. У складзе саўгаса «Нямкі» (цэнтр — в. Вялікія Нямкі). Ёсць фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да Пд якіх перпендыкулярна далучаюцца з З 2 паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАМАЙСКІ** (да 4.11.1937 г. пасёлак імя Бухарына) — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Веткі, 25 км ад Гомеля, 8 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Касцюкоўка. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. ў Касцюкоўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр., 9 двароў, 46 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 20 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Веткі, 40 км ад Гомеля; на З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нёманка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (47 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 11 двароў, 49 жыхароў.

Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕТРАПОЛЛЕ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Веткі, 41 км ад Гомеля, на З пойма р. Сож (прыток р. Дняпро), на Пн тарфяны заказнік, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (48 сямей) перaселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленае археолагамі паселішча верхнедняпроўскай неалітычнай культуры (3-е тысячагоддзе да н.э., 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Негацень) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Дваранка Зяньковіч мела ў 1881 г. ў вёсцы 704 дзес. зямлі і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 245 двары, 183 жыхары. У 1909 г. 31 двор, 233 жыхары, 1315 дзес. зямлі. У 1926 г. 44 двары, 247 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Петрапольскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Актывіст», працавала кузня. У 1940 г. 50 двароў, 269 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 270 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Навілаўскі» (цэнтр — в. Навілаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая на У раздвайваецца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕТУХОЎКА** — пасёлак у Веткаўскім гарсавеце, за 18 км на ПнУ ад Веткі, 39 км ад Гомеля; праз пасёлак праходзіць меліярацыйны канал, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (25 сямей) перaселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Барталамееўскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 19 двароў, 116 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Высакаборскі» (цэнтр — в. Барталамееўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАЛЕТАРСКІ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Веткі, 11 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 24 км ад Гомеля, на Пд і У тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. ў Свяцілавіцкім р-не Гомельскай акр., 21 двор, 123 жыхары. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 11 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРАЛЕТАРСКІ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Веткі, 10 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 28 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (52 сям'і) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі паселішча верхнедняпроўскай культуры (3-е тысячагоддзе да н.э., 0,2 км на Пд ад пасёлка, ва ўрочышчы Папова), бескурганны могільнік сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н.э., 0,2 км на Пд ад пасёлка), паселішча верхнедняпроўскай культуры (2-е тысячагоддзе да н.э., 1 км на З ад пасёлка), курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (28 насыпаў, 3 км на ПнЗ ад пасёлка) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. ў Юркавіцкім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 59 двароў, 286 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 19 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Уваходзіў у склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены бессістэмна каля вясковай дарогі.

**ПРЫСНО** — вёска, цэнтр Прыснянскага с/с, за 24 км на ПнЗ ад Веткі, 17 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Гомель—Жлобін), 46 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску з Веткай. 230 гаспадарак, 534 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча жал. веку (7—3 ст. да н.э., на паўн. ускраіне), гарадзішча (мясц. назва Фолкін Рог, 2,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Барок), паселішчы эпохі неаліту і бронзавага веку (0,3 і 1,5 км на У, 1,5 і 0,3 км на ПнУ, 0,3 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1471 г. пазначана як сяло ў валоданні Е.Хурсовіча. Пад 1481 г. пазначана ў кнізе Запісаў князей Літоўскіх. Паводле інвентару Гомельскага староства 1640-х г. уладанне Гомельскага ротмістра К.Ленскага на тракце Рагачоў—Гомель, 26 жыхароў. Пад 1752 г. упамінаецца ў актах Галоўнага Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ўладанне графа Чарнышова-Круглікава. У выніку пажару 31.8.1883 г. згарэлі 42 двары. У 1886 г. 142 двары, 791 жыхар, Свята-Мікалаеўская царква, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 211 двароў, 1400 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін (з 1881 г.), 3 ветракі, тракцір, крупарушка. Побач быў аднайменны хутар. У 1889 г. адкрыта 2-класнае вучылішча, а Магілёўскае брацтва выдзеліла на яго ўтрыманне 1921 руб. У 1909 г. ў Дудзіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., 226 двароў, 1700 жыхароў, 2070 дзес. зямлі, царква (драўляная), школа, млын. У 1926 г. 325 двароў, 1659 жыхароў, паштовае аддз., хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Прыснянскага с/с Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1928 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, дзейнічалі цагельня і кузня, 7 ветракоў. У 1940 г. 456 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 90 двароў, загубілі 22 жыхары. Вызвалена 23.11.1943 г. У баях за вёску ў 1943 г. загінулі 172 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 132 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечвае пастаўленая ў 1960 г. каля клуба стэла. Паводле перапісу 1959 г. 1265 жыхароў. Цэнтр калгаса «Іскра». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя школа (носіць імя аднаго з першых селькораў бел. газет І.С.Лебедзева, які загінуў ад рук бандытаў, ураджэнец в. Данілавічы), Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, дзіцячы сад, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаюцца з З і У кароткія вуліцы. На Пд амаль паралельна да гал. размешчаны 2

кароценькія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Н.Р.Малей. Побач з вёскай ёсць залежы гліны.

**ПЫХАНЬ** — вёска ў Данілавіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Веткі, 9 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 24 км ад Гомеля, на аўтадарогах Данілавічы—Касцюкоўка і Данілавічы—Ветка; на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). 138 гаспадарак, 398 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло ў Пакалюбіцкай вол., уладанне кн. Румянцава-Задунайскага, у складзе Клімаўскай эканоміі. У 1816 г. 13 жыхароў, побач стараверчы скіт. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1879 г. ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ., 116 двароў, 593 жыхары, карчма. У 1909 г. 122 двары, 825 жыхароў, 1066 дзес. зямлі, школа, млын. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Пыханьскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. створаны калгасы імя С.М.Будзённага і «Камінтэрн», працавалі 3 ветракі (з 1923, 1929 гг.), паравы млын (з 1917 г.), 4 кузні. У 1940 г. 175 двароў. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 79 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1968 г. на ўскраіне вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 543 жыхары. Цэнтр калгаса «Зара». Размешчаны 9-гадовая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Е.А.Кавальчук.

**РАДУГА** — вёска, цэнтр Радужскага с/с, за 7 км на ПнЗ ад Веткі, 12 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 25 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Данілавічы—Ветка. 241 гаспадарка, 587 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (1 км на ПдУ, ва ўрочышчы Гарадок) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (0,1 км на ПдУ, на тэрасе правага берага р. Сож) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1789 г. ва ўладанні К.Халецкага. У 1788—89 гг. згадваецца ў ліку мястэчак. З 1830 г. дзейнічала драўляная Свята-Мікалаеўская царква. Гаспадар фальварка меў у 1877 г. 414 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1885 г. 114 двароў, 687 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. (166 двароў, 1089 жыхароў, мураваная царква, пабудаваная ў 1885 г., царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветракі) і фальварак (2 двары, 16 жыхароў). У 1909 г. 201 двор, 1324 жыхары, 1616 дзес. зямлі, царква, земская школа, вінная лаўка, млын. Побач — аднайменныя сядзіба і фальварак. Дзейнічала вінакурня. У 1921 г. арганізаваны саўгас «Радуга». У 1926 г. 258 двароў, 1226 жыхароў, паштовае аддз. Непадалёку размяшчаліся Радугаўскія Хутары (22 двары, 113 жыхароў). З 8.12.1926 г. цэнтр Радужскага с/с Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929—30 гг. арганізаваны калгасы «3-ці рашаючы» і «Чырвоны баец», працавалі вятрак (з 1917 г.), 4 кузні, шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў лютым 1943 г. спалілі 70 двароў. Вызвалена 27.11.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 252 воіны (пахаваны на брацкіх могілках). 149 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1052 жыхары. Цэнтр калгаса

«Радуга». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На У амаль паралельна да яе праходзіць другая працяглая вуліца, да якой з З далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза М.Р.Батракова, імем якога названы вуліцы ў вёсцы і ў г. Ветка, а таксама мясц. сярэдняя школа, дзе ён вучыўся; маці-гераіні М.І.Паладзій (13 дзяцей), засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі І.П.Еўтухова, аднаго з арганізатараў калгаснага ладу на Гомельшчыне І.Я.Белякова, забітага бандытамі (яго імя нададзена адной з вуліц в. Старое Сяло).

У Радужскі с/с да 1977 г. ўваходзілі пасёлкі Васілеўскі і Клімаўскі, да 1979 г. пас. Навікі, да 1983 г. пас. Усход (не існуюць).

**РАМАНАЎ ЛЕС** — пасёлак у Шарсцінскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Веткі, 25 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. як фальварак у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. 11 жыхароў, 320 дзес. зямлі. На 1920-я г. прыпадае актыўная забудова пасёлка. У 1926 г. 20 двароў, 113 жыхароў, у Шарсцінскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Шарсцін). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**РАСУХА** — пасёлак у Яноўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. 46 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 245 жыхароў. 5 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе саўгаса «Янова» (цэнтр — в. Янова). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАШЫЦЕЛЬНЫ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 40 км на Пн ад Веткі, 61 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Свяцілавічы. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (2 сям'і) перaселены ў 1989 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. ў Скачокгабраўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 25 двароў, 113 жыхароў, паштовы пункт. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ-ГУЛЕВА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 17 км на Пн ад Веткі, 37 км ад Гомеля, на р. Нёманка (прыток р. Сож), на Пд, З і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (55 сямей) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Беліцкім, з 1852 г. ў

Гомельскім пав. Магілёўскай губ. З 1842 г. дзейнічалі сукнавальня і млын. У 1881 г. 43 двары, 131 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. вёска Рудня Гулева (яна ж Гуляева) у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав., 50 двароў, 385 жыхароў, хлебазапасны магазін (з 1880 г.). У 1909 г. 59 двароў, 405 жыхароў, 723 дзес. зямлі. У 1926 г. 96 двароў, 488 жыхароў, паштовы пункт. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Руднягулеўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. 35% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 22 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 244 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца кароткая крывалінейная вуліца і завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ-ШЛЯГІНА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Веткі, 36 км ад Гомеля, на р. Нёманка (прыток р. Сож), на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (85 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі два паселішчы неаліту (3-е тысячагоддзе да н.э., 1,5 км на ПдЗ і 2 км на Пд ад вёскі) і могільнік бронзавага веку (2 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчкаўскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1840 г. дзейнічала сукнавальня. Дваранка Шадурская мела тут у 1843 г. 371 дзес. зямлі. Паводле рэвізіі 1858 г. ва ўладанні памешчыцы Шулавічавай, 26 двароў, 212 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 444 жыхары, часоўня, хлебазапасны магазін (з 1880 г.). У вясковай школе ў 1907 г. было 58 вучняў. У 1909 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав., 64 двары, 486 жыхароў, 1175 дзес. зямлі, капліца, школа, млын. У 1926 г. 129 двароў, 626 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа, хата-чытальня. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Руднешлягінскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Вёска поўнасцю складалася з польскіх сямей. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», працавалі вятрак (з 1929 г.) і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 37 двароў. На франтах загінулі 63 вяскоўцы. Паводле пе-



*Гаршчок з могільніка каля в. Рудня-Шлягіна.*



*Пасудзіна з могільніка каля в. Рудня-Шлягіна.*

рапісу 1969 г. 361 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Дзейнічалі б-ца, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЫСЛАЎЕ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Веткі, 35 км ад Гомеля, вакол лес, на Пд — невялікі вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (15 сямей) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 341 жыхар, 2 ветракі, вадзяны млын, крупарушка, у 1909 г. ў аколіцы 1257 дзес. зямлі. У 1926 г. цэнтр Ухаварыслаўскага с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 73 двары, 356 жыхароў, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі 2 ветракі (1927 г.). У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЭПІШЧА** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Веткі, 46 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 58 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 120 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЭЧКІ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Веткі, 42 км ад Гомеля, на р. Нёманка (прыток р. Сож), мяжуе з тарфяным заказнікам, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (202 сям'і) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. У 1704 г. 5 дымоў і рудня, у Вотарскім войтаўстве. Пазней вёска стала цэнтрам дзяржавы, якая ў 1765 г. аб'ядноўвала 3 вёскі з 31 гаспадаркай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 30 двароў. У 1785 г. 105 жыхароў, у валоданні А.В.Васільева. У 1848 г. ў складзе 2 другіх вёсак і фальварка ўваходзіла ў аднайменны маёнтак памешчыцы Бычкоўскай. Значную частку жыхароў складалі стараверы. З 1859 г. дзейнічала царква. Дваранін Пячкоўскі меў у вёсцы ў 1860 г. 174 дзес. зямлі, а ў 1872 г. — 2000 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1886 г. 63 двары, 311 жыхароў, царква, вятрак, нар. вучылішча (у 1889 г. 25 вучняў). У склад Рэчкаўскай вол., цэнтрам якой з'яўлялася вёска (да 9.5.1923 г.), уваходзілі ў 1890 г. 35 сяленняў з агульнай колькасцю 918 двароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло (89 двароў, 591 жыхар), царква (драўляная), нар. вучылішча, хлебазапасны магазін (з 1880 г.), крупарушка, вятрак, вінная лаўка, карчма і фальварак (5 двароў, 21 жыхар). У 1909 г. 107 двароў, 697 жыхароў, 830 дзес. зямлі, у маёнтку 2899 дзес. зямлі. Мелася паштовае аддз. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад, які змагаўся супраць ням. войск.



*Р.В.Ксяндзоў.*

У 1926 г. 149 двароў, 763 жыхары, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, пач. школа. У былым фальварку была створана насенная гаспадарка. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, да 1992 г. цэнтр Рэчкаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. створаны калгас «1 Мая», працавалі цагельня (з 1930 г.), 2 ветракі (з 1925, 1926 гг.), вінаробчы з-д, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 43 жыхары. У баях за вёску і наваколле загінулі 134 воіны (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі і на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 287 землякоў з вёсак Рэчкаўскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае скульптура жанчыны і сцяна з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. каля будынка выканкама сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 649 жыхароў. Была цэнтрам саўгаса Рэчкі. Размяшчаліся цагельня, вінзавод, лясніцтва, пякарня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, гасцініца, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 3-х паралельных паміж сабой шчыльна забудаваных шыротных вуліц, да якіх з Пд далучаецца кароткая прамалінейная і з Пн — крыху выгнутая вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза Р.В.Ксяндзова, засл. настаўніцы Беларусі К.І.Новікавай.

**СВАБОДА** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Веткі, 49 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. 30 гаспадарак, 47 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СВЯЦІЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Свяцілавіцкага с/с, за 40 км на ПнУ ад Веткі, 62 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на аўтадарозе Чачэрск—Ветка, на Пд тарфяны заказнік. 419 гаспадарак, 1014 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі ў цэнтры вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на высокім правым беразе ракі гарадзішча зарубінецкай культуры ранняга жал. веку (2 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 12—13 ст., калі ўваходзіла ў Ноўгарад-Северскае, затым Чарнігаўскае княствы. З 1335 г. ў валоданні літ. кн. Альгерда Гедымінавіча. У 1503 г. захоплена рус. войскамі. Пад 1508 г. пазначана ў перапісцы Вял. кн. Маскоўскага Васіля з каралём Жыгімонтам І Старым. Упамінаецца ў матэрыялах 1525, 1526, 1527 гг. аб канфліктах паміж Літвой і Маск. дзяржавай і ў інвентарах Чачэрскага староства 1704 і 1726 гг. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, ва ўладанні графа Чарнышова-Круглікава. У 1775 г. 20 двароў, 110 жыхароў. Паводле звестак 1785 г. ўладальнікамі Свяцілавіч былі Іван і Восіп Азерскія разам з Дзям'янам Маліноўскім, Міхаілам і Восіпам Шалютай. На шкларобчым прадпрыемстве, якое дзейнічала ў вёсцы ў 1819—30 гг., працавалі 18 рабочых. Крыху пазней у ліку ўладальнікаў Свяцілавіч быў памешчык Шклярэвіч, які меў тут у 1842 г. 150 дзес. зямлі, а ў 1871 г. 230 дзес. зямлі, 5 ветракоў, паром і сукнавальню. У 1848 г. 84 двары. Праз р. Беседзь была пракладзена плаціна з 5-ю драўлянымі

мастамі, але ў 1845 г. яна была разбурана вялікім разлівам ракі. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Неглюбкі ў Рагачоў. Паводе інвентару 1848 г. маёнтак Свяцілавічы ўключаў у сябе 3 фальваркі і 3 вёскі. У 1868 г. 387 жыхароў. Не пазней 1880 г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. — аколіца (139 двароў, 782 жыхары, Раства-Багародзіцкая царква, 2 ветракі, маслабойня, кузня, 3 лаўкі), вёска (70 двароў, 481 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма) і 2 фальваркі (9 двароў, 42 жыхары, цагельня, вятрак, лаўка, карчма). У жн. 1918 г. герм. акупанты загубілі параненых у баі ў в. Пералёўка і ўзятых у палон 17 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне, на правым беразе ракі). З 9.5.1923 г. да 8.12.1926 г. цэнтр Свяцілавіцкай вол. У 1926—27 гг. і 1935—56 гг. цэнтр Свяцілавіцкага р-на. У 1926 г. 324 двары, 1340 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа, урачэбны пункт, аддз. спажывецкай кааперацыі, хатачытальня, у Гомельскай акр. З 8.12.1926 г. цэнтр Свяцілавіцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1928 г. створаны калгас імя К.Маркса, у 1930 г. пачаў працаваць крухмальны з-д, затым — МТС, лапцеплётная арцель (з 1933 г.), кузня (з 1933 г.), нафтавы млын (з 1928 г.). Дзейнічала Свяцілавіцкае лясніцтва. У першыя дні Вял. Айч. вайны быў створаны атрад нар. апалчэння (745 чалавек, кіраўнік Яўмененка). У баях за вёску і суседнія населеныя пункты загінулі 178 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах, што каля будынка універмага і ў цэнтры вёскі). Вызвалена 30.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 702 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1968 г. каля будынка канторы саўгаса. У 1952 г. ўступіў у строй дзеючых маслазавод. Паводле перапісу 1959 г. 1967 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Свяцілавічы». Размешчаны крухмальны з-д, аддз. Веткаўскага малочнага з-да, хлебапякарня, лясніцтва, камб. быт. абслугоўвання, участак «Зялёнае» Веткаўскага торфапрадпрыемства, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, раённы Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, 2 сталовыя, аддз. сувязі, 7 магазінаў, гасцініца. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж ракі), да цэнтра якой далучаецца з З прамалінейная вуліца (уздоўж аўтадарогі), перакрыжаваная крывалінейнай вуліцай з завулкамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніц Беларусі А.І.Язерскай і М.П.Шалдонт.

**СЕЛІШЧА** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Веткі, 64 км ад Гомеля, 51 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 14 пасялкоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕРАДНЯЦКІ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Веткі, 5 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 41 км ад Гомеля, на аўтадарозе Данілавічы—Бальшавік; на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Белічанка (прыток р. Уза). 16 гаспадарак, 28 жыхароў (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СІВЕНКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 14 км на У ад Веткі, 36 км ад Гомеля, 25 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), на р. Спонка (прыток р. Сож), на аўтадарозе Старое Закружжа—Ветка; на Пн Веткаўскі батанічны запаведнік. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (189 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў складзе маёнтка Хальч. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Вылеўскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ва ўладанні кн. І.Халецкага і княгіні Радзівіл. У 1848 г. 52 двары. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У выніку пажару 3.7.1883 г. згарэлі 65 двароў. У 1881 г. 117 двароў. У 1885 г. 516 жыхароў, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. ў Вылеўскай вол. Гомельскага пав., 148 двароў, 971 жыхар, школа граматы, вятрак, лаўка, кузня. У 1909 г. 169 двароў, 935 жыхароў, 1237 дзес. зямлі. У 1926 г. 203 двары, 1038 жыхароў, хата-чытальня, паштовае аддз., пач. школа, паравы млын, крупарушка, ваўначоска, крэдытнае т-ва. З 8.12.1926 г. да 1991 г. цэнтр Сівенскага с/с Веткаўскага, з 17.12.1956 г. Добрушскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Партызан», працаваў вятрак (з 1926 г.). У 1940 г. 214 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 213 двароў, загубілі 23 жыхары. У баях за вёску загінулі ў 1943 г. 167 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 189 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 673 жыхары. У 1963 г. ў вёску перасяліліся жыхары пасёлкаў Дзвігацель, Рэвалюцыя. Была цэнтрам калгаса імя У.І.Леніна. Размяшчаліся сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, магазін. Планіровачна складалася з 2 крывалінейных вуліц, амаль паралельных, арыентаваных мерыдыянальна і злучаных паміж сабой па цэнтры кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Згарэла летам 1991 г.

У склад былога Сівенскага с/с да 1963 г. ўваходзілі пасёлкі Дзвігацель, Рэвалюцыя, да 1965 г. пас. Чырвоная Перамога, да 1974 г. пас. Арэхаўка (не існуюць).

**СІНІ ВОСТРАЎ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Веткі, 13 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 19 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр., 2 двары, 10 жыхароў. Тут разгортвалася здабыча торфу. Рос і пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. ў пасёлку торфазавода Сіні Востраў 82 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СІНІЦЫНА** — пасёлак у Неглюбскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Веткі, 60 км ад Гомеля, 47 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадаро-

зе Чачэрск—Ветка. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 63 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СКАЧОК** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 39 км на Пн ад Веткі, 60 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Свяцілавічы. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нёманка (прыток р. Сож). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (144 сям'і) перасялены ў 1996 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як хутар у Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1781 г. працавала крупарушка. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 102 жыхары. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Скачкагабраўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля аўтадарогі.

**СПОНІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 4 км на Пд ад Веткі, 16 км ад Гомеля, на р. Спонка (прыток р. Сож) і аўтадарозе Добруш—Ветка. Побач Шабрынскі батанічны запаведнік. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў валоданні кн. І.Халецкага і княгіні Радзівіл. З 1850 г. дзейнічала сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. 101 двор, 758 жыхароў, капліца, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1909 г. ў Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 111 двароў, 929 жыхароў, 1580 дзес. зямлі. У 1918 г. супраць герм. акупантаў дзейнічаў створаны ў вёсцы партыз. атрад. У 1926 г. 192 двары, 950 жыхароў, паштовае аддз., пач. школа, хата-чытальня. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Споніцкаруднянскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар». У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 54 двары і загубілі 5 жыхароў. 75 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У 1978 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняй в. Затоц (не існуе). У складзе саўгаса «Веткаўскі» (цэнтр — г. Ветка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака Т.Д.Ігнаценкі.

**СТАНКІ** — пасёлак у Хальчанскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Веткі, 8 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Ветка. 17 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 32 двары, 174 жыхары, у Хальчанскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 24 двары. На фронце загінулі 5 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. У складзе саўгаса «Хальч» (цэнтр — в. Хальч). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРОЕ ЗАКРУЖЖА** — вёска ў Неглюбскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Веткі, 46 км ад Гомеля, 32 км ад чыг. ст.

Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), на У меліярацыйны канал. Аўтадарога, якая звязвае вёску з Веткай. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (209 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як сяло Закружжа ў Вылеўскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 2-й пал. 19 ст. былі сяло Старое Закружжа і вёска Новае Закружжа (зараз в. Марозаўка ў Добрушскім р-не), у якіх дзейнічалі хлебазапасныя магазіны. Паводле перапісу 1897 г. 255 двароў, 1677 жыхароў, царква (з 1871 г.), царк.-прыходская школа, вінная лаўка, карчма. У 1908 г. згарэла 86 двароў. У 1909 г. 274 двары, 1852 жыхары, 2236 дзес. зямлі. У 1918 г. ў час ням. акупацыі ў вёсцы і наваколлі дзейнічаў партыз. атрад. У 1920-х г. створаны саўгас «Закружжа». З 8.12.1926 г. да 1993 г. цэнтр Старазакружскага с/с Веткаўскага, з 17.12.1956 г. Добрушскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1988 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», працавалі сталярня, 2 ветракі, рамонтныя майстэрні, з 1933 г. — МТС, з 1938 — хлебапякарня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 200 двароў. На франтах загінулі 244 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 944 жыхары. Была цэнтрам калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Размяшчаліся лясніцтва, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дом інвалідаў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай 2 кароткімі вуліцамі. Паралельна да галоўнай праходзіць на У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.М.Кулагіна. Яго імя насіла вясковая сярэдняя школа і вуліцы ў вёсцы і Магілёве.



*А.М.Кулагін.*

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Хальчанскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Веткі, 12 км ад Гомеля, на У мяжуе з воз. Чэчаль. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ветка—Гомель. 351 гаспадарка, 827 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча 1-й пал. 1-га тыс. н.э. (0,3—0,4 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару Гомельскага староства 1640-х г. 10 дымоў, 13 валоў, 11 коней. У 1709 г. веткаўскія стараверы аказалі адчувальнае супраціўленне войскам Карла XII, за што Пётр І выказаў ім падзяку. Пад 1752 г. упамінаецца ў актах Галоўнага Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ва ўладанні І.Халецкага. Меўся паром на Сожы пад'ёмнасцю да 400 пудоў. У 1861 г. збудавана царква, да якой у 1874 г. прыбудавана званарня. У 1872 г. адкрыта школа граматы. 29.7.1881 г. згарэлі 42 двары і 36 гумнаў. У 1885 г. 207 двароў, 1455 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав., 389 двароў, 1784 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, цагельня, вінная лаўка, карчма. У 1908 г. 2354 жыхары, 2636 дзес. зямлі. У 1909 г. згарэлі 139 двароў. У 1919 г. створана арцель «Старасельская». У 1926 г. 543 двары, 2694 жыхары, паштовае аддз., пач. школа, хата-чытальня, лаўка. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Старасельскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1927 г. створаны калгас «Чырвоны араты», у 1929 г. — калгас «Лясная паляна». У 1940 г. 554 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 550 двароў, загубілі 30 жыхароў. Вызвалена 16.10.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі ў 1943 г. 448 воінаў, у тым ліку Герой Сав. Саюза Н.І.Фенічаў (пахава-

ны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі, каля школы). На франтах загінулі 209 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. У 1944 г. ад тыфу памерла 500 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1580 жыхароў. Цэнтр (з 1977 г.) Гомельскага коннага завода № 59 (заснаваны ў 1912 г. ў былой панскай сядзібе, каля в. Шарсцін, пазней цэнтр быў у в. Прудок). Размешчаны цагельны з-д, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, музей. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з У далучаецца 12 кароткіх вуліц. Забудова пераважна драўляная. Адна з вуліц названа імем Т.Е.Белякова — актыўнага ўдзельніка калгаснага будаўніцтва, нараджэнца в. Радуга (забіты бандытамі). Радзіма бел. мастачкі З.В.Ліцвінавай, засл. работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі М.А.Рэмізонава і С.Я.Целяпнёва, засл. настаўніцы М.М.Антановіч.

**СТАРЫ МАЛКАЎ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 36 км на ПнУ ад Веткі, 56 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах Чачэрск—Свяцілавічы і Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (8 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска Малкаў у Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 12 двароў, 89 жыхароў, 105 дзес. зямлі. Побач былі аднайменныя аколіца (12 двароў, 66 жыхароў, 836 дзес. зямлі), фальварак (2 двары, 19 жыхароў, 457 дзес. зямлі) і хутар (3 двары, 23 жыхары, 200 дзес. зямлі). У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ ГРАМЫКІ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 33 км на ПнУ ад Веткі, 58 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (53 сям'і) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (69 насыпаў, 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (на паўд. ускраіне) сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 17 ст. як аколіца Грамыкі ў Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1609 г. У 1726 г. 21 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 41 двор, 238 жыхароў. У 1785 г. ў валоданні В.Ермалаева і Д.Маліноўскага. У 1810 г. засн. шкларобчае прадпрыемства, на якім у 1818 г. працавала 17 рабочых. Паводле рэвізіі 1816 г. ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ., 11 двароў, 36 жыхароў. З 1827 г. дзейнічала царква. Дваранін Лашкевіч меў тут у 1836 г. 208 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне, і ў 1841 г. ён дадаткова купіў частку вясковай зямлі. У 1868 г. 51 двор, 284 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 533 жыхары, 2 ветракі. У 1909 г. ў вёсцы і аколіцы 556 жыхароў, 1400 дзес. зямлі. У 1926 г. 98 двароў, паштовы пункт, пач. школа, у Нова-Стараграмыцкім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Гарадок», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 286 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Гарысты). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзіб-



*А.А.Грамыка.*

нага тыпу. Радзіма дзярж. дзеяча, дыпламата, двойчы Героя Сац. Працы, доктара эканам. навук А.А.Грамыкі (у Гомелі пастаўлены бюст) і ген.-м. В.І.Грамыкі.

**СТАЎБУН** — вёска, цэнтр Стаўбунскага с/с, за 33 км на ПнУ ад Веткі, 55 км ад Гомеля, на р. Стаўбунка (прыток р. Беседзь) і аўтадарозе, якая звязвае вёску з Веткай, на З — тарфяны заказнік. 521 гаспадарка, 1209 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі каля вёскі неалітычныя помнікі 5—9 тыс. да н.э. сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. У інвентары за 1704 г. пазначана як в. Стаўбынь, 18 двароў, а ў 1726 г. ў Отарскім войтаўстве Чачэрскага староства Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв., 40 двароў і рудня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 457 жыхароў, у валоданні ген.-фельдмаршала графа З.Чарнышова-Круглікава. У 1789 г. збудавана Свята-Мікалаеўская царква. Меўся з-д па вырабу жалеза, руда для якога прывозілася з Украіны. У 1848 г. 89 двароў. З 1869 г. працавала вінакурня. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча (у 1882 г. 38 вучняў). У 1881 г. 182 двары, 988 жыхароў, хлебазапасны магазін. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 26 пасяленняў з агульнай колькасцю 1251 двор. Паводле перапісу 1897 г. 251 двор, 1908 жыхароў, царква, 3 ветракі, вадзяны млын, маслабойня, кузня, карчма. Побач быў фальварак з вадзяным млынам і ветраком. У 1909 г. 2017 жыхароў, 2386 дзес. зямлі, вінная лаўка, у фальварку — 1 двор, 6 жыхароў, 3665 дзес. зямлі. У 1918 г. ў час герм. акупацыі быў створаны партыз. атрад, які дзейнічаў супраць герм. войск. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 401 двор, 2228 жыхароў, хата-чытальня, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Стаўбунскага с/с Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавала кузня. У 1940 г. 570 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням. акупанты разбамбілі і спалілі вёску, а ў снеж. 1943 г. спалілі другі раз (458 двароў) і загубілі 12 жыхароў. Вызвалена 28.9.1943 г. На франтах загінулі 268 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 2457 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Стаўбунскі». Размешчаны хлебапякарня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 сталовыя, 6 магазінаў, гасцініца. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой з Пн і Пд далучаюцца кароткія вуліцы. На Пд, за ракой, адасоблены ўчастак забудовы — 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы М.Я.Чуяшовай, засл. настаўніцы Беларусі М.У.Рыжанковай, нар. артысткі РСФСР В.І.Барысенкі.

У склад Стаўбунскага с/с да 1983 г. ўваходзіў пас. Чырвоны (не існуе).

**СТАЎБУНСКАЕ БУДЗІШЧА** — вёска ў Яноўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Янова—Ветка. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Стаўбунскай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў валоданні арандатара К.Вішынскага. Паводле перапісу 1897 г. в. Будзішча (яна ж Слабодка), 60 двароў, 441 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1909 г. 71 двор, 528 жыхароў, 737 дзес. зямлі. У 1926 г. 90 двароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Будзішчастаўбунскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Барацьба», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 65 вяскоўцаў

загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 399 жыхароў. У складзе саўгаса «Янова» (цэнтр — в. Янова). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, якая па цэнтры перакрыжоўваецца кароткай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАЎБУНСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Стаўбунскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Веткі, 42 км ад Гомеля, на р. Студзенка (прыток р. Беседзь). Побач аўтадарога Свяцілавічы—Гомель. 20 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя каля вёскі і даследаваныя археолагамі 8 курганоў жал. веку сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пач. 18 ст. перасяленцамі з суседніх пасяленняў на пуставаўшых, заросшых хмызняком землях графа Чарнышова-Круглікава. У 1881 г. 73 двары, 380 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав., 119 двароў, 714 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін (з 1884 г.), 3 ветракі, кузня, карчма. У 1909 г. 811 дзес. зямлі, касцёл. У 1926 г. 129 двароў, 728 жыхароў, хата-чытальня, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Стаўбунскаруднянскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. 95% жыхароў складалі польскія сем'і. У 1929 г. створаны калгас «Новае жыццё». У 1940 г. 150 двароў, 900 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 70 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 372 жыхары. У складзе саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаюцца 3 і з У 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну П.І.Гулевіча (быў камандзірам партыз. брыгады імя І.В.Сталіна) і нар. артысткі БССР С.І.Гулевіч.

**СЫМОНАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 25 км на Пн ад Веткі, 47 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Нёманка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (8 сямей) пераселены ў 1991 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 133 жыхары. У 1909 г. вёска, аколіца і хутар. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 57 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах у час Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЯЛІЦКАЯ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 27 км на Пн ад Веткі, 49 км ад Гомеля, на р. Калінаўка (прыток р. Сож), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (58 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Пакоцкай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1832 г. памешчык Хамянтоўскі меў тут 1262 дзес. зямлі. Паводле рэвізіі 1858 г. 27 двароў, 164 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёска (53 двары, 368 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак, кузня) і фальварак (4 двары, 16 жыхароў). У 1909 г. 68 двароў, 447 жыхароў, 405 дзес. зямлі, у фальварку 1 двор, 4 жыхары, 1000 дзес. зямлі. У 1926 г. 106 двароў, 464 жыхары, паштовы пункт, школа. Побач

быў пасёлак Новасяліцкі (6 двароў, 27 жыхароў), які пазней далучыўся да вёскі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Сяліцкага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прасвет», працавала кузня. 79 вяскоўцаў загінулі на франтах у гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 287 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Навілаўскі» (цэнтр — в. Навілаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТАРАСАЎКА** — вёска ў Веткаўскім гарсавеце, за 6 км на ПдУ ад Веткі, 28 км ад Гомеля, 16 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і потым аўтадарозе Добруш—Ветка. 40 гаспадарак, 87 жыхароў (2004 г.).

Пр пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як слабада Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Належала графам Румянцавым, а затым Паскевічам. У сярэдзіне 19 ст. мелася стараверчая часоўня. У 1885 г. 121 двор, 683 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 175 двароў, 852 жыхары, 2 капліцы, староверскі малітоўны дом, царк.-прыходская школа, 2 хлебазапасныя магазіны, 3 ветракі. У 1909 г. ў Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 182 двары, 920 жыхароў, млын. У 1926 г. 219 двароў, 1235 жыхароў, лаўка, аддз. сувязі, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Тарасаўскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Рашучы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 198 двароў, загубілі 2 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 408 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 28.9.1943 г. На франтах загінулі 157 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 585 жыхароў. У складзе саўгаса «Веткаўскі» (цэнтр — в. Ветка). Размешчаны 9-гадовая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, якая на У і З адхіляецца на Пн. Паралельна да галоўнай на Пн праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУМАРЫН** — пасёлак у Веткаўскім гарсавеце, за 7 км на Пд ад Веткі, 14 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам; на Пд меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Добруш—Ветка. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. У 1940 г. 30 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 20 двароў. На франтах загінулі 8 пасялкоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе саўгаса «Веткаўскі» (цэнтр — г. Ветка). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ФЁДАРАЎКА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 35 км на Пн ад Веткі, 58 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чачэрск—Свяцілавічы. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Покацкай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1848 г. в. Фёдараўка разам з 3 фальваркамі і яшчэ адной вёскай уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка. З 1865 г. працавалі млын і сукнавальня. У 1869 г. адкрыта Свята-Духаўская царква. У 1872 г. гаспадар маёнтка валодаў 1059 дзес. зямлі. У 1880 г. пачало працаваць цукровае прадпрыемства. У 1909 г. 11 двароў, 68 жыхароў. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі вяскоўцы

разам з суседнімі сяленнямі стварылі партыз. атрад (300 чалавек, кіраўнік А.Якаўлеў), які ў жн. 1918 г. вызваліў вёску ад герм. войск. У 1926 г. 86 двароў, 420 жыхароў, паштовы пункт, школа. На аднайменных хутарах 7 двароў, 36 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Фёдараўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Чачэрскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты расстралялі 29 жыхароў. Вызвалена 1.10.1943 г. На франтах загінулі 55 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**УСОХІ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 26 км на Пн ад Веткі, 48 км ад Гомеля, на р. Нёманка (прыток р. Сож); на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (84 сям'і) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў канцы 19 ст. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. У пач. 20 ст. пачаў працаваць млын. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З пасялкоўцы загінулі на франтах у час Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Усходні» (цэнтр — в. Акшынка). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**УХОВА** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Веткі, 33 км ад Гомеля, на З — пойма р. Сож (прыток р. Дняпро); на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (110 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі 2 паселішчы эпохі неаліту (1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Більдзюга, на левым беразе ракі і 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Цыганскі Бугор) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як пасяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў валоданні Усціновічаў. Здаўна дзейнічала прыстань на р. Сож. У 1850 г. памешчык меў тут 1400 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. — вёска (51 двор, хлебазапасны магазін), аколіца (38 двароў, 289 жыхароў) і фальварак (2 двары, 7 жыхароў). У 1926 г. 85 двароў, 477 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Ухоўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. створаны калгасы «Іскра» і «Шлях да сацыялізму», працавалі вятрак (з 1927 г.) і 2 кузні. У 1940 г. 127 двароў, 557 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты расстралялі 12 жыхароў, загінулі на франтах 93 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 504 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Рэчкі» (цэнтр — в. Рэчкі). Дзейнічалі 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая на З раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЮТНЫ** — пасёлак у Стаўбунскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Веткі, 54 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (11 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. ў Коўбаўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр., 20 двароў, 113 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 4 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. Уваходзіў у склад саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ХАЛЬЧ** — вёска, цэнтр Хальчанскага с/с, за 2 км на З ад Веткі, 16 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро) і аўтадарозе Гомель—Ветка. 482 гаспадаркі, 1249 жыхароў (2004 г.).



В.П.Астапаў.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (на ўсх. ускраіне, на мысе тэрасы правага берага ракі), гарадзішча ранняга жал. веку (сярэдзіна — 3-я чвэрць 1-га тыс. н.э., 0,4 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Зыбень), курганны могільнік (5 насыпаў, 0,35 км на ПнЗ ад вёскі) і селішча эпохі Кіеўскай Русі (0,5 км на Пд ад вёскі) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 14 ст., калі вёска ўваходзіла ў Чарнігаўскае княства. У 1437 г. Свідрыгайла Альгердавіч перадаў вёску патомку шляхецкага роду Халецкіх — Паўлу Мішковічу. З гэтага часу Хальч стала рэзідэнцыяй Халецкіх. Пад 1471 г. пазначаны ў сувязі з перадачай двара ў Хальчы Г.Радзівонавічу. У 1640-х г. пазначаны як сяло і маёнтак Хальч у інвентары Гомельскага старосства. У 2-й пал. 17 ст. Халецкія пабудавалі касцёл і кляштар езуітаў, якія з 1731 г. да 1829 г. мелі тут сваю місію. Іх матэрыяльна падтрымлівалі Халецкія і Дзерналовічы. У 1747 г. 159 двароў. Пад 1752 г. упамінаецца ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. З 1764 г. мястэчка, ва ўладанні княгіні Радзівіл. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. на



Царква ў в. Хальч.

паўн.-зах. ускраіне ўзведзены палацсядзіба, гаспадарчыя пабудовы і разбіты пейзажны парк. У час вандровак па Гомельшчыне Напалеон Орда зрабіў замалёўкі палаца-сядзібы. Зараз тут філіял Гомельскага абл. краязнаўчага музея. Меўся паром на Сажы пад'ёмнасцю да 800 пудоў. У 1860 г. ў валоданні памешчыка А.І.Войніч-Сенажацкага, 2 мураваныя і 105 драўляных дамоў, 1113 жыхароў. Штогод праводзіліся 2 кірмашы (Пятроўскі і Міхайлаўскі), на якіх у 1861 г. было прапанавана для продажу тавараў на 61 130 рублёў. У 1866 г. гаспадар маёнтка меў 1568 дзес. зямлі і 3 лаўкі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1879 г. памешчык Войніч-Сенажацкі заснаваў тут вінакурню. У 1881 г. 230 двароў. Вялікія страты нанеслі мястэчку пажары 1887, 1891 і 1892 гг., калі згарэў 261 двор. Паводле перапісу 1897 г. 363 двары, 1975 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, яўр. малітоўны дом, 5 ветракоў, 5 лавак (у іх ліку вінная), карчма. У аднайменным фальварку, што размяшчаўся побач, былі карчма і вінакурны з-д. У 1909 г. ў Веткаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 2256 жыхароў, 1159 драўляных і 1 мураваны будынкі. Мелася аддз. паштовай сувязі. Працаваў сенапрасавальны з-д (у 1913 г. 40 рабочых). З 8.12.1926 г. цэнтр Хальчанскага с/с Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная хваля», працавала цагельня.



Палац (галоўны фасад) у в. Хальч.

У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 463 двары, загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 16.10.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 703 воіны (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі, у скверы і на ўсх. ускраіне). На франтах загінулі 178 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптурная кампазіцыя і стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1971 г. каля Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 1829 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Хальч». Размешчаны лесапільня, 9-гадовая школа, Дом культуры, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, 2 б-кі, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, з З да яе далучаюцца 4 паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя прасёлачнай дарогай. На Пд паралельна да галоўнай праходзіць кароткая вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Міністра па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. ген.-лейт. Я.М.Леўшунова.

**ХІЗЫ** — вёска ў Свяцілавіцкім с/с, за 31 км на ПнУ ад Веткі, 56 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож), на Пн і З мяжуе з лесам, на Пд — тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Свяцілавічы—Гомель. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання жыхары (81 сям'я) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (10 насыпаў, 1,2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Дзеднае) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1726 г. аколіца, 13 дымоў, у Чачэрскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў валоданні памешчыка Д.Маліноўскага. Паводле рэвізіі 1816 г. ў Рагачоўскім пав. Мінскай губ. У 1847 г. 99 двароў. Мешчанін Лапіцкі меў тут у 1831 г. 108 дзес. зямлі, а памешчык Чарапанаў у 1876 г. валодаў 423 дзес. зямлі, вадзяным млынам і сукнавальняй. У 1835 г. збудавана драўляная царква. У 1868 г. 107 двароў, 655 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 164 двары, 960 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. вёска і аколіца ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 171 двор, 802 жыхары, лаўка, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 1992 г. цэнтр Хізавагарыстаўскага, з 1927 г. Хізаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі 3 ветракі (з 1924, 1925, 1926 гг.) і кузня. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням. акупанты загубілі 11 жыхароў, а ў 1943 г. часткова спалілі вёску. У баях за вёску і наваколле загінулі 38 воінаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1953 г. ў цэнтры вёскі. 73 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 465 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зарэчны» (цэнтр — в. Гарысты). Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка. фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХРУШЧОЎКА** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Веткі, 14 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі

Жлобін—Гомель), 20 км ад Гомеля; на З і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 47 двароў, 116 жыхароў. 3 пасялкоўцы ў Вял. Айч. вайну загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАМЯРНЯ** — пасёлак у Свяцілавіцкім с/с, за 33 км на ПнУ ад Веткі, 55 км ад Гомеля, на р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чачэрск—Свяцілавічы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (0,4 км на ПнУ ад пасёлка, на левым беразе ракі), селішча 1-й чвэрці 1-га тыс. н.э. (0,4 км на ПнУ ад пасёлка), гарадзішча (0,4 км на Пн ад пасёлка, ва ўрочышчы Каменная Гара), курганны могільнік (19 насыпаў, 0,2 км на Пн ад пасёлка) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ў Пакоцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., хутар, 1 двор, 9 жыхароў. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 20 двароў, 94 жыхары, у Вяліканямкоўскім с/с Свяцілавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.Разіна, працавалі вятрак (з 1926 г.) і кузня. У 1940 г. 32 двары, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. У складзе саўгаса «Свяцілавічы» (цэнтр — в. Свяцілавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫСТЫЯ ЛУЖЫ** — пасёлак у Веткаўскім райсавеце, за 9 км на У ад Веткі, 31 км ад Гомеля, 19 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Добруш—Ветка. 41 гаспадарка, 83 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. збудавана царква. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 53 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў. У складзе саўгаса «Веткаўскі» (цэнтр — г. Ветка). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма доктара с.-г. навук, праф. У.С.Раманава.

**ШАРСЦІН** — вёска, цэнтр Шарсцінскага с/с, за 18 км на ПнЗ ад Веткі, 15 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 40 км ад Гомеля, на Пн пойма р. Сож і воз. Крывое. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 230 гаспадарак, 528 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 7—3 ст. да н.э. (1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча), селішча культуры верхняга пласта Банцараўшчыны — 6—8 ст. н.э. і эпохі Кіеўскай Русі (0,4 км на ПнЗ ад вёскі), селішча ранняга жал. веку (0,5 км на Пн ад зах. ускраіны), селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (на паўн.-ўсх. ускраіне) і паселішча эпохі неаліту (0,3 км на У ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1471 г. вёска ў валоданні Ю.Дранішчы. У 1560 г. належала ротмістру Гомельскага замка К.Ленскаму, на тракце Рагачоў—Гомель. У 1640-х г. пазначана ў інвентары Гомельскага

старостра. У 1752 г. пазначана ў актах Гал. Віленскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У статыст. апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. названа мястэчкам. У 1785 г. ў валоданні памешчыка Дзерналовіча. У 1797 г. засн. прадпрыемства па вырабе шклянога посуду. У 1845 г. 85 двароў. У 1848 г. мястэчка Шарсцін, 3 фальваркі і 2 вёскі з агульнымі памерамі зямельных угоддзяў у 7470 дзес. складалі маёнтак графа І.Е.Мелінга. У 1860 г. 896 жыхароў, 85 двароў. Дзейнічала праваслаўная Раства-Багародзіцкая драўляная царква (у 1865 г. рамантавалася). У 1881 г. 180 двароў, хлебазапасны магазін і нар. вучылішча (у 1889 г. 33 вучні). Паводле перапісу 1897 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., мястэчка (15 двароў, 118 жыхароў, школа, прыстань, цагельня, 6 лавак, карчма), сяло (192 двары, 1149 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, крупарушка, 3 кузні) і фальварак (6 двароў, 34 жыхары, часоўня, ветрак, кузня). У 1899 г. пачаў працаваць вінакурны з-д. У вясковай школе ў 1907 г. было 70 вучняў. У 1909 г. 215 драўляных пабудоў. 23.8.1911 г. згарэлі 67 двароў, 36 гумнаў, казённая вінная лаўка і 2 дзіцяці. У 1911 г. адкрыта паштовае аддз. У 1926 г. 285 двароў, 1460 жыхароў, аддз. сувязі, хата-чытальня, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, лячэбны пункт. З 8.12.1926 г. цэнтр Шарсцінскага с/с Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі 4 ветракі, 2 кузні, сталярня і шорная майстэрня. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. пачала працаваць цагельня. У 1940 г. 293 двары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў кастр. 1943 г. спалілі 281 двор, загубілі 17 жыхароў. У баі каля вёскі 4.11.1943 г. вызначыўся наводчык гарматы В.І.Яроцька (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Вызвалена 15.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 1240 жыхароў. Цэнтр калгаса «Кастрычнік». Размешчаны сепаратарнае аддз. Веткаўскага малочнага з-да, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза Я.К.Мініна.

У склад Шарсцінскага с/с да 1945 г. ўваходзілі пас. Луч Сонца, да 1987 г. пас. Ільіч (не існуюць).



*Я.К.Мінін.*

**ШАЎЦОЎ** — пасёлак у Данілавіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Веткі, 11 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 35 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 98 жыхароў. 6 пасялкоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 78 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пыхань). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ШЭЙКА** — вёска ў Неглюбскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 45 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 54 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 277 жыхароў, школа граматы. Побач быў фальварак Шэйка (ён жа Крысціполле). У 1909 г. 300 жыхароў, 310 дзес. зямлі, у фальвар-

ку 11 жыхароў, 395 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Шэйкагуткаўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1940 г. 51 двор, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар. У складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Неглюбка). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЮРГА** — пасёлак у Стаўбунскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Веткі, 57 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стаўбун—Ветка. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 19 жыхароў. 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе саўгаса «Стаўбунскі» (цэнтр — в. Стаўбун). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЮРКАВІЧЫ** — вёска ў Шарсцінскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Веткі, 25 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 41 гаспадарка, 67 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Гомельскага старосства 1640-х г. 4 дымы, 6 валоў, 5 коней. У 1752 г. ўпамінаецца ў актах Гал. Віленскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. вёскі Старыя Юркавічы і Новыя Юркавічы, ва ўладанні П.В.Завадскага. Пазней вёскі аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт Юркавічы. Меўся паром на Сажы пад'ёмнасцю да 400 пудоў. Паводле рэвізіі 1858 г. 36 двароў, уладанне памешчыцы А.Г.Шульц, якая ў 1869 г. мела ў вёсках Юркавічы і Камялін 1754 дзес. зямлі. З 1874 г. працавала маслабойня. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. 2.3.1882 г. згарэла амаль уся вёска. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 564 жыхары, вятрак. У 1909 г. ў Рэчкаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 108 двароў, 682 жыхары, 715 дзес. зямлі. У 1926 г. 121 двор, паштовае аддз., лячэбны пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Юркавіцкага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 135 двароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1945 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Луч Сонца (не існуе). Паводле перапісу 1959 г. 535 жыхароў. У складзе саўгаса імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка (цэнтр — в. Навасёлкі). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. кампазітара В.П.Памазава, доктара хім. навук А.У.Рагачова. Непадалёку ёсць залежы крэйды.



*Ляпныя гаршкі з могільніка каля в. Юркавічы.*

**ЯГАДНАЕ** — вёска ў Шарсцінскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Веткі, 22 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Данілавічы—Ветка. 24 гаспадаркі, 32 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. Найб. актыўная забудова прыпа-

дае на 1920-я г. У 1926 г. ў Шарсцінскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр., 17 двароў, 102 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 68 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі 41 двор. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Шарсцін). Планіроўачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Г.М.Катлярова. Паблізу размешчаны радовішчы цагельных глін і суглінкаў (запасы 0,4 млн. куб. м).

**ЯНОВА** — вёска, цэнтр Яноўскага с/с, за 45 км на ПнУ ад Веткі, 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая злучае вёску з Веткай. 174 гаспадаркі, 415 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. У 1765 г. дзяржава, 29 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў валоданні арандатара К.Вішынскага. У 1816 г. 246 жыхароў. У 1850 г. 108 двароў, 717 жыхароў, уласнасць казны. У фальварку, што быў побач, у 1871 г. пачаў працаваць вінакурны з-д. Памешчыкі Казловы валодалі ў 1871 г. 203 дзес., а памешчык Богуш — 1048 дзес. зямлі. У 1885 г. 149 двароў, 865 жыхароў, вятрак, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Стаўбунскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ., 216 двароў, 1323 жыхары, школа граматы, 3 ветракі, маслабойня, кузня. 27.6.1902 г. згарэў 51 двор. У вясковай школе ў 1907 г. было 77 вучняў. У 1926 г. дзейнічалі хата-чытальня, лаўка, паштовы пункт, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Яноўскага с/с Свяцілавіцкага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Свяцілавіцкага, з 17.12.1956 г. Веткаўскага, з 25.12.1962 г. Гомельскага, з 6.1.1965 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Часта вёска цярпела ад пажараў, асабліва ў 1920-я г. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча», працавалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну 135 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 825 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Янова». Размешчаны лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы Т.В.Васільковай.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1251, воп. 1, спр. 65, 163; ф. 1297, воп. 1, спр. 2047, 6417, 6906, 11252, 18715, 21390; ф. 2001, воп. 1, спр. 14, 17, 81, 164, 731, 1005; ф. 2151, воп. 1, спр. 65, 75, 159, 161, 163; ф. 2221, воп. 1, спр. 33; ф. 2370, воп. 1, спр. 1; ф. 2443, воп. 1, спр. 1; ф. 2934, воп. 1, спр. 1; ф. 2959, воп. 1, спр. 1; ф. 2960, воп. 1, спр. 1; ф. 2968, воп. 1, спр. 1; ф. 2976, воп. 1, спр. 1; ф. 2995, воп. 1, спр. 1; ф. 3002, воп. 1, спр. 1; ф. 3062, воп. 1, спр. 1; ф. 3363, воп. 1, спр. 438, 439.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 16, воп. 1, спр. 763, 763а; ф. 1230, воп. 2, спр. 1366; ф. 1290, воп. 2, спр. 1344, 1366, 1399; ф. 1849, воп. 1. спр. 264.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 16, воп. 1, спр. 763а.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Могилевская губерния. Т. 8. Ч. 3. СПб., 1848.

Акты, относящиеся к истории Западной России (1633—1699). Т. 5. СПб., 1855.

Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. СПб., 1855.

Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.

Обзор Могилевской губернии за 1883 год. Могилев, 1884.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—3. Могилев, 1882—84.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учеб. год. Могилев, 1890.
Волости и гмины. Могилевская губерния. Ч. 23. СПб., 1890.
Отчет о состоянии Могилевской губернии за 1889 год. Могилев, 1890.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.
Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Ч. 1. СПб., 1892.
Историко-юридические материалы. Вып. 28. Витебск, 1900.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/08 учеб. год. Могилев, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1908 год. Могилев, 1909.
Литовская метрика (1499—1514). СПб., 1910.
Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910.
Русская историческая библиотека. Т. 27. СПб., 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев 1910.
Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 год. Могилев, 1915.
Список населеннх мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.): Хроника событий. Гомель, 1958.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1961.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженой земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 2—3. Мн., 1990.
Литовская метрика (1427—1506). Кн. 5. Вильнюс, 1993.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993 (карта).
Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. 2 изд. Мн., 1994.
Литовская метрика (1499—1514). Кн. 8. Вильнюс, 1995.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996.
Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Веткаўскага раёна. Кн. 1—2. Мн., 1997—98.
Литовская метрика (1440—1498). Кн. 3. Вильнюс, 1998.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.





БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН
ВЕТКАЎСКІ РАЁН
ДОБРУШСКІ РАЁН
РЭЧЫЦКІ РАЁН
ЛОЕЎСКІ РАЁН
ЧАРНІГАЎСКАЯ ВОБЛ.
УКРАІНА
ГОМЕЛЬ
Бальшавік
Касцюкоўка
Магілёў
Жлобін
Калінкавічы
Добруш
Бахмач
Чарнігаў
Сож
Ветка
п. Зялёны Сад
п. Зялёны Гай
п. Зялёны Востраў
Рагі
п. Моладзь
п. Клімаўскі
п. Востраў
Светлая Зара
п. Грыва
п. Масцішча
п. Царкоўе
Лапаціна
п. Рубеж
п. Прасвет
Аздзеліна
п. Паўднёвы
п. Вішанскі
Касцюкоўка
п. Ржавец
п. Жытойля
Цярэнічы
Зялёныя Лукі
п. Калініна
Іванаўка
Астравы
Целяшоўская Рудня
п. Малінаўка
Стар. Беліца
Яроміна
п. Янтарны
Пакалюбічы
52°30'
Целяшы
п. Вішнёўка
Аляксандраўка
п. Бардзіна
п. Забіякa
п. Барок
п. Малінаўка
Галееўка
п. Чырв. Маяк
Краснае
п. Пралетарый
п. Калінаўка
Урыцкае
п. Мічурынскі
Заліп'е
п. Красны Багатыр
Плёсы
Аляксееўка
п. Будацін
Задораўка
п. Мікольск
Нов. Мільча
п. Ільіч
Раманавічы
п. Усход
п. Заляддзе
п. Іванькаў
Рандоўка
п. Чырвоны Маяк
Прыбар
п. Іпуць
Улукаўе
Галавінцы
п. Піянер
Нов. Буда
п. Перамога
Бярозкі
Давыдаўка
Шчэрбаўка
п. Юбілейны
п. Мядзведжы Лог
Уза
Асаўцы
п. Паляна
п. Сцяг Працы
Сасноўка
Сеўрукі
Каранёўка
п. Чонкі
Цыкуны
Бабовічы
52°20'
Зябраўка
Кантокузаўка
п. Цагельня
п. Ваяводa
Чырв. Селішча
п. Мірны
п. Барэц
п. Куты
Прыбыткі
Клімаўка
Стукачоўка
Скіток
Нов. Бухалаўка
Чкалава
п. Някрасава
Карналін
п. Сож
Прыбыткаўская Рудня
Дуянаўка
Стар. Прыстараны
п. Калініна
Даўгалессе
п. Высокая Грыва
п. Арленск
Васілева
Міхалькі
Цярэшкавічы
Пясочная Буда
п. Дубавец
Альхоўка
п. Дубіна
Нов. Цярэшкавічы
п. Межы
Стар. Дзятлавічы
Хутаранка
п. Нагорнае
п. Асавіно
п. Кустарны
п. Баштан
Церуха
п. Каралін
Жыгальская Рудня
п. Еліфань
Грабаўка
Жураўлёўка
Нов. Дзятлавічы
пДобруш
п. Красны
52°10'
Рудня-Марыманава
п. Папанін
Макаўе
Займішча
п. Міхайлаўск
п. Някрасаў
Студзёная Гута
п. Вадапой
п. Пуцяводная Звязда
п. Халмы
п. Вайцін
п. Рагі-Ілецкі
Пракопаўка
п. Гарадок
п. Мядзведзіца
30°45'
Маркавічы
Чарацянка
Будзішча
Шарпілаўка
Крайцоўка
Дзіколаўка
п. Чаплін
Нов. Гута
Гадзічаў
п. Залессе
Лядцы
Сямёнаўка
п. Зімні
31°00'
Паддабранка
Глыбоцкае
31°15'
Маштаб 1 : 350 000



# ГОМЕЛЬСКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. на У Гомельскай вобл. 10.2.1931 г. ліквідаваны, 27.7.1937 г. аднаўлены. 17.4.1962 г. ў яго склад уключана частка ліквідаванага Уваравіцкага р-на, 15.1.1964 г. далучаны Рудня-Марымонаўскі і Шарпілаўскі с/с Рэчыцкага р-на, 18.1.1965 г. — Глыбоцкі, Грабаўскі, Пракопаўскі, Маркавіцкі с/с Добрушскага р-на. Пл. 2094 км$^2$, нас. (без Гомеля) 71,6 тыс. чал. (2004 г.), шчыльнасць 40 чал. на 1 км$^2$. Населеных пунктаў 186, у тым ліку г.п. Бальшавік. Цэнтр раёна — г. Гомель. 25 сельсаветаў: Аздзелінскі, Бабовіцкі, Глыбоцкі, Грабаўскі, Давыдаўскі, Даўгалескі, Дзятлавіцкі, Зябраўскі, Красненскі, Маркавіцкі, Пакалюбіцкі, Прыбарскі, Прыбыткаўскі, Рудня-Марымонаўскі, Старабеліцкі, Улукаўскі, Урыцкі, Целяшоўскі, Цярухскі, Цярэніцкі, Цярэшкавіцкі, Чарацянскі, Чонкаўскі, Шарпілаўскі, Яромінскі. На Пд мяжуе з Чарнігаўскай вобл. Украіны і Лоеўскім раёнам, на У — з Добрушскім і Веткаўскім, на Пн — з Буда-Кашалёўскім, на З — з Рэчыцкім раёнамі. Праходзяць чыгункі Мінск—Харкаў, Брэст—Навазыбкаў, Гомель—Чарнігаў, шашэйшыя дарогі Санкт-Пецярбург—Кіеў, Гомель—Калінкавічы. Суднаходства па Сажы. Рэкі: Сож (левы прыток Дняпра) і яго прытокі Іпуць, Вуць, Церуха, Уза. Пашыраны пясчаныя дзюны і грывы. 5 залежаў цагельнай сыравіны з агульнымі запасамі 3,7 млн. м$^3$ і 3 залежы будаўнічых і сілікатных пяскоў (17,4 млн. м$^3$). Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, алювіяльна-дзярновыя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя тарфяна-балотныя; 47,7% супясчаных, 26,8% пясчаных, 25,5% суглінкавых. Якасць ворных зямель 44, усіх с.-г. угоддзяў 38 балаў. Пад лесам 33,5% тэр. Прадпрыемствы: торфапрадпрыемства «Бальшавік», маторарамонтны з-д, 2 кансервавыя з-ды (у саўгасах «Брылёва» і «Бярозкі»), камбінат бытавога абслугоўвання, з-д жалезабетонных вырабаў, раён. аб'яднанне «Сельгастэхніка», Касцюковіцкае міжраён. аб'яднанне «Сельгастэхніка», Гомельскі і Ленінскі лясгасы. Пад с.-г. угоддзямі каля 44% тэр., асушана 19,9 тыс. га балот і забалочаных зямель. 18 калгасаў, 12 саўгасаў, 2 навуч.-доследныя гаспадаркі, птушкафабрыка. Дзейнічаюць 43 агульнаадук. школы, 2 сельскія прафес.-тэхн. вучылішчы, 37 дашкольных і 48 клубных устаноў, 200 магазінаў, 190 спартыўных збудаванняў, 51 публічная б-ка, 7 бальніц, 42 фельчарска-акушэрскія пункты, дзіцячы лёгачна-туберкулёзны санаторый «Чонкі», дом адпачынку «Чонкі» і інш. лячэбна-аздараўленчыя ўстановы. Выдаецца раённая газ. «Маяк» (засн. 10.7.1938 г.).

**АЗДЗЕЛІНА** — вёска, цэнтр Аздзелінскага с/с, за 9 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 16 км на ПдЗ ад Гомеля, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з Гомелем. 176 гаспадарак, 486 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. падаравана Екацяры-

най II генерал-маёру Пішчэвічу. У 1882 г. 120 двароў, 554 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 162 двары, 1254 жыхароў, хлебазапасны магазін, 5 ветракоў, крупарушка, карчма. Дзейнічала нар. вучылішча (у 1907 г. 68 вучняў). У 1909 г. 191 двор, 1366 жыхароў, 2502 дзес. зямлі, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Аздзелінскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 93 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 550 жыхароў У 1969 г. 162 двары, 329 жыхароў. У 1979 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоная Гара. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Дзейнічаюць 9-гадовая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных амаль шыротна і перакрыжаваных па цэнтры трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987—95 гг. збудаваны 54 мураваныя дамы, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. мастака В.М.Карнеева.

У склад Аздзелінскага с/с уваходзілі пасёлкі: Ясная Паляна да 1967 г., Курыцкі да 1976 г., Чырвоная Гара да 1979 г. (не існуюць).

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Цярэшкавіцкім с/с, за 10 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 20 км на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 15 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1884 г. 25 двароў, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 166 жыхароў, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 28 двароў, 190 жыхароў, 248 дзес. зямлі. З 1926 г. дзейнічала паштовае аддз., у Новацярэшкавіцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Старабеліцкім с/с, за 16 км на З ад Гомеля, 19 км ад чыг. ст. Гомель-Пасажырскі; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 154 жыхары. У 1909 г. 25 двароў, 240 дзес. зямлі. У 1926 г. 26 двароў, у Старабеліцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалены ад ням. акупацыі. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкая). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — пас. у Старабеліцкім с/с, за 17 км на З ад Гомеля, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 26 гаспадарак, 66 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 53 двары, 309 жыхароў, паштовае аддз., у Галееўскім

с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 13.9.1943 ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 32 жыхары, 14 з якіх пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры пасёлка. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Планіровачна складаецца з кароткай, рэдка забудаванай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. танкавых войск С.А.Ціханчука.

**АПАЛОНАЎКА** — пасёлак у Грабаўскім с/с, за 16 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 30 км на ПдУ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйнага забруджання пасялкоўцы перасёлены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 77 жыхароў, аддз. сувязі, у Антонаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У пачатку 1930-х гадоў пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Грабаўка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены побач з прасёлачнай дарогай.

**АПАНАСАЎКА** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Паблізу аўтадарога Уваравічы—Гомель. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 10 двароў, 72 жыхары, у Рагоўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1955 г. 55 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**АРЛЕНСК** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Гомеля, 8 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў); на Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вуць (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Старыя Ярылавічы—Гомель. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСАВІНО** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 27 км на Пд ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў). Побач аўтадарога Старыя Ярылавічы—Гомель. 35 гаспадарак, 63 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1-й пал. 1920-х г. у складзе Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 54 двары, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну нямецкія акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 36 двароў і загубілі 2 жыхары. 27 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма доктара біялагічных навук Л.П.Смаляка.

**АСАЎЦЫ** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 6 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы і Мільчанская канава, злучаныя з р. Уза (прыток р. Сож), на У — пойма р. Сож. Аўтадарога звязвае вёску з Гомелем. 119 гаспадарак, 303 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча мілаградскай (7—3 ст. да н.э.) і зарубінецкай (2 ст. да н.э. — 5 ст. н.э.) культур (за 1,5 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых месц з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. вёска ў Гомельскай вол. Рагачоўскай правінцыі, з 1776 г. ва ўладанні фельдмаршала П.А.Румянцава-Задунайскага. З 1834 г. ва ўладанні князя І.Ф.Паскевіча, у складзе Навікоўскай эканоміі. З 1880-х г. працаваў хлебазапасны магазін. У 1882 г. 19 двароў, у Яромінскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 50 двароў, 297 жыхароў, 219 дзес. зямлі. З 1913 г. дзейнічала земская школа, з 1925 г. — цагельня. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Дзейнічаюць пач. школа, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСТРАВЫ** — вёска у Старабеліцкім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Астравы (яна ж Зялёныя Лукі), 17 двароў, 136 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1926 г. 27 двароў, 149 жыхароў, у Старабеліцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Побач ёсць невялікае радовішча жалезнай руды палескага тыпу.

**БАБОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Бабовіцкага с/с, за 31 км на Пд ад Гомеля, на р. Уза, якая на ўсх. ускраіне ўпадае ў р. Сож; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску з Калінкавічамі і Гомелем. 549 гаспадарак, 1450 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 4 км на ПдУ ад вёскі) і паселішча эпохі Кіеўскай Русі (за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 40-х г. 17 ст. сяло, 6 дымоў, 3 службы, 10 валоў, 9 коней, 1 пустка Патрыкееўшчына. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 48 двароў, 271 жыхар, у Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губ. З 1775 г. ў маёнтку графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — князя І.Ф.Паскевіча. У 1811 г. 64 двары, 331 жыхар мужчынскага полу, у Навікоўскай эканоміі. У 1849 г. пабудавана драўляная Успенская царква. У 1850 г. 171 двор, 500 жыхароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 63, у 1905 г. 97 вучняў). У 1885 г. 186 двароў, 1187 жыхароў, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. 271 двор, вадзяны млын, сукнавальня, кузня, вінная лаўка, карчма. 19.4.1904 г. згарэлі 58 двароў з надворнымі пабудовамі і 3 гумны. У выніку пажару ў 1907 г. згарэлі 78 двароў. У 1909 г. 1880 жыхароў, 2700 дзес. зямлі, у Дзят-

лавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 22 дзес. зямлі належалі царкве. У 1926 г. 495 двароў, 2586 жыхароў, аддз. сувязі, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 3.9.1965 г. цэнтр Бабовіцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі торфараспрацоўчая арцель, 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 29 вяскоўцаў. Вызвалена 26.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 222 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленая ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1442 жыхары. У 1979 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Сцяпана Разіна. Цэнтр калект.-далявой гаспадаркі «Бабовіцкая». Размешчаны перапампавачная станцыя нафтаправода «Дружба», шавецкая майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, 3 магазіны, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой пад прамым вуглом далучаюцца з З тры паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1991—92 гг. пабудавана 98 мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. скульптара У.Н.Папсуева, удзельніка рэв. руху і грамадзянскай вайны, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Гомельскага патрыят. падполля ў Вял. Айч. вайну І.Б.Шылава (20.6.1942 г. расстраляны ням. акупантамі, яго імя прысвоена адной з вуліц Гомеля).

У склад Бабовіцкага с/с да 1979 г. ўваходзіў пас. Сцяпана Разіна (не існуе).

**БАЛЬШАВІК** (да 24.8.1950 г. пасёлкі № 1, № 2, № 3, № 4 торфазавода «Бальшавік») — рабочы пасёлак і чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), цэнтр Бальшавіцкага пасялковага Савета і торфапрадпрыемства «Бальшавік», за 15 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Побач шаша Доўск—Гомель. 2,4 тыс. жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. пасля ўводу ў строй у ліст. 1873 г. чыг. Бабруйск—Гомель. Пасёлак хутка рос, асабліва ў сувязі з пашырэннем у 1920—40-я г. торфараспрацовак на тутэйшых лугах і забалочаных мясцінах. Скаліся пасёлкі № 1, № 2, № 3, № 4, якія належалі торфазаводу «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну каля пасёлка ў жн. 1941 г. разам з рэгулярнымі часцямі Чырвонай Арміі вялі цяжкія абарончыя баі гомельскія апалчэнцы. У баях за пасёлак у ліст. 1943 г. загінулі 25 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 175 землякоў, памяць аб якіх ушаноўваюць абеліск і стэла, пастаўленыя ў 1974 г. каля будынка выканкома пасялковага Савета. 24.8.1950 г. пасёлкі торфараспрацоўшчыкаў аб'ядналіся ў рабочы пасёлак «Бальшавік». У 1987 г. да рабочага пасёлка далучаны пас. Андрыянаўскі. Размешчаны торфапрадпрыемства «Бальшавік», ветсануцільзавод, асфальтавы з-д, камбінат бытавога абслугоўвання, механічная майстэрня, сярэдняя і 8-гадовая школы, Дом культуры з б-кай, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, бальніца, паліклініка, 4 магазіны. Ансамбль нар. песні «Світанак» Дома культуры торфапрадпрыемства (створаны ў 1984 г.) атрымаў у 1993 г. званне народнага. Планіровачна складаецца з паралельных паміж сабой васьмі вуліц рознай даўжыні, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Адасобленыя ўчасткі забудовы складаюць 3 вуліцы, размешчаныя ад асн. забудовы на ПнУ. Забудова пераважна драўляная.

**БАРДЗІНА** — пасёлак у Яромінскім с/с, за 1 км на Пн ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. 84 гаспадаркі, 216 жыхароў (2004 г.).



*Мемарыял «Партызанская крынічка» на месцы базіравання партызанскага атрада «Бальшавік» у пас. Барэц.*

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. хутар, 2 двары, 15 жыхароў, 31 дзес. зямлі, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 17 двароў, 98 жыхароў, у Ціценскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Яроміна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай па абодва бакі шашы пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі Т.Р.Марозавай.

**БАРОК** — пасёлак ва Урыцкім с/с, за 11 км на З ад Гомеля, на р. Рандаўка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 52 гаспадаркі, 78 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічала торфарасрацоўчая арцель. У Вял. Айч. вайну 38 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 328 ж. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Адна з вуліц носіць імя братоў Крыгаўцовых (ураджэнцы пасёлка, складалі танкавы экіпаж, які 26.6.1941 г. ў баі з ням. захопнікамі здзейсніў першы ў Вял. Айч. вайну танкавы таран).

**БАРЭЦ** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. Першапачаткова меў назву «Чырвоны Барэц». У 1926 г. 17 двароў, 77 жыхароў, у Скітоцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну за 3 км на ПдУ ад пасёлка, ва ўрочышчы Партызанская Крынічка базіраваліся Гомельскі падпольны гарком КП(б)Б і партыз. атрад «Бальшавік». 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыенацыі, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАШТАН** — пасёлак у Грабаўскім с/с, чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), за 32 на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 45 гаспадарак, 101 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. хутар, 1 двор, 5 жыхароў. У 1926 г. пасёлак, 24 двары, 129 жыхароў, у Грабаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 54 двары, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 51 двор, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 28.9.1943 г. 25 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У баях за пасёлак загінулі 6 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Грабаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якую па цэнтры перакрыжоўвае чыгунка. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы, які складаецца з кароткай вуліцы. Забудова драўляная

сядзібнага тыпу. Радзіма члена Саюза пісьменнікаў Беларусі М.З.Башлакова.

**БУДАЦІН** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 3 км на У ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае пасёлак з Гомелем. 42 гаспадаркі, 86 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У пач. 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі 2 ветракі і кузня У 1940 г. 33 двары, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**БУДЗІЛКА** — пасёлак у Прыбыткаўскім с/с, за 4 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 17 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новыя Ярылавічы—Гомель. 32 гаспадаркі, 54 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 34 двары, 183 жыхары, паштовае аддз., у Прыбыткаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 44 двары, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 5 жыхароў. У баях за пасёлак і суседнія населеныя пункты загінулі 287 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**БУДЗІШЧА** — вёска ў Чарацянскім с/с, за 17 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 50 км на ПдУ ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Аўтадарога злучае вёску з Гомелем. 50 гаспадарак, 83 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў валоданні арандатара К.Вішынскага. У 1886 г. 52 двары, 291 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 476 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 90 двароў, 598 жыхароў, 1463 дзес. зямлі. У 1926 г. 122 двары, 598 жыхароў, паштовае аддз., школа, у Пракопаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Воля», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну 27.9.1943 г. вызвалена ад нямецкіх акупантаў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 370 жыхароў. У складзе калгаса «За Радзіму» (цэнтр — в. Чарацянка). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Побач залежы цагельнай сыравіны (1,3 млн. м$^3$).

**БУК** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на У і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагі—Бальшавік і шашы Доўск—Гомель. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 6 двароў, 38 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны маяк» (цэнтр — в. Рагі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗКІ** — вёска ва Улукаўскім с/с, чыг. станцыя на лініі Гомель—Добруш,

за 3 км на У ад Гомеля, на аўтадарозе Добруш—Гомель; на Пд мяжуе з лесам. 937 гаспадарак, 2710 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1832 г. невялікае сяло з карчмой. З уводам у эксплуатацыю 8.8.1887 г. чыг. Гомель—Бранск пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1926 г. 45 двароў, 245 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 95 двароў, 423 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Назарэт. Цэнтр племзавода «Бярозкі». Размешчаны Дом культуры, дзіцячы сад, магазін, лазня, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой на Пн праходзіць кароткая вуліца, а на Пд да гал. далучаецца вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАДАПОЙ** — пасёлак у Чарацянскім с/с, за 7 км ад чыг. ст. Дзікалаўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 36 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Церуха (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 16 двароў, 88 жыхароў, аддз. сувязі, цэнтр (з 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г.) Вадапойскага с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вадапой», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Макаўе). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ВАЙЦІН** — пасёлак у Шарпілаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Гомеля; на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 123 жыхары, у Аб'яднана-пасялковым Савеце Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 21 пасялковец загінуў на фронце. У складзе саўгаса «Міжрэчча» (цэнтр — в. Шарпілаўка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ВАСІЛЕВА** — вёска ў Даўгалескім с/с, за 16 км ад чыг. ст. Чыжоўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 27 км на ПдЗ ад Гомеля; на паўн. і зах. ускраінах меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Жлобін—Гомель. 71 гаспадарка, 129 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,18 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 19 ст. У 1926 г. 71 двор, 395 жыхароў, аддз. сувязі, школа, у Карналінскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 лютага», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 22 вяскоўцы загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. да 3.9.1965 г. цэнтр Васілеўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 391 жыхар. У складзе саўгаса імя А.М. Горкага (цэнтр — в. Даўгалессе). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 частак: зах. (прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі з рэдкай аднабаковай забудовай) і ўсх. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ВАЯВОДА** — пасёлак і чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), у Зябраўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлач-

най, потым аўтадарозе Зябраўка—Гомель. 72 гаспадаркі, 153 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 32 двары, 155 жыхароў, аддз. сувязі, у Лагуноўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 270 жыхароў. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВІШАНСКІ** (да 1957 г. Сталінец) — пасёлак у Яромінскім с/с, за 5 км на Пн ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Гомель-пасажырскі. Побач шаша Доўск—Гомель. 125 гаспадарак, 319 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 107 жыхароў, у Касцюкоўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. У 1968 г. да пасёлка далучаны пас. Новы. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Яроміна). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на Пн далучаецца да цэнтра прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака У.А.Еўтухова.

**ВІШНЁЎКА** — пасёлак у Цярэніцкім с/с, за 22 км на З ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Уза (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 100 жыхароў, аддз. сувязі, у Іванаўскім с/с Уваравіцкага р-на. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Цярэнічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВОСТРАЎ** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 9 км на Пн ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з Гомелем. 87 гаспадарак, 237 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 24 двары, 133 жыхары, у Лапацінскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў. У 1962 г. да пасёлка далучаны пас. Новікі. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай і крывалінейнай вуліц, забудаваных пераважна двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫСОКАЯ ГРЫВА**— пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 14 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 17 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. Тут была сядзіба з паркам, частка насаджэнняў якога захавалася да нашага часу. Паводле перапісу 1897 г. выселак, які складаў частку аколіцы Старыя Цярэшкавічы; 7 двароў, 36 жыхароў, у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 14 двароў, 68 жыхароў, аддз. сувязі, у Старацярэшкавіцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхары. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 31 жыхар. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароценькай



*Свята-Кацярынінская царква ў в. Гадзічава. Помнік архітэктуры 19 ст.*

прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка каля прасёлачнай дарогі.

**ГАДЗІЧАВА** — вёска ў Маркавіцкім с/с, за 41 км на ПдУ ад Гомеля, 4 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), на р. Быкаўка (прыток р. Нямыльня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 93 гаспадаркі, 187 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча культуры тыпу верхняга пласта Банцароўшчыны і эпохі Кіеўскай Русі (за 2,5 км на З ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. У 1770 г. 122 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у Рас. імперыі. З 1775 г. ў складзе маёнтка графа П.А. Румянцава-Задунайскага, а потым кн. І.Ф.Паскевіча, у Маркавіцкай вол. Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. У 1816 г. 80 двароў, 362 жыхары. У 1834 г. 130 двароў, 730 жыхароў, у Мікалаеўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1-й пал. 19 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана мураваная царква (зараз помнік архітэктуры з элементамі класіцызму). У 1886 г. 171 двор, 955 жыхароў, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 215 двароў, 1181 жыхар, царква, школа граматы, лаўка, карчма. У 1909 г. 267 двароў, 1757 жыхароў, 3026 дзес. зямлі, школа (будынак узведзены ў 1912 г.), праваслаўная царква, млын. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Гадзічаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі цагельня (88 рабочых), 3 ветракі, калодачная майстэрня (48 рабочых). У Вял. Айч. вайну загінулі 120 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1957 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 705 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Маркавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, у цэнтры якой гаспадарчыя і грамадскія будынкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАЛАВІНЦЫ**— вёска ва Улукаўскім с/с, за 6 км а У ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож) і аўтадарозе Добруш—Гомель. 334 гаспадаркі, 865 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сядзіба ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-х г. 17 ст. паводле інвентару Гомельскага старосства сяло, 4 дымы, 2 службы. Паводле прывілея караля Аўгуста III ад 5.11.1762 г. ў валоданні Фашчаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 18 двароў. У 1841 г. пабудавана драўляная царква. З 1866 г. працавала крупарушка. У 1885 г. 105 двароў, 410 жыхароў, царк.-прыходская школа, 3 ветракі. З 2-й пал. 19 ст. дзейнічала нар. вучылішча (у 1889 г. 74, у 1905 г. — 106 вучняў), працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 143 двары, 930 жыхароў, у Гомельскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 184 гаспадаркі, 1044 жыхары, 1218 дзес. зямлі і 36 дзес. зямлі належалі царкве. У сак. 1918 г., у час наступлення немцаў на Добруш, каля вёскі партызаны сумесна з часцямі Чырвонай Арміі нанеслі акупантам вялікія страты. З 1926 г. дзейнічаў паштовы пункт. З 8. 12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Галавінскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай

акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 244 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 50 двароў і загубілі 100 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 600 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана в. Новы Двор. У складзе саўгаса «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, паўд. частка якой мае амаль мерыдыянальную, а паўн. — шыротную арыентацыю. На Пд і Пн яе перакрыжоўваюць кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы М.В.Казловай, рус. спевака Ф.І.Стравінскага і засл. механізатара Беларусі Я.М.Дварэцкага.

**ГАЛЕЕЎКА** — вёска ў Старабеліцкім с/с, за 20 км на З ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 55 гаспадарак, 110 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя каля вёскі курганныя могільнікі жалезнага веку сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як слабада ў Целяшоўскай воласці Гомельскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 18 двароў[2]. Гаспадар маёнтка Галееўка дваранін Ю.М.Солтан-Перасвет валодаў тут у 1878 г. 445 дзес. зямлі. У 1886 г. 48 двароў, 226 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 536 жыхароў, школа граматы, 2 ветракі, кузня, карчма. Побач быў аднайменны маёнтак. У 1909 г. 91 двор, 609 жыхароў, 1257 дзес. зямлі, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Галееўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 3.9.1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 61 жыхара. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 270 жыхароў. У складзе калгаса імя М.С. Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн і Пд далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — пасёлак у Рудня-Марымонаўскім с/с, за 32 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 47 км на ПдЗ ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лоеў—Рэчыца. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. Пачатак вёсцы паклаў фальварак, гаспадар якога ў 1857 г. меў 735 дзес., а ў 1865 г. гаспадар другога фальварка меў тут 508 дзес. зямлі. Больш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.А.Някрасава (цэнтр — в. Рудня-Марымонава). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, мерыдыянальных вуліц, злучаных дарогай. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛЫБОЦКАЕ** — вёска, цэнтр Глыбоцкага с/с, за 13 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 47 км на ПдУ ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Лубянка (прыток р. Нямыльня). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 329 гаспадарак, 713 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,5 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Е.Р.Раманаў, які абследаваў пляцоўку ў 1910 г., пісаў, што вяскоўцы знайшлі скарб арабскіх дырхемаў дынастыі саманідаў 895—910 гг. (77 манет зберагаюцца ў Эрмітажы). Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1992 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1788 г. 271 рэвізская душа, у Гомельскай вол.



*Царква Раства Багародзіцы ў в. Глыбоцкае.*



*І.А.Каўшараў.*

Беліцкага пав., уладанне фельдмаршала, графа М.П.Румянцава-Зуданаўскага, потым фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. ў складзе Мікалаеўскай экноміі Гомельскага маёнтка, 97 двароў. У 1834 г. 884 жыхары. У 1849 г. заможны селянін К.Луцкоў узвёў невялікі драўляны будынак Раства-Багародзіцкай царквы на мураваным падмурку, якая ў 1881 г. перабудавана і з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1867 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча, для якога ў 1903 г. пабудаваны ўласны будынак; у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Працавалі 2 крупарушкі, засн. ў 1873 г. і 1879 г. У 1886 г. 207 двароў, 1460 жыхароў, 3 ветракі, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 253 двары, 1514 жыхароў, карчма. У 1909 г. 284 двары, 1856 жыхароў, 2923 дзес. зямлі. У 1911 г. адкрыта спажывецкае таварыства. У 1926 г. 356 двароў, аддз. спажывецкай кааперацыі, аддз. сувязі, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Глыбоцкага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага, з 18.1.1965 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 15.1.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі торфаздабываючая арцель (115 рабочых), 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску 27.8.1943 г. загінулі 7 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 185 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1206 жыхароў. Цэнтр калект.-далявой гаспадаркі імя Ільіча. Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, лазня. Плаціровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на У далучаецца да цэнтра вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1991—92 гг. узведзены 104 мураваня дамы для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрафы. Радзіма Героя Сац. Працы, засл. будаўніка БССР П.П.Цімашэнкі і Героя Сав. Саюза І.А.Каўшарава (ганаровы грамадзянін г. Ціхвін Ленінградскай вобл.), доктара ветэрынарных навук, праф. С.С.Абрамава. Побач радовішча цагельнай сыравіны (1 млн. м$^3$).

**ГРАБАЎКА** — вёска, цэнтр Грабаўскага с/с, за 5 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 35 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Грабаўка (прыток р. Це-



*Парк 19 ст. ў в. Грабаўка.*



*Ручнік з в. Грабаўка. 1890-я г.*

руха) і аўтадарозе Будзішча—Гомель. 305 гаспадарак, 824 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пераважную частку жыхароў складалі стараверы, якія ўцяклі з Расіі. Паводле прывілея караля Аўгуста III ад 5.11.1762 г. ў валоданні Фашчаў. У 1764 г. вайсковыя атрады на чале з генералам Маславым выслалі са слабады ў Сібір усіх старавераў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Належала графам Румянцавым і Паскевічам. У 1854 г. гаспадар фальварка Грабаўка памешчык Фашч меў тут 221 дзес. зямлі. У 1855 г. 207 рэвізскіх душ, дзейнічалі: нар. вучылішча (з 1856 г.), хлебазапасны магазін (з 1857 г.), вінакурня (з 1858 г.). У 2-й пал. 19 ст. на Пн вёскі быў закладзены парк, асн. частку якога складаў яблыневы сад. Тут жа быў сядзібны дом, а ў зах. частцы парку знаходзіўся стараж. курган. З 1877 г. працавала маслабойня. У 1879 г. пабудавана драўляная Узнясенская царква. У 1886 г. 160 двароў, 811 жыхароў, капліца, 2 ветракі, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 216 двароў, 1229 жыхароў, царква, лаўка, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 247 двароў, 1450 жыхароў, 2149 дзес. зямлі, школа (у 1907 г. 112 вучняў), царква, касцёл, вінная лаўка, млын. У 1919 г. створаны саўгас «Грабаўка». З 1926 г. дзейнічалі с.-г. арцель «Маяк», лаўка, аддз. сувязі, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Грабаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Церахаўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага, з 18.1.1965 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Калі ў 1929—30 гг. у Маскве ўзводзіўся маўзалей У.І.Леніна (паводле праекта А.В.Шчусева), у яго збудаванні ўдзельнічалі і нар. ўмельцы (19 чалавек) з в. Грабаўка. У 1930 г. арганізаваны калгас «8 Сакавіка», працавалі цагельня, вадзяны млын, ветрак, кузня. У 1940 г. 340 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 308 двароў і загубілі 13 жыхароў. Вызвалена 28.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 129 вайскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1970 г. каля школы. Паводле перапісу 1959 г. 988 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Зара». Размешчаны цагельня, лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа (у 1996 г. ўзведзены для яе новы мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз.

*Першы выпуск вучняў 7-га класа СШ в. Грабаўка.*



сувязі, сталовая, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: зах. (крыху выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца з З прамалінейная вуліца з завулкам) і ўсх. (прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1991—92 гг. узведзена 60 мураваных дамоў, дзе размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма вучонага ў галіне санітарыі і эпідэміялогіі К.Ю.Канановіча. Адна з вуліц носіць імя супрацоўніка міліцыі Ф.І.Чачына, які загінуў пры выкананні службовых абавязкаў.

У склад Грабаўскага с/с да 1967 г. ўваходзіў пас. Топаль (не існуе).

**ГРАЗА** — пасёлак у Зябраўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Зябраўка—Гомель. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўна забудоўваўся ў 1920-х г. У 1926 г. 55 двароў, 257 жыхароў, паштовае аддз., у Лагойскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 19 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 219 жыхароў. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРЫВА** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 20 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 27 км на З ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары перселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 12 двароў, 70 жыхароў, у Задораўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1940 г. 15 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 24 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр в. Целяшы). Будынкі драўляныя, пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ГРЫВА** — пасёлак у Пакалюбскім с/с, за 8 км на Пн ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хальч—Гомель. 72 гаспадаркі, 223 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб.актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 49 двароў, 261 жыхар, у Лапаціцкім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 69 двароў, 337 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 63 двары. Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з блізкай да прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАВЫДАЎКА** — вёска, цэнтр Давыдаўскага с/с, за 3 км на ПдЗ ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож; на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Калінкавічы—Гомель. 381 гаспадарка, 1164 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1847 г. як слабада ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1850 г. 14 двароў, 101 жыхар, ва ўладанні графа І.Ф.Паскевіча. У 1862 г. 27 двароў, у Яромінскай вол. Гомельскага пав. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 362 жыхары. У 1909 г. 77 двароў, 456 жыхароў,

497 дзес. зямлі. Дзейнічала нар. вучылішча (у 1907 г. 61 вучань). У 1924 г. пачалі працаваць арцель па здабычы торфу і нафтавы млын. З 8.12.1926 г. цэнтр Давыдаўскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1926 г. 137 двароў, 688 жыхароў, паштовы пункт, школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». У 1941 г. каля вёскі адкрыты залежы каменнай солі. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 26.11.1943 г. 63 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 851, у пасёлку торфазавода 118 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Размешчаны аддз. торфапрадпрыемства «Парыжская камуна», швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Давыдаўскага с/с уваходзілі вёскі Любны, Мільчанск (да 1934 г.), Паўлава (да 1963 г.), Ляшчынец (да 1960 г.), пас. Сонечны (да 1968 г.; не існуюць).

**ДАЎГАЛЕССЕ** — вёска, цэнтр Даўгалескага с/с, за 19 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель, 35 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 322 гаспадаркі, 835 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. Найб. інтэнсіўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 54 двары, 271 жыхар, аддз. сувязі, школа, у Карналінскім с/с Дзятлаўскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі ў 1941 г. 4 савецкіх актывістаў (пахаваны на могілках). У баях каля вёскі загінулі 6 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле). 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 661 жыхар. З 3.9.1965 г. цэнтр Даўгалескага с/с і саўгаса імя А.М.Горкага. Размешчаны сярэдняя школа (у 1989 г. ўзведзены мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт бытавога абслугоўвання, сталовая, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны, лазня. Планіровачна складаецца з 3 частак: зах. (да прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі далучаюцца пад вуглом кароткія прамалінейныя вуліцы з Пн і Пд), сярэдняй (дугападобная вуліца амаль шыротнай арыентацыі) і ўсх. (прамалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987—92 гг. узведзены 142 мураваныя будынкі для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. спевака, засл. артыста Беларусі А.Р.Рудкоўскага.

У склад Даўгалескага с/с да 1941 г. ўваходзіў пас. Белы Бераг (не існуе).

**ДЗІКАЛАЎКА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Дзікалаўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 34 км на Пд ад Гомеля, на р. Нямыльня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 44 гаспадаркі, 64 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска побач з рудняй, дзе выраблялася жалеза для мясцовых патрэб. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1992 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. Дзікалаўская Рудня, 14 двароў, у Гомельскай вол. Рагачоўскай правінцыі. У 1788 г. істотна пашырала сваю дзейнасць рудня, 89 жыхароў, уладанне фельдмаршала графа М.П.Румянцава-Задунайскага. У 1816 г. 24 двары, у складзе Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 33 двары, 203 жы-

хары, уладанне фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 424 жыхары, у Маркавіцкай воласці. У 1909 г. 69 двароў, 466 жыхароў, 666 дзес. зямлі. У 1926 г. 76 двароў, аддз. сувязі, у Краўцоўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 342 жыхары. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да паўд. часткі якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДОБРУШ** — пасёлак у Рудня-Марымонаўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Гомеля. Праз пасёлак праходзіць меліярацыйны канал, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.А.Някрасава (цэнтр — в. Рудня-Марымонава). Драўляныя сял. сядзібы збудаваны каля канала.

**ДУБАВЕЦ** — пасёлак у Даўгалескім с/с, за 18 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 36 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1939—40 гг. у пасёлак пераехала частка жыхароў пас. Белы Бераг (з 1941 г. не існуе). У 1940 г. 37 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. каля вёскі з сав. самалёта быў скінуты дэсант — 3 медыцынскія работнікі для партыз. атрадаў. Дэсантнікі былі захоплены акупантамі і расстраляны. У ліст. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У складзе саўгаса імя А.М.Горкага (цэнтр — в. Даўгалессе). Планіровачна складаецца з 2 паўвыгнутых вуліц, якія ўтвараюць дугападобную канфігурацыю шыротнай арыентацыі. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБІНА** — пасёлак у Грабаўскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 26 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Пясошанька (прыток р. Церуха). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 16 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. наз. Лясное Урочышча, 4 двары, 16 жыхароў, у Насовіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 34 двары. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Грабаўка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУЯНАЎКА** — вёска ў Прыбыткаўскім с/с, за 4 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 17 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Церахоўка. 83 гаспадаркі, 533 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі.

Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцьеўскім царк. прыходзе. У 1791 г. частка вяскоўцаў перaселена ў Навабеліцу, будаўніцтва якой у той час інтэнсіўна вялося. Гаспадар маёнтка Дуянаўка меў у 1872 г. 1079 дзес. зямлі, вадзяны млын і сад. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. З 1875 г. працавала маслабойня. У 1882 г. 66 двароў, 386 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 581 жыхар. У 1909 г. 658 жыхароў, 481 дзес. зямлі, млын, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У аднайменным фальварку былі 654 дзес. зямлі. У 1925 г. на базе фальварка створаны саўгас «Дуянаўка». У вёсцы ў той час было 108 двароў, 564 жыхары, аддз. сувязі, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Дуянаўскага с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 147 двароў, 662 жыхары. У Вял. Айч. вайну 3.9.1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 50 вайскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 635 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Размешчаны дзіцячы інтэрнат, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова шчыльная, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЕПІФАНЬ** — пасёлак у Цярухскім с/с, за 14 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 28 км на Пд ад Гомеля, на р. Церуха (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 5 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 19 ст., калі сюды, ва ўрочышча Епіфанполле, пачалі перасяляцца жыхары суседніх вёсак. У 1816 г. 8 двароў, 24 жыхары, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. Уваходзіў у склад Гомельскага маёнтка Румянцавых, а потым Паскевічаў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 26 жыхароў. Размешчана Маркавіцкае лясніцтва. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЖУРАЎЛЁЎКА** — вёска ў Граўскім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 32 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Грабаўка (прыток р. Церуха, басейн р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 45 гаспадарак, 113 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1864 г. ўрочышча, у складзе маёнтка Грабаўка, ва ўладанні К.Фашча. У 1926 г. 37 двароў, 211 жыхароў, аддз. сувязі, у Макаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 318 жыхароў. Размешчаны падсобная гаспадарка «Прамень» Гомельскага радыёзавода і фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЖЫГАЛЬСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Рудня-Марымонаўскім с/с, за 24 км ад чыг. ст. Якімаўка (па лініі Калінкавічы—Гомель), 32 км на ПдЗ ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з воз. Кушчаўка, што ў пойме р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Засн. як сяліба каля рудні, дзе выраблялася жалеза для мясцовых патрэб, уладанне памешчыцы Валадзьковічавай, потым Хацяняеўскай. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 35 жыхароў, у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 7 гаспадарак, 46 жыхароў, 37 дзес. зямлі. У 1926 г. 16 двароў, 79 жыхароў, у Рудня-Марымонаўскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. вяскоўцы

ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.А.Някрасава (цэнтр — в. Рудня-Марымонава). Планіровачна складаецца з кароткай, рэдка забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЖЫТОЎЛЯ** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож) і аўтадарозе Жлобін—Гомель. 97 гаспадарак, 251 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 58 двароў, 321 жыхар, у Целяшоўскаруднянскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная дуброва», з 1933 г. працавалі цагельня, вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну 23 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 306 жыхароў. У складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Целяшкоўская Рудня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАБІЯКА** — пасёлак у Красненскім с/с, за 1 км на Пн ад Гомеля. Транспартныя сувязі па дарогах, якія ідуць ад Гомеля. 42 гаспадаркі, 107 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 100 жыхароў, у Красненскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАДОРАЎКА** — вёска ў Целяшкоўскім с/с, за 20 км на З ад Гомеля, 10 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), на Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Уза (прыток р. Сож), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 26 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў складзе аднайменнага маёнтка ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1847 г. 105 рэвізскіх душ, ва ўладанні памешчыка Мікашэўскага. У 1884 г. гаспадар маёнтка валодаў 182 дзес., а гаспадар другога маёнтка, што быў побач, — 355 дзес. зямлі, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 499 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1909 г. 78 двароў, 536 жыхароў, 1185 дзес. зямлі, школа, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Задораўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Задораўка», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 90 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 80 двароў і загубілі 12 жыхароў. 37 вайскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн далучаецца да дугападобнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЙМІШЧА** — вёска ў Чарацянскім с/с, за 50 км на ПдУ ад Гомеля, 17 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 36 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1886 г. 42 двары, 266 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 71 двор, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 74 двары, 513 жыхароў, 963 дзес. зямлі, млын. У 1926 г. дзейнічалі паштовы пункт, пач. школа,

у Пракопаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 27.9.1943 г., 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары. У 1967 г. ў вёску пераехалі жыхары суседняга пас. Данец. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Макаўе). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Чарацянскім с/с, за 48 км на ПдУ ад Гомеля, 15 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча — Гомель. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова аднасіцца да 1920-х г. У 1926 г. 29 двароў, 161 жыхар, аддз. сувязі, у Чарацянскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе калгаса «За Радзіму» (цэнтр — в. Чарацянка). Планіровачна складаецца з 2 кароценькіх прамалінейных, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЛІНЕЙНЫ** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 1 км на Пн ад Гомеля, 4 км ад чыг. ст. Гомель-Пасажырскі. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1968 г. як пасёлак саўгаса «Конезавод № 59». Драўляныя сядзібы пастаўлены бессістэмна каля чыгункі. Назва пасёлка зацверджана Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 21.1.1969 г.

**ЗАЛІП'Е** — вёска ва Урыцкім с/с, за 11 км на З ад Гомеля, на р. Рандаўка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 244 гаспадаркі, 509 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 51 двор, 224 жыхары, у Гомельскай вол. Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губ. У 1788 г. 386 жыхароў, у складзе Гомельскага маёнтка графаў Задунайскіх, з 1834 г. — графаў Паскевічаў, у Навікоўскай эканоміі. У 1834 г. 80 двароў, 498 жыхароў. У 1880 г. 621 жыхар, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 149 двароў, 767 жыхароў, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. У вясковай школе ў 1907 г. былі 62 вучні. У 1926 г. 162 двары, 875 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Заліпскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыятычная група, якая 6.11.1941 г. правяла сваю першую баявую аперацыю. У 1942 г. падпольшчыкі былі раскрыты і восенню 1942 г. расстраляны. 95 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 764 жыхары. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на У і З далучаюцца кароткія вуліцы, а на Пн — паралельна да галоўнай праходзіць прамалінейная кароткая вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы П.Н.Кавалёвай.

**ЗАЛЯДДЗЕ** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 8 км ад абласнога цэнтра і 11 км ад чыг. ст. Гомель-Пасажырскі; на У мяжуе з лесам, за 1,5 км ад пасёлка размешчана Шабрынскае лясніцтва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай,

потым аўтадарогах, якія ідуць ад Гомеля. 78 гаспадарак, 145 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як сял. Бліжняе Заляддзе і Дальняе Заляддзе. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. ў пас. Дальняе Заляддзе 238 жыхароў. У 1962 г. пасёлкі Бліжняе Заляддзе і Дальняе Заляддзе аб'ядналіся ў адзін пасёлак. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з 2 вуліц; прамалінейнай амаль шыротнай арыентацыі (былы пас. Бліжняе Заляддзе) і прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (былы пас. Дальняе Заляддзе). Забудаваны двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі Н.Ф.Семянцова, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі М.Е.Шчэрбінай.



*Я.А.Траццякоў.*

**ЗАРНІЦА** — пасёлак у Зябраўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Гомеля, 2 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Зябраўка — Гомель. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920 г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 10 двароў, 53 жыхары, аддз. сувязі, у Лагуноўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 63 жыхары. У вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 14 двароў. У Вял. Айч. вайну 2 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗІМНІ** — пасёлак у Глыбоцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1960-х г. Тут размясціўся дом інвалідаў і паступова складваўся пасёлак, назва якога зацверджана Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 21.1.1969 г. Планіровачна складаецца з бессістэмнай драўлянай забудовы каля прасёлачнай дарогі.

**ЗЯБРАЎКА** — вёска і чыг. ст. Саколка на лініі Гомель—Бахмач, цэнтр Зябраўскага с/с, за 18 км на ПдУ ад Гомеля. Каля вёскі вышэйшае ў Гомельскім р-не месца (160,3 м). Аўтадарога звязвае вёску з Гомелем. 341 гаспадарка, 815 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 67 двароў, 985 жыхароў, у Гомельскай вол. Рагачоўскай правінцыі Магілёўскай губ. З 1776 г. ва ўладанні графаў Румянцавых, з 1834 г. — графаў Паскевічаў. У 1798 г. 392 жыхары, у складзе Каранёўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 109 двароў, 586 жыхароў. У 1856 г. адкрыта нар. вучылішча. Пасля ўводу ў эксплуатацыю ў снеж. 1873 г. ўчастка Гомель—Бахмач Лібава-Роменскай чыг. пачала дзейнічаць чыг. станцыя, на якой штогод грузілася да 150 тыс. пудоў лясных і хлебных грузаў. Гаспадар маёнтка Зябраўка валодаў у 1875 г. 121 дзес. зямлі, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1876 г. і 1879 г. заснаваны 2 крупарушкі. У 1886 г. 132 двары, 861 жыхар, 2 ветракі, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 193 двары, хлебазапасны магазін, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 236 гаспадарак, 1552 жыхары, 1505 дзес. зямлі, школа, царква, вінная лаўка, млын. З 8.12.1926 г. цэнтр Зябраўскага с/с у Насовіцкім, з 4.8.1927 г. ў Гомельскім р-нах Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1926 г. 285 двароў, лаўка, паштовае аддз., пач. школа, чыг. станцыя (59 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі вятрак і куз-

ня. У 1933 г. размясціўся вытворчы ўчасток Гомельскай машынна-трактарнай станцыі. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 28.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 140 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1962 г. каля школы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1318, у аднайменным пасёлку 60 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Размешчаны 2 сярэднія, пач. і музычная школы, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, 2 аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнУ далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера ордэна Славы 3-х ступеней Я.А.Траццякова, засл. настаўніка прафесійна-тэхнічнай адукацыі Беларусі В.К.Васпукова.

**ЗЯЛЁНЫ ВОСТРАЎ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Гомеля, 12 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Уваравічы—Гомель. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 37 двароў, 208 жыхароў, у Аздзелінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 195 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗЯЛЁНЫ ГАЙ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Гомеля, 12 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель). Побач аўтадарога Уваравічы—Гомель. 35 гаспадарак, 78 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Рудзянецкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 244 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на Пн крыху адхіляецца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ САД** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Гомеля, 13 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Уза (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Уваравічы—Старая Беліца. 38 гаспадарак, 96 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 9 двароў, 54 жыхары, аддз. сувязі, у Аздзелінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗЯЛЁНЫЯ ЛУКІ** — вёска ў Старабеліцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад абл. цэнтра і чыг. ст. Гомель-Пасажырскі (на лініі Жлобін—Гомель), на ПнУ і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 17 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Пас-

палітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1788 г. 48 рэвізскіх душ, ва ўладанні графа Румянцава-Задунайскага, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. ў складзе Багуслаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 8 двароў, уладанне графа Паскевіча. У 1886 г. 11 двароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 119 жыхароў, 2 ветракі, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 178 жыхароў, 253 дзес. зямлі. У 1926 г. 38 двароў, школа, у Старабеліцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала арцель па здабычы торфу. У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 182 жыхары. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Размешчана падсобная гаспадарка акцыянернага таварыства «Гомельшкло». Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. літаратуразнаўца Б.П.Міцкевіч.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Цярэніцкім с/с, за 25 км ад чыг. ст. Гомель-Пасажырскі, 22 км на З ад Гомеля, на р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 80 гаспадарак, 149 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1788 г. 44 двары, 198 жыхароў, у Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка графа Румянцава-Задунайскага, а з 1834 г. — графа Паскевіча. У 1795 г. 44 двары, 325 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 47 двароў. У 1868 г. заснаваны цагельня і прадпрыемства па вырабе цукру. У 1886 г. 70 двароў. Дзейнічалі вятрак, школа граматы, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 129 двароў, 841 жыхар, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, кузня, карчма. У 1909 г. 147 двароў, 904 жыхары, 1253 дзес. зямлі, школа (у 1907 г. 57 вучняў), у Целяшоўскай вол. Гомельскага павета. У 1926 г. аддз. сувязі, 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Іванаўскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. створаны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 30.9.1943 г. 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 461 жыхар. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Цярэнічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма ўдзельніцы Вял. Айч. вайны, падпольшчыцы Л.Т.Хамянковай, загубленай нямецкімі акупантамі (яе імем названа адна з вуліц вёскі), і аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў маладзёжнага падполля ў Гомелі ў Вял. Айч. вайну Я.У.Літвінава (закатаваны ў гітлераўскіх засценках).

**ІВАНЬКАЎ** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 20 км на З ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель); вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. хутар, 4 двары, 18 жыхароў, 213 дзес. зямлі, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 27 двароў, 160 жыхароў, аддз. сувязі, школа, у Задораўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 8 жыхароў. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ІЛЫЧ** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 3 км на У ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Гомель-Пасажырскі, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Аўтадарога звязвае пасёлак з Гомелем. 99 гаспадарак, 268 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча позняга этапу зарубінецкай культуры (2—5 ст. н.э., на зах. ускраіне, на краі надпоймавай тэрасы левага берага ракі), паселішча эпохі Кіеўскай Русі (за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гарэлы Алёс), стаянкі 8—5 тысячагоддзяў да н.э. эпохі мезаліту (за 0,8 км на Пд ад вёскі, на паўд.-зах. ускраіне вёскі, 1,2 км на Пд ад вёскі, 0,4 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. як сяло Клёнкі ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 51 двор, 260 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 70 двароў, 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 404 жыхары. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Размешчаны пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза М.І.Семянцова (яго імем названа адна з вуліц пасёлка).

**ІПУЦЬ** — пасёлак і чыг. станцыя (на ветцы Яроміна—Бярозкі ад лініі Жлобін—Гомель) ва Улукаўскім с/с, за 2 км на У ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 165 гаспадарак, 468 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1940-х г. Актыўнае яго развіццё абумоўлена суседствам з абл. цэнтрам і прыпадае на апошнія дзесяцігоддзі. Сучасную назву пасёлак пры чыг. станцыі атрымаў па Указу Прэзідыума Вярх. Савета БССР 5.8.1968 г. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Забудова квартальная, драўляная і мураваная.

**КАЛІНАЎКА** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 12 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 20 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (25 насыпаў, за 0,5 км на У ад пасёлка, ва ўрочышчы Сіянок) і паселішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя і эпохі Кіеўскай Русі (за 0,3 км на ПнУ ад пасёлка, на правым беразе ракі) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле крыніц вядомы з пач. 20 ст. як вёска ў Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 32 двары, 162 жыхары, у Целяшоўскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», працавала кузня. У 1940 г. 46 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 40 двароў і загубілі 2 жыхароў. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛІНІНА** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 11 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож) і аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 108 гаспадарак, 316 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку (за 0,3 км на ПдУ ад пасёлка, ва ўрочышчы Чурылава) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1926 г. 46 двароў, 224 жыхары, у

Клімаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 95 двароў, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 1 жыхара. У баях за вёску ў ліст. 1943 г. загінулі 373 воіны, у тым ліку Герой Сав. Саюза М.М.Куюкаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўднёва-заходняй ускраіне). 61 пасялковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. У складзе саўгаса «Нававеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, абл. дзяржплемпрадпрыемства, клуб. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай шыротнай вуліцы. На Пн паралельна да яе праходзіць кароценькая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІНА** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Гомеля, на аўтадарозе Ветка—Гомель. 90 гаспадарак, 249 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 49 двароў, 265 жыхароў, у Пакалюбіцкім с/с Гомельскай акр. Дзейнічалі пач. школа і хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Пакалюбічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (па абодвух баках аўтадарогі). Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАНТАКУЗАЎКА** — вёска ў Зябраўскім с/с, за 8 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 10 км на ПдУ ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. 51 гаспадарка, 79 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ва ўладанні фельдмаршала графа Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1884 г. 41 двор, 223 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 378 жыхароў, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 747 дзес. зямлі, млын[3]. У 1926 г. 94 двары, 475 жыхароў, аддз. сувязі, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Кантакузаўскага с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. Дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў жн. 1941 г. расстралялі 5 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). У вер. 1943 г. карнікі спалілі 98 двароў і загубілі 6 жыхароў. У баях за вёску загінулі 4 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 407 жыхароў. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРАВЫШАНЬ** — пасёлак у Прыбыткаўскім с/с, за 3 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 10 км на Пд ад Гомеля. Побач аўтадарога Старая Ярылаўка—Гомель. 35 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРАЛІН** — пасёлак у Цярухскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 27 км на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церуха—Гомель. 31 гаспадарка, 69 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 30 двароў, 169 жыхароў, у Хутаранскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалены ад ням. акупантаў 28.9.1943 г. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРАНЁЎКА** — пасёлак у Зябраўскім с/с, чыг. станцыя (на лініі Гомель—Церахоўка), за 7 км на ПдУ ад Гомеля, на аўтадарозе Зябраўка—Гомель; вакол лес. 421 гаспадарка, 1141 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. як слабада ў Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1816 г. 156 жыхароў, уладанне фельдмаршала графа Румянцава-Задунайскага. У 1833 г. цэнтр Каранёўскай эканоміі (5 вёсак, 5062 двары). У 1834 г. 26 двароў, уладанне графа Паскевіча. У 1886 г. пачала працаваць сенапрасавальная фабрыка. У 2-й пал. 19 ст. на паўд. ускраіне пабудаваны мураваны сядзібны дом (зараз помнік архітэктуры рамантычнага накірунку). Пасля ўвядзення ў эксплуатацыю чыг. Гомель—Бахмач у снеж. 1873 г. пачаў дзейнічаць чыг. прыпынак, потым станцыя. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10.10.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 554 жыхары. Размешчаны вопытная эксперыментальная база Ін-та лесу НАН Беларусі, 9-гадовая школа, дзіцячыя яслі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой шыротных вуліц. Забудова кампактная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАРНАЛІН** — вёска ў Даўгалескім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пд



*Сядзібны дом у пас. Каранёўка.*

меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 47 гаспадарак, 72 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 7 жыхароў, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 392 жыхары, аддз. сувязі, пач. школа, ветэрынарны і медыцынскі пункты, лаўка. З 8.12.1926 г. да 1939 г. цэнтр Карналінскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Піянер», працавала кузня. У 1940 г. 48 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 41 двор. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе саўгаса «Мірны» (цэнтр — в. Міхалькі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца амаль такой жа арыентацыі кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮКОЎКА** — рабочы пасёлак і чыг. станцыя на лініі Жлобін—Гомель, у падпарадкаванні чыг. райвыканкома г. Гомель, 6 км на Пн ад Гомеля. Плошча 3 км$^2$. Аўтадарога звязвае рабочы пасёлак з Гомелем. 10,6 тыс. жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як чыг. станцыя Лібава-Роменскай чыгункі, якая пачала дзейнічаць у 1873 г. Пасёлак хутка рос, была адкрыта школа, працаваў млын, у

Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1879 г. мелася крупарушка. Кожны год са станцыі вывозілася больш за 400 тыс. пудоў хлебных і лясных грузаў. У 1918 г. ў час германскай акупацыі пасялкоўцы аказалі ўпартае супраціўленне ням. войскам. Вызвалены 30.11.1918 г. З 8.12.1926 г. да 3.3.1935 г. цэнтр Касцюкоўскага с/с Гомельскага р-на. З 3.3.1935 г. ў гар. межах Гомеля, з 14.8.1937 г. ў адм. падпарадкаванні Гомельскаму гарсавету. 3.5.1931 г. арганізаваны свінаадкормачны пункт. 10.11.1933 г. ўведзены ў дзеянне 1-ы ў Беларусі механізаваны шклозавод. З 27.9.1938 г. рабочы пасёлак. У Вял. Айч. вайну абсталяванне з-да і частка рабочых эвакуіраваны ў Башкірыю. У жн. 1941 г. каля пасёлка войскі Чырвонай Арміі разам з гомельскімі апалчэнцамі 18.8.1941 г. вялі цяжкія абарончыя баі. Загінулі 15 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). З 18.8.1941 г. да 26.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 79 рабочых і служачых, памяць аб якіх ушаноўваюць помнік і вечны агонь. Размешчаны шклозавод, з-д «Імпульс» (былое торфапрадпрыемства), з-д буддэталей, ПТВ-179, камбінат быт. паслуг, цэх швейных вырабаў, 2 сярэднія, 9-гадовая і музычная школы, аддз. сувязі, 4 дзіцячыя сады, Палац культуры, б-ка, бальніца. Выдаецца шматтыражка «Гомельский стекловар» (з 1.5.1934 г.). Планіроўка квартальная, забудова пераважна мураваная, шматпавярховая. Радзіма ген.-лейт. авіяцыі У.С.Шымко, бел. мастака П.Д.Лук'яненкі і бел. пісьменніка С.А.Сцепаненкі.



*І.Ф.Клімаў.*

**КАСЦЮКОЎКА** — вёска ў Яромінскім с/с, за 5 км на Пн ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель. 382 гаспадаркі, 850 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Значную частку жыхароў складалі стараверы, якія ўцяклі з Расіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у валоданні графаў Румянцавых, потым Паскевічаў. Праз вёску праходзіў тракт Пецярбург—Кіеў (пачаў будавацца ў 1782 г.). У 1838 г. 75 двароў. У 1850 г. побач прайшла шаша Пецярбург—Кіеў, што значна пашырыла транспартныя магчымасці вёскі. Мелася паштовая станцыя. Гаспадар фальварка Касцюкоўка меў тут у 1862 г. 611 дзес. зямлі. У 1863 г. 279 рэвізскіх душ. З 1875 г. працавала крупарушка. У 1885 г. 123 двары, 683 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 175 двароў, 1007 жыхароў, школа граматы, карчма. У вясковай школе ў 1907 г. былі 43 вучні. У 1909 г. 1242 жыхары, 1239 дзес. зямлі, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Працавала аддз. паштовай сувязі. У 1926 г. меліся паштовы пункт, школа, цэнтр Касцюкоўскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. Побач былі Касцюкоўскія хутары, 26 двароў, 143 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Інтэрнацыянал», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 142 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1343 жыхары. Размешчаны вучэбна-доследная гаспадарка, прафес.-тэхн. вучылішча № 179, фабрыка швейных вырабаў, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, на У — завулак. Забудова двухбаковая, у асноўным драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. жывапісца П.Н.Гаўрыленкі, аднаго з кіраўнікоў і арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну Ф.Н.Гаўрыленкі (быў камандзірам партыз. брыгады імя М.І.Калініна Вілейскай вобл.), парт. і дзярж. дзеяча, засл. работніка культуры БССР і аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну І.Ф.Клімава [быў першым сакратаром Вілейскага падп. абкома КП(б)Б, пасля вайны — нам. старшыні Савета Мі-

ністраў БССР і нам. старшыні Прэзідыума Вярх. Савета БССР].

**КЛІМАЎКА** — вёска і чыг. станцыя на лініі Гомель—Чарнігаў, у Прыбыткаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 366 гаспадарак, 876 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,4 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцьеўскім царк. прыходзе. З 1775 г. ўладанне фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, цэнтр Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1776 г. 349 рэвізскіх душ. У 1811 г. 89 двароў. Н.П.Румянцаў у 1-й чвэрці 19 ст. пабудаваў шклозавод, на якім выраблялiся посуд і цэсарскае шкло. З 1834 г. ў валоданні фельдмаршала графа Паскевіча, 94 двары, 587 жыхароў. Вяскоўцы жылі ў вял. беднасці. Запазычанасць памешчыку сялян Клімаўскай эканоміі складала ў 1834 г. 37 032 руб. У 1886 г. 118 двароў, 771 жыхар, вятрак, школа. Паводле перапісу 1897 г. 218 двароў, 1278 жыхароў. У 1909 г. 1530 жыхароў, 1558 дзес. зямлі, царква, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 303 двары, паштовы пункт, пач. школа, лаўка. У былым фальварку дзейнічалі с.-г. арцель, 3 кузні, вятрак, конная крупарушка. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Клімаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Пасля ўвядзення ў эксплуатацыю ў 1930 г. чыг. Гомель—Чарнігаў пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавалі бандарна-кошыкавая майстэрня, кузня. У Вял. Айч. вайну 10.10.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 224 жыхары з вёсак Клімаўка, Каравышань, Цагельня, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1968 г. ў скверы, ля клуба. Паводле перапісу 1959 г. 888 жыхароў. Цэнтр эксперыментальнай базы «Гомельская». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, лазня. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных дарогай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. танкавых войск К.П.Суляйкова і доктара гіст. навук, праф. У.Н.Сідарцова.

**КЛІМАЎСКІ** — пасёлак у Яромінскім с/с, за 9 км ад Гомеля, 5 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель); на З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Пыхань—Гомель. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак, 20 жыхароў, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 30 двароў, 137 жыхароў, у Касцюкоўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. створаны калгас «Перамога», працавалі вятрак, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Яроміна). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАЕ** — вёска, цэнтр Красненскага с/с, за 3 км на З ад Гомеля, на р. Рандаўка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па акружной дарозе і дарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 1226 гаспадарак, 3788 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. У 1764 г.

рус. войскі на чале з генералам Маславым выслалі старавераў, якія тут жылі, у аддаленыя раёны Расіі. Але ў хуткім часе слабада пачала зноў засяляцца. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 325 жыхароў, у Беліцкім пав. У 1779 г. збудавана драўляная Успенская царква, уладанне графа Румянцава-Задунайскага. У 1811 г. 60 двароў, 211 жыхароў мужчынскага полу. З 1834 г. ва ўладанні фельдмаршала графа Паскевіча, 86 двароў, 525 жыхароў, у Яромінскай вол. У 1850 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 69 вучняў). У 1883 г. 122 двары, 682 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 174 двары, 923 жыхары, хлебазапасны магазін, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 184 двары, 1229 жыхароў, 1418 дзес. зямлі. У 1926—27 гг. і з 1948 г. цэнтр Красненскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі 2 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. часткова спалілі вёску і загубілі 14 жыхароў. У баях каля вёскі восенню 1943 г. загінулі 258 воінаў і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы, каля будынка праўлення калгаса). Вызвалена 26.11.1943 г. 4-й Бежыцкай імя А.В.Суворава стралковай дывізіяй. 107 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1259 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлкі Громкі, Светлы, Камунар. Цэнтр калгаса «Перамога». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны, лазня. З 28.5.1981 г. ў школе дзейнічае краязнаўчы музей. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаюцца 3 вуліцы, злучаныя 2 завулкамі. На У ад акружной дарогі — адасоблены ўчастак забудовы (кароткая, прамалінейная вуліца з Пд далучаецца да крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. механізатара Беларусі В.Д.Белянкова.

У Красненскі с/с уваходзілі: вёскі Верхні Брылёў (да 1948 г.), Ніжні Брылёў (да 1961 г.), Новая Мільча, Брылёва (да 1983 г.); пасёлкі Громкі, Камунар, Светлы (да 1962 г.; не існуюць).

**КРАСНЫ** — пасёлак у Грабаўскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Дзікалаўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 35 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Рэўтак (прыток р. Церуха). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 100 жыхароў, у Грабаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Грабаўка). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ БАГАТЫР** — пасёлак у Красненскім с/с, за 2 км на З ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 57 гаспадарак, 158 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 14 двароў, 69 жыхароў, у Красненскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРАЎЦОЎКА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 8 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 35 км на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлач-

най, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 132 гаспадаркі, 278 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 36 двароў, 234 жыхары. З 1776 г. ўладанне фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 53 двары, 234 жыхары, у складзе Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 74 двары, 458 жыхароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. 118 двароў, 648 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын. У 1893 г. пабудавана драўляная Троіцкая царква. Паводле перапісу 1897 г. 174 двары, 1026 жыха-



Прадметы побыту з экспазіцыі этнаграфічнага музея ў в. Краўцоўка.

роў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 185 двароў, 1142 жыхары, 2084 дзес. зямлі, у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 247 двароў, 1228 жыхароў, аддз. спажывецкай кааперацыі, паштовы пункт, пач. школа. Непадалёку быў пасёлак Новая Краўцоўка, 13 двароў, 65 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Краўцоўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «4-ы Заключны», працавалі вадзяны млын і кузня. У 1940 г. 303 двары. У вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 300 двароў і загубілі 4 жыхары. Вызвалена 28.9.1943 г. 127 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 810 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Сож». Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, Дом культуры. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца прамалінейная кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Ц.Т.Свістунова.

**КУРАЧЭНКАЎ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 14 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 21 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Уваравічы—Гомель. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Заснаваны ў пач. 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Будоўля драўляная сядзібнага тыпу.

**КУРГАНЫ** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 18 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на З ад Гомеля. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 33 гаспадаркі, 68 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 50 двароў, 279 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 25 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Целяшоўская Рудня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы,

арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУСТАРНЫ** — пасёлак у Цярухскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 27 км на Пд ад Гомеля, на р. Пясошанька (прыток р. Церуха). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 76 жыхароў, у Песачнабудскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалены ад ням. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУТЫ** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 7 км на Пд ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 19 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 75 жыхароў, у Скітоцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 42 жыхары. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай, дугападобнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАПАЦІНА** — вёска ў Пакалюбіцкім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 5 км на Пн ад Гомеля, на аўтадарозе Востраў—Гомель. 266 гаспадарак, 772 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 366 жыхароў, у складзе Багуслаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А. Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 96 двароў, 481 жыхар. У 1834 г. 121 двор, 638 жыхароў. У 1885 г. 134 двары, 782 жыхары. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 210 двароў, 865 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 213 двароў, 1286 жыхароў, 1683 дзес. зямлі, царк.-прыходская школа, млын, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 391 двор, 1820 жыхароў, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Лапацінскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Лапаціна», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. часткова спалілі вёску. Вызвалена 26.11.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 179 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1967 г. каля школы. Паводле перапісу 1959 г. 977 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Громавы. Цэнтр калект.-даляводй гаспадаркі «Лапацінская». Размешчаны сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, лазня, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. гісторыка, доктара гіст. навук А.Т.Нятылькіна.

**ЛЯДЦЫ** — пасёлак у Цярухскім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 36 км на Пд ад Гомеля, на р. Нямыльня (прыток р. Сож); побач дзярж. мяжа з Украінай. Транс-

партныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка — Гомель. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 31 двор. 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 131 жыхар. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАКАЎЕ** — вёска ў Чарацянскім с/с, за 43 км на ПдУ ад Гомеля, 9 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), на р. Церуха (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 193 гаспадаркі, 469 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле прывілея караля Аўгуста III ад 5.3.1762 г. ў валоданні Фашчаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. 232 жыхары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1862 г. 1420 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальня, піцейны дом. У 1882 г. 133 двары, 740 жыхароў, цагельня, вятрак, хлебазапасны магазін. У выніку пажару 4.5.1893 г. згарэла 76 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 185 двароў, 1080 жыхароў, лаўка, у Макаравіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 215 двароў, 1357 жыхароў, 2663 дзес. зямлі, школа (у 1907 г. 62 вучні), млын. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Макаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Асветнік», працавалі 3 ветракі, крупарушка, кузня. У 1940 г. 238 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. карнікі спалілі 177 двароў, загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 27.9.1943 г. 110 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 682 жыхары. Цэнтр калгаса «Першамайскі». Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны, сталовая, лазня, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой перпендыкулярна далучаюцца 2 вуліцы (з ПнУ і ПдЗ). Забудавана двухбакова новая вуліца (105 мураваных дамоў катэджнага тыпу), дзе размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Цярэніцкім с/с, за 23 км на З ад Гомеля, на р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 28 двароў, 135 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Цярэнічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**МАЛІНАЎКА** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 12 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на З ад Гомеля; на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Жлобін. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 119 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 19 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 143 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр в. Целяшы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАНЕЕЎ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 8 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 18 км на ПнЗ ад Гомеля. Побач аўтадарога Уваравічы—Гомель. 4 гаспадаркі, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар у Рудзянецкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 13 двароў, 66 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавала цагельня. Паводле перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Маркавіцкага с/с, за 4 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 40 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Быкоўка (прыток р. Нямыльня) і аўтадарозе Будзішча—Гомель. 367 гаспадарак, 887 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Упершыню ўпамінаецца ў 1562—71 гг. у матэрыялах аб удакладненні межаў паміж ВКЛ і Чарнігаўскім княствам. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, 6 дымоў, 11 валоў, 11 коней. У 1729 г. пабудавана драўляная Свята-Міхайлаўская царква. У сяле размяшчалася мытня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1791 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1798 г. 845 жыхароў. У 1820 г. адкрыта школа. Цэнтр Маркавіцкай вол. (да 9.5.1923 г.) Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губ. У склад воласці ў 1890 г. ўваходзілі 16 сяліб з агульнай колькасцю ў 1452 двары. З 1776 г. ва ўладанні графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 150 двароў, у складзе Мікалаеўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1822—25 гг. замест старой драўлянай збудавана мураваная царква (арх. Дж.Кларк). Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1834 г. 183 двары, 1130 жыхароў. У вясковым нар. вучылішчы ў 1856 г. навучаліся 32 хлопчыкі, у 1867 г. 52 хлопчыкі і 7 дзяўчынак. У 1875—78 гг. засн. 3 крупарушкі. У 1882 г. 273 двары, 1575 жыхароў, 5 ветракоў, 20 лавак, 2 заезныя двары, царква. Паводле перапісу 1897 г. 361 двор, 2087 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1914 г. пабудаваны 2-павярховы школьны будынак. У 1909 г. 483 двары, 3995 жыхароў, 4411 дзес. зямлі. У 1926 г. дзейнічалі паштовы пункт, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, хата-чытальня, дрэваапрацоўчая арцель. З 8.12.1926 г. цэнтр Маркавіцкага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага, з 18.1.1965 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі 2 ветракі, конная крупарушка, кузня, ганчарная арцель. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску загінулі 69 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне). Вызвалена 27.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 164 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1968 г. каля клуба. Паводле перапісу 1959 г. 1287 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны сцяг». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаванай на З кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудавана 106 мураваных катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вял. Айч. вайну ў Магілёўскай вобласці П.С.Наві-

кава (быў камісарам Круглянскай ваенна-аператыўнай групы) і бел. паэтэс Т.В.Мельчанка і Т.В.Цыганковай.

У склад Маркавіцкага с/с уваходзіў да 1974 г. пас. Керамік (не існуе).

**МАСЦІШЧА** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Гомеля; на зах. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Востраў—Гомель. 59 гаспадарак, 139 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 45 двароў, 221 жыхар, у Лапацінскім с/с. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1939 г. да пасёлка далучаны пас. Арол. У 1940 г. 53 двары, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 51 двор і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы Л.В.Шапавалавай.

**МЕЖЫ** — пасёлак у Даўгалескім с/с, за 20 км ад чыг. ст. Шчэрбаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 27 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро, на З мяжуе з лесам (урочышча Межы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 37 двароў, 213 жыхароў, паштовы пункт, у Карналінскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў. У складзе саўгаса «Мірны» (цэнтр — в. Міхалькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІКОЛЬСК** — пасёлак у Цяляшоўскім с/с, за 8 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 18 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож); на Пн меліярацыйныя каналы, на У мяжуе з лесам. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 23 двары, 120 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхары. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Цяляшы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МІРНЫ** (да 23.5.1962 г. Сталіна) — пасёлак у Даўгалескім с/с, за 10 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 20 км на ПдЗ ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сож (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 28 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 4 пасялкоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Мірны» (цэнтр — в. Міхалькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІХАЙЛАЎСК** — пасёлак у Шарпілаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 99 жыхароў, у Аб'яднана-пасялковым с/с

Дзятлаўскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча», працавалі 2 кузні. Паводле перапісу 1959 г. 195 жыхароў. У складзе саўгаса «Міжрэчча» (цэнтр — в. Шарпілаўка). Планіровачна складаецца з дугападобнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЬКІ** — вёска ў Даўгалескім с/с, за 28 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 30 км на ПдЗ ад Гомеля; на У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з аўтадарогай Калінкавічы—Гомель. 234 гаспадаркі, 642 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяліба ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упершыню ўпамінаецца ў 1526—31 гг. у матэрыялах аб удакладненні межаў паміж ВКЛ і Чарнігаўскім княствам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Уладальніца маёнтка Міхалькі памешчыца Валадзьковічава мела ў 1853 г. 14 384 дзес. зямлі, піцейны дом, вятрак, вінакурны, цагельны і дзягцярны з-ды. Пазней маёнткам валодала памешчыца Хамяноўская. У 1873 г. засн. смалакурны, а ў 1876 г. — цукровы з-ды. У 1885 г. 73 двары, 505 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 735 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня, вінная лаўка, карчма, у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічала нар. вучылішча (у 1907 г. 62 вучні). У 1909 г. 124 двары, 842 жыхары, 943 дзес. зямлі, у маёнтку, які належаў сял. зямельнаму банку, — 1138 дзес. зямлі. У 1926 г. 191 двор, 1090 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа, хата-чытальня. З 8.12.1926 г. да 16.5.1957 г. цэнтр Міхалькоўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Жніўня», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да чэрв. 1942 г. дзейнічала патрыятычнае падполле пад кіраўніцтвам У.Ф.Марозава, М.Я.Мацвеенкі і К.В.Бурага. Падпольшчыкі мелі сувязь з Гомельскім падполлем. Патрыёты спалілі 11 мастоў, падарвалі аўтамашыну, знішчылі 12 км тэлефоннай сувязі, 11 ням. салдат. Акупанты арыштавалі 20 падпольшчыкаў і закатавалі іх. У ліст. 1943 г. ням. карнікі спалілі 58 двароў і загубілі 19 жыхароў. 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1948 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. Паводле перапісу 1959 г. 349 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Мірны». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, лазня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаецца кароткая вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Частку вёскі займае ўзведзеная ў 1987—90 гг. новая мураваная забудова (100 дамоў катэджнага тыпу), дзе размясціліся перасяленцы з Кармянскага р-на, забруджанага радыяцыяй у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

**МІЧУРЫНСКІ** (да 1963 г. Трэці Пасёлак) — пасёлак у Красненскім с/с, за 1 км ад паўн. ускраіны Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 881 гаспадарка, 2535 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Хуткі рост пасёлка абумоўлены размяшчэннем тут жыхароў, якія працавалі ў Гомелі. Цэнтр калект. с.-г. прадпрыемства «Брылёў». Размешчаны сярэдняя школа, Палац культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны. Планіроўка квартальная, забудова пераважна драўляная.

**МОЛАДЗЬ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Лазурная (на

лініі Жлобін—Гомель), 11 км на ПнЗ ад Гомеля; на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагі—Бальшавік. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 17 двароў, 97 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны маяк» (цэнтр — в. Рагі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МУРАЎЧЫ** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 15 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як хутар у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 18 двароў, 98 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У пач. 1930-х гадоў пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 47 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МЯДЗВЕДЖЫ ЛОГ** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 10 км на У ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, на Пд мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Добруш—Гомель. 34 гаспадаркі, 72 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1926 г. 15 двароў, 75 жыхароў, у Галавінскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1940 г. 29 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. У складзе саўгаса «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МЯДЗВЕДЗІЦА** — пасёлак у Шарпілаўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар. У складзе саўгаса «Міжрэчча» (цэнтр — в. Шарпілаўка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**НАГОРНАЕ** — пасёлак у Даўгалескім с/с, за 24 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 33 км на ПдЗ ад Гомеля; на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на б. памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. Размешчана сельгаспрадпрыемства «Нагорнае» навукова-вытворчага аб'яднання «Ратон». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ БУДА** — вёска ў Прыбарскім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 10 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож); на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 131 гаспадарка, 314 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археалагамі курганны могільнік канца 10 — пач. 12 ст. (каля 30

насыпаў, 2 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 84 г. 84 жыхары, ва ўладанні фельдмаршала, графа П.А.Румянцава-Задунайскага, у складзе Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 19 двароў, ва ўладанні фельдмаршала, графа І.Ф.Паскевіча. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 193 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 32 двары, 237 жыхароў, 322 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ.. У 1926 г. 67 двароў, 361 жыхар, у Прыбарскім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 509 жыхароў. У складзе гаспадаркі СПТВ-185. Ёсць магазін, клуб. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой злучаных 2 завулкамі вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.



*В.Дз.Вятошкін.*

**НОВАЯ БУХАЛАЎКА** — вёска ў Цярэшкавіцкім с/с, за 12 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 14 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 42 жыхары, у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 52 жыхары, 172 дзес. зямлі. У 1926 г. вёска, 43 двары, 213 жыхароў, паштовы пункт, у Скітоцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ГУТА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 10 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 33 км на Пд ад Гомеля; на З пойма р. Сож (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Старыя Ярылавічы—Гомель. 702 гаспадаркі, 2159 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з в. Студзёная Гута. У 1926 г. 16 двароў, 72 жыхары, паштовы пункт, у Студзенагуцкім с/с Дзятлаўскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 248 жыхароў. У складзе саўгаса «Сож» (цэнтр — в. Краўцоўка). Размешчаны пансіянат «Залатыя пяскі» Гомельскага прамбуда, сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, Дом культуры, аддз. сувязі. Планіроўка квартальная. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ МІЛЬЧА** — вёска ў Красненскім с/с, за 3 км ад зах. ускраіны Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 251 гаспадарка, 794 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., засн. перасяленцамі з в. Старая Мільча (з 1983 г. ў межах Гомеля). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 29 двароў. У 1788 г. 153 жыхары, уладанне фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1816 г. 59 двароў, 224 жыхары, у складзе Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка Румянцавых, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1834 г. 80 двароў, 522 жыхары, ва ўладанні фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1881 г. 154 двары, 707 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын, лаўка, у 1909 г. — стараверчая царква. У 1926 г. 255 двароў, 1235 жыхароў, паштовае аддз., школа. У 1929 г. арга-

нізаваны калгас «Авангард», працаваў вятрак. З 1931 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Навамільчанскага, потым Мільчанскага с/с. У Вял. Айч. вайну 26.11.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1426 жыхароў. Цэнтр Гомельскай птушкафабрыкі. Размешчаны павільён раённага камбіната бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіроўка квартальная, забудова мураваная і драўляная. Радзіма кавалера ордэнаў Славы 3-х ступеней В.Дз.Вятошкіна і бел. мастака В.К.Жыхарава.

**НОВЫЯ ДЗЯТЛАВІЧЫ** — вёска ў Дзятлавіцкім с/с, за 27 км на Пд ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро); на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 93 гаспадаркі, 176 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як маёнтак у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка памешчыца К.І.Радчанка валодала ў 1833 г. 4589 дзес. зямлі. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 99 двароў, 560 жыхароў, маслабойня. Побач была сядзіба. У 1909 г. 113 двароў, 770 жыхароў, 1205 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі, 7 жыхароў, 598 дзес. зямлі. У пач. 1920-х г. вяскоўцы засн. пасёлкі Леніна і Рыкава, якія пазней былі далучаны да вёскі. У 1926 г. 179 двароў, 929 жыхароў, паштовы пункт, школа. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Навадзятлавіцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-на Гомельскай акр. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску вызначыўся малодшы сяржант А.Я.Валогін (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 83 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1955 г. да вёскі далучаны пас. Чарнічны. Паводле перапісу 1959 г. 644 жыхары. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Дзятлавічы» (цэнтр — в. Старыя Дзятлавічы). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, участковая бальніца, лазня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаюцца 3 кароткія, паралельныя паміж сабой мерыдыянальныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЦЯРЭШКАВІЧЫ** — вёска ў Цярэшкавіцкім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 22 км на Пд ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 85 гаспадарак, 182 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 0,7 км на У ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ва ўладанні памешчыкаў В.Клімовіча, А.Серафімовіча, А.Ржэцкай. З сярэдзіны 19 ст. дзейнічала пераправа цераз Сож грузападымальнасцю да 150 пудоў. Будаваліся рачныя судны (бярлінцы). У 1877 г. і 1879 г. заснаваны 3 цукровыя з-ды і цагельня. Вясковыя дзеці вучыліся ў школе граматы. Паводле перапісу 1897 г. 117 двароў, 694 жыхары, 2 вадзяныя млыны, 2 сукнавальні, 2 кузні, лаўка, карчма, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Школа граматы была ператворана ў нар. вучылішча (у 1907 г. 64 вучні). У 1909 г. 125 двароў, 1024 жыхары, 2139 дзес. зямлі. У 1926 г. 157 двароў, паштовае аддз., 4-гадовая школа. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Новацярэшкавіцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі вадзяны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 84 двары, загубілі

12 жыхароў. 28.9.1943 г. 19-ы стралковы корпус сходу фарсіраваў р. Сож і на наступны дзень вызваліў вёску. У гэтай аперацыі вызначыўся сапёр С.А.Самародаў, які пад варожым агнём на чале групы сапёраў аднавіў пашкоджаны мост (удастоены звання Героя Сав. Саюза). 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 346 жыхароў. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт і клуб. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НЯКРАСАВА** (да 1938 г. Хлусы) — пасёлак у Даўгалескім с/с, за 14 км ад чыг. ст. Чыжоўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на ПдЗ ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 6 двароў, 32 жыхары, у Міхалькоўскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940—41 гг. у пасёлак перасялілася частка жыхароў пас. Белы Бераг (не існуе). У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса імя А.М. Горкага (цэнтр — в. Даўгалессе). Забудова бессістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НЯКРАСАЎ** (да 1938 г. Гразючка) — пасёлак у Шарпілаўскім с/с, за 31 км на Пд ад Гомеля; на У пойма р. Сож, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 4 двары, 21 жыхар, у Шарпілаўскім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1939—40 гг. у пас. Някрасаў перасялілася частка жыхароў пас. Белы Бераг (з 1941 г. не існуе). Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў. У складзе саўгаса «Міжрэчча» (цэнтр — в. Шарпілаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДДАБРАНКА** — вёска ў Маркавіцкім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 44 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Нямыльня (прыток р. Сож); побач дзярж. мяжа з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1809 г. як слабада ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Пазней у падпарадкаванні гаспадароў Гомеля. Была прадмесцем сяла Дабранка (размешчанага непадалёку ў Чарнігаўскай вобл. Украіны). У 1808 г. 611 жыхароў. З 1874 г. мястэчка, дзейнічалі цагельня, майстэрня па апрацоўцы скур. З 1878 г. працавалі 2 крупарушкі. Паводле перапісу 1897 г. 203 двары, 1364 жыхары, 4 школы, 2 гарбарныя з-ды, 2 крупарушкі, 38 лавак, пастаялы двор, карчма. Па найму памешчыка вяскоўцы займаліся таксама лесараспрацоўкай. У 1905—06 гг. жыхары часта выказвалі сваё незадавальненні дзеяннямі мясцовых улад і памешчыка. У 1909 г. 1597 жыхароў, у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 27.9.1938 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Паддабранскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Цэрахоўскага р-наў Гомельскай акругі. Пераважную частку жыхароў складала яўрэйскае насельніцтва (у 1926 г. 92,4%). 30.12.1927 г. ў сувязі з аднясеннем вёскі да катэгорыі мястэчка і стварэннем мястэчковага савета сельсавет быў ліквідаваны, а 27.9.1938 г. адноўлены, бо Паддабранка была зноў аднесена да населеных пунктаў сельскага тыпу. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня, бальніца, аддз. спажывецкай кааперацыі, скураная майстэрня, 9 разоў у год

праводзіліся кірмашы. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны рассвет», працавалі шавецкая і кравецкая арцелі, конная крупарушка, вятрак. У Вял. Айч. вайну 98 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Маркавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, паралельна да якой на Пн размешчаны 2 кароткія вуліцы з аднабаковай забудовай. Жылыя дамы пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПАКАЛЮБІЧЫ** — вёска, цэнтр Пакалюбіцкага с/с, за 2 км на ПнУ ад Гомеля, на аўтадарозе Ветка—Гомель; на У меліярацыйныя каналы. 1057 гаспадарак, 3204 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 2-га ст. да н.э. — 2 ст. н.э. зарубінецкай культуры (за 2 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых месц з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, на тракце Рагачоў—Гомель, ва ўладанні Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Уваходзіла ў склад Багуслаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка генерал-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, потым — яго сыноў. У 1798 г. 443 жыхары. Для Румянцавых была любімым месцам летняга адпачынку. У 1811 г. пабудавана мураваная Мікіцінская царква, з 1924 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, для якой у 1825 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1834 г. 168 двароў, 863 жыхары, уладанне фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. Была цэнтрам воласці (да 9.5.1923 г.) у Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губ. У склад воласці ў 1890 г. ўваходзіла 16 населеных пунктаў з агульнай колькасцю 1611 двароў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У вясковым нар. вучылішчы ў 1889 г. 60, у 1902 г. — 90 вучняў. На Мінскай выставе па садаводстве і агародніцтве школа ў 1908 г. атрымала пахвальны ліст. Цяжкім для вяскоўцаў быў 1893 г., калі 20 чэрв. згарэлі 29 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 236 двароў, 1111 жыхароў, вінная лаўка, карчма. У 1909 г. 248 двароў, 1738 жыхароў, 2038 дзес. зямлі, лячэбны пакой, млын, пры нар. вучылішчы меліся пасека для навучання пчалярству. У 1926 г. 343 двары, 1813 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа, лаўка. З 8.12.1926 г. цэнтр Пакалюбіцкага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавалі торфараспрацоўчая арцель, цагельня (1930 г.), кузня (1931 г.), вятрак. У 1939 г. да вёскі далучаны пасёлкі Будзённы і Саколін. У Вял. Айч. вайну каля вёскі 13 — 19.8.1941 г. праходзіла лінія абароны Гомеля, якую ўтрымлівалі войскі 21-й арміі сумесна з 3 батальёнамі палка нар. апалчэння. Некалькі разоў вёска пераходзіла з рук у рукі. Ням. акупанты ў кастр. 1941 г. спалілі вёску, а 6.11.1941 г. загубілі 12 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму каля Дома культуры). Сям'я Г.П.Аляксейчанкі схавала ў сябе 12 параненых апалчэнцаў, а пасля выздараўлення вывела іх у лес, да партызан. Цяжкія баі тут адбываліся 26.11.1943 г. пры вызваленні вёскі ад ням. акупантаў. Загінулі 518 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 294 землякі, памяць аб якіх ушаноўваюць скульпт. кампазіцыя і пліта з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1967 г. ў скверы. Паводле перапісу 1959 г. 2477 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, млын, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, нар. музей, б-ка, амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 5 магазінаў, лазня, дзіцячы сад. Калгасны хор у 1986 г. атрымаў званне народнага. Дзейнічае нар. музей баявой і працоўнай славы. Планіровачна складаецца з 4 паралель-

ных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Да іх на Пн далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка І.К.Сяркова, засл. настаўніцы Беларусі К.С.Малахавай, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі Н.С.Скамарохавай.

У склад Пакалюбіцкага с/с уваходзілі пасёлкі Арол, Саколін (да 1939 г.), Грамавы, Новікі (да 1962 г.), вёскі Прудок, Якубаўка (да 1957 г.), гар. пасёлкі Будзёнаўскі (да 1983 г.), Маяк (да 1997 г.) усе не існуюць.

**ПАЛЯНА** — пасёлак у Чонкаўскім с/с, за 3 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Чонкі—Гомель. 91 гаспадарка, 198 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 24 двары. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 144 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Чонкі» вытворчага аб'яднання «Крышталь» (цэнтр — в. Чонкі). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАПАНІН** — пасёлак у Рудня-Марымонаўскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Гомеля; на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 36 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. У складзе саўгаса імя В.А.Някрасава (цэнтр — в. Рудня-Марымонава). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЎДНЁВЫ** (да 30.7.1964 г. Нехацяеўка) — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 12 км на ПнЗ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рагі—Бальшавік. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе калгаса «Чырвоны маяк» (цэнтр — в. Рагі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАМОГА** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 1 км ад чыг. ст. Іпуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 1 км на У ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гомель—Добруш. 488 гаспадарак, 1423 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Значная іх частка працавала ў Гомелі. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле ў 1943 г. загінуў 161 воін (пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне). У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕРАХОД** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 21 км на З ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 23 двары, 131 жыхар, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 16 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Планіровачна складаецца з ка-

роткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПІЯНЕР** — пасёлак у Прыбарскім с/с, за 1 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 13 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 137 гаспадарак, 378 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 5 двароў, 30 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 291 жыхар. У складзе вучгаса СПТВ-185 (цэнтр — в. Прыбар). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж чыгункі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЛЁСЫ** — вёска ў Пакалюбіцкім с/с, за 3 км на У ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі стаянка эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н.э., за 1,5 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага ракі) і стаянка эпохі неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н.э., за 2 км на Пд ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Плёсы ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства 4 дымы, уладанне царквы. Пад 1752 г. упамінаецца ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1776 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча, у складзе Багуслаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1864 г. 9 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 128 жыхароў, у Гомельскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 17 двароў, 117 дзес. зямлі. У 1926 г. 30 двароў, 148 жыхароў, паштовы пункт, у Валатоўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Пакалюбічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ПРАКОПАЎКА** — вёска ў Чарацянскім с/с, за 48 км на ПдУ ад Гомеля, 15 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), на р. Церуха (прыток р. Сож) і аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 50 гаспадарак, 121 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ва ўладанні дваран Лісоўскіх, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Гаспадар аднайменнага маёнтка валодаў у 1845 г. 1421 дзес. зямлі. У 1884 г. 34 двары, 177 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 244 жыхары, у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. У1909 г. 258 жыхароў, школа, млын. У 1926 г. 71 двор, 395 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа. Побач, у былым фальварку, дзейнічала насенная гаспадарка, 7 двароў, 76 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 20.9.1983 г. цэнтр Пракопаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага, з 18.1.1965 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 86 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 79 двароў. Вызвалена 27.9.1943 г. У баях за вёску загінулі 97 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы, каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 56 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае Курган Славы. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў. У складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Макаўе). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэр-

скі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. паэтэсы Н.Н.Шкляравай. Паблізу ёсць радовішча жалезняку.

**ПРАЛЕТАРЫЙ** — пасёлак у Красненскім с/с, за 2 км на З ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 51 гаспадарка, 135 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 26 двароў, 116 жыхароў, у Красненскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРАСВЕТ** — пасёлак у Цярэніцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пд канава Красная, злучаная з р. Уза (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 47 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 46 двароў, 269 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну 30 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Цярэнічы). Да паўд. часткі прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы далучаецца з ПнЗ другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРЫАЗЁРНАЕ** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 10 км ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Добруш—Гомель. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ПРЫБАР** — вёска, цэнтр Прыбарскага с/с, чыг. ст. (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож), у якую каля вёскі ўпадае р. Рандоўка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 351 гаспадарка, 994 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (мясцовая назва Гарадок) ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі (каля вёскі, на левым беразе ракі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1798 г. 118 жыхароў. У 1811 г. 26 двароў, 79 жыхароў мужчынскага полу, у Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 32 двары, уладанне фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. Дзейнічала мукамольнае прадпрыемства, якое ў 1859 г. апрацавала 7500 пудоў зерня. У 1862 г. 37 гаспадарак атрымалі зямельныя надзелы. У 1870 г. працавалі млын, сукнавальня (з 1830 г.), крупарушка, хлебазапасны магазін. Пасля здачы ў эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыг. Лунінец—Гомель пачала працаваць чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 479 жыхароў. Мелася аддз. паштовай сувязі. У 1909 г. 78 двароў, 558 жыхароў, 579 дзес. зямлі, школа (у 1907 г. 55 вучняў), у

Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 119 двароў, 621 жыхар, млын, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Прыбарскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі кузня, паравы млын з лесапільняй і сукнавальняй. У Вял. Айч. вайну 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 782 жыхары. Цэнтр вучгаса СПТВ-185. Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Планіровачна складаецца з дугападобнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, ад якой на З і У адыходзяць кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы БССР Г.П.Касяковай. За 1,5 км ад асноўнай забудовы чыг. станцыя.

**ПРЫБЫТКАЎСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Прыбыткаўскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 13 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож) і аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 46 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі частка жыхароў в. Прыбыткавічы засн. тут, побач з рудняй, дзе выраблялася жалеза для мясцовых патрэб, невял. паселішча. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 18 двароў, рудня. У 1811 г. 71 жыхар мужчынскага полу, у складзе Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1834 г. 22 двары, 178 жыхароў, уладанне фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1850 г. 28 двароў, 258 жыхароў. З 1864 г. працавалі млын і сукнавальня, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 623 жыхары, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Прыбыткаўскарудлянскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 56 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1970 г. каля клуба. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма парт. і дзярж. дзеяча, аднаго з кіраўнікоў патрыят. падполля і партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, Героя Сац. Працы К.Т.Мазурава.



*К.Т.Мазураў.*

**ПРЫБЫТКІ** — вёска, цэнтр Прыбыткаўскага с/с, за 5 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 22 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новыя Ярылавічы—Гомель. 1218 гаспадарак, 3210 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Прыбыткавічы на дарозе Маркавічы—Гомель, у Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-х г. 9 дымоў, 2 службы, 13 валоў, 8 коней, у валоданні кн. Чартарыйскага. Па інвентары 1752 г. сяло плаціла казне 7 коп, 4 грошай, па 2 бочкі жыта і аўса. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцьеўскім царк. прыходзе. У 1791 г. частка сяльчан перасялілася ў Навабеліцу, якая ў той час інтэнсіўна будавалася. У 1803 г. пабудавана драўляная Раства-Багародзіцкая царква. У 1853 г. 267 рэвізскіх душ. Працавалі з 1860 г. млын, крупарушка, сукнавальня. Гаспадар аднайменнага маёнтка памешчык Бардоўскі валодаў у 1872 г. 896 дзес. зямлі, якія дасталіся яму ў спадчыну. У 1861 г. адкрыта царк.-прыходская школа, пазней пачало дзейнічаць нар. вучылішча (у 1889 г. 51 вучань). З 1877 г.

працавала маслабойня. Паводле перапісу 1897 г. 155 двароў, 915 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1905 г. ў выніку пажару згарэла 36 двароў. У 1909 г. 160 двароў, 986 жыхароў, 1010 дзес. зямлі, царква, млын. У аднайменным фальварку, што быў побач, 957 дзес. зямлі. Летам 1918 г. ў час ням. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад, які дзейнічаў супраць герм. войск. У 1926 г. 179 двароў, 878 жыхароў, паштовы пункт, пач. школа, лаўка. З 8.12.1926 г. цэнтр Прыбыткаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавалі 3 ветракі, конная крупарушка, кузня. З 1933 г. размяшчаўся вытворчы ўчастак Гомельскай МТС. У 1940 г. 180 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 143 двары, загубілі 17 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 87 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1966 г. каля будынка выканкома сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 3237 жыхароў. У складзе элітнасенгаса «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, Дом культуры, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 3 магазіны. Вясковаму хору (створаны ў 1934 г.) прысвоена ў 1962 г. званне народнага. Планіроўка квартальная. Паралельна да гал. крывалінейнай вуліцы праходзяць 5 вуліц, перакрыжаваных завулкамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У цэнтры, на месцы згарэўшага ў 1943 г. будынка царквы, узведзены ў 1992 г. новы храм. Радзіма засл. дзеяча культуры Беларусі, арганізатара і кіраўніка Прыбыткаўскага народнага хору Ф.Ф.Пятрэнкі.

**ПРЫВОЛЛЕ I** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 7 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 14 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 30 двароў, 220 жыхароў, паштовы пункт, у Аздзелінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны маяк» (цэнтр — в. Рагі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРЫВОЛЛЕ II** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 9 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 17 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Белічанка (прыток р. Уза); на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. пасёлак ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр., 11 двароў, 76 жыхароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРЫСТАРАНЫ** — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 8 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 13 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 12 двароў, 65 жыхароў, паштовы пункт, у Новацярэшкавіцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў. У Вял. Айч.

вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 4 жыхароў. 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПУЦЯВОДНАЯ ЗВЯЗДА** (да 1938 г. Клін) — пасёлак у Шарпілаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 12 двароў, 61 жыхар, у Аб'яднана-пасялковым с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «Міжрэчча» (цэнтр — в. Шарпілаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЯСОЧНАЯ БУДА** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 23 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Пясошанька (прыток р. Церуха) і аўтадарозе Будзішча—Гомель. 257 гаспадарак, 721 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1733 г. 55 двароў, 422 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцьеўскім царк. прыходзе. З 1776 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча, у складзе Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1780 г. заснавана шкляная мануфактура, якая ў 1797 г. дала 172 130 лістоў шкла і 43 922 бутэлькі (працавала да 1812 г.). Праз вёску праходзіў паштовы тракт Пецярбург—Кіеў (пачаў будавацца ў 1782 г.). У 1798 г. 454 жыхары. У 1816 г. 96 двароў. У 1850 г. 615 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1880 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. 140 двароў, 736 жыхароў, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 219 двароў, 1101 жыхар, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 226 двароў, 1396 жыхароў, 1897 дзес. зямлі, школа, царква, млын. З 8.12.1926 г. да 16.7.1957 г. цэнтр Песачнабудскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавалі кузня, конная крупарушка, вятрак. У Вял. Айч. вайну ў 1943—44 гг. сав. самалёты з палявога аэрадрома, што знаходзіўся каля вёскі, лcraталі бамбіць пазіцыі ням. войск. У баях за вёску ў 1941 г. і 1943 г. загінулі 173 воіны (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі і на паўн.-зах. ускраіне). 122 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 695 жыхароў. Цэнтр птушкафабрыкі «Світанне» (засн. ў студз. 1975 г.). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, лаўка, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой амаль шыротнай арыентацыі вуліц (адна ўздоўж аўтадарогі), злучаных 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну А.П.Байкова (быў камандзірам партыз. брыгады імя М.А. Шчорса Гомельскай вобл.).

**ПЯСЧАНЫ** — пасёлак у Бальшавіцкім пасялковым Савеце, за 3 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 13 км на Пн ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. Размешчаны торфапрадпрыемства «Бальшавік», фельч.-акушэрскі пункт. Драўляныя жылыя і гасп. пабудовы пастаўлены кампактна каля мясцовай дарогі.

**ПЯТРОЎ** — пасёлак у Аздзелінскім с/с, за 9 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 16 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 115 жыхароў, у Аздзелінскім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 135 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Аздзеліна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАГІ** — вёска ў Аздзелінскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Лазурная (на лініі Жлобін—Гомель), 20 км на ПнЗ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарозе да р.п. Бальшавік, потым па шашы Доўск—Гомель. 154 гаспадаркі, 451 жыхар (2004 г.).

Выяўлены археолагамі паблізу вёскі курганны могільнік сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. Екацярына II падаравала вёску ген.-м. С.Пішчэвічу. У 1885 г. 94 двары, 504 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 142 двары, 879 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 5 ветракоў, крупарушка. У 1909 г. 156 двароў, 1002 жыхары, 1695 дзес. зямлі, у Рудзянецкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Рагоўскага с/с Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дружба», працавалі маслазавод, 2 ветракі, у 1931 г. створана арцель па здабычы торфу. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 52 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае помнік, пастаўлены ў 1981 г. Паводле перапісу 1959 г. 470 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны маяк». Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай за ПдУ на ПнЗ вуліцы, да цэнтра якой перпендыкулярна далучаецца з ПнУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзена 56 мураваных катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**РАГІ-ІЛЕЦКІ** — пасёлак у Маркавіцкім с/с, за 4 км ад чыг. ст. Дзікалаўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 36 км на ПдУ ад Гомеля, на р. Церуха (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Будзішча—Гомель. 23 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з в. Рагі. У 1926 г. 59 двароў, 310 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Рагі-Ілецкага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «На варце», працавалі 2 ветракі, конная крупарушка, кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 38 пасялкоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1968 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 306 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Маркавічы). Маецца дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж

аўтадарогі). Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАМАНАВІЧЫ** — вёска ва Улукаўскім с/с, за 4 км на У ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпуць (прыток р. Сож). Аўтадарога злучае вёску з Гомелем. 556 гаспадарак, 1510 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку (3—2-е тысячагоддзі да н.э., за 0,5 км на У ад вёскі ва ўрочышчы Селішча) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-х г. па інвентары Гомельскага староства 8 дымоў, 3 службы, 18 валоў, 15 коней. У 1751 г. ва ўладанні кн. Чартарыйскага. Вял. ўчастак ворыва і лугоў, як сведчыць інвентар 1752 г., меў тут дыякан Гомельскі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 40 двароў, 307 жыхароў. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. федьмаршала графа І.Ф.Паскевіча, у складзе Навікоўскай, а затым Добрушскай эканомій Гомельскага маёнтка. У 1788 г. 462 жыхары ў Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1811 г. 110 двароў, 270 жыхароў мужчынскага полу. Мелася паромная пераправа праз р. Іпуць. У 1834 г. 119 двароў, 630 жыхароў, у 1850 г. 124 двары, 672 жыхары. У 1879 г. засн. цагельня і цукровы з-д, у 1880 г. пабудавана драўляная Мікалаеўская царква, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1885 г. 172 двары, 738 жыхароў, 3 ветракі, школа. Паводле перапісу 1897 г. 228 двароў, 1542 жыхары, царква, капліца, школа, вінная лаўка, карчма. У выніку пажару ў 1908 г. згарэлі 53 двары. У 1909 г. 314 двароў, 1899 жыхароў, 2458 дзес. зямлі, у Гомельскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. 36 дзес. зямлі былі ў валоданні царквы. 17.6.1919 г. арганізаваны с.-г. кааператыў. У 1926 г. 332 двары, паштовы пункт, пач. школа, лаўка. З 8.12.1926 г. да 23.5.1959 г. цэнтр Раманавіцкага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камсамол Гомельшчыны», працавалі 2 ветаркі, кузня. У 1940 г. 236 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. Вызвалена 17.10.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 238 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1958 г. на паўд. ускраіне. Паводле перапісу 1959 г. 1552 жыхароў. У складзе саўгаса «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Размешчаны сярэдняя і музычная школы, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой розных па памерах шыротных вуліц, да якіх на У далучаюцца з Пд адна, з Пн — 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі І.Ф.Палевікова, засл. лесавода Беларусі М.М.Палевікова, засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі Т.М.Чыкуновай.

**РАНДОЎКА** — вёска ў Прыбарскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 9 км на З ад Гомеля, на р. Рандоўка (прыток р. Уза); на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 36 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі паблізу вёскі курганны могільнік сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Гомельскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, у Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1799 г. 99 жыхароў. У 1811 34 два-

ры. З 1834 г. ва ўладанні фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1850 г. 165 жыхароў. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 422 жыхары, школа граматы, вятрак. У 1909 г. 73 двары, 491 жыхар, 414 дзес. зямлі, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. адкрыты паштовы пункт, у Прыбарскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 292 жыхары. У складзе вучэбнай гаспадаркі СПТВ-185 (цэнтр — в. Прыбар). Працуе магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пд далучаецца завулак, а з Пн — кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЖАВЕЦ** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 6 км на Пн ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Востраў—Гомель. 31 гаспадарка, 78 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 21 двор, 116 жыхароў, у Лапацінскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУБЕЖ** — пасёлак у Цярэніцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Гомеля; на У і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Хочамля (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 105 жыхароў, у Цярэніцкім с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Цярэнічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сядзібамі. Радзіма засл. работніка сельскай гаспадаркі Беларусі І.І.Герасімава.

**РУДНЯ-МАРЫМОНАВА** — вёска, цэнтр Рудня-Марымонаўскага с/с, за 27 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 50 км на ПдЗ ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дняпро; на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 291 гаспадарка, 803 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы 7—3 ст. да н.э., 3 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. ранняга жалезнага веку і паселішча 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. (за 0,5 км на З ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ва ўладанні памешчыцы Валадзьковічавай, а затым — Хацяноўскай. Пад 1879 г. пазначана як сяло ў Холменскім царк. прыходзе. З пачатку 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 470 жыхароў, вятрак, крупарушка. Побач быў аднайменны фальварак. У 1909 г. 90 двароў, 732 жыхары, 1899 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 144 двары, 853 жыхары. З 8.12.1926 г. цэнтр Рудня-Марымонаўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 15.1.1964 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Смелы», працавалі паравы млын, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой

гарнізон, які быў разгромлены партызанамі. У ліст. 1943 г. карнікі спалілі 87 двароў, загубілі 87 жыхароў. У баях за вёску ў 1943 г. загінулі 144 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на паўдн. ускраіне). 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 364 жыхары. Цэнтр саўгаса імя В.А.Някрасава. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, Дом культуры, амбулаторыя, б-ка, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, швейная майстэрня, сталовая, 2 магазіны, лазня, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых каналам частак: усх. (чатыры кароткія вуліцы, якія веерам разыходзяцца ад канала на У) і зах. (бессістэмная забудова ўздоўж канала). Забудова драўляная сядзібнага тыпу. У 1990—93 гг. узведзена 189 мураваных дамоў (катэджаў), у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**САСНОЎКА** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 74 гаспадаркі, 161 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча ранняга жалезнага веку (за 0,3 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, а з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1862 г. 24 гаспадаркі атрымалі зямельныя надзелы, у Яромінскай вол. Гомельскага пав. Паводле перапісу 1897 г. вёска Макееўка (яна ж Сасноўка), 49 двароў, 324 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 26.11.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 381 жыхар. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, нясшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СВЕТЛАЯ ЗАРА** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 8 км на Пн ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Востраў—Гомель. 44 гаспадаркі, 106 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 29 двароў, 183 жыхары, у Лапацінскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Светлая зара», працавалі 2 ветракі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сядзібамі.

**СЕЎРУКІ** — вёска ў Чонкаўскім с/с, за 2 км ад Гомеля, на аўтадарозе Чонкі—Гомель; на паўн. ускраіне — заліў р. Сож. 200 гаспадарак, 509 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1560 г. значыцца як сяліба ў Гомельскім старостве. У інвентары Гомельскага староства 1640-х г. пазначана як сяло ў валоданні гомельскага баярына Л.Шарынды. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. 125 рэвізскіх душ, у Гомельскай вол. Беліцкага пав., ва ўладанні дваран Усціновічаў і Кільчэўскіх. У 1785 г. казна купіла ў памешчыкаў вёску (140 рэвізскіх душ). Дзейнічала прыстань. У

2-й пал. 19 ст. за 3 км на У ад вёскі, на шашы Пецярбург—Адэса, была пабудавана мураваная паштовая станцыя (цяпер помнік грамадзянскай архітэктуры). У 1896 г. 95 двароў. У 1909 г. 121 двор, 627 жыхароў, у Гомельскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 183 двары, 901 жыхар. З 30.12.1927 г. да 1988 г. цэнтр Сеўрукоўскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупацыі 17.10.1943 г. 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 533 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Чонкі» вытворчага аб'яднання «Крышталь» (цэнтр — в. Чонкі). Размешчаны Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай (па абодва бакі ручая) вуліцы, забудаванай пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У склад былога Сеўрукоўскага с/с да 1963 г. ўваходзіў пас. Хутар (не існуе).

**СКІТОК** — вёска ў Цярэшкавіцкім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 14 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 39 гаспадарак, 67 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Побач з вёскай у 1685 г. шляхцічам Клімовічам былі засн. Церашкоўскі мужчынскі манастыр і драўляная Раства-Багародзіцкая царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1813 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы, а ў 1876 г. збудавана мураваная царква. У 1885 г. 21 двор, 156 жыхароў. Будаваліся рачныя судны (бярлінцы). У 1897 г. 40 двароў, 261 жыхар, карчма, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 47 двароў, 317 жыхароў, 585 дзес. зямлі. У 1926 г. 64 двары, 329 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Скітоцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 72 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. У вер.—кастр. 1943 г. воіны 102-й Далёкаўсходняй Ноўгарад-Северскай стралковай дывізіі 48-й арміі фарсіравалі тут р. Сож і разгарнулі баі на яе правым беразе, на подступах да Гомеля. У баі 30.9.1943 г. вызначыўся кулямётчык М.М.Куюкаў (прысвоена званне Героя Сав. Саюза). 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**СОЖ** (да 1960 г. пасёлак Навабеліцкай МТС) — пасёлак у Цярэшкавіцкім с/с, за 7 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 13 км на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 79 гаспадарак, 181 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 1930-х г., калі тут размясцілася Навабеліцкая МТС і пачаў складвацца пасёлак. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі. Забудова кампактная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ БЕЛІЦА** — вёска, цэнтр Старабеліцкага с/с, за 12 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 15 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белічанка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 159 гаспадарак, 418 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены і даследаваны археолагамі курганны могільнік, што быў каля вёскі,

сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Беліца ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У Літоўскай метрыцы пазначана пад 1558 г. як цэнтр воласці. Уваходзіла ў склад уладанняў Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. імператрыца Екацярына II даравала Беліцу кн. М.Кантгаўзену, потым яе купіў кн. Солтан. 22.3.1777 г. створаны Беліцкі пав., а Беліцы нададзены статус павятовага горада. У 1777 г. пабудавана Мікалаеўская царква, якая цяпер з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. 16.8.1781 г. зацверджаны герб: шчыт з выявай ракі на блакітным ніжнім полі і двухглавым царскім арлом — на верхнім. Праз Беліцу праходзіў паштовы тракт Пецярбург—Кіеў. У 1778 г. распрацаваны план забудовы, а ў 1783—85 гг. зацверджаны 2-і генеральны план. Але маштабнага будаўніцтва так і не адбылося, таму што выявілася не вельмі зручнае геаграфічнае становішча для павятовага горада. У выніку было вырашана разгарнуць будаўніцтва новага горада побач з Гомелем, які атрымаў назву Навабеліца (зараз у межах г. Гомеля), а Беліца стала звацца Старая Беліца. У 1791 г. адкрыта 1-е ў павеце нар. вучылішча (у 1889 г. 50 вучняў). З 1814 г. працавала невялікае гарбарнае прадпрыемства, у 1831 г. засн. прадпрыемства па вырабе цукру, у 1875 г. — маслабойня. У 1826 г.



*Мікалаеўская царква ў в. Старая Беліца.*




*Помнік землякам у в. Старая Беліца.*

362 жыхары. Замест састарэлага ў 1846 г. збудаваны новы драўляны будынак царквы. У 1885 г. 110 двароў, 664 жыхары, царква, вінакурня, вадзяны млын, 2 ветракі. Гаспадар фальварка валодаў у 1878 г. 755 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло (132 двары, 917 жыхароў), хлебазапасны магазін, крупарушка, лаўка, кузня, карчма і 2 сядзібы (8 двароў, 59 жыхароў). У 1909 г. 148 двароў, 999 жыхароў, у Цялушскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. цэнтр Старабеліцкага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пач. школа, паштовае аддз., лаўка. У 1920-х г. у былых фальварках створаны саўгас «Старая Беліца». У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беліца», працавалі хлебапякарня і 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну карнікі загубілі 12 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 123 вяскоўцы, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна і стэла, пастаўленыя ў 1971 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 545 жыхароў. У 1976 г. ў вёску перасяліліся жыхары пасёлкаў

Пабеда і Ясная Паляна. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных мерыдыянальных вуліц, злучаных 2 кароткімі вуліцамі амаль шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара гіст. навук, праф. Г.В.Штыхава, доктара медыцынскіх навук, праф., правадзейнага члена Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў К.Я.Вішнеўскай.

У склад Старабеліцкага с/с да 1976 г. ўваходзілі пасёлкі Пабеда, Ясная Паляна, да 1987 г. Калінін (не існуюць).

**СТАРАЯ БУХАЛАЎКА** — вёска ў Цярэшкавіцкім с/с, за 11 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 13 км на Пд ад Гомеля, на праз р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст., калі тут былі 2 фальваракі. Уладальніца аднаго з іх дваранка Бялецкая мела ў 1870 г. 107 дзес. зямлі, якія дасталіся ёй у спадчыну. Гаспадар другога фальварка валодаў у 1871 г. 386 дзес. зямлі і вадзяным млыном. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. в. Бухалаўка (яна ж Астраўкі), 147 жыхароў. У хуткім часе перасяленцы заснавалі в. Новая Бухалаўка, а в. Бухалаўка стала звацца Старая Бухалаўка. У 1926 г. 18 двароў, у Старацярэшкавіцкім с/с Дзятлавіцкага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 53 двары. У складзе саўгаса «Навабеліцкі» (цэнтр — в. Цярэшкавічы). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРЫЯ ДЗЯТЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзятлавіцкага с/с, за 16 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 35 км на Пд ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро); на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 143 гаспадаркі, 284 жыхары (2004 г.).

На ПнЗ ад вёскі, у Кабыліным балоце (раней тут было русла р. Сож), вяскоўцы ў 19 ст. знаходзілі астанкі рачных суднаў з воскам і рэшткамі інш. тавараў, што сведчыць аб стараж. гандлёвых сувязях бел. гарадоў і паселішчаў. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст. як в. Дзятлавічы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1560 г. вял. ўчастак вясковай зямлі належаў Гомельскаму храму Святога Спаса. Пад 1581 г. упамінаецца ў запісе аб службовых кнігах Гомельскага замка. Пазначана ў вопісе дзярж. вёсак Гомельскага староства 1640 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Беліцкім, з 1852 г. ў Гомельскім пав. Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губ. Ва ўладанні дваран Фашчаў. Дзейнічала прыстань. Гаспадар маёнтка Дзятлавічы меў у 1854 г. 2321 дзес. зямлі. У 1856 г. адкрыта нар. вучылішча, у 1863 г. збудавана Свята-Троіцкая драўляная царква. У 1885 г. 71 двор, 435 жыхароў. Будаваліся рачныя судны (бярлінцы). Да 8.12.1926 г. цэнтр Дзятлавіцкай вол., у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 34 населеныя пункты з агульнай колькасцю 1793 двары. У 1896 г. ў наваколлі працавала Заходняя экспедыцыя па асушэнні балот. Паводле перапісу 1897 г. 109 двароў, 676 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, вінная лаўка, карчма. У 1909 г. 114 двароў, 807 жыхароў, 1205 дзес. зямлі, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У выніку пажару 18.4.1911 г. згарэла 27 двароў, хлебазапасны магазін,

была пашкоджана царква. 30.8.1919 г. створаны с.-г. кааператыў. У 1926 г. 176 двароў, 982 жыхары, паштовае аддз., лячэбны пункт, нар. дом, с.-г. таварыства, ветэрынарны пункт, лаўка, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Дзятлавіцкага р-на. З 8.12.1926 г. цэнтр Дзятлавіцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 15 двароў і загубілі 12 жыхароў. Вызвалена 29.9.1943 г. часцямі 65-й арміі. У баях за вёску загінулі 23 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 80 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 557 жыхароў. У 1957 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоная Даліна. У 1976 г. ў вёску пераехалі жыхары пас. Бялынь (не існуе). Цэнтр калект.-далявой гаспадаркі «Дзятлавічы». Размешчаны хлебапякарня, камбінат бытавога абслугоўвання, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, аптэка, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, амаль паралельна да якой ідзе прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. фалькларысткі і этнографа, правадзейнага члена Рускага геаграфічнага таварыства (з 1887 г.) З.Ф.Радчанкі.

У склад Дзятлавіцкага с/с уваходзілі пасёлкі Чарнічны (да 1955 г.), Чырвоная Даліна (да 1957 г.), Бялынь (да 1976 г.; не існуюць).

**СТУДЗЁНАЯ ГУТА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 36 км на Пд ад Гомеля, на аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 77 гаспадарак, 148 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя і даследаваныя археалагамі каля вёскі курганы жалезнага веку сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло каля шкляной гуты ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1773 г. 15 двароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1805 г. на шклозаводзе працавалі 4 печы. Пазней былі пабудаваны 2-павярховы заводскі будынак, кузня, сталярная майстэрня, розныя гаспадарчыя будынкі і 12 жылых памяшканняў для рабочых. У 1816 г. 89 жыхароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. Дзейнічаў паром (3 км ад вёскі), у пач. 1880-х г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 101 двор, 611 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар з пастаялым дваром. У 1926 г. 115 двароў, 632 жыхары, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 16.7.1954 г. да 11.1.1973 г. цэнтр Студзёнагуцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, у 1938 г. збудаваны клуб. У Вял. Айч. вайну 28.9.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 67 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 527 жыхароў. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На ПдУ вуліца раздвойваецца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу знаходзіцца санаторый-прафілакторый «Пунсовыя ветразі».

**СТУКАЧОЎКА** — вёска ў Даўгалескім с/с, за 13 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 20 км на ПдЗ ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сож (прыток р. Дняпро), мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарогах Міхалькі—Калінкавічы—Гомель. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Уваходзіла ў склад маёнтка Міхалькі, уладанне памешчыцы Валадзьковічавай, пазней — Хацяноўскай. Паводле перапісу 1897 г. вёска (47 двароў, 333 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма) і пасёлак (2 двары, 14 жыхароў), у Дзятлаўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1926 г. 82 двары, 415 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 38 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Мірны» (цэнтр — в. Міхалькі). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, якія разыходзяцца на ПнЗ і ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СЦЯГ ПРАЦЫ** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 8 км на У ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Добруш—Гомель. 39 гаспадарак, 69 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 34 двары, 161 жыхар, у Галавінскім с/с Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авіятар», працавала кузня. У 1940 г. 35 двароў, 208 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 283 жыхары. У складзе саўгаса «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЯМЁНАЎКА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 9 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 37 км на Пд ад Гомеля, на р. Нямыльня (прыток р. Сож); побач дзярж. мяжа з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 28 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як невял. сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. пазначана як Сямёнаўская Рудня, 10 двароў, 42 жыхары. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 11 двароў, у Мікалаеўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. З 1876 г. дзейнічала крупарушка. У 1886 г. 14 двароў, млын, лесапільня (20 рабочых), у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 166 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 208 жыхароў, 360 дзес. зямлі. У 1926 г. 49 двароў, 286 жыхароў, паштовы пункт, у Краўцоўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 35 двароў. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 234 жыхары. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Побач ёсць залежы гліны.

**УЗА** — вёска ў Давыдаўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож); на У меліярацыйныя каналы, у тым ліку і Мільчанская канава. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 87 гаспадарак, 200 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (за 1 км на Пд ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А. Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 23 жыхары, у Навікоўскай эка-

номіі Гомельскага маёнтка. У 1830 г. дзейнічалі млын, крупарушка, сукнавальня. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Рэчыцы ў Гомель. У 1868 г. памешчык Філончык валодаў тут 2483 дзяс. зямлі, меў піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 201 жыхар, хлебазапасны магазін, вятрак, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 33 двары, 212 жыхароў. У аднайменным фальварку, які знаходзіўся побач, 1608 дзес. зямлі. З 1913 г. дзейнічалі земская школа і тэлеграф. У 1926 г. 63 двары, 319 жыхароў, паштовы пункт і школа, у Давыдаўскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Уза». У Вял. Айч. вайну 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 347 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Краснае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**УЛУКАЎЕ** — вёска, цэнтр Улукаўскага с/с, за 2 км ад чыг. ст. Бярозкі (на лініі Гомель—Унеча), 4 км ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Добруш—Гомель. 203 гаспадаркі, 738 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як в. Лукаўе ў Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ., ва ўладанні Фашчаў. Гаспадар аднайменнага фальварка, што быў побач, у 1854 г. меў тут 1303 дзес. зямлі, якія дасталіся яму ў спадчыну. У 1886 г. 39 двароў, 199 жыхароў. У 1890 г. засн. крухмальны з-д, у 1894 г. — вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 333 жыхары, у фальварку хлебазапасны магазін і вінакурня. У 1909 г. 58 двароў, 410 жыхароў, 318 дзес. зямлі, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У фальварку 1370 дзес. зямлі. 20.7.1920 г. быў створаны с.-г. кааператыў, у 1925 г. — саўгас «Улукаўе». У 1926 г. 77 двароў, паштовы пункт, школа, лаўка. З 8.12.1926 г. цэнтр Улукаўскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын, крупарушка, кузня. У 1940 г. 115 двароў, 622 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. Вызвалена 17.10.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 180 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 229 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых, пастаўленая ў 1977 г. побач з брацкай магілай. Паводле перапісу 1959 г. 492 жыхары. Цэнтр саўгаса «Цяплічны». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, 9-гадовая і музычная школы, дзіцячы сад, бальніца, клуб, б-ка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, кафэ, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Г.С.Сарокінай.

У склад Улукаўскага с/с да 1962 г. ўваходзілі пас. Назарэт і в. Новы Двор (не існуюць).

**УРЫЦКАЕ** (да 1925 г. Ваўковіцкі Крупец) — вёска, цэнтр Урыцкага с/с, за 8 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 13 км на З ад Гомеля, на аўтадарозе Жлобін—Гомель; на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Уза (прыток р. Сож). 1007 гаспадарак, 2777 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640 г. в. Воўкавічы, 12 дымоў. Пазначана ў інвентары 1752 г. як сяло. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 225 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ., у

Навікоўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. У выніку пажару 6.10.1883 г. згарэлі 66 двароў і 16 гумнаў са збожжам. У 1885 г. 166 двароў, 879 жыхароў, 3 ветракі, у Целяшоўскай вол. Гомельскага пав. У 1891 г. пабудавана драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. 257 двароў, 1647 жыхароў, царква, школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны, 3 ветракі, кузня, карчма. У 1907 г. ў вясковай школе 123 вучні. У 1909 г. 278 двароў, 1792 жыхары, 2341 дзес. зямлі. У 1926 г. дзейнічалі аддз. сувязі, пач. школа, хата-чытальня, лаўка. З 8.12.1926 г. цэнтр Урыцкага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавалі кузня і 4 ветракі. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1941 г. часткова спалілі вёску, а ў 1943 г. загубілі 13 жыхароў. Вызвалена 26.11.1943 г. 163 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 896 жыхароў. У 1993 г. ўзведзены новы будынак Раства-Багародзіцкай царквы. Цэнтр саўгаса «Усход» і калгаса імя Урыцкага. Размешчаны торфапрадпрыемства «Парыжская Камуна», камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя і музычная школы, школа кандытараў, кінатэатр, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, кафэ, 5 магазінаў, лазня. Вясковаму танцавальнаму калектыву «Вярцёлкі» ў 1996 г. нададзена званне народнага. Такога ж звання ўдастоены ў 1983 г. ансамбль песні і танца, у 1990 г. — фальклорны калектыў «Скарычанка» Урыцкага рэгіянальнага цэнтра культуры і вольнага часу. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц (сярэдняя працяглая, па баках — кароткія), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Па выніках Усесаюзнага агляду-конкурсу 1972 г. забудова пасёлка адзначана дыпломам 2-й ступені.

Да Вял. Айч. вайны ў склад Урыцкага с/с уваходзіла в. Вясёлае Поле (2.11.1943 г. ням. акупанты спалілі яе, і яна не адрадзілася).

**УСХОД** — пасёлак у Прыбарскім с/с, за 7 км ад чыг. ст. Прыбар (на лініі Калінкавічы—Гомель), 9 км на З ад Гомеля, на р. Рандоўка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 27 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 44 двары, 221 жыхар, у Прыбарскім с/с. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. У складзе вучгаса СПТВ-185 (цэнтр — в. Прыбар). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на У далучаецца з Пд кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ФАШЧАЎКА** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 17 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 26 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Івалька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 41 двор, 197 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 13 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Целяшоўская Рудня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ХАЛМЫ** — пасёлак у Маркавіцкім с/с, за 1 км ад чыг. ст. Дзікалаўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 30 км на Пд ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цярахоўка—Гомель. 37 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 19 двароў, 96

жыхароў, паштовы пункт, у Рагі-Ілецкім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 30 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Маркавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы ўздоўж чыгункі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ХУТАРАНКА** — вёска ў Грабаўскім с/с, за 5 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 27 км на ПдУ ад Гомеля; на зах. ускраіне меліярацыйны канал, побач аўтадарога Будзішча—Гомель. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяліба ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ., у складзе аднайменнага маёнтка, ва ўладанні памешчыка Крушэўскага. У 1861 г. пасля адмены прыгоннага права вяскоўцы адказаліся выконваць павіннасці на карысць памешчыка, у сувязі з чым улады прымянялі да іх суровыя меры пакарання. У 1868 г. пачала працаваць крупарушка, у 1879 г. — маслабойня. Уладальнік маёнтка меў у 1855 г. 230 дзес. зямлі. У 1880 г. 49 двароў, 272 жыхары, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 548 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 68 двароў, 590 жыхароў, 1917 дзес. зямлі. У 1926 г. 82 двары, паштовы пункт, школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Хутаранскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара» (цэнтр — в. Грабаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў патрыят. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну І.Б.Пазнякова і бел. мастачкі Т.І.Васюк.

**ЦАГЕЛЬНЯ** — пасёлак у Прыбыткаўскім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Вуць (на лініі Гомель—Чарнігаў), 7 км на Пд ад Гомеля. Побач аўтадарога Старыя Ярылавічы—Гомель. 350 гаспадарак, 1020 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Значная частка жыхароў працавала на розных прадпрыемствах Гомеля. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Паўднёвы». Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, клуб, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, у цэнтры якой забудова набыла выгляд квадрата. Будынкі пераважна драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЦАРКОЎЕ** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Касцюкоўка (на лініі Жлобін—Гомель), 5 км на Пн ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 37 гаспадарак, 79 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 21 двор, 135 жыхароў, у Лапацінскім с/с. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Лапацінская» (цэнтр — в. Лапаціна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. хатамі. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі М.І.Быркова.

**ЦЕЛЯШОЎСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Целяшоўскім с/с, за 18 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 35 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Івалька (прыток р. Уза). Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 127 гаспадарак, 320 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1850 г. ва ўладанні Івіцкіх. З 1880 г. працавала крупарушка. У 1885 г. 100 двароў, 660 жыхароў. Паводле перапісу

1897 г. 150 двароў, 956 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, лаўка, кузня. У 1909 г. 182 двары, 1158 жыхароў, 1880 дзес. зямлі, школа, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Целяшоўскаруднянскага с/с Уваравіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 116 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск і 2 стэлы, пастаўленыя ў 1976 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 470 жыхароў. Цэнтр калгаса імя А.В.Суворава. Размешчаны 9-гадовая школа (у 1988 г. пабудаваны мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з З далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных катэджаў для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**ЦЕЛЯШЫ** — вёска, цэнтр Целяшоўскага с/с, за 17 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 20 км на З ад Гомеля, на р. Уза (прыток р. Сож); на З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Жлобін—Гомель. 230 гаспадарак, 625 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло Целяшковічы. Пад 1503, 1511, 1525, 1526, 1527 гг. с. Целяшэвічы ўпамінаецца ў матэрыялах пра канфлікты паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства 8 дымоў, 4 службы, 11 валоў, 5 коней, 4 пусткі — Манаўшчына, Ціхалкоўская, Цiраўшчына, Знагоўшчына, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Належала Чартарыйскім. У інвентары 1752 г. пазначаны памеры падаткаў, якія вяскоўцы павінны былі штогод плаціць памешчыку і казне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1792 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква, а ў 1810 г. замест састарэлага пабудаваны новы будынак царквы. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Рэчыцы ў Гомель. У 1848 г. 80 двароў. Цэнтр Целяшоўскай вол. (да 9.5.1923 г.) Беліцкага, а з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губ. У склад воласці ў 1890 г. ўваходзілі 49 населеных пунктаў з агульнай колькасцю 1675 двароў. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 36 вучняў). У 1885 г. 156 двароў, 747 жыхароў, бальніца (6 ложкаў). Паводле перапісу 1897 г. 214 двароў, 1391 жыхар, царква, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, 4 ветракі, лаўка, кузня, карчма. У 1909 г. 251 двор, 1604 жыхары, 2070 дзес. зямлі. Мелася аддз. паштовай сувязі. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Целяшоўскага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня, ветэрынарны пункт, лаўка. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная плошча», працавалі конная крупарушка, 5 ветракоў, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты па-зверску закатавалі 22 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўд.-ўсх. ускраіне). У баях за вёску восенню 1943 г. загінулі 266 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 120 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1943—44 гг. каля вёскі дзейнічала пасадачная пляцоўка для савецкіх самалётаў. Паводле перапісу 1959 г. 774 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоная плошча». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячы сад, бальніца, сталовая, кафэ, 5 магазінаў, лазня. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-л. артылерыі В.А.Галецкага.

**ЦЕРУХА** — вёска, цэнтр Цярухскага с/с, за 7 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі

Гомель—Чарнігаў), 25 км на Пд ад Гомеля, на р. Церуха (прыток р. Сож) і аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 270 гаспадарак, 783 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя і даследаваныя археолагамі курганы (30 насыпаў) жалезнага веку, якія былі каля вёскі, сведчылі пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 20 двароў, у Гомельскай вол. Рагачоўскай правінцыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1798 г. 178 жыхароў. У 1816 г. 47 двароў, 217 жыхароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. З 1830 г. працавалі млын і сукнавальня, з 1833 г. піларама. У 1834 г. 54 двары, 460 жыхароў. У 1850 г. побач прайшла шаша Пецярбург—Кіеў, што значна пашырыла транспартныя магчымасці вяскоўцаў. У 1867 г. збудавана драўляная Георгіеўская царква. У 1885 г. 112 двароў, 669 жыхароў, вадзяны млын, вятрак, пастаялы двор. Паводле перапісу 1897 г. 147 двароў, 894 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, 4 ветракі, 3 крупарушкі, 2 маслабойні, кузня. У 1909 г. 182 двары, 1174 жыхары, 1352 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 239 двароў, урачэбны і ветэрынарны пункты, чырвоны куток, лаўка, паштовы пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 11.1.1973 г. цэнтр Цярухскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. да 16.7.1954 г. Церахоўскага і з 11.7.1973 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сацыялізм», працавалі паравы млын, лесапільня, крупарушка, бандарная арцель, цыркулярка, кузня. У Вял. Айч. вайну 27.9.1943 г. ням. акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 42 жыхары (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўн. ускраіне). Вызвалена 28.9.1943 г. У баях каля вёскі загінулі 472 воіны 37-й стралковай дывізіі 19-га стралковага корпуса 85-й арміі Цэнтральнага фронту, у ліку якіх Герой Сав. Саюза А.Д.Вашчын (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне, побач з магілай вяскоўцаў, загубленых акупантамі). 96 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 834 жыхары. Цэнтр саўгаса «Сацыялізм». Размешчаны сярэдняя школа (у 1996 г. ўзведзены мураваны будынак), дзіцячы дом, клуб, б-ка, дзіцячыя сад-яслі, амбулаторыя, аддз. сувязі, швейная майстэрня, кафэ, 2 магазіны. У школе з 1963 г. дзейнічае музей баявой і працоўнай славы. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц і 3 завулкаў, якія ўтвараюць 2 кварталы. На З да іх далучаецца крывалінейная, на У — кароткая шыротная вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй мясцін у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма таленавітага вучонага В.П.Ермакова (у 1874 г. абараніў доктарскую дысертацыю, потым быў выбраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай акадэміі, з 1899 г. заслужаны праф.).



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму ў в. Церуха.*

**ЦЫКУНЫ** — вёска ў Бабовіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 54 гаспадаркі, 92 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1833 г. 20 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1862 г. 21 двор, у Гомельскім пав. У 1884 г. 185 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Цакуны (яна ж Случ-Мільча), 49 двароў, 267 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 56 двароў, 347 жыхароў. У 1913 г. пачала дзейнічаць земская школа. У 1926 г. 429 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 414 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 44 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Мірны» (цэнтр — в. Міхалькі). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца завулак. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦЯРЭНІЧЫ** — вёска, цэнтр Цярэніцкага с/с, за 18 км ад чыг. ст. Уза (на лініі Жлобін—Гомель), 31 км на ПнЗ ад Гомеля, на р. Белічанка; на Пн канал, злучаны з р. Хочамля (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 209 гаспадарак, 563 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1503, 1525, 1526, 1527 гг. упамінаецца ў матэрыялах пра канфлікты паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. У 1560 г. 2 дымы. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства 2 дымы, 2 службы, 2 валы, 2 кані, 2 пусткі — Лясоўская і Підыхоўская. Упамінаецца ў актах Галоўнага літоўскага трыбунала за 1752 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Гаспадар аднайменнага маёнтка меў тут у 1861 г. 1345 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. Працаваў вятрак. У 1882 г. 60 двароў, 377 жыхароў. У 1884 г. меліся нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. З 1885 г. дзейнічала царква. Паводле перапісу 1897 г. сяльцо (117 двароў, 769 жыхароў) і аднайменны фальварак (5 двароў, царква, вятрак). У 1908 г. 150 двароў, 985 жыхароў, 1293 дзес. зямлі, у Цялушскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз., лячэбны пункт, школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Цярэніцкага с/с Уваравіцкага, з 17.4.1962 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі 2 кузні, 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 202 землякі — ураджэнцы вёсак калгаса «1 Мая», памяць аб якіх ушаноўвае помнік на ўскраіне вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 674 жыхары. Цэнтр калгаса «1 Мая». Размешчаны 9-гадовая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін, лазня. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца з Пд 2 вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь А.Р.Майсеенкі.

**ЦЯРЭШКАВІЧЫ** (да 23.5.1962 г. Старыя Цярэшкавічы) — вёска, цэнтр Цярэшкавіцкага с/с, за 14 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 20 км на Пд ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—

Гомель. 602 гаспадаркі, 1777 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Упамінаецца ў 1526—31 гг. у матэрыялах аб канфліктах паміж Літвой і Маскоўскай дзяржавай. У 1640-х г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, 4 дымы, 2 службы, 8 валоў, 4 кані. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1785 г. — дваранiна Хільчэўскага, потым памешчыкаў Ржэцкіх, Зубовічаў, Падатчэўскіх. У сярэдзіне 19 ст. адзначалася актыўная дзейнасць мясцовай прыстані. Меліся карчма, царк.-прыходская школа, нар. вучылішча (у 1868 г. 27, у 1907 г. 57 вучняў). Гаспадар аднайменнага фальварка меў у 1875 г. 100 дзес. зямлі, якія дасталіся яму ў спадчыну. Паводле перапісу 1897 г. ваколіца Старыя Цярэшкавічы, 40 двароў, 245 жыхароў, вадзяны і ветраны млыны. У 1904 г. з'явілася група РСДРП. У 1909 г. 59 двароў, 375 жыхароў, 468 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 67 двароў, паштовае аддз., лаўка, лячэбны пункт, пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Цярэшкавіцкага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працавалі кузня, вадзяны млын. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. і ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 84 двары і загубілі 12 жыхароў. 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 127 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучана в. Фёдараўка. Цэнтр саўгаса «Навабеліцкі». Размешчаны птушкафабрыка, швейная майстэрня, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, комлексна-прыёмны пункт, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Ансамбль песні «Харошкі» вясковага Дома культуры (створаны ў 1962 г.) удастоены звання народнага. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу, пераважна драўляная. У 1987 г. збудавана 50 мураваных катэджнага тыпу будынкаў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма ген.-л. авіяцыі Дз.П.Бартноўскага і ген.-м. артылерыі І.С.Тулоўскага.

У склад Цярэшкавіцкага с/с уваходзіла да 1962 г. в. Фёдараўка (не існуе).

**ЧАПЛІН** — пасёлак у Чарацянскім с/с, за 49 км на ПдУ ад Гомеля, 16 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Будзішча—Гомель. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 15 двароў, 103 жыхары, паштовы пункт, у Пракопаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары. У складзе калгаса «За Радзіму» (цэнтр — в. Чарацянка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАРАЦЯНКА** — вёска, цэнтр Чарацянскага с/с, за 7 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 53 км на ПдУ ад Гомеля, на аўтадарозе Церахоўка—Маркавічы. 193 гаспадаркі, 559 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Машкі) і гарадзішча з мясцовай назвай Гарадзец (за 0,8—1 км на Пд ад вёскі) сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст., як вёска ва ўладанні Солтанаў. У 1848 г. пабудавана драўляная царква. З 1865 г.

дзейнічала нар. вучылішча, у якім у 1889 г. вучыліся 57 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1868—68 гг. на паўн. ускраіне замест састарэлай драўлянай збудавана мураваная Успенская царква. У 1882 г. 87 двароў, 436 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 114 двароў, 614 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка. У 1909 г. 703 жыхары, 956 дзес. зямлі, у Маркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1912 г. створана спажывецкае т-ва. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 20.9.1983 г. цэнтр Чарацянскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі вятрак, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску. Вызвалена 27.9.1943 г.



*Успенская царква ў в. Чарацянка.*

На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 122 землякі, памяць аб якіх ушаноўваюць пілон і дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1977 г. каля клуба. Паводле перапісу 1959 г. 438 жыхароў. Цэнтр калгаса «За Радзіму». Размешчаны 9-гадовая школа (у 1987 г. ўзведзены мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, сталовая, кафэ, 2 магазіны, лазня, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай і 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных катэджаў для перасяленцаў з забруджаных месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Чарацянскага с/с уваходзіў да 1967 г. пас. Данец (не існуе).

**ЧКАЛАВА** (да 20.4.1939 г. Жаробнае) — вёска ў Дзятлавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Гомеля, на р. Случ-Мільча (прыток р. Сож), на аўтадарозе, якая звязвае вёску з аўтадарогай Калінкавічы—Гомель. 232 гаспадаркі, 542 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска Жаробнае ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 181 жыхар, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1848 г. 65 двароў, у Хамінскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1885 г. 140 двароў, 1001 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 215 двароў, 1284 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, кузня. У 1908 г. 247 двароў, 1667 жыхароў, 3194 дзес. зямлі, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 307 двароў, 1609 жыхароў, аддз. сувязі, пач. школа, лаўка. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, была створана с.-г. арцель. З 8.12.1926 і да 20.4.1939 г. цэнтр Жаробнінскага, з 20.4.1939 г. да 3.9.1965 г. Чкалаўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Батрак», працавалі 2 ветракі і кузня. У 1940 г. 397 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ў Гомельскім р-не быў скінуты паветраны дэсант. У в. Чкалава дэсантнікі разгромілі варожы гарнізон. У кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 219 двароў і загубілі 18 жыхароў. 138 жыхароў

загінулі на фронце. У 1948 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. Паводле перапісу 1959 г. 1030 жыхароў. У складзе калект.-далявой гаспадаркі «Дзятлавічы» (цэнтр — в. Старыя Дзятлавічы). Размешчаны аддз. сувязі, б-ка, магазін, лазня, сярэдняя школа (у 1991 г. ўзведзены мураваны будынак), фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на З праходзяць 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена 50 мураваных катэджнага тыпу дамоў для перасяленцаў з забруджаных месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма бел. мастака В.В.Ляшкевіча.

**ЧОНКІ** — пасёлак, цэнтр Чонкаўскага с/с, за 3 км на Пд ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), на аўтадарозе, якая звязвае вёску з Гомелем, на Пд мяжуе з лесам. 946 гаспадарак, 2611 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча сярэдзіны 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. і эпохі Кіеўскай Русі (за 0,4 км на ПдЗ ад пасёлка) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст., калі тут пачалі сяліцца ўцекачы з Расіі з-за рэлігійных праследаванняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. тут, на левым беразе Сожа, на землях шляхцічаў Клічэўскіх і Усціновічаў, быў засн. стараверскі Успенскі мужчынскі манастыр, які ў 1822 г. далучыўся да праваслаўя. У 1877 г. збудавана драўляная царква, дзейнічала цагельня. У 1907 г. адкрыта нар. вучылішча. Паводле перапісу 1926 г. 63 двары. У 1927 г. створана с.-г. арцель. У 1940 г. пачаў дзейнічаць дзіцячы санаторый «Чонкі». У Вял. Айч. вайну ў раёне вёскі ў ліп. — жн. 1941 г. базіраваўся аператыўна-вучэбны цэнтр для падрыхтоўкі і засылкі ў варожы тыл дыверсійных груп. У баях 10—11.10.1943 г. каля пас. Чонкі і в. Бабовічы пры фарсіраванні Сожа загінуў 1761 воін 48-й арміі (пахаваны ў брацкай магіле насупраць дома адпачынку). Вызвалены 17.10.1943 г. У лют. — ліп. 1944 г. ў доме адпачынку «Чонкі» размяшчаўся Беларусі штаб партыз. руху. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1988 г. цэнтр Чонкаўскага с/с. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Чонкі» Гомельскага прадпрыемства «Крышталь». Размешчаны 9-гадовая і музычная школы, комплексна-прыёмны пункт, 3 магазіны, аддз. сувязі, б-ка. Побач, на



*Маляўнічы куток на беразе р. Сож. Кліматычны курорт «Чонкі».*



*І.С.Зайцаў.*



*Мемарыял у пас. Чонкі савецкім воінам, якія загінулі пры вызваленні Гомельскага раёна.*

маляўнічым беразе Сожа, у хваёвым і змешаным лесе кліматычны курорт «Чонкі», які ўключае дом адпачынку, абласны дзіцячы санаторый «Жывіца», абл. дзіцячую тубстанцыю «Чонкі», санаторый Гомельскага абл. аддзела аховы здароўя для лячэння неактыўных форм туберкулёзу, турысцка-аздараўленчы цэнтр «Сож», санаторыі-прафілакторыі з-да «Гомсельмаш», «Цэнтраліт» і Гомельскага хімзавода, базу адпачынку станкабудаўнічага з-да імя С.М.Кірава. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. У наваколлі лячэбна-аздараўленчыя ўстановы. Радзіма Героя Сав. Саюза І.С.Зайцава (закрыў сваім целам амбразуру дзота).

**ЧЫРВОНАЕ СЕЛІШЧА** — пасёлак у Зябраўскім с/с, за 1 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 15 км на ПдУ ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Зябраўка—Гомель. 56 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 51 двор, 241 жыхар, паштовы пункт, у Зябраўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 303 жыхары. У складзе эксперыментальнай базы «Гомельская» (цэнтр — в. Клімаўка). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да адной з якіх далучаецца з Пн кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ МАЯК** — пасёлак ва Урыцкім с/с, за 5 км на З ад Гомеля, на р. Рандоўка (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае пасёлак з Гомельскай акружной дарогай. 78 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 7 двароў, 36 жыхароў, у Заліпскім с/с. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў. У складзе калгаса імя М.С.Урыцкага (цэнтр — в. Урыцкае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ МАЯК** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 2 км на У ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож). Аўтадарога звязвае пасёлак з Гомелем. 53 гаспадаркі, 134 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШАРПІЛАЎКА** — вёска, цэнтр Шарпілаўскага с/с, за 15 км ад чыг. ст. Краўцоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 37 км на Пд ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро); на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Гута—Гомель. 280 гаспадарак, 749 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 62, у 1798 г. 73 жыхары. У 1811 г. 28 двароў, 95 жыхароў мужчынскага полу, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1833 г. 97 рэвізскіх душ, у Хомінскай эканоміі Гомельскага маён-

тка. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1885 г. 109 двароў, 492 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 147 двароў, 1021 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, 2 крупарушкі, кузня, карчма, у Дзятлавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічала нар. вучылішча (у 1907 г. 60 вучняў). У 1908 г. 169 двароў, 1340 жыхароў, 1108 дзес. зямлі, царква. У 1926 г. 246 двароў, паштовы пункт, школа, лаўка. З 8.12.1926 г. цэнтр Шарпілаўскага с/с Дзятлавіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Лоеўскага, з 25.12.1962 г. Рэчыцкага, з 15.1.1964 г. Гомельскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Абарона краіны», працавалі 2 кузні, 2 ветракі, 2 конныя крупарушкі. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў вер.—кастр. 1943 г. загінулі 284 воіны 65-й арміі Цэнтральнага фронту (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 175 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 961 жыхар. Цэнтр саўгаса «Міжрэчча». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячы санаторый «Верасок», комплексны прыёмны пункт, дзіцячыя сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, лазня. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай працяглай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на У праходзіць кароткая вуліца, а на З — кароткая вуліца з завулкам. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма акадэміка НАН Беларусі, доктара педагагічных навук, праф. І.Ф.Харламава, бел. паэтаў А.С.Грачанікава і І.І.Мядзведзева, засл. настаўніка Беларусі М.Н.Зубчынскай.

**ШУТАЎКА** — вёска ў Цярухскім с/с, за 6 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 25 км на Пд ад Гомеля, на р. Пясошанька (прыток р. Церуха). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старыя Ярылавічы—Гомель. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 19 ст. як вёска ў Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 52 жыхары. У 1909 г. 64 жыхары, 100 дзес. зямлі. У 1926 г. 13 двароў, 65 жыхароў, у Хутаранскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 30 жыхароў. У складзе саўгаса «Сацыялізм» (цэнтр — в. Церуха). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна каля прасёлачнай дарогі.

**ШЧЭРБАЎКА** — вёска і чыг. ст. (на лініі Гомель—Калінкавічы) у Прыбарскім с/с, за 18 км на З ад Гомеля; вакол лес, на ПнЗ — Будзёнаўскае ўрочышча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Гомель. 37 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й палавіне 19 ст., калі пачаліся тут работы па будаўніцтве чыгункі. З уводам у дзеянне Палескай чыгункі ў 1888 г. пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У складзе вучгаса СПТВ-185 (цэнтр — в. Прыбар). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2, з Пн — 1 завулак. Забудова няшчыльная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ЮБІЛЕЙНЫ** (да 21.1.1969 г. Царэм) — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 2 км ад чыг. ст. Бярозкі (на лініі Гомель—Унеча), 3 км на У ад Гомеля. Побач аўтадарога Гомель—Добруш. 272 гаспадаркі, 811 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. Найб. актыўная забудова вялася пасля Вял. Айч. вайны і асабліва, калі тут пачала складвацца рамонтна-пракатная база трэста «Бел-

трансбуд». Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе племзавода «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Забудова квартальная, мураваная і драўляная, пераважна аднапавярховая.

**ЯНТАРНЫ** — пасёлак у Пакалюбіцкім с/с, за 3 км на Пн ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Гомеля. 118 гаспадарак, 357 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1960-х г., калі тут, каля нафтабазы Гомельскага р-на, пачаў складвацца пасёлак. Юрыдычна ён аформіўся і атрымаў назву 31.12.1976 г. Забудова мураваная і драўляная, пераважна аднапавярховая.

**ЯРОМІНА** — вёска і чыг. ст. (на лініі Жлобін—Гомель), цэнтр Яромінскага с/с, за 5 км на ПнЗ ад Гомеля, на шашы Доўск—Гомель; на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Рандоўка (прыток р. Уза). 2048 гаспадарак, 6094 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. дзейнічала царква. Памешчыкі Красінскі-Карвін і Багданаў мелі тут у 1840 г. 475 дзес. зямлі і піцейны дом. У 1850 г. побач прайшла шаша Пецярбург—Кіеў, што значна пашырыла транспартныя магчымасці вёскі. У 1868 г. 151 двор, 526 жыхароў. Пасля будаўніцтва Лібава-Роменскай чыг. (1873 г.) пачала працаваць чыг. станцыя. У 1885 г. 158 двароў, 870 жыхароў, хлебазапасны магазін, вінная лаўка, млын. У 1889 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У вясковым нар. вучылішчы вучыліся ў 1889 г. 46 хлопчыкаў і 14 дзяўчынак, а ў 1902 г. — 89 хлопчыкаў і 33 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. 229 двароў, 1221 жыхар, царква, школа, карчма, у Пакалюбіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1908 г. 232 двары, 1687 жыхароў, 1622 дзес. зямлі. Побач былі 3 фальваркі. У 1926 г. 390 двароў, 2008 жыхароў, паштовы пункт, 2 школы, саўгас «Яроміна». Побач былі Яромінскія зах. хутары (9 двароў, 47 жыхароў). З 8.12.1926 г. цэнтр Яромінскага с/с Гомельскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны хлебароб», працавалі сталярная і шорная майстэрні, кузня, нафтавы млын. У 1933 г. размясціўся ўчастак Гомельскай МТС. У Вял. Айч. вайну 26.11.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 267 землякоў, на ўшанаванне памяці якіх у 1967 г. каля будынка выканкома сельсавета пастаўлены стэла і пліты з імёнамі загінуўшых. Паводле перапісу 1959 г. 3215 жыхароў. Цэнтр калгаса «XXII з'езд КПСС». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, «Аграпрамтэхніка», «Сельгасхімія», абл. станцыя аховы раслін, сярэдняя і музычная школы, эксперыментальны культурна-спартыўны цэнтр, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячыя яслі і сад, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, кафэ, 4 магазіны, лазня. Ансамблю песні і танца «Колас» (існуе з 1927 г.) Дома культуры ў 1969 г. прысвоена званне народнага. Пларіровачна складаецца з 2 размежаваных невял. вадасховішчам частак: зах. (8 прамалінейных вуліц рознай працягласці, паралельных паміж сабой і амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пд і Пн далучаюцца прамалінейныя вуліцы, а ў цэнтры яны злучаюцца 2 прамалінейнымі шыротнымі вуліцамі) і ўсх. (4 паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы злучаны на З амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцай). Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, пераважна аднапавярховая сядзібнага тыпу. Радзіма ганаровага грамадзяніна С.-Пецярбурга А.Д.Чагоўскага.

У склад Яромінскага с/с уваходзілі пасёлкі Высокае, Новы (да 1962 г.), Новае жыццё (да 1997 г.), да якога ў 1962 г. быў далучаны пас. Высокае (не існуюць).

**ЯРОХАВА** — пасёлак ва Улукаўскім с/с, за 9 км на У ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож); на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Добруш—Гомель. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 97 жыхароў, у Галавінскім с/с Гомельскага р-на Гомельскай акр. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе саўгаса «Бярозкі» (цэнтр — в. Бярозкі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯЎСТРАТАЎКА** — пасёлак у Целяшоўскім с/с, за 15 км ад чыг. ст. Якімаўка (на лініі Калінкавічы—Гомель), 25 км на ПнЗ ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Івалька (прыток р. Уза). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 14 двароў, 67 жыхароў, ва Уваравіцкім р-не Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная плошча» (цэнтр — в. Целяшы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 6, воп. 1, спр. 14.
Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці, ф. 13, воп. 1, спр. 2796.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 2241, воп. 1, спр. 84.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1461, воп. 3, спр. 14; ф. 1297, воп. 1, спр. 6417, 10446; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 81, 331, 974; ф. 2151, воп. 1, спр. 74, 159; ф. 2938, воп. 1, спр. 1; ф. 2944, воп. 1, спр. 1; ф. 2953, воп. 1, спр. 1; ф. 2973, воп. 1, спр. 1; ф. 2984, воп. 1, спр. 1; ф. 3000, воп. 1, спр. 1; ф. 3013, воп. 1, спр. 309, 337, 341, 345, 363, 1248, 1253, 1268; ф. 3014, воп. 1, спр. 7, 12, 20, 26, 29, 40, 90, 91, 92, 94, 95; ф. 3172, воп. 1, спр. 1; ф. 2998, воп. 1, спр. 1; ф. 3363, воп. 1, спр. 438.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 16, воп. 16, спр. 763а.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 30, воп. 5, спр. 6722; ф. 1290, воп. 11, спр. 1344, 1366.
Военно-историческое обозрение Российской империи. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Акты, относящиеся к истории западной России, собранные и изданные археографической комиссией. Т. 5. СПб., 1853.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 5 (1633—1699). СПб., 1855.
Исторические сведения о примечательнейших местах Белоруссии. СПб., 1855.
Сборник Муханова. М., 1856.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861. Могилев, 1861.
Акты, относящиеся к истории южной и западной России. Т. 1 (1361—1598). СПб., 1863.
Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 8. Мн., 1879.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—3. Могилев, 1884.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.

Волости и гмины. Могилевская губерния. Ч. 23. СПб., 1890.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовского-Русского государства. М., 1892.
Сборник императорского русского исторического общества. Т. 35. Ч. 1. СПб., 1892.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1895 год. Могилев, 1895.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 год.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 год. Мн., 1901.
Обзор Могилевской губернии за 1901 год. Могилев, 1902.
Вся Россия. М., 1902.
Обзор Могилевской губернии за 1904 г. Могилев. 1905.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1905—06 учебный год. Могилев, 1905.
Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Статистический обзор Могилевской губернии на 1905 год. Могилев, 1906.
Обзор Могилевской губернии за 1907 г. Могилев, 1908.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции за 1907—1908 гг. Могилев, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1908 г. Могилев, 1909.
Романов Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1911. Могилев, 1912.
Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 г. Могилев, 1916.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940.
Крестьянское движение в Беларуси после отмены крепостного права (1861—1862 гг.). Мн., 1959.
Пад сцягамі партыі. Гомель, 1959.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1961.
Полки идут на запад. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии. (1795—1861). Мн, 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1, Мн., 1974.
Нацистская политика геноцида... Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1988.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя. Мн., 1993.
Литовская метрика. (1427—1506). Кн. 5, Вильнюс, 1993.
Литовская метрика (1553—1567). Кн. 7, Вильнюс, 1996.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.



# ДОБРУШСКІ РАЁН

Утвораны 8.12.1926 г. ў складзе Гомельскай акр., уключаў 20 сельсаветаў. Ліквідаваны 4.8.1927 г. і адноўлены 12.2.1935 г. Размешчаны на У Гомельскай вобл., у межах Гомельскага Палесся. 25.12.1962 г. ў працэсе ўзбуйнення сельскіх р-наў у склад Добрушскага ўключаны Церахоўскі р-н. Пл. 1447 км$^2$, насельніцтва 44,4 тыс. чал. (2004 г.). Уключае 100 нас. пунктаў. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з раёна ў чыстыя месцы ў 1991—96 гг. перасялены 954 сям'і (2139 чалавек). Цэнтр — г. Добруш. Падзяляецца на 16 сельсаветаў, 1 пасёлак гарадскога тыпу (Церахоўка). На Пд мяжуе з Чарнігаўскай вобл. Украіны, на У — з Бранскай вобл. Расіі, на Пн — з Веткаўскім, на З — з Гомельскім р-намі. З карысных выкапняў вызначаюцца 2 радовішчы торфу (6,3 млн. т), 3 радовішчы цагельнай сыравіны (1,1 млн. м$^3$). Рэкі: Іпуць (прыток р. Сож) з прытокамі Харапуць і Няцёша, прыток Сажа — р. Вуць. На Пн — воз. Равучае. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. З мінеральных глеб 41,8% суглінкавых, 41,5% супясчаных, 16,7% пясчаных. Якасць ворных зямель 45 балаў, кармавых угоддзяў — 26, усіх с.-г. угоддзяў — 38 балаў. Пад лесам 20,4% тэр. Прамысловыя прадпрыемствы пераважна ў Добрушы і Церахоўцы. Пад сельгасугоддзямі каля 65% тэр. Асушана 9,1 тыс. га. Праходзяць чыгункі Гомель—Бранск, Гомель—Бахмач. 17 калгасаў, 4 саўгасы, лесапаляўнічая гаспадарка, 27 агульнаадукацыйных школ, 27 дашкольных устаноў, прафес.-тэхн. вучылішча, 29 клубных устаноў, 37 бібліятэк, 271 спарт. збудаванне, 10 бальніц, 2 паліклінікі, радзільны дом, 23 фельч.-акушэрскія пункты, 146 магазінаў.

**ДОБРУШ** — горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Добрушскага р-на, за 23 км на У ад Гомеля, 329 км ад Мінска, на р. Іпуць (прыток р. Сож). Чыг. станцыя на лініі Гомель—Унеча. Аўтадарогамі злучаны з Гомелем, Веткай, Церахоўкай і Навазыбкавам. 19,2 тыс. жыхароў (2004 г.). Ёсць геалагічнае агаленне — помнік прыроды рэсп. значэння; на У і З мяжуе з лесам (хвойнік, помнік прыроды мясц. значэння).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі 10—12 ст. (39 насыпаў, 3 км на Пн ад горада ва ўрочышчы Баравое Балота) і могільнік 10—12 ст. (14 насыпаў, 1,5 км на Пн ад горада, ва ўрочышчы Ракітня) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах Добруш вядомы з

*Папяровая фабрыка князя І.Ф.Паскевіча, пабудаваная ў 1871—72 гг.*



*Вежа папяровай фабрыкі ў г. Добруш.*



14 ст. З 1335 г. ў складзе ВКЛ, з 1500 г. ў Маскоўскай дзяржаве, з 1537 г. зноў у ВКЛ (у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., велікакняжацкая ўласнасць). У 1560 г. вёска ў Гомельскім старостве. У 1640-я г. сяло Дубруша: 9 дымоў, 3 службы, 15 валоў, 10 каней. Інвентар 1752 г. сведчыць, што жыхары займаліся не толькі земляробствам, але і рознымі промысламі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Добруш у складзе Рас. імперыі: у Гомельскай вол. Беліцкага (з 1852 г. — Гомельскага) павета Магілёўскай, з 1919 г. Гомельскай губ. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А. Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. ў горадзе 546 жыхароў. З 1815 г. дзейнічала Мікалаеўская царква. У 1816 г. 126 двароў. Горад быў цэнтрам Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка, у склад якой уваходзілі вёскі агульнай колькасцю 2006 двароў. З 1795 г. працавала палатняна-парусінавая мануфактура (у 1812 г. 60 рабочых). У той час гэта была самая буйная мануфактура ў Беларусі. Праз Добруш праходзіла паштовая дарога з Навазыбкава ў Беліцу. У 1841 г. збудавана мукамольня (18 рабочых), у 1860 г. завод па адліву катлоў, труб, каструль і інш. вырабаў. З 1842 г. працавала медзеплавільня (10 рабочых), з 1862 г. вінакурня. На р. Іпуць была пераправа-плаціна з 6 драўлянымі мастамі. У 1871—72 гг. збудавана папяровая ф-ка (буйнейшая ў Еўропе). У 1876 г. на фабрыцы адкрыты прыёмны пакой і аптэка. У 1882 г. фабрыка атрымала вышэйшую ўзнагароду Усерасійскай мастацка-прамысл. выставы — права змяшчаць на сваёй прадукцыі дзярж. герб. У 1877 г. ўстаноўлена тэлеграфная сувязь, паштовае аддз. пазней ператворана ў паштова-тэлеграфнае. Дзейнічалі самадзейны хор і духавы аркестр. Са здачай у эксплуатацыю 8.8.1887 г. чыг. лініі Гомель—Бранск дзейнічае чыг. станцыя. У нар. вучылішчы ў 1889 г. навучаліся 40 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак, а ў 1902 г. былі ўжо 2 нар. вучылішчы з агульнай колькасцю 286 вучняў. На папяровай фабрыцы ў 1889 г. пачала працаваць першая на Беларусі электрастанцыя. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 332 двары, 1784 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, 4 лаўкі, тракцір; у фальварку 30 двароў, 195 жыхароў, бальніца, царк.-прыходская школа, папяровая ф-ка. На чыг. станцыі 4 двары, 32 жыхары, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1898 г. мелася тэле-

*Будынак папяровай фабрыкі ў г. Добруш.*



фонная сувязь з Гомелем. З 1903 г. дзейнічала група РСДРП. У 1909 г. ў сяле 600 двароў, 2092 жыхары, 1808 дзес. зямлі, у фальварку 18 двароў, 132 жыхары, 5964 дзес. зямлі. У выніку пажару ў 1910 г. згарэлі 94 двары. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі выбраны Савет рабочых дэпутатаў. У жн. 1918 г. ў час ням. акупацыі Фёдараўскі і Пераростаўскі партыз. атрады занялі Добруш. У маі 1918 г. ням. камандаванне перадало Добруш разам з Гомельскім паветам Украіне. Сюды ўступілі гайдамакі гетмана Скарападскага. З выгнаннем немцаў былі выгнаны і гайдамакі. З 26.4.1919 г. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР. 8.12.1926 г. пераддзены БССР. З 8.12.1926 г. фабрычна-завадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 8.12.1926 — 4.8.1927 г. цэнтр Добрушскага с/с (ліквідаваны ў сувязі з утварэннем гарсавета). З 4.8.1927 г. горад (пры вызначэнні класіфікацыі населеных пунктаў БССР 27.9.1938 г. аднесены да гарадоў раённага падпарадкавання). У 1928 г. ў выніку пажару згарэла 56 двароў. У 1927 г. працавалі торфазавод, кравецкая і шавецкая майстэрні, кузня, млын, хлебапякарня. Пры папяровай фабрыцы дзейнічаў лесазавод. У 1932 г. арганізавана МТС. У пачатку Вял. Айч. вайны створаны атрад нар. апалчэння (на 1.8.1941 г. каля 500 чалавек, кіраўнік Чухламін). У сярэдзіне жн. 1941 г. ў лесе, на У ад Добруша, размяшчаўся штаб 28-га корпуса Чырвонай Арміі. З 22.8.1941 г. акупіравана ням.-фаш. войскамі. У кастр. 1941 г. на тэр. МТС карнікі загубілі 184 жыхароў, спалілі і расстралялі 19 актывістаў. З жн. 1941 г. да кастр. 1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (6 груп, больш за 70 чал., кіраўнікі Н.С.Кулікоў, Дз.М.Гладышаў, У.І.Агрызна, Г.А.Тычынскі, С.М.Веркін, Т.К.Панкоў). У баях за горад загінулі 363 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах на вул. Гагарына, на могілках на праспекце Луначарскага, на вул. Чырвонаармейскай). Былі разбураны і спалены многія важныя прамысл. і жылыя пабудовы. Вызвалены 10.10.1943 г. часцямі 48-й арміі Цэнтральнага фронта. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 7.3.1963 г. Добруш аднесены да гарадоў абл. падпарадкавання. У 1939 г. ў горадзе было 13,8 тыс., у 1970 г. — 16,8 тыс. чал. Працуюць папяровая ф-ка «Герой Працы», фарфоравы з-д (са снеж. 1978 г.), цэлюлозны з-д, хлебазавод, маслазавод, камбінат быт. абслугоўвання, райаграпрамтэхніка, райплемстанцыя, 4 сярэднія, 2 васьмігадовыя, пачатковая школы, гімназія, праф.-тэхн. вучылішча, гар. і раённы Дамы культуры, муз. і спарт. школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом школьнікаў, 3 кінатэатры, 3 б-кі, бальніца, аптэка, аддз. сувязі. Вядзецца радыёвяшчанне, выдаюцца раённая газета «Добрушскі край» (з 24.3.1935 г.) і шматтыражка «Бумажнік» (на папяровай фабрыцы «Герой Працы», з сак. 1924 г.).

Планіровачна горад складаецца з 2 падзеленых р. Іпуць частак. Забудова рэгулярная. Для грамадскага цэнтра характэрна кампактнае фарміраванне на аснове забудовы, якая гістарычна склалася з узведзенымі па перыметру грамадскімі будынкамі. Развіваецца горад у паўд. накірунку, дзе знаходзіцца чыг. станцыя, і паўн., адкуль адыходзяць дарогі да г. Веткі і в. Дзям'янкі. Ген. план забудовы Добруша распрацаваны Мінскім філіялам Цэнтральнага навук.-даследчага і праектнага ін-та горадабудаўніцтва. Уся забудова апошніх дзесяцігоддзяў мураваная, шматпавярховая. Радзіма ген.-м., Героя Савецкага Саюза І.А.Уласенкі (яго імем названа вуліца ў горадзе), Герояў Савецкага Саюза Ф.Я. Кухарава (яго імя носіць сярэдняя школа) і П.М.Бухонкі (яго імем названа вуліца ў горадзе), вучонага ў галіне земляробства і глебазнаўства, чл.-карэспандэнта АН БССР, доктара с.-г. навук, праф. М.Р.Чыжэўскага, контр-адмірала Г.І.Міхалікава, партызанкі Р.І.Шаршнёвай, удзельніка Добрушскага падполля

ў Вял. Айч. вайну Я.П.Петранкова (яго імя носіць адна з вуліц горада).

**АГАРОДНЯ-ГОМЕЛЬСКАЯ** – вёска ў Кармянскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Добруша, 12 км ад чыг. ст. Закапыцце (на лініі Гомель–Унеча), 45 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Харапуць) і аўтадарозе Кузьмінічы–Добруш. 48 гаспадарак, 98 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. З 1775 г. ў валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. – фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 146 жыхароў. У 1798 г. 240 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1816 г. 64 двары, у 1834 г. 95 двароў, 438 жыхароў. У 1848 г. 125 двароў. З 2-й пал. 19 ст. дзейнічалі хлебазапасны магазін, пенькатрапальная майстэрня. У 1881 г. 196 двароў, 583 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 410 двароў, 2398 жыхароў, 3 стараверчыя малітоўныя дамы, 3 пенькатрапальні, вятрак, цагельня, 20 лавак, 2 карчмы. У выніку пажару 15.6.1920 г. згарэла 38 двароў. У 1907 г. ў вясковай школе было 120 вучняў. У 1908 г. 2604 жыхары, 1462 дзес. зямлі, цэнтр Кармянскай вол. (да 9.5.1923 г.). З 1910 г. працаваў тэлеграф. У 8.12.1926 г. – 30.12.1927 г. цэнтр Агароднягомельскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік», працавалі паравы млын, 3 ветракі, конная крупарушка, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў вер. 1943 г. загінулі 37 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 786 жыхароў. У 1993 г. 104 двары, 150 жыхароў. У складзе калгаса «Абарона» (цэнтр – в. Карма). Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, бальніца, радзільны дом, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, сепаратарны пункт, швейная і шавецкая майстэрні. Планіровачна складаецца з працяглай і кароткай прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і пад прамым вуглом перакрыжаваных крыху выгнутай вуліцай. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы, засл. будаўніка БССР У.М.Кушнярова.



*Ц.Я.Кісялёў.*

**АГАРОДНЯ-КУЗЬМІНІЦКАЯ** – вёска ў Кармянскім с/с, за 45 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель–Унеча), на р. Чачора (прыток р. Харапуць) і аўтадарозе Кузьмінічы–Добруш. 119 гаспадарак, 239 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 452 жыхары. У 1816 г. 126 двароў, 489 жыхароў. Вёска хутка расла. У 1834 г. 918 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1837 г. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква. У 1858 г. 171 двор, ва ўладанні графа Паскевіча. З 1881 г. дзейнічала майстэрня па апрацоўцы скур. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 74 хлопчыкі і 5 дзяўчынак, у 1902 г. – 102 хлопчыкі і 22 дзяўчынкі. У 1886 г. 222 двары, 1221 жыхар, царква, 2 стараверчыя дамы, 6 ветракоў, 12 лавак, заезны двор. Паводле перапісу 1897 г. 324 двары, 1860 жыхароў, хлебазапасны магазін, 6 ветракоў, 3 крупарушкі, кузня, пенькатрапальня, карчма, у Кармянскай вол. Гомельскага пав. 7.6.1904 г. ў выніку пажару згарэла 75 двароў з надворнымі пабудовамі і 16 гумнаў. У 1908 г. 368 двароў, 2320 дзес. зямлі. У 1926 г. 522 двары, 2383 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Агародня-Кузьмініцкага с/с Добрушска-

га, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 1167 жыхароў. У складзе калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай і прамалінейнай вуліц, паралельных паміж сабой, амаль шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма дзярж. і парт. дзеяча, Героя Сац. Працы Ц.Я.Кісялёва (яго імем названа вуліца ў Мінску).

**АЛЬХОВАЕ** — вёска ва Усоха-Будскім с/с, за 45 км на ПдУ ад Добруша, 5 км ад чыг. ст. Лук'янаўка (на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач), 73 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 41 гаспадарка, 71 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 69 двароў, 370 жыхароў, аддз. сувязі, ва Усоха-Будскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. У складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Усохская Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНДРЭЕЎКА** — пасёлак ва Усоха-Будскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Добруша, 5 км ад чыг. ст. Мікалаеўка (на лініі Гомель—Мікалаеўка), 70 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 63 гаспадаркі, 110 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 118 двароў, 611 жыхароў, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Андрэеўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларусь», працавалі вятрак, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 15 мірных жыхароў. У баях за вёску ў вер. 1943 г. загінулі 2 воіны (пахаваны ў брацкай магіле, 0,5 км на ПнУ ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 389 жыхароў. У складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Усохская Буда). Планіровачна складаецца з 2 злучаных паміж сабой амаль шыротных вуліц (адна крыху выгнутая, другая прамалінейная). Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**АНТОНАЎ** (да 25.6.1938 г. Сырнік) — пасёлак у Вуцеўскім с/с, за 27 км на Пд ад Добруша, 3 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Мікалаеўка), 55 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 31 гаспадарка, 54 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 47 двароў, 227 жыхароў, паштовае аддз., у Вуцеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхары. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вуць). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Насовіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Добруша, 12 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Церахоўка), 23 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Церахоўка—Клімаўка. 181 гаспадарка, 464 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Антонавічы Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-х г. у інвентары Гомельскага староства пазначана як сяло, 4 дымы, 1 служба, 5 валоў, 4 кані, адна пустка — Мацвееўшчына. Упамінаецца і ў інвентары 1752 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітапй (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ.

1784 г. названа мястэчкам, значная частка зямель належала землеўладальніку Н.А.Барысаву. З 1819 г. дзейнічала Раствабагародзіцкая царква. У 1830 г. пачала працаваць вінакурня. У 1860 г. 68 двароў, 680 жыхароў, царква, 2 ветракі, вінакурны і піваварны з-ды. У 1880 г. 89 двароў. Гаспадар аднайменнага фальварка валодаў у 1882 г. 1217 дзес. зямлі. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 116 двароў, 771 жыхар, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. ў мястэчку 136 двароў, 812 жыхароў, 969 дзес. зямлі; у фальварку 27 жыхароў, 1217 дзес. зямлі. У 1926 г. 172 двары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Антонаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ударнік калгасаў», працавалі 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 100 двароў, загубілі 4 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 246 жыхароў. У 1964 г. да вёскі далучана суседняя в. Хабакоўка. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987—92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 100 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма ўдзельніка Гомельскага падполля ў Вял. Айч. вайну М.В.Піваварава (яго імем названа адна з вуліц Гомеля).

**АЧОСА-РУДНЯ** — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Мікалаеўка), 54 км ад Гомеля, на р. Ачоса (прыток р. Іпуць). Аўтадарога злучае вёску з Добрушам. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйным забруджаннем жыхары (65 сямей) пераселены ў 1900—92 гг. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1837 г. пабудавана мураваная царква. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Навазыбкава ў Беліцу. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ва ўладанні памешчыцы Ю.К.Даўгаполавай. Гаспадар аднайменнага фальварка валодаў тут 1881 дзес. зямлі і вадзяным млынам. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1885 г. 75 двароў, 455 жыхароў, вадзяны млын, заезны двор. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 85 двароў, 571 жыхар, карчма, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1901 г. пачала працаваць вінкурня (8 рабочых). У вясковай школе ў 1907 г. было 29 вучняў. У 1909 г. ў сяле 86 двароў, 543 жыхары, 1110 дзес. зямлі; у фальварку 14 жыхароў, 800 дзес. зямлі. У 1926 г. 124 двары, 601 жыхар, лаўка, паштовае аддз., пач. школа. На базе былога фальварка быў створаны саўгас. Дзейнічаў вінны завод. З 8.12.1926 г. да 8.1.1965 г. цэнтр Ачоса-Руднянскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. працавалі маслазавод, паравы млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1943 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 24 жыхары. У баі за вёску ў 1943 г. загінулі 17 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне). 131 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 911 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Кургоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пд, за ракой, невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу.

**БАРШЧОЎКА** — вёска, цэнтр Баршчоўскага с/с, за 40 км на ПдУ ад Доб-

руша, 11 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Мікалаеўка), 60 км ад Гомеля. На Пн мяжуе з урочышчам Асіннік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Леніна. 299 гаспадарак, 724 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяленне ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1776 г. 39 двароў, 322 жыхары, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 400 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1816 г. 129 двароў, 540 жыхароў, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 169 двароў, 896 жыхароў. У 1870 г. адкрыта Міхайлаўская царква, працавала крупарушка. Гаспадар аднайменнага маёнтка меў у 1873 г. 6797 дзес. зямлі. У 1885 г. 174 двары, 1057 жыхароў, 6 ветракоў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 197 двароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 252 двары, 1779 жыхароў, 2699 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. цэнтр Баршчоўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рух наперад», працавалі 3 ветракі, конная крупарушка, кузня, шорная майстэрня. Побач размяшчаўся саўгас «Пралетарый». У 1940 г. 415 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. карнікі спалілі 382 двары, загубілі 24, а ўсяго за час акупацыі 32 жыхары. У баі за вёску ў вер. 1943 г. загінулі 11 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 219 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1223 жыхары. У 1974 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Чырвоная Знаменка (не існуе). Цэнтр калгаса «Перамога». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін, швейная і шавецкая майстэрні. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, працяглай, шыротнай вуліцы, перакрыжаванай па цэнтру прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1990—92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 100 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма педагога Я.І.Зубарава (быў дырэктарам сярэдняй школы ў в. Яроміна), яго імем названа адна з вясковых вуліц.

У склад Баршчоўскага с/с уваходзілі да 1974 г. пас. Чырвоная Знаменка, да 1997 г. пас. Вясёлы (не існуюць).

**БЕРАЗНЯКІ** — пасёлак у Перарастаўскім с/с, за 13 км на ПдУ да раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 41 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васільеўка—Добруш. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і радыяцыйным забруджаннем жыхары пераселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары. Уваходзіў у склад калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Перарост). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЯРОЗКІ** — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 50 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў, злучаная з воз. Равучае. Транспартныя сувязі

па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марозаўка—Добруш. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі побач з вёскай паселішча верхнедняпроўскай культуры сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Беразцы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, вялікакняжацкая ўласнасць. У 1751 г. 10 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. 93 двары, 248 жыхароў, у 2 гаспадарках займаліся скарняжным промыслам, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 711 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 195 двароў, 1234 жыхары, 1353 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Бярозаўскага с/с Камарынскага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 жыхароў. 71 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 689 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Кругоўка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЁЎКА** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 31 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Ветка—Добруш. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 33 двары, 175 жыхароў, паштовае аддз., у Мар'інскім с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў. У складзе саўгаса «Добрушскі» (цэнтр — в. Рассвет). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАСІЛЬЕЎКА** — вёска, цэнтр Васільеўскага с/с, за 28 км на ПдУ ад Добруша, 10 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Унеча), 51 км ад Гомеля. Аўтадарога звязвае вёску з Добрушам. 344 гаспадаркі, 745 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (2 км на У ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяленне ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1775 г. 81 двор, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 560 жыхароў, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1795 г. 680 жыхароў, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1816 г. 179 двароў, 1024 жыхары, у 1834 г. 229 двароў, 1439 жыхароў. З 1868 г. дзейнічалі крупарушка, хлебазапасны магазін. У 1885 г. 278 двароў, 1730 жыхароў, царква (драўляная), 6 ветракоў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 330 двароў, царк.-прыходская школа, вінная лаўка, карчма. У 1909 г. 409 двароў, 2649 жыхароў, 3429 дзес. зямлі, у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. У 1911 г. адкрыта спажывецкае таварыства. Летам 1918 г., у час ням. акупацыі, вяскоўцы стварылі партыз. атрад (кіраўнікі браты Кажэкі), які змагаўся супраць герм. войск. 15.3.1920 г. створаны с.-г. кааператыў. У 1926 г. 1443 жыхары, паштовы пункт, пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, с.-г. таварыства. З 8.12.1926 г. цэнтр Васільеўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавалі торфаздабываючая арцель, 4 ветракі, конная крупарушка, кузня. У 1940 г. 520 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты спалілі 492 двары, загубілі 23 жыхары. Вызвалена

3.10.1943 г. У баях за вёску загінулі 29 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Садовай і ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 323 жыхары, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1968 г. па вул. Кастрычніцкай. Паводле перапісу 1959 г. 1582 жыхары. У 1972 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Ягаднае (не існуе). Цэнтр калгаса імя Ю.А.Гагарына. Размешчаны цагельня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц з 4 завулкамі, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Васільеўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1972 г. Ягаднае, да 1987 г. Арол, Чырвоны Рог (не існуюць).

**ВЕРБАЎ** — пасёлак у Івакаўскім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 42 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 28 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 58 двароў, 249 жыхароў, у Івакаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе саўгаса «Івакі» (цэнтр — в. Івакі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕСЯЛОЎКА** — вёска ў Кругавец-Калінінскім с/с, за 49 км на ПдУ ад Добруша, 6 км ад чыг. ст. Кругавец (на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач), 66 км ад Гомеля, на З мяжуе з урочышчам Круглае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 31 гаспадарка, 44 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1880 г. 81 двор, 533 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 101 двор, 626 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 708 жыхароў, 931 дзес. зямлі, млын, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. З 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз., пач. школа, у Кругавец-Калінінскам с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калагс ім В.М.Молатава, працавалі вятрак, конная крупарушка, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары. У 1974 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Гарадок (не існуе). У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Кругавец-Калініна). Ёсць клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой з ПдУ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма засл. лесавода Беларусі П.К.Мацвеенкі.

**ВУЦЬ** — вёска, цэнтр Вуцеўскага с/с, за 28 км на Пд ад Добруша, 2 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 56 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 327 гаспадарак, 852 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча пад назвай Гарадок (на паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе ракі) сведчыць пра засяленне гэтых месц з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, вялікакняжацкае ўладанне. У 1640-я г. паводле інвентару Гомельскага старроства с. Вутва, 6 дымоў, 3 службы, 7 валоў, 5 коней. Пасля 1-га падзелу Рэчы

Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 77 двароў, Свята-Мікалаеўская царква, вадзяны млын, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 566 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1798 г. капітальна адрамантавана царква. 13.1.1810 г. адкрыта царк.-прыходскае вучылішча. У 1816 г. сяло, 186 двароў, 916 жыхароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 224 двары, 1304 жыхары. У 1868 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін і крупарушка. У 1880 г. 1435 жыхароў, 4 Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З пабудовай чыг. Гомель—Ромны (1874 г.) значная частка вяскоўцаў працавала на чыгунцы. У 1886 г. 267 двароў, 1578 жыхароў, 4 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 298 двароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 360 двароў, 2540 жыхароў, 3595 дзес. зямлі, школа, царква, вінная лаўка, млын. З 8.12.1926 г. цэнтр Вуцкага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Цэрахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгасы «Бальшавік», «Асаавіяхім», «Высокі хутар»; працавалі 3 ветракі, 2 конныя крупарушкі, 4 кузні. У Вял. Айч. вайну 23.9.1943 г. ням. акупанты спалілі 213 двароў і загубілі 12 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 331 зямляк, памяць аб якіх ушаноўваюць абеліск, стэла і 2 пліты з імёнамі загінуўшых. Цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай і 2 кароткіх, паралельных паміж сабой, шыротных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. І.Ф.Абушэнкі.



*П.Х.Басянкоў.*

**ВЫЛЕВА** — вёска ў Дзям'янаўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 48 км ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож) і аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш; на ПдУ мясцовы тарфяны заказнік. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем жыхары (102 сям'і) пераселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Выяўленыя археолагамі гарадзішча мілаградскай (7—3 ст. да н.э. і 2 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.) культур (на ўсх. ускраіне вёскі, на левым беразе ракі, ва ўрочышчы Часнакова Балота) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1640-я г. ўпамінаецца ў інвентары Гомельскага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 26 двароў, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 156 жыхароў. У 1816 г. 50 двароў, 189 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. З 1830 г. дзейнічала царква. У 1834 г. 55 двароў, 249 жыхароў. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Навазыбкава ў Беліцу. У 2-й пал. 19 ст. адкрыты хлебазапасны магазін і нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 35 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1883 г. 68 двароў, 382 жыхары, 2 ветракі. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.) Беліцкага, з 1852 г. Гомельскага пав. Магілёўскай (з 1919 г. Гомельскай) губ. У 1876 г. маёнтак Вылева набыў член Дзярж. савета М.М.Герард. У склад воласці ў 1890 г. уваходзілі 29 сяленняў з агульнай колькасцю 1794 двары. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 655 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, вятрак, вадзяны млын, цагельня, лаўка. У 1908 г. 111 двароў, 735 жыхароў, 1307 дзес. зямлі. У 1926 г. 165 двароў, 749 жыхароў, паштовае аддз., 4-гадовая школа, лячэбны пункт. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Вылеўскага с/с Вет-



*Царква ў в. Вылева.*

каўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 65 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 524 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Молат» (цэнтр — в. Дзям'янкі). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (па абодвух баках аўтадарогі). Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза П.Х.Басянкова (яго імем названы вуліцы ў Гомелі і Добрушы), бел. паэта Паўлюка (Паўла Кузьміча) Пранузы, засл. артыста БССР М.М.Шышкіна і бел. мастака М.А.Гатальскага.

**ВЫСАКАПОЛЛЕ** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 39 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Гомель—Кузьмінічы. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 21 двор, 104 жыхары, у Навапуцеўскім с/с. У 1923 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе саўгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Ігаўка). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай кароткай, амаль шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫСОКІ ХУТАР** — пасёлак у Цэрахоўскім пасялковым савеце, чыг. ст. Прудоўка (на лініі Гомель—Мікалаеўка), за 27 км на Пд ад Добруша, 35 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цэрахоўка—Гомель. 64 гаспадаркі, 162 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 82 двары, 444 жыхары, аддз. сувязі, у Вуцеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 81 двор. Паводле перапісу 1959 г. 417 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Цэрахоўка). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж чыгункі), да якой з ПдЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — пасёлак у Дзям'янкаўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 48 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем жыхары (35 сямей) перасялены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 17 двароў, 89 жыхароў, у Дзям'янкаўскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў. Уваходзіў у склад к-са «Молат» (цэнтр — в. Дзям'янкі). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы. Забудавана двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЛАЕ** — пасёлак у Кузьмініцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Добруша, 17 км ад чыг. ст. Цэрахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 58 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чырвоны Партызан — Добруш. 40 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-я гг. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 577 жыхароў. Побач радовішча торфу з агульнымі запасамі 5,6 млн. т і вытворчы ўчастак торфапрадпрыемства «Бальшавік». Ёсць сярэдняя школа і клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРДУНЫ** — вёска ў Вуцеўскім с/с, за 30 км на Пд ад Добруша, 5 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 35 км ад Гомеля, на Пн р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 160 гаспадарак, 302 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (0,8 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе ракі) сведчыць пра засяленне гэтых мясц з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Цэнтр староства, у якое ўваходзілі 4 вёскі з 177 гаспадаркамі. Належала памешчыцы Жаркавіцкай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1789 г. дзейнічала Троіцкая царква (у 1866 г. рамантавалася). У аднайменным маёнтку ў 1844 г. было 2513 дзес. зямлі. У 1861 г. ў вёсцы адбыліся сял. хваляванні, абумоўленыя прыцясненнямі памешчыка, для падаўлення якіх быў выкліканы вайсковы атрад. У 1883 г. 180 двароў, 999 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 239 двароў, 1685 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1908 г. ў сяле 263 двары, 1258 дзес. зямлі і ў маёнтку 2132 дзес. зямлі. У 1926 г. 279 двароў, паштовае аддз., пач. школа, аддз. спажывецкай кааперацыі. З 8.12.1926 г. да 8.12.1966 г. цэнтр Гардуноўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-на Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У студз. 1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», дзейнічалі плодаагароднінасушыльны з-д, конная крупарушка, 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 370 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. карнікі спалілі 366 двароў, загубілі 16, усяго за час акупацыі 32 жыхароў. Вызвалена 26.9.1943 г. У баі за вёску загінулі 8 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 201 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1109 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вуць). Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да адной з якіх далучаюцца шыротная, і другая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Адасоблена на Пн размяшчаецца яшчэ адна прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма братоў К.Г. і М.Г.Крычаўцовых, якія разам з ураджэнцам в. Урыцкае Гомельскага р-на Е.Г.Крычаўцовым склалі танкавы экіпаж, што вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў. Імем братоў Крычаўцовых названа вуліца ў в. Барок Гомельскага р-на.

**ГРУШАЎКА** — пасёлак у Церахоўскім пасялковым савеце, за 33 км на ПдУ ад Добруша, 4 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 54 гаспадаркі, 76 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 44 двары, 246 жыхароў, паштовае аддз., у Церахоўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Церахоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗМІТРАЎКА** — пасёлак у Дубраўскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Добру-

ша, 10 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 58 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 38 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 35 двароў, 185 жыхароў, 146 га зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 340 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоная Буда). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЗЯМ'ЯНКІ** — вёска, цэнтр Дзям'янкаўскага с/с, за 21 км на ПнУ ад Добруша, 24 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 49 км ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож); на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпуць. Аўтадарога злучае вёску з Добрушам. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча 12—13 ст. (1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Асавец), стаянка эпохі неаліту (0,8 км на ПдУ ад вёскі) і стаянка бронзавага і ранняга жалезнага вякоў (0,7 км на ПдУ ад вёскі) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Дзям'янавічы, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-я г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, 10 дымоў, 5 службаў, 18 валоў, 15 коней. У 1751 г. ва ўладанні кн. М.Чартарыйскага; дзейнічала служба па збору баршчыны і падаткаў. У сёлах Дзям'янкі і Бярозкі ў гэты час было 10 «дымоў». Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 82 двары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. З 1862 г. дзейнічала вінакурня, з 1870 г. працаваў хлебазапасны магазін. Гаспадар аднайменнага маёнтка, што быў побач, меў у 1876 г. 3654 дзес. зямлі. У 1884 г. 138 двароў, 753 жыхары, 2 ветракі, заезны дом. Вотчына члена Дзярж. Савета, генерал-губернатара Фінляндыі (1903—1906 гг.) М.М.Герарда. У канцы 19 ст. на паўд.-зах. ускраіне пабудаваны сядзібны мураваны дом М.М.Герарда (зараз помнік архітэктуры). Паводле перапісу 1897 г. 180 двароў, 1164 жыхары, царк.-прыходская школа, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 195 двароў, 1251 жыхар, 1353 дзес., у фальварку 1904 дзес. зямлі. У выніку пажару ў 1909 г. згарэла 36 двароў. У 1926 г. 265 двароў, 1312 жыхароў, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Дзям'янкаўскага с/с Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Молат» і «Піянер», працавалі вятрак (з 1917 г.), 2 кузні, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 мірных жыхароў. У баях за вёску загінулі 136 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 218 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1970 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1063 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Нізок, у 1974 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Пчолкі. Цэнтр калгаса «Молат». Размешчаны цагельня, швейная майстэрня, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн. (2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, якія на Пн далучаюцца да прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, а на Пд злучаны завулкам) і паўд. (былы пас. Нізок, кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца кароткая, амаль шыротная вуліца). Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.Дз.Кажамякіна і бел. мастачкі Л.М.Гатальскай.

У склад Дзям'янкаўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1962 г. Нізок, да 1974 г. Пчолкі (не існуюць).

**ДУБЕЦКАЕ** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 18 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 46 км ад Гомеля, на аўтадарозе Санькова—Добруш; вакол лес. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забрудажаннем жыхары перaселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 512 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з кампактнай квартальнай забудовы драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБОВЫ ЛОГ** — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 43 км ад Гомеля, на р. Спонка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. 112 гаспадарак, 304 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі 6 стаянак эпохі неаліту, каменнага і бронзавага вякоў (1,5—3 км на Пд і ПдЗ ад вёскі) сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., дзе пасяліліся стараверы з Расіі. У 1764 г. вайсковы атрад на чале з генералам Маславым выслаў усіх жыўшых тут старавераў у Сібір. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1795 г. 111 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1816 г. 60 двароў, 191 жыхар, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 73 двары, 447 жыхароў. Меліся 2 часоўні. Паводле інвентару 1886 г. 126 двароў, 775 жыхароў. Паводле перапісу 1879 г. 173 двары, 971 жыхар, стараверскі малітоўны дом, царк.-прыходская школа, 2 хлебазапасныя магазіны, 2 ветракі, лаўка. У 1909 г. 197 двароў, 1060 жыхароў, 2238 дзес. зямлі, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Дубаваложскага с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барэц рэвалюцыі»; працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 181 двор і загубілі 1 жыхара. Вызвалена 29.9.1943 г. У баі за вёску загінулі 15 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 180 земляkoў, памяць аб якіх ушаноўваюць абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Дружба» раённага аб'яднання «Сельгасхімія». Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2-х паралельных паміж сабой, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ вуліц, злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма кандыдата фізіка-матэматычных навук, праф. С.А.Русакова.

**ДУБРАЎКА** — вёска, цэнтр Дубраўскага с/с, чыг. прыпынак Машок (на вятцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Унеча), 69 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Добруш. 130 гаспадарак, 223 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяленне ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1776 г. 21 двор, 153 жыхары, карчма, у валоданні

фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 187 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1798 г. 240 жыхароў. У 1816 г. 57 двароў, 296 жыхароў, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 75 двароў, 416 жыхароў. У 1885 г. 89 двароў, 588 жыхароў, 3 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 104 двары, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У жн. 1918 г. ў час герм. акупацыі каля вёскі дзейнічаў партыз. атрад, які пазней заняў вёску. У 1926 г. 482 жыхары, паштовае аддз., пач. школа. З 8.12.1926 г. цэнтр Дубраўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырванаполле»; працавалі 2 кузні, ветрак, маслазавод (з 1932 г.). У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ням. акупанты часткова спалілі вёску. Вызвалена 25.9.1943 г. У баях за вёскі Дубраўка і Чырвоная Буда ў вер. 1943 г. загінулі 20 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Савецкай). Паводле перапісу 1959 г. 453 жыхары. У 1964 г. да вёскі далучаны пас. Чырванаполле. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоная Буда). Размешчаны 10-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2-х паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Савецкага Саюза М.Ф.Талкачова.

У склад Дубраўскага с/с да 1964 г. ўваходзіў пас. Чырванаполле (не існуе).

**ДУДАРАВА** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 23 км ад Гомеля; на Пд, У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гомель—Бранск. 36 гаспадарак, 85 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Ларышчаўскім с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр.: 40 двароў, 210 жыхароў, паштовае аддз. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 152 жыхары. У складзе саўгаса «Добрушскі» (цэнтр — в. Рассвет). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖГУНЬ** — вёска, цэнтр Жгунскага с/с, за 12 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 28 км ад Гомеля, на р. Жгунь (прыток р. Харапуць) і аўтадарозе Церахоўка—Добруш. 530 гаспадарак, 1357 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганы жалезнага веку сведчаць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 66 двароў, карчма, вадзяны млын; належала фельдмаршалу графу П.А.Румянцаву-Задунайскаму, з 1834 г. — фельдмаршалу графу І.Ф.Паскевічу. У 1795 г. 443 жыхары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 101 двор, 508 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 114 двароў, 714 жыхароў, у 1858 г. 155 двароў, 865 жыхароў. У 1865 г. збудавана Успенская царква, адкрыты хлебазапасны магазін. У 1886 г. 207 двароў, 1261 жыхар. У вясковай школе ў 1889 г. навучаліся 70 хлопчыкаў, у 1902 г. 96 хлопчыкаў і 37 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 270 двароў, 2112 жыхароў, 5 ветракоў, кузня, 2 лаўкі, карчма, у Кармянскай вол. Гомельскага пав. У 1905 г. пажарам знішчана 25 двароў. У 1909 г. 364 двары, 2325 дзес. зямлі. Летам 1918 г., у час герм. акупацыі, вяскоўцы стварылі партыз. атрад (камандзір М.Пракапцоў), які змагаўся супраць ням. войск. У 1919 г.

арганізавана с.-г. арцель. У 1926 г. 467 двароў, 2354 жыхары, пач. школа, хата-чытальня. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. і з 2.9.1975 г. цэнтр Жгунскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас, працавалі 8 ветракоў і торфаздабываючая арцель. У 1940 г. 505 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 504 двары і загубілі 12 жыхароў. Вызвалена 26.9.1943 г. У баях за вёску ў вер. 1943 г. загінулі 65 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Савецкай). Паводле перапісу 1959 г. 1121 жыхар. Цэнтр племяннога з-да «Жгунскі». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх з Пн далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя завулкам. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987—92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 178 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Адна з вуліц носіць імя У.А.Гунева, аднаго з арганізатараў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну. Радзіма Героя Сац. Працы Л.З.Сцяпуковай, удзельніка вызвалення Беларусі ў Вял. Айч. вайну, камандзіра артыл. брыгады Ф.К.Жаўнова (яго імем названа адна з вясковых вуліц).

**ЖГУНСКАЯ БУДА** — вёска ў Жгунскім с/с, за 10 км на Пд ад Добруша, 4 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Бахмач), 27 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цярахоўка—Добруш. 283 гаспадаркі, 589 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1798 г. 247 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1816 г. 107 двароў, 339 жыхароў, у 1834 г. 140 двароў, 689 жыхароў. Частку жыхароў складалі стараверы, мелася часоўня. У 1886 г. 173 двары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 320 двароў, 1534 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі, карчма, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 358 двароў, 1858 жыхароў, 2822 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 2.9.1975 г. цэнтр Жгунскабудскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі вятрак, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты часткова спалілі вёску. Вызвалена 10.10.1943 г. У баях за вёску загінулі 55 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 134 землякі, памяць аб якіх ушаноўваюць 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1977 г. Паводле перапісу 1959 г. 1438 жыхароў. У складзе племзавода «Жгунскі» (цэнтр — в. Жгунь). Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 частак: усх. (кароткія прамалінейныя вуліцы рознай арыентацыі) і зах. (да працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца з З адна кароткая прамалінейная вуліца і 2 завулкі). Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака, кандыдата мастацтвазнаўства У.І.Пракапцова.

**ЗАВІДАЎКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 50 км на ПдУ ад Добруша, 5 км ад чыг.

ст. Кругавец (на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач), 73 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Расіяй. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 69 гаспадарак, 116 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1866 г. збудавана Успенская царква, працавала майстэрня па апрацоўцы аўчын. У 2-й пал. 19 ст. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 43 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1886 г. 182 двары, 1091 жыхар, 3 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 205 двароў, 1108 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка, сяло ў Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 1190 жыхароў, 2198 дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Завідаўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавалі 3 ветракі, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 739 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Леніна). Размешчаны 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 крыху выгнутых, амаль паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЙЦАВА** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 13 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 41 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Побач аўтадарога Гомель—Вышкаў. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 20 двароў, 103 жыхары, у Селішчанскім с/с. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. У складзе калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн раздвойваецца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАКАПЫЦЦЕ** — пасёлак і чыг. станцыя (на лініі Гомель—Унеча), у Кармянскім с/с, за 12 км на У ад Добруша, 37 км ад Гомеля; вакол лес, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дубецкае—Добруш. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем жыхары перасЕлены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Са здачай у эксплуатацыю чыг. лініі Гомель—Унеча ў жн. 1887 г. пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд, а пазней — чыг. станцыя. Мелася аддз. паштовай сувязі. У 1926 г. 8 двароў, 38 жыхароў. Непадалёку была аднайменная лясная старожка, 4 двары, 17 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Вызвалены 28.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар. Уваходзіў у склад калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Дзейнічаў магазін. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 2 км на Пн ад Добруша, 4 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 30 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Дзям'янкі—Добруш. 113 гаспадарак, 330 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 29 двароў, 161 жыхар, паштовае аддз., у Чарацянскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1972 г. у пасёлак перасялілася частка жыхароў пас. Селязнёўка (не існуе). У складзе саўгаса «Добрушскі» (цэнтр — в. Рассвет). Размешчаны дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалiней-

най вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з рэдкай драўлянай забудовай.

**ЗАПРУДОЎКА** – вёска ў Насовіцкім с/с, за 13 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель–Унеча), 18 км ад Гомеля, на р. Прудок (прыток р. Вуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цярахоўка–Гомель. 65 гаспадарак, 108 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 2-й пал. 19 ст. (не пазней 1884 г.) адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 98 двароў, 768 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. вяскоўцы валодалі 605 дзес. зямлі, дзейнічаў млын. У 1926 г. 112 двароў, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Запрудаўскага с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», працавалі 3 ветракі, 2 конныя крупарушкі. У 1940 г. 125 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі. Паводле перапісу 1959 г. 490 жыхароў. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр – в. Насовічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. літаратуразнаўцы Л.Я.Цімашковай, засл. настаўніка Беларусі В.І.Барысавец.

**ЗАРАДЗВІННЕ** – пасёлак у Вуцкім с/с, за 30 км на Пд ад Добруша, 4 км ад чыг. ст. Цярахоўка (на лініі Гомель–Бахмач), 38 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цярахоўка–Гомель. 37 гаспадарак, 69 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 44 двары, 236 жыхароў, паштовае аддз., у Вуцеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр – в. Вуць). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗНАМЯ** (да 30 ліп. 1964 г. Быкі) – вёска ў Кузьмініцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель–Унеча), 52 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васільеўка–Добруш. 43 гаспадаркі, 59 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ва ўладанні М.Чартарыйскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентара Гомельскага маёнтка 1776 г. 22 двары, 170 жыхароў, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1788 г. 220 жыхароў, у 1795 г. 242 жыхары, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1816 г. 55 двароў, 276 жыхароў. У 1834 г. 391 жыхар. З 1879 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабу цукру. У 1884 г. 82 двары, 539 жыхароў, вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 92 двары, 473 жыхары, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 104 двары, 709 жыхароў, 943 дзес. зямлі, школа. Побач быў аднайменны фальварак. У 1926 г. 118 двароў, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Быкаўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Цярахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавалі цагельня, кузня. У 1940 г. 149 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 120 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 415 жыхароў. У 1972 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Ягаднае. У складзе калгаса «Зара камунізму» (цэнтр – в. Кузьмі-

нічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных і паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкам і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ІВАКІ** (да 1964 г. Новыя Івакі і Старыя Івакі) — вёска і чыг. станцыя на лініі Гомель—Бахмач, цэнтр Івакаўскага с/с, за 27 км на Пд ад Добруша, 40 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 447 гаспадарак, 1160 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (137 насыпаў, 0,7 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як в. Івакі ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. З сярэдзіны 18 ст. ва ўладанні М.Чартарыйскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана ў складзе Вуцеўскага царк. прыхода. Паводле інвентару Гомельскага маёнтка 1776 г. ў в. Івакі 41 двор, 315 жыхароў, карчма, у слабадзе Івакі 22 двары, 200 жыхароў, карчма. Пазней яны сталі звацца Старыя Івакі і Новыя Івакі. У 1788 г. ў в. Старыя Івакі 286, у в. Новыя Івакі 172 жыхары, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ., у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1816 г. ў Старых Іваках 80 двароў, 387 жыхароў, у Новых Іваках 46 двароў, 238 жыхароў, у складзе Каранёўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У Старых і Новых Іваках паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 153 двары, 788 жыхароў. У 1872 г. збудавана Святаціханаўская царква. Са здачай у эксплуатацыю чыг. лініі Гомель—Бахмач (снеж. 1873 г.) працуе чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. сяло Старыя Івакі (142 двары, 547 жыхароў, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма) і в. Новыя Івакі (60 двароў, 232 жыхары, хлебазапасны магазін), у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. у Старых Іваках 192 двары, 1182 жыхары, 1308 дзес. зямлі, у Новых Іваках 68 двароў, 486 жыхароў, 572 дзес. зямлі. У 1910 г. ў в. Новыя Івакі адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце. У 1926 г. працавала паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 8.12.1966 г. цэнтр Івакаўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай акр. (да 26.7.1930 г.), з 15.1.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічаў саўгас, у 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Івакі», працавалі 3 ветракі, 2 кузні. У 1938 г. да вёскі далучаны суседнія пасёлкі Жабалаўка, Задулле, Зарэчча, у 1964 г. — Імагорск і ў 1969 г. Халімонаўка. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі сяло і вёску. Вызвалена 26.9.1943 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 147 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1974 г. ў цэнтры вёскі, каля выканкома сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. у в. Старыя Івакі 810, у в. Новыя Івакі — 201 жыхар. У 1964 г. Старыя Івакі і Новыя Івакі аб'ядналіся ў адну вёску Івакі. Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, перакрыжаванай чыг.



*Курганны могільнік каля в. Івакі.*

прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаецца другая вуліца. На Пн ад усх. часткі галоўнай вуліцы праходзіць кароткая шыротная вуліца (былы пас. Зарэчча). Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 100 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сав. Саюза М.А.Халяўкі і кавалера ордэнаў Славы 3-х ступеней Р.А.Аднавочкі.

У склад Івакаўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1938 г. Задулле, Зарэчча, Жабалаўка, да 1964 г. Імагорск, да 1969 г. Халіманаўка (не існуюць).

Каля вёскі ёсць радовішчы гліны.

**ІВАНПОЛЛЕ** — пасёлак у Вуцеўскім с/с, за 27 км на Пд ад Добруша, 6 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 35 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Церахоўка—Гомель. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 43 двары, 231 жыхар, у Гардуноўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Паўднёвы», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. 3 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 261 жыхар. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вуць). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ІГАЎКА** — вёска ў Рассветаўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш, 30 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Чырвоны Партызан — Добруш. 207 гаспадарак, 601 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Гомельскім пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальварак Ігаўка (ён жа Пятроўск), 34 жыхары, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 2046 дзес. зямлі, у Кармянскай вол. Гомельскага павета. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 74 двары, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 79 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць 2 пілоны і стэла з дошкамі, на якіх нанесены імёны загінуўшых, пастаўленыя ў 1971 г. на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары. У 1974 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседніх пасёлкаў Ляскі-1 і Ляскі-2, у 1976 г. — Зара Новай Жызні. Цэнтр агракамбіната «Новы шлях». Размешчаны міжгаспадарчая аграхімлабараторыя, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАВАЛЁЎ** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Добруша, 8 км ад чыг. ст. Церуха (на лініі Гомель—Чарнігаў), 29 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Маркавічы—Гомель. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (1999 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 6 двароў, 30 жыхароў, у Антонаўскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 32 двары. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**КАЛОДДЗЕ** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 46 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Транспартныя

сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Кузьмінічы—Добруш. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем жыхары (3 сям'і) перaселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 26 двароў, 131 жыхар, у Кармянскім с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Абарона» (цэнтр — в.Карма). Драўляныя сялянскія сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**КАРМА** — вёска, цэнтр Кармянскага с/с, за 17 км на ПдУ ад Добруша, 12 км ад чыг. ст. Закапыцце (на лініі Гомель—Унеча), 45 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць) і аўтадарозе Кузьмінічы—Добруш. 526 гаспадарак, 1179 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, вялікакняжацкая ўласнасць. У 1640-я г. сяло, 5 дымоў, 2 службы, 4 валы, 4 кані. З сярэдзіны 18 ст. ва ўладанні М.Чартарыйскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці ў Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай, з 1919 г. Гомельскай губ. У 1775 г. 108 двароў, 854 жыхары, Свята-Пакроўская царква, карчма, плаціна на р. Харапуць і вадзяны млын, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1795 г. 956 жыхароў. У 1801 г. замест састарэлай збудавана новая драўляная царква. У 1811 г. 224 двары. У 1816 г. 815 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1832 г. ў цэнтры сяла ўзведзены мураваны будынак царквы. У 1834 г. 1152 жыхары. Дзейнічала нар. вучылішча, у якім у 1889 г. навучаліся 79 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, у 1902 г. 106 хлопчыкаў і 15 дзяўчынак. У 1886 г. 261 двор, 1767 жыхароў. Працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 375 двароў, 2612 жыхароў, фельчарскі пункт, аптэка, 5 ветракоў, 2 крупарушкі, 2 кузні, 2 цагельні, 2 лаўкі, карчма. У 1909 г. 506 двароў, 3310 жыхароў, 4949 дзес. зямлі. У выніку пажару ў 1908 г. згарэлі 29, у 1909 г. 75 двароў і 30 гумнаў. У час ням. акупацыі ў 1918 г. у баях супраць герм. войск загінулі 8 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У 1926 г. 620 двароў, 2996 жыхароў, паштовае адз., лячэбны пункт, школа, хата-чытальня, ветэрынарны ўчастак, аддз. спажывецкай кааперацыі. З 8.12.1926 г. цэнтр Кармянскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 12.02.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Абарона». У 1940 г. 680 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. і вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 640 двароў і загубілі 17 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі ў вер. 1943 г. загінулі 10 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 360 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1975 г. па вул. Кірава. Паводле перапісу 1959 г. 2247 жыхароў. Цэнтр калгаса «Абарона». Размешчаны майстэрня бытавога



*І.П.Шамякін.*



*Помнік землякам у в. Карма.*

абслугоўвання, сярэдняя школа, Палац культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з дзвюх частак: зах. (2 паралельныя паміж сабой шыротныя вуліцы) і ўсх. (2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, злучаныя кароткай вуліцай). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 59 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сав. Саюза ген.-лейт. А.Дз.Царашкова (яго імя носяць школа і вуліцы ў вёсцы і ў Добрушы), нар. пісьменніка Беларусі, акадэміка НАН Беларусі, Героя Сац. працы, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР і Дзярж. прэміі БССР І.П.Шамякіна, бел. кінарэжысёра М.А.Калініна, бел. мастака Я.М.Шаўчэнкі.

**КРУГАВЕЦ-КАЛІНІНА** (да 1920 г. Кругавец) — вёска, цэнтр Кругавец-Калінінскага с/с, за 46 км на ПдУ ад Добруша, 3 км ад чыг. ст. Кругавец (на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач), 61 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 402 гаспадаркі, 1050 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1815 г. пабудавана драўляная царква. У 1848 г. 106 двароў, ва ўладанні памешчыцы Е.І.Савіцкай. У 2-й пал. 19 ст. (не пазней 1884 г.) пачалі дзейнічаць хлебазапасны магазін, нар. вучылішча (у 1889 г. 78 вучняў). У 1886 г. 166 двароў, 1172 жыхары, царква, 2 лаўкі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 233 двары, 1317 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, 3 лаўкі, карчма, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 2729 дзес. зямлі. У 1926 г. сяло Кругавец і сяло Калініна, паштовае аддз., школа, у Кругавец-Калінінскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акругі. З 8.12.1926 г. цэнтр Кругавец-Калінінскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны 2 калгасы, працавалі 4 ветракі, конная крупарушка, 2 кузні, алейня. У 1930-я г. сёлы аб'яднаны ў адзіны населены пункт. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску. Вызвалена 25.9.1943 г. У баях за вёску загінулі 27 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 222 землякі, памяць аб якіх ушаноўваюць 4 стэлы і мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1964 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 557 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, музей Дружбы народаў, аддз. сувязі. У 1980-я г. пабудавана мураваная царква. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнУ далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма доктара с.-г. навук, праф. Ф.П.Майсеенкі.



*Помнік Дружбы каля в. Кругавец-Калініна.*

У склад Кругавец-Калінінскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1969 г. Круглы, да 1974 г. Гарадок (не існуюць).

**КРУГОЎКА** – вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Добруша, 27 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 54 км ад Гомеля, на р. Ачоса (прыток р. Іпуць), на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Гаспадар аднайменнага фальваркa, што быў побач, меў у 1857 г. 126 дзес. зямлі і вятрак. У 1881 г. 86 двароў, 217 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 109 двароў, 727 жыхароў, вятрак. У 1909 г. 887 дзес. зямлі, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 122 двары, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. і з 8.1.1965 г. да 1987 г. цэнтр Кругоўскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 26.9.1943 г. ням. акупанты спалілі 86 двароў, загубілі 12 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 380 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 464 жыхары. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, млын, рамонтная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, бальніца, аддз. сувязі, 2 магазіны. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

У склад Кругоўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1969 г. Кашуба, да 1987 г. Вална і Падравучае (не існуюць).

**КРЫНІЧНЫ** – пасёлак у Цэрахоўскім пасялковым савеце, за 28 км на ПдУ ад Добруша, 4 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 56 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 34 гаспадаркі, 52 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 51 двор, 283 жыхары, у Церахоўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акругі. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр – в. Церахоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУЗЬМІНІЧЫ** – вёска, цэнтр Кузьмініцкага с/с, за 30 км на ПдУ ад Добруша, 16 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 56 км ад Гомеля, 2,5 км ад дзярж. мяжы з Расіяй, на аўтадарозе Чырвоны Партызан—Добруш; на У меліярацыйны канал. 169 гаспадарак, 392 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска Кузьмічы ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 1640-я г. ў інвентары Гомельскага староства пазначана як баярскае сяльцо, з якога сума плацяжоў у казну складала 4 капы, 16 грошай і 4 пенязі. Дзейнічала Раства-Багародзіцкая царква. У 1751 г. ва ўласнасці памешчыка, які валодаў землямі, вядомымі пад назвай востраў Кузьмініцкі. Дзейнічала служба па збору баршчыны і падаткаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А. Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. – фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 1196 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1795 г. 1438 жыхароў, 2628 дзес. зямлі, 2 царквы. На парусінавым прадпрыемстве, якое дзейнічала ў сяле, у 1797 г. выраблена 72 тыс. аршынаў тканіны. У 1815 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1816 г. сяло (189 двароў) і слабада (53 двары), у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1838 г. ў сяле 200 двароў. У 1876 г. пачалі працаваць цукровы з-д,

хлебазапасны магазін. У выніку пажару 31.8.1883 г. згарэлі пабудовы 80 двароў. Паводле інвентару 1886 г. 245 двароў, 1321 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 288 двароў, 1548 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі, карчма, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 310 двароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Кузьмініцкага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, дзейнічалі торфаздабываючая арцель, кравецкая майстэрня, конная крупарушка, 2 ветракі, кузня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 230 двароў. Вызвалена 25.9.1943 г. У баях за вёску загінулі 5 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 354 землякі, памяць аб якіх увекавечваюць 2 стэлы і мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1965 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 817 жыхароў. Цэнтр калгаса «Зара камунізму». Размешчаны 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячыя сад-яслі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай і кароткай прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.М.Громава, царкоўнага дзеяча і гісторыка Х.А.Жудро.

**ЛАГУНЫ** — вёска ў Насовіцкім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 17 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 158 гаспадарак, 358 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Лагунавічы Гомельскага староства Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-я г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, 7 дымоў, 3 службы, 10 валоў, 8 каней, 1 пустка — Сямёнкаўская. Паводле інвентару 1752 г. ўладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана ў складзе Вуцеўскага царк. прыхода. У 1775 г. в. Старыя Лагуны, 37 двароў, карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 330 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1798 г. 362 жыхары. У 1816 г. 87 двароў, у Каранёўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 96 двароў, 487 жыхароў. З 1871 г. працавала майстэрня па апрацоўцы скур. У 1880 г. 125 двароў, 642 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, у Насовіцкай вол. Гомельскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 154 двары, 977 жыхароў, лаўка, карчма. У 1909 г. 180 двароў, 1180 жыхароў, 1374 дзес. зямлі, шкла, царква, млын. У 1926 г. 168 двароў, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Лагуноўскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «10 з'езд ЛКСМБ», працавалі 3 ветракі, кузня. У 1940 г. 170 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 169 двароў, загубілі 3 жыхары. У баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 85 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах — за 1,2 км і 1,5 км на З ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 754 жыхары. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1990—91 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей для перасяленцаў з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**ЛАРЫШЧАВА** — вёска ў Рассветаўскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Вышкаў), 22 км ад Гомеля, на р. Іпуць (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Гомель—Бранск. 102 гаспадаркі, 255 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне Ларышча ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 15 двароў, карчма, уладанне фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 96 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1798 г. 125 жыхароў. У 1816 г. 44 двары, 153 жыхары, у Каралёўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 258 жыхароў. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Навазыбкава ў Беліцу. Гаспадар маёнтка меў тут у 1855 г. 1188 дзес. зямлі і вятрак. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, царква, школа граматы, млын. У 1926 г. 104 двары, 539 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ларышчаўскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працаваў вятрак. У 1940 г. 112 двароў. У Айч. вайну ў сярэдзіне жн. 1941 г. ў лесе, за 2 км на ПдЗ ад вёскі, размяшчаўся штаб 21-й арміі. У кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 109 двароў і загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 10.10.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 350 жыхароў. У складзе саўгаса «Добрушскі» (цэнтр — в. Рассвет). Размешчаны пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, на паўд. ускраіне якой праходзяць аўтадарога і чыгунка. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА** (да 1934 г. Зэфельд) — пасёлак у Пераростаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 46 км ад Гомеля, на аўтадарозе Васілёўка—Добруш. 61 гаспадарка, 149 жыхароў (2004 г.).

Засн. 19 ст. як фальварак, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Цэнтр Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, затым фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1909 г. 47 жыхароў, 1190 дзес. зямлі, у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Побач была палявая ахова Новы Зэфельд, 1 двор, 4 жыхары. У пач. 1920-х г. пасёлак стаў хутка павялічвацца за кошт перасяленцаў з суседніх вёсак на былыя памешчыцкія землі. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 63 двары, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У 1969 г. да пасёлка далучана в. Калініна. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. ПераРост). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** (да 25.10.1922 г. Папоўка) — вёска, цэнтр Ленінскага с/с, за 40 км на ПдУ ад Добруша, 1 км ад чыг. ст. Кругавец (ветка Цэрахоўка — Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач), 60 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Расіяй. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цэрахоўка—Гомель. 334 гаспадаркі, 782 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (3 км на ПдУ ад вёскі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 101 жыхар, у

Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Пад 1796 г. пазначана ў складзе Хомінскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1827 г. сяло, частка якога (30 жыхароў) належала графу Завадскаму. У 1845 г. ўпамінаецца ў сувязі з хадайніцтвам перад губернатарам аб дазволе на правядзенне ў сяле кірмашоў. У 1848 г. 250 двароў. Дзейнічала Свята-Мікалаеўская царква, якая ў 1865 г. рамантавалася. З 1860 г. працавала майстэрня па апрацоўцы скур. У 1881 г. 306 двароў, 1846 жыхароў. Цэнтр Папоўскай, а потым Ленінскай (да 9.5.1923 г.) вол., у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 12 сяленняў з агульнай колькасцю 1385 двароў. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, нар. вучылішча (з 1869 г.), у якім у 1889 г. навучаліся 89 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 355 двароў, 2314 жыхароў, царква, прыёмны пакой, 3 хлебазапасныя магазіны, 2 лаўкі, карчма. Побач быў аднайменны фальварак. У 1909 г. 377 двароў, 2561 жыхар, 490 дзес. 10.6.1919 г. арганізаваны с.-г. кааператыў. У 1926 г. 448 двароў, паштовае аддз., 7-гадовая і пач. школы, хата-чытальня, лячэбны пункт. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, цэнтр Ленінскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік», працавалі шавецкая арцель, 4 ветракі, конная крупарушка. У 1940 г. 497 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 397 двароў і загубілі 20 жыхароў. Вызвалена 25.9.1943 г. У бai за вёску ў 1943 г. загінулі 16 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 165 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць скульптура воіна, пастаўленая ў 1963 г. ў цэнтры вёскі, і мемарыяльны парк. Паводле перапісу 1959 г. 1230 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны ф-ка па здабычы і абагачэнні кварцавых пяскоў, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой і злучаных завулкамі вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 100 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма доктара медыцынскіх навук М.П.Краўцова. Побач ёсць радовішча фармовачных і шкляных пяскоў (52 млн. т).



*Гарадзішча каля в. Леніна.*

**ЛЕНІНДАР** — пасёлак і чыг. ст. на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач, у Ленінскім с/с за 31 км на ПдУ ад Добруша, 59 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 34 гаспадаркі, 47 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (4 насыпы, мясцовая назва Французскія магілы, 0,5 км на Пд ад пасёлка) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 48 двароў, 264 жыхары, паштовае аддз., у Дубраўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акругі. У 1931 г. пасялкоў-

цы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з У пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛУК'ЯНАЎКА** — вёска і чыг. ст. на ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач, у Дубраўскім с/с, за 43 км на ПдУ ад Добруша, 72 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 23 гаспадаркі, 30 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Мясцовы памешчык валодаў тут у 1858 г. 518 дзес. зямлі. Крыху пазней быў адкрыты хлебазапасны магазін, працаваў млын. У 1881 г. 31 двор, 207 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 283 жыхары, школа граматы. У 1909 г. 479 дзес. зямлі, 312 жыхароў, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1926 г. 54 двары, 324 жыхары, паштовае аддз., школа, у Дубраўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Чырвоная Буда). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай, шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯВОНЦЕВА** — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 14 км на Пн ад Добруша, 15 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 42 км ад Гомеля, на р. Спонка (прыток р. Сож); на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (2,5 км на ПдЗ ад вёскі, у пойме ракі) сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў складзе маёнтка Хальч, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. У 1764 г. вайсковы атрад на чале з ген. Маславым выслаў са слабады Лявонцева ў Сібір усіх жыхароў, якія прытрымліваліся старарускай веры. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 13 двароў, 59 жыхароў, карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1816 г. 30 двароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 36 двароў, 169 жыхароў. Меліся 3 часоўні. Дваранін Шаціла меў у 1874 г. ў аднайменным фальварку, што быў побач, 284 дзес. зямлі. У 1880 г. сяло, 50 двароў, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1884 г. 2 вёскі: Лявонцева-1 і Лявонцева-2. У кожнай з іх дзейнічаў хлебазапасны магазін. Крыху пазней вёскі аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 334 жыхары, стараверскі малітоўны дом. У 1909 г. 87 двароў, 380 жыхароў, 567 дзес. зямлі. У фальварку 360 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 126 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 123 двары. Вызвалена 29.9.1943 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 112 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкіх магілах за 2 км на ПдЗ ад вёскі і на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 404 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Дружба» раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Дубовы Лог). Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: паўн. (да крыху выгнутай амаль мерыдыянальнай вуліцы далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца) і паўд. (крыху выгнутая шыротнай арыентацыі вуліца). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЙСКІ** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад раённага цэнтра

і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 38 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Побач аўтадарога Кузьмінічы—Добруш. 11 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 9 двароў, 42 жыхары. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 31 двор, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 61 жыхар. У складзе агракамбіната «Новы шлях» (цэнтр — в. Ігаўка). Планіровачна складаецца з кароценькай шыротнай вуліцы з драўлянымі сял. будынкамі.

**МАР'ІНА** — вёска ў Рассветаўскім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш, 30 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ветка—Добруш; на У і Пн мяжуе з лесам, на Пд рэспубліканскі помнік прыроды — ельнік. 88 гаспадарак, 165 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. У 1764 г. вайсковыя атрады на чале з ген. Маславым выслалі са слабады ў Сібір усіх жыхароў, якія прытрымліваліся старарускай веры. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 74 двары, капліца (драўляная), карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 131 двор, 373 жыхары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1834 г. 139 двароў, 714 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. Меліся 2 капліцы. У 1884 г. 190 двароў, 1079 жыхароў, стараверчы малітоўны дом, 3 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 253 двары, 1220 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, маслабойня, вінная лаўка, 3 ветракі, у Гомельскім пав. У 1909 г. 262 двары, 1325 жыхароў, 2652 дзес. зямлі. У 1926 г. дзейнічалі паштовае аддз., пач. школа, аддз. спажывецкай каапераціі. З 8.12.1926 г. да 25.2.1977 г. цэнтр Мар'інскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Будаўнік сацыялізму», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў кастр. 1943 г. часткова спалілі вёску. Вызвалена 10.10.1943 г. У баях каля вёскі загінулі 289 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры і за 1 км на Пн ад вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 513 жыхароў. У 1972 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў пас. Селязнёўка (не існуе). У складзе саўгаса «Добрушскі» (цэнтр — в. Рассвет). Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака У.М.Рубцова.

**МАРОЗАЎКА** — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш, 62 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем жыхары пераселены ў 1990 г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі ў в. Закружжа (зараз Старое Закружжа ў Веткаўскім р-не). Вядома пад назвамі Новае Закружжа і Марозаўка. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 604 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 97 двароў, 864 дзес. зямлі. У 1926 г. 142 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 182 двары, 760 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 132 двары. У баях за вёску загінулі 3 воіны (пахаваны ў брацкай

магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 135 землякоў, памяць аб якіх ушаноўваюць скульптура воіна і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1980 г. каля брацкай магілы. Паводле перапісу 1959 г. 526 жыхароў. У 1969 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Кашуба. Была цэнтрам калгаса «Юбілейны». Размяшчаліся лесапільня, млын, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска і чыг. ст. на лініі Гомель—Чарнігаў, ва Усоха-Будскім с/с, за 40 км на ПдУ ад Добруша, 48 км ад Гомеля, побач з дзярж. мяжой з Украінай, на р. Церуха (прыток р. Сож). Аўтадарога звязвае вёску з Гомелем. 105 гаспадарак, 182 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 32 двары, 185 жыхароў, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. Пад 1773 г. пазначана як сяленне ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1788 г. 220 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 69 двароў, 375 жыхароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 93 двары. З уводам у эксплуатацыю ў снеж. 1873 г. чыг. лініі Гомель—Бахмач пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд, а пазней станцыя. З 1876 г. працавалі крупарушка, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 100 двароў, 508 жыхароў, школа граматы, карчма. У 1909 г. 109 двароў, 779 жыхароў, 1300 дзес. зямлі, школа, млын, у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 161 двор, 910 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Чырвонакастрычніцкага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Цераxоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 6 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 793 жыхары. У складзе калгаса імя А.В. Суворава (цэнтр — в. Усохская Буда). Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца кароткая дугападобная, шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма члена-карэспандэнта НАН Беларусі, доктара гіст. навук, праф. П.Ц.Петрыкава.

**МЛЫНОК** (да 15.9.1946 г. Асадым) — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 15 км на Пн ад Добруша, 18 км ад чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 43 км ад Гомеля, на р. Спонка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (25 сямей) у 1990—92 гг. перaселены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Гаспадар аднайменнага фальварка валодаў тут у 1873 г. 578 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска Асадым (яна ж Млынок), 11 двароў, 87 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 14 двароў, 103 жыхары, млын, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 39 двароў, 184 жыхары, школа, у Сівенскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 43 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 42 двары. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Дубовы Лог). Планіровачна

складаецца з кароткай, крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, на Пд да якой далучаецца з У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВАДРУЖАСКІ** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Васільеўка—Добруш. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 23 двары, 142 жыхары, у Насовіцкім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца другая кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.



*В.Ф.Каленнікаў.*

**НАДЗЕЖДА** (да 1934 г. Барок) — пасёлак у Івакаўскім с/с, за 28 км на Пд ад Добруша, 2 км ад чыг. ст. Івакі (на лініі Гомель—Бахмач), 40 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 27 двароў, 119 жыхароў, у Старасельскім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе саўгаса «Івакі» (цэнтр — в. Івакі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка уздоўж ракі.

**НАСОВІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Гомель—Бахмач, цэнтр Насовіцкага с/с за 26 км на Пд ад Добруша, 35 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Церахоўка—Гомель. 627 гаспадарак, 1584 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча 1-га тысячагоддзя н.э. (за 2,5 км на З ад вёскі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне Фашчаў. У 1640-я г. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, 2 дымы, 2 службы, 4 валы, 4 кані, 1 пустка — Шышкоўшчына. Паводле інвентару 1752 г. 3 службы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі ў Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай, з 1919 г. Гомельскай губ. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. пазначана як мястэчка. У 1838 г. 121 двор. У 1841 г. пабудавана драўляная Мікалаеўская царква. У 1848 г. 155 двароў. Гаспадар фальварка ў 1854 г. меў 1427 дзес. зямлі, 3 піцейныя дамы, 2 ветракі, 2 вінакурні, піваварны завод. У 1860 г. 230 двароў, 1658 жыхароў, царква, 4 млыны, сукнавальня. У 1874 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1889 г. вучыліся 72 хлопчыкі і 5 дзяўчынак. З 1879 г. дзейнічала майстэрня па апрацоўцы аўчын. У 1880 г. 363 двары, 1378 жыхароў, цэнтр Насовіцкай вол. (да 8.12.1926 г.), у якую ў 1890 г. ўваходзіла 31 сяленне з 2149 дварамі. Мелася бальніца (16 ложкаў). Паводле перапісу 1897 г. 550 двароў, 2855 жыхароў, хлебазапасны магазін, 24 лаўкі. У 1905—06 гг. вяскоўцы неаднаразова выказвалі свой рашучы пратэст супраць прыцясненняў з боку памешчыкаў і ўладаў. У 1909 г. 3368 жыхароў, 2421 дзес. зямлі. У аднайменным фальварку 1112 дзес. зямлі. Толькі 5 пабудоў былі мураванымі. У 1911 г. адкрыта спажывецкае таварыства. Мелася аддз. паштовай сувязі, бібліятэка пры школе. Летам 1918 г. ў час ням. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз.

атрад (кіраўнікі А.Касы і С.Прасаў), які змагаўся супраць герм. войск. З 1926 г. ў былым фальварку дзейнічаў саўгас. З 8.12.1926 г. ў складзе БССР, да 4.8.1927 г. цэнтр Насовіцкага р-на. З 8.12.1926 г. цэнтр Насовіцкага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага, з 10.2.1931 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, адначасова меўся саўгас «Насовічы», працавалі вінзавод (з 1892 г.), трактарны млын, вятрак, шавецкая і кравецкая арцелі, кузня, слясарня, сталярня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група, якая трымала сувязі з падпольшчыкамі г.п. Церахоўка і з чарнігаўскімі партызанамі. У вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 355 двароў і загубілі 52 жыхары. Вызвалена 26.9.1943 г. У баях за вёску ў 1941 і 1943 гг. загінулі 24 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы па вул. Савецкай). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 374 землякі, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. ў скверы. Паводле перапісу 1959 г. 1345 жыхароў. У 1964 г. пабудавана Свята-Мікольская царква. У 1979 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Усходняя Зара. Цэнтр дзярж. племзавода «Насовічы». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, б-ка, школа-сад, амбулаторыя, аптэка, сталовая, 3 магазіны, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 5 прамалінейных вуліц (3 працяглыя, 2 кароткія), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987–92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 137 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сав. Саюза В.Ф.Каленнікава і засл. настаўніка Беларусі П.В.Трафімовіча.

У склад Насовіцкага с/с уваходзілі да 1964 г. в. Хабакоўка, да 1979 г. пас. Усходняя Зара (не існуюць).

**НІЎКІ** – вёска ў Церахоўскім пасялковым савеце, за 40 км на ПнУ ад Добруша, 7 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель–Мікалаеўка), 46 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Аўтадарога звязвае вёску з Церахоўкай і Добрушам. 175 гаспадарак, 338 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як слабада ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. У 1764 г. вайсковы атрад на чале з ген. Маславым са згоды польскага ўрада выслаў са слабады ўсіх старавераў у дальнія раёны Расіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1776 г. 42 двары, карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. – фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. вёска і слабада, 240 жыхароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1798 г. 369 жыхароў. У 1816 г. 94 двары, 382 жыхары, у 1834 г. 110 двароў, 680 жыхароў, у 1885 г. 137 двароў, 818 жыхароў, вятрак. З 1893 г. дзейнічала царква Аляксандра Неўскага. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 160 двароў, 922 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 194 двары, 1390 жыхароў, 2477 дзес. зямлі, у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. У 1926 г. 265 двароў, паштовае аддз., школа. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Ніўскага с/с Церахоўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавалі 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў вер. 1943 г. часткова спалілі вёску. У баях каля вёскі ў 1943 г. загінулі 6 воінаў (пахаваны ў Юрацкай магіле). Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Чырвоная ніва» прамысл. аб'яднання «Аграпрамтранс». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, лесапільня, 9-гадовая

школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай і крыху скрыўленай вуліц, амаль паралельных паміж сабой і арыентаваных мерыдыянальна, да якіх далучаюцца па адной кароткай вуліцы з У і З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — пасёлак у Пераростаўскім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 38 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Харошаўка—Добруш. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Новажыццёўскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 8 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 58 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Перарост). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Каля пасёлка ёсць радовішчы глін.

**НОВЫ КРУПЕЦ** — вёска, цэнтр Крупецкага с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 35 км ад Гомеля, на р. Крупка (прыток р. Жгунь), побач геалагічнае агаленне — помнік прыроды рэспубліканскага значэння. Непадалёку аўтадарога Добруш—Церахоўка. 192 гаспадаркі, 394 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 2-й пал. 18 ст., калі в. Крупец раздзялілася на дзве: Стары Крупец і Новы Крупец, у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1795 г. 184 жыхары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 164 двары, 521 жыхар, у 1834 г. 212 двароў, 1116 жыхароў. У 1858 г. 236 двароў, у Гомельскім пав. Дзейнічала нар. вучылішча, у якім у 1889 г. вучыліся 99 хлопчыкаў і 24 дзяўчынкі, у 1902 г. — 182 хлопчыкі і 45 дзяўчынак. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся рознымі промысламі, у тым ліку кушнерскім. У 1886 г. 322 двары, 1951 жыхар, 2 царквы, 5 ветракоў, майстэрня па апрацоўцы скур. Жыццё сялян было вельмі цяжкім, асабліва калі 12.5.1893 г. згарэлі 102 двары. Паводле перапісу 1897 г. 412 двароў, 2302 жыхары, 2 стараверчыя малітоўныя дамы, 2 хлебазапасныя магазіны, 7 ветракоў, 2 крупарушкі, 3 кузні, цагельня, 3 маслабойні, 3 гарбарныя майстэрні, 3 лаўкі, карчма. У 1909 г. вёска складалася з 2 частак: у першай — 273 двары, 1298 жыхароў, 1480 дзес. зямлі, у другой — 273 двары, 1441 жыхар, 1704 дзес. зямлі. У 1926 г. 509 двароў, паштовае аддз., пач. школа, хата-чытальня, аддз. спажывецкай кааперацыі, гарбарны з-д, цагельня. З 8.12.1926 г. цэнтр Новакрупецкага, з 30.12.1927 г. Крупецкага с/с Добрушскага, з 26.7.1930 г. Церахоўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 1070 жыхароў. У 1979 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседніх пасёлкаў Буды і Гарэлае. У складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Стары Крупец). Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, 2 з якіх злучаны кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну Я.А.Татарава (быў камісарам партыз. брыгады № 37 Ельскай і 123-й імя 25-годдзя БССР) і ген.-м. інтэнданцкай службы Я.Я.Цуканава, засл. настаўніка Беларусі І.В.Барсукова.

У склад Крупецкага с/с уваходзілі хут. Белянкоў (да 1934 г.), пасёлкі Ляскі-I, Ляскі-II (да 1974 г.), Зара Новай Жызні, Шымберг (да 1976 г.), Буды, Гарэлае (да 1979; не існуюць).

**НОВЫ МІР** — пасёлак у Перарастаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 44 км ад Гомеля, на аўтадарозе Васільеўка—Добруш. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з сеседніх вёсак. У 1926 г. 21 двор, 124 жыхары, у Наважыццёўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Перарост). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай сял. сядзібамі.

**ПАКРОЎСКІ** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 40 км ад Гомеля; на У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бранск—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 13 двароў, 71 жыхар, у Навапуцеўскім с/с Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. У складзе саўгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Ігаўка). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка, уздоўж кароценькай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі.

**ПЕРАРОСТ** — вёска, цэнтр Перарастаўскага с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 49 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Харапуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Харошаўка—Добруш. 226 гаспадарак, 587 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 779 жыхароў, вадзяны млын, карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 826 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губерні. У 1794 г. пабудавана драўляная царква. У 1811 г. 227 двароў. У 1816 г. 953 жыхары. У 1834 г. 241 двор, 1412 жыхароў. У 1889 г. ў нар. вучылішчы 118 вучняў. У 1886 г. 1944 жыхары, 4 ветракі. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Кармянскай вол. Гомельскага пав., 374 двары, 2411 жыхароў, царква, 6 ветракоў, 2 цагельні, 2 кузні, лаўка, карчма. У 1905 г. створаны сял. саюз. У выніку пажару ў 1907 г. згарэлі 34 двары. Летам 1918 г. ў час ням. акупацыі сяльчане стварылі партыз. атрад (400 чалавек, кіраўнікі браты Пятроўскія), які змагаўся супраць герм. войск. У 1926 г. 518 двароў, паштовае аддз., школа, хата-чытальня, аддзяленне спажывецкай кааперацыі. З 8.12.1926 г. цэнтр Перарастаўскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 12.2.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны хутар», «3-ці рашаючы» і імя М.І.Калініна, працавалі цагельня, 5 ветракоў, крупарушка, 2 кузні. У 1940 г. 583 двары, 2720 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 379 двароў, загубілі 12 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 70 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 365 землякоў, памяць аб якіх ушаноўва-

юць абеліск і стэла, пастаўленыя ў 1968 г. на вул. Цэнтральнай. Паводле перапісу 1959 г. 1012 жыхароў. У 1965 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Вялікае Галае, у 1979 г. — пас. Табоцкі. Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, механічная майстэрня, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой амаль шыротнай арыентацыі вуліц, злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма Героя Сац. Працы А.Р.Падразенкі і бел. паэта М.С.Кусянкова.

У склад Пераростаўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1965 г. Вялікае Галае, да 1979 г. Табоцкі (не існуюць).

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 13 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 19 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. ў Насовіцкім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. 24 двары, 145 жыхароў, паштовае аддз. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЛОСКАЕ** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 11 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 34 км ад Гомеля; вакол лес, на У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Санькова—Добруш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (22 сям'і) у 1990—92 гг. пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 26 жыхароў, у Вылеўскай воласці Гомельскага пав. У 1926 г. лясная старожка, 11 двароў, 38 жыхароў, у Добрушскім р-не Гомельскай акругі. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРУДОЎКА** — пасёлак у Церахоўскім пасялковым савеце, за 28 км на Пд ад Добруша, 2 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 56 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 62 гаспадаркі, 128 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. як фальварак у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. З 1851 г. да 1862 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабе цукру. У 1878 г. гаспадар фальварка валодаў 3660 дзес. зямлі, якія дасталіся яму ў спадчыну, вадзяным млынам і 2 піцейнымі дамамі. Гаспадар другога фальварка валодаў у 1873 г. 359 дзес. зямлі. У 1926 г. 61 двор, 322 жыхары, паштовае аддз., у Вуцеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 55 двароў і загубілі 2 жыхароў. Вызвалены 26.9.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 323 жыхары. У складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Церахоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з Пд на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЯННОЕ** — пасёлак у Дзям'янкаўскім с/с, за 32 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 60 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Расіяй; на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (5 сямей) у 1990 г. перaселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 30 двароў, 162 жыхары, у Старазакружскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар. Уваходзіў у склад калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Марозаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РАССВЕТ** — пасёлак, цэнтр Рассветаўскага с/с, за 1 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 31 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па дарогах, якія адыходзяць ад Добруша. 175 гаспадарак, 482 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1960-я г. як прыгарад Добруша. З 25.2.1977 г. цэнтр Рассветаўскага с/с Добрушскага р-на Гомельскай вобл. Цэнтр саўгаса «Добрушскі». Размешчаны Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслісад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

У склад Рассветаўскага с/с уваходзілі пасёлкі: да 1972 г. Селязнёўка, да 1988 г. Падгор'е (не існуюць).

**СВЕТЛЫ** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 20 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 13 двароў, 64 жыхары, паштовае аддз., у Насовіцкім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акругі. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**СЕЛІШЧА-1** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 13 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 41 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Побач аўтадарога Кузьмінічы—Добруш. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 67 двароў, 361 жыхар. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Селішчанскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 433 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 425 жыхароў. У складзе калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн пад прамым вуглом далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА-2** — пасёлак у Кармянскім с/с, 11 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 39 км ад Гомеля, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Побач аўтадарога Гомель—Бранск. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 44 двары, 233 жыхары, школа, цэнтр Селішчанскага с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Селішча», працавала кузня. У Вял.

Айч. вайну ў баях каля пасёлка загінулі 8 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 317 жыхароў. У складзе калгаса «Абарона» (цэнтр — в. Карма). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАБАДА** — вёска ў Кузьмініцкім с/с, за 27 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 55 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Расіяй, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць) і аўтадарозе Чырвоны Партызан — Добруш. 78 гаспадарак, 124 жыхары (2004 г.).

Вядома з 16 ст. як сяло ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1640-я г. паводле інвентару Гомельскага староства баярскае сяло, на мяжы Рэчы Паспалітай з Расіяй. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1796 г. 31 двор, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1811 г. 53 двары, у 1834 г. Слабада Кузьмініцкая, 61 двор, 439 жыхароў, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1886 г. 77 двароў, 546 жыхароў, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 110 двароў, 596 жыхароў, хлебазапасны магазін, вінная лаўка, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 730 жыхароў, 768 дзес. зямлі. У 1926 г. 114 двароў, паштовае аддз., школа, у Кузьмініцкім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 528 жыхароў. У складзе калгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Кузьмінічы). Планіровачна складаецца з 2 вуліц: шыротнай і арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, злучаных кароткай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Насовіцкім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 20 км ад Гомеля, на р. Прудок (прыток р. Вуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 129 гаспадарак, 286 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1813 г. пабудавана царква. З 2-й пал. 19 ст. дзейнічала нар. вучылішча (у 1889 г. — 51, у 1902 г. — 94 вучні). У 1926 г. 187 двароў, 832 жыхары, паштовае аддз. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старасельскага с/с Насовіцкага, з 4.8.1927 г. Гомельскага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 187 двароў і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 696 жыхароў. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫ КРУПЕЦ** — вёска ў Крупецкім с/с, за 8 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 36 км ад Гомеля, на р. Крупка (прыток р. Жгунь) і аўтадарозе Добруш—Церахоўка. 345 гаспадарак, 813 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку і Кіеўскай Русі



*Троіцкая царква ў в. Стары Крупец.*

(у цэнтры вёскі, на беразе ракі, якая падзяляе гарадзішча на 2 часткі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. як в. Крупец у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 2-й пал. 18 ст. падзялілася на 2 вёскі: Стары Крупец і Новы Крупец. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1775 г. ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1795 г. 584 жыхары, у Беліцкім пав. Магілёўскай губ. У 1804 г. пабудавана царква. У 1816 г. сяло, 133 двары, 675 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 153 двары, 832 жыхары, у 1858 г. 168 двароў, 877 жыхароў. У сярэдзіне 19 ст. ў цэнтры вёскі замест састарэлай пабудавана новая драўляная Троіцкая царква (помнік драўлянага дойлідства). У 1881 г. 233 двары. Паводле перапісу 1897 г. 280 двароў, 1614 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, 2 кузні, крупарушка, лаўка, карчма, у Гомельскім пав. У выніку пажару ў 1908 г. згарэлі 25 двароў. У 1909 г. 318 двароў, 2182 дзес. зямлі, у Кармянскай вол. У 1926 г. 313 двароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Старакрупецкага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Гомельскага раёна Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты загубілі 15 жыхароў. У баях за вёску ў кастр. 1943 г. загінулі 62 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 270 землякоў, памяць аб якіх ушаноўваюць абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1967 г. па вул. Савецкай. Паводле перапісу 1959 г. 695 жыхароў. Цэнтр калгаса «Беларусь». Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаюцца 4, а з Пд 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 100 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**СТЭП** — пасёлак у Вуцеўскім с/с, за 31 км на Пд ад Добруша, 1 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Чарнігаў), 45 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Церахоўкі. 131 гаспадарка, 301 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 89 двароў, 486 жыхароў, школа, у Вуцеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Стэп», працаваў вятрак. У 1940 г. 110 двароў, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты спалілі 93 двары і загубілі 2 жыхароў. 32 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 50 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вуць). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, да якіх з Пд далучаецца прамалінейная мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Л.І.Гаўрылкіна.

**СЦЯПАНАЎ** — пасёлак у Кузьмініцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 52 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Расіяй, на р. Харапуць (прыток р. Іпуць). Побач аўтадарога Чырвоны Партызан — Добруш. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўнае будаўніцтва разгарнулася з пач. 1920-х г. У 1926 г. 31 двор, 193 жыхары, паштовае аддз., у Кузьмініцкім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе

калгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Кузьмінічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СЯМЁНАЎСКІ** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 17 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Цярахоўка—Гомель. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 18 двароў, 89 жыхароў, у Насовіцкім с/с Насовіцкага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 92 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**УБОРАК** — пасёлак у Кармянскім с/с, за 20 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 38 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Расіяй; на Пн рэспубліканскі помнік прыроды — ельнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Бранск. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найб. актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 64 двары, 336 жыхароў, паштовае аддз., у Харошаўскім с/с Гомельскай акр. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пасёлку і яго наваколлі базіраваліся Добрушскі падп. райком КП(б)Б і Добрушская партыз. брыгада. Паводле перапісу 1959 г. 296 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Харошаўка). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх мерыдыянальных вуліц, злучаных на Пн кароткай шыротнай вуліцай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**УСОХІ** — вёска ў Кругавец-Калінінскім с/с, за 50 км на У ад Добруша, 5 км ад чыг. ст. Лук'янаўка (на ветцы Цярахоўка—Кругавец), 65 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цярахоўка—Гомель. 71 гаспадарка, 93 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 81 двор, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 474 жыхары, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1798 г. 573 жыхары. У 1816 г. 106 двароў, у Зэфельдскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 137 двароў, 749 жыхароў, у 1880 г. 813 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 158 двароў, 1009 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма, у Папоўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 1094 жыхары, 1505 г. дзес. зямлі. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Усохскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Цярахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала торфаздабываючая арцель. У 1940 г. 160 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. і вер. 1943 г. нямецкія фашысты спалілі 142 двары. Паводле перапісу 1959 г. 553 жыхары. У 1969 г. ў вёску пераехалі жыхары пас. Круглы (не існуе). У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Кругавец-Калініна). Размешчаны клуб, б-ка, магазін, планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніцы Беларусі М.І.Атошчанкі.

**УСОХСКАЯ БУДА** — вёска, цэнтр Усоха-Будскага с/с, за 43 км на ПдУ ад Добруша, 5 км ад прыпынку Машок на

чыг. ветцы Церахоўка—Кругавец ад лініі Гомель—Бахмач, 71 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 204 гаспадаркі, 471 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1776 г. 43 двары, карчма, ва ўладанні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 433 жыхары, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. Магілёўскай губ. У 1798 г. 530 жыхароў, у 1816 г. 120 двароў, у Мікалаеўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1834 г. 142 двары, 782 жыхары. У 1875 г. заснавана крупарушка, дзейнічаў хлебазапасны магазін, у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. У 1886 г. 148 двароў, 1038 жыхароў, цагельня, 3 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 159 двароў, царква, школа граматы, вінная лака, карчма. У 1909 г. 220 двароў, 1595 жыхароў, 3158 дзес. зямлі. У выніку пажару 9.6.1911 г. згарэла 50 двароў. З 8.12.1926 г. цэнтр Усоха-Будскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 25.12.1962 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак, майстэрня па вырабе колаў. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў 1943 г. загінулі 6 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Паводле перапісу 1959 г. 644 жыхары. Цэнтр калгаса імя А.В.Суворава. Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 злучаных паміж сабой вуліц (адна шыротная, другая арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1990—92 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 100 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

**ХАРОШАЎКА** — вёска ў Кармянскім с/с, за 27 км на У ад Добруша і чыг. ст. Закапыцце (на лініі Гомель—Унеча), 32 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Расіяй. Транспартныя ўвязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Кузьмінічы—Добруш. 120 гаспадарак, 222 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., ва ўладанні Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1775 г. 53 двары, 356 жыхароў, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 389 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1795 г. 404 жыхары, у 1811 г. 108 двароў. У 1816 г. 457 жыхароў, у Добрушскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1832 г. пабудавана, а ў 1865 г. перабудавана драўляная царква. У 1834 г. 125 двароў, 748 жыхароў, у 1858 г. 143 двары. У 1886 г. 164 двары, 1102 жыхары, 4 ветракі, заезны дом. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 221 двор, 1284 жыхары, царк.-прыходская школа, 6 ветракоў, крупарушка, кузня, цагельня, лаўка, заезны дом, у Кармянскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 259 двароў, 1724 жыхары, 3057 дзес. зямлі. У 1926 г. 305 двароў, 1488 жыхароў, паштовае аддз., пач. школа, крама, меліярацыйнае таварыства. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Харошаўскага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага, з 12.5.1935 г. Добрушскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавалі 3 ветракі, конная крупарушка, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты спалілі вёску. У баях каля вёскі і пас. Уборак у вер. 1943 г. загінулі 7 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 1044 жыхары.

Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Размешчаны млын, лесапільня, механічная майстэрня, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, якія на Пн злучаны такой жа па памеры прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.



Л.Р.Рахленка.

**ХУТАР** — пасёлак у Перарастаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 45 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Харошаўка—Добруш. 68 гаспадарак, 149 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 347 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Перарост). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦЕРАХОЎКА** — гарадскі пасёлак і чыг. ст. (на лініі Гомель—Чарнігаў), за 37 км на ПдУ ад Добруша, 40 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Аўтадарога звязвае гарадскі пасёлак з Гомелем. 2,2 тыс. жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст., калі тут пачалося будаўніцтва чыг. лініі Гомель—Чарнігаў. Са снеж. 1873 г. дзейнічае чыг. ст. Церахоўка (назва ад суседняй вёскі), на якой штогод адгружалася да 700 тыс. пудоў грузаў. Каля станцыі, вакол чыгункі, складваўся пасёлак, тут сяліліся перасяленцы з суседніх вёсак. У 1926 г. на станцыі 18 двароў, 65 жыхароў. Пачынаючы з 1920-х г. пасёлак хутка рос. Пабудаваны прамысл. майстэрні, гаспадарчыя пабудовы чыг. станцыі. З 8.12.1926 г. да 4.8.1927 г. цэнтр Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. да 25.12.1962 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Выдавалася раённая газ. «Ударнік калгасаў». З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. дзейнічаў атрад нар. апалчэння (600 чалавек, кіраўнік Сівалобаў). У жн. 1941 г. тут знаходзіўся эшалон-друкарня з журналістамі і паліграфістамі, якія пераехалі з Гомеля і выпускалі лістоўкі. У час абарончых баёў у жн. 1941 г. супраць ворага змагаўся мясц. знішчальны батальён (кіраўнік Ф.Тарасенка). У вер. 1941 г. ням. фашысты загубілі 60 жыхароў гарадскога пасёлка і бліжэйшых вёсак. У пач. 1942 г. створана падп. патрыятычная група (кіраўнік Г.У.Грыгаровіч). Падпольшчыкі здабывалі зброю, праводзілі дыверсіі, вынеслі з мясц. друкарні шрыфт партызанам для друкавання лістовак. Вызвалена 27.9.1943 г. У баях за гарадскі пасёлак загінулі 54 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры пасёлка ў скверы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 259 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць стэла і дошкі з імёнамі загінуўшых (пастаўленыя ў 1969 г.). Размешчаны з-д масла і сухога малака, хлебазавод, ільнозавод, спецыялізаванае аддз. «Сельгастэхнікі», філіял Веткаўскага аб'яднання будаўнічых матэрыялаў, філіял Гомельскага пладова-агароднiннага з-да, «Райсельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання. Дзейнічаюць 2 сярэднія і музычная школы, філіял Прыбарскага прафтэхвучылішча № 185, 3 дашкольныя ўстановы, аддз. сувязі, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца. Планіровачна складаецца з 7 паралельных і злучаных паміж сабой мерыдыянальных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная. У 1990-х г. у цэнтры пасёлка пабудавана мураваная царква. Радзіма нар. артыста СССР Л.Р.Рахленкі, бел. мастакоў А.А.Кокцева, В.С.Крывашэевай, А.А.Лапіцкай.

**ЦЕРАХОЎКА** — вёска ў Церахоўскім пасялковым савеце, за 30 км на Пд ад Добруша, за 1 км ад чыг. ст. Церахоў-

ка (на лініі Гомель—Бахмач), 58 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад гарадскога пасёлка Цэрахоўка. 749 гаспадарак, 1810 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Чартарыйскіх. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1776 г. 97 двароў, вадзяны млын, карчма, у валоданні фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага, з 1834 г. — фельдмаршала графа І.Ф.Паскевіча. У 1788 г. 598 жыхароў, у Гомельскай вол. Беліцкага пав. У 1798 г. 877 жыхароў, у 1816 г. 206 двароў, у Клімаўскай эканоміі Гомельскага маёнтка. У 1824 г. пабудавана драўляная царква. У 1834 г. 255 двароў, 1328 жыхароў. З 1852 г. у Чырванабудскай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. З 1873 г. дзейнічалі крупарушка, нар. вучылішча (у 1889 г. 54 вучні). Пасля пабудовы чыг. лініі Гомель—Бахмач значная частка вяскоўцаў сталі чыг. рабочымі. У 1886 г. 1571 жыхар, царк.-прыходская школа, 4 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 303 двары, 1105 жыхароў, хлебазапасны магазін, вінная лаўка, 4 карчмы. У выніку пажару 2.6.1904 г. згарэла 80, а ў 1907 г. 40 двароў. Мелася аддз. паштовай сувязі. У 1918 г. у час герм. акупацыі Перarостаўскі і Фёдараўскі партыз. атрады занялі вёску і аднавілі савецкую ўладу. У 1926 г. 377 двароў, 1588 жыхароў. З 18.12.1926 г. да 27.9.1938 г. цэнтр Цэрахоўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Цэрахоўскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1928 арганізаваны калгас «Цэрахоўка», працавалі рамонтныя майстэрні, ільнозавод, 4 ветракі, кузня. Вял. дапамога вяскоўцам у іх гаспадарчых справах аказвалася калектывам Гомельскага чыг. вузла. У крас. 1928 г. агульны сход членаў сельскага Савета, камітэта ўзаемадапамогі і беднаты шчыра вітаў сувязь з рабочымі-чыгуначнікамі і прыняў захады да іх умацавання. З 1930 г. працавала МТС. У 1940 г. 405 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 320 двароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная і мураваная, пераважна сядзібнага тыпу. У 1990—95 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 190 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы. Побач ёсць радовішча цагельнай сыравіны (0,54 тыс. куб. м).

**ЧЫРВОНАЯ БУДА** — вёска ў Дубраўскім с/с, за 34 км на ПдУ ад Добруша, 7 км ад чыг. ст. Цэрахоўка (на лініі Гомель—Бахмач), 47 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Цэрахоўка—Гомель. 235 гаспадарак, 574 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Беліцкім, з 1852 г. Гомельскім пав. Магілёўскай губ. Пад 1773 г. пазначана як сяло ў Вуцеўскім царк. прыходзе. У 1803 г. збудавана драўляная царква. У 1865 пачала працаваць школа. З 1781 дзейнічалі 2 крупарушкі, хлебазапасны магазін, з 1879 г. — майстэрня па апрацоўцы аўчын. У 1880 г. 95 двароў, 709 жыхароў, царква, 3 ветракі, цэнтр воласці (да 8.12.1926 г.), у якую ў 1890 г. ўваходзілі 13 сяленняў з 2093 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 134 двары, 511 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 154 двары, 1215 жыхароў, 1591 дзес. зямлі, у Гомельскім пав. Магілёўскай губ. Мелася аддз. паштовай сувязі. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. 8.12.1926 г. перададзена ў склад БССР, да 30.12.1927 г. цэнтр Чырванабудскага, з

4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1926 г. 183 двары, 937 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Буда», працавалі 3 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ням. фашысты спалілі вёску. У баях каля вёскі ў 1941 г. загінулі 15 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Ленінскай). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 256 землякоў, памяць аб якіх увекавечвае стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленая ў 1971 г. па вул. Ленінскай. Паводле перапісу 1959 г. 980 жыхароў. Цэнтр калгаса «Ленінскі шлях». Размешчаны камбінат бытавога абслугоўвання, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя сад-яслі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 (2 кароткія і 1 працяглая) вуліц, амаль паралельных паміж сабой і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. У 1986—87 гг. збудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**ЧЫРВОНАЯ ГАРА** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 17 км ад Гомеля, на р. Вуць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Церахоўка—Гомель. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н.э. і эпохі Кіеўскай Русі (0,2 км на ПдЗ ад пасёлка, на правым беразе ракі) сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ АЛЁС** (да 30.7.1964 г. Алёс) — пасёлак у Васільеўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Добруша, 6 км ад чыг. ст. Церахоўка (на лініі Гомель—Унеча), 50 км ад Гомеля, на аўтадарозе Васільеўка—Добруш. 50 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 56 двароў, 297 жыхароў, у Васільеўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Войкава, працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 21 пасялковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 369 жыхароў. У складзе калгаса імя Ю.А.Гагарына (цэнтр — в. Васільеўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНЫ КАМЕНЬ** — пасёлак у Кузьмініцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 56 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чырвоны Партызан — Добруш. 44 гаспадаркі, 63 жыхары (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1926 г. 101 двор, 480 жыхароў, паштовае аддз., у Кузьмініцкім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў. У складзе калгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Кузьмінічы). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных завулкам і забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК** (да 6.1.1938 г. Хацееўка) — пасёлак у На-

совіцкім с/с, за 20 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 23 км ад Гомеля, на р. Прудок (прыток р. Вуць). Побач аўтадарога Церахоўка—Гомель. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 43 двары, 210 жыхароў, у Церахоўскім с/с Чырванабудскага р-на Гомельскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая вёска», працавалі конная крупарушка, 3 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНЫ КУРГАН** — пасёлак у Перарастаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш на лініі (Гомель—Унеча), 43 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Васільеўка—Добруш. 20 гаспадарак, 41 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 35 двароў, 203 жыхары, у Новажыццёўскім с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 43 двары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. фашысты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Перарост). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНЫ ЛОГ** (да 30.7.1964 г. Крыжовы Лог) — пасёлак у Дзям'янкаўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 61 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Расіяй. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (9 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 24 двары, 146 жыхароў, у Старазакружскім с/с Веткаўскага р-на Гомельскай акругі. Побач быў аднайменны хутар, 2 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 48 двароў, 164 жыхары. У вер. 1943 г. ням. фашысты спалілі 45 двароў. Уваходзіў у склад калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Марозаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ ПАРТЫЗАН** (да 6.12.1938 г. Плутоўка) — вёска ў Кузьмініцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Добруша, 17 км ад чыг. ст. Цярахоўка (на лініі Гомель—Унеча), 60 км ад Гомеля, 2 км ад дзярж. мяжы з Расіяй; на Пд і У мяжуе з лесам (урочышча Чырвоная Знаменка). Аўтадарога звязвае вёску з Добрушам. 114 гаспадарак, 259 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле прывілея Жыгімонта Аўгуста ад 9.8.1560 г. ў валоданні Левантовічаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Пад 1795 г. упамінаецца ў рэвізскіх матэрыялах. У 1845 г. памеш-



*Царква ў в. Чырвоны Партызан.*

чык Мусман, які валодаў сялом, хадайнічаў перад губернатарам аб дазволе на правядзенне кірмашу. У 1873 г. дзейнічалі крупарушка і хлебазапасны магазін, з 1874 г. — маслабойня. У 1880 г. 148 двароў, 996 жыхароў. Памешчык валодаў тут 846 дзес. зямлі. У выніку пажару 20.8.1883 г. згарэлі 44 двары і 4 гумны са збожжам. Паводле перапісу 1897 г. 184 двары, 1271 жыхар, царква, нар. вучылішча (у 1889 г. — 45, у 1902 г. — 50 вучняў), карчма, у Стараюркавіцкай вол. Гомельскага пав. Магілёўскай губ. На месцы старой у 1907 г. пабудавана з дрэва новая царква, у афармленні якой была шырока выкарыстана разьба па дрэве. У 1909 г. 212 двароў, 1414 жыхароў, 1899 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта спажывецкае таварыства. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Плутоўскага с/с Чырванабудскага, з 4.8.1927 г. Церахоўскага р-наў Гомельскай акр. У 1930 арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавалі 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 250 двароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 243 двары, загубілі 12 жыхароў. У баі каля вёскі ў 1941 г. загінулі 3 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 443 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоны партызан». Размешчаны механічная майстэрня, пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, якія злучаны на Пн і потым разыходзяцца адна на ПдУ, другая — на ПдЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ СЦЯГ** (да 1924 г. Хаткі) — вёска ў Дзям'янкаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 50 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Расіяй; на У мяжуе з лесам, на Пн — мясцовы тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (30 сямей) у 1990—92 гг. перасялены ў чыстыя месцы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Беліцкім пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Пятрова Свяча (яна ж Хаткі), 31 двор, 214 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Вылеўскай вол. Гомельскага пав. У 1909 г. 38 двароў. Побач быў аднайменны фальварак. У 1926 г. 57 двароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Чырванасцяжнага с/с Добрушскага, з 4.8.1927 г. Веткаўскага р-наў Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 267 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Молат» (цэнтр — в. Дзям'янкі). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯРОМАЎКА** — пасёлак у Насовіцкім с/с, за 22 км на Пд ад Добруша, 11 км ад чыг. ст. Зябраўка (на лініі Гомель—Бахмач), 22 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Церахоўка—Клімаўка. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 32 жыхары. У складзе дзярж. племзавода «Насовічы» (цэнтр — в. Насовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСНАЯ ДАЛІНА** — пасёлак у Дзям'янкаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 55 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. мяжы з Расіяй; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Ачоса (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Дзям'янкі—Добруш. У сувязі з радыяцыйным

забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (3 сям'і) у 1990 г. перасеклены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. 22 двары, 97 жыхароў, у Кругаўскім с/с Добрушскага р-на Гомельскай акр. У 1931 г. пасялкоўцы ўступліі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Кругаўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЯСЯНКІ** — пасёлак у Рассветаўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Добруш (на лініі Гомель—Унеча), 39 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Клінцы. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 16 двароў, 89 жыхароў, у Навапуцкім с/с. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе агракамбіната «Новы шлях» (цэнтр — в. Ігаўка). Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці, ф. 13, воп. 1, спр. 2796.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755; ф. 48, воп. 1, спр. 5106; ф. 516, воп. 11, спр. 1186.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 30, воп. 1. спр. 1256; ф. 448, воп. 1, спр. 23; ф. 1251, воп. 1, спр. 65; ф. 1297, воп. 1, спр. 2969, 6906, 10446, 15469; ф. 2001, воп. 1, спр. 389, 974; ф. 2151, воп. 1, спр. 84; ф. 2931, воп. 1, спр. 1; ф. 2933, воп. 1. спр. 1; ф. 2945, воп. 1, спр. 2; ф. 2947, воп. 1, спр. 2; ф. 2948, воп. 1, спр. 1; ф. 2949, воп. 1, спр. 1; ф. 2950, воп. 1, спр. 1; ф. 2952, воп. 1, спр. 1; ф. 2958, воп. 1, спр.7; ф. 2965, воп. 1, спр. 3; ф. 2966, воп. 1, спр. 2; ф. 2967, воп. 1, спр. 1; ф. 2970, воп. 1, спр. 1; ф. 2971, воп. 1, спр. 1; ф. 2972, воп. 1, спр. 1; ф. 2994, воп. 1, спр. 1; ф. 3013, воп. 1, спр. 1252; ф. 3014, воп. 1, спр. 1, 7, 10, 11, 12, 20, 27, 29, 30, 40, 84, 91, 92, 96, 1250, 1251; ф. 3257, воп. 1, спр. 36.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1344.
Военно-историческое обозрение Российской империи. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографической комиссией. Т. 5. СПб., 1853.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 5 (1633—1699). СПб., 1855.
Исторические сведения о примечательнейших местах Белоруссии. СПб., 1855.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861. Могилев, 1861.
Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—3. Могилев, 1884.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13. Вильна, 1886.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Отчет о состоянии Могилевской губернии за 1889 г. Могилев, 1890.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 учеб. год. Могилев, 1890.
Волости и гмины. Могилевская губерния. Ч. 23. СПб., 1890.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902/1903 учеб. год. Могилев, 1902.
Обзор Могилевской губернии за 1902 год. Могилев, 1903.
Обзор Могилевской губернии за 1904 год. Могилев, 1905.
Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/1908 учеб. год. Могилев, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1908 год. Могилев, 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Обзор Могилевской губернии за 1910 год. Могилев, 1911.
Статистический обзор Могилевской губернии по 1914 г. Могилев, 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Документы и материалы по истории Белорусии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Крестьянское движение в Беларуси после отмены крепостного права (1861—1862 гг.). Мн., 1959.
Пад сцягамі партыі. Гомель, 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1975—1861). Мн., 1966.
Очерки истории профсоюзов Белоруссии (1905—1969 гг.). Мн., 1970.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида... Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя. Мн., 1993.
Наш край. Мн., 1996.



# ЕЛЬСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. (да 5.2.1931 г. Каралінскі раён) на Пд вобл., у межах Мазырскага Палесся. 4.8.1927 г. далучана частка скасаванага Слабодскага р-на. Пл. 1363 км$^2$, найб. працягласць з Пд на Пн 43 км, з У на З 40 км. Насельніцтва 19,8 тыс. чал. (2004 г.). На працягу 1991—1997 гг. у сувязі з радыяцыйным забруджаннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у чыстыя месцы пераселены 254 сям'і (543 чал.). Адм. ц. — г. Ельск. Мяжуе на Пд з Жытомірскай вобл. Украіны, на У — з Нараўлянскім, на Пн — Мазырскім і на З — Лельчыцкім р-намі. Тэрыторыя пераважна раўнінная, ПнУ і ПдЗ часткі — узвышаныя. На ПдЗ — адгалінаванні Оўруцкага кража.ё Маюцца 2 радовішчы торфу з агульнымі запасамі 32,9 млн. т, 3 радовішчы цагельнай сыравіны — 0,25 млн. куб. м. На мяжы Ельскага і Нараўлянскага р-наў у 1953 г. пры разведвальным свідраванні атрыманы прыток нафты. Рэкі: Славечна з прытокамі Чэрцень, Ясень, Жалонь; Батыўля з каналамі Валаўскім і Высока-Махновіцкім; Мытва з прытокам Млынок. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя. З мінеральных глебаў 6,3% суглінкавыя, 42,9% супясчаныя, 50,8% пясчаныя. Якасць ворных зямель 36, усіх с.-г. угоддзяў 29 балаў. Пад лесам 53% тэрыторыі. Амаль усе прамысл. прадпрыемствы сканцэнтраваны ў Ельску. Пад с.-г. угоддзямі каля 32% тэрыторыі. Асушана 18,7 тыс. га балот і забалочаных зямель. Праходзіць чыгунка і аўтадарога Калінкавічы—Оўруч (Украіна). Дзейнічаюць 20 агульнаадукацыйных школ, 3 дашкольныя і 41 клубная ўстанова, 27 бібліятэк, краязнаўчы музей, 94 спарт. збудаванні, 4 бальніцы, 18 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 97 магазінаў і 41 прадпрыемства грамадскага харчавання.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў каля г. Ельск.*



*Помнік на могілках ахвяр фашызму на месцы спаленай в. Копанкі.*

**ЕЛЬСК** (да 5.2.1931 г. Каралін) — горад раённага падпарадкавання, чыг. ст. (на лініі Калінкавічы—Оўруч), цэнтр раёна, за 117 км на ПдЗ ад Гомеля, 319 км ад Мінска. Аўтадарогамі злучаны з

Мазыром, Оўручам, Нароўляй. 10 тыс. жыхароў (2004 г.).



*Троіцкая царква ў г. Ельск. Выгляд з боку апсіды.*

Паводле пісьмовых крыніц упамінаецца з 16 ст., належаў Спадам, якія пераехалі сюды з Францыі, потым Аскерам і Яленскім. Уваходзіў у Мазырскі пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1784 г. ўпамінаецца ў сувязі з увядзеннем грашовага збору з тых, хто праязджаў праз мястэчка. У 1775 г. на сродкі К.Аскеркі пабу-



*Будынак райвыканкома ў г. Ельск.*

давана драўляная Свята-Троіцкая царква, будынак якой складаўся з сістэмы зрубаў (пастаўленых на крыжы) і шатровай званіцы над уваходам, дзейнічалі касцёл, яўрэйскі малітоўны дом. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Міхалкоўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1795 г. 24 двары. Штогод 1 вер. праводзіўся кірмаш. У 1842 г. ўладальнікам маёнтка Яленскім пабудаваны новы будынак царквы, у ёй захоўваўся абраз Божай Маці. Праз мястэчка праходзіў тракт з Рагачова ў Валынь, паштовая станцыя (8 экіпажаў). У 1858 г. 300 жыхароў, у 1866 г. 56 двароў, 422 жыхары, царква, сінагога, вадзяны млын. З пабудовай у 1873 г. чыг. Жлобін—Оўруч пачала працаваць чыг. станцыя. Цэнтр маёнтка, гаспадар якога Анзельм у 1876 г. валодаў 9582 дзес. зямлі, 2 карчмамі, вадзяным млынам, вінакурняй і смалакурняй. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 45 двароў, 388 жыхароў, царква, капліца, яўрэйскі малітоўны дом, нар. вучылішча, паштовая ст., 9 крам, карчма,



*Дом быту ў г. Ельск.*



*Краязнаўчы музей у г. Ельск.*

цэнтр Каралінскай воласці (скасавана 17.7.1924 г.). У сяленні Каралін 98 двароў, 590 жыхароў, хлебазапасны магазін, працавалі вінакурны з-д, паштова-тэлеграфная кантора. У 1908 г. 167 двароў, 910 жыхароў. У 1917 г. ў мястэчку 1132, у маёнтку 273, на чыг. ст. 61 жыхар. У выніку бандыцкіх пагромаў, якія адбыліся на працягу 1919—20 гг., загінулі 18 жыхароў. У 1921 г. 400 двароў, 2040 жыхароў, школа, пачала дзейнічаць вузкакалейная чыг. да в. Рамязы. З 17.7.1924 г. цэнтр Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў. З 20.8.1924 г. да 27.9.1938 г. цэнтр Ельскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Дзейнічалі 2 рамесныя т-вы (у 1926 г. 72 чалавекі), калгасы «1 Мая», «Праца» і «Прыклад», 2 маслазаводы, вінакурня, грыбаварня, кузня, стальмашня, электрастанцыя, цагельня, кравецкая, шавецка-шубная і дрэваапрацоўчая майстэрні (у 1933 г. 83 рабочых), лесапільня, паравы млын з крупарушкай, лягсас (з 1936 г.). Па чыгунцы значную частку перавозак складалі лесаматэрыялы. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У першыя дні Вял. Айч. вайны быў створаны знішчальны батальён (камандзір І.А.Казінец). 23.8.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Са жн. 1941 г. да снеж. 1943 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі Я.М.Шацько і А.І.Сухмель). У 1943 г. ў Ельску дыслацыраваўся 101-ы славацкі полк, афіцэр якога Я.Налепка з групай салдат-антыфаш. перайшоў на бок партызан. Нямецкія акупанты загубілі 465 жыхароў. Вызвалены ў ноч на 27.11.1943 г., але пад напорам варожых сіл 29.11.1943 г. сав. часці адступілі. 11.1.1944 г. 415-я стралк. дывізія 61-й арміі і партызаны 37-й Ельскай партыз. брыгады канчаткова вызвалілі Ельск. У



*Кінатэатр «Дружба» ў г. Ельск.*



*Дзіцячы сад-яслі № 1 «Сонейка» ў г. Ельск.*



*Дзіцячы сад-яслі № 2 «Залаты ключык» у г. Ельск.*




*Будынак «Беларусбанка» ў г. Ельск.*

баях за горад загінулі 313 воінаў і 10 партызан (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Карповіча, на могілках і за 2 км на У ад горада). 128 жыхароў загінулі на фронце. У 1953 г. каля Ельска атрыманы першы прыток нафты ў колькасці 16,5 тон і 945 куб. м газу. У 1971 г. 6,7 тыс. жыхароў. З 5.7.1971 г. горад раённага падпарадкавання. Размешчаны мэблевая ф-ка, хлебны, кансервавы і малочны з-ды, райсельгасхімія, палігон жалезабетонных вырабаў, к-ты будматэрыялаў, бытавога абслугоўвання, аграхімлабараторыя, леспрамгас, аб'яднанне «Сельгастэхніка», адзяленні паштовай і электрычнай сувязі, ветстанцыя, лясгас, 3 сярэднія, муз. і дзіцячая спарт. школы, Дом школьнікаў, школа мастацтваў, Дом культуры, 6 дашкольных устаноў, 2 б-кі, краязнаўчы музей (адкрыты ў 1966 г. як музей народнай славы, з 7.1.1976 г. краязнаўчы). Вядзецца раённае радыёвяшчанне, выходзіць газ. «Народны голас» (са снеж. 1931 г.).

Забудоўваецца згодна ген. плана, распрацаванага ў 1968 г. гомельскімі абл. праектнымі майстэрнямі ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з прамалінейных, паралельных паміж сабой амаль мерыдыяльнай арыентацыі вуліц, якія, перакрыжоўваючыся шыротнымі вуліцамі, утвараюць сетку кварталаў. Частка будынкаў мураваная, шматпавярховая. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы (былая в. Чырвоны Пільшчык). У 1990 г. да горада далучана в. Камуна (да 1920 г. Анзельмава), якая была цэнтрам Багуціцкага с/с. Адна з вуліц носіць імя ўраджэнца горада, супрацоўніка міліцыі В.А.Акінчыца (загінуў пры выкананні службовых абавязкаў). Радзіма бел. педагога і філосафа М.П.Анцукевіча (былое мястэчка Каралін), доктара тэхн. навук, прафесара К.А.Бачкова, доктара с.-г. навук В.М.Яцухны.



*Агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці да Дня Перамогі ў г. Ельск.*



*У час правядзення рэгіянальнага фестывалю «Грай, гармонік» у г. Ельск.*



*У час правядзення рэгіянальнага фестывалю «Грай, гармонік» у г. Ельск.*

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Рамязоўскім с/с, за 15 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 182 км ад Гомеля, на З і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чарцень (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ельск—Махновічы. 52 гаспадаркі, 88 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 54 жыхары. У 1908 г. 65 жыхароў у

Мялешкавіцкай вол. У 1917 г. 119 жыхароў, у 1924 г. 27 двароў, 144 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях камуны», працавала кузня. У 1940 г. 76 двароў. 276 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе калгаса «Партызан» (цэнтр — в. Рамязы), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАБРУЙКІ** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 5 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на р. Мытва (прыток р. Прыпяць); на ПнЗ — плаціна і вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Княжбор'е—Рамязы. 37 гаспадарак, 81 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Гольста. Паводле перапісу 1879 г. ў Нараўлянскай воласці 28 двароў, 168 жыхароў. У 1908 г. 45 двароў, 293 жыхары. У 1921 г. 70 двароў, 314 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, для якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас. 52 жыхары в. Бабруйкі і пас. Ульянаўка загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 261 жыхар, у складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАГУЦІЧЫ** — вёска і чыг. ст. (на лініі Калінкавічы—Оўруч), цэнтр Багуціцкага с/с, за 8 км на Пд ад Ельска, за 186 км ад Гомеля; на Пн, З і Пд меліярацыйныя каналы. Аўтадарога звязвае вёску з в. Вішанькі і далей — з г. Ельскам. 165 гаспадарак, 319 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 29 двароў. У 1816 г. 151 жыхар. У 1873 г. за 2 км ад вёскі пачала дзейнічаць чыг. ст. на лініі Жлобін—Калінкавічы—Оўруч. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Ельскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 436 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 86 двароў, 500 жыхароў, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. У 1909 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у 1923 г. для яе збудавана сваё памяшканне. У 1921 г. 180 двароў, 895 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Багуціцкага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зара», працавалі кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску загінулі 24 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 105 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 880 жыхароў. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск). Размешчаны дзевяцігадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з 2 частак: усх. (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца з У кароткая прамалінейная і з З кароткая дугападобная вуліцы) і зах. (да крывалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Багуціцкага с/с уваходзілі да 1927 г. в. Бандарка, пас. Марынкаўскі,

да 1928 г. пас. Марынкі, да 1930 г. пас. Мялешкаўскі (не існуюць).

**БАРАНЦЫ** — пасёлак у Скараднянскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 207 км ад Гомеля, за 1 км ад дзярж. граніцы з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 24 жыхары. У 1908 г. 5 двароў, 36 жыхароў. У 1917 г. 54 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна каля вясковай дарогі.

**БЕЛЯКІ** (да 1932 г. Белякоў Хутар) — вёска ў Качышчанскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Славечна), за 205 км ад Гомеля, на р. Батыўля (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. У 1917 г. 118 жыхароў, у 1924 г. 146 жыхароў у Скараднянскай вол. У 1925 г. 19 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У 1930 г. адкрыта школа. У 1940 г. 49 двароў, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. карнікі спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 171 жыхар. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Валоўская Рудня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БОЛГАРКА** — вёска ў Багуціцкім с/с, за 6 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 183 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Ельска. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2000 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1917 г. ў Жыткавіцкай вол.,191 жыхар. У 1921 г. ў Каралінскай вол., 43 двары, 219 жыхароў. У 1925 г. 54 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях камуны», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну са снеж. 1941 г. дзейнічала патрыят. падпольная група (кіраўнік І.Г.Шульга). Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пн невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БУДКІ** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 20 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 197 км ад Гомеля; на З меліярацыйны канал. Побач аўтадарога Старое Высокае — Ельск. 29 гаспадарак, 60 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар Мачалы-Будкі ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 61 жыхар у Скараднянскай вол. У 1908 г. 9 двароў. У 1925 г. 17 двароў, 101 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 46 двароў, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 166 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Старое Высокае). Размешчаны клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2

завулкамі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БЯКІ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Ельска, за 11 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 211 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 45 гаспадарак, 93 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 66 жыхароў. У 1917 г. 138 жыхароў, у Скараднянскай вол. У 1925 г. 23 двары, 146 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 39 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе саўгаса «Скараднянкі» (цэнтр — в. Скароднае). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ВАЛАЎСК** — вёска, цэнтр Валаўскага с/с, за 35 км на ПдЗ ад Ельска, за 25 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 223 км ад Гомеля, на аўтадарозе Стадолічы—Скароднае; на Пд і У канал Валаўскі, злучаны з р. Батыўля (прыток р. Славечна). 299 гаспадарак, 786 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ва ўладанні езуітаў, потым дзярж. уладанне, з 1777 г. маёмасць віленскага біскупа І.Масальскага, у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 15 двароў, дзейнічала Васкрасенская царква. У 1834 г. 17 двароў, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1866 г. 39 двароў, 272 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 390 жыхароў, царква, царкоўнапрыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 лаўкі, карчма, у Скараднянскай вол., побач аднайменная сядзіба. У 1908 г. 68 двароў, 460 жыхароў. У 1917 г. 671 жыхар. У 1923 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце. У 1925 г. 133 двары, 732 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я. Варашылава, працавала кузня. У 1940 г. 171 двор, 780 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 95 двароў, загубілі 59 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 251 вясковец, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1979 г. на У вёскі. З 17.12.1959 г. цэнтр Валаўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 837 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Валаўскі». Дзейнічаюць сярэдняя школа (у 1987 г. ўзведзены новы мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, швейная майстэрня, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд амаль перпендыкулярна далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзена 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц, пераважна з вёсак Гамарня і Грыдні Нараўлянскага р-на.

У склад Валаўскага с/с да 1987 г. ўваходзіла в. Новы Хутар (не існуе).

**ВАЛАЎСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Ельска, за 15 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 194 км ад Гомеля, на р. Батыўля (прыток р. Славечна), на аўтадарозе Засінцы—Ельня. 83 гаспадаркі, 195 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1-й пал. 19 ст., калі ў гэтыя мясціны перасяліліся некалькі сямей з в. Валаўск. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 179 жыхароў, вадзяны млын, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 30 двароў, 105 жыхароў. У 1917 г.

319 жыхароў. У 1924 г. 78 двароў, 377 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У 1940 г. 95 двароў, 525 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 43 жыхароў. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі, фельч. акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 3 завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова кампактная, драўляная, сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць радовішчы жалезнякоў.

**ВІШАНЬКІ** — вёска ў Багуціцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на аўтадарозе Ельск—Старое Высокае; вакол лес. 49 гаспадарак, 101 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Паводле метрыкі ВКЛ у 1568 г. сяло, 8 службаў, у Мазырскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 24 двары, прыватная ўласнасць. У 1816 г. 85 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Ельскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 235 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, цагельня, вятрак, вінная лаўка. У 1908 г. 53 двары, 341 жыхар, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце. У 1924 г. 65 двароў, 228 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавала кузня. У 1940 г. 140 двароў, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 136 двароў і загубілі 3 жыхароў. 50 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 324 жыхары. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск), клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, якая ў цэнтры перакрыжоўваецца кароткай вуліцай, што праходзіць уздоўж аўтадарогі. На У адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВОСТРАЎ** (да 1937 г. Шарынскі Востраў) — вёска ў Багуціцкім с/с, за 2 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч). Побач аўтадарога Рамязы—Ельск. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар, 61 жыхар, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Востраў», працавала кузня. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены аднабакова, няшчыльна. Радзіма доктара біял. навук, прафесара В.В.Валетава.

**ВЯЗЦЫ** — вёска ў Валаўскім с/с, за 51 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 230 км ад Гомеля, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам, на З канал Валаўскі, злучаны з р. Батыўля (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скараднае—Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. 34 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. У складзе саўгаса «Валаўскі» (цэнтр — в. Валаўск). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыен-

таванай з ПдЗ на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВЯРХІ** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 26 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 203 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Высокае — Ельск. 24 гаспадаркі, 44 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. 120 жыхароў, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 28 двароў, 168 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 46 двароў, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну 18.7.1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і расстралялі 100 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Старое Высокае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца з З кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ГЛАЗКІ** — вёска ў Валаўскім с/с, за 48 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 232 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар, 74 жыхары, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1924 г. 20 двароў 146 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Светлае жыццё», працавала кузня. У 1940 г. 26 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў. У складзе саўгаса «Валаўскі» (цэнтр — в. Валаўск). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРЫШЫ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 49 км на ПдЗ ад Ельска, 31 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 224 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 119 жыхароў. У 1908 г. 17 двароў, 170 жыхароў. У 1917 г. 184 жыхары. Вялікае абурэнне выклікала ў красавіку 1913 г. забарона памешчыка пасвіць жывёлу ў лесе. У 1920 г. ў новым будынку пачала дзейнічаць школа. У 1924 г. 34 двары, 316 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 58 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-акупанты ў ліп. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 230 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Засінцы), клуб. Планіровачна складаецца з крываліне́йнай мерыдыянальнай вуліцы, ад цэнтра якой веерападобна адыходзяць 3 завулкі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАБРЫНСКІ** — пасёлак у Млыноцкім с/с, за 4 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), на аўтадарозе Нароўля—Ельск. 100 гаспадарак, 204 жыхары (2004 г.).

Пачатак пасёлку пакладзены ў 19 ст. з узнікненнем побач з в. Дабрынь маёнтка Радзівілаў. Пазней тут пачала працаваць вінакурня. У 1917 г. 121 жыхар, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. 37 двароў, 175 жыхароў. У 1920-х г. арганізаваны саўгас «Дабрынь». У выніку мадэрнізацыі вінакурні створаны спіртзавод «Дабрынь». 52 пасялкоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Сучасная назва

пасёлку нададзена Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 21.1.1969 г. У складзе саўгаса «Дабрынь» (цэнтр — в. Дабрынь). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай амаль мерыдыянальнай вуліцы з завулкамі, да цэнтра якой далучаецца з У прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну М.К.Ільінкоўскага (быў камісарам партыз. брыгады Мазырскай імя А.Неўскага Палескай вобл.).

**ДАБРЫНЬ** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі—Оўруч), за 182 км ад Гомеля, на аўтадарозе Нароўля—Ельск. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з вадасховішчам, што за 1 км на ПнУ. 273 гаспадаркі, 688 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяло Дабрыня ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 11 двароў. У 1816 г. 128 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Ельскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 402 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная лаўка. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце, а ў 1921 г. для яе ўзведзены будынак. У 1917 г. ў Каралінскай воласці; у вёсцы — 613, у аднайменным фальварку 121 жыхар. У 1924 г. 156 двароў, 647 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працавалі стальмашня, він. з-д, маслабойня, кузня. 68 жыхароў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 869 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Дабрынь». Размешчаны аддз. сувязі, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-ак. пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пн далучаецца завулак, з Пд — прамалінейная вуліца з 2 злучанымі паміж сабой кароткімі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма доктара мед. навук У.Ф.Анішчанкі, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі Г.І.Расолава.

**ДАНІЛАЎКА** (да 1929 г. Данілаўская Буда) — вёска ў Млыноцкім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 179 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ельск—Нароўля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. 64 гаспадаркі, 122 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 153 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 243 жыхары. У 1921 г. 284 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Данілаўка». 35 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 379 жыхароў. У складзе саўгаса «Дабрынь» (цэнтр — в. Дабрынь), клуб. Планіровачна складаецца з 2 амаль шыротнай арыентацыі вуліц, злучаных завулкамі. Забудова драўляная, пераважна двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ДЗВІЖКІ** — вёска ў Багуціцкім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. станцыі Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 183 км ад Гомеля, на аўтадарозе Махновічы—Ельск, на Пн і У меліярацыйныя каналы. 201 гаспадарка, 499 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 35 двароў, 272 жыхары, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1834 г. 38 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Рамязоўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 510 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 103 двары, 636 жыхароў, у

Каралінскай вол. У 1909 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1923 г. для яе ўзведзены будынак. У 1921 г. 228 двароў, 1076 жыхароў. Побач былі засценак Дзвіжаўскі (25 двароў, 114 жыхароў) і пасёлак лесаапрацоўчага з-да (у 1925 г. 16 двароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Новыя Дзвіжкі», працавалі конная крупарушка і кузня. Засценак у 1930-х г. быў далучаны да вёскі. У 1940 г. 237 двароў, 736 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты загубілі 16 жыхароў. Вызвалена 9.1.1944 г. На фронце загінулі 75 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 972 жыхары. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск). Размешчаны аддз. сувязі, клуб, дзевяцігадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных амаль шыротных вуліц, да адной з якіх далучаюцца дзве кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака А.Р. Пятрухны.

**ДЗЕМІДЫ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Ельска, за 14 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 212 км ад Гомеля, на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 44 жыхары. У 1908 г. 6 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Валаўскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 218 км км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Стадолічы. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 48 жыхароў. У 1917 г. 75 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1924 г. 16 двароў, 95 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Дубраўка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 9 жыхароў. На фронце загінулі 24 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У складзе саўгаса «Валаўск» (цэнтр — в. Валаўск), клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца з Пд працяглая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 30 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 207 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лельчыцы—Мазыр. 124 гаспадаркі, 366 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1824 г. 40 двароў. У 1876 г. гаспадар аднайменнага маёнтка Ф.І.Кучынскі меў 110 дзес. зямлі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. У баях за вёску загінулі 8 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле, на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 136 землякоў, памяць

аб якіх увекавечвае курган, насыпаны ў 1967 г. за 0,5 км на Пд ад вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 295 жыхароў. Цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніку». Размешчаны дзевяцігадовая школа (у 1991 г. ўзведзены новы мураваны будынак), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, да якіх на Пд далучаюцца 2 кароткія шыротныя вуліцы. У 1987 г. ўзведзены 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх пасялілі перасяленцаў з тэрыторый, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**ЖУКІ** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 197 км ад Гомеля, на аўтадарозе Старое—Высокае—Ельск, на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з канавай Шыра. 38 гаспадарак, 94 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 18 двароў, 269 жыхароў, валоданне Пясецкіх. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Рамязоўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 251 жыхар. У 1908 г. 46 двароў, у Скараднянскай вол. У 1924 г. 57 двароў, 256 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавала кузня. У 1940 г. 64 двары, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 23 жыхароў. Летам 1943 г. фаш. карнікі загубілі тут больш за 3,5 тыс. мірных жыхароў, прывезеных з розных месц Ельскага і інш. раёнаў Палескай вобл. (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў. У складзе калгаса «Рэвалюцыя» (цэнтр — в. Качышча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай




*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Жукі.*

вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАБОЗЗЕ** — вёска ў Багуціцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Ельска, за 1,5 км ад чыг. ст. Багуцічы (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 183 км ад Гомеля, на аўтадарозе Старое Высокае—Ельск, на З і Пд мяжуе з лесам. 13 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 137 жыхароў. У 1921 г. 30 двароў, 175 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Серп і молат». 11 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на З далучаецца кароткая вуліца. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна, пераважна па адзін бок вуліцы.

**ЗАГАЦЦЕ** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—

Оўруч), за 195 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Высокае—Ельск. 29 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пачатку 20 ст. як хутар у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 77 жыхароў. У 1925 г. 20 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 43 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 52 жыхароў. На фронце загінуў 21 вясковец. У складзе калгаса «Рэвалюцыя» (цэнтр — в. Качышча), клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЕЧЧА** — вёска ў Валаўскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 217 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Батыўля (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Стадолічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары. У 1917 г. 45, у 1924 г. 61 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 10 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары. У складзе саўгаса «Валаўскі» (цэнтр — в. Валаўск). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна каля прасёлачнай дарогі.

**ЗАСІНЦЫ** — вёска, цэнтр Засінцаўскага с/с, за 47 км на ПдЗ ад Ельска, за 32 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 221 км ад Гомеля, на р. Ясінец (прыток р. Славечна), на Пд, З і У мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае вёску з в. Скароднае і г. Ельск. 124 гаспадаркі, 322 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 80 жыхароў. У 1917 г. 187 жыхароў. У 1924 г. 24 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Засінцаўскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 68 двароў, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 106 землякоў, у памяць аб іх на паўн.-ўсх. ускраіне ў 1967 г. ўзведзены Курган Славы і пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. Паводле перапісу 1959 г. 290 жыхароў. Цэнтр калгаса «Шлях Леніна». Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Ад цэнтра на ПнУ адыходзіць крывалінейная вуліца з 2 завулкамі. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАХАРКІ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Ельска, за 22 км ад чыг. ст. Славечна (на ліні Калінкавічы—Оўруч), за 215 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 112 жыхароў. У 1917 г. 118 жыхароў. У 1924 г. ў в. Захаркі-1 11 двароў, 57 жыхароў, у в. Захаркі-2 12 двароў, 52 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. На фронце загінулі 25 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Захаркі-1 — 77, у в. Захаркі-2 — 89 жыхароў. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). У 1983 г. вёскі аб'ядналі ў адну

в. Захаркі. Забудова драўляная, шчыльная, сядзібнага тыпу.

**ЗАШЫР'Е** – вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 38 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 215 км ад Гомеля, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Батыўля (прыток – р. Славечна). Аўтадарога звязвае вёску з Ельскам. 415 гаспадарак, 1295 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар Ятар (ён жа Зашыр'е). У 1917 г. 66 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лясах каля вёскі базіраваўся ельскі партыз. атрад, пазней 37-я Ельская партыз. брыгада. У ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Камуніст». Размешчаны аддз. сувязі, Дом культуры, сярэдняя і муз. школы, б-ка, бальніца, паліклініка, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудавана рэдка драўлянымі хатамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ БОР** – пасёлак у Роза-Люксембургскім с/с, за 20 км на Пд ад Ельска, за 3 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 197 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня–Ельск. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1930-х г., калі тут пачала працаваць ганчарня. Пасля Вял. Айч. вайны прадпрыемства значна пашырылася, і каля яго склаўся пасёлак. Назва зацверджана Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 21.1.1969 г. Размешчаны ганчарны завод. Планіровачна складаецца з кароценькай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАВАЛІ** – вёска ў Засінцаўскім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Ельска, за 26 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 219 км ад Гомеля, за 2 км ад дзярж. мяжы з Украінай. На З р. Ясінец (прыток р. Славечна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Славечна–Ельск. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 75 жыхароў. У 1908 г. 13 двароў, 115 жыхароў. У 1917 г. 122 жыхары, у 1924 г. 22 двары, 149 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавала кузня. У 1940 г. 45 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхары. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле



*Вуліца ў пасёлку Зашыр'е.*



*Пасёлак Зашыр'е.*

перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Засінцы), клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗІМІРАЎКА** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 51 км на ПдЗ ад Ельска, за 33 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 226 км ад Гомеля, 1 км ад дзярж. мяжы з Украінай, на р. Жалонь (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 56 жыхароў, вадзяны млын. У 1917 г. 105 жыхароў, у 1924 г. 30 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 18 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 117 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Падгалле). Забудова кампактная, складаецца з 3 кароценькіх вуліц. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 52 км на ПдУ ад Ельска, 34 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 227 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 29 гаспадарак, 51 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 104 жыхары. У 1908 г. 14 двароў, 135 жыхароў. У 1917 г. 168 жыхароў, у 1924 г. 23 двары, 175 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавала кузня. У 1940 г. 40 двароў. У Вял. Айч. вайну 8.6.1943 г. ням.-фаш. карнікі загубілі 23 жыхароў, а ў кастр. 1943 г. — 31 жыхара. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 213 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Падгалле), клуб. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, якія злучаны на Пд і затым разыходзяцца: адна — у паўн.-ўсх., другая — у паўн.-зах. накірунках. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАВАЯ** (да 30.7.1964 г. г. Воўчае) — вёска ў Качышчанскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 201 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чарцень (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Высокае—Ельск. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар, 42 жыхары, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У складзе калгаса «Абарона Саветаў» (цэнтр — в. Некрашоўка). Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАПСАНЫ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Ельска, 25 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 218 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар Капцаны ў Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. У 1908 г. 8 двароў, 61 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Засінцы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля скрыжавання прасёлачных дарог.

**КАРМА** — вёска ў Валаўскім с/с, за 45 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 22 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Стадолічы. 63 гаспадаркі, 104 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 18 двароў, цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадар якога дваранін Ванькові́ч валодаў у 1876 г. 400 дзес. зямлі. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 23 двары, 219 жыхароў, часоўня, хлебазапасны магазін, у фальварку 2 двары, 18 жыхароў. У 1908 г. 48 двароў, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 406 жыхароў. У 1924 г. 84 двары, 438 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 17.12.1959 г. цэнтр Кармянскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Ельскага р-наў Мазырскай акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», працавалі вятрак і кузня, спіртапарашковы з-д. У 1940 г. 117 двароў, 516 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 417 жыхароў. У складзе саўгаса «Валаўскі» (цэнтр — в. Валаўск). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КНЯЖАБОР'Е** — вёска ў Млынокскім с/с, за 3 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 126 км ад Гомеля. На У і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Аўтадарога звязвае вёску з Ельскам. 80 гаспадарак, 146 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 36 двароў, 107 жыхароў. У 1917 г. 251 жыхар. У 1921 г. 87 двароў, 383 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас. 38 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 368 жыхароў. У складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЧЫШЧА** — вёска, цэнтр Качышчанскага с/с, за 20 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 197 км ад Гомеля. На Пд і Пн меліярацыйныя каналы, у іх ліку канава Шыра. На аўтадарозе Старое Высокае—Ельск. 176 гаспадарак, 450 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў попісе войска ВКЛ пад 1567 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 41 двор, 200 жыхароў, дзярж. ўладанне ў Мазырскім пав. Мінскай губ., дзейнічала драўляная Аляксандра-Неўская царква. У 1816 г. 54 двары. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. ў валоданні Пясецкіх, якім належала ў 1876 г. 3429 дзес. зямлі і з 1858 г. карчма. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Рамязоўскім царк. прыходзе. У 1885 г. 56 двароў, 336 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 608 жыхароў, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 118 двароў, 670 жыхароў, у Скараднянскай вол. У 1917 г. 725 жыхароў адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце. У 1924 г. 1010 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Качышчанскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Ельскага р-наў Мазырскай акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Го-

мельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рэвалюцыя», працавалі кузня (з 1931 г.), конная крупарушка. У 1940 г. 135 двароў. У Вял. Айч. вайну вясковая падпольная група разам са Скараднянскімі падпольшчыкамі паклалі ў лют. 1942 г. пачатак Ельскаму партыз. атраду. У ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 153 жыхары, сярод якіх значная частка з інш. вёсак. 73 вяскоўцы загінулі на фронце. На вясковых могілках у 2 брацкіх магілах пахаваны 21 воін і партызан. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. Цэнтр калгаса «Рэвалюцыя». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, б-ца, фельч.-акушэрскі і вет. пункты, аддз. сувязі, дзіцячы сад, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы з 3 завулкамі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма выдатніка адукацыі Рэспублікі Беларусь У.С.Пархоменкі.

Да Вял. Айч. вайны ў склад Качышчанскага с/с уваходзілі вёскі Зялёны Дварок, Капанка і Круглая, якія ням.-фаш. акупанты спалілі (не адрадзіліся).

**КУЗЬМІЧЫ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 121 км на ПдЗ ад Ельска, 5 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Ельск—Оўруч), 138 км ад Гомеля; у сутоку рэк Славечна і Батыўля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня — Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары ў 1986 г. пераселены ў чыстыя месцы.

У 1900 г. ў вёсцы знойдзены скарб (285 грашовых адзінак Рэчы Паспалітай, Прусіі, Прыбалтыкі; захаваны ў 1652 г.). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Радзівілаў, дзейнічала Троіцкая царква. У 1811 г. 14 двароў, у Мазырскім павеце Мінскай губ. У 1834 г. 18 двароў, 96 жыхароў. У 1850 г. сяло, 33 двары, 158 жыхароў. Праз вёску праходзіў тракт з Мазыра ў Жытомір, мелася паштовая станцыя (8 экіпажаў). Уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка, гаспадары якога Дабравольскія валодалі ў 1876 г. 3380 дзес. зямлі. У 1885 г. 26 двароў, 222 жыхары. Паводле перапісу 1857 г. 66 двароў, 406 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гадоў яна атрымала сваё памяшканне. У 1917 г. 605 жыхароў, у Скараднянскай вол. Побач былі 3 аднайменныя фальваркі. У 1921 г. 121 двор, 927 жыхароў. У 1924 г. 137 двароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Кузьміцкага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. да 26.7.1930 г., з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Ельскага раёнаў Мазырскай акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Беларуская камуна», працавалі вадзяны млын (з 1918 г.) і кузня. Значную частку перавозак праз сплаўную прыстань, што размяшчалася ў вёсцы, складалі лесаматэрыялы. У 1940 г. 161 двор. У Вял. Айч. вайну 12.6.1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі вёску, а 96 жыхароў сагналі ва ўрочышча Пудаўка (2 км на У ад вёскі) і расстралялі (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму). 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 375 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы з 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

Радзіма ўдзельніка грамадзянскай вайны, гасп. кіраўніка С.М.Калбасіна (яго імем названа вуліца ў Ельску).

**ЛУКАЎЦЫ** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 35 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 212 км ад Гомеля; на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з в. Батыўля (прыток р. Славечна). Транс-

партныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з Ельскам. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 47 жыхароў. У 1908 г. 9 двароў, 58 жыхароў. У 1917 г. 100 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 46 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніку» (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЗУРЫ** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 184 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Новая Рудня — Мазыр. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1795 г. 2 двары. У 1834 г. 13 жыхароў, у складзе маёнтка Міхалкі. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 68 жыхароў, дзейнічала майстэрня па апрацоўцы скур. У 1908 г. ў Міхалкаўскай вол. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 59 жыхароў. У складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Планіровачна складаецца з 2 кароценькіх, перакрыжаваных паміж сабой вуліц. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 22 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 205 км ад Гомеля; на У і З меліярацыйныя каналы. Аўтадарога злучае вёску з Ельскам. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне царк. прыхода Рамязы. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 171 жыхар, часоўня. У 1908 г. 32 двары, 219 жыхароў у Каралінскай воласці. У 1924 г. 47 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас», працаваў вятрак. У 1940 г. 39 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 85 жыхароў. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніку» (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну А.С.Мішчанкі (быў камандзірам партыз. брыгады № 37 Палескай вобл.).

**МЛЫНОК** — вёска, цэнтр Млыноцкага с/с, за 4 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 101 км ад Гомеля, на аўтадарозе Новая Рудня — Мазыр; на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарцень, на Пд, У і З мяжуе з лесам. 112 гаспадарак, 329 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 5 двароў, уладанне памешчыка Горвата. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 95 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 101 жыхар. У 1921 г. 22 двары, 165 жыхароў. У 1924 г. 31 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавала цагельня (з 1923 г.), кравецкая (з 1928 г.), ганчарна-цагельная (з 1928 г.), шавецка-шубная (з 1928 г.), дрэваапрацоўчая (з 1928 г.) арцелі і кузня. У Вял. Айч. вайну ў 1942—43 гг. у баях каля вёскі загінулі 43 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 147 жыхароў. З 25.2.1977 г. цэнтр Млыноцкага с/с. Цэнтр

саўгаса «Млынок». Дзейнічаюць пачатковая школа, Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі, фельч.-ак. пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца невялікі ўчастак адасобленай забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

У склад Млыноцкага с/с уваходзіла да 1999 г. в. Асавы (не існуе).

**МЯДЗВЕДНАЕ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Ельска, за 22 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 215 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 69 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор. Памешчык Старажынскі меў тут у 1876 г. 170, а памешчык Татур — 60 дзес. зямлі. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 183 жыхары, хлебазапасны магазін, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У крас. 1913 г. адбыўся канфлікт паміж вяскоўцамі і памешчыкамі Сазановічамі, якія забаранілі карыстацца ляснымі пашамі. У 1917 г. 296 жыхароў. У 1925 г. 48 двароў, 329 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 87 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 31 жыхара. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае), размешчаны клуб і б-ка. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных кароценькай вуліцай. Забудавана двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**НЕКРАШОЎКА** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 116 км на ПдЗ ад Ельска, за 7 км ад чыг. ст. Багуцічы (на лініі Ельск—Оўруч), за 197 км ад Гомеля, на р. Чарцень (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Старое Высокае—Ельск. 24 гаспадаркі, 83 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 7 двароў. Памешчыца Л.В.Манкевіч валодала тут у 1876 г. 77 дзес. зямлі. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 134 жыхары. У 1908 г. — вёска, у Скараднянскай воласці, 21 двор, 150 жыхароў, і фальварак. У 1917 г. 187 жыхароў. У 1924 г. адкрыта школа, для якой выдзелілі нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 57 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавала кузня. У 1940 г. 63 двары, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 220 жыхароў. Цэнтр калгаса «Абарона Саветаў». Размешчаны пачатковая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін, гідралагічны пост. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ВЫСОКАЕ** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 20 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 197 км ад Гомеля; на Пд і Пн меліярацыйныя каналы. Аўтадарога злучае вёску з Ельскам. 36 гаспадарак, 88 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з сярэдзіны 18 ст., калі в. Высокае падзялілася на дзве: Старое Высокае і Новае Высокае. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 342 жыхары, у Скараднянскай вол. У 1907 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 87 двароў, 538

жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 135 двароў, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. карнікі спалілі вёску і загубілі 212 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Старое Высокае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж аўтадарогі і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў і арганізатараў партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну П.П.Гудава (быў камісарам партыз. брыгады імя П.К.Панамарэнкі Васілевіцкага р-на Палескай вобл.).

**НОВАЯ РУДНЯ** — вёска ў Роза-Люксембургскім с/с, за 16 км на Пд ад Ельска, за 3 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 193 км ад Гомеля, за 0,5 км ад дзярж. граніцы з Украінай, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Аўтадарога звязвае вёску з Ельскам. 80 гаспадарак, 129 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 18 ст., калі тут працавала рудня па выплаўцы жалеза. У 1816 г. 5 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1834 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 13 двароў, 95 жыхароў, у складзе маёнтка Міхалкі. Дваранін Лянкевіч у 1846 г. ў вёсках Новая Рудня і Санюкі валодаў 2400 дзес. зямлі і 2 карчмамі. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Ельскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 335 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы, вадзяны млын, сукнавальня. У 1908 г. ў Каралінскай вол., 63 двары, 403 жыхары. У 1914 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 173 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», працавалі вадзяны млын (з 1921 г.) і кузня. 68 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У 1967 г. за 1 км на ПдУ ад вёскі, каля аўтадарогі, на мяжы з Украінай, у гонар дружбы беларускага і ўкраінскага народаў насыпаны Курган з памятным знакам на вяршыні. Паводле перапісу 1959 г. 639 жыхароў. У складзе калгаса імя XX з'езда КПСС (цэнтр в. Роза-Люксембург). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўд. (Г-падобная вуліца, пераважная частка якой мае шыротную арыентацыю) і паўн. (да крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца з Пн дугападобная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАГАРЭЛАЕ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Ельска, за 17 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 207 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2000 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 8 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1816 г. 15 двароў, 69 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 96 жыхароў. У 1908 г. ў Скараднянскай вол., 16 двароў, 125 жыхароў. У 1917 г. 162 жыхары. У 1924 г. 27 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАДГАЛЛЕ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 52 км на ПдЗ ад Ельска, за 30 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 229 км ад Гомеля, 1,5 км ад дзярж. граніцы з Украінай, на р. Жалонь (Мухаедаўскі канал); на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі

па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 110 гаспадарак, 288 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 139 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 190 жыхароў. У 1917 г. 285 жыхароў. У 1924 г. пабудавана школа. У гэты час у вёсцы было 47 двароў, 411 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак (з 1910 г.). У 1940 г. 70 двароў, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 5.7.1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў (пахаваны на вясковых могілках). 83 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі ў 1975 г. пастаўлены скульптурная кампазіцыя і стэла. Паводле перапісу 1959 г. 272 жыхары. Цэнтр калгаса «1 Мая». Дзейнічаюць пачатковая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з 2 перакрыжаваных паміж сабой вуліц (мерыдыянальнай і шыротнай). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. мед. службы У.К.Лася.

**ПАЛАЎКІ** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 9 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Унеча), за 168 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Мытава (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня — Мазыр. 33 гаспадаркі, 52 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1795 г. 4 двары, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ўладанне памешчыка Гольста. У 1834 г. 24 двары. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Барбароўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 168 жыхароў. У 1908 г. 55 двароў, 314 жыхароў, ў Нараўлянскай вол. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 90 двароў, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 69 двароў і загубілі 3 жыхары. 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 382 жыхары. У складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных шыротнай і амаль паралельнай да яе вуліц, перакрыжаваных у цэнтры кароткай вуліцай. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЛАЎКОЎСКІ МЛЫНОК** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 164 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня — Мазыр. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1811 г. вёска, у Рэчыцкім пав., уладанне Гольста. У 1834 г. 4 двары. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Барбароўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 72 жыхары. У 1908 г. 17 двароў, 92 жыхары, у Нараўлянскай вол. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ПАЛЕСК** — пасёлак у Млыноцкім с/с, за 4 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 181 км ад Гомеля, на аўтадарозе Новая Рудня — Мазыр; на У мяжуе з лесам. 18 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Пасёлак пачаў складвацца ў 1950-х гадах пры цагельным заводзе Ельскага райпрамкамбіната. Драўляныя хаты і

гаспадарчыя будынкі пастаўлены побач з аўтадарогай.

**ПАТАПЫ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Ельска, 12 км ад чыг. ст. Славенча (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 207 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня — Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (16 сямей) перaселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 84 жыхары. У 1908 г. 5 двароў, 123 жыхары, у Скараднянскай вол. У 1924 г. 20 двароў, 133 жыхары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 22 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 199 км ад Гомеля, на аўтадарозе Старое Высокае — Ельск; вакол сетка меліярацыйных каналаў, на ПнУ — урочышча Забалоцце. 19 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1850 г. 10 двароў, уладанне Горвата. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Рамязоўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 230 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 45 двароў, 299 жыхароў, у Каралінскай вол. У 1918 г. адкрыта школа, а ў 1921 г. для яе ўзведзены будынак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавала кузня. У 1940 г. 72 двары, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 39 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Старое Высокае), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партыз. руху ў Ельскім раёне ў Вял. Айч. вайну І.А.Козінцава, у гонар якога названа адна з вуліц у г. Ельск. Паблізу ёсць радовішча жалезняку.

**ПРАЧОМЫШЛЯ** — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 38 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), вакол сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Батыўля (прыток р. Славечна). Аўтадарога звязвае вёску з Ельскам. 39 гаспадарак, 80 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 44 двары, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 39 жыхароў. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніку» (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАМЯЗЫ** — вёска, цэнтр Рамязоўскага с/с, за 14 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 191 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ельск—Махновічы; на У і Пн меліярацыйныя каналы, на У і Пд мяжуе з лесам. 211 гаспадарак, 522 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі за 2 км на Пд ад вёскі курган сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкай

старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Працавала рудня, на якой выраблялася жалеза для мясцовых патрэб. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары, 165 жыхароў. Пакроўская царква, у якой захоўваліся метрычныя кнігі за 1814 г. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1816 г. 23 двары. Вяскоўцы часта скардзіліся ў вышэйшыя інстанцыі на абцяжарванне паншчынай і здзекі ўладальніцы маёнтка Рамязы Стоцкай — «Мазырскай Салтычыхі». Суд прыгаварыў яе да катаржнага астрогу. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1905 г. для яго пабудавана ўласнае памяшканне. У 1866 г. 46 двароў. У валоданні памешчыка Шэпеляра ў вёсцы і наваколлі мелася ў 1876 г. 15 901 дзес. зямлі, млын і карчма. Вялікі ўчастак зямлі мела тут у 1880-х гг. графіня Е.Л.Ігнацьева. Паводле перапісу 1897 г. 80 двароў, 399 жыхароў, царква, нар. вучылішча, малітоўны дом, хлебазапасны магазін, вадзяны млын, сукнавальня, карчма. У 1908 г. 90 двароў, 606 жыхароў, у Мялешкавіцкай вол. Мазырскага пав. 27.6.1920 г. польскія акупанты абрабавалі вёску і спалілі 36 двароў. У 1921 г. праведзена вузкакалейная чыгунка Ельск—Рамязы, якая выкарыстоўвалася гал. чынам для вывазу лесу. У 1924 г. 187 двароў, 1038 жыхароў. З 1924 г. цэнтр Рамязоўскага с/с Каралінскага, з 1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Мелася гарбарня па вырабе скур і аўчын. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі конныя крупарушка і кузня (з 1929 г.). У 1940 г. 217 двароў. У Вял. Айч. вайну 16.7.1942 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У гэтым баі загінуў сакратар Ельскага райкома КП(б)Б І.А.Козінцаў (пахаваны ў брацкай магіле ў Ельску). У ліп. 1943 г. акупанты спалілі вёску і загубілі 87 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 36 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 85 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 890 жыхароў. Цэнтр калгаса «Партызан». Дзейнічаюць лясніцтва, лесапільня, млын, рамонтная і швейная майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных на У. Забудавана двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць радовішчы жалезняку.

**РОЗА ЛЮКСЕМБУРГ** (да 1919 г. Аляськая) — вёска, цэнтр Роза-Люксембургскага с/с, за 18 км на Пд ад Ельска, за 11 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Ельск—Оўруч), за 195 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Славечна—Ельск. 106 гаспадарак, 275 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі за 3 км на Пн ад вёскі курганны могільнік (5 насыпаў) сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 121 жыхар. У 1917 г. калонія Аляськая (772 жыхары) і аднайменны хутар (81 жыхар) у Каралінскай вол. Мазырскага пав. У 1919 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. З 1929 г. да 16.7.1954 г. і з 25.2.1977 г. цэнтр Роза-Люксембургскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г., з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1931 г. арганізаваны калгас. 47 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 493 жыхары. Цэнтр калгаса імя XX з'езда КПСС. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом

культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, перакрыжаванай кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1967 г. ў вёсцы ўзведзены Курган Славы ў гонар дружбы рускага, беларускага і ўкраінскага народаў.

У склад Роза-Люксембургскага с/с уваходзіла да 1919 г. в. Анзельмаўка (не існуе).

**САНЮКІ** — вёска ў Млыноцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 186 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, што ідуць ад Ельска. 100 гаспадарак, 160 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1809 г. сяло Санюкоў у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 14 двароў, 143 жыхары, у складзе маёнтка Міхалка. Дваранін Лянкевіч у в. Санюкі і Новая Рудня ў 1846 г. валодаў 2400 дзес. зямлі і 2 карчмамі. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 265 жыхароў, школа граматы. У аднайменнай сядзібе дзейнічаў вадзяны млын. У 1898 г. пабудаваны новы будынак школы. Апрача земляробства 15 вяскоўцаў займаліся бандарным промыслам. У 1908 г. 49 двароў, 277 жыхароў, у Міхалкаўскай вол. Мазырскага павета. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Санюкоўскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г., з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Энергія», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў 1943—44 гг. загінулі 32 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 560 жыхароў. У складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Дзейнічаюць аддз. сувязі, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: усх. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца з Пн кароткая вуліца) і зах. (крывалінейная вуліца з 2 завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма беларускага мастака М.А. Назарчука.

**СЕРЫЯ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 50 км на ПдЗ ад Ельска, за 26 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 225 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з сярэдзіны 19 ст. У 1879 г. ўпамінаецца сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. хутар Вяленка-Серыя, 7 двароў, 59 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 10 двароў, 87 жыхароў, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1924 г. 14 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 17 двароў, загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Падгалле). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены бессістэмна каля дарогі.

**СІЗАНЫ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Ельска, за 215 км ад Гомеля, за 22 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч); на У р. Ясянец (прыток р. Славечна), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар, 131

жыхар, у Скараднянскай вол. Мазырскага пав. У 1924 г. 27 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Х з'езд Саветаў», адкрыта пач. школа, працавалі кузня (з 1931 г.), вадзяны млын (з 1925 г.), сукнавальня. У 1940 г. 44 двары, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сядзібамі.

**СКАРОДНАЕ** — вёска, цэнтр Скараднянскага с/с, за 34 км на ПдЗ ад Ельска, за 20 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 212 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць). Аўтадарога звязвае вёску з Ельскам. 295 гаспадарак, 715 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 14 ст. як сяло ў валоданні Тышкевічаў. З даўніх часоў тут дзейнічала Дзмітраўская царква, аб чым сведчыць дакумент былога гаспадара сяла А.Трыпольскага ад 1621 г. аб перадачы царкве ўрочышча Адрубны востраў. У 1763 г. ўзведзены на мураваным фундаменце новы драўляны будынак царквы, які ў 1872 г. перабудаваны. У царкве меліся 36 абразоў, значная частка якіх была зроблена жывапісцам Зотавым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 52 двары, уладанне Булгакава, у Мазырскім пав. Была цэнтрам маёнтка, гаспадар якога дваранін Г.К.Адамовіч у 1876 г. валодаў 1423 дзес. зямлі, смалакурняй і карчмой. Праз вёску праходзіў тракт з Мазыра ў Житомір. Мелася паштовая станцыя (8 экіпажаў) і дзейнічала паштова-тэлеграфная кантора. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 554 жыхары, малітоўны дом, нар. вучылішча, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, 7 лавак, 2 карчмы. Цэнтр воласці (да 17.7.1924 г.), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 40 сяленняў з 404 дварамі. У 1906 г. пабудаваны будынак школы. У 1908 г. 110 двароў, 732 жыхары. Летам 1918 г. ў час герм. акупацыі вяскоўцы стварылі партыз. атрад, які змагаўся супраць акупантаў. У 1924 г. 155 двароў, 838 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Скараднянскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл.; працавала гарбарня па апрацоўцы скур і аўчын. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны трактар», працавалі кравецкая і шавецкая арцелі (з 1930 г.), паравы млын (з 1923 г.), кузня, спіртапарашковы з-д (у 1933 г. 25 рабочых). Значную частку перавозак па чыгунцы і праз сплаўную прыстань, што размясцілася ў вёсцы, складалі лесаматэрыялы. У 1940 г. 206 двароў, 937 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. была створана падпольная група, якую ўзначаліў М.Н.Драчэўскі. У лют. 1942 г. ням.-фаш. акупанты схапілі М.Н.Драчэўскага і Н.М.Стахоўскую і пасля жорсткіх катаванняў расстралялі. У лют. 1942 г. ў выніку аб'яднання падпольных груп з вёсак Скароднае і Кочышчы быў створаны Ельскі партыз. атрад. 23.11.1943 г. карнікі ўварваліся ў вёску, разрабавалі маёмасць, загубілі 305 чалавек і спалілі 206 двароў. 76 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 686 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Скараднянскі». Дзейнічаюць хлебапякарня, лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі, бальніца, паліклініка, аптэка, ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, 2 сталовыя, 4 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 амаль шыротнай арыентацыі паралельных паміж сабой і злучаных завулкамі вуліц. На З адасобленая частка забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. У 50 мураваных катэджнага тыпу дамах, узведзеных у 1986 г., размясціліся перасялен-

цы з забруджаных радыяцыяй месц, што ўтварыліся пасля Чарнобыльскай катастрофы, пераважна з в. Белы Бераг Нараўлянскага р-на. Радзіма Героя Савецкага Саюза Л.М.Каплана, аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на Палессі ў Вял. Айч. вайну І.П.Пастухова [быў камісарам партызанскай брыгады 37-й (Ельскай) Палескай вобласці], рэвалюцыянера, партыйнага дзеяча М.М.Маёрава, архітэктара Р.Д.Шабуніцкага, па праектах якога ў Гомелі збудаваны мужчынская гімназія (1898 г.), гасцініца «Савой» (1912 г.) і інш. будынкі.

У склад Скараднянскага с/с да 1983 г. ўваходзіла в. Захаркі-1 (не існуе).

**СЛАВЕЧНА** – вёска і чыг. ст. (на лініі Калінкавічы–Оўруч), у Роза-Люксембургскім с/с, за 20 км на Пд ад Ельска, за 199 км ад Гомеля, на р. Жалонь (Мухаедаўскі канал). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня – Ельск. 54 гаспадаркі, 103 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў матэрыялах аб межах новых паветаў, створаных па адміністрацыйнай рэформе 1565–1566 гг., упамінаецца як сяленне Славешня. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З уводам у дзеянне ў 1915 г. чыг. Жлобін–Калінкавічы–Оўруч пачала працаваць чыг. ст. 23.3.1919 г. 57 і 67-ы палкі т.зв. Тульскай брыгады пасля няўдалага бою тут з польскімі атрадамі вярнуліся без дазволу ў Гомель і склалі ўзброеную аснову стракапытаўскага паўстання. У 1925 г. 16 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала цагельня (у 1932 г. 38 рабочых). Значную частку перавозак чыг. і водным шляхамі складалі лесаматэрыялы. У Вял. Айч. вайну летам 1943 г. ням.-фаш. акупанты загубілі 6 жыхароў (пахаваны за 1 км на У ад вёскі). У баях каля вёскі загінулі 62 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах за 2 км на ПнУ ад вёскі і на могілках). 31 вясковец загінуў на фронце. З 27.7.1954 г. да 1969 г. цэнтр Славечанскага, з 1969 г. да 25.2.1977 г. Роза-Люксембургскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 674, на чыг. ст. — 16 жыхароў. Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, швейная і шавецкая майстэрні, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з 2 (адна крывалінейная, другая кароткая, прамалінейная) вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, уздоўж чыгункі.

**СТАРОЕ ВЫСОКАЕ** — вёска, цэнтр Старавысокаўскага с/с, за 27 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 204 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Аўтадарога злучае вёску з Ельскам. 124 гаспадаркі, 333 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як в. Высокае ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У сярэдзіне 18 ст. падзялілася на 2 вёскі: Старое Высокае і Новае Высокае. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Рамязоўскага царк. прыхода. У 1895 г. 16 двароў, 112 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 248 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, у Скараднянскай вол. У 1905 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1923 г. для яе пабудавана сваё памяшканне. У 1908 г. 57 двароў, 311 жыхароў, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. З 20.8.1924 г. цэнтр Старавысокаўскага с/с Каралінскага, з 5.2.1931 г. Ельскага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. З 1921 г. дзейнічала камуна, у 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», у 1930 г. калгас імя С.М.Будзённага, працавалі вятрак, ваўначоска, лесапільня (1931 г.), 2 кузні. У 1940 г. 62 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 86 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 144 вяскоўцы.

У памяць аб іх у 1967 г. на паўд.-ўсх. ускраіне ўзведзены Курган Славы са скульптурай воіна на вяршыні. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. Цэнтр калгаса «Звязда». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы (па абодва бакі дарогі), якая на Пн перакрыжоўваецца кароткай вуліцай. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Старавысоцкага с/с да Вял. Айч. вайны ўваходзіла в. Забалоцце, якую ням.-фаш. акупанты 18.7.1942 г. спалілі (76 двароў) і расстралялі 167 жыхароў (не адрадзілася).

**СТАРЫ МОСТ** — вёска ў Скараднянскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Ельска, за 5 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), 203 км ад Гомеля, на р. Жалонь (Мухаедаўскі канал), на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня — Ельня. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 37 жыхароў. У 1908 г. хутар і аднайменны фальварак, у Скараднянскай вол. У 1917 г. 44 жыхары. У 1924 г. 14 двароў. У 1940 г. 32 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. У складзе саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр — в. Скароднае). Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой кароткіх прамалінейных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**СУГАКІ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 50 км на ПдЗ ад Ельска, за 32 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 225 км ад Гомеля, за 2 км ад дзяржаўнай граніцы з Украінай; на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. 26 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 166 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 185 жыхароў, у Скараднянскай вол. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, адкрыта пач. школа. У 1940 г. 38 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 172 жыхары. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Падгалле), размешчаны клуб. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЛЬЯНАЎКА** (Уллянаўка) — вёска ў Млыноўскім с/с, за 6 км на У ад раённага цэнтра і чыг. станцыі Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 183 км ад Гомеля, на р. Мытва (прыток р. Прыпяць); на Пд і У мяжуе з лесам (урочышча Тарчыцы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Княжабор'е—Ельск. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе саўгаса «Млынок» (цэнтр — в. Млынок). Планіровачна скадаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАПАЕЎКА** (да 1938 г. Гнайное) — вёска ў Старавысокаўскім с/с, за 32 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 209 км ад Гомеля; на Пд і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з Высока-Махновіцкім каналам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Старое Высокае—Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на

Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 14 двароў, 95 жыхароў, у Скараднянскай вол. У 1917 г. вёска, 180 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 35 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Тварэц працы», меліся вятрак (у 1920 г.) і кузня. У 1940 г. 56 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. У маі 1943 г. тут адбыўся мітынг партызан і вяскоўцаў, прысвечаны пераходу славакаў да савецкіх партызан. Я.Налепка (нач. штаба 101-га славацкага палка, які ў ноч з 14 на 15 мая 1943 г. перайшоў да партызан) выступіў на мітынгу і даў клятву самаадданa змагацца супраць ням.-фаш. захопнікаў. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 166 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Старое Высокае). Планіровачна складаецца з кароткай, шыротна арыентаванай вуліцы, якая на У раздвойваецца. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЭРЦЕНЬ** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 136 км ад Гомеля, на р. Чэрцень. Побач аўтадарога Старое Высокае—Ельск. 36 гаспадарак, 75 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 27 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 6 двароў, у Каралінскай вол. У 1917 г. 68 жыхароў. На хутары Новы Чэрцень працаваў вадзяны млын. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса «Абарона Саветаў» (цэнтр — в. Некрашоўка). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна па абодвух баках дарогі.

**ШАРЫН** — вёска ў Багуціцкім с/с, за 5 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 182 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чэрцень. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ельск—Махновічы. 26 гаспадарак, 54 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло, 36 двароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1816 г. 121 жыхар. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Ельскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 86 двароў, 499 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 конныя млыны. У 1908 г. 100 двароў, 543 жыхары, у Каралінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гадоў для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавала кузня. 60 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 390 жыхароў. У складзе саўгаса «Ельскі» (цэнтр — г. Ельск), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з 2 шыротных вуліц, злучаных 2 завулкамі. Забудавана двухбакова няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШАТУНЫ** — вёска ў Засінцаўскім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Ельска, за 27 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 220 км ад Гомеля, на р. Ясянец (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Скароднае—Ельск. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2000 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 29 жыхароў, у Скараднянскай вол. У 1924 г. 6 двароў, 30 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 31 жыхар. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр – в. Засінцы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШУТЫ** – вёска ў Засінцаўскім с/с, за 43 км на ПдЗ ад Ельска, за 27 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 220 км ад Гомеля, на р. Славечна (прыток р. Прыпяць); на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы–Ельск. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 53 жыхары. У 1908 г. 8 двароў, у Скараднянскай вол. У 1924 г. 9 двароў, 69 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Значную частку перавозак праз сплаўную прыстань, што дзейнічала ў вёсцы, складалі лесаматэрыялы. 11 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр – в. Засінцы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены хаатычна, каля прасёлачнай дарогі.

**ШЫШКІ** – вёска ў Скараднянскім с/с, за 20 км на Пд ад Ельска, за 2 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 197 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Новая Рудня – Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (37 сямей) пераселены ў 1990–92 гг. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар Селішча (ён жа Шышкі), 14 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. 113 жыхароў. У 1924 г. 22 двары, 131 жыхар, ганчарня. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Уваходзіла ў склад саўгаса «Скараднянскі» (цэнтр – в. Скароднае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на З раздвойваецца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЫЯ** – вёска ў Валаўскім с/с, за 50 км на ПдЗ ад Ельска, за 42 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 228 км ад Гомеля. На Пд канал Валаўскі злучаны з р. Батыўля (прыток р. Славечна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Стадолічы–Скароднае. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2000 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 31 жыхар. У 1908 г. 5 двароў, 44 жыхары, у Скараднянскай вол. У 1917 г. 67 жыхароў. У 1924 г. 14 двароў, 79 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 50 жыхароў. У складзе саўгаса «Валаўскі» (цэнтр – в. Валаўск). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароценькай мерыдыянальнай вуліцы.

**ЯКІМЫ** – вёска ў Засінцаўскім с/с, за 46 км на ПдЗ ад Ельска, за 28 км ад чыг. ст. Славечна (на лініі Калінкавічы–Оўруч), за 221 км ад Гомеля, на р. Ясянец (прыток р. Славечна); на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы–Ельск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Скараднянскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 43 жыхары. У 1908 г. 9 двароў, 83 жыхары,

у Скараднянскай вол. У 1925 г. 12 гаспадарак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 52 жыхары. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Засінцы). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯСТРАБЛІ** — вёска ў Качышчанскім с/с, за 23 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ельск (на лініі Калінкавічы—Оўруч), за 199 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, у іх ліку Канава Шыра. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Засінцы—Ельск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1917 г. 42 жыхары, у Скараднянскай воласці. У 1925 г. 17 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 42 двары, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 52 жыхары. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Рэвалюцыя» (цэнтр — в. Качышчы). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены рэдка ўздоўж дарогі.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 167, 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 169, 1010, 1011, 1014, 1695, 1696, 1697, 1760, 1700, 1772, 1794, 1800, 1803, 4461, 4464, 4466, 4467, 4473, 4474, 4477, 4478, 4487; ф. 141, воп. 1, спр. 206; ф. 332, воп. 1, спр. 191, 919, 1919; воп. 2, спр. 919; ф. 694, воп. 1, спр. 221.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 1, спр. 3; 62, 63; воп. 3, спр. 47; воп. 9, спр. 47, 48, 54, 60, 61, 62, 63, 262, 347, 380, 381, 382, 553, 554, 555, 583, 597, 703; ф. 440, воп. 1, спр. 7; воп. 2, спр. 2; ф. 834, воп. 1, спр. 3, 35.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, спр. 1218, 1318, 1332; воп. 11, спр. 1318.
Філіял Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці ў Мазыры, ф. 60, воп. 1, спр. 56.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. 5, 8. Мн., 1879.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1903.
Россия. Полное географическое описание. СПб., 1905.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Трудящиеся Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.). Хроника событий. Гомель, 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Пад сцягам партыі. Гомель, 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 2. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Литовская метрика. Кн. 51 (1566—1574). Вильнюс, 2000.



# ЖЛОБІНСКІ РАЁН

На ПнУ Гомельскай вобл. Цэнтр — г. Жлобін. Утвораны 17.7.1924 г. ў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акрузе. 4.8.1927 г. да Жлобінскага р-на далучана ўся тэрыторыя ліквідаванага Стрэшынскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. 28.6.1939 г. Стрэшынскі р-н адноўлены і ў яго склад са Жлобінскага р-на адышла ўся яго ранейшая тэр., а таксама Кароткавіцкі і Скепнянскі с/с. 29.4.1950 г. да Жлобінскага р-на далучаны Кіраўскі с/с Рагачоўскага р-на, 17.12.1956 г. — уся тэр. зноў ліквідаванага Стрэшынскага р-на, 25.12.1962 г. — Дварышчанскі і Шчадрынскі с/с Светлагорскага р-на. Пл. 2,1 тыс. кв. км, насельніцтва 106,6 тыс. чал. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у Жлобінскі р-н з забруджаных радыяцыяй месц пераехалі 1263 сям'і (больш за 3200 чал.). Гар. насельніцтва складае 34,1%. У раён уваходзяць 1 горад, 1 пасялковы і 16 сельскіх саветаў. Мяжуе на Пд з Рэчыцкім, на У — з Буда-Кашалёўскім, на Пн — з Рагачоўскім і Бабруйскім, на З — з Акцябрскім р-намі. З карысных выкапняў маюцца 3 радовішчы торфу (40,5 млн. т), Жлобінскае радовішча фармовачных пяскоў (0,2 млн. т), 7 радовішчаў цагельнай сыравіны (11,6 млн. куб. м). Рэкі: Дняпро з прытокамі Бярэзіна, Добасна, Ржаўка, Окра і прыток Бярэзіны Ала. Суднаходныя ў межах р-на Дняпро і Бярэзіна. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя глееватыя і дзярновападзоліста-глеевыя, тарфяна-балотныя і інш. З мінеральных глеб 19% суглінкавых, 50,4% супясчаных, 30,6% пясчаных. Якасць ворных зямель 46 балаў, кармавых угоддзяў — 32, усіх с.-г. угоддзяў — 40 балаў. Пад с.-г. угоддзямі каля 55%, пад лесам 28% тэрыторыі. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем выведзены з абароту 9 тыс. гектараў сельгасугоддзяў. У раёне 19 калгасаў, 10 саўгасаў. Прамысловыя прадпрыемствы сканцэнтраваны ў асноўным у Жлобіне. Праходзяць чыгункі Орша—Калінкавічы, Мінск—Гомель, аўтадарогі: Гомель—Жлобін—Бабруйск, Рагачоў—Жлобін—Рэчыца, Парычы—Чырвоны Бераг. Дзейнічаюць Жлобінскі металургічны тэхнікум, Чырвонабярэжскі агр. каледж, 53 школы, у тым ліку 36 сярэдніх, 50 дашкольных і 63 клубныя ўстановы, 74 масавыя б-кі, 86 спартыўных збудаванняў, 11 бальніц, 4 паліклінікі, 33 фельч.-ак. пункты, лёгачнатуберкулёзны санаторый для падлеткаў, 269 магазінаў і 121 прадпрыемства грамадскага харчавання.

**ЖЛОБІН** — горад абл. падпарадкавання, цэнтр Жлобінскага р-на, вузел чыгунак на Мінск, Магілёў, Гомель, Калінкавічы, пристань на правым беразе р. Дняпро, за 93 км ад Гомеля, 215 км ад Мінска. Пл. 26 кв. км. На ўсходняй




*Чыгуначны вакзал у Жлобіне.*



*Жлобін. Панарама горада.*

ускраіне р. Дняпро, на З меліярацыйныя каналы. Аўтадарогі звязваюць горад з Бабруйскам, Гомелем, Рагачовам, Доўскам, Светлагорскам. 72,8 тыс. жыхароў (2004 г.).

У пісьмовых крыніцах упершыню называецца пад 1492 г. як паселішча Хлепаны ў Вялікім княстве Літоўскім, уласнасць Хадкевічаў. Сярод жылой забудовы вылучаўся замкавы комплекс, які ўзвышаўся над прырэчнай жылой зонай паселішча, на правым беразе Дняпра, за 100 м ад упадзення ў яго ручая Чорначка. У час вайны Івана III з яго зяцем вял. князем Літоўскім Аляксандрам быў падвергнуты разбурэнням і далучаны да маскоўскіх уладанняў, але пазней зноў вернуты Літве. З 1509 г. ў Рагачоўскай воласці, у валоданні каралевы Боны, а з 1556 г. ў складзе казённага Рагачоўскага маёнтка. З 1563 г. ў валоданні полацкага шляхціца. У ліп. 1654 г. казакі ўкраінскага гетмана І.Н.Залатарэнкі ўзялі штурмам і спалілі Жлобін. У 1790 г. кароль Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей на штотыднёвыя таргі і чатыры гадавыя кірмашы ў Жлобіне, які належаў І.Халецкаму. Здаўна дзейнічалі прыстань і паромная пераправа, вялося будаўніцтва рачных суднаў. З 1792 г. дзейнічала Узвіжанская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі. У час нашэсця Напалеона французскія войскі 20.7.1812 г. занялі Жлобін, але ў хуткім часе з-за актыўных дзеянняў рус. войскаў вымушаны былі адступіць. Паводле рэвізіі 1816 г. 189 двароў. З 1818 г. мястэчка. Паводле інвентару 1847 г. 965 жыхароў. У 1860 г. 1576 жыхароў, 263 драўляныя дамы, царква, паштовая станцыя (24 камплекты коней), прыстань і пераправа цераз Дняпро. У 1863 г. замест састарэлага ўзведзены новы будынак царквы, дзейнічалі нар. вучылішча (у 1864 г. 15, у 1889 г. 92 вучні), 5 малітоўных школ, хлебазапасны магазін. З 1876 г. працаваў дрожджавы завод, з 1868 г. — крупарушка. Славіўся кірмашамі, на якіх пераважаў продаж дублёных і простых сялянскіх шуб і кажухоў. Праз мястэчка праходзіла дарога з Магілёва на поўдзень Беларусі. Значнае ажыўленне ў жыццё Жлобіна ўнеслі адкрыццё 16.11.1873 г. руху па чыгунцы Асіповічы—Гомель і пачатак дзейнасці чы-



*Від праз р. Дняпро на прыбярэжную частку Жлобіна і Свята-Троіцкую царкву (1995 г.).*

гуначнай станцыі 2-га класа. У гонар гэтай падзеі 16.11.1993 г. побач з чыгуначным вакзалам пастаўлены на вечную стаянку паравоз серыі «Су». За 1 км на З ад мястэчка было збудавана дэпо на 9 паравозаў, вагонныя майстэрні, памяшканні для пасажыраў. Пазней быў узведзены аднапавярховы драўляны вакзал. Вялікім няшчасцем для мястэчка былі пажары. 13.5.1880 г. за 2 гадзіны пажар знішчыў амаль усё мястэчка — 359 дамоў, царкву, усе 5 яўрэйскіх малітоўных школ, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 65 лавак і складоў з таварамі. Адбудоўвалася мястэчка паводле новага плана. Але не паспелі аправіцца ад гэтай бяды, як 16.5.1889 г. адбыўся новы пажар — згарэла 89 дамоў з надворнымі пабудовамі.

У 1860 г. 262 жыхары, у 1880 г. 64 двары, 430 жыхароў, 6 лавак, цукровы з-д. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Карпілаўцы 301 двор, 1307 жыхароў, капліца, малітоўная школа, хлебазапасны магазін, чыгуначнае вучылішча, 8 крупарушак, 4 пастаялыя двары, 2 карчмы. Пазней Карпілаўка ўвайшла ў склад Жлобіна. Паблізу размяшчаўся казённы з-д для прэсавання сена, якое накіроўвалася ў ваен. акругі. 24.12.1902 г. адкрыта чыг. Віцебск—Жлобін, а 2.11.1915 г. — чыг. Жлобін—Калінкавічы, што значна пашырыла транспартныя сувязі мястэчка і зрабіла яго важным чыгуначным вузлом. Пашыраўся гандаль, асабліва хлебам, лёнам, пянькой. Працавалі 2 вінакурні. Становішча рабочых чыгункі было нялёгкім. З 22.12.1905 г. да 2.1.1906 г. адбывалася забастоўка чыгуначнікаў. З 1908 г. дзейнічала пазыкова-ашчадная каса. Мелася паштовае аддзяленне. У 1909 г. ў Жлобіне, які паводле тагачаснага адм.-тэрытарыяльнага падзелу адносіўся да Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., налічвалася 486 гаспадарак, 4270 жыхароў, 613 драўляных і 4 мураваныя будынкі. 27.4.1910 г. местачкоўцы на беразе Дняпра сустракалі мошчы прападобнай Ефрасінні, якія на параходзе «Галавачоў» перавозіліся з Кіева ў Полацк. У 1911 г. адкрыта прыватная гімназія з бібліятэкай пры ёй, у 1913 г. — крэдытнае т-ва. У 1915 г. на чыг. станцыі адбылося хваляванне салдат, якое суправаджалася сутыкненнямі з паліцыяй. У лютым 1918 г. Чырвоная гвардыя разграміла асн. часці 1-га



*Мястэчка Жлобін на мяжы 19—20 ст.*

польскага корпуса ген. Ю.Т.Доўбар-Мусніцкага, якія 13.1.1918 г. захапілі мястэчка. З 2.3.1918 г. да 24.11.1918 г. Жлобін акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. 6.6.1919 г. з агітацыйна-інструктарскім поездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя» яго наведаў М.І.Калінін і на мітынгу ў чыгуначным дэпо выступіў з заклікам памнажаць дапамогу фронту ў барацьбе з іншаземнымі войскамі. 9.5.1923 г. створана Жлобінская воласць. З 2.3.1924 г. Жлобін у складзе БССР, з 17.7.1924 г. — адм. цэнтр Жлобінскага р-на (да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл.); з 3.7.1925 горад. Да восені 1920 г. ўведзена ў строй дзеючых электрастанцыя магутнасцю 35 к.с. У 1924 г. на паўн. ускраіне заснавана метэастанцыя, працавала ветэрынарная лячэбніца. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Жлобін». У 1927—29 гг. пабудавана чыгуначная сярэдняя школа, у 1933 г. — будынак сярэдняй школы № 2 (цяпер № 5). У 1934 г. працавалі шпаларэзны з-д, электрастанцыя, рамонтнавагонны ўчастак, машынна-трактарная станцыя (з 1932 г.) і майстэрня, дрэва-

апрацоўчы к-т (145 рабочых), нафтавы млын і крупарушка, цагельня (56 рабочых), металаапрацоўчая, камвольная, кравецкая, абутковая майстэрні, мэблевая ф-ка, маслазавод, друкарня, кузня. З 5.6.1931 г. выдавалася раённая газета, а затым пачала выходзіць чыгуначная шматтыражка «Ударнік». У 1937 г. ўзведзены будынак для яшчэ адной сярэдняй школы і ў 1940 г. — новы будынак для чыгуначнай школы. У 1938—1939 гг. на станцыі Жлобін-Паўночны пабудаваны новы будынак дэпо. З 27.9.1938 г. горад раённага падпарадкавання.

У першыя дні Вял. Айч. вайны чыгуначнікі Жлобіна абсталявалі бранятоезд, які ўдзельнічаў у баях на станцыі Свіслач (на ветцы Асіповічы—Магілёў). Дзейнічаў эвакапункт. Ням.-фаш. войскі 4.7.1941 г. захапілі Жлобін.



*Жлобін. Помнік воінам 63-га стралковага корпуса 21-й арміі.*

6.7.1941 г. часці 63-га стралк. корпуса (камандзір — камкор, пазней ген.-лейт. Л.Р.Пятроўскі) 21-й арміі ў ходзе разведкі боем выбілі гітлераўцаў з горада, але пад націскам намнога большых сіл праціўніка ноччу адступілі за Дняпро. Пасля грунтоўнай падрыхтоўкі воіны Пятроўскага і байцы знішчальнага батальёна (створаны 27.6.1941 г.) 13.7.1941 г. зноў вызвалілі Жлобін і да канца ліпеня адкінулі ворага на 20—30 км на З. Прыклад мужнасці і гераізму праявіў у гэтых баях маёр, камандзір батальёна 154-й стралковай дывізіі Ф.А.Баталаў (9.8.1941 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, яго імем названа вуліца ў Жлобіне). 14.8.1941 г. сав. войскі пад пагрозай акружэння зноў, цяпер ужо надоўга, пакінулі Жлобін, які быў акупіраваны ням.-фаш. войскамі да чэрв. 1944 г. У кастрычніку 1941 г. склаліся падпольныя групы ў паравозным дэпо (кіраўнікі У.П.Міненкаў, М.І.Елісееў, Г.В.Канапляннікаў, П.А.Цямінская і І.М.Казлоў), у друкарні (кіраўнікі М.П.Каленнічэнка і Р.П.Баранаў), ваеннаслужачых урачоў у раённай бальніцы (кіраўнік У.М.Лабанаў). У 1942 г. ўзніклі новыя групы — Гарбатава, С.В.Казлова, Дз.В.Ніжнікава, Т.І.Раміські, І.І.Цыркунова. Дзейнічала падполле і ў іншых месцах. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, здабывалі зброю, медыкаменты і боепрыпасы для партызан, вывелі са строю больш за 50 паравозаў, зрывалі водазабеспячэнне чыгуначнага вузла, узарвалі механічны цэх дэпо, спалілі масларобчы і лесазавод, цагельню, склады, перадавалі партызанам звесткі пра абарончыя рубяжы нямецкіх войск і аб руху паяздоў. Акупанты загубілі 2500 жыхароў Жлобіна, Стрэшына і іншых населеных пунктаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 9 км на Пд ад горада). У лютым 1944 г. сав. войскі выйшлі на левы бераг Дняпра насупраць Жлобіна, і горад да чэрвеня знаходзіўся на лініі фронту. Частка яго жыхароў





*Жлобін. Плошча Вызваліцеляў.*

*Жлобін. Вуліца Першамайская.*

была кінута акупантамі ў Азарыцкія лагеры смерці. У баях за горад загінулі 553 воіны і 2 партызаны (пахаваны на вайсковых могілках на вул. Кутузава, у скверы). Вызвалены 26.6.1944 г. часцямі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту. 3-м часцям і злучэнням прысвоена найменне «Жлобінскія».

Пасля вызвалення Жлобін хутка аднаўляўся і развіваўся. Ужо ў кастрычніку 1944 г. адкрылася чыгуначнае вучылішча, аднаўляліся школы, медыцынскія ўстановы, жыллёвы фонд, прамысловыя прадпрыемствы. У 1963 г. да Жлобіна далучаны пасёлак пеньказавода. Раней былі далучаны пасёлкі Ветка-Бір, Жлобін-Падольскі, Рабочы. Калі ў 1939 г. насельніцтва Жлобіна складала 19,3 тыс. чал., то ў 1970 г. — 25 тыс. чал. З 17.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання. 30.12.1978 г. адбыўся пуск 1-й чаргі завода штучнага футра, а ў канцы 1984 г. ўступіў у строй дзеючых Беларускі металургічны з-д, у 1990 г. — радыётэлевізійная трансляцыйная станцыя. Дзейнічаюць кар'ер фармовачных матэрыялаў, мэблевая і мастацкай інкрустацыі ф-кі, мясакамбінат, кансервавы з-д, рамонтна-механічны з-д, швейная ф-ка, Беларускі металургічны з-д, хлебазавод, лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аддзяленне сувязі, лакаматыўна-чыгуначнае дэпо, вагоннае дэпо, раённы вузел паштовай сувязі, бальніца, аптэка, санэпідэмстанцыя, вышэйшае прафтэхвучылішча-87, ПТВ-143 «Трыкатажнік», школа-інтэрнат (з 1963 г.), металургічны тэхнікум, 38 малых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, малочны з-д, камбікормавы з-д, камбінат будматэрыялаў, раённыя аб'яднанні «Сельгастэхніка» і «Сельгасхімія», вышэйшае вучылішча агратэхнікі, 11 сярэдніх, 1 васьмігадовая, 3 пачатковыя школы, 2 школы мастацтваў, 1 спартыўная школа, 115 спартыўных збудаванняў, 28 дашкольных устаноў, Дом школьнікаў, кінатэатр, Дом культуры, клуб чыгуначнікаў, 6 масавых б-к, аддз. сувязі, 2 бальніцы, раддом, 2 паліклінікі, тубдыспансер, лёгачна-туберкулёзны санаторый для падлеткаў, гісторыка-краязнаўчы музей (заснаваны ў 1989 г., адкрыты для наведвальнікаў у лютым 1992 г.), мясц. студыя кабельнага тэлебачання, гідраметэастанцыя, заапарк, 128 магазінаў і 84 прадпрыемствы грамадскага харчавання. На базе раённай друкарні заснавана выдавецка-паліграфічнае прадпрыемства «Тэхнічная кніга». У 1995 г. ўзведзены новы мураваны будынак Свята-Троіцкай царквы. Вядзецца мясц. радыёвяшчанне, выходзіць аб'яднаная (для горада і раёна) газета «Новы дзень» (з 5.6.1931 г.). Цесныя сувязі мае Жлобін з гарадамі Мейдэн (Галандыя), Скаленчэ (Італія), Пелгржымаў (Чэхія) і інш.

Забудова квартальная, пераважна мураваная, шматпавярховая. Генеральны план распрацаваны ў 1964 г. інстытутам «Белдзяржпраект». У 1975 г. ў яго ўнесены змены Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Асноўны накірунак развіцця го-



*Жлобін. Рымска-каталіцкая капліца св. Казіміра.*

рада — паўночны. Гарадскі цэнтр складаецца з двух самастойна дзеючых комплексаў. Галоўны цэнтр — плошча Вызваліцеляў, забудаваная будынкамі грамадскіх арганізацый, клуба і жылымі дамамі. Прывакзальная плошча, на якой сканцэнтраваны шэраг устаноў гандлю і грамадскага харчавання, з'яўляецца значным фокусам прыцягнення насельніцтва горада і нясе на сабе, па сутнасці, функцыю другога гарадскога цэнтра. Зараз абедзве плошчы рэканструююцца (арх. В.Г.Ісачанка). Забудаваны 7 новых мікрараёнаў, у тым ліку 4 пры Беларускім металургічным з-дзе. У 1995 г. збудаваны Праабражэнскі храм. Радзіма Герояў Савецкага Саюза М.С.Быкава, М.У.Барташова (яго імем названа вуліца ў Жлобіне), М.К.Кавалёва, засл. артыста БССР М.А.Кавязіна, засл. дзеяча культуры Беларусі Д.М.Жураўлёва, спартсмена, сярэбранага прызёра алімпійскіх гульняў 1972 г. У.М.Лавецкага, засл. архітэктара Беларусі Л.М.Тамкова, доктара тэхн. навук З.І.Жукоўскага, засл. майстра спорту СССР па лёгкай атлетыцы В.І.Рудзянкова, засл. настаўніка прафесійна-тэхнічнай адукацыі Беларусі Г.І.Рымарова, засл. настаўніка БССР М.П.Косцева (ганаровы грамадзянін Жлобіна), беларускіх мастакоў В.К.Жолтак і Г.В.Говара, пісьменнікаў М.Д.Бажанава, Р.І.Добіна, Б.А.Міхайлоўскага, удзельніка рэв. руху ў Забайкаллі Р.А.Васільева. Паблізу Жлобіна размешчаны залежы суглінку і гліны.

**АБОЛЬЦЫ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Жлобіна, 9 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 74 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы, побач аўтадарога Дабрагошча—Жлобін. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 27 двароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся ваен. палявы шпіталь. 20 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе саўгаса «Уперад» (цэнтр — в. Мормаль). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы суглінкаў.

**АДРАДЖЭННЕ** (да 5.8.1968 г. Эрштэрмай) — вёска ў Папаратнянскім с/с, за 20 км на Пд ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 88 км ад Гомеля, на Пн Стрэшынскі канал, злучаны з р. Стрэшынка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дабрагошча—Жлобін. 81 гаспадарка, 156 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11 ст. (36 насыпаў; 0,8 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай мінуўшчыне. Сучасная вёска засн. ў пачатку 1920-х



*Вёска Адраджэнне. Помнік землякам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*

гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 17 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 80 двароў, 353 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пачатку 1942 г. дзейнічала падп. група (кіраўнік П.Б.Кіраў). Фашысцкія карнікі спалілі 40 двароў, загубілі 30 жыхароў. У чэрв. 1944 г. ў баях за вёску і наваколле загінулі 315 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле па вул. Заводскай). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 46 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў. 29.11.1962 г. пас. Адраджэнне быў далучаны да в. Эрштэрмай, а 5.8.1968 г. гэтая вёска атрымала сучаснае найменне. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Папаратнае). Стрэшынскі крухмальны ўчастак Чырвонабярэжскага крухмальна-патачнага з-да, фельчарска-акушэрскі пункт і клуб. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, злучаных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх з Пн далучаецца трэцяя вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АДРУБЫ** — вёска ў Кабанаўскім с/с, за 43 км на Пд ад Жлобіна, 17 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 81 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 38 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяліба ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 40 двароў, 217 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 326 жыхароў, прыстань, крама, у Якімаваслабодскай вол. У 1925 г. 102 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Бярэзіна». У 1940 г. 120 двароў, 405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 23 двары і загубілі 2 жыхароў, 54 вяскоўцы загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Кабанаўка). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**АКЦЯБР** (А к ц я б р с к, да 1936 г. Папкі) — вёска, цэнтр Акцябрскага с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 90 км ад Гомеля, на аўтадарозе Жлобін—Стрэшын, на Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, 274 гаспадаркі, 633 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча 6—2 тысячагоддзяў да н.э. (за 3 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяліба ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 47 двароў, 321 жыхар, укладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 97 двароў, 528 жыхароў, школа граматы, 2 ветракі. У 1909 г. 103 двары, 897 жыхароў, 1284 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 127 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Акцябрскага сельсавета Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. створаны калгас. У 1940 г. 170 двароў, 470 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 166 двароў і загубілі 64 жыхары. У баях каля вёскі загінулі 145 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 45 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 594 жыхары. Цэнтр калгаса «Акцябр». Дом культуры, аддз. сувязі, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзетсад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на Пд

праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. збудаваны 81 дом катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц. Радзіма доктара эканамічных навук, засл. эканаміста БССР С.Р.Аўсянікава.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 41 км на З ад Жлобіна, 17 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 133 км ад Гомеля, на р. Любіца (прыток р. Ала), на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Слава». 8 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — пасёлак у Майскім с/с, за 6 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 100 км ад Гомеля, вакол лес, побач аўтадарога Бабруйск—Гомель, 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. У 1909 г. хутар, 1 двор, 9 жыхароў, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты часткова спалілі пасёлак. Паводле перапісу 1959 г. 19 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінец» (цэнтр — в. Антонаўка). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*Аляксандраўка. Помнік партызанам 266-га атрада імя М.В.Фрунзе.*

**АЛЕКСАНДРОЎ** — вёска ў Салонскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Жлобіна, 1 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 81 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Паводле ўсерас. перапісу 1897 г. 2 двары, 10 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 93 жыхары, 324 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 36 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1954 г. да вёскі далучаны суседнія вёскі Гнілая Лужа і Залужжа. Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У складзе саўгаса «Нівы» (цэнтр — в. Нівы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Майскім с/с, за 13 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Мінск—Гомель), 106 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 183 гаспадаркі, 508 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пачатку 19 ст. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 27 двароў, у складзе маёнтка Казловічы, валоданне памешчыка Ф.А.Маліноўскага, а з 1859 г. Турчанінавых, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1887 г. ў наёмнай сял. хаце адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 293

жыхары, 4 ветракі, кузня, у Гарадзецкай вол. У 1909 г. 1256 дзес. зямлі. У 1925 г. 86 двароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Ленінец». Мелася пач. школа. У 1940 г. 560 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з восені 1941 г. дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік А.І.Севасцьянчык). У вер. 1943 г. акупанты спалілі 44 двары і загубілі 112 жыхароў. 43 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 472 жыхары. Цэнтр калгаса «Ленінец». Аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, сярэдняя школа (новы мураваны будынак узведзены ў 1988 г.). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай мерыдыянальнай і трох кароткіх вуліц, амаль паралельных да галоўнай і злучаных дарогай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач са старой забудовай у 1986 г. ўзведзена 100 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц, у тым ліку з в. Краснаселле Хойніцкага р-на.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Кароткавіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Жлобіна, за 2 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), за 84 км ад Гомеля. На З рэсп. ландшафтны заказнік «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дабрагошча—Жлобін. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1897 г. 33 двары, 212 жыхароў. Побач — аднайменны фальварак. У 1925 г. 53 двары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны красавік». У 1940 г. 93 двары, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну падп. група, якую ўзначальваў А.І.Севасцьянчык, склала частку партызанскага атрада «Смерць фашызму», што дзейнічаў з кастр. 1942 г. Ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 112 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінуў 171 воін і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне). 49 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Непрацяглы час у маі 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Кароткавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы. З поўначы да яе далучаецца другая кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСІНАВІЦА** — пасёлак у Стараруднянскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Жлобіна, за 6 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), за 76 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 9 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, 6 пасялкоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Планіровачна складаецца з драўлянай сядзібнага тыпу забудовы каля прасёлачнай дарогі.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Жлобіна, за 9 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), за 103 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. аколіца, 3 двары, 25 жыхароў, у Старарруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». 18 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары. У складзе саўгаса «Баброўскі» (цэнтр — в. Баброўка). Планіровачна складаецца з крывалінейн-

най кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, нямчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АСОЕ** — пасёлак у Майскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Жлобіна, за 16 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), за 110 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 1 жыхара. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Майскае). Планіровачна складаецца з кароценькай шыротнай вуліцы, забудаванай сял. сядзібамі.

**БАБОЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 13 км на У ад Жлобіна, за 7 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), за 96 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Рэпаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 293 гаспадаркі, 929 жыхароў (2004 г.).

У 1896 г. ў вёсцы знойдзены захаваны ў 1651 г. скарб (291 манета Рэчы Паспалітай, Іспанскіх Нідэрландаў, Прусіі, Саксоніі, Шведскай Прыбалтыкі), які сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах яшчэ ў сярэднія вякі. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1858 г. 4 жыхары мужчынскага полу. У 1859 г. гаспадар фальварка меў тут 495 дзес. зямлі і карчму. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 323 жыхары. 2 ветракі, млын, заезны дом. У 1909 г. 365 жыхароў, 652 дзес. зямлі, у Староруднянскай вол. Рагачоўскага павета. У гэтым жа годзе пабудавана школа і распачаты ў ёй заняткі. У 1925 г. 87 двароў. З 20.8.1924 г. да 17.8.1962 г. цэнтр Бабоўскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара». У 1940 г. 142 двары, 600 жыхароў. У пачатку Вял. Айч. вайны створаны атрад нар. апалчэння. З пачатку 1942 г. дзейнічала падп. патрыятычная



*Свінагадоўчы комплекс рэспубліканскага сельскагаспадарчага унітарнага прадпрыемства «Бабоўскі» каля в. Бабоўка.*

група (кіраўнік Н.А.Дражнін). Ням.-фаш. акупанты спалілі 133 двары, загубілі 16 жыхароў. Вызвалена 4.12.1943 г. У баях каля вёскі ў 1943—чэрв. 1944 г. загінулі 220 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У барацьбе супраць фашызму загінулі 73 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 396 жыхароў. Цэнтр рэспубліканскага сельскагаспадарчага унітарнага прадпрыемства «Бабоўскі». Аддз. сувязі, сярэдняя школа з музеем пры ёй (новы мураваны школьны будынак узведзены ў 1987 г.), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца адна, а з Пд — пяць кароткіх прамалінейных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. На новай вуліцы, забудаванай у 1986 г. мураванымі катэджнага тыпу дамамі (100 будынкаў), размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц, у тым ліку з в. Белая Сарока Нараўлянскага р-на.

**БАРАВУХА** — пасёлак у Пірэвіцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Жлобіна, за 17

км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), за 66 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 16 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 2 пасялкоўцы загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе саўгаса «Скепнянскі» (цэнтр — в. Скепня). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАРАНАЎКА** — вёска ў Старарудняскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Жлобіна, за 12 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), за 80 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Баранавічы—Гомель. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як аколіца ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 152 жыхары. У 1909 г. вяскоўцы мелі 90 дзес. зямлі, у Старарудняскай воласці. У 1925 г. 29 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 22 двары, загубілі 2 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі ёсць залежы жалезняку.

**БАРШЧОЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 14 км на У ад Жлобіна, за 8 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), за 106 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяліба ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 40 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 65 жыхароў, 195 дзес. зямлі, у Старарудняскай вол. У 1925 г. 21 двор. У 1903 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 28 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. У снеж. 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 33 вяскоўцы загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. У складзе саўгаса «Бабоўскі» (цэнтр — в. Бабоўка). Цагельны з-д. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку залежы сыравіны для вырабу цэглы (0,7 млн. куб. м).

**БАРШЧОЎКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 18 км на З ад Жлобіна, за 7 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), за 111 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 55 гаспадарак, 122 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Сцепскай воласці Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 201 жыхар. З 1921 г. дзейнічала школа. У 1925 г. 45 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. 17 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Радуша). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРЭЦ** — пасёлак у Папаратнянскім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), за 85 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Пірэвічы. 3 гаспадаркі, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х гадах перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 64 жыхары. У 1966 г. да пасёлка далучаны пасёлак Пятрова Паляна. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Касакоўка). Планіровачна складаецца з кароценькай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БЕЛІЦА** — вёска ў Луцкім с/с, за 6 км на Пн ад Жлобіна, за 3 км ад чыг. ст. Новікі (на лініі Бабруйск—Гомель), 99 км да Гомеля, на р. Беліца (прыток р. Добасна) і аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 160 гаспадарак, 374 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як слабада ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1850 г. 32 двары, 237 жыхароў, уласнасць казны. У 1885 г. слабада і фальварак. Паводле перапісу 1897 г. в. Слабада-Беліца (яна ж Лукаўская Слабада), 98 двароў, 664 жыхары, вятрак. Значнае месца ў сваёй дзейнасці гаспадар аднайменнага маёнтка І.М.Падвальны ўдзяляў нарыхтоўцы і продажу лесу. У 1909 г. 106 двароў, 955 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беліца». У 1940 г. 148 двароў, 720 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 32 двары, загубілі 8 жыхароў. 49 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Паводле перапісу 1959 г. 627 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі). Аддз. сувязі, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. На Пн, паралельна да галоўнай, праходзяць чатыры шчыльна забудаваныя кароткія вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БРУСАВА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 45 км на З ад Жлобіна, 20 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 136 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяліба ў Сцепскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 40 жыхароў. У 1925 г. 12 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 13 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з крывалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЯЛЬЧО** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Жлобіна, за 25 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 135 км ад Гомеля, на р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяліба ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1766 г. фальварак памешчыка Станіслава Крукоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1830 г. ўзведзена драўляная царква, якая ў 1872 г. перавезена ў в. Дабравольшча. Гаспадар аднайменнага маёнтка Э.Ш.Вішняк займаўся нарыхтоўкай і продажам лесу. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 21 жыхар. У 1909 г. 4 двары, 31 жыхар, у Старарудлянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 6 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дварышча). Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова драўляная.

**ВАСІЛЕВІЧЫ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Жлобіна, 11 км ад чыг. ст. Светлагорск-

на-Бярэзіне (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 115 км ад Гомеля, на Пд пойма р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Светлагорск—Гомель. 45 гаспадарак, 59 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы каменнага веку, позняга мезаліту, эпохі неаліту і бронзавага веку (за 0,7—0,8 км на У і ПнЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 166 жыхароў, уладанне памешчыка Фрумана. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Якімаваслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 233 жыхары, карчма, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. У 1940 г. 227 двароў, 920 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 13 двароў і загубілі 23 жыхары. У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 300 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 91 вясковец загінуў на фронце. Непрацяглы час у студз. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 397 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана суседняя в. Заброддзе. У складзе саўгаса «Мормаль» (цэнтр — в. Дабрагошча). Размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных кароткай вуліцай. Забудова шчыльная, двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы Н.І.Літаш (былая в. Заброддзе). Паблізу дзейнічаюць свідравіны па здабычы нафты.

**ВЕРНЫ** — пасёлак у Пірэвіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 102 км ад Гомеля, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 14 двароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты 27.9.1943 г. расстралялі 56 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на ўсх. ускраіне). 48 пасялкоўцаў загінулі на франтах. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕРХНЯЯ АЛБА** — вёска, цэнтр Верхнеалбянскага с/с, за 36 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 112 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 172 гаспадаркі, 442 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (8 насыпаў, за 0,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне) і паселішча эпохі неаліту (за 0,3 км на Пн ад могілак, на правым беразе Дняпра) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Алба ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне каталіцкай царквы. У 18 ст. частка вяскоўцаў, перасяліўшыся за 3 км на Пд, засн. на беразе Дняпра в. Ніжняя Алба, а в. Алба стала звацца Верхняя Алба. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 69 двароў, 463 жыхары, уладанне князя Л.М.Галіцына, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1881 г. 83 двары, у Стрэшынскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 137 двароў, 1058 жыхароў, хлебазапасны магазін, 4 ветракі. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сялянскай хаце, а ў пачатку 1920-х гадоў для яе быў выдзелены нацыя-

налізаваны будынак. У 1909 г. 167 двароў, 1334 жыхары, 2658 дзес. зямлі. У 1925 г. 227 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Верхнеалбянскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які ў лютым 1943 г. партызаны разграмілі. 83 вяскоўцы загінулі на франтах. У студз. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 748 жыхароў. Цэнтр калгаса «Праўда». Сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. У збудаваных у 1986 г. 50-ці мураваных будынках катэджнага тыпу размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Вуглы Нараўлянскага р-на. Радзіма Героя Савецкага Саюза М.С.Рогава (яго імя носіць вясковая школа).

У склад Верхнеалбянскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Дружны, Равішча, Зораўскі, да 1966 г. пас. Садовы (не існуюць).

**ВЯЗОК** — пасёлак у Малевіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 103 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 14 двароў, загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў. У 1966 г. да пасёлка далучаны суседні пас. Калееў Груд. У складзе саўгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Кабанаўскім с/с, за 40 км на Пд ад Жлобіна, 20 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 123 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 64 гаспадаркі, 127 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 4 жыхары. У наступныя гады, асабліва ў пачатку 1920-х гадоў, сюды, на былыя памешчыцкія землі, актыўна перасяляліся людзі з суседніх вёсак. У 1924 г. ў выніку землеўпарадкавання аформіўся пасёлак. У 1925 г. 27 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зара», працавала кузня. У снеж. 1943 г. — сак. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 41 вясковец загінуў на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Касакоўка). Пач. школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі, швейная і шавецкая майстэрні, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ РАГІ** — вёска ў Салонскім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 92 км ад Гомеля, на У пойма р. Дняпро. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Жлобіна. 273 гаспадаркі, 861 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 15 двароў, 102 жыхары, уладанне князя Л.М.Галіцына.

Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 299 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, цагельны завод. У 1909 г. 378 жыхароў, 920 дзес. зямлі, у Стрэшынскай воласці. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1925 г. 101 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 107 двароў, 449 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 16 двароў, загубілі 37 жыхароў. 45 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 461 жыхар. У складзе Жлобінскай птушкафабрыкі (цэнтр — в. Саланое). Пачатковая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пд раздвойваецца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯРБІЧАЎ** — пасёлак у Луцкім с/с, за 11 км на Пн ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 103 км ад Гомеля, на р. Беліца (прыток р. Добасна), на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 23 гаспадаркі, 51 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пачатку 19 ст. як аколіца ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1868 г. 24 двары, 114 жыхароў, з 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 155 жыхароў, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. пасялкоўцы мелі 150 дзес. зямлі. У 1925 г. 34 двары. У 1934 г. арганізаваны калгас. 6 пасялкоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытворчага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВЯСЁЛЫ** — пасёлак у Малевіцкім с/с, за 5 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін, 98 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Жлобіна. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. 15 пасялкоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У складзе саўгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — вёска ў Верхнеалбянскім с/с, за 39 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 64 км ад Гомеля, на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (за 0,2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Тарэлка) і паселішчы эпохі бронзавага веку, мезаліту, неаліту і ранняга жалезнага веку (за 0,5—3 км на Пд, ПдУ і ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з пачатку 20 ст. як сяліба ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Найбольш актыўнае засяленне выпадае на 1920-я гады. У 1930 г. арганізаваны калгас. 30 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Равішча. У складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Верхняя Алба). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРБАЧОЎКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 117 км ад Гомеля, на зах. ускраіне р. Добасна (прыток р. Дняпро), на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі

па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 39 гаспадарак, 75 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча (за 0,15 км на У ад вёскі), курганныя могільнікі (3 і 7 насыпаў на гарадзішчы і ўсх. ускраіне) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як Гарбачоўская Слабодка ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска (44 двары, 264 жыхары) і аднайменны фальварак (1 двор, 10 жыхароў). У 1932 г. арганізаваны калгас. 36 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. У складзе гаспадаркі Чырвонабярэжскага агр. каледжа (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнУ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. На Пн — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГЕЛІН** — вёска ў Папаратнянскім с/с, за 15 км на Пд ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 75 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 34 гаспадаркі, 71 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. як сяліба ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1925 г. 47 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 488 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў калгасным садзе). У ліст. 1943 г. — сак. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 45 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура жанчыны, пастаўленая ў 1952 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 304 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлкі Марс, Новая Паляна. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Папаратнае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі. Радзіма бел. паэта Х.Д.Жычкі (былы пас. Марс).

**ГЛУШЫЦА** — пасёлак у Навамаркавіцкім с/с, за 27 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 85 км ад Гомеля, на Пд воз. Глушыцкае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 5 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 17 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 16 жыхароў. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Прыбудак). Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ГЛУШЫЦА** — вёска ў Стараруднянскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Жлобіна, 12 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 80 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У рэвізскіх матэрыялах 1859 г. пазначана як уласнасць памешчыка. У 1925 г. 12 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 17 двароў. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ГОРКІ** — пасёлак у Акцябрскім с/с, за 17 км на Пд ад Жлобіна, 11 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 87 км ад Гомеля, на Пд і З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў у выніку землеўпарадкавання і перасялення ў гэтыя мясціны шэрагу гаспадарак з суседніх вёсак. У 1925 г. 17 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя А.А. Жданава. У 1940 г. 70 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак. 10 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў. У складзе калгаса «Акцябр» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Каля пасёлка радовішча гравію.

**ГРАБСК** (да 1932 г. Грабскія Хутары) — вёска ў Акцябрскім с/с, за 9 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 93 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Жлобін—Стрэшын. 53 гаспадаркі, 120 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. як хутар у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1911 г. збудавана памяшканне і пачала дзейнічаць школа. З 1925 г. на Грабскіх Хутарах быў 21 двор, у Гарадзецкім р-не Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Зара». У 1940 г. 61 двор, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1941 ням.-фаш. акупанты спалілі 58 двароў, загубілі 4 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 254 жыхары. У складзе калгаса «Акцябр» (цэнтр — в. Акцябр). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРАЧУХІ** — вёска ў Луцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Жлобіна, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 116 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 23 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 16 двароў і загубілі 4 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе саўгаса «Ракцянскі» (цэнтр — в. Рэкта). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Савецкага Саюза П.А.Странакова.

**ГРУШАЧКА** — пасёлак у Луцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 105 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы, побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1923 г., калі на землях фальварка Царыцын Дар сталі сяліцца перасяленцы з суседніх вёсак. У 1925 г. 8 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1944 г. спалілі 14 двароў, загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАБРАВОЛЬШЧА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Жлобіна, 23 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 132 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Баб-

руйск—Гомель. 57 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцепскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1872 г. з фальварка Бяльчо перанесены ў вёску драўляны будынак царквы. У 1885 г. 20 двароў, 196 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 47 двароў, 329 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1905 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Дабравольшчанскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і вятрак. 46 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 387 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дворышча). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАБРАГОШЧА** — вёска, цэнтр Дабрагашчанскага с/с, за 34 км на ПдЗ ад Жлобіна, 6 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 117 км ад Гомеля, на З і Пн сетка меліярацыйных каналаў. Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (151,5 м). Аўтадарога звязвае вёску са Жлобінам. 211 гаспадарак, 543 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Належала Патоцкім, затым Масальскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 31 двор, у 1850 г. 37 двароў, 115 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 294 жыхары, хлебазапасны магазін, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 69 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Дабрагашчанскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працаваў вятрак. У 1940 г. 80 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. У баях паблізу вёскі 8.12.1943 г. вызначыліся камандзір процітанкавай батарэі, ст. лейтэнант М.Т.Сірычэнка і старшы сяржант, камандзір процітанкавай гарматы А.П.Шылкоў (удастоены звання Героя Савецкага Саюза). У баях за вёску і наваколле ў чэрв. 1944 г. загінулі 1092 воіны і 4 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на вул. Школьная). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 274 землякі з вёсак Дабрагошча, Яшчыцы, Сельнае, Заброддзе і Васілевічы, памяць аб якіх ушаноўвае стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленая ў 1967 г. ў цэнтры вёскі, у скверы. У 1958 г. адкрыта сярэдняя школа. Паводле перапісу 1959 г. 454 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучана Цэнтральная сядзіба саўгаса «Мормаль». Цэнтр саўгаса «Мормаль». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з У далучаюцца дзве крывалінейныя, злучаныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь У.М.Свірко.

У склад Дабрагашчанскага сельсавета ўваходзілі да 1962 г. Цэнтральная сядзіба саўгаса «Мормаль», да 1966 г. — в. Заброддзе, пас. Садовы, да 1983 г. — пас. Бор (не існуюць).

**ДАЛІНА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 11 км на У ад Жлобіна, 8 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), 104 км ад Гомеля, на зах. ускраіне р. Ржаўка (прыток р. Дняпро), на Пд мяжуе з ле-

сам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі (14 і 21 насыпы, за 0,5 і 0,7 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Сучасная вёска засн. ў пачатку 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 44 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 39 двароў, загубілі 2 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе саўгаса «Бабоўскі» (цэнтр — в. Бабоўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з ПдУ далучаецца завулак. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДАРАГІНЬ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 26 км на Пд ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 72 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы, на У гідралагічны заказнік мясцовага значэння «Мох». Побач аўтадарога Дабрагошча—Жлобін. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў сярэдзіне 19 ст. сялянамі суседніх вёсак на землях, купленых імі ў памешчыка. Па рэвізіі 1858 г. 10 двароў, 28 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 66 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. У 1926 г. 26 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Перамога». 6 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У складзе саўгаса «Уперад» (цэнтр — в. Мормаль). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 35 км на З ад Жлобіна, 21 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 132 км ад Гомеля, на ПнЗ — тарфяны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 161 гаспадарка, 369 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцепскай воласці Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 372 жыхары. У 1925 г. 83 двары, у Дабравальшчанскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколлі загінулі 68 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 27.6.1944 г. На франтах загінулі 57 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. да 18.1.1965 г. цэнтр Дварышчанскага с/с Парыцкага, з 29.7.1961 г. Светлагорскага, з 25.12.1962 г. Жлобінскага р-наў Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 820 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Дварышчанскае лясніцтва, аддз. сувязі, дзевяцігадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з дзвюх частак: паўн. (да кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца на У і З кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўд. (дзве кароткія прамалінейныя, блізкія да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, злучаныя на Пд завулкам). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Побач у 1986 г. ўзведзена вуліца з мураваных, катэджнага тыпу, дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц, а таксама запрошаныя на працу ў калгас маладыя спецыялісты.

**ДЗЯНІСКАВІЧЫ** — вёска ў Майскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Гомель—Жлобін), 110 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 53 гаспадаркі, 86 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11 ст. (за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па

пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяліба ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле «попісу» 1567 г. фальварак Дзяніскавічы павінен быў выдзяляць апалчэнцаў для фарміравання ўзброеных атрадаў ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 162 жыхары, 1527 дзес. зямлі. У 1843—1845 гг. на сродкі вяскоўцаў і памешчыкаў Дабравольскага, Волк-Левановіча і Грушаноўскага збудавана драўляная Раствабагародзіцкая царква. Гаспадар аднаго фальварка меў тут у 1858 г. 162 дзес. зямлі, другога — у 1874 г. 352 дзес. зямлі і вадзяны млын. З 1880 г. дзейнічалі млын і хлебазапасны магазін, з 1867 г. — нар. вучылішча (у 1889 г. 30 вучняў). У 1886 г. 60 двароў, 487 жыхароў, вадзяны млын, у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 121 двор, 718 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, крама, 2 ветракі, вадзяны млын, 2 кузні, карчма. Побач — 2 аднайменныя фальваркі. У 1909 г. 126 двароў, 889 жыхароў. Пры школе мелася бібліятэка. У пачатку 1920-х гг. у фальварку заснавана калект. гаспадарка «Хлебароб». У 1925 г. 181 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прывітанне», працавалі 2 ветракі. У 1936 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседніх пасёлкаў Прывітанне і Савет. У 1931 г. і 1934 гг. арганізаваны калгасы «Прывітанне» і імя Саветаў. У 1940 г. 122 двары, 667 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 102 двары, загубілі 62 жыхары. 126 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 360 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Хлебароб. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Майскае). Клуб. Планіровачна складаецца з дзвюх частак: паўн. (чатыры прамалінейныя вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваныя дзвюма кароткімі вуліцамі) і паўд. (працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная. Радзіма беларускага фізіка, акадэміка Нац. акадэміі навук Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, Героя Сацыялістычнай Працы, засл. дзеяча навукі БССР А.Н.Сеўчанкі (яго імя прысвоена навукова-даследчаму інстытуту прыкладных фізічных праблем БДУ).

**ДУБОВАЯ ГРАДА** — пасёлак у Папаратнянскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 77 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтамабільнай дарозе Папаратнае—Жлобін. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Нярэдка можна пачуць і другую назву пасёлка — Лапці, якая здаўна прывілася ад прозвішча першых чатырох пасяленцаў — Лапцевых. У 1925 г. 8 двароў. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 23 двары. 16 пасялкоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. У 1962 г. да пасёлка далучаны пас. Рэкорд. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Папаратнае). Забудаваны рэдка драўлянымі сял. сядзібамі ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Кароткавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 81 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дабрагошча—Жлобін. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я гады. У 1925 г. 20 двароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва». У 1940 г. 26 двароў, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 31 жыха-

ра. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Усход. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Кароткавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Луцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Жлобіна, 8 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 115 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як невял. сяліба ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 67 жыхароў. У 1898 г. ўзведзена драўляная царква. У 1925 г. 38 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 8 двароў, загубілі 5 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе саўгаса «Ракцянскі» (цэнтр — в. Рэкта). Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі, уздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЖЫРХАЎКА** — вёска ў Навамаркавіцкім с/с, за 36 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 80 км ад Гомеля, на У сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 41 гаспадарка, 67 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча бронзавага веку (ва ўсх. частцы вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 41 двор, 285 жыхароў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 659 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 104 двары, 803 жыхары, 2471 дзес. зямлі, млын. У 1925 г. вёска (168 двароў) і аднайменны хутар (13 двароў). У 1931 г. арганізаваны калгас. 75 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У лютым 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 573 жыхары. У складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Новыя Маркавічы). Планіровачна складаецца з дзвюх шчыльна забудаваных прамалінейных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі залежы гліны.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Кароткавіцкім с/с, за 28 км на З ад Жлобіна, 14 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 117 км ад Гомеля, на зах. ускраіне сетка меліярацыйных каналаў, у тым ліку канал Вялікая Вязанка, на ПнЗ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяліба ў складзе аднайменнага маёнтка памешчыка Турчанінава. У 1872 г. гаспадар маёнтка меў тут 155 дзес. зямлі. З 1880 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін і школа. Паводле перапісу 1897 г. пасёлак (3 двары, 10 жыхароў) і 2 хутары (6 двароў, 41 жыхар) у Сцепскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1925 г. 19 двароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Забалоцце». У 1940 г. 38 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. Вызвалена 27.6.1944 г. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 197 жыхароў. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Кароткавічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыды-

янальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАВАД** – вёска ў Стараруднянскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), 75 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро), на У, Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 26 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 11 двароў, 77 жыхароў, уладанне памешчыка Сенажэцкага. З 1860 г. працавала сукнавальня, з 1875 г. — бярозавадзягцярны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 188 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. 38 двароў, 254 жыхары, школа, 706 дзес. зямлі, у Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета. У 1925 г. 56 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 47 двароў, загубілі 2 жыхароў. У сак. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 206 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАМЕН-РЫННЯ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Жлобіна, 25 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 129 км ад Гомеля, на ПдУ рэсп. ландшафтны заказнік «Выдрыца», на зах. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 15 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. У 1857 г. 7 двароў, 77 жыхароў, у складзе казённага маёнтка Граб'е. У 1876 г. дваранін Збарамірскі валодаў тут 83 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 365 жыхароў, капліца, у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага пав. У 1922 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 83 двары, у Дабравольшчанскім с/с Парыцкага р-на. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ясны Прамень», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які ў жн. 1943 г. партызаны разграмілі. Фаш. карнікі спалілі 62 жыхары. У чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дворышча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Жлобіна, 14 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 129 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 42 гаспадаркі, 78 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 269 жыхароў. У 1925 г. 54 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Абуджэнне», працавалі кузня і сталярня. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сцяпы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАТОН** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 14 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 85 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Побач аўтадарога Жлобін—Стрэшын. 69 гаспадарак, 116 жыхароў (2004 г.).

У 1891 г. ў вёсцы знойдзены схаваны ў 3-й чвэрці 16 ст. скарб (1000 сярэбра-

ных манет ВКЛ), які сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у сярэднія вякі. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 292 жыхары, уладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 747 жыхароў, школа граматы, крупарушка, 3 ветракі. У 1909 г. 117 двароў, 957 жыхароў, 1910 дзес. зямлі, млын. У 1925 г. 185 двароў. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Затонскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага р-наў Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Дняпроўскі», працаваў вятрак. У 1940 г. 140 двароў, 432 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 10 двароў і загубілі 5 жыхароў. 113 вяскоўцаў загінулі ў вайну. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Праскурні). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы суглінку і гліны.

**ЗЛОМНАЕ** — вёска ў Стрэшынскім пасялковым савеце, за 32 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 84 км ад Гомеля, на З Шохава-Гелінскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 55 гаспадарак, 114 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 28 двароў, 199 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 500 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, крупарушка, 3 ветракі. У 1909 г. 84 двары, 660 жыхароў, 1588 дзес. зямлі, млын, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета. У 1925 г. 136 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў 1943 г. расстралялі 12 жыхароў (пахаваны на зах. ускраіне). У снеж. 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся ваен. шпіталь сав. войск. 80 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 537 жыхароў. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — г.п. Стрэшын). Фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі і злучаных на Пд і Пн кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака Л.В.Грыцкова.

**ЗМЯЁЎКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 20 км на З ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 113 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 аднайменныя вёскі, 49 двароў, 354 жыхары, заезны дом, хлебазапасны магазін. Дзейнічала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 72 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», працавала кузня. 39 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Радуша). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНАЯ ДАЛІНА** — пасёлак у Луцкім с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 104 км ад Гомеля, на р. Беліца (прыток р. Добасна), побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 28 гаспадарак, 43 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з суседніх вёсак на землях фальварка Царыцын Дар. У 1925 г. 10 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі пасёлак і загубілі 3 жыхароў. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 89 жыхароў. У 1966 г. да пас. Зялёная Даліна далучаны пас. Гуляйполе. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сядзібамі.

**ЗЯЛЁНЫ КРАЖ** — вёска ў Луцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Жлобіна, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 113 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2004 г.).

У 1962 г. ў вёсцы знойдзены захаваны ў 1648 г. скарб (58 манет ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Курфюрства Брандэнбург, Прусіі, Шведскай Прыбалтыкі), які сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах яшчэ ў сярэднія вякі. Сучасная вёска засн. ў пачатку 1920-х гг. у выніку землеўпарадкавання фальварка Рэкта (1924 г.). У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 223 жыхары. У складзе саўгаса «Ракцянскі» (цэнтр — р. Рэкта). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІСТОПКІ** (Істобкі) — вёска ў Салонскім с/с, за 12 км на Пд ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 82 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 88 гаспадарак, 127 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 21 двор, 145 жыхароў. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1882 г. 52 двары, 373 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 429 жыхароў, 2 ветракі. У 1909 г. 71 двор, 591 жыхар, 1200 дзес. зямлі, школа, млын, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета. У 1925 г. 117 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», працавалі 2 ветракі. У 1940 г. 134 двары, 624 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 128 двароў і загубілі 3 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 728 жыхароў. У складзе саўгаса «Нівы» (цэнтр — в. Нівы). Фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой, амаль мерыдыянальных вуліц, размежаваных ручаём. На Пн, за ручаём, дзве кароткія, прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАБАНАЎКА** — вёска, цэнтр Кабанаўскага с/с, за 37 км на Пд ад Жлобіна, 17 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 100 км ад Гомеля, на зах. ускраіне меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 130 гаспадарак, 342 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 3 двары. Цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадар якога памешчык Бехлій валодаў у 1876 г. 12 500 дзес. зямлі, 2 корчмамі і конным млыном. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 376 жыхароў, вінакурны з-д, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1924 г. ў выніку землеўпарадкавання фальварка Кабанаўка былі ўтвораны пасёлкі

Казлова Паляна, Вялікі Лес і хутары Зялёны Лес, Ґрузліўка, Селішча, Цвяток, Навасёл, Надзежда і Кабанаўка, якія, апрача пас. Вялікі Лес, зараз не існуюць. У 1925 г. 113 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Кабанаўскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1933 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камуніст», працавалі паравы млын, 2 кузні. 58 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. Паводле перапісу 1959 г. 562 жыхары. Цэнтр калгаса «Камуніст». Дзевяцігадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіроўвачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У 1987—94 гг. збудаваны мураваныя дамы на 70 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц.

**КАБАНАЎКА** — вёска ў Луцкім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 89 гаспадарак, 175 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сядзіба ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1885 г. дзейнічалі вінакурня і сталярня. У 1909 г. фальварак Кабанаўка (ён жа Тачылаўка), 600 дзес. зямлі. У 1925 г. 87 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай. У 1940 г. 108 двароў, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы з 1941 г. дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік М.Дз.Антуськоў). Ням.-фаш. акупанты спалілі 27 двароў і загубілі 3 жыхароў. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле ўсесаюзнага перапісу 1959 г. 270 жыхароў. У складзе саўгаса «Ракцянскі» (цэнтр — в. Рэкта). Аддз. сувязі, школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўвачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх з Пн далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У вёсцы пасля Чарнобыльскай катастрофы ў нанава збудаваных мураваных дамах размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц, пераважна з в. Ясянюк Нараўлянскага р-на.

**КАЗІМІРАВА** — вёска і чыг. станцыя (3 км на ПнУ ад вёскі, на лініі Бабруйск—Жлобін) у Малевіцкім с/с, за 12 км на З ад Жлобіна, 105 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро), на Пд і У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 60 гаспадарак, 103 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як дзяржава (дзярж. зямельнае ўладанне ў распараджэнні прыватнай асобы), якая ў 1765 г. аб'ядноўвала 2 вёскі з 45 дварамі. У 1834 г. пазначана як мястэчка. Пасля адкрыцця ў ліст. 1873 г. руху па чыг. Асіповічы—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1886 г. мястэчка, 12 крам, вадзяны млын і вятрак. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, царква, яўрэйскі малітоўны дом, заезны дом. Побач быў аднайменны фальварак. 3.3.1920 г. польскія войскі пасля прарыву фронту каля в. Радуша захапілі вёску і ўчынілі жорсткую расправу над палоннымі. Былі расстраляны супрацоўнікі ваенкамата і чырвонаармейцы — усяго 23 чал. (пахаваны ў брацкай магіле каля могілак). З 1921 г. дзейнічала школа. У 1925 г. 61 двор. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Казіміраўскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну некаторы час у вёсцы захоўвалася друкарня Рагачоўс-

кага падп. райкома КП(б)Б. 73 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 165 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Жальвін, у 1966 г. — в. Касагі. У складзе саўгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаюцца кароткія, шчыльна забудаваныя шыротныя вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗІМІРАЎСКАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 108 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 39 гаспадарак, 69 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 243 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. У 1925 г. 65 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, працавалі конная крупарушка і вятрак. У Вял. Айч. вайну 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Ключ, хутар Цёсы. У складзе саўгаса «Чырвонабярэжскі» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сялянскімі сядзібамі.

**КАЛЫБАЎКА** — вёска ў Стараруднянскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), 83 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 52 гаспадаркі, 112 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 90 жыхароў мужчынскага полу. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 348 жыхароў, піцейны дом. У 1909 г. 52 двары, 401 жыхар, 659 дзес. зямлі, школа. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 85 двароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 83 двары, загубілі 3 жыхароў. 64 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 278 жыхароў. У складзе саўгаса «Бабоўскі» (цэнтр — в. Бабоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сялянскімі сядзібамі.

**КАРОТКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Караткавіцкага с/с, за 28 км на ПдЗ ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Мармаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 110 км ад Гомеля, на З і Пн меліярацыйныя каналы, на ПдЗ рэсп. ландшафтны заказнік «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 300 гаспадарак, 758 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1885 г. 58 двароў, 510 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 159 двароў, 1031 жыхар, хлебазапасны магазін, школа граматы, заезны дом. Побач быў аднайменны фальварак. У 1905—07 гг. вяскоўцы часта праводзілі самавольную высечку лесу, што вяло да судовых разборак. Трое сялян былі высланы ў Аланецкую губ., многія пакараны ў адм. парадку. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 232 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Караткавіцкага с/с Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Адзінаццацігоддзе Кастрычніцкай

рэвалюцыі» і «Чырвоны красавік», працавалі 2 ветракі і кузня. У 1930-х гг. дзейнічала сямігадовая школа. У 1940 г. 267 двароў, 787 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў снеж. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 331 жыхара. У баях каля вёскі ў снеж. 1943 г. — студз.—чэрв. 1944 г. загінулі 668 воінаў і 4 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 26.6.1944 г. 346 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 588 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана суседняя в. Гармавічы. Цэнтр калгаса «Радзіма». Сярэдняя школа, аддз. сувязі, б-ка, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай шыротнай вуліцы з завулкам, якую на У перакрыжоўвае кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Забудаваную ў 1989 г. мураванымі катэджнага тыпу дамамі частку вёскі (100 дамоў) засялілі перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Аравічы Хойніцкага р-на. Адна з вуліц носіць назву Аравіцкая.

У склад Кароткавіцкага с/с уваходзілі да лютага 1943 г. в. Залужжа (фаш. карнікі спалілі вёску — 27 двароў і загубілі 60 жыхароў, не адрадзілася), да кастр. 1943 г. — в. Браткі (фаш. карнікі спалілі 10 двароў, загубілі 27 жыхароў, не адрадзілася), в. Грушка (фаш. карнікі спалілі 11 двароў, загубілі 20 жыхароў, не адрадзілася), в. Залессе (фаш. карнікі спалілі 17 двароў, загубілі 23 жыхары, не адрадзілася), в. Замосце (фаш. карнікі спалілі 10 двароў і загубілі 4 жыхароў, не адрадзілася), в. Кастрычнік (фаш. карнікі спалілі 7 двароў, загубілі 15 жыхароў, не адрадзілася), в. Красноўка (фаш. карнікі спалілі 10 двароў, загубілі 45 жыхароў, не адрадзілася), да 1962 г. пас. Вадзіцкі, да 1966 г. в. Грамавічы, пасёлкі Буда, Усход, да 1983 г. — в. Галы (не існуюць).

**КАСАКОЎКА** — вёска ў Папаратнянскім с/с, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 108 км ад Гомеля, на Пн Шыхава-Гелінскі канал, на ПнЗ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Мох». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 147 гаспадарак, 358 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 27 двароў, 208 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 75 двароў, 577 жыхароў, 2 ветракі. У выніку пажару 1908 г. згарэлі 37 двароў і 32 гумны. У 1909 г. 103 двары, 454 жыхары, 1812 дзес. зямлі, млын, у Стрэшынскай воласці. У гэтым жа годзе адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 170 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас. 4 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У 1940 г. 193 двары, 530 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 7 двароў, загубілі 16 жыхароў. 111 вяскоўцаў загінулі на фронце. Вызвалена ад фаш. акупацыі 29.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 501 жыхар. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Каліноўск і Луганск. Цэнтр калгаса «Шлях Леніна». Дзевяцігадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой пад прамым вуглом далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы.

**КІРАВА** (да 20.4.1939 г. Святое) — вёска, цэнтр Кіраўскага с/с, за 29 км на У ад Жлобіна, 19 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Гомель—Жлобін), 80 км ад Гомеля, на р. Ржача (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Жлобін—Гомель. 374 гаспадаркі, 1010 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як невял. сяло ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У склад маёнтка Святое ўваходзілі фальварак і 2 вёскі, ва ўладанні памешчыцы К.Хадкевічавай. Часта ў гэтыя месцы наведваліся купцы з Прыбалтыкі, якія па нізкіх цэнах скуплялі лепшыя землі і лясныя ўчасткі. У ліку такіх прадпрымальнікаў быў і купец Рыхтэр, які каля возера збудаваў сядзібу, пасадзіў сад. У 1815 г. збудавана драўляная Раствабагародзіцкая царква (перабудавана ў 1864 г.), у якой захоўваліся метрычныя кнігі з 1796 г. і спавядальныя запісы з 1823 г. У 1863 г. памешчыку належалі 4680 дзес. зямлі і дзягцярны з-д. У 1886 г. ў вёсцы 93 двары, 660 жыхароў, царква, вятрак, вадзяны млын. Дзейнічала школа, у якой у 1889 г. навучаліся 28, у 1907 г. 65 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1911 г. пры школе мелася бібліятэка. У 1929 г. арганізаваны калгас Я.М.Свярдлова. 9 вяскоўцаў загінулі ў сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У 1940 г. 535 двароў, 2675 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў час абарончых баёў у жн. 1941 г. ў вёсцы некаторы час знаходзіўся камандны пункт 63-га стралк. корпуса Чырвонай Арміі. Ням.-фаш. акупанты спалілі 108 двароў і загубілі 5 жыхароў. У снеж. 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 218 жыхароў загінулі на фронце. У вёску ў 1967 г. перасяліліся жыхары пас. Ленінскі. Цэнтр калгаса імя Я.М. Свярдлова. Сярэдняя школа (новы мураваны будынак узведзены ў 1990 г.), б-ка, аддз. сувязі, бальніца, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры. Асноўныя вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі размешчаны на У і З ад воз. Святое. На Пн да іх далучаецца працяглая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзена 200 мураваных катэджнага тыпу дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных у выніку Чарнобыльскай катастрофы радыяцыяй месц. Адна з новых вуліц носіць назву Паганянская ад в. Пагоннае Хойніцкага р-на, частка жыхароў якой тут пасялілася. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы М.Р.Казлова, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага механізатара Беларусі М.В.Рудэнкі (Рудзянкова).

У склад Кіраўскага с/с уваходзіў да 1967 г. пас. Ленінскі (не існуе).

**КІЦІН** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 30 км на З ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 127 км ад Гомеля, на Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, злучаная з р. Ала (прыток р. Бярэзіна), на Пн гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 205 гаспадарак, 527 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Бабруйскім павеце Мінскага ваяводства. З 1792 г. дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Расійскай імперыі. У Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1885 г. 29 двароў, 330 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 320 двароў, 1420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 110 двароў, загубілі 2 жыхароў. 81 вясковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. Вызвалена 27.6.1944 г. Цэнтр калгаса «Чырвоная Зорка». Аддз. сувязі, дзевяцігадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 4 кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Побач у пачатку 1990-х гг. узведзена вуліца з мураваных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц. Радзіма засл. настаўніка БССР Б.В.Таранчука.

**КЛІМАЎКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 106 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 1 гаспадарка, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 4 вяскоўцы загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У складзе падсобнай гаспадаркі Чырвонабярэжскага агр. каледжа (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОЛАС** — пасёлак у Пірэвіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 17 двароў. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж чыгункі.

**КРУГАВЕЦ** — вёска ў Пірэвіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 62 км ад Гомеля, на р. Рудзенка (прыток р. Окра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 124 гаспадаркі, 249 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Староруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 482 жыхары, 3 ветракі. У 1909 г. 1318 дзес. зямлі. У 1911 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 156 двароў. У 1926 г. засн. масласыраварная арцель. У 1930 г. арганізаваны калгасы імя С.М.Будзённага і «Ленінец», працавалі цагельня, 2 кузні, торфаздабыўная арцель (50 рабочых). 66 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Непрацяглы час у чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 732 жыхары. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. На Пд ад галоўнай размешчана прамалінейная, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі вуліца, да якой з З далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера 4-х Георгіеўскіх крыжоў П.В.Леанкова і беларускага мастака В.А.Кірыленкі.

**КРУГІ** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 16 км на З ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 109 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Жлобін. 26 гаспадарак, 69 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 16 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Радуша). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх мерыдыянальных вуліц, да адной з якіх далучаецца з У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУРГАН** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 73 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дабрагошча—Жлобін. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяліба ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку паселішчаў Якімаваслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. в. Курган (яна ж Карма), 27 двароў, 172 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 80 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 288 жыхароў. У складзе саўгаса «Уперад» (цэнтр — в. Мормаль). Планіровачна складаецца з дугападобнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пн далучаюцца два завулкі. На У адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КУРГАННЕ** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 12 км на З ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Казімірава (на лініі Бабруйск—Жлобін), 105 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі (55 насыпаў, 1-я—2-я трэці 12 ст.; 35 насыпаў, 11—12 ст.; 3 насыпы, на паўд. ускраіне вёскі, уздоўж ракі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Сучасная вёска засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах Вял. Айч. вайны. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Новы Александроў, хутары Прырэчча, Рассвет і ў 1966 г. — хутар Кадзішча. У складзе саўгаса «Чырвонабярэжскі» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з хаатычнай забудовы ўздоўж прасёлачнай дарогі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.



*Энкалпіён, спражка з інкрустацыяй, паясное кольца, паясны кручок з курганнага могільніка каля в. Курганне.*

**ЛЕБЯДЗЁЎКА** — вёска ў Луцкім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 106 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель, на Пн воз. Лебядзёўка, на ўсх. ускраіне р. Дняпро. 360 гаспадарак, 976 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 48 двароў. Граф Чарнышоў-Круглікаў меў у Жлобіне і ў в. Лебядзёўка ў 1874 г. 1319 дзес. зямлі, 2 карчмы і паром. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 481 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у Лукаўскай воласці. Побач быў аднайменны фальварак. У 1909 г. 78 двароў, 546 жыхароў, 578 дзес. зямлі, у фальварку 343 дзес. зямлі, 7 жыхароў. У 1922 г. на базе фальварка быў створаны пас. Новы Свет (не існуе). У 1923 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 103 двары. У 1935 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 181 двор, 697 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. і чэрв. 1944 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Побач з вёскай, непадалёку ад Дняпра, у пачатку 1950-х гадоў узведзены Жлобінскі канатны з-д. Паводле перапісу 1959 г. 688 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Леніна. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытворчага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі).

Аддз. сувязі, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаюцца адна, на Пн дзве кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу.

**ЛОБСК** — пасёлак у Чырвонабярэжскім с/с, за 33 км на З ад Жлобіна, 11 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), на З сетка меліярацыйных каналаў і р. Ала (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Радуша). Будынкі драўляных сял. сядзіб пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЛУГАВАЯ ВІРНЯ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 6 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 92 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро), на У мяжуе з лесам, на Пд меліярацыйны канал, побач аўтадарога Бабруйск—Гомель. 105 гаспадарак, 244 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. З 1850 г. працавала сукнавальня, з 1880 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін і Пакроўская царква. У 1885 г. 35 двароў, 149 жыхароў. У 1886 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 314 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом. У чэрв. 1905 г. вяскоўцы не дапусцілі станавога прыстава да апісання іх маёмасці на карысць памешчыцы Башмачэнкавай. У 1909 г. 58 двароў, 351 жыхар, 630 дзес. зямлі. У 1925 г. 100 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Лугавая кветка». У 1940 г. 131 двор, 558 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь савецкіх войск. Ням.-фаш. акупанты спалілі 48 двароў і загубілі 67 жыхароў. 85 вяскоўцаў загінулі на фронце. Вызвалена 24.2.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 489 жыхароў. У складзе саўгаса «Бабоўскі» (цэнтр — в. Бабоўка). Малочны з-д, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дзвюх крывалінейных, шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛУКІ** — вёска ў Луцкім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін, 96 км ад Гомеля, на З меліяра-



*Лугавая Вірня. Помнік падпольшчыкам і партызанам.*

цыйныя каналы і р. Беліца (прыток р. Добасна), побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 142 гаспадаркі, 281 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1792 г. дзейнічала Георгіеўская царква. У 1876 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 44 вучні). У 1880 г. 117 двароў, 716 жыхароў, хлебазапасны магазін. Цэнтр Луцкай воласці (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 56 населеных пунктаў (1579 двароў), у 1912 г. — 32 населеныя пункты. Паводле перапісу 1897 г. 187 двароў, 1447 жыхароў, царква, 4 ветракі, піцейны дом, крупарушка. У 1909 г. 220 двароў, 1540 жыхароў, 2374 дзес. зямлі. Пры школе мелася бібліятэка. Дзейнічала паштовае аддзяленне. У выніку землеўпарадкавання ў 1924 г. на землях в. Лукі былі ўтвораны пасёлкі Чырвоны Рог, Новыя Лукі, Звязда, Новае Жыццё, Лісіцын Лог, Надзежда, Леніна і хут. Лагута, якія зараз, апрача пас. Новыя Лукі, не існуюць. З 20.8.1924 г. да 24.11.1983 г. цэнтр Лукаўскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. 275 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы імя П.Л.Войкава і «Рэкта», працавалі торфараспрацоўчая арцель (з 1927 г.), 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які ў жн. 1943 г. партызаны разграмілі. Карнікі спалілі 56 двароў і загубілі 5 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў 1944 г. загінулі 217 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 94 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 615 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Лукі, Красны Рог. Цэнтр падсобнай гаспадаркі раённага вытворчага аб'яднання «Сельгасхімія». Сярэдняя школа з музеем, клуб, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін, школа-сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, працяглай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У вёсцы ўнанава збудаваных мураваных будынках размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Радамля Нараўлянскага р-на.

**ЛУЦКІ** — пасёлак, цэнтр Луцкага с/с, за 11 км на Пн ад Жлобіна, 9 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на р. Беліца (прыток р. Добасна), на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 633 гаспадаркі, 1676 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак. Пасёлак павялічваўся амаль адначасова з павелічэннем маштабаў распрацоўкі торфу. У 1940 г. 19 двароў, 490 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 17 двароў. У 1962 г. да пасёлка далучаны пас. торфабрыкетнага з-да «Луцкі» (у 1959 г. 592 жыхары). З 24.11.1983 г. цэнтр Луцкага с/с Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. Торфабрыкетны з-д, музычная школа, б-ка, бальніца. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі сядзібамі.

У склад Луцкага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. торфабрыкетнага з-да «Луцкі», да 1963 г. пас. пеньказавода, да 1966 г. в. Акцябрская (да 30.7.1964 г. Тапіла), пасёлкі Гуляйполе, Леніна, Надзежда, Красны Рог, да 1966 г. — пас. Лісі Лог (не існуюць).

**ЛЮБОЎ** — пасёлак у Пірэвіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 101 км ад Гомеля, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 38 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў у былым фальварку Новы Двор. У 1925 г. 21 гас-

падарка. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮДГАРДАЎКА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 31 км на З ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 127 км ад Гомеля, на Пд і У сетка меліярацыйных каналаў, на Пн гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 21 гаспадарка, 42 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 177 жыхароў. З 1921 г. дзейнічала школа. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 49 двароў, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 7 двароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 235 жыхароў. У складзе калгаса «Чырвоная Зорка» (цэнтр — в. Кіцін). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯДЫ** — вёска ў Кабанаўскім с/с, за 29 км на Пд ад Жлобіна, 16 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 85 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 63 гаспадаркі, 95 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў у 1850 г. 28 двароў, 106 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку населеных пунктаў Якімаваслабодскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 245 жыхароў. У канцы 19 ст. на паўд.-зах. ускраіне пабудаваны вятрак (зараз помнік драўлянага вытв. будаўніцтва). У 1925 г. 94 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі 2 ветракі і конная крупарушка. У 1940 г. 153 двары, 530 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 19 двароў. 66 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 632 жыхары. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Кабанаўка). Планіровачна складаецца з выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЯСАНЬ** — вёска ў Салонскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 95 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (27 насыпаў, 2 км на З ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 56 жыхароў. У 1909 г. 69 жыхароў, 472 дзес. зямлі. У 1925 г. 17 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 23 жыхары. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. У складзе саўгаса «Нівы» (цэнтр — в. Нівы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма беларускага мастака А.І.Цыркунова.

**МАЙСКАЕ** (да 30.7.1928 г. — Шапілава) — вёска, цэнтр Майскага с/с, за 18 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 101 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 204 гаспадаркі, 506 жыхароў (2004 г.).

У 1923 г. ў вёсцы знойдзены ўхаваны ў 3-й чвэрці 17 ст. скарб (манеты Рэчы Паспалітай і Шведскай Прыбалтыкі), які сведчыць аб дзейнасці тут чалавека ў далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як фальварак Казловічы (ён жа Шапілаўка) у Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1906 г. ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі. З 1911 г. пры школе пачала працаваць б-ка. У 1909 г. 978 дзес. зямлі. У 1924 г. на базе таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі «Колас» і «Звон» створаны калгас «Рассвет», затым калгас «Прагрэс», працавалі нафтавы млын, кузня. У 1925 г. 195 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Шапілаўскага (з 30.7.1928 г. Майскага) с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1936 г. ў вёску перасёлены жыхары в. Казловічы. У 1940 г. 242 гаспадаркі, 1201 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 218 двароў і загубілі 24 жыхары. Вызвалена 23.2.1944 г. У баях 1943—44 гг. у раёне вёскі загінулі 1018 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У студз.—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 263 землякі, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1967 г. Паводле перапісу 1959 г. 770 жыхароў. Цэнтр калгаса «Світанне». Малочны з-д, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх частак: паўн. (прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд. (тры паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя трыма дарогамі, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ). Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц. Радзіма бел. пісьменніка М.М.Чавускага і Героя Савецкага Саюза М.Р.Кавалёва.

У склад Майскага с/с уваходзілі да 1936 г. в. Казловічы, пасёлкі Прывітанне, Савет, да 1966 г. — пасёлкі Бабоўскі (да 1964 г. сядзіба Хальчанскай МТС), Хлебароб, да 1997 г. — пасёлак Падлессе (не існуюць).

**МАЛЕВІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Малевіцкім с/с, за 9 км на З ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 102 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 80 гаспадарак, 121 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1925 г. 187 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 163 двары, 490 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 53 двары, загубілі 24 жыхары. 56 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 712 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Па другі бок ракі кароткая прамалінейная вуліца той жа арыентацыі, што і галоўная. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЕВІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Бабруйск—Жлобін), цэнтр Малевіцкага с/с, за 7 км на ПнЗ ад Жлобіна, 94 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 286 гаспадарак, 698 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. З 1792 г. дзейнічала Узвіжанская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 34 два-

ры, уладанне памешчыка Жукоўскага, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1848 г. 39 двароў. Гаспадар фальварка меў у 1869 г. 3746 дзес. зямлі, 2 карчмы, вадзяны млын, крупарушку і сукнавальню. З 1872 г. дзейнічала нар. вучылішча (у 1889 г. 36 вучняў). З уводам у эксплуатацыю ў ліст. 1873 г. чыгункі Асіповічы—Гомель пачаў дзейнічаць раз'езд, а з 1964 г. чыгуначная станцыя. У 1886 г. 52 двары, 300 жыхароў, вятрак, у Лукаўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 618 жыхароў, хлебазапасны магазін, крупарушка, піцейны дом. У 1909 г. 106 двароў, 636 жыхароў, 787 дзес. зямлі. У фальварку 3890 дзес. зямлі, 14 жыхароў. Пры школе з 1911 г. мелася бібліятэка. З 20.8.1924 г. цэнтр Малевіцкага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 192 двары, 768 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 56 жыхароў. У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 45 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 143 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 345 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны суседнія пас. Заграддзе, у 1966 г. — пас. Заводнае і в. Карма. Цэнтр саўгаса імя В.І.Казлова. Аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, Дом культуры, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, мерыдыянальных, шчыльна забудаваных вуліц, да якіх далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма дзярж. дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Айч. вайну, Героя Савецкага Саюза, ген.-м. В.І.Казлова (былы пас. Загараддзе, яго імем названы вуліцы ў Мінску, Салігорску, Жлобіне) і заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі В.В.Казловай. Каля вёскі ёсць радовішча гліны.

У склад Малевіцкага с/с уваходзілі да 1962 г. в. Жальвін, пасёлкі Заграддзе, Новы Александроў, да 1966 г. в. Карма, пас. Прыдарожжа (не існуюць).

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 40 км на З ад Жлобіна, 16 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 133 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губерні. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 130 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 88 жыхароў. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Складаецца з бессістэмнай драўлянай сядзібнай забудовы каля прасёлачнай дарогі. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь Г.Ф.Піцяковай.

**МАЛЫЯ КАЗЛОВІЧЫ** — пасёлак у Майскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Жлобіна, 14 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), 110 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Рагачоў—Доўск. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як невялікае сяло ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Побач быў аднайменны фальварак, гаспадар якога меў у 1871 г. 1602 дзес. зямлі. У 1925 г. 73 двары. У 1934 г. арганізаваны калгас «Будаўнік». У 1940 г. 89 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 28 двароў і загубілі 35 жыхароў. 43 пасялкоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У складзе калгаса «Ленінец» (цэнтр — в. Антонаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, якая на Пн далучаецца да кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забу-

дова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ РАГІ** — вёска ў Салонскім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 92 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Жлобіна. 19 гаспадарак, 46 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі каля вёскі паселішча эпохі неаліту сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 10 двароў, 56 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. У 1862 г. 102 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў. У 1909 г. 12 двароў, 127 жыхароў, 170 дзес. зямлі. У 1926 г. 32 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 70 жыхароў. У складзе Жлобінскай птушкафабрыкі (цэнтр — в. Саланое). Планіровачна складаецца з драўлянай сял. забудовы ўздоўж ракі. Радзіма кавалера 4-х Георгіеўскіх крыжоў П.І.Казятнікава.

**МАРУСЕНЬКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 107 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 25 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1869 г. 17 двароў, 90 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 126 жыхароў. У 1909 г. 115 жыхароў, 151 дзес. зямлі. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 188 жыхароў. У складзе гаспадаркі Чырвонабярэжскага агр. каледжа (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МОРМАЛЬ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Калінкавічы) у Дабрагашчанскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Жлобіна, 105 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 173 гаспадаркі, 413 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Праз вёску праходзіла дарога з Магілёва на Пд Беларусі, у 1847 г. дзейнічала паштовая станцыя. Паводле рэвізіі 1858 г. 55 двароў, 337 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. У 1881 г. 79 двароў, 390 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 101 двор, 821 жыхар, 2 ветракі, кузня, піцейны дом. У 1902 г. ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі (у 1907 г. 64 вучні). Са здачай у эксплуатацыю чыгункі Жлобін—Калінкавічы ў 1915 г. пачала працаваць чыг. станцыя. У 1909 г. 128 двароў, 2311 дзес. зямлі, царква, млын. Пры школе мелася бібліятэка. У 1925 г. 226 двароў. З 20.8.1924 г. да 17.2.1960 г. цэнтр Мормальскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік» і саўгас «Мормаль», працавалі трактарны і нафтавы млыны, 2 кузні. Побач размяшчалася Папаратнянская МТС. У 1940 г. 285 двароў, 900 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 16.7.1941 г. смелую аперацыю сумесна з дазорам вайсковай часці ажыццявілі байцы Стрэшынскага знішчальнага батальёна. Яны адкінулі акупантаў, якія ўварваліся на 6-ці бронемашынах у машынна-трактарную станцыю. З 1941 г. дзейнічала патрыя-

тычная падп. група (кіраўнік І.А.Лебедзеў). Ням.-фаш. акупанты стварылі тут свой гарнізон, які партызаны разграмілі ў снеж. 1942 г. У ліст. 1943 г. партызаны паўтарылі напад на гарнізон і вызвалілі каля 400 чалавек, сабраных для адпраўкі ў Германію. Фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 78 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1943—44 гг. загінулі 393 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 1.3.1944 г. ў баі за вышыню сяржант П.М.Мазілін і лейтэнант М.П.Жуйкоў закрылі сваім целам амбразуру дзота. 99 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1084, у саўгасе «Мормаль» 605 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Уперад». Камбінат бытавога абслугоўвання, лесапільня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудова мураваная і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу. За 1 км на Пн ад вёскі чыгуначная станцыя. Радзіма ген.-м. М.І.Сіманоўскага, мастака Л.М.Лук'янава, пісьменніка У.І.Содаля. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**НАВІКІ** — вёска ў Малевіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 97 км ад Гомеля, на р. Беліца (прыток р. Добасна). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 30 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як вёска ў Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 18 двароў, 74 жыхары, уладанне Жукоўскіх, у 1881 г. 21 двор, 129 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 303 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 46 двароў, 308 жыхароў, 365 дзес. зямлі. У 1925 г. 77 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 48 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Прыдарожжа. У складзе саўгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сядзібнымі дамамі.

**НАВОЗЫ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 40 км на З ад Жлобіна, 18 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 133 км ад Гомеля, на З і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як засценак у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 176 жыхароў. У 1925 г. 44 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 211 жыхароў. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**НІВЫ** — вёска ў Салонскім с/с, за 14 км на Пд ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 97 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы, на зах. ускраіне чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 309 гаспадарак, 787 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 34 двары, 216 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу

1897 г. 62 двары, 476 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, крупарушка, вятрак. У 1925 г. 149 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У 1940 г. 106 двароў, 483 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 100 двароў і загубілі 40 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 81 зямляк, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў 1979 г. Паводле перапісу 1959 г. 871 жыхар. Цэнтр калгаса «Ніва». Дзевяцігадовая школа, Дом культуры, б-ка, школа-сад, магазін, аддз. сувязі, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пн — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы мураваныя і драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц. Радзіма заслужанага ўрача Беларусі А.Ц.Татарынава.

**НІЖНЯЯ АЛБА** – вёска ў Верхнеалбянскім с/с, за 39 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 110 км ад Гомеля, на р. Дняпро. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 83 гаспадаркі, 168 жыхароў (2004 г.).



*Бондар за працай. Вёска Нівы.*

Выяўленае археолагамі паселішча бронзавага і ранняга жалезнага вякоў (0,15 км на ПнЗ ад вёскі, каля могілак) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Аб гэтым сведчыць і знойдзены ў вёсцы ў 1902 г. скарб. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі перасяленцы з в. Алба (зараз Верхняя Алба) заснавалі тут сяленне. Паводле рэвізіі 1858 г. 37 двароў, 250 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. Дзейнічала паромная пераправа праз Дняпро пад'ёмнасцю да 500 пудоў. З 1880 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 556 жыхароў, 3 ветракі, школа, млын, піцейны дом. Вялікую шкоду вёсцы нанёс пажар 13.8.1897 г. У 1909 г. 94 двары, 694 жыхары, 1671 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1923 г. ўзведзены школьны будынак і адкрыта 4-гадовая школа. У 1925 г. 143 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 115 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 708 жыхароў. У складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Верхняя Алба). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж ракі), да якой з З далучаюцца чатыры завулкі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць радовішча гліны.

**НОВАВІНАГРАДАЎ** — вёска ў Навамаркавіцкім с/с, за 39 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 82 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 14 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 292 жыхары. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Вітаў. У складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Новыя Маркавічы). Планіровачна скла-

даецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ КАМЕНКА** – вёска ў Стрэшынскім пасялковым савеце, за 25 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 75 км ад Гомеля, на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік 11—12 стагоддзяў (32 насыпы, у межах вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў пачатку 20 ст., калі в. Каменка падзялілася на 2 вёскі: Старая Каменка і Новая Каменка. У 1925 г. 18 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў в. Старая Каменка размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 20 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1966 г. да вёскі далучана в. Старая Каменка. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — г.п. Стрэшын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ КАРМА** – вёска ў Папаратнянскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Жлобіна, 76 км ад Гомеля, 3 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 36 гаспадарак, 80 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў другой палавіне 19 ст. сялянамі суседніх вёсак, на землях, купленых імі ў памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 75 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. У 1925 г. 36 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавалі вятрак і кузня. 3 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У 1940 г. 48 двароў, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 36 двароў і загубілі 10 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 58 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. У 1976 г. да вёскі далучана в. Восава Буда, у 1967 г. ў вёску перасяліліся жыхары пас. Работка. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Папаратнае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца дзве кароткія вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы А.П.Шабуняева і заслужанага работніка гандлю БССР І.П.Дзікуна.

**НОВАЯ МАР'ЕЎКА** – вёска ў Шчадрынскім с/с, за 39 км на З ад Жлобіна, 16 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 131 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы і р. Любіца (прыток р. Ала). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 156 жыхароў. У 1925 г. 43 двары, у Парыцкім р-не Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «За Радзіму». У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сцяпы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Пірэвіцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 75 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 7 двароў.

16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЛУКІ** — вёска ў Луцкім с/с, за 10 км на Пн ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Луцкая (на лініі Жлобін—Магілёў), 93 км ад Гомеля, побач аўтадарога Рагачоў—Жлобін. 253 гаспадаркі, 670 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, 2 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 19 ст. перасяленцамі з в. Лукі. Непадалёку, ва ўрочышчы Надзежда, з 1878 г. дзейнічала лесараспрацоўчае прадпрыемства. У 1924 г. ў выніку землеўпарадкавання тут афарміўся пасёлак. У 1935 г. арганізаваны калгас «Верны шлях». У 1940 г. 20 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 36 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 116 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана в. Акцябрская (да 30.7.1964 г. Тапіла), пасёлкі Красная Звязда, Лісі Лог, Надзежда. Цэнтр саўгаса «Луцкі». Лесапільня, швейная майстэрня, пач. школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн і Пд далучаюцца кароткія шыротныя вуліцы. На Пд адасоблены ўчастак забудовы — кароткая, выгнутая, мерыдыянальная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, няшчыльная, драўляная і мураваная, сядзібнага тыпу. У 1991 г. ўзведзены мураваныя дамы на 98 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц.

**НОВЫЯ МАРКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Навамаркавіцкага с/с, за 34 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 83 км ад Гомеля, на Пн Шыхава-Гелінскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Стрэшын—Гомель. 138 гаспадарак, 403 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1910 адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. Цяжкія страты панесла вёска ў выніку пажару 2.10.1924 г., калі згарэла 36 пабудоў у 12 дварах. У 1925 г. 98 двароў. З канца 1924 г. цэнтр Навамаркавіцкага с/с Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «12 год Кастрычніцкай рэвалюцыі», працавалі 2 ветракі, конная крупарушка, кузня. У 1940 г. 112 двароў, 532 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1941 г. і вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты загубілі 18 жыхароў, а ў 1943 г. спалілі 33 двары. У баях каля вёскі ў 1943—44 гг. загінулі 279 воінаў і партызан, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1955 г. каля будынка выканкома сельсавета. 84 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 399 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана в. Мікулічы. Цэнтр калгаса «Бярэзіна». Сярэдняя школа (новы мураваны будынак узведзены ў 1987 г.), Дом культуры, біб-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, дзетсад, швейная майстэрня, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пн кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. ўзведзены 100 мураваных катэджных дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС месц, пераваж-

на з в. Чапаеўка Нараўлянскага р-на. Каля вёскі ёсць радовішча гліны.

У склад Навамаркавіцкага с/с уваходзілі: да 1962 г. — сядзіба Каменскай МТС, да 1966 г. — в. Мікулічы, да 1967 г. — пас. Вітаў, да 1971 г. — в. Белая Ветка, да 1986 г. — в. Закараў, да 1987 г. — вёскі Кавалёўка і Калінаўка (не існуюць).

**ПАДХВАЁВА** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 25 км на Пд ад Жлобіна, 74 км ад Гомеля, 11 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2004 г.).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1923 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 63 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 142 жыхары. У складзе саўгаса «Уперад» (цэнтр — в. Мормаль). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАПАРАТНАЕ** — вёска, цэнтр Папаратнянскага с/с, за 18 км на Пд ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы). 104 км ад Гомеля, на аўтадарозе Васілевічы—Жлобін, на Пн меліярацыйныя каналы. 354 гаспадаркі, 897 жыхароў (2000 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 57 двароў, 320 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 748 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, кузня, піцейны дом. У 1909 г. 105 двароў, 781 жыхар, 1123 дзес. зямлі. У 1920-я г. з вёскі вылучыўся пас. Дружны, які ў 1962 г. далучаны да в. Шыхаў. У 1924 г. з сяла Папаратнае вылучаны пас. Адраджэнне (у 1962 г. далучаны да в. Папаратнае). У 1925 г. 182 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Папаратнянскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», мелася МТС. У 1940 г. 240 двароў, 905 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з лета 1942 г. дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік В.З.Фамянок). У ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 238 двароў, загубілі 60 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1944 г. загінуў 1051 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 126 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1954 г. ў вясковым парку. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Вішанькі, Дубіна, Ляды, Новыя, Савін, Чачанёў. Цэнтр калгаса «Іскра». Швейная і шавецкая майстэрні, малочны з-д, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з дзвюх паралельных паміж сабой вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, да адной з якіх далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. На Пд дзве адасобленыя кароткія вуліцы (былыя пасёлкі Ляды і Вішанькі), на Пн — адна адасобленая кароткая вуліца (былы пас. Дубіна). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Ва ўзведзеных у 1986—91 гг. 86-ці будынках катэджнага тыпу размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Дуброва Нараўлянскага р-на. Радзіма ген.-м. войск сувязі Р.С.Пякурына. Каля вёскі ёсць залежы суглінкаў.

У склад Папаратнянскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Адраджэнне, Марс, Новая Паляна, Рэкорд, да 1966 г. пас. Вішанькі, вёскі Восева Буда, Дубіна, Каліноўск, Лучанск, Ляды, Новыя, Першамайск, Пятрова Паляна, Савін, Чачанёў, да 1967 г. пасёлкі Работка, Ліпаў (не існуюць).

**ПІРЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Пірэвіцкага с/с, за 27 км на ПдУ ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 67 км ад Гомеля, на р. Рудзенка (прыток р. Окра), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 492 гаспадаркі, 1283 жыхары (2004 г.).

У 1924 г. ў вёсцы знойдзены ўхаваныя ў 1624 г. 2 скарбы (манеты Рэчы Паспалітай і Нідэрландаў), якія сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у даўнія часы. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1525 г. пазначана ў матэрыялах аб спрэчных землях паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ як сяло Пырэевічы ў Стрэшынскай вол. У 40-х гадах 17 ст. паводле інвентару Гомельскага старасства сяло, 6 дымоў, 2 службы, 5 валоў, 5 коней, пустаўшчызны Макавоўшчына, Дабрынішчына, Юшкоўшчына і Калініншчына. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Двараяне Солтаны-Перасветавы мелі ў сяле і наваколлі ў 1859 г. 8102 дзес. зямлі, вінакурню, 3 млыны, цагельню. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У пачатку 1880-х гадоў адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 44 вучні). У 1885 г. 93 двары, 570 жыхароў, вінакурня, вадзяны млын, у Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 164 двары, 1130 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, 2 крупарушкі, лаўка, піцейны дом. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, 2 двары, 22 жыхары, лаўка. У чэрв. 1902 г. адкрыта Усесвяцкая царква (мураваная, помнік архітэктуры неарускага стылю). З 1911 г. пры школе працавала б-ка. У пачатку 1920-х гадоў у фальварку быў створаны калгас «Праца». З 20.8.1924 г. цэнтр Пірэвіцкага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны саўгас «Пірэвічы», працавалі спіртзавод (вырабляў спірт-сырэц, які затым апрацоўваўся на рэктыфікацыйным з-дзе ў в. Старая Рудня), нафтавы млын, торфаапрацоўчая, шавецкая і кравецкая арцелі. У пачатку Вял. Айч. вайны створаны атрад нар. апалчэння. Абсталяванне спіртзавода было эвакуіравана ў Пензу. Ням.-фаш. акупанты часткова спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1943—44 гг. загінулі 139 воінаў і 6 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 2.12.1943 г. У снеж. 1943 г. — ліп. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 446 жыхароў з Пірэвіцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае абеліск з імёнамі загінуўшых, пастаўлены ў 1976 г. ў парку. Паводле перапісу 1959 г. 669 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Ліцвінаўка, Мікольскі, Машок, Маладняк, Сазонаўка, Селянін, пасёлак спіртзавода. З мая 1998 г. выходзіла саўгасная шматтыражка «Пірэвіцкія весці». Цэнтр саўгаса «Пірэвічы». Спіртзавод, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя і музычная школы, школа-інтэрнат, Дом культуры, б-ка, б-ца, аптэка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой трох частак: паўд. (амаль прамалінейная вуліца,



*Царква Усіх Святых (1902 г.) у в. Пірэвічы.*

арыентаваная з ПдУ на ПнЗ), усх. (да крывалінейнай далучаюцца з З тры прамалінейныя вуліцы, дзве з якіх злучаны паміж сабой кароткімі вуліцамі) і зах. (дзве вуліцы: адна — блізкая да шыротнай, другая — блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова двухбаковая, у сваёй большасці драўляная, сядзібнага тыпу.

У склад Пірэвіцкага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Парасля, да 1966 г. пасёлкі Акцябр (да 1962 г. Бязбожнік), Гуцішча, Ліцвінаўка, Маладняк, Малінаўка, Машок, Мікольскі, Першамайскі, Сазонаўка, Селянін, Узлессе, пасёлак спіртзавода, да 1986 г. — пас. Нясоеў Барок, да 1996 г. пас. Зялёны рог (не існуюць).

**ПІРЭВІЧЫ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 24 км на Пд ад Жлобіна, 72 км ад Гомеля, 6 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), на аўтадарозе Васілевічы—Жлобін, на ПдУ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Мох». 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 1920-х гадоў перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў. У складзе к-са «Уперад» (цэнтр — в. Мормаль). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПІЦЕРАЎКА** (да 1962 г. Гурская) — вёска ў Кіраўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Гомель—Жлобін), 110 км ад Гомеля, на р. Ржача (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. 2 двары, 12 жыхароў, 20 дзес. зямлі, у Старарудзянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 12 двароў, загубілі 5 жыхароў. 9 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. У складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Кірава). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЛЕСАВІЦКАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Кароткавіцкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Жлобіна, 11 км ад чыг. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 114 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Папаратнае—Жлобін. 106 гаспадарак, 314 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 259 жыхароў. У 1915 г. адкрыта школа, будынак для якой вяскоўцы збудавалі на свае сродкі. У 1925 г. 69 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 90 двароў, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 87 двароў і загубілі 16 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 86 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае пастаўлены ў 1979 г. абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Буда. Цэнтр калгаса імя Ф.Энгельса. Дзевяцігадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзетсад, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца з ПнЗ кароткая, шчыльна забудаваная вуліца. На ПнУ — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Каля вёскі ёсць залежы гліны.

**ПЛЕСАВІЧЫ** — вёска ў Кароткавіцкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Мормаль (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 113 км ад Гомеля, на р. Плесаўка (прыток р. Ала), на З сетка меліярацыйных каналаў. 56 гаспадарак, 104 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (5 насыпаў, 0,8 км на У ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых месц

у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1440 г. вялікі князь літоўскі дараваў сяло Плесавічы Рагачоўскай вол. пану Доўкшу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 28 двароў, 250 жыхароў, царква, у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 390 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х гадоў ёй быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. 103 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 125 двароў, 541 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 122 двары і загубілі 30 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 г. 47 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. У складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Кароткавічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц.

**ПРАСКУРНІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 13 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 96 км ад Гомеля, на р. Дняпро, побач аўтадарога Жлобін—Стрэшын. 225 гаспадарак, 567 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі каля вёскі гарадзішча, паселішча і бескурганны могільнік мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, ва ўладанні каталіцкай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 58 двароў, 401 жыхар, уладанне князя Л.М.Галіцына, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1880 г. 76 двароў, 474 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1892 г. ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі. У выніку пажару 14.5.1893 г. згарэла 112 двароў і царква. Паводле перапісу 1897 г. 134 двары, 947 жыхароў, школа, 2 ветракі, кузня. У 1909 г. 1078 жыхароў, 2209 дзес. зямлі, цагельня, у Стрэшынскай вол. У 1925 г. 234 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас «12 год Кастрычніцкай рэвалюцыі», працаваў вятрак. У 1940 г. 220 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 216 двароў і загубілі 230 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 108 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Цэнтр калгаса «50 гадоў БССР». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзетсад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцый у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц. Непадалёку радовішча сыравіны для вырабу цэглы (7,9 млн. куб. м).

**ПРЫБУДАК** — вёска ў Навамаркавіцкім с/с, за 39 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 122 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 130 гаспадарак, 378 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяло ў Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку населеных пунктаў Горвальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 193 жыхары. У 1916 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 50 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас

«Усход», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 12 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У снеж. 1943 г. — крас. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў. У 1971 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў суседняй в. Белая Ветка (не існуе). Цэнтр калгаса «Звязда». Швейная майстэрня, дзевяцігадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, вет. ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, а ў 1992 г. — яшчэ 25 такіх дамоў, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц, пераважна з в. Міхайлаўка Нараўлянскага р-на.

**ПЯКАЛІЧЫ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 44 км на З ад Жлобіна, 21 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 135 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 41 гаспадарка, 66 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1885 г. 22 двары, 225 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 412 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1925 г. 107 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Змена», працавала кузня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 35 вяскоўцаў. Вызвалена 27.6.1944 г. У выніку пажару 31.5.1945 г. згарэлі 28 жылых дамоў, 31 хлеў і 3 амбары. Паводле перапісу 1959 г. 543 жыхары. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, злучаных завулкам вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы А.П.Петухова.

**РАДУЦІН** — вёска ў Стрэшынскім пасялковым савеце, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 70 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Стрэшын—Жлобін. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

У 1903 г. ў вёсцы знойдзены ўхаваны ў 1798 г. скарб (манеты Расіі), што сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах з даўніх часоў. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 2-й пал. 19 ст. У 1909 г. 30 двароў, 194 жыхары, 537 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1917 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 40 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — г.п. Стрэшын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАДУША** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 30 км на З ад Жлобіна, 6 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 123 км ад Гомеля, на З сетка меліярацыйных каналаў, на ПдЗ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 327 гаспадарак, 806 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 аднайменныя вёскі (у адной — 114 двароў, 879 жыхароў, 2 заезныя дамы, хлебазапасны магазін, у другой — 12 двароў, 89 жыхароў). Побач быў фальварак Радуша (ён жа Янова). У 1910 г. адкрыта школа, для якой у 1911 г. ўзведзены будынак. У 1925 г. 201 двор. З 20.8.1924 г. да снеж. 1993 г. цэнтр

Радушскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Вольная праца» і «Чырвоная Радуша», працавалі нафтавы і ветраны млыны, 3 кузні, ваўначоска. У 1940 г. 340 двароў, 1420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які партызаны ў сак. 1943 г. разграмілі. Ням. карнікі спалілі 32 двары. У 1944 г. ў баях каля вёскі загінулі 28 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 26.6.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 131 вясковец, памяць аб якіх увекавечвае скульптура жанчыны і сцяна з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1967 г. ў скверы, каля Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 1224 жыхары. У 1968 г. да вёскі далучаны пас. Ямнае. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых каналам частак: паўн. (дзве паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы з завулкамі, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ) і паўд. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца на Пн невял. зігзагападобны ўчастак забудовы). Жылыя дамы па абодва бакі вуліцы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1987—92 гг. збудаваны 46 мураваных дамоў катэджнага тыпу для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС месц. Радзіма аднаго з актыўных удзельнікаў барацьбы супраць фаш. акупантаў у Айч. вайну П.П.Дашкоўскага, закатаванага гітлераўцамі (яго імя носіць адна з вуліц вёскі), удзельніка парада Перамогі ў Маскве 24.6.1945 г. М.В.Карыбскага.

У склад Радушскага с/с уваходзіў да 1968 г. пас. Ямнае (не існуе).

**РУБЕЖ** — пасёлак у Малевіцкім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Малевічы (на лініі Бабруйск—Жлобін), 96 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. хутар, 1 двор, 13 жыхароў, 25 дзес. зямлі, у Лукаўскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 7 двароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 30 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.І.Казлова (цэнтр — в. Малевічы). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДЗЕНКА** — вёска ў Пірэвіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Жлобіна, 8 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 72 км ад Гомеля, на р. Рудзенка (прыток р. Окра), на Пд і У мяжуе з лесам, побач з аўтадарогай Бабруйск—Гомель. 40 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1848 г. вёска і фальварак, 44 жыхары, 256 дзес. зямлі, ва ўладанні памешчыка. З 1873 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабе цукру. Гаспадары фальварка мелі тут у 1879 г. 160 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 233 жыхары, вятрак. У 1909 г. 36 двароў, 171 жыхар, 469 дзес. зямлі, млын. У 1925 г. 63 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну за 1 км на Пд ад вёскі, на скрыжаванні дарог Жлобін—Гомель і Скепня—Салтанаўка, 17.8.1941 г. ў баі супраць ням.-фаш. захопнікаў загінуў камандзір 63-га стралк. корпуса 21-й арміі ген.-лейт. Л.Р.Пятроўскі (пахаваны ў брацкай магіле ў в. Старая Рудня). У студз. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся шпіталь сав. войск. 15 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. У складзе саўгаса «Скепнянскі» (цэнтр — в. Скепня). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, арыен-

таваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Побач ёсць залежы жалезных руд.

**РУДНЯ** — вёска ў Навамаркавіцкім с/с, за 42 км на Пд ад Жлобіна, 18 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 82 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскай губ. У 1850 г. в. Таўстыкоўская Рудня, 3 двары. З 1854 г. працавалі сукнавальня і крупарушка, з 1880 г. — хлебазапасны магазін. У 1909 г. 10 двароў, 59 жыхароў, у Стрэшынскай вол. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар. У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Прыбудак). Драўляныя сядзібнага тыпу дамы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. Паблізу ёсць радовішча гравію і жалезняку.

**РЭКТА** — вёска ў Луцкім с/с, за 16 км на Пн ад Жлобіна, 6 км ад чыг. ст. Лукаўская (на лініі Магілёў—Жлобін) 100 км ад Гомеля. На У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 277 гаспадарак, 776 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 20 ст. як сяло ў Лукаўскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. фальварак, 1 двор, 14 жыхароў, 270 дзес. зямлі. У 1924 г. ў выніку ўпарадкавання зямель фальварка былі ўтвораны пасёлкі Зялёны Крыж і Лозкі (не існуюць). Пашыраліся памеры вёскі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лётчык». У 1940 г. 137 двароў, 548 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 29 двароў, загубілі 17 жыхароў. У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 97 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах загінулі 36 вяскоўцаў. З 30.4.1948 г. да снеж. 1993 г. цэнтр Ракцянскага с/с Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны суседнія вёскі Вялікі Лес, Новы Мазалаў. Цэнтр саўгаса «Ракцянскі». Пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой на З праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. пабудаваны мураваныя дамы на 55 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы месц.

У склад Ракцянскага с/с уваходзілі да 1962 г. вёскі Вялікі Лес, Новы Мазалаў (не існуюць).

**САВЕЦКАЯ** (да 30.7.1964 г. Амерыка) — вёска ў Стараруднянскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Жлобіна, 8 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 78 км ад Гомеля, на паўд. ускраіне чыгунка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак У 1925 г. 10 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1930 г. 44 жыхары, 1940 г. 12 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 11 двароў, загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 22 жыхары. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Забудова драўляная, сядзібная.

**САЛАНОЕ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Жлобін—Калінкавічы, цэнтр Салонскага с/с, за 5 км на Пд ад Жлобіна, 92 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Жлобіна. 503 гаспадаркі, 1470 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (2 насыпы, 1 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Аб гэтым сведчыць і знойдзены ў вёсцы ў 1905 г. дынарый г. Кёльна, ухаваны ў 10 ст. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, уладанне каталіцкай царквы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1805 г. замест састарэлай збудавана новая Раства-Багародзіцкая драўляная царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1796 г., рэстаўрыравалася ў 1823 і 1862 гг.). У 1812 г. заснавана медзеплавільня, якая ў 1829 г. дала 1000 пудоў медзі. У 1847 г. 50 двароў. Паводле рэвізіі 1858 г. сяло, 64 двары, 387 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1881 г. 78 двароў, 516 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, хлебазапасны магазін. З 1864 г. дзейнічала нар. вучылішча (у 1889 г. 41 вучань). Паводле перапісу 1897 г. 160 двароў, 1055 жыхароў, крухмальны з-д, 2 вадзяныя млыны, вятрак, сукнавальня, крама, піцейны дом. У 1908 г. 166 двароў, 1203 жыхары, працавала пры школе б-ка, 2494 дзес. зямлі. Са здачай у эксплуатацыю ў 1915 г. чыг. Жлобін—Калінкавічы пачала дзейнічаць чыгуначная станцыя. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. і з 8.12.1966 г. цэнтр Салонскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «На варце». У 1940 г. 1278 жыхароў. У пачатку Вял. Айч. вайны быў створаны знішчальны атрад (27 чал.). З 1942 г. дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік П.С.Дзегцяроў). Ням.-фаш. акупанты спалілі 175 двароў і загубілі 55 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 101 зямляк з вёсак Салонскага с/с, памяць аб якіх увекавечвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1957 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1090 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. птушкааддзялення саўгаса «Жлобін». Цэнтр саўгаса «Жлобінская птушкафабрыка». Сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. У 1993 г. адбылося адкрыццё і асвяшчэнне новага храма Раства Багародзіцы. Планіровачна складаецца з амаль паралельных паміж сабой працяглай крывалінейнай і кароткай прамалінейнай вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы М.Ф.Вішнеўскай, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі А.Д.Канаплянікава, заслужанага дзеяча культуры Беларусі М.Ц.Марушкевіча.

У склад Салонскага с/с уваходзілі да 1954 г. вёскі Гнілая Лужа, Залужжа, Зямлянкі, да 1962 г. пас. птушкааддзялення саўгаса «Жлобін», да 1993 г. — в. Казёл (не існуюць).

**САЛОНСКАЯ КАРМА** — вёска ў Салонскім с/с, за 4 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Жлобіна. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 24 двары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 84 жыхары. У складзе саўгаса «Жлобінская птушкафабрыка» (цэнтр — в. Саланое). Планіровачна складаецца з драўляных будынкаў, рэдка пастаўленых каля прасёлачнай дарогі.

**САЛОЦІН** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 123 км ад Гомеля, на р. Ала (прыток р. Бярэзіна), на У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя

сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 54 гаспадаркі, 79 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 370 жыхароў, стараверская малельня. У 1925 г. 102 двары, у Сцяпоўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ала». У Вял. Айч. вайну 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 473 жыхары. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сцяпы). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, да якой далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛТАНАЎКА** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Гомель), у Пірэвіцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад Жлобіна, 64 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 170 гаспадарак, 290 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пачатку 19 ст. як невял. вёска ў Старарудняскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1816 г. 25 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ва ўладанні памешчыка Парчэўскага. Са здачай у эксплуатацыю ў ліст. 1873 г. чыг. Бабруйск—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя, на якой штогод адгружалася да 2 млн. пудоў лясных грузаў. Дзейнічала ф-ка, дзе ў год выраблялася да 25 тыс. рагож, і прадаваліся яны, гал. чынам, у Чарнігаўскую губ. У 1909 г. 169 жыхароў, 332 дзес. зямлі, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, млын, 4 вінакурні. На чыгуначнай станцыі было 12 двароў, 65 жыхароў. У 1915 г. на чыгуначнай станцыі адбылося хваляванне салдат, якое суправаджалася сутыкненнямі з паліцыяй. У 1930 г. арганізаваны калгас «Першамай», працавалі паравы млын, вятрак, лесапільня (22 рабочых), кузня. У Вял. Айч. вайну на чыгуначнай станцыі дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнікі В.А.Ашмянскі і У.В.Лабачоў). Вызвалена 2.12.1943 г. У баях каля вёскі загінулі 27 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля чыгуначнай станцыі). 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Акцябр (да 7.8.1962 г. Бязбожнік), Маладняк, Першамайскі, да якога ў 1962 г. далучаны пас. Парасля. У складзе саўгаса «Пірэвіцкі» (цэнтр — в. Пірэвічы). Хлебапякарня, базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з падзеленых чыгункай дзвюх частак: усх. (крывалінейная вуліца, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой знаходзіцца чыгуначны перагрузачны пункт) і зах. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да яе размешчаны прыстанцыйныя збудаванні. Адасоблена на Пд кароткая, прамалінейная, блізкая да шыротнай арыентацыі, і кароткая мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы). Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма члена-карэспандэнта НАН Беларусі, доктара гістарычных навук, прафесара У.А.Бабкова.

**СВЯТОЕ** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 20 км на З ад Жлобіна, 9 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 113 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х гадоў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 1941 г. дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік А.І.Карунчык). 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 196 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Радуша). Планіровачна складаецца з прамалінейнай

шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕЛІВОНАЎКА** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 22 км на У ад Жлобіна, 6 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 95 км ад Гомеля, на р. Ржача (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 27 гаспадарак, 39 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 330 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. Побач быў хутар Новая Селівонаўка, 9 двароў, 60 жыхароў. У 1909 г. ў в. Селівонаўка 54 двары, 371 жыхар, 1081 дзес. зямлі, у в. Новая Селівонаўка 12 двароў, 87 жыхароў, 204 дзес. зямлі. Пазней гэтыя вёскі склалі адзін населены пункт — в. Селівонаўка. У 1931 г. арганізаваны 2 калгасы, дзейнічалі 2 ветракі, школа, клуб. У 1940 г. 140 двароў, 500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 9 двароў і загубілі 2 жыхароў. У снеж. 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. 77 вяскоўцаў загінулі на франтах. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. У складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Кірава). Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі і злучаных завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза М.К.Кавалёва. Яго імя носяць сярэдняя школа і адна з вуліц Жлобіна.

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 33 км на З ад Жлобіна, 14 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 124 км ад Гомеля, на У сетка меліярацыйных каналаў, на ПдУ гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 304 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1925 г. 79 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пераможац», працавала кузня. У 1940 г. 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 6 двароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 253 жыхары. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сцяпы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕЛЬНАЕ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Жлобіна, 3 км ад чыг. ст. Старына (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 78 км ад Гомеля, на Пн і У сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Васілевічы—Жлобін. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. 20 двароў, 119 жыхароў, 1572 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 56 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У 1940 г. 120 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік П.С.Дзегцяроў). Ням.-фаш. акупанты спалілі 7 двароў і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 329 жыхароў. У складзе саўгаса «Мормаль» (цэнтр — в. Дабрагошча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СКАРЫНА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 42 км на З ад Жлобіна, 18 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 134 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. в. Скарынава Слабада, 22 двары, 122 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 190 жыхароў. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СКЕПНЯ** — вёска ў Пірэвіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Жлобіна, 10 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 65 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 265 гаспадарак, 576 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Пад 1525 г. пазначана як сяло Скепна ў перапісцы Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ аб памежных спрэчках. У 40-х гадах 17 ст. паводле інвентару Гомельскага староства сяло, у валоданні Віленскай капітулы, у Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1880 г. дзейнічалі хлебазапасны магазін, праваслаўная царква. 3.7.1884 г. большая частка вёскі згарэла, пры яе адбудове зменена планіроўка. У 1885 г. 94 двары, 501 жыхар, у Староруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 170 двароў, 1233 жыхары, школа граматы, 3 ветракі, 2 кузні, маслабойня. Побач быў аднайменны фальварак з вінакурняй. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (46 вучняў). У 1909 г. 2019 дзес. зямлі. У 1923—24 гг. у выніку ўпарадкавання зямель былі ўтвораны пасёлкі Несцеў Барок, Шчытнае, Смолін, Магільны, якія, апрача Шчытнага, зараз не існуюць. У 1925 г. ў сяле Скепня-1 — 111, у сяле Скепня-2 — 85 двароў. З 20.8.1924 г. да 1.12.1966 г. цэнтр Скяпнянскага с/с Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага, з 17.12.1956 г. Жлобінскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Значныя цяжкасці ў арганізацыі навучання дзяцей адчувалі вяскоўцы пасля пажару 1927 г., калі згарэла школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Скепня», працавалі нафтавы млын, кузня. У 1940 г. 1075 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 23 двары. Вызвалена 2.12.1943 г. У баях каля вёскі загінулі 53 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). Сярод пахаваных Герой Савецкага Саюза І.А.Лазенка. 240 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 878 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Малінаўка. Цэнтр саўгаса «Скяпнянскі». Камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзетсад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з трох частак: паўн. (да кароткай шыротнай вуліцы далучаецца з Пн кароткая мерыдыянальная вуліца), сярэдняй (да дзвюх прамалінейных мерыдыянальных, злучаных завулкам вуліц далучаецца на Пд шыротная вуліца) і паўд. (да крыху выгнутай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы далучаецца з Пд кароткая прамалінейная вуліца). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Непадалёку залежы жалезняку.

**СТАРАЯ РУДНЯ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Гомель), цэнтр Староруднянскага с/с, за 22 км на ПдУ ад Жлобіна, 68 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 442 гаспадаркі, 982 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў в. Старая Рудня 20 двароў, 79 жыхароў, у в. Новая Рудня 23 двары, 128 жы-

хароў. Пазней гэтыя вёскі аб'ядналіся і паводле рэвізіі 1858 г. налічвалі 49 двароў, 366 жыхароў, ва ўладанні Антонавых-Жукоўскіх. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Гомеля ў Жлобін. Мясц. майстры славіліся вышыўкай, у тым ліку расшыўкай жаночых галаўных убораў бісерам і дробнымі пацеркамі. Дваране Сенажэцкія мелі тут у 1861 г. 8106 дзес. зямлі, карчму, вадзяны млын, сукнавальню і дзягцярны з-д. З уводам у дзеянне ў ліст. 1873 г. чыг. Бабруйск—Гомель пачала працаваць чыгуначная станцыя. Дзейнічалі Мікалаеўская царква (перабудавана ў 1854 г.), хлебазапасны магазін і нар. вучылішча (у 1889 г. 30 вучняў). У 1885 г. 71 двор, 436 жыхароў, царква, школа. Цэнтр Старарудзянскай вол. (да 9.5.1923 г.), у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 39 паселішчаў з агульнай колькасцю 947 двароў, у 1910 г. — 85 паселішчаў з 1547 дварамі. З 1892 г. працавала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. 138 двароў, 924 жыхары, лячэбны пакой, 4 ветракі, кузня, маслабойня, крама. З 1900 г. працавала 3-гадовая школа, пры якой мелася бібліятэка. У 1909 г. 904 жыхары, вінная крама, 1750 дзес. зямлі. У аднайменным фальварку 70 жыхароў, 4300 дзес. зямлі. У 1912 г. створана спажывецкае таварыства. Дзейнічаў рактыфікацыйны з-д (у 1913 г. 41 рабочы). У 1925 г. 259 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Старарудзянскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Рудня», працавалі 2 кузні і вятрак. 4 вяскоўцы загінулі ў сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У 1940 г. 405 двароў, 1700 жыхароў. У пачатку Вял. Айч. вайны быў створаны атрад нар. апалчэння. З 1942 г. дзейнічала патрыят. падпольная група (кіраўнікі А.П.Капусцін і М.Г.Маршын). Ням.-фаш. акупанты спалілі 49 двароў і загубілі 17 жыхароў. Вызвалена 4.12.1943 г. У лютым 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. У баях каля вёскі ў 1941 і 1944 гг. загінуў 121 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі; у ліку пахаваных ген.-лейт. Л.Р.Пятроўскі, які ў жн. 1941 г. загінуў у баі каля в. Рудзенка, яго імем названы вуліца і сярэдняя школа ў вёсцы, вуліца ў г. Жлобіне). 178 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1062 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучаны пасёлкі Верны, Зарэчча, Талстоўскі. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Сярэдняя школа, Палац культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, вет. ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з трох падзеленых чыгункай і ракой частак: паўн. (да прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы далучаюцца 2 кароткія вуліцы), паўд. (да кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы) і ўсх. (прамалінейная шыротная вуліца і невялікая адасобленая забудова каля чыгуначнай станцыі). У 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з в. Акопы і іншых населеных пунктаў Нараўлянскага р-на, што пацярпелі ад радыяцыйнага забруджання пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Радзіма М.В.Прыгароўскага (быў членам штаба па падрыхтоўцы ў Петраградзе Кастрычніцкага ўзбр. паўстання, камендант Смольнага інстытута, Зімняга, Таўрычаскага і Марыінскага палацаў, удзельнічаў у штурме Зімняга палаца), Героя Сацыялістычнай Працы М.Г.Маршына і бел. пісьменніка, ганаровага грамадзяніна Жлобіна А.П.Капусціна (яго імя носіць штогадовая літаратурная прэмія для літаратараў Гомельскай вобласці, устаноўленая Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Жлобінскім гарвыканкомам), доктара біялагічных навук, прафесара М.М.Данілава.

У склад Старарудзянскага с/с уваходзілі да 1966 г. пасёлкі Верны, Зарэчча, Талстоўскі (не існуюць).

**СТАРЫНА** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Калінкавічы), у Дабрагашчанскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Жлобіна, 78 км ад Гомеля, на р. Выдрыца (прыток р. Бярэзіна), на У сетка меліярацыйных каналаў, на ПнЗ рэсп. гідралагічны заказнік «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Васілевічы—Жлобін. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як пасёлак у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 144 жыхары. У 1909 г. 257 жыхароў, 615 дзес. зямлі. У 1925 г. 37 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Непрацяглы час у чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары. У складзе саўгаса «Мормаль» (цэнтр — в. Дабрагошча). Крухмальны і цагельны з-ды. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТРЭШЫН** — гарадскі пасёлак, цэнтр Стрэшынскага пасялковага савета, за 21 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін (на лініі Бабруйск—Гомель), 105 км ад Гомеля, на р. Дняпро і яго прытоку р. Стрэшынка, на З сетка меліярацыйных каналаў. Аўтадарога звязвае гарадскі пасёлак са Жлобінам. Прыстань на правым беразе р. Дняпро. 1,3 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (на паўд.-ўсх. ускраіне, на мысе правага берага р. Дняпро) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Археалагічныя даследаванні сведчаць і аб існаванні тут у 12 ст. драўлянага замка, абкружанага валамі і ровам. Належаў Полацкаму, а ў сярэдзіне 12 ст. Чарнігаўскаму княству. Вакол замка — неўмацаванае паселішча. У 1391 г. Стрэшынская вол. набыта Віленскай капітулай каталіцкага біскупства. У 1399 г. ўпамінаецца ў дароўнай грамаце



*Свята-Пакроўская царква (1807 г.) у г.п. Стрэшын.*

Вял. князя Літоўскага Вітаўта, якой за віленскімі канонікамі замацоўвалася зямля паміж Стрэшынам і Рагачовам. Пазначаны ў «Спісе рускіх гарадоў дальніх і блізкіх» за 1406 год. У ліку іншых гарадоў пазначаны ў акце ўзвядзення ў 1430 г. Свідрыгайлы на літоўскі прастол як яго ўладанне. Упамінаецца ў грамаце караля польскага Казіміра IV ад 5.5.1480 аб дазволе купцу Цярэшкавічу на бяспошлінны гандаль у гарадах ВКЛ. Пад 1503 г. пазначаны ў дакументах аб спрэчных землях паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Аб Стрэшыне ідзе размова і ў перапісцы вял. князя Маскоўскага Васілія III з каралём Жыгімонтам аб урэгуляванні спрэчных тэрытарыяльных пытанняў (1508 г.). Віленскія канонікі атрымалі ў 1529 г. жалаваную грамату на збор пошлін з тавараў, якія правозіліся праз Стрэшын. У пачатку 16 ст. цярпеў ад нападаў крымскіх татар, а ў 1563 г. падвергнуты вял. разбурэнням у выніку ваен. дзеянняў паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Значыцца ў дакументах аб складзе і межах новых паветаў ВКЛ, створаных па рэформах 1565—1568 гг. Пазначаны як горад пад 1578 і 1579 гг. у актах Магілёўскага магістрата. Пад 1592 г. упамінаецца ў Баркулабаўскім летапісе. У 1593 г. 99 двароў. У пачатку 17 ст. ўладальнікі мястэчка Салтаны заснавалі касцёл (не захаваўся). Казакі І.Залатарэнкі ў ліп. 1654 г. ўзялі Стрэшын штурмам, а замак спалілі. Пазней замак быў адбудаваны і праіснаваў да 1793 г. З 1792 г. дзейнічала царква. У 1755 г. ў склад маёнтка

ўваходзілі 709 двароў. Сярэдняя забяспечанасць сял. гаспадарак у 1755—1795 гг. узрасла з 1,5 да 1,9 запрэжак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Стрэшын і валасць (29 вёсак), што належалі Віленскай капітуле, былі секвестраваны і перададзены Кацярынай II графу Астэрману. У 1807 г. збудавана ў стылі класіцызму мураваная Пакроўская царква, дзе захаваўся абраз, які падарыў графу Астэрману імператар Аляксандр I. У 1826 г. 888 жыхароў. У 1838 г. 221 двор. Цэнтр Стрэшынскай вол. (да 17.7.1924 г.), у якую ў 1980 г. ўваходзілі 26 паселішчаў, якія разам налічвалі 1372 двары. Гаспадар маёнтка меў у Стрэшыне і вёсках Астэрманск і Карпілаўка 24 154 дзес. зямлі, 5 корчмаў, 6 млыноў. Праз Стрэшын праходзіла паштовая дарога з Горваля ў Жлобін. У 1860 г. 1188 жыхароў, 1 мураваны і 136 драўляных дамоў, ва ўладанні кн. Галіцына. У 1880 г. хлебазапасны магазін, нар. вучылішча (адкрыта ў 1864 г.), у якім у 1889 г. навучаліся 41 хлопчык і 11 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 300 двароў, 2106 жыхароў, 2 малітоўныя дамы, паравы млын, 10 крам, 2 гарбарныя майстэрні, карчма, 2 разы на год праводзіліся кірмашы. Мелася паштовае аддзяленне. У 1909 г. 3246 жыхароў, школа з 6-кай. 27.4.1910 г. местачкоўцы ўрачыста сустракалі мошчы прападобнай Ефрасінні, якія на параходзе «Галавачоў» перавозіліся з Кіева ў Полацк. У лютым 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, вызвалены 6.12.1918 г. У 1925 г. 455 двароў. З 17.7.1924 г. да 4.8.1927 г. і з 28.6.1939 г. да 17.12.1956 г. цэнтр Стрэшынскага р-на. Выдавалася раённая газета (з 1939 г.). З 20.8.1924 г. цэнтр Стрэшынскага с/с Стрэшынскага, з 4.8.1927 г. Жлобінскага, з 28.6.1939 г. Стрэшынскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931—32 гг. арганізаваны калгасы «1 Мая», «Усход», працавалі крухмальны з-д, 2 нафтавыя млыны, цагельна-ганчарны з-д (59 рабочых), кравецкая, шавецкая і кошыкавая (50 рабочых) майстэрні, 3 ветракі, кузня. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак.

У Вял. Айч. вайну, у першыя яе дні, быў створаны атрад нар. апалчэння (172 чалавекі, кіраўнік Герасімаў). З 11.8.1941 г. да 29.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 319 жыхароў. Акупанты стварылі ў пасёлку свой апорны пункт, які партызаны разграмілі ў 1943 г. У баях каля пасёлка загінулі 484 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры Стрэшына). У студз. 1944 г. ў пасёлку размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. На франтах і ў партызанскай барацьбе загінулі больш 300 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 1965 г. У 1962 г. да гарадскога пасёлка далучаны пасёлкі Воран-Гаёк, Грымячы Мох, у 1966 г. — пасёлкі Новы Свет, Ліпы, у 1972 г. ў Стрэшын перасяліліся жыхары пас. Ніўкі. Цэнтр калгаса «1 Мая». Цагельны і крухмальны з-ды, камбінат бытавога абслугоўвання, хлебакамбінат, цэх безалкагольных напіткаў, лясніцтва, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, клуб, 2 масавыя бібліятэкі, Дом культуры, бальніца, сацыяльна-псіхалагічны рэабілітацыйны цэнтр (адкрыты ў ліст. 1994 г.), аддз. сувязі. Пасялковы савет выпускаў штомесячны бюлетэнь «Стрэшынскі веснік». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж р. Дняпро, паралельна да якой на Пд праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, у цэнтры — тры кароткія шыротныя вуліцы, на Пд адасобленая забудова — дзве кароткія прамалінейныя мерыдыянальныя вуліцы. Забудова мураваная і драўляная, у большасці сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у гарадскім пасёлку ва ўзведзеных у 1990—92 гг. 115 мураваных будынках размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц

Кармянскага р-на. Радзіма Героя Савецкага Саюза Дз.В.Бярнацкага, бел. паэта В.І.Рагаўцова, спартсмена, бронзавага прызёра алімпійскіх гульняў 1980 г., 6-разовага чэмпіёна СССР М.І.Кірава, заслужанага дзеяча культуры Беларусі В.М.Логвіна. Паблізу ёсць залежы жалезняку, гліны і пяскоў.

У склад Стрэшынскага пасялковага савета ўваходзілі да 1962 г. в. Воран-Гаёк, пас. Грымячы Мох, да 1966 г. пасёлкі Ліпы, Новы Свет, в. Старая Каменка, да 1972 г. пас. Ніўкі (не існуюць).

**СУХІ ВОСТРАЎ** — пасёлак у Пірэвіцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Жлобіна, 13 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 79 км ад Гомеля, на р. Окра (прыток р. Дняпро), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 21 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе саўгаса «Скяпнянскі» (цэнтр — в. Скепня). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЦЯПЫ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 42 км на З ад Жлобіна, 12 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 125 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 140 гаспадарак, 403 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Першае ўпамінанне аб вёсцы адносіцца да 1526 г., шляхецкая ўласнасць. З 1769 г. дзейнічала Свята-Троіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1856 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1924 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. У 1871 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. Цэнтр Сцяпоўскай вол. (да 17.7.1924 г.), у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 18 паселішчаў з 399 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 42 двары, 269 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач быў аднайменны фальварак, гаспадар якога меў 196 дзес. зямлі. У 1925 г. сяло Сцепск (81 двор), хутар Сцяпы (5 двароў), пас. Новыя Сцяпы (8 двароў), вадзяны млын, школа. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. і з 18.1.1965 г. да снеж. 1993 г. цэнтр Сцяпоўскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. Дзейнічалі с.-г. таварыствы, а ў 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавала кузня. У 1940 г. 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі тут свой апорны пункт, які партызаны ў 1943 г. разграмілі. Карнікі часткова спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 122 землякі з вёсак былога Сцяпоўскага с/с, памяць аб якіх ушаноўваюць 2 стэлы і мемарыяльная сцяна, пастаўленыя ў 1974 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 365 жыхароў. Цэнтр калгаса «Прагрэс». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з трох прамалінейных, шчыльна паміж сабой пастаўленых шыротных вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза С.П.Анішчанкі (яго імя носіць вясковая вуліца і школа ў в. Шчадрын, дзе ён вучыўся).

**СЫЦІН** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 36 км на З ад Жлобіна, 19 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 4

вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дварышча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЯЛІБА** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 42 км на З ад Жлобіна, 19 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Гомель), 134 км ад Гомеля, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. засценак Пяколіцкая Сяліба, 20 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана суседняя в. Печкі. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТАЎСТЫКІ** — вёска ў Навамаркавіцкім с/с, за 42 км на Пд ад Жлобіна, 18 км ад чыг. ст. Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), за 82 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (12 насыпаў, за 0,1 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне Таўстыкавічы (3 службы) у Горвальскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1510 г. кароль Жыгімонт дараваў яго намесніку Горвальскаму, двараніну Б.Грыгарэвічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 5 двароў. У 1850 г. 39 двароў, 158 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку населеных пунктаў Горвальскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 297 жыхароў, у Якімаваслабодскай вол. Рэчыцкага павета Мінскай губ. Побач быў пас. Таўстыкаўская Рудня, 4 двары, 58 жыхароў. У 1909 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пачатку 1920-х гадоў — у нацыяналізаваным будынку. У 1933 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У 1940 г. 126 двароў, 554 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які партызаны разграмілі ў лютым 1943 г. Фаш. карнікі спалілі 86 двароў і загубілі 15 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 27 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 82 вяскоўцы загінулі на фронце. Непрацяглы час у маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў. У 1971 г. ў вёску перасялілася частка жыхароў суседняй в. Белая Ветка (не існуе). У складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Прыбудак). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**УСПОЛІШЧЫ** — вёска ў Шчадрынскім с/с, за 38 км на З ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтамабільнай дарозе Бабруйск—Гомель. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як засценак у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле ўсерас. перапісу 1897 г. 24 двары, 132 жыхары. У 1925 г. 38 двароў, у Сцяпоўскім с/с Парыцкага р-на Бабруйскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы быт». У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 163 жыхары. У складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сцяпы). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХАЛЬЧ** – пасёлак і чыг. станцыя (на лініі Жлобін–Гомель) у Стараруднянскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Жлобіна, 80 км ад Гомеля, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск–Жлобін. 93 гаспадаркі, 650 жыхароў (2004 г.).

Засн. пасля ўводу ў дзеянне Лібава-Роменскай чыг. ў ліст. 1873 г., калі тут пачала дзейнічаць чыг. станцыя, на якой штогод грузілася да 700 тыс. пудоў лясных грузаў. У 1897 г. на чыг. станцыі быў 1 будынак. У 1909 г. ў пасёлку 6 двароў, 40 жыхароў, у Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., на чыгуначнай станцыі — 5 двароў, 39 жыхароў. У 1925 г. 17 двароў. У другой палавіне 1920-х гадоў арганізаваны с/с «Хальч», працавалі кузня, трактарны млын. У 1931 г. пачала дзейнічаць Хальчанская МТС (размяшчалася ў пас. Баброўскі, не існуе). У 1940 г. 58 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну нямецкія акупанты спалілі 16 двароў, загубілі 8 жыхароў. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 374 жыхары. У складзе к-са імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Пач. школа, інтэрнат, лясніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з трыма завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова мураваная і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу. Чыг. станцыя — на ПдУ пасёлка.

**ЦУПЕР** – вёска ў Майскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін, 104 км ад Гомеля, на р. Цуперка (прыток р. Дняпро), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтамабільнай дарозе Бабруйск–Гомель. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Гарадзецкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 22 двары, 175 жыхароў, ва ўладанні памешчыка Турчанінава, які купіў вёску ў 1857 г. ў памешчыка Маліноўскага. З 1880 г. дзейнічалі млын, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 339 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, млын, 2 кузні. У 1909 г. 65 двароў, 467 жыхароў. Крыху пазней падзялілася на дзве вёскі: Стары Цупер і Новы Цупер, але ў пачатку 1920-х гадоў яны зноў склалі адзін населены пункт. У 1925 г. 80 двароў. У 1934 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 73 двары і загубілі 70 жыхароў. Вызвалена 24.2.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 80 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, пастаўленая ў 1967 г. на паўд. ускраіне. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У складзе к-са «Ленінец» (цэнтр — в. Антонаўка). Санаторый «Пралеска». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма контр-адмірала М.П.Скрыганава.

**ЧАРЦЁЖ** – вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Казімірава (на лініі Бабруйск–Жлобін), 107 км ад Гомеля, побач аўтадарога Бабруйск–Гомель. 59 гаспадарак, 71 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як аколіца ў Луцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1881 г. 38 двароў, 224 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. мелася карчма. У 1909 г. 83 двары, 308 жыхароў, 1360 дзес. зямлі, школа (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 110 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 34 двары, загубілі 2 жыхароў, 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 404 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвонабярэжскі» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, паралельна да цэнтра якой на Пд праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма кавалера ордэна Славы трох ступеней В.П.Лісneўскага і ген.-м. інжынера І.І.Міхалькевіча.

**ЧАЦВЯРНЯ** — вёска ў Стараруднянскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Жлобіна, за 5 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Жлобін—Гомель), 68 км ад Гомеля, побач аўтадарога Бабруйск—Гомель, на З меліярацыйныя каналы. 91 гаспадарка, 159 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 41 двор, 305 жыхароў, уладанне памешчыка Сенажэцкага. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 692 жыхары, школа, 2 ветракі, піцейны дом. У 1909 г. 106 двароў, 867 жыхароў, 1352 дзес. зямлі, млын. У 1925 г. 160 двароў. З 20.8.1924 г. да 11.2.1960 г. цэнтр Чацвярнянскага с/с Жлобінскага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны 2 калгасы, працавалі 2 кузні. У 1940 г. 230 двароў, 966 жыхароў. У пачатку Вял. Айч. вайны ням.-фаш. акупанты спалілі 57 двароў і загубілі 5 жыхароў. У чэрв. 1944 г. ў баях каля вёскі загінуў 331 воін (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі). Вызвалена 4.12.1943 г. 122 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 850 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Старая Рудня). Аддз. сувязі, дзевяцігадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З пад прамым вуглом далучаецца адна, а з У — дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧОРНАЯ ВІРНЯ** — вёска ў Майскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Жлобіна, 12 км ад чыг. ст. Хальч (на лініі Гомель—Жлобін), 106 км ад Гомеля, на р. Ржаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 52 гаспадаркі, 96 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (14 насыпаў, за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Мышалоўка) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стараруднянскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле ўсерас. перапісу 1897 г. 118 двароў, 763 жыхары, 2 крамы, вятрак, кузня, крупарушка, піцейны дом. У 1903 г. ўзведзены будынак школы і пачаліся ў ёй заняткі. У 1909 г. 830 жыхароў, 1293 дзес. зямлі. У 1925 г. 205 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавала кузня. У 1940 г. 962 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліст. 1943 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 112 двароў і загубілі 105 жыхароў. Вызвалена 4.12.1943 г. 108 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 445 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Майская). Планіровачна складаецца з дзвюх працяглых крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да адной з якіх далучаюцца чатыры кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАБЯРЭЖСКАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Жлобіна, 2 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 108 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 41 гаспадарка, 81 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як слабада ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ. У 1925 г. 70 двароў. Дзейнічала школа. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 6 двароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе саўгаса «Чырвонабярэжскі» (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з дзвюх паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** — пасёлак у Луцкім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жлобін, 105 км ад Гомеля, на р. Дняпро, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Рагачоў—Жлобін. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (6 ст. да н.э. — 2 ст. н.э., 2 км на ПдУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак заснаваны ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1909 г. хутар, 4 двары, 31 жыхар, 74 дзес. зямлі, у Луцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1925 г. 11 двароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавала цагельня. У Вял. Айч. вайну 6 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 50 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага вытв. аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Лукі). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Чырвонабярэжскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Жлобіна, 4 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 114 км ад Гомеля, на аўтадарозе Бабруйск—Гомель, на Пн і З меліярацыйныя каналы. 13 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 39 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 13 двароў, загубілі 5 жыхароў. У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 128 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі Чырвонабярэжскага агр. каледжа (цэнтр — в. Чырвоны Бераг). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. На Пн паралельна да яе ідзе кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** — вёска і чыг. ст. (на лініі Бабруйск—Жлобін), цэнтр Чырвонабярэжскага с/с, 21 км на ПнЗ ад Жлобіна, 104 км ад Гомеля, на р. Добасна (прыток р. Дняпро), на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 797 гаспадарак, 2359 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У пачатку 19 ст. ў валоданні М.Хатоўскага, затым В.А.Козел-Паклеўскага. У 1844 г. гаспадар маёнтка палк. Багародскі меў 759 дзес. зямлі. У 1845 г. ў вёсцы 18, у гасп. двары — 23 жыхары, у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Дзейнічаў вадзяны млын. У 1870 г. 200 жыхароў. Са здачай у эксплуатацыю чыгункі Бабруйск—Гомель у ліст. 1873 г. за 1 вярсту ад вёскі пачала працаваць чыгуначная станцыя. Апрача земляробства, вяскоўцы займаліся рознымі промысламі, найбольш шырокае распаўсюджанне сярод якіх атрымаў выраб бытавых рэчаў з дрэва (іх узоры экспанаваліся нават у Магілёўскім губернскім музеі). Паводле перапісу 1897 г. 362 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1890—



*Сядзібны дом у в. Чырвоны Бераг (канец 19 ст.).*

93 гг. на паўн. ускраіне, на беразе ракі, сфарміраваўся комплекс сядзібы Козел-Паклеўскага, які ўключае дом (пабудаваны па праекце архітэктара К.Шрэтэра, у ім зараз размешчаны Чырвонабярэжскі агр. каледж), гасп. пабудовы і парк (каля 10 га, 153 пароды дрэў і 44 пароды кустоўя, занесены ў лік помнікаў прыроды рэсп. значэння). У 1901 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў будынку былой карчмы, а ў 1912 г. на чыгуначнай станцыі адкрыта царк.-прыходская школа. З 1914 г. дзейнічала паштова-тэлеграфнае аддзяленне. У 1920 г. адкрыта с.-г. вучылішча, а ў 1922 г. на яго базе створаны с.-г. тэхнікум (з 2002 агр. каледж). У 1925 г. 88 двароў у вёсцы і 13 — на чыг. станцыі. Дзейнічалі саўгас «Чырвоны Бераг», крухмальны з-д (41 рабочы), арцель па здабычы торфу, нафтавы і ветраны млыны, кузня, мяцёлачная арцель і павідлаварка. З 14.8.1937 г. цэнтр Чырвонабярэжскага с/с Жлобінскага р-на, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну дзейнічалі 2 падп.-патрыятычныя групы, якія затым далучыліся да партыз. атрада. У будынку сельгастэхнікума ням.-фаш. акупанты стварылі свой гарнізон, які партызаны ў 1943 г. разграмілі. Са створанага гітлераўцамі ў Чырвоным Беразе дзіцячага перасыльнага лагера было вывезена ў Германію 1990 бел. дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў, у якіх збіраліся забіраць кроў для параненых фаш. салдат. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 110 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла з імёнамі загінуўшых, пастаўленая ў 1967 г. на тэрыторыі с.-г. тэхнікума. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 580, на чыгуначнай станцыі 145, у пасёлку вучэбнай гаспадаркі 529 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлак вучгаса «Чырвоны Бераг», у 1974 г. — в. Прыстань, да якой у 1966 г. быў далучаны пасёлак крухмальна-патачнага з-да, пасёлак чыг. ст. «Чырвоны Бераг». Цэнтр саўгаса «Чырвонабярэжскі». Крухмальна-патачны з-д, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, б-ца, 2 аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых дарогай частак: паўн. (працяглая крывалінейная і паралельная да яе прамалінейная вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд. (забудова ў шыротным накірунку абапал чыгункі). Жылыя і гаспадарчыя будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Побач са старой забудовай у 1987 г. будаўнікі г. Маладзечна ўзвялі вуліцу з мураваных дамоў (25 будынкаў катэджнага тыпу) і ў 1993 г. жлобінскія будаўнікі ўзвялі другую такую ж вуліцу, дзе размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Адна з новых вуліц называецца Паганянская ад вёскі Пагонная Хойніцкага р-на, частка жыхароў якой тут пасялілася.

*Фрагмент сядзібнага дома ў в. Чырвоны Бераг.*



*Флігель сядзібы ў в. Чырвоны Бераг (канец 19 ст.).*



У склад Чырвонабярэжскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлак вучгаса «Чырвоны Бераг», пасёлак чыг. станцыі «Чырвоны Бераг», хутар Прырэчча, хутары Рассвет, Цёсы, да 1974 г. в. Прыстань, да 1966 г. хутар Кадзішча (не існуюць).

**ШАПАРНЯ** — вёска ў Кіраўскім с/с, за 16 км на У ад Жлобіна, 7 км ад чыг. ст. Старая Рудня (на лініі Жлобін—Гомель), 88 км ад Гомеля, на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «За Радзіму». У Вял. Айч. вайну з 1942 г. актыўна дзейнічала патрыят. група, якая затым склала аснову партыз. атрада (камандзір У.В.Паўлаў). У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 33 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 61 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 313 жыхароў. У складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Кірава). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц, злучаных чатырма завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЧАДРЫН** — вёска, цэнтр Шчадрынскага с/с, за 38 км на З ад Жлобіна, 18 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 131 км ад Гомеля, на Пн і У Шчадрынскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 288 гаспадарак, 760 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Бабруйскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. дзейнічалі 3 малітоўныя дамы, школа, 3 крамы. У выніку пажару 17.7.1896 г. згарэла 129 двароў, а 17.8.1909 г. — 37 двароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 429 двароў, 4022 жыхары, 8 яўрэйскіх малітоўных дамоў, 50 крам, аптэка, цагельня, заезны дом. Побач была аднайменная сядзіба, 27 двароў, 255 жыхароў, крама, яўрэйскі малітоўны дом, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, у Сцяпоўскай вол. Бабруйскага павета. Дзейнічала школа. З 20.8.1924 г. цэнтр Шчадрынскага с/с Парыцкага р-на Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. Пераважную частку жыхароў складала яўрэйскае насельніцтва (у 1926 г. 91,1%). У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня, шавецкая, кравецкая і кошыкавая майстэрні, сукнавальня, паравы млын, ваўначоска, лесапільня, конная крупарушка, 4 ветракі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Сацыялістычны шлях». У 1933 г. створана МТС (у 1941 г. 44 трактары). З 15.7.1935 г. мястэчка, а 27.9.1938 г. зноў аднесена да вясковых сяленняў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыятычная група (кіраўнік Л.М.Жураўлёва). Ням.-фаш. акупанты спалілі 100 двароў, а 8.3.1942 г. загубілі 1200 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму, 400 м на ПдУ ад вёскі). Вызвалена 27.6.1944 г. У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 40 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля будынка выканкома сельсавета). 98 вяскоўцаў загінулі на фронце. У чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 791 жыхар. Цэнтр калгаса імя К.Я.Варашылава. Малочны і цагельны з-ды, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, вет. ўчастак, сталовая, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з дзвюх паралельных паміж сабой шчыльна забудаваных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1990—92 гг. намаганнямі будаўнікоў Жлобіна, Маладзечна і Барысава пабудаваны 2 вуліцы па 75 мураваных дамоў катэджнага тыпу кожная, дзе размясціліся перасяленцы з саўгаса «Сож» Чачэрскага р-на, 8 сямей з в. Старое Закружжа Веткаўскага і 15 сямей з Добрушскага р-наў. Радзіма Героя Савецкага

Саюза З.Д.Віхніна (яго імя носіць адна з вуліц вёскі) і заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Е.М.Ганкіна.

У склад Шчадрынскага с/с уваходзіла да 1966 г. в. Печкі (не існуе).

**ШЧЫТНАЕ** – вёска ў Пірэвіцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Жлобіна, 15 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 64 км ад Гомеля, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча позняга мезаліту (6—4-е стагоддзі да н.э., за 3 км на З ад вёскі), паселішча эпохі неаліту (4—3-е тысячагоддзі да н.э., за 3 км на З ад вёскі), паселішча каменнага веку (за 2,7 км на З ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1923 г., калі ў выніку ўпарадкавання зямель в. Скепня быў створаны пасёлак Шчытнае. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У складзе саўгаса «Скяпнянскі» (цэнтр — в. Скепня). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца другая кароткая прамалінейная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ШЫХАЎ** — вёска ў Верхнеалбянскім с/с, за 30 км на Пд ад Жлобіна, 20 км ад чыг. ст. Салтанаўка (на лініі Жлобін—Гомель), 70 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне р. Жарэла (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 151 гаспадарка, 291 жыхар (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішчы 8—5-га тысячагоддзяў да н.э. (за 0,5 км на Пн ад вёскі) і майстэрня каменнага веку (за 0,4 км на Пд ад могілак) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Па рэвізіі 1858 г. 40 двароў, 340 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. У 1880 г. 67 двароў, 386 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1895 г. адкрыта школа граматы, ператвораная ў 1909 г. ў царк.-прыходскую, а ў 1917 г. ў земскую (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 725 жыхароў, 2 ветракі, крупарушка, піцейны дом. У 1909 г. 117 двароў, 956 жыхароў, 2893 дзес. зямлі. У 1924 г. з вёскі быў выдзелены пас. Дружны. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр Шыхаўскага с/с Стрэшынскага р-на Бабруйскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». У Вял. Айч. вайну 161 вясковец загінуў на фронце. Вызвалена ад ням.-фаш. акупацыі 29.11.1943 г. У снеж. 1943 г. — ліст. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. Паводле перапісу 1959 г. 591 жыхар. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлкі Дружны, Зароўскі, у 1966 г. — пас. Садовы. У складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Верхняя Алба). Цагельны з-д, аддз. сувязі, б-ка, Дом культуры. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма ўдзельніка парада Перамогі ў Маскве 24.6.1945 г. А.С.Андрухова. Каля вёскі залежы суглінку і гліны.

**ЭРД** — пасёлак у Шчадрынскім с/с, за 46 км на З ад Жлобіна, 16 км ад чыг. ст. Чырвоны Бераг (на лініі Бабруйск—Жлобін), 129 км ад Гомеля, на З Шчадрынскі канал, на У гідралагічны заказнік мясц. значэння «Дубаўка». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Бабруйск—Гомель. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (116 насыпаў, за 250 м на З ад пасёлка), курганны могільнік з мясцовай назвай «напалеонаўскія капцы» (27 насыпаў, за 1,5—2 км на ПнУ ад пасёлка), курганны могільнік (55 насыпаў, за 1,5 км на ПдУ ад пасёлка) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажыт-

насці. Пачатак сучаснаму пасёлку паклала сядзіба, засн. тут у сярэдзіне 19 ст. Захаваліся ад яе ліпавыя алеі і рэшткі закінутага сада. У пачатку 1920-х гадоў тут абжываліся перасяленцы з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паволе перапісу 1959 г. 52 жыхары. У складзе калгаса імя К.Я.Варашылава (цэнтр — в. Шчадрын). Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯШЧЫЦКІ** — пасёлак і чыг. станцыя Яшчыцы (на лініі Жлобін—Калінкавічы) у Дабрагашчанскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Жлобіна, 77 км ад Гомеля, на У рэсп. ландшафтны заказнік «Выдрыца». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Дабрагошча—Жлобін. 15 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Пачатак заснавання пасёлка звязаны са здачай у эксплуатацыю ў 1915 г. чыг. Жлобін—Калінкавічы і адкрыццём тут чыг. станцыі. Пастулова каля станцыі складваўся пасёлак, назва якога была зацверджана Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1964 г. У складзе саўгаса «Мормаль» (цэнтр — в. Дабрагошча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (уздоўж чыгункі) і забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯШЧЫЦЫ** — вёска ў Дабрагашчанскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Жлобіна, 3 км ад аднайменнай чыг. ст. (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 75 км ад Гомеля, побач аўтадарога Дабрагошча—Жлобін, на У і Пн меліярацыйныя каналы. 49 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. 15 двароў, 126 жыхароў, уладанне князя Л.М.Галіцына. З 1880 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 358 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 401 жыхар, 1208 дзес. зямлі, у Стрэшынскай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. З 1907 г. дзейнічала нар. вучылішча (45 вучняў), для якога ў 1911 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1925 г. 101 двор. У 1929 г. арганізаваны калгас «Астравок», працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. 85 двароў, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 33 жыхары. З 1942 г. дзейнічала патрыятычная падп. група (кіраўнік Т.Ф.Бацькаў). 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 348 жыхароў. У складзе саўгаса «Мормаль» (цэнтр — в. Дабрагошча). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай амаль мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай кароткай крывалінейнай вуліцай. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў падп. і партызанскага руху на тэр. Жлобінскага і Стрэшынскага р-наў Гомельскай вобласці ў Вял. Айч. вайну, камандзіра партыз. атрада «Смерць фашызму» І.А.Крышнёва (яго імя носіць адна з вуліц Жлобіна).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА:**

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1177, воп. 1, сп. 87.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 7, воп. 3, сп. 1773; ф. 30, воп. 4, сп. 167; воп. 5, сп. 3755, 6755; ф. 34, воп. 1, сп. 431, 433, 439; ф. 42, воп. 1, сп. 658; воп. 2, сп. 2192—2194, 2197, 2205, 2207, 2208, 2210—2213, 2216—2218, 2223, 2224, 2226, 2286, 2288, 2314, 2393, 2394, 2397—2403, 2405, 2407, 2409, 2410; ф. 48, воп. 1, сп. 118, 658, 2430, 5065; ф. 389, кн. 4; ф. 448, воп. 1, сп. 32; ф. 515, воп. 1, сп. 454.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 42, воп. 1, сп. 658; ф. 333, воп. 9, сп. 58, 518в, 700; ф. 1245, воп. 1, сп. 1; ф. 1251, воп. 1, сп. 65; ф. 1297, воп. 1, сп. 10446, 18715; ф. 1461; воп. 2, сп. 2: ф. 2001, воп. 1, сп. 17, 81, 199, 880; ф. 2151, воп. 1, сп. 159, 161, 163, 169; ф. 2254, воп. 1, сп. 66; воп. 4, сп. 14; ф. 3363, воп. 1, сп. 217, 532; ф. 2369, воп. 1, сп. 1.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 2, сп. 1290, 1294, 1332, 1366.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 13, 35. Вильна, 1886, 1910.

Акты Могилевского магистрата за 1578 и 1579 гг.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1. СПб., 1846.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. СПб., 1863.
Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Могилевская губ. СПб., 1840.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Могилевская губ. СПб., 1848.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Волости и гмины. Ч. XXIII. Могилевская губ. СПб., 1890.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 2. Мн., 1984.
Вся Россия. СПб., 1902.
Гомель. Энциклопедический справочник. Мн., 1991.
Гомельская праўда. 1997. 3 кастрычніка.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3. Мн., 1953.
Жлобін. Гарады Беларусі. Мн., 1992.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобл. Мн., 1985.
Зуевич И. Райком в подполье. Мн., 1972.
Литовская метрика: Т. 30, кн. 1. Юрьев, 1914; Т. 33, ч. 3. Петроград, 1915; Кн. 5. Вильнюс, 1993; Кн. 8. Вильнюс, 1995; Кн. 10. Вильнюс, 1997.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории восточной Белоруссии. Мн., 1975.
Могилевская старина. Могилев, 1900.
Могилевский исторический музей. Могилев, 1891.
Нацистская политика геноцида... Мн., 1984.
Обзор Минской губ. за 1896 г. Мн., 1897.
Обзор Минской губ. за 1909 г. Мн., 1910.
Обзор Могилевской губ. за 1882 г. Могилев, 1883.
Обзор Могилевской губ. за 1908 г. Могилев, 1909.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Кн. 8. Мн., 1879.
Опыт описания Могилевской губ. Кн. 1—3. Могилев, 1884.
Отчет о состоянии Могилевской губ. за 1889 г. Могилев, 1890.
Павлов Я.С. В суровом сорок первом. Мн., 1985.
Памятная книжка Минской епархии на 1901 г. Мн., 1901.
Памятная книжка Могилевской губ. на 1861 г. Могилев, 1861.
Памятная книжка Могилевской губ. на 1895 г. Могилев, 1895.
Памятная книжка Могилевской губ. на 1911 г. Могилев, 1911.
Памятная книжка Могилевской губ. на 1914 г. Могилев, 1913.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889/90 уч. год. Могилев, 1889.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1907—1908 уч. год. Могилев, 1908.
Памяць. Жлобінскі раён. Мн., 2000.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е г. 20 века). Вып. 1. Гомель, 1999.
Полное собрание законов Российской империи. 1818. Т. 25. № 27255.
Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Сборник законов Белорусской ССР. Т. 1, 3. Мн., 1974.
Сборник императорского Русского исторического общества. СПб., 1892.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Белоруссии (15—16 вв.). Мн., 1993.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Список землевладельцев Минской губ. за 1876 г. Мн., 1877.
Список населенных мест Могилевской губ. Могилев, 1910.
Статистический обзор Могилевской губ. по 1914 г. Могилев, 1916.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1994.



МІНСКАЯ ВОБЛ.
САЛІГОРСКІ РАЁН
ЛЮБАНСКІ РАЁН
КАЛІНКАВІЦКІ РАЁН
ПЕТРЫКАЎСКІ РАЁН
ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН
СТОЛІНСКІ РАЁН
ЛУНІНЕЦКІ РАЁН
БРЭСЦКАЯ
ЖЫТКАВІЧЫ
Тураў
Салігорск
Грабава
Беразнякі
Мілевічы
Нов. Мілевічы
Карчаватка
Цімашэвічы
Залючыцы
Ёвічы
Нов. Залючыцы
Грычынавічы
Палосцевічы
Вял. Сцяблевічы
Мал. Сцяблевічы
Леніна
Нов. Леніна
Ельна
Буды
Сукачы
Юркевічы
Белае
п. Азёрны
Гулевічы
Баравая
Пясчанікі
Падвосце
Лагвошчы
Брэст
Лунінец
Калінаўка
Дзедаўка
Загорбашша
Беразіна
Браніслаў
Людзяневічы
Сялко
Вязаў Лес
Загацце
Града
Чарацянка
Вільча
Доўгая Дуброва
Князь-Бор
Ацкованае
Поўчын
Буда
Пасталы
Лутоўе
Хвойка
Дзякавічы
Вятчын
Вятчынская Рудня
Ляхавічы
Пухавічы
п. Чырвонае
Замошша
Семянча
Пласток
Дуброва
Відошын
Марохарава
Хісцецкі Бор
Навуць
Бялёў
Забродзе
Палянка
Брынёва
Калінкавічы
п. Старушкі
Келі
Яміцы
Кажановічы
Вастранка
Падаўж
Рудня
п. Грабянёўскі
Грэбень
Чырв. Зорка
Найда
Млынок
Буйкавічы
Кольна
Пасека
Боркі
Верасніца
Вароніна
Малешаў
Запясочча
Буразь
Крэмнае
Чэрнічы
Пагост
Перарова
Хлупін
Любавічы
Знаменка
Хваенск
Сямурадцы
Азяраны
п. Хваенск
Перароўскі Млынок
Хлупінская Буда
Рыдча
Хільчыцы
Старажоўцы
Бечы
Бячанская Буда
Хачэнь
Рычоў
Бярэжцы
52°30'
52°20'
52°10'
52°00'
51°50'
28°15'
28°00'
27°45'
Маштаб 1 : 430 000



Паводка на Прыпяці ў Жыткавіцкім раёне.

# ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. ў Мазырскай акрузе, на захадзе вобласці. 5.4.1935 г. ў Жыткавіцкі р-н уключаны Дзякавіцкі с/с Старобінскага р-на Мінскай вобл., 20.1.1960 г. — Ленінскі с/с Ленінскага р-на Брэсцкай вобл., 11.4.1960 г. — Мілевіцкі с/с Старобінскага р-на, 17.4.1962 г. — г.п. Тураў з падпарадкаванымі пасялковаму Савету населенымі пунктамі, Верасніцкі, Азяранскі, Пераpоўскі і Рычаўскі сельсаветы ліквідаванага Тураўскага р-на. Плошча 2917 км$^2$, насельніцтва 46,8 тыс. чалавек (2004). Размешчаны Нац. парк «Прыпяцкі» (з 1996 г. Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік), заказнікі Букчанскі журавінны, Жыткавіцкі батанічны, біялагічны заказнік «Нізоўе Случы». У сувязі з радыяцыйнай забруджанасцю пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 15 населеных пунктаў аднесены да зоны з правам адсялення. Адселена 211 сямей (604 чал.). Сярэдняя шчыльнасць 20 чал. на 1 км$^2$. Гар. насельніцтва складае 20%. Мяжуе на Пд з Лельчыцкім, на У з Петрыкаўскім р-нам Гомельскай вобл., на Пн з Любанскім і Салігорскім р-намі Мінскай вобл., на З з Лунінецкім і Столінскім р-намі Брэсцкай вобл. Уключае г. Жыткавічы (адм. цэнтр раёна), г.п. Тураў і 13 сельскіх Саветаў. Карысныя выкапні: радовішчы гаручых сланцаў (1181 млн. т), бурага вугалю (25 млн. т), будаўнічага каменю (159,5 млн. м$^3$), 6 радовішчаў торфу (126,7 млн. т), 3 радовішчы кааліну (17,7 млн. т), 4 невял. радовішчы цагельнай сыравіны (0,38 млн. м$^3$). Рэкі — Прыпяць з прытокамі Сцвіга, Свінавод, Случ, Скрыпіца, Навуць. На Пн воз. Чырвонае, на ПдЗ воз. Белае. Глебы с.-г. угоддзяў дзярновыя і дзярнова-карбанатныя, дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалачальныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя, алювіяльна-дзярновыя. З мінеральных глебаў 24,5% суглінкавых, 7% супясчаных, 68,5% пясчаных. Якасць ворных зямель 41 бал, усіх с.-г. угоддзяў — 32 балы. Пад лесам 57,2% тэрыторыі. Прамысл. прадпрыемствы ў асноўным у Жыткавічах і Тураве. 13 калгасаў і 8 саўгасаў. Пад с.-г. угоддзямі 25,6% тэрыторыі. Асушана 23,9 тыс. га балотаў і забалочаных зямель. Па раёну праходзяць чыгунка Гомель—Брэст, аўтадарогі Калінкавічы—Лунінец, Слуцк—Мікашэвічы. Суднаходства па Прыпяці, сплаў лесу па Сцвізе і Случы. 39 агульнаадукацыйных школ, сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, 41 клубная ўстанова, 62 б-кі, 170 спарт. збудаванняў, 7 бальніц, 32 фельч.-акушэрскія ўчасткі, 3 урачэбныя амбулаторыі, 225 магазінаў.



**ЖЫТКАВІЧЫ** — горад раённага падпарадкавання і чыг. станцыя (на лініі Лунінец—Калінкавічы), адм. цэнтр Жыткавіцкага р-на, за 238 км на З ад Гомеля, 229 км ад Мінска. Аўтадарогі звязваюць Жыткавічы з Брэстам і Калінкавічамі. На З і Пд Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. 16,9 тыс. чал. (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц Жыткавічы вядомы з 15 ст. як вёска ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. У 1457 г. сяло, даравана памешчыку В.Бараку. У 1495 г. ўпамінаецца маёнтак Жыткавічы ва ўладанні Ажарынскіх. З 1581 г. дзейнічала пабудаваная з дрэва Свята-Троіцкая царква. У 1633 г. кн. Алелькавіч перадаў Жыткавічы баярыну Галоўку. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Праз вёску праходзіў тракт Мазыр—Давыд-Гарадок, дзейнічала паштовая станцыя (8 коней). У 1816 г. 79 двароў. У 1842 г. на месцы састарэлага ўзведзены новы будынак царквы. У 1866 г. 80 двароў, 644 жыхары. Пасля здачы ў эксплуатацыю чыгункі Лунінец—Гомель (люты 1886 г.) пачала дзейнічаць чыг. станцыя. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1903 г. для яго ўзведзена ўласнае памяшканне. З 1795 г. да 17.7.1924 г. Жыткавічы — цэнтр воласці, у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 13 селенняў з 498 дварамі. Працавалі пашто-ва-тэлеграфная кантора, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 1228, на чыг. станцыі — 56 жыхароў, малітоўны дом, хлебазапасны магазін, капліца, часоўня, 5 крам, 6 ветракоў, карчма, аптэка. Побач з чыг. станцыяй ва ўрочышчы Вялікая Голь (пазней далучана да станцыі) налічвалася 18 двароў, 163 жыхары, шкіпінарны і лесапільны з-ды, слясарня, пастаялы двор, крама. У 1907 г. сяляне аказалі ўзброенае супраціўленне паліцыі, якая дапамагала памешчыцы Крывашэінай пакараць сялян за высечку лесу. У 1908 г. 329 двароў. У 1917 г. Ж. — сяло (1848 жыхароў) і пасёлак (327 жыхароў). На лесапільным з-дзе Бермана ў ліп.—жн. 1917 г. адбылася 12-дзённая забастоўка, якая закончылася перамогай рабочых у задавальненні іх эканам. патрабаванняў. Летам 1918 г. ў час ням. акупацыі быў створаны партыз. атрад (камандзір Лук'яновіч). З 1924 г. да 1937 г. Жыткавічы — мястэчка, з 20.8.1924 г. цэнтр Жыткавіцкага с/с (да 16.7.1954 г.) і Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У выніку пажару 25.4.1925 г. згарэлі 103 пабудовы 17 двароў. На чыг. станцыі дзейнічала мытня. У 1925 г. адкрыты нар. дом, у 1928 г. дала ток электрастанцыя. Дзейнічалі 2 т-вы саматужнікаў (у

*Жыткавічы. Плошча Леніна. 1970-я гг.*



1926 г. 81 чал.). У 1930 г. арганізаваны калгасы «Бальшавік» і «Пралетарый». У 1931 г. створана МТС і пачала выходзіць раённая газ. «Прымежны камунар». Для 7-гадовай школы ў 1932 г. ўзведзены новы будынак. У 1933 г. ў Жыткавічах 2,9 тыс. жыхароў, лесапільня і ганчарня (з 1906 г.), маслазавод (з 1931 г.), друкарня, паравы млын (з 1911 г.), электрастанцыя, шавецкая і кравецкая майстэрні, смолзавод (з 1927 г.), 2 кузні, вобадная майстэрня, хлебапякарня, сукнавальня, крупарушка, алейня. Працаваў радыёвузел. З 27.9.1938 г. Жыткавічы — гар. пасёлак. У 1939 г. 4,3 тыс. жыхароў. У 1941 г. ў час наступлення ням. войск Жыткавічы абараняў разам з часцямі Чырвонай Арміі Тураўскі знішчальны батальён. Са жн. 1941 г. да 6.7.1944 г. Жыткавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У сак.—ліст. 1942 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі Е.Я.Гораў, Л.С.Галавач, М.Ф.Блюзнюк). У баях за гар. пасёлак загінулі 139 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). 290 гараджан загінулі на фронце. У 1970 г. 7,9 тыс. жыхароў. З 19.11.1971 г. горад раённага падпарадкавання. У 1976 г. ў склад горада ўключана суседняя в. Дварэц. Дзейнічаюць лесанарыхтоўчае аб'яднанне «Жыткавічлес», маторабудаўнічы з-д, райаграпрамтэхніка, маслазавод (філіял Петрыкаўскага з-да сухога абястлушчанага малака), лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання, хлебазавод, элеватар, метэастанцыя, 3 сярэднія, 9-гадовая, музычная і спартыўная школы, прафтэхвучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 7 дашкольных устаноў, Дом школьнікаў, раённы і гарадскі Дамы культуры, цэнтр фальклору, кінатэатр, 3 аддз. сувязі, 2 б-кі, райэпідэмстанцыя, бальніца, аптэка, раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, гісторыка-краязнаўчы музей. Працуе мясц. радыёвяшчанне, выдаецца раённая газ. «Новае Палессе» (з лют. 1931 г.). У 1990 г. да горада далучаны пас. Сасновы. Вял. шкоду гораду нанесла паводка 1993 г., калі быў пашкоджаны 251 будынак. Забудова вядзецца паводле ген. плана 1976 г., распрацаванага Бел. дзярж. навукова-даследчым і праектным ін-там горадабудаўніцтва. Чыгунка і аўтадарога падзяляюць горад на 3 часткі: паўднёвую (шчыльная сетка вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваных шыротнымі вуліцамі), паўночную (3 працяглыя шыротныя вуліцы, злучаныя завулкамі, да якіх на У далучаюцца 3 паралельныя вуліцы) і ўсходнюю (3 крыху выгнутыя вуліцы, злучаныя завулкамі). Будынкі мураваныя і драўляныя. Новая забудова вядзецца ўздоўж бульвара па вул. Энгельса. Шматпавярховымі мураванымі дамамі забудаваны мікраараёны «Азёрны» і «Паўночны». У пач. 1990-х г. узведзены 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх пасяліліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма кампазітара У.І.Будніка, ген.-л. В.Ф.Багдановіча, мастачкі Н.А.Чарнагаловай, засл. настаўніка Беларусі Л.А.Ліхаты. Непадалёку размешчаны радовішчы будаўнічага каменю (159,5 млн. м$^3$) і гаручых сланцаў (1181 млн. т).

**АЗЁРНЫ** — пасёлак у Юркевіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 248 км ад Гомеля; на У, Пн і З вадаёмы рыбгаса. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 90 гаспадарак, 265 жыхароў (2004 г.).

Пачатак пасёлку паклалі некалькі сял. сядзіб, якія размясціліся тут у 1920-х гг. У 1940 г. 28 двароў, 94 жыхары. У лют. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 25 жыхароў. Цэнтр вопытнай рыбнай гаспадаркі «Белае». Дзейнічаюць Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі гасп. будынкамі і жылымі дамамі. Назва пасёлка зацверджана 21.1.1969 г. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР.



Прыдарожны крыж у в. Азяраны.

**АЗЯРАНЫ** — вёска, цэнтр Азяранскага с/с, за 29 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 262 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць) і аўтадарозе Тураў—Лельчыцы; на Пд нац. парк «Прыпяцкі». 252 гаспадаркі, 577 жыхароў (2004 г.).

Выўяленыя археолагамі селішча ранняга жалезнага веку і эпохі феадалізму (за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе ракі) і селішча ранняга жалезнага веку (за 1 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Галечыцкае Поле) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Дзейнічала Міхайлаўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1805 г.). У 1811 г. сяло, 38 двароў, у 1816 г. 183 жыхары. У 1834 г. ў складзе Тураўскага казённага маёнтка, 43 двары, 214 жыхароў. У 1859 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы (не захаваўся). З 1857 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1896 г. працавалі вятрак і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 372 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, лясніцтва. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага павета, 62 двары, 433 жыхары. У 1917 г. 568 жыхароў, колькасць двароў да 1925 г. павялічылася да 90. З 20.8.1924 г. цэнтр Азяранскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (1924—1930, 1935—1938 гг.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі лясніцтва, кузня і цагельня. За поспехі ў развіцці грамадскай гаспадаркі калгас у 1939 і 1940 гг. быў удзельнікам усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У 1940 г. 130 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. войскі ў канцы ліп. 1941 г. захапілі вёску, але 4.8.1941 г. партызаны разам з падраздзяленнем сав. войск зрабілі налёт на гітлераўцаў і прымусілі іх адступіць. Ням. акупанты ў жн. 1941 г. спалілі 129 двароў і загубілі 30 жыхароў. Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар Корж). У баях за вызваленне вёскі загінулі 185 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 53 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 645 жыхароў. Цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Дзейнічаюць цагельны з-д, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа (новы



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Азяраны.

мураваны будынак узведзены ў 1990 г.), Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 3 магазіны, чайная, дзіцячы яслі-сад. Планіровачна складаецца з падзеленых канавай і аўтадарогай 2 частак: заходняй (кампактная забудова 3 кароткіх вуліц, якія складаюць трохвугольнік) і ўсходняй (2 кароткія амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, злучаныя 2 папярочнымі кароткімі вуліцамі). Забудова мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзена вуліца з 50 мураванымі дамамі катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма засл. настаўніка Беларусі К.С.Слесарчука.

**АЦКАВАНАЕ** — вёска ў падпарадкаванні Жыткавіцкага гар. Савета, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 242 км ад Гомеля, на р. Скрыпіца (прыток р. Прыпяць); на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Чэрнічы. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну вызвалена 5.7.1944 г. У складзе вучгаса СПТВ-45 (цэнтр — в. Чарацянка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка пастаўленымі драўлянымі сял. хатамі.

**БАРАВАЯ** — вёска ў Юркевіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 247 км ад Гомеля, на У вадасховішчы рыбгаса. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 67 гаспадарак, 184 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 33 жыхары. У 1917 г. 41 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Дзень ураджаю», працавала кузня. У 1940 г. 34 двары, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе рыбгаса «Белае» (цэнтр — пас. Азёрны). Дзейнічае пач. школа. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕЛАЕ** — вёска ў Юркевіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 251 км ад Гомеля; вакол лес, на Пд і У батанічны заказнік рэсп. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар Белае Возера, 63 жыхары. У 1917 г. 94 жыхары, у 1925 г. 19 двароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 49, у пасёлку рыбнай гаспадаркі 175 жыхароў. У складзе рыбгаса «Белае» (цэнтр — пас. Азёрны). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. Радзіма Героя Сац. Працы Ф.П.Алексяевіча.

**БЕРАЗІНА** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 7 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 240 км ад Гомеля; на З мяжуе з лесам, на тэр. Жыткавіцкага батанічнага заказніка рэсп. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 78 гаспадарак, 169 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. гэта хутар у

Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 80 жыхароў. У 1921 г. 14 двароў, 130 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 345 жыхароў. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова 2-баковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі Л.М.Быстрэнкі. Непадалёку радовішча кааліну (7,7 млн. т).

**БЕРАЗНЯКІ** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 81 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 23 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 313 км ад Гомеля; вакол лес. Побач аўтадарога Мікашэвічы—Слуцк. 168 гаспадарак, 368 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Інвентар 1805 г. сведчыць аб Беразняках як невял. сяленні. У 1811 г. 41 двор, уладанне графа Чапскага. Паводле перапісу 1897 г. 337 жыхароў. У 1908 г. ў Грабаўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 59 двароў, 370 жыхароў. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 124 двары, 496 жыхароў. Ням. акупанты ў 2-й пал. лютага 1943 г. загубілі 212 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на ўсх. ускраіне вёскі) і цалкам спалілі вёску. Вызвалена 5.7.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 649 жыхароў. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, на Пн ад якой праходзіць прамалінейная, шыротная вуліца, на Пд — зігзагападобная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЕЧЫ** — вёска ў Азяранскім с/с, за 36 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 269 км ад Гомеля; на Пд нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 74 гаспадаркі, 141 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жалезнага веку (за 1 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 18 двароў, уладанне казны. У 1816 г. 62 жыхары. У 1834 г. ў Тураўскім казённым маёнтку, 24 двары, 156 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 236 жыхароў, у 1917 г. 351 жыхар, у 1925 г. 85 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дзень ураджаю», працавала кузня. У 1940 г. 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 76 двароў і загубілі 27 жыхароў. У час наступлення сав. войск вясковец А.А.Ярмоленка правёў па малапрыкметных сцяжынках праз цяжкапрахадзімую мясцовасць батальён сав. салдат у тыл праціўніка і дапамог разграміць варожы гарнізон у вёсцы. За адвагу і смеласць у баі, знаходлівасць і дапамогу Чырв. Арміі А.А.Ярмоленка быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Вызвалена 21.3.1944 г. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 474 жыхары. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Азяраны). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, шчыльна пастаўленых вуліц, блізкіх да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма мастацтвазнаўцы М.М.Паграноўскага.

**БОРКІ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 15 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст.

Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 248 км ад Гомеля; на зах. ускраіне азёры Бяседка і Сыржыца, на У воз. Вузкіна. Побач аўтадарога Жыткавічы—Чэрнічы. 108 гаспадарак, 235 жыхароў (1999 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча на ПнЗ ад вёскі сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. вёска ў складзе Тураўскага казённага маёнтка, 23 сям'і, 126 жыхароў. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 56 двароў, 398 жыхароў. У 1914 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 81 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. арг-цыя (кіраўнік Ермаловіч). Вызвалена 5.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 35 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1970 г. Паводле перапісу 1959 г. 611 жыхароў. У складзе саўгаса «Аляксееўскі» (цэнтр — в. Кольна). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўночнай (да кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца з У 2 шыротныя вуліцы) і паўднёвай (шчыльна пастаўленыя кароткія вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваныя шыротнымі вуліцамі). Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРАНІСЛАЎ** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Лунінец—Гомель), цэнтр Браніслаўскага с/с, за 22 км на З ад Жыткавіч, 200 км ад Гомеля; на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 106 гаспадарак, 242 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Людзяневіцкага царк. прыхода. Пасля ўводу ў эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Калінкавічы пачала дзейнічаць чыгуначная станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 163 жыхары. У 1908 г. ў Жыткавіцкай вол., 24 двары. У аднайменным хутары, што быў побач, 5 двароў, 33 жыхары. У 1917 г. 186 жыхароў, у 1921 г. 32 двары, у 1925 г. 37 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Браніслаўскага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прамень камуны», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням. акупантаў 5.7.1944 г. 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 524 жыхары. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з працяглай выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БРЫНЁВА** — чыгуначная станцыя на лініі Лунінец—Гомель у Марахораўскім с/с, за 10 км на У ад Жыткавіч, 228 км ад Гомеля. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў 19 ст. як маёнтак памешчыка Г.А.Кеневіча, дзе быў наладжаны выраб цукру і ў 1861 г. выпушчана прадукцыі на 1100 рублёў. З 1884 г. працавала вінакурня. Са здачай у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Калінкавічы пачаў дзейнічаць раз'езд, а потым чыгуначная станцыя. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў 5.7.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 54 жыхары. Будынкі драўляныя, уздоўж чыгункі.

**БУДА** — вёска ў Дзякавіцкім с/с, за 63 км на ПнУ ад Жыткавіч, 38 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Ка-

лінкавічы), 296 км ад Гомеля; на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 34 гаспадаркі, 49 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. як маёнтак Буда Дзякавіцкая. У 1917 г. ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1921 г. 191 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Буда», працавала кузня. У 1940 г. 87 двароў, 348 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. арг-цыя. Ням. акупанты ў сак. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 48 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 295 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дзякавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з У і З далучаюцца завулкі. На У ад асноўнай праходзіць прамалінейная, кароткая, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БУДЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 265 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць); вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 19 гаспадарак, 49 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 5 двароў. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 5 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. На З невял. адасоблены ўчастак забудовы. Дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БУЙКАВІЧЫ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 16 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 229 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйны канал і лес, на Пн вадасховішча рыбгаса. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1856 г. 10 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 33 жыхары. У 1917 г. 138 жыхароў. У кастр. 1922 г. ў б. маёнтку памешчыцы Левандоўскай створана камуна «Ленінскі шлях». У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Ленінская Беларусь». У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе саўгаса «Аляксееўка» (цэнтр — в. Кольна). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУРАЗЬ** — вёска ў Верасніцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 266 км ад Гомеля; на Пд сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 90 гаспадарак, 183 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі стаянка каменнага веку, паселішчы розных перыядаў жалезнага веку, могільнік 1 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. сяло ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 10 двароў, 67 жыхароў. У 1834 г. ўладанне графіні Мастоўскай, 81 жыхар. Была цэнтрам аднайменнага фальварка, гаспадар якога дваранін Кавалеўскі меў у 1857 г. 4628 дзес. зямлі. У 2-й пал. 1890-х гг. Зах. экспедыцыя Жылінскага правяла ў маёнтку шэраг

меліярацыйных работ. Паводле перапісу 1897 г. знаходзілася ў Тураўскай вол., 23 двары, 199 жыхароў, кузня. У фальварку 7 двароў, 64 жыхары. У 1917 г. 262 жыхары. У 1922 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Тураўшчына». У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў 5.7.1944 г. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Запясочча). Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЯЛЁЎ** — вёска ў Марахораўскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Жыткавіч, 5 км ад чыг. ст. Брынёў (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 220 км ад Гомеля; на З сетка меліярацыйных каналаў, у т.л. Найда-Бялёўскі канал, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 422 гаспадаркі, 1054 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Бялова ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне графа Хадкевіча, 36 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 62 двары, 353 жыхары. Памешчык Прыкота меў у вёсцы ў 1863 г. 55 дзес. зямлі. У 1885 г. 75 двароў, 449 жыхароў, пачаліся заняткі ў царк.-прыходскай школе. Праз вёску праходзіла ваенна-камунікацыйная дарога са Слуцкага пав. ў Петрыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 140 двароў, 768 жыхароў, царква Раства Багародзіцы, хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў фальварак. У 1903 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 212 двароў, 947 жыхароў. У 1921 г. 1045 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «III Інтэрнацыянал», працавалі смалярня (з 1927 г.), паравы млын (з 1926 г.), кузня, стальмашня, ваўначоска. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Бялёўскага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1940 г. 282 двары. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі ў вёсцы апорны пункт акупантаў. У лют. 1943 г. ням. карнікі спалілі 6 двароў і загубілі 31 жыхара. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 109 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1234 жыхары. Цэнтр калгаса «III Інтэрнацыянал». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пд злучаны кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцай, а на Пн да іх далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987—1992 гг. узведзена 150 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**БЯРЭЖЦЫ** — вёска ў Рычоўскім с/с, за 42 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 247 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць). На Пд і У тэрыторыя нац. парка «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 112 гаспадарак, 270 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Рычоўскага царк. прыхода. У выніку пажару 29.6.1885 г. згарэла 28 двароў. З 1896 г.

працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 302 жыхары, часоўня. У 1917 г. вёска і фальварак, 331 жыхар, у 1925 г. 51 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працавала кузня. У 1940 г. 94 двары, 460 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1944 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. 102 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў. У складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Хільчыцы). Дзейнічаюць пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, побач з якой на У размешчаны паралельныя да яе 3 кароткія вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. У 1979 г. пастаўлены помнік М.М.Марозу — юнаку, які, ратуючы інш. школьнікаў, загінуў ад выбуху снарада часоў Вял. Айч. вайны, што быў знойдзены ў час уборкі бульбы.

**БЯЧАНСКАЯ БУДА** — вёска ў Азяранскім с/с, за 37 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 270 км ад Гомеля; на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 76 жыхароў. У 1908 г. 89, у 1917 г. 110 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 31 двор, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў і загубілі 9 жыхароў. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Азяраны). Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых шыротных вуліц, злучаных паміж сабой на У і З. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАРОНІНА** — вёска ў Верасніцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 266 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 53 гаспадаркі, 109 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі бескурганны могільнік ранняга жалезнага веку (у цэнтры вёскі) і 2 селішчы ранняга жалезнага веку (за 0,3—0,8 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1671 г. фальварак Воронічы, уладанне Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 262 жыхары. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Запясочча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пд далучаецца да цэнтра шыротнай прамалінейнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАСТРАНКА** — вёска ў Руднянскім с/с, за 5 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 228 км ад Гомеля, на р. Навуць (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 58 гаспадарак, 103 жыхары (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 18 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — пас. Грабянёўскі). Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: усходняй (бессістэмная забудова ўздоўж ракі) і заходняй (плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЕРАСНІЦА** — вёска, цэнтр Верасніцкага с/с, за 38 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 250 км ад Гомеля; на З воз. Рэчышча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 540 гаспадарак, 1263 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча мілаградскай і зарубінецкай культур і ранняга феадалізму (за 0,2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчах Сушня і Градка) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Адзін з Тураўскіх крыжоў (зроблены з каменю, адносіцца да часоў прыняцця хрысціянства) знаходзіўся ў вёсцы, над ім была збудавана капліца. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Троцкім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1559 г. ўпамінаецца ў матэрыялах рэвізіі пушчаў. У 1782 г. на сродкі ўладальніцы сяла графіні Мастоўскай збудавана драўляная Крыжаўзвіжанская царква. Невял. царква была і на могілках. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 54 двары, 390 жыхароў, уладанне Патоцкіх. На карце 1866 г. паказана як невял. населены пункт. У 1883 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 569 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, кузня. У 1899 г. збудавана памяшканне для школы. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 102 двары, 666 жыхароў. У 1917 г. 771 жыхар, у 1925 г. 117 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Верасніцкага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пуцілавец». У 1940 г. 220 двароў, 1320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты спалілі 75 двароў, загубілі 21 жыхара. У наваколлі загінулі ў баях 9.7.1941 г. 9 пагранічнікаў і 24.1.1942 г. — партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 117 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўваюць скульптура воіна і 2 дошкі з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1805 жыхароў. Цэнтр калгаса «1 Мая». Дзейнічаюць станцыя перапампоўвання нафты нафтаправода «Дружба», сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з падзеленых дарогай 2 частак: усходняй (3 кароткія прамалінейныя, шчыльна пастаўленыя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваныя 2 кароткімі шыротнымі вуліцамі) і заходняй (3 кароткія прамалінейныя, шчыльна пастаўленыя вуліцы, перакрыжаваныя 2 шыротнымі вуліцамі). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы А.М.Тычыны.

**ВІДОШЫН** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 15 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 232 км ад Гомеля; на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 66 гаспадарак, 151 жыхар (2004 г.).

Заснавана ў канцы 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 60 жыхароў, у 1921 г. 12 двароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1930-х гг. у вёску пераселены жыхары з бліжэйшых хутароў, і ў выніку склалася новая вуліца. У Вял. Айч. вайну 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 241 жыхар. У складзе саўгаса «Чырвоны Бор» (цэнтр — в. Семянча). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы і завулак. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВІЛЬЧА** — вёска ў Бранiслаўскім с/с, за 26 км на З ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 259 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць), на тэр. біялагічнага заказніка рэсп. значэння «Нізоўе Случы». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 60 гаспадарак, 107 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як в. Вельча ў Слуцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў маёнтку Леніна, у валоданні князя Л.П.Вітгенштэйна, 33 двары. Паводле перапісу 1897 г. вёска (163 жыхары), хутар (12 жыхароў) і фальварак (8 жыхароў) у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1917 г. 324 жыхары. У 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1923 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. У 1925 г. 50 двароў. Размяшчалася пагранічная застава, на якой служыў пісьменнік І.Я.Шапавалаў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны памежнік», працавала кузня. У 1932 г. збудаваны новы будынак для пачатковай школы. У Вял. Айч. вайну 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 445 жыхароў. У складзе калгаса «XX партз'езд» (цэнтр — в. Града). Дзейнічаюць клуб, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ВЯЗАЎ ЛЕС** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 242 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 28 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.У.Куйбышава. У сярэдзіне 1930-х гг. у вёску пераселены жыхары з бліжэйшых хутароў. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКІЯ СЦЯБЛЕВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 20 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 281 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 77 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як в. Сцяблевічы ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. 11 двароў, 46 жыхароў мужчынскага полу. Паводле інвентара 1820 г. 12 двароў, у складзе фальварка Леніна, якім валодаў палкоўнік Бабанскі. Крыху пазней частка яе жыхароў заснавала новае пасяленне, першапачатковае сяленне стала звацца Вялікія Сцяблевічы, а новае — Малыя Сцяблевічы. У 1834 г. 13 двароў, карчма, у валоданні кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царкоўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 156 жыхароў. У 1908 г. 24 двары, 194 жыхары, у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле Рыжскага дагавора ад 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 49 двароў, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 471 жыхар. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з У далучаецца кароткая выгнутая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯТЧЫН** — вёска ў Дзякавіцкім с/с, за 37 км на ПнУ ад Жыткавіч, 24 км ад

чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 275 км ад Гомеля, на аўтадарозе Марахорава—Любань; вакол лес. 239 гаспадарак, 477 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 46 двароў. У 1850 г. 50 двароў, 448 жыхароў. Было ўладаннем Радзівілаў, потым кн. Вітгенштэйна, які ў 1876 г. валодаў 14 888 дзесяцінамі зямлі. У 1885 г. 75 двароў, 641 жыхар. У 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 913 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма. 1.10.1905 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у 1922 г. яна атрымала нацыяналізаваны будынак. У 1917 г. ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 1503 жыхары. У 1921 г. 266 двароў, 1901 жыхар. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Вятчынскага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», працавалі смалярня і кузня. У 1940 г. 450 двароў, 1500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны ў студз. 1942 г. разграмілі створаны ў вёсцы гарнізон акупантаў. У лют. 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску. У пачатку сак. 1943 г. карнікі сагналі ў кароўнік 800 жыхароў і спалілі іх (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі). 145 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1398 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дзякавічы). Дзейнічаюць лясніцтва, смалярня, участак лесправгаса, швейная і шавецкая майстэрні, 9-гадовая школа, б-ка, бальніца, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, паралельна да якой праходзяць 3 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя 2 прамалінейнымі, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцамі. На Пд — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка. Радзіма Героя Сац. Працы К.С.Папко.

**ВЯТЧЫНСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Марахораўскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Жыткавіч, 20 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 278 км ад Гомеля; вакол лес. Побач аўтадарога Марахорава—Любань. 36 гаспадарак, 71 жыхар (2004 г.).

Заснавана ў 2-й пал. 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 31 жыхар, вадзяны млын. У 1917 г. ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 76 жыхароў. У 1925 г. 21 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У 2-й палавіне 1930-х гг. у вёску сселены жыхары бліжэйшых хутароў. У 1940 г. 49 двароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 257 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дзякавічы). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРАБАВА** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 78 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 20 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 311 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць); на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 113 гаспадарак, 218 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1839 г. ў складзе маёнтка Леніна, уладанне князя Л.П.Вітгенштэйна. У 1850 г. 14 двароў. Паблізу працаваў лесапільны з-д. Паводле перапісу 1897 г. 194 жыхары, млын і карчма. У 1908 г. 32 двары, 263 жыха-

ры. У 1914 г. салдаты запасной часці разграмілі вінны магазін. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. У 1940 г. 120 двароў, 502 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 35 жыхароў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 652 жыхары. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якую перакрыжоўвае паўвыгнутая вуліца, з З да цэнтра галоўнай далучаецца прамалінейная кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма акадэміка Нац. АН Беларусі, доктара хімічных навук, праф. Ф.А.Лахвіча.

**ГРАБЯНЁЎСКІ** — пасёлак, цэнтр Руднянскага с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 221 км ад Гомеля; на З — Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. Паблізу аўтадарога Жыткавічы—Петрыкаў. 75 гаспадарак, 183 жыхары (2004 г.).

З 1920-х гг. тут на распрацоўцы тарфяных залежаў працавалі арцелі. Пасля Вял. Айч. вайны торфараспрацоўкі значна пашырыліся, было створана торфапрадпрыемства, складаўся пасёлак. 21.1.1969 г. ўказам Прэзідыума Вярх. Савета БССР пасёлку дана назва Грабянёўскі. З 17.12.1980 цэнтр сельсавета. Цэнтр саўгаса «Жыткавічы». Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы з драўлянымі будынкамі.

**ГРАДА** — вёска ў Бранíслаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Жыткавіч, 9 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 263 км ад Гомеля; на З — біялагічны заказнік рэсп. значэння «Нізоўе Случы». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 119 гаспадарак, 317 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. У 1908 г. выселак Грады ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. ў Жыткавіцкай вол., 301 жыхар. У 1921 г. 68 двароў, 335 жыхароў. У 1925 г. 85 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Града». У 1930-х гг. у вёску пераселены жыхары бліжэйшых хутароў. У 1940 г. 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. Вызвалена 5.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 30 землякоў, памяць аб якіх увекавечваюць абеліск і 3 пліты з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 418 жыхароў. Цэнтр калгаса «XX партз'езд». Размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаецца прамалінейная шыротная вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ГРЭБЕНЬ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 10 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 223 км ад Гомеля, па аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў; на Пн сетка меліярацыйных каналаў, на З — Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. 90 гаспадарак, 168 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Жыткавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 188 жыхароў. У 1908 г. 43 двары, 269 жыхароў. У 1917 г. 300 жыхароў. Дзейнічала школа. У 1921 г. 57 двароў, 314 жыхароў. У 1925 г. 71 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 47 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 456 жыхароў. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — пас. Грабянёўскі). Дзей-

нічаюць 9-гадовая школа, клуб, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца 3 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРЫЧЫНАВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 21 км ад чыг. ст. Мікашэвчы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 176 км ад Гомеля; на У канал Беразняцкі, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 157 гаспадарак, 389 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1839 г. вёска ў маёнтку Леніна, уладанне князя Л.П.Вітгенштэйна. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Ленінскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 450 жыхароў. У 1908 г. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 88 двароў, 611 жыхароў. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 201 двор, 876 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты спалілі 200 двароў і загубілі 76 жыхароў. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 708 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца кароткая вуліца, на Пд паралельна асноўнай праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГУЛЕВІЧЫ** — вёска ў Юркевіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 245 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 81 гаспадарка, 185 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентара 1813 г. фальварак. У 1850 г. ў маёнтку Леніна, уладанне князя Л.П.Вітгенштэйна, 21 двор. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 237 жыхароў. У 1908 г. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 39 двароў, 287 жыхароў. У 1925 г. 50 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова. У 1940 г. 65 двароў, 395 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 476 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Ф.І.Лісовіча (быў камісарам, потым камандзірам партыз. брыгады імя С.М.Кірава).

**ДЗЕДАЎКА** — вёска і чыг. станцыя (на лініі Лунінец—Калінкавічы) у Людзяневіцкім с/с, за 15 км на З ад Жыткавіч, 248 км ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы, на З і Пн мяжуе з лесам, на У — Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 116 гаспадарак, 274 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле інвентара 1845 г. 391 дзесяціна зямельных угоддзяў. У 1862 г. 10 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Людзяневіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 198 жыхароў. 16.11.1904 г. адкрыты чыг. раз'езд, тэлеграфны пост. У 1908 г. 51 двор, 268 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 518, на чыг. раз'ездзе 57 жыхароў. У 1921 г. 75 двароў. У гэтым годзе адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная

Дзедаўка», працавалі паравы млын, кузня. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 464 жыхары. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Дзейнічаюць пач. школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з падзеленых чыгункай 2 частак: паўднёвай (прамалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі) і паўночнай (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, злучаныя дарогай). Забудова драўляная, 2-баковая, сядзібнага тыпу. За 1 км на З ад асн. забудовы чыг. станцыя. Радзіма ген.-м. артылерыі Ф.І.Пяцюшкіна. Непадалёку радовішча кааліну (8,5 млн. т).

**ДЗЯКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзякавіцкага с/с, за 57 км на ПнУ ад Жыткавіч, 32 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 295 км ад Гомеля; на Пн сетка меліярацыйных каналаў, злучаных канавай Дуброва з воз. Чырвонае, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марахорава—Любань. 266 гаспадарак, 655 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі дрыгавічоў (17 насыпаў за 1 км на ПдЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Слуцкім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. У інвентары 1572 г. пазначана як фальварак. У 1712 г. цэнтр прыватнаўласніцкага маёнтка. З 1784 г. цэнтр Дзякавіцкай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1796 г. ў суседнім аднайменным фальварку размяшчаўся хлебазапасны магазін Радзівілаў. У 1811 г. 46 двароў. У 1850 г. ўладанне кн. Пятрова, 50 двароў. У 1885 г. 59 двароў, 632 жыхары, належала кн. Вітгенштэйну, які ў 1876 г. меў 54 532 дзесяціны зямлі. У склад Дзякавіцкай вол. (існавала да 17.7.1924 г.) уваходзілі ў 1885 г. 9 сяленняў з 336 дварамі. У 1892 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1896 г. ў маёнтку і вёсцы працавалі 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. 131 двор, 960 жыхароў, карчма, фальварак. Вяскоўцы лавілі ў возеры шмат рыбы і гандлявалі ёй у Мінску, Жытоміры, Слуцку і інш. гарадах. Вёска хутка павялічвалася ў памерах. Дзейнічала паштовае аддзяленне. У 1908 г. 165 двароў, 1124 жыхары. Побач працаваў лесапільны з-д, рабочыя якога ў сак. 1913 г. правялі забастоўку, патрабуючы павышэння заработнай платы. У 1917 г. 1386 жыхароў, у 1921 г. 254 двары, 1493 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Дзякавіцкага с/с Старобінскага, з 8.10.1924 г. Жыткавіцкага, з 21.8.1925 г. Старобінскага, з 5.4.1935 г. Жыткавіцкага р-на Слуцкай, з 8.10.1924 г. Мазырскай, з 21.8.1925 Слуцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Бабруйскай, з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Мазырскай акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1925 г. адкрыта хатачытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард». У Вял. Айч. вайну ням. акупанты 17.2.1942 г. спалілі вёску, а 6.3.1943 г. ў час карнай экспедыцыі спалілі яшчэ 225 двароў, расстралялі і спалілі жывымі 651 жыхара (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на ўсх. ускраіне вёскі). 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 942 жыхары. Цэнтр калгаса «Кастрычнік». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДОЎГАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Жыткавіч, 9 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 245 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе

Лунінец—Калінкавічы. 50 гаспадарак, 83 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1915 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. хутар Доўгая Дуброва (ён жа Нова-Любімаўск) у Жыткавіцкай вол., 446 жыхароў. У 1921 г. 79 двароў, 442 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Палескі гігант», дзейнічала кузня. У 1940 г. 83 двары. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 5.7.1944 г. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з 4 адрэзкаў працяглай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРОВА** — вёска ў Марохараўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 155 км ад Гомеля, на аўтадарозе Марохарава—Любань; на У і З меліярацыйныя каналы. 198 гаспадарак, 555 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1850 г. ўладанне памешчыка Карпава, 21 двор. У 1896 г. працаваў вятрак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», дзейнічалі кузня і маслазавод. У 1932 г. для вясковай школы ўзведзены будынак. У сярэдзіне 1930-х гг. у вёску сселены жыхары бліжэйшых хутароў. У 1940 г. 75 двароў, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Дзейнічаюць сярэдняя школа (новы мураваны будынак узведзены ў 1993 г.), б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай 2-бакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. У 1987 г. ўзведзена новая вуліца з 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**ЕЛЬНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 13 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 272 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 21 гаспадарка, 51 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ва ўладанні графа Чапскага, 11 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 87 жыхароў. У 1908 г. 12 двароў. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 42 двары, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў лют. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 112 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі). 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Драўляныя сял. сядзібы размешчаны каля прасёлачнай дарогі.

**ЁВІЧЫ** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 63 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 9 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 296 км ад Гомеля; на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 31 гаспадарка, 51 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 46 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі

15.2.1943 г. поўнасцю спалілі вёску, расстралялі 15 і спалілі жывымі 75 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на могілках). 6 вяскоўцаў загінулі ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічае аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія, шчыльна забудаваныя вуліцы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска, падпарадкаваная Жыткавіцкаму райсавету, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 228 км ад Гомеля; вакол лес. Паблізу аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 32 гаспадаркі, 77 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1845 г. 1293 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 89 жыхароў, смалярня. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — п. Грабянёўскі). Планіровачна складаецца з кароткай, плаўна выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з З і У далучаюцца завулкі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная.

**ЗАГАЦЦЕ** — вёска ў Бранiслаўскім с/с, за 24 км на З ад Жыткавіч, 8 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 257 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 20 гаспадарак, 56 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 7 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар. У складзе калгаса «XX партз'езд» (цэнтр — в. Града). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, шырокай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАГОРБАШША** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 14 км на З ад Жыткавіч, 2 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 247 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы, на З біялагічны заказнік рэсп. значэння «Нізоўе Случы». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 51 гаспадарка, 97 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1845 г. 25 двароў, 679 дзес. зямельных угоддзяў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Людзяневіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 433 жыхары, у 1908 г. 107 двароў, 537 жыхароў, у 1917 г. 662 жыхары, у 1921 г. 121 двор, 681 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца са шчыльнай забудовы 2 мерыдыянальных вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЮЦІЧЫ** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 64 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 297 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць); на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 71 гаспадарка, 126 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1834 г. ў складзе маёнтка Леніна, у валоданні кн. Л.П.Вітгенштэйна, 25 двароў. Паводле

перапісу 1897 г. 402 жыхары. У 1908 г. 53 двары. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінецкім пав. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 88 двароў, 507 жыхароў, пачатковая школа. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты загубілі ў лесе, за 4 км ад вёскі, 254 жыхароў вёсак Залюцічы і Ёвічы (пахаваны там жа, у магіле ахвяр фашызму) і цалкам спалілі вёску. 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 385 жыхароў. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентавай з ПдЗ на ПнУ, якая на Пн перакрыжавана кароткай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАМОШША** — вёска ў Марохараўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Жыткавіч, 11 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 267 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы, вакол лес. Побач аўтадарога Марохарава—Любань. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як хутар у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1917 г. 121 жыхар. У 1921 г. 26 двароў, 263 жыхары. У 1925 г. 40 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавала кузня. У 1940 г. 58 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 14 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дуброва). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка пастаўленымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАПЯСОЧЧА** — вёска ў Вераснінцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 266 км ад Гомеля; на Пн ускраіне — воз. Лінскае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 343 гаспадаркі, 826 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі селішча ранняга жалезнага веку (за 1,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Ракіта), селішча жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 36 двароў, уладанне графа Салагуба. У 1834 г. ў Тураўскім казённым маёнтку, 97 двароў, 579 жыхароў. У 1864 г. ўпамінаецца ў запісах афіцэраў Ген. штаба Рас. арміі, якія вывучалі гэту мясцовасць. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Тураўскім царк. прыходзе. У 1885 г. в. Заячаль—Запясочча, 145 двароў, 708 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 155 двароў, 855 жыхароў, вятрак. У 1908 г. 214 двароў, 1071 жыхар. У выніку пажару 29.6.1908 г. згарэлі 47 двароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у пач. 1920-х гг. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1917 г. 1674 жыхары. У 1925 г. 308 двароў. У 1931 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Запясоцкага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 300 двароў, 1200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле. Ням. акупанты ў 1942 г. спалілі 250 двароў, загубілі 71 жыхара. Вызвалена 5.7.1944 г. 100 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1445 жыхароў. Цэнтр калгаса «Перамога». Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 шчыльна пастаўленых вуліц, арыентаваных з

ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваных 4 кароткімі вуліцамі. На Пд адасоблена размешчана крывалінейная вуліца з завулкам. На Пн да крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца з Пд тры завулкі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.С.Струка, Героя Сац. Працы С.І.Марусевіч і заслужанай настаўніцы Беларусі М.І.Лаценкавай.

**ЗНАМЕНКА** (да 1958 г. Слепцы) — вёска ў Азяранскім с/с, за 28 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 261 км ад Гомеля, 3 км ад прыстані Чэрнічы (на р. Прыпяць). Побач аўтадарога Тураў—Лельчыцы. 119 гаспадарак, 209 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі селішча ранняга феадалізму (за 0,9 км на У ад вёскі) і селішча зарубінецкай культуры (3 ст. да н.э. — 5 ст. н.э., за 0,8 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст., калі тут быў прытулак для калек і сляпых, адкуль пайшла назва вёскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 32 двары. У 1834 г. у Тураўскім казённым маёнтку, 33 двары, 185 жыхароў. У выніку пажару 26.4.1885 г. згарэлі 42 двары. У 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 429 жыхароў, кузня. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 541 жыхар. У 1924 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 107 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», працавалі 2 кузні. У 1940 г. 120 двароў, 670 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі тут свой апорны пункт, які 25.5.1943 г. разграмілі партызаны. Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар Рафаловіч). У ліп. 1944 г. ням. акупанты спалілі 96 двароў і загубілі 36 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 577 жыхароў. Цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». Дзейнічаюць млын, механічныя майстэрні, пач. школа, клуб, б-ка, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх з У далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЖАНОВІЧЫ** — вёска ў Жыткавіцкім с/с, за 1 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 232 км ад Гомеля, на аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў; на Пд вадасховішча рыбгаса, на Пн чыгунка. 105 гаспадарак, 301 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 405 жыхароў. У 1917 г. 595 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — п. Грабянёўскі). Дзейнічаюць райсельгасхімія, б-ка. Планіровачна складаецца з 3 шчыльна пастаўленых паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 12 км на З ад Жыткавіч, 3 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 245 км ад Гомеля; на Пд — чыгунка, на У, Пн і З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 45 гаспадарак, 87 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў. У складзе калгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай

вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАРЧАВАТКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 25 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 186 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. У саўгасе «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой пад прамым вуглом на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**КЕЛІ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 10 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 232 км ад Гомеля; на У мяжуе з лесам, на З Найда-Бялёўскі канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 26 жыхароў. У 1908 г. 5 двароў, у 1917 г. 36 жыхароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — п. Грабянёўскі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай аднабакова рэдка пастаўленымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**КНЯЗЬ-БОР** — вёска ў Браніслаўскім с/с, за 26 км на З ад Жыткавіч, 12 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 260 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У складзе калгаса «XX партз'езд» (цэнтр — в. Града). Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОЛЬНА** — вёска ў Руднянскім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 237 км ад Гомеля. Паблізу аўтадарога Жыткавічы—Чэрнічы. 283 гаспадаркі, 773 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. 6.7.1582 г. пазначана ў запісе аб раздзеле маёмасці паміж братамі Алелькавічамі. Двор Кольна дастаўся Аляксандру Алелькавічу. Як населены пункт пазначана на карце ВКЛ 1613 г. У 18 ст. 2 вёскі — Новае Кольна і Старое Кольна, уласнасць Яленскіх. У 1795 г. ў с. Старое Кольна 6 двароў, 67 жыхароў, у с. Новае Кольна — 47 двароў, 279 жыхароў. З 1861 г. дзейнічала царква. Паводле перапісу 1897 г. в. Кольна і фальварак Старое Кольна. У 1908 г. ў вёсцы 104 двары, 520 жыхароў, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. Дзейнічала школа. У 1917 г. 617 жыхароў, у 1921 г. 120 двароў, 638 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», працавалі кузня і шорная майстэрня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падпольная група. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 75 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае Курган Славы з абеліскам на вяршыні, узведзены ў 1957 г. каля Дома культуры. Паводле перапісу 1959 г. 845 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Аляксееўскі». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны.

Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай у цэнтры крывалінейнай вуліцай з завулкам. Забудова двухбаковая, мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЭМНАЕ** — вёска ў Тураўскім пас. Савеце, 29 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 263 км ад Гомеля. Паблізу аўтадарога Тураў—Лельчыцы. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі селішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 0,2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Зарэшнік) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1864 г. ўпамінаецца ў запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія вывучалі гэту мясцовасць. Памешчык Сямёнаў у 1871 г. меў у вёсцы 131 дзесяціну зямлі, 5 вадзяных млыноў, 2 сукнавальні. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 46 жыхароў. У 1908 г. 12 двароў, 77 жыхароў. У 1917 г. на хутары 68, у фальварку 19 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. У складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — г.п. Тураў). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы з завулкам, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАГВОШЧЫ** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 253 км ад Гомеля. На З біялагічны заказнік рэсп. значэння «Нізоўе Случы», на У мяжуе з лесам. Паблізу аўтадарога Лунінец—Калінкавічы. 97 гаспадарак, 199 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1884 г. 6 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 135 жыхароў, у 1908 г. 22 двары, 151 жыхар. У 1917 г. 2 хутары: Лагвішча I (25 жыхароў) і Лагвішча II (198 жыхароў). Пазней яны зліліся ў адну вёску. У 1921 г. 45 двароў, 265 жыхароў. У 1925 г. 58 двароў. У Вял. Айч. вайну 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Дзейнічаюць пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на З далучаецца да цэнтра другой прамалінейнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** — вёска, цэнтр Ленінскага с/с, за 46 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 18 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 274 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 294 гаспадаркі, 841 жыхар (2004 г.).

Вядома з 16 ст. У 1568 г. кароль польскі і вял. князь ВКЛ Жыгімонт Аўгуст даў кн. Юрыю Юр'евічу Алелькавічу дазвол на заснаванне мяст. Леніна (назва ад наймення ўрочышча, дзе размясцілася мястэчка). У 1582 г. пазначана ў акце аб раздзеле ўладанняў паміж братамі Алелькавічамі. Мяст. Леніна дасталося Аляксандру Алелькавічу. Пазней ва ўладанні Радзівілаў. У 1788 г. збудавана драўляная царква Раства Багародзіцы (у 1857 г. і 1928 г. капітальна адрамантавана, спалена 16.2.1942 г. ням. акупантамі разам з вёскай). У царкве зберагалася выдадзенае ў 1673 г. Евангелле. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 21, у 1834 г. 32 двары. Цэнтр маёнтка, у склад якога ў 1839 г. ўваходзілі 4 фальваркі, мяст. Леніна і 14 вёсак. У 1848 г. 43 двары, уладанне кн. Л.П.Вітгенштэйна, які меў тут у 1876 г. 72 434 дзес. зямлі. У 1858 г. 88 двароў, 232 жыхары, царква, яўрэйскі малітоўны дом. Мястэчка было звязана дарогай са Слуцкам, праходзіў ваеннакамунікацыйны тракт, які звязваў Пет-

рыкаў з Піншчынай. Дзейнічалі паштовая станцыя, царк.-прыходская школа (з 1863 г.). У 1866 г. 436 жыхароў. У гонар вызвалення сялян ад прыгоннага права ў 1870-х гг. на могілках была збудавана драўляная часоўня. Цэнтр воласці, у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 25 сяленняў з 432 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 144 двары, 1135 жыхароў, нар. вучылішча, царква, часоўня, яўрэйскі малітоўны дом, хлебазапасны магазін, паравы млын, 2 пастаялыя двары, 7 крам, паштовае аддзяленне. У пач. 20 ст. на могілках пабудавана мураваная часоўня (помнік архітэктуры неарускага стылю). У 1908 г. ў мястэчку 196 двароў, 1019 жыхароў, у маёнтку 63 жыхары. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Лунінецкага пав. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. цэнтр Ленінскага р-на Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. да 9.1.1952 г. гар. пасёлак. У 1940 г. 351 двор, 1650 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Леніна ў 1941 г. мужна абараняў 28-ы полк 75-й стралковай дывізіі. 16.7.1941 г. ням. карнікі расстралялі 7 вясковых камсамольцаў, якія хавалі грамадскую маёмасць і жывёлу. Дзейнічала падпольная патрыят. група. У ліп. 1942 г. карнікі загубілі 940 грамадзян. Акупанты размясцілі тут свой гарнізон, які 2.9.1942 г. партызаны атрадаў Камарова, Пятровіча, імя М.Ц.Шыша разграмілі, вызвалілі з турмы 48 патрыётаў і аднавілі сав. уладу. У 1941—1942 гг. акупанты расстралялі 1250 сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўн.-зах. ускраіне), а 16.2.1943 г. расстралялі яшчэ 1200 жыхароў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках) і спалілі пасёлак. У баях у ліп. 1944 г. загінулі 46 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на вул. Набярэжнай). Вызвалена 6.7.1944 г. 45 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 733 жыхары. 8.6.1950 г. цэнтр раёна перанесены ў рабочы пас. Мікашэвічы (цяпер у Брэсцкай вобл.), а 20.1.1960 г. Ленінскі р-н скасаваны, вёска ўвайшла ў Жыткавіцкі р-н. Цэнтр саўгаса «Ленінскі». Дзейнічаюць камбінат бытавога абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, 8 магазінаў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы з 2 завулкамі. З захаду да асноўнай далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова мураваная і драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны 49 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма заслужанага дзеяча культуры Беларусі А.С.Гопчыца.

**ЛУТОЎЕ** — вёска ў Дзякавіцкім с/с, за 59 км на ПнУ ад Жыткавіч, 34 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 292 км ад Гомеля; на З пачынаецца канава Катуха, якая злучана з воз. Чырвонае, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марахорава—Любань. 36 гаспадарак, 71 жыхар (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 53 двары, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў сак. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 286 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дзякавічы). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЮБАВІЧЫ** — вёска ў Верасніцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 268 км ад Гомеля; вакол сетка меліярацыйных каналаў. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 112 гаспадарак, 237 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. 160 жыхароў. У 1834 г. ў Тураўскім казённым маёнтку, 20 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Тураўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 226 жыхароў. Дзейнічала нар. вучылішча, якое ў 1901 г. атрымала пахвальны ліст на Мінскай юбілейнай выстаўцы. У 1908 г. 303, у 1917 г. 325 жыхароў, у 1925 г. 56 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «VI з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 491 жыхар. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Верасніца). Дзейнічаюць пачатковая школа, клуб, б-ка. Планіроўвачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, на Пн ад якой праходзіць паралельная кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЮДЗЯНЕВІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя на Лініі—Калінкавічы, цэнтр Людзяневіцкага с/с, за 12 км на З ад Жыткавіч, 249 км ад Гомеля; на У Жыткавіцкі батанічны заказнік рэспубл. значэння, на Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 398 гаспадарак, 1020 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска Мазырскага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1755 г. на сродкі вяскоўцаў і ўладальніка вёскі Яленскага пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 84 двары, 673 жыхары. У 1816 г. 108 двароў, у 1834 г. 119 двароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1850 г. 631 жыхар. Памешчык Увараў меў у 1876 г. ў вёсцы і наваколлі 20 830 дзес. зямлі, карчму. У 1884 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. З пачаткам эксплуатацыі чыгункі Лунінец—Гомель (люты 1886 г.) пачала дзейнічаць чыг. ст. Людзяневічы (за 3 км ад вёскі). Паводле перапісу 1897 г. с. Людзяневічы (яно ж Забрадочча), у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 985 жыхароў. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, паравы млын, карчма. У 1903 г. адкрыта 2-класнае вучылішча,ператворанае пазней у 7-гадовую школу. У выніку пажару 3.12.1906 г. згарэў лесапільны з-д. У 1908 г. 175 двароў, 1427 жыхароў, паравы млын. Салдаты запасной воінскай часці ў 1914 г. напалі на маёнтак, пашкодзілі яго, і толькі ахова не дазволіла поўнасцю разграміць яго. У 1917 г. ў сяле 1535, у маёнтку 29 жыхароў. У ліп.—жн. 1917 г. вяскоўцы захапілі памешчыцкія землі і лугі. Пазней у памешчыцкай сядзібе была створана камуна. У 1921 г. 384 двары, 1932 жыхары. Вял. пажар адбыўся 12.5.1925 г., калі згарэлі 254 пабудовы 62 двароў. Дзейнічаў аграпункт, які размясціўся ў былым памешчыцкім доме. У 1920-х гг. пачалі працаваць цагельня, млын, электраўстаноўка, якая давала электраэнергію для асвятлення мястэчка, у 1930-х гг .— шавецкая арцель (29 рабочых), радыёвузел. З 20.8.1924 г. цэнтр Людзяневіцкага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», працавалі паравы млын (з 1906 г.), цагельня (з 1930 г.), ганчарня, шавецкая майстэрня, кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падпольная патрыят. група. Ням. акупанты загубілі ў 1941 г. 64 жыхары. У баях за вёску ў ліп. 1944 г. загінулі 2 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 5.7.1944 г., 98 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1078 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Людзяневічы». Дзейнічаюць цагельня, лясніцтва, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, швейная

майстэрня, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛЯХАВІЧЫ** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 26 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 259 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы, на Пн воз. Чырвонае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 112 гаспадарак, 187 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў валоданні Хадкевічаў, 41 двор. У 1885 г. 44 двары, 276 жыхароў, царква, часоўня. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся рыбацтвам, гандлявалі рыбай у Мінску, Жытоміры, Слуцку і інш. гарадах. Памешчык Разальскі меў тут і ў наваколлі ў 1874 г. 14 646 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 72 двары, 516 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, карчма. У 1908 г. 145 двароў, 745 жыхароў. У 1917 г. 848 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак. У 1919 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Ляхавіцкага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У сак. 1928 г. арганізаваны калгас «Беларускі камунар», потым — калгас імя М.В.Фрунзе, працавала кузня. У 1932 г. пабудаваны будынак для пачатковай школы. У 1940 г. 182 двары, 603 жыхары. У Вял. Айч. вайну на воз. Чырвоным зімой размяшчаўся партыз. аэрадром, на якім садзіліся самалёты з-за лініі фронту. У студз. 1943 г. некаторы час у вёсцы базіраваліся партызаны ўкраінскага злучэння С.А.Каўпака. У лютым 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 49 жыхароў. 90 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 566 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пухавічы). Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЕШАЎ** — вёска ў Верасніцкім с/с, за 43 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 273 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 239 гаспадарак, 570 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Троцкім ваяв., з 1565 г. у Пінскім пав. Брэсцкага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 18 дымоў, у сялян 40 валоў, 6 коней; карчма, спадчыннае ўладанне кн. М.К.Радзівіла. У 1792 г. ў в. Малы Малышаў збудавана царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 46 двароў. Дваранін Герсовіч меў у вёсцы ў 1855 г. 200 дзесяцін зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 508 жыхароў, царква, вятрак, кузня. У 1903 г. адкрыта школа. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 579 жыхароў. У 1921 г. 106 двароў, 783 жыхары, у 1925 г. 122 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1944 г. ням. акупанты спалілі 80 двароў і загубілі 16 жыхароў. 99 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 962 жыхары. У складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Верасніца). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з безсістэмна размешчаных драўляных сял. сядзіб. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вял. Айч. вайну на Брэстчыне В.В.Каткова (быў камандзірам партыз. брыгады імя У.І.Леніна).



*Царква ў в. Малешаў.*

**МАЛЫЯ СЦЯБЛЕВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 18 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 279 км ад Гомеля; вакол лес. Побач аўтадарога Мікашэвічы—Слуцк. 370 гаспадарак, 64 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст., калі перасяленцы з в. Сцяблевічы заснавалі тут новае сяленне і назвалі яго Малыя Сцяблевічы. Пад такой назвай яно ўпамінаецца ў матэрыялах 1811 г. Паводле інвентара 1826 г. ў складзе маёнтка Леніна (валоданне кн. Л.П.Вітгенштэйна) у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 7 двароў. У 1834 г. 9 двароў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 138 жыхароў. У 1908 г. 18 двароў. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 60 двароў, 348 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы часта базіраваліся партызаны. У лютым 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 84 жыхары. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 265 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на З і У далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАРОХАРАВА** — вёска, цэнтр Марохараўскага с/с, за 16 км на ПнУ ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Брынёва (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 230 км ад Гомеля; на З канал Стары, на У і Пд — сетка меліярацыйных каналаў, у тым ліку Найда-Бялёўскі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 182 гаспадаркі, 404 жыхары (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 13 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «13-ы Кастрычнік». У 1930-х гг. у вёску перaселены жыхары бліжэйшых хутароў, у выніку чаго склалася новая вуліца. У Вял. Айч. вайну карнікі ў 1942 г. часткова спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 49 жыхароў вёсак Марохарава, Замошша і Дуброва, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск з імёнамі загінуўшых, пастаўлены ў 1966 г. ў парку. З 16.7.1954 г. цэнтр Марохараўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 458 жыхароў. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаецца дугападобная вуліца, з У — 2 кароткія вуліцы, злучаныя завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МІЛЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Мілевіцкага с/с, за 74 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 19 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 307 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць); на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўта-

дарозе Мікашэвічы—Слуцк. 281 гаспадарка, 691 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Інвентар 1805 г. сведчыць аб Мілевічах як аб вельмі малым сяленні. У 1801 г. пабудавана драўляная Іаанабагаслоўская царква. У 1811 г. 46 двароў, 139 жыхароў мужчынскага полу. Паводле інвентара 1839 г. ў складзе маёнтка Леніна, у валоданні князя Л.П.Вітгенштэйна. У 1884 г. 315 жыхароў, царква, царкоўнапрыходская школа. У 2-й палове 1890-х гг. Зах. экспедыцыя Жылінскага праводзіла тут меліярацыйныя работы. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 614 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын, карчма. У 1908 г. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 90 двароў, 689 жыхароў. У 1940 г. 164 двары, 827 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы студз. 1943 г. ў вёсцы адбылася нарада камандзіраў і камісараў укр. і бел. партызан, якія дзейнічалі ў гэтым рэгіёне, з дакладам выступіў С.А.Каўпак. 15.2.1943 г. ням. акупанты загубілі 400 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на ўсх. ускраіне) і поўнасцю спалілі вёску. 75 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1110 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Случ». Дзейнічаюць лясніцтва, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы, з У — 3 завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1987 г. збудаваны 49 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц.

**МЛЫНОК** — вёска ў Руднянскім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 237 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Чэрнічы—Жыткавічы. 64 гаспадаркі, 106 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Жыткавіцкага царк. прыхода. З 1896 г. дзейнічаў млын. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 137 жыхароў, у 1908 г. 34 двары, 184 жыхары, у 1917 г. 226 жыхароў, у 1921 г. 41 двор, 239 жыхароў, у 1925 г. 47 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. Вызвалена 5.7.1944 г. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе саўгаса «Аляксееўскі» (цэнтр — в. Кольна). Дзейнічае пачатковая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З далучаецца кароткая вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАВУЦЬ** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 224 км ад Гомеля, на р. Навуць (прыток р. Прыпяць); на У Рудзянецкі канал, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 38 гаспадарак, 75 жыхарыоў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 22 жыхары, у 1908 г. 4 двары, 34 жыхары, у 1917 г. 75 жыхароў, у 1921 г. 15 двароў, 87 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Навуць», працавала майстэрня па вырабу колаў. У сярэдзіне 1930-х гг. у вёску ссёлены жыхары бліжэйшых хутароў. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. У складзе саўгаса «Чырвоны Бор» (цэнтр — в. Семянча). Планіро-

вачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАЙДА** — вёска ў Руднянскім с/с, за 19 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 214 км ад Гомеля, на аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў; на Пн воз. Найда, на Пд Найда-Бялёўскі канал, на У і Пн мяжуе з лесам. 72 гаспадаркі, 152 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ва ўладанні Хадкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 6 двароў, у 1816 г. 25 жыхароў, у 1850 г. 11 двароў, 58 жыхароў, уладанне Кеневічаў. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 125 жыхароў. У 1908 г. ў Ляскавіцкай воласці Мазырскага павета Мінскай губ., 23 двары, 180 жыхароў. У 1917 г. 351 жыхар. У 1919 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у 1929 г. для яе пабудаваны асобны будынак. У 1925 г. 50 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1943 г. загубілі 28 жыхароў з вёсак Грэбень і Вадапойла (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі Найда). 46 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — п. Грабянёўскі). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пн раздвойваецца, а на Пд да яе далучаюцца 2 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза В.А.Ката (ганаровы грамадзянін г. Паўночна-Курыльск Сахалінскай вобл.), засл. настаўнікаў Беларусі Я.П.Грыб і Р.М.Тураўца.

**НОВАЕ ЛЕНІНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 13 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 265 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з в. Леніна. У 1925 г. 16 двароў, у 1940 г. 33 двары, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з дугападобнай мерыдыянальнай вуліцы, няшчыльна забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫЯ ЗАЛЮЦІЧЫ** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 61 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 10 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 295 км ад Гомеля; на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 79 гаспадарак, 155 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, гал. ч. з в. Залюцічы. У 1940 г. 72 двары, 321 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічаюць пач. школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ МІЛЕВІЧЫ** — вёска ў Мілевіцкім с/с, за 70 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 16 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 303 км ад Гомеля, на р. Случ (прыток р. Прыпяць); на ПдУ і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 69 гаспадарак, 143 жыхары (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, гал. ч. з в. Мілевічы. У 1940 г. 70 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну паблізу базіраваліся партыз. атрады. За 10 км на У ва ўрочышчы Калоннае, на партыз. могілках пахаваны 16 партызан, што загінулі ў баях супраць ням. захопнікаў. У лютым 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 36 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Случ» (цэнтр — в. Мілевічы). Дзейнічаюць пач. школа, б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАГОСТ** — вёска ў Азяранскім с/с, за 27 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 260 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро); на Пд — яе прыток р. Сцвіга. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 204 гаспадаркі, 367 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі селішча жалезнага веку (за 1 км на ПдЗ ад вёскі), селішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 1 км на З ад вёскі, ва ўрочышчах Вузкае і Грабелька) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Адзін з Тураўскіх крыжоў (адносяцца да часу прыняцця хрысціянства) знаходзіўся на вясковых могілках, на беразе Прыпяці, у 1979 г. перавезены ў Гомельскі абласны краязнаўчы музей. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. ВКЛ. У 1520 г. князь К.Астрожскі перадаў вёску, якая яму належала, ва ўладанне Тураўскаму Успенскаму сабору. У 1784 г. на сродкі ўладальніка вёскі Салагуба збудавана драўляная Стафанаўская царква, якая ў 1859 г. капітальна адрамантавана, а ў 1896 г. занава адбудавана. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 54 двары, уладанне казны. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. 275 жыхароў, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. У 1864 г. ўпамінаецца ў запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія вывучалі гэту мясцовасць. Праз вёску праходзіў тракт з Петрыкава на Піншчыну. У 1866 г. 67 двароў, 450 жыхароў. У 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1897 г. 109 двароў, 674 жыхары, 2 вадзяныя млыны, кузня. У 1909 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав., 124 двары, 904 жыхары. У 1926 г. 173 двары. У 1925 г. арганізаваны калгас «Праца», дзейнічала сукнавальня. За поспехі ў развіцці грамадскай гаспадаркі калгас у 1939 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі і ў якасці прэміі атрымаў грузавы аўтамабіль. У 1940 г. 198 двароў, 905 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням. карнікі спалілі 163 двары, загубілі 69 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 1222 жыхары. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Азяраны). Дзейнічаюць 9-гадовая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай (уздоўж р. Прыпяць) вуліцы, да якой на З далучаюцца 4 кароткія шыротныя вуліцы, злучаныя 2 кароткімі мерыдыянальнымі вуліцамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.Н.Маркевіча.

**ПАДВОСЦЕ** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 242 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1940 г. 14 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. У складзе

саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛОСЦЕВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 51 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 23 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 284 км ад Гомеля; вакол лес. Побач аўтадарога Мікашэвічы—Слуцк. 102 гаспадаркі, 201 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле інвентара 1820 г. ў складзе фальварка Леніна, у валоданні палкоўніка Бабанскага, 17 двароў. Пазней вёска, як і ўвесь маёнтак Леніна, была ў валоданні кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 277 жыхароў. У 1908 г. 44 двары, 243 жыхары. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 75 двароў, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 31 жыхара. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 560 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма мастака Р.Ф.Таболіча.

**ПАЛЯНКА** — вёска ў Руднянскім с/с, за 9 км на У ад Жыткавіч, 2 км ад чыг. ст. Брынёў (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 194 км ад Гомеля; на У Найда-Бялёўскі канал, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Жыткавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 56 жыхароў, у 1909 г. 10 двароў, 57 жыхароў, у 1917 г. 136 жыхароў, у 1921 г. 19 двароў, у 1925 г. 24 двары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — пас. Грабянёўскі). Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАСЕКА** — вёска ў Руднянскім с/с, за 13 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 238 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Жыткавічы—Чэрнічы. 40 гаспадарак, 89 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Жыткавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. хутар Чорная Пасека, 62 жыхары. У 1908 г. 6 двароў, у 1917 г. 77 жыхароў, у 1925 г. 14 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары. У складзе саўгаса «Аляксееўскі» (цэнтр — в. Кольна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАСТАЛЫ** — пасёлак у Дзякавіцкім с/с, за 61 км на ПнУ ад Жыткавіч, 36 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 294 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як хутар у Дзякавіцкай вол.

Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 2 двары, 18 жыхароў, у 1921 г. 57 двароў, 318 жыхароў. Пры лесапільным з-дзе, што дзейнічаў у пасёлку, у 1921 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 79 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын і лесазавод, а крыху пазней — электрастанцыя пры лесазаводзе. З 15.7.1935 г. да 27.9.1938 г. рабочы пасёлак. У 1940 г. 123 двары, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты трымалі ў вёсцы гарнізон, які партызаны 1.4.1942 г. разграмілі, і спалілі лесапільны з-д. У сак. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 9 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай рэдка пастаўленымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАРОЎ** — вёска, цэнтр Перароўскага с/с, за 35 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 264 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро); на Пд нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 193 гаспадаркі, 456 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (за 2,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Свінуха) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. У вёсцы знаходзіўся адзін з Тураўскіх крыжоў (з каменю, адносіцца да часоў прыняцця хрысціянства). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяленне ў Троцкім ваяв. ВКЛ, з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Упамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» 1406 г. Знаходзілася Дзімітраўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1771 г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1801 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1811 г. 69 двароў. У 1834 г. сяло ў складзе Тураўскага казённага маёнтка, 430 жыхароў. У 1864 г. ўпамінаецца ў запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія вывучалі гэту мясцовасць. У 1866 г. 104 двары, 632 жыхары. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у 1888 г. — царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. Паводле перапісу 1897 г. 139 двароў, 934 жыхары, кузня. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 165 двароў, 1784 жыхары, паравы млын. У 1925 г. 194 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Перароўскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. Дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны кастрычнік», працавала кузня, абадочная майстэрня. У 1940 г. 300 двароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты трымалі тут гарнізон, які быў разгромлены партызанамі атрада «За Радзіму». Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. У 1942 г. карнікі спалілі вёску часткова, а ў ліп. 1943 г. поўнасцю і загубілі 60 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 24 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1192 жыхары. Цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Дзейнічаюць хлебапякарня, лясніцтва, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных, шчыльна пастаўленых, крыху выгнутых, шыротных вуліц, да якіх з Пд далучаюцца і перакрыжоўваюць іх 4 кароткія вуліцы, утвараючы кварталы. Забудова шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАРОЎСКІ МЛЫНОК** — вёска ў Перароўскім с/с, за 45 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 278 км ад

Гомеля; на У канава Крушынная, якая мяжуе з воз. Погнай, на Пд нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 99 гаспадарак, 202 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 26 жыхароў, у 1917 г. 86 жыхароў, у 1925 г. 90 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 120 двароў, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 42 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 700 жыхароў. Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, двухбакова забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЛАСТОК** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 255 км ад Гомеля; на У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 46 гаспадарак, 89 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. 30 жыхароў. У 1921 г. 6 двароў. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 2-й палове 1930-гг. у вёску ссялены жыхары бліжэйшых хутароў. У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пухавічы). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПОДАЎЖ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 3 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 236 км ад Гомеля; на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жыткавічы—Чэрнічы. 26 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 66 жыхароў. У 1908 г. 8 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5.7.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе саўгаса «Аляксееўскі» (цэнтр — в. Кольна). Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПОЎЧЫН** — вёска ў Верасніцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Жыткавіч, 15 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 263 км ад Гомеля; на Пд воз. Поўчын. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. ўрочышча ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 4 жыхары. Найбольш актыўнае засяленне гэтых мясцін адбывалася ў 1920-я гг. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле. 24.4.1944 г. карнікі загубілі 170 жыхароў вёсак Запясочча і Поўчын (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму) і поўнасцю спалілі вёску. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Запясочча). Планіровачна складаецца з безсістэмна размешчаных драўляных сял. сядзіб.

**ПУХАВІЧЫ** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 30 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 268 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы, на Пн воз. Чырвонае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 305 гаспадарак, 702 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Упамінаецца ў 1802 г. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1816 г. 38 двароў, 212 жыхароў, уладанне памешчыка Ф.Лянкевіча. У 1850 г. 56 двароў, 443 жыхары, у 1866 г. 569 жыхароў, у 1885 г. 96 двароў, 626 жыхароў, царква, школа граматы. Вяскоўцы лавілі рыбу і гандлявалі ёй у Мінску, Жытоміры, Слуцку і інш. гарадах. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 161 двор, 1027 жыхароў, хлебазапасны магазін, 3 ветракі, карчма. 1.10.1905 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. ў Жыткавіцкай воласці, 1519 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны Бераг» і імя І.В.Сталіна, працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 215 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ў вёсцы базіраваўся штаб укр. партыз. злучэння С.А.Каўпака. Побач 3.1.–3.2.1943 г. дзейнічаў партыз. аэрадром, які абслугоўваў злучэнне С.А.Каўпака. Узлётная паласа была на лёдзе воз. Чырвонае. У лютым 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 35 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 4 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 63 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1972 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 897 жыхароў. Цэнтр калгаса «Зара». Дзейнічаюць Чырвонапалескі рыбны ўчастак Мазырскага рыбзавода, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Шырокай папулярнасцю ў раёне карыстаецца фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Пухаўчанка». Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, на У ад яе праходзіць крывалінейная вуліца той жа арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма крытыка і літаратуразнаўцы У.І.Агіевіча.

**ПЯСЧАНІКІ** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 243 км ад Гомеля; на З воз. Белае, на У Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 30 гаспадарак, 53 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як засценак у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 35 жыхароў. У 1908 г. 10 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 10 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 223 км ад Гомеля, на р. Навуць (прыток р. Прыпяць), на тэр. Жыткавіцкага батанічнага заказніка рэсп. значэння, на Пд — вадасховішчы рыбгаса. На аўтадарозе Жыткавічы—Петрыкаў. 88 гаспадарак, 190 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў, у 1834 г. 10 двароў, 58 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Жыткавіцкім царк. прыходзе. З 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. в. Каленская Рудня, 62 двары, 337 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размя-

сцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1922 г. для яе ўзведзены асобны будынак. У 1917 г. 492 жыхары, у 1921 г. 84 двары. З 20.8.1924 г. да 17.12.1980 г. цэнтр Руднянскага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», працавалі кузня і вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну 5.7.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 467 жыхароў. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — пас. Грабянёўскі). Дзейнічаюць пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: усходняй (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца з Пн кароткая прамалінейная вуліца, з Пд — 2 завулкі) і заходняй (да плаўна выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РЫДЧА** — вёска ў Рычоўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 35 гаспадарак, 87 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, на ўсх. ускраіне) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 31 жыхар. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 47 двароў, 216 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Рычоў). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка пастаўленымі драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЫЧОЎ** — вёска, цэнтр Рычоўскага с/с, за 37 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 275 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць); на Пд і У нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 217 гаспадарак, 524 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік 10—13 стст. (засталіся 40 насыпаў з 211, на паўн. ускраіне вёскі), селішча жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 0,9 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як вёска, якую Свідрыгайла падараваў кн. Міхаілу Васілевічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 44 двары, 309 жыхароў, уладанне Патоцкіх. Дзейнічала Святаміхайлаўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1797 г.). У 1814 г. замест састарэлага ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1834 г. ўладанне графіні Мастоўскай. У 1885 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гг. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. З 1896 г. працавалі вятрак і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 64 двары, 406 жыхароў, кузня. У 1908 г. 435 жыхароў, у 1917 г. 511 жыхароў, у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 106 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Рычоўскага с/с Тураўскага, з 17.4.1962 г. Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Рубеж», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 130 двароў, 590 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1941 г.

загубілі 16 жыхароў, у 1943 г. спалілі 125 двароў, загубілі 34 жыхары. У баях каля вёскі ў ліп. 1944 г. загінулі 48 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 5.7.1944 г., 43 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 855 жыхароў. Цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС. Дзейнічаюць лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны ўчасткі, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на У далучаецца кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЕМЯНЧА** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 21 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 254 км ад Гомеля; праз вёску праходзіць меліярацыйны канал; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Мароxарава—Любань. 379 гаспадарак, 1005 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1917 г. хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. 5 жыхароў. У 1920-я гг. адбывалася актыўнае засяленне мясцовых, былых памешчыцкіх зямель. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камсамолец», працавала кузня. У сярэдзіне 1930-х гг. у вёску сселены жыхары бліжэйшых хутароў. У 1940 г. 45 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням. акупанты спалілі 11 двароў і загубілі 3 жыхароў. 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 332 жыхары. Цэнтр саўгаса «Чырвоны Бор». Размешчаны Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 завулкі. Забудова 2-баковая, драўляная, сядзібнага тыпу. У 1986 г. збудаваны 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**СТАРАЖОЎЦЫ** — вёска ў Рычоўскім с/с, за 31 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 264 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 121 гаспадарка, 278 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі курганны могільнік (4 насыпы, уздоўж ракі) і селішча ранняга жалезнага веку (за 0,5 км ад места цераз раку) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. У вёсцы знаходзіўся адзін з Тураўскіх крыжоў (зроблены з каменю, адносіцца да часоў прыняцця хрысціянства). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў Пінскім пав. ВКЛ. Была адным з пунктаў абароны Турава ад ворагаў. Дзейнічалі манастыр, царква ( у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1785 г., а з 1840 г. — інш. царк. дакументацыя). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. сяло ў валоданні казны, 60 двароў. У 1816 г. ў складзе Тураўскага казённага маёнтка, 205 жыхароў. У 1843 г. замест састарэлага пабудаваны новы драўляны будынак Пакроўскай царквы, у якой зберагаўся мясцова-шанаваны абраз Прасвятой Багародзіцы. У 1866 г. 229 жыхароў. З 1884 г. дзейнічала школа, для якой у пач. 1920-х гг. выдзелены нацыяналізаваны будынак. З 1896 г. працаваў вадзяны млын з сукнавальняй. Паводле перапісу 1897 г. 363 жыхары, царква, школа, кузня. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. 69 двароў, 432 жыхары. У выніку пажару 5.6.1909 г. згарэлі 82 двары. У 1917 г. 583 жыхары, у 1925 г. 87 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1940 г. 89 двароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар Н.Акуліч). У жн. 1941 г. і сак. 1944 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 30 жыхароў. На

франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 44 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1967 г. ў цэнтры вёскі. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Рычоў). Дзейнічаюць камбінат бытавога абслугоўвання, смалакурня (за 3 км ад вёскі), 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіроўвачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пн далучаюцца шчыльна пастаўленыя паміж сабой прамалінейныя вуліцы, перакрыжаваныя 2 кароткімі вуліцамі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРУШКІ** — пасёлак, чыг. ст. на лініі Лунінец—Калінкавічы, у Марахараўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Жыткавіч, 314 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2004 г.).

У сувязі з уводам у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Калінкавічы—Гомель тут пачаў дзейнічаць раз'езд, а потым чыгуначная станцыя. Ва ўрочышчы працавала лесапільня. У 1908 г. ў Ляскавіцкай вол. Мазырскага павета, 9 жыхароў. У 1932 г. пракладзена чыгунка ад лініі Асіповічы—Жлобін, участак якой ад Рабкора да Старушак быў разбураны ў Вял. Айч. вайну і не аднавіўся. Склаўся пасёлак, назва яком зацверджана ўказам Прэзідыума Вярх. Савета БССР 21.1.1969 г. Паводле перапісу 1959 г. 209 жыхароў. Дзейнічаюць лясніцтва, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы ўздоўж чыгункі, забудаванай пераважна драўлянымі будынкамі.

**СУКАЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 8 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 261 км ад Гомеля; на Пд біялагічны заказнік рэсп. значэння «Нізоўе Случы». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 40 гаспадарак, 71 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. 10 двароў, уладанне графа Чапскага. У інвентары 1820 г. пазначана як сяленне Сукачоў у складзе маёнтка Леніна, у валоданні кн. Л.П.Вітгенштэйна. Паводле перапісу 1897 г. в. Сукачэвічы ў Ленінскай вол., 148 жыхароў. У 1908 г. 163 жыхары, у 1917 г. 244 жыхары, у 1940 г. 50 двароў, 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных мерыдыянальных вуліц, злучаных завулкам. На У — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЯЛКО** — вёска ў Людзяневіцкім с/с, за 14 км на З ад Жыткавіч, 5 км ад чыг. ст. Дзедаўка (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 247 км ад Гомеля; на Пд канава Скрыпіца, якая ўпадае ў р. Скрыпіца (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 50 гаспадарак, 111 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897г. 85 жыхароў. У 1908 г. 8 двароў, 97 жыхароў, у 1917 г. 223 жыхары, у 1921 г. 45 двароў, 233 жыхары. У былой памешчыцкай сядзібе была створана камуна. У 1925 г. 61 двор. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 333 жыхары. У складзе саўгаса «Людзяневічы» (цэнтр — в. Людзяневічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных шыротных вуліц, злучаных завулкам. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.



Гліняныя пасудзіны з могільніка каля в. Сямурадцы.

**СЯМУРАДЦЫ** – вёска ў Рычоўскім с/с, за 30 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 263 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць), на поўдні нацыянальны парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 123 гаспадаркі, 253 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі селішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі) і селішча ранняга жалезнага веку (на зах. ускраіне) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 46 двароў, у 1816 г. 195 жыхароў. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. сяло ў Тураўскім казённым маёнтку, 373 жыхары. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Старажоўскім царк. прыходзе. З 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 342 жыхары, вадзяны млын, часоўня, кузня, у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1925 г. 98 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Праўда». У 1940 г. 118 двароў, 553 жыхары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар Мелянчэня). У сак. 1944 г. ням. карнікі спалілі 113 двароў і загубілі 8 жыхароў. 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 745 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Рычоў. Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з трохвугольнага комплексу кароткіх вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТУРАЎ** – гарадскі пасёлак, цэнтр Тураўскага пасялковага савета, за 30 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 263 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія звязваюць гар. пасёлак з Лельчыцамі і Жыткавічамі. 3,2 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі замчышча (у паўн.-зах. частцы пасёлка), селішча – часткі старажытнага Турава, селішча ранняга жалезнага веку (ва ўрочышчы Зарэчка) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Аб гэтым сведчаць і шматлікія інш. археал. знаходкі, у т.л. і вядомыя Тураўскія крыжы (зроблены з каменю), якія адносяцца да часоў прыняцця хрысціянства. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамі-

Тураў. Гравюра з малюнка Н.Орды. 1868.



*Помнік у гонар 1000-годдзя Турава. 1980.*



*Помнік у гонар 1000-годдзя Турава. Фрагмент.*



наецца пад 980 г. у «Аповесці мінулых гадоў». З канца 10 ст. паліт., эканам. і культурна-рэлігійны цэнтр Тураўскага княства. Першы летапісны князь Тур, ад імя якога і пайшла назва горада. У 1078—1086 гг. тут княжыў Яраполк Ізяславіч, а ў час княжання Святаполка Ізяславіча (1087—1113 гг.) яго жонка, грэчаская царэўна Варвара, заснавала ў Тураве жаночы Варварынскі манастыр. Каштоўнай культурнай спадчынай з'яўляецца Тураўскае евангелле, напісанае на пергаменце, якое захоўвалася ў Спаса-Праабражэнскай царкве Турава і было выяўлена ў 1865 г. (арыгінал у Вільнюсе, факсімільны экзэмпляр з 1995 г. ў Нац. б-цы Беларусі). Гэта адзін з самых старажытных помнікаў бел. пісьменнасці. У 1005 г. заснавана Тураўскае епіскапства, якому падпарадкоўваліся многія старажытныя сяленні, у ліку якіх Тураў, Пінск, Мазыр, Давыд-Гарадок і інш. У епархіі дзейнічала школа. У 12 ст. тут жыў і працаваў славуты дзеяч стараж.-рус. культуры, царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў Кірыла Тураўскі. Праз Тураў праходзілі водныя гандлёвыя шляхі, што садзейнічала развіццю горада. У 1140 г. літоўскія князі Кукавайціс і Манцівіл абрабавалі Тураў. У 1150 г. разам з Пінскам, Перасопніцай, Дарагабужам ён належаў Андрэю Юр'евічу, сыну вялікага князя кіеўскага, потым у валоданні князёў Валынскіх. З 1125 г. цэнтр самастойнага ўдзельнага княства. Раскопкі археолагаў пацвердзілі збудаванне ў 12 ст. храма ў Тураве, асаблівасці планіроўкі якога сведчаць аб складванні перадумоў фарміравання самастойнай арх. школы. У 1158 г. Тураў вытрымаў жорсткую 10-тыднёвую аблогу, якая вялася войскамі кіеўскага кн. Ізяслава Давыдавіча і яго саюзнікаў, а ў 1160 г. — 3-тыднёвую аблогу валынскіх князёў. Гал. абарончым збудаваннем Тураўскага замка была мураваная вежа, збудаваная ў 2-й пал. 13 ст. (разабрана ў 1830-я гг.). У канцы 12 і пач. 13 ст. вакол Турава групаваўся шэраг значных па памерах пасяленняў. У сярэдзіне 13 ст. ён зноў трапіў у залежнасць ад галіцка-валынскіх князёў. У 1241 г. разрабаваны манголамі. У 13 ст. ў выніку ваенных дзеянняў разбураны Барысаглебскі мужчынскі і Варварынскі жаночы манастыры. У пач. 14 ст. ўвайшоў у Вялікае княства Літоўскае. Пасля вял. кн. Гедзіміна Тураў дастаўся

яго сыну Нарымунту. Упамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» 1406 г. Належаў вял. кн. Свідрыгайлу. У 1480 г. пазначаны як горад, дзе мінскі мешчанін Церашковіч мог весці бязмытны гандаль. У 1508 г. кароль Жыгімонт І аддаў яго ваяводзе М.Глінскаму, у 1528 г. перададзены ў валоданне А.С.Астрожскаму. У 1502 г. і 1521 г. падвяргаўся нападам крымскіх татар. У 15 ст. ў Троцкім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1588 г. тураўскаму епіскапу адданы ў пажыццёвае валоданне Лешчанскі манастыр з прыгоннымі сялянамі. У снеж. 1596 г. захоплены паўстанцамі С.Налівайкі. Да 1632 г. месцазнаходжанне епіскапаў тураўскіх. Восенню 1648 г. разам з паўстаўшымі сялянамі (кіраўнік П.Цэўка) казацкія загоны авалодалі Туравам. У 1649 г. ўзяты штурмам і спалены войскамі Радзівіла. Па яго загаду ўсе жыхары, якія засталіся ў горадзе пасля адыходу казацка-сялянскіх атрадаў, былі перабіты. Падвяргаўся спусташэнням у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. Затым Туравам валодалі Сапегі, Патоцкія, Мастоўскія, Салагубы, Комар. У 1877 г. Тураў складаўся з 3 частак: мястэчка і прадмесцяў Заяцель і Запясочча.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці Мазырскага пав. Мінскай губ., належаў Салагубам. З 1795 г. дзейнічала Ільінская царква, новы будынак якой



Старажытны каменны крыж на Барысаглебскіх могілках у Тураве (меркаваная магіла св. Марціна Тураўскага).

быў узведзены ў 1850 г., у 1900 г. капітальна адрамантавана. У ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1786 г. Сярод царк. рэчаў вылучаліся крыж з чорнага дрэва ў срэбраным акладзе і Евангелле, выдадзенае ў 1630 г. ў Львове. У 1801 г. пабудавана Праабражэнская царква (першае яе збудаванне, паводле падання, адносіцца да часу прыняцця хрысціянства). У 1802 г. ўзведзена царква св. Кірылы (у 1883 г. рэканструявана). У 1834 г. Тураў пацярпеў ад пажару. У ліку згарэўшых былі 5 цэркваў. У 1842 г. адкрыта царкоўна-прыходская школа. У 1845 г. горад пацярпеў ад паводкі, жыхары ратаваліся на дахах будынкаў. У 1858 г. 2030 жыхароў. У 1863 г. каля Турава актыўна дзейнічалі паўстанцы. У сак. 1863 г. сяляне Турава затрымалі аднаго з кіраўнікоў паўстанцаў Рагінскага. У 1866 г. 882 двары, 2662 жыхары. Дваранін Нарэйка меў у 1875 г. ў мястэчку і наваколлі 1200 дзес. зямлі. Цэнтр





Старонкі Тураўскага Евангелля.

Каменны разны абразок «Хрыстос, Нікан і Мікалай» з археалагічных раскопак Турава. 15 ст.



Барысаглебскія могілкі ў Тураве.



Помнік Кірылу Тураўскаму на Тураўскім замчышчы. Скульптар М.М.Інькоў, архітэктар М.І.Лук'янчык. 1993.

воласці (да 17.7.1924 г.), у якую ў 1885 г. ўваходзілі 35 сяленняў з 1502 дварамі. Праз мястэчка праходзіў гандлёвы тракт з Мазыра ў Пінск. Дзейнічалі паштовая станцыя, аптэка. Паводле перапісу 1897 г. 667 двароў, 4297 жыхароў, 4 царквы, касцёл, капліца, яўрэйская малітоўная школа, прыёмны пакой, прыстань, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, 2 хлебазапасныя магазіны, 50 крам, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, 4 карчмы, фатаграфія. У аднайменным фальварку дзейнічаў паравы млын. У выніку пажару 20.4.1885 г. згарэла 27 двароў, а 18.5.1900 г. — 114 двароў. У 1908 г. 675 двароў, 6431 жыхар, фальварак і прыстань. Апрача земляробства частка жыхароў займалася сплавам лесу па Прыпяці, ганчарным промыслам, вырабам цэглы, будавалі на прыстані рачныя судны — баркі. Тураўскія майстры з даўніх часоў славіліся вышыўкамі, у т.л. залатымі ніткамі па тканіне. У выніку пажару 17.9.1907 г. згарэлі 43 двары. У 1911 г. адкрыта земскае вучылішча, у 1915 г. для яго ўзведзены ўласны будынак. Летам 1918 г. местачкоўцы стварылі партыз. атрад, які змагаўся супраць кайзераўскіх акупантаў. Вял. шкоду мястэчку нанеслі фарміраванні ген.-маёра Булак-Балаховіча. Адсюль 6.11.1920 г. ён разгарнуў наступленне на У, а летам яго чакала паражэнне. У снежні 1922 г. адкрыта б-ка. З 17.7.1924 г. да 17.4.1962 г. цэнтр Тураўскага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. З 17.4.1962 г. ў Жыткавіцкам р-не. Дзейнічалі пагранічная камендатура, лясніцтва, аграпункт, раённая бальніца, 2 т-вы саматужнікаў (у 1926 г. 105 чал.). У 1927 г. адкрыты кра-

Прыпяць у Тураве.







*Памятны знак у гонар князя К.В.Астрожскага каля царквы Усіх Святых у Тураве.*

*Цакрва Усіх Святых у Тураве.*

язнаўчы музей (размяшчаўся ў сярэдняй школе № 1), якія былі разбураны ў Вял. Айч. вайну і адноўлены ў маі 1950 г. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1932 г. арганізавана МТС. У 1931—1962 гг. выходзіла раённая газ. «Чырвоная Тураўшчына». У 1933 г. 4,5 тыс. жыхароў, дзейнічалі электрастанцыя, хімлясгас (з 1929 г.), маслазавод (з 1933 г.), мэблевая ф-ка (з 1932 г.), друкарня (з 1931 г.), паравы млын з лесапільняй (з 1929 г.), 2 цагельні, кравецкая, шавецкая, аўчынна-шубная арцелі, дрэваапрацоўчая майстэрня, 4 кузні, радыёвузел. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак.

У першыя дні Вял. Айч. вайны для патрэб Чырвонай Арміі на базе раённай бальніцы быў створаны ваенны шпіталь. У ліп. 1941 г. мясцовы знішчальны атрад сумесна з часцямі Чырвонай Арміі абараняў Тураў ад ворага. Перадавыя атрады ням. фашыстаў захапілі Тураў 15.7.1941 г. На базе знішчальнага атрада 23.7.1941 г. быў створаны Тураўскі партызанскі атрад. У ноч на 4.8.1941 г. чырвонаармейцы пад камандаваннем капітана Даніленкі і партызаны Тураўскага атрада выбілі акупантаў з Турава. Варожыя падраздзяленні ўварваліся 14.8.1941 г. ў гар. пасёлак, але сумесным ударам чырвонаармейцаў і партызан Тураў зноў быў вызвалены. З 23.8.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 31.10.1941 г. да ліп. 1944 г. дзейнічала патрыят. падполле (кіраўнікі І.Л.Хілінскі, потым А.В.Сідараў, а з кастр. 1942 г. С.В.Царык). Падпольшчыкі перадавалі партызанам звесткі разведкі, распаўсюджвалі лістоўкі і газеты, у маі 1942 г. ўзарвалі аўтамабіль з жывой сілай ворага, а 23.10.1943 г. ўзарвалі будынак паліцыі і камендату-

*Брацкая магіла савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні Турава ў 1944.*





*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у Тураве.*

ры. 170 жыхароў Турава, а таксама 35 чалавек з варожых фарміраванняў пайшлі ў партыз. атрады. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 329 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае абеліск, пастаўлены ў 1972 г. на вул. Ленінскай. У баях за пасёлак у ліп. 1944 г. загінуў 151 воін (пахаваны ў брацкіх магілах па вуліцах Ленінскай, Чапаева і на могілках). Дзейнічаюць прамкамбінат, пладова-агароднінны з-д, спецыялізаванае аддзяленне «Сельгастэхнікі», камбінат бытавога абслугоўвання, упраўленне дзярж. ландшафтна-гідралагічнага запаведніка, 2 сярэднія і музычная школы, дзіцячы сад, Дом школьнікаў, Дом культуры, аддз. сувязі, 2 масавыя б-кі, бальніца. Шырока вядомы ў раёне і за яго межамі нар. ансамбль танца «Прыпяць» Тураўскага Дома культуры. У 1976 г. да гар. пасёлка далучана в. Дварэц. Цэнтр калгаса «Новае жыццё». Планіровачна складаецца з 2 частак: заходняй (сетка мерыдыянальных вуліц, перакрыжаваных шыротнымі, што ўтварае невял. кварталы) і ўсходняй (былая в. Дварэц — 3 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, да якіх з Пд далучаюцца 3 і з Пн 4 кароткія вуліцы). Забудова мураваная і драўляная, шчыльная, пераважна сядзібнага тыпу. У пач. 1990-х гг. збудаваны 40 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй у выніку Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма доктара філалагічных навук, прафесара, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі Н.С.Перкіна, паэтэсы Г.М.Дашкевіч (дзявочае прозвішча Клімовіч), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў патрыят. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.С.Бяляя, мастакоў Р.М.Данчанкі, Т.І.Паўлючук і засл. настаўніка Беларусі Р.П.Акліча. Непадалёку размешчана радовішча гаручых сланцаў.

**ХАЧЭНЬ** — вёска ў Рычоўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 266 км ад Гомеля, на р. Сцвіга (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 89 гаспадарак, 179 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Тураўскай вол. Мазыр-



*Тураў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*



*Тураў. Будынак пасялковага Савета.*

скага пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 18 двароў, уладанне казны. У 1816 г. 94 жыхары. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1834 г. ў складзе Тураўскага казённага маёнтка. У 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Старажоўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 302 жыхары. У 1908 г. 51 двор. У 1914 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 399 жыхароў, у 1925 г. 80 двароў, у 1940 г. 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 22 і 23 снежня 1942 г. партызаны вялі каля вёскі цяжкі бой супраць ням. акупантаў. Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар Рай). У сак. 1944 г. карнікі спалілі 56 двароў, загубілі 7 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 420 жыхароў. У складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Рычоў). Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, кансервавы з-д, 2 сярэднія і музычная школы, краязнаўчы музей, 2 масавыя б-кі, бальніца, 3 дашкольныя ўстановы. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, якая на У далучаецца да прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. На З да асноўнай далучаецца з Пд пад вострым вуглом кароткая крывалінейная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВАЕНСК** — вёска ў Азяранскім с/с, за 36 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 269 км ад Гомеля; на Пд і У мяжуе з лесам, на Пд нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 146 гаспадарак, 270 жыхароў (2004 г.).

Выяўлены археолагамі курганны могільнік (2 насыпы, за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1520 г. кн. К.Астрожкі запісаў вёску Тураўскаму Успенскаму сабору. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ. 18 двароў. У 1834 г. 20 двароў, 171 жыхар, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 309 жыхароў. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 58 двароў, 401 жыхар, паравы млын. У 1912 г. адкрыта школа. У 1925 г. 92 двары. У выніку пажару 25.9.1927 г. згарэлі 7 хат і 19 гасп. пабудоў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычніцкая перамога», працавалі паравы млын і кузня. У 1940 г. 128 двароў, 655 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі 124 двары і загубілі 28 жыхароў. Вызвалена 21.3.1944 г. 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 830 жыхароў. У складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Азяраны). Дзейнічаюць сталярная майстэрня, лесапільня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных шыротных вуліц, перакрыжаваных у цэнтры прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВАЕНСК** — пасёлак у Азяранскім с/с, за 36 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 269 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрніцы—Жыткавічы. 253 гаспадаркі, 541 жыхар (2004 г.).

Заснаваны ў 19 ст. ў сувязі з разгарнуўшыміся тут лесараспрацоўкамі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычніцкая перамога». Паводле перапісу 1959 г. 1400 жыхароў. Дзейнічаюць Тураўскі лpraspрамгас, аддз. сувязі, б-ка, бальніца. Планіровачна складаецца з 4 шчыльна пастаўленых вуліц шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных 3 мерыдыянальнымі вуліцамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВОЙКА** — вёска ў Дзякавіцкім с/с, за 61 км на ПнУ ад Жыткавіч, 36 км ад чыг. ст. Старушкі (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 294 км ад Гомеля; вакол

лес. Побач аўтадарога Марохарава—Любань. 93 гаспадаркі, 228 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. У 1908 г. ўрочышча ў Дзякавіцкай вол. Мазырскага пав., 3 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. 45 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае Палессе». У 1930-х гг. у вёску перасялены жыхары бліжэйшых хутароў, у выніку чаго склалася новая вуліца. У 1940 г. 96 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. У баях каля вёскі ў 1944 г. загінулі 22 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). 41 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 493 жыхары. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дзякавічы). Дзейнічаюць клуб, пач. школа, б-ка. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з З далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХІЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Рычоўскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 242 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тураў—Лельчыцы. 207 гаспадарак, 524 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча 1-й пал. 1-га тыс. н.э. (за 0,5 км на Пд ад вёскі), селішча жалезнага веку на месцы стаянкі бронзавага веку (за 2 км на ПдЗ ад вёскі) і паселішча 8—5-га тыс. да н.э. (за 1 км на Пн ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 33 двары, уладанне казны. У 1816 г. 187 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Тураўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 424 жыхары, кузня. У 1908 г. 67 двароў, 498 жыхароў. У выніку пажару 23.9.1908 г. згарэлі 22 двары. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», працавала кузня. У 1940 г. 132 двары, 585 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. і сак. 1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 65 землякоў, памяць аб якіх ушаноўвае мемарыяльная дошка, устаноўленая ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 738 жыхароў. Цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». Дзейнічаюць швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 шчыльна пастаўленых прамалінейных, шыротнай арыентацыі вуліц, перакрыжаваных 3 мерыдыянальнымі вуліцамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма паэта П.М.Шруба.

**ХІСЦЕЦКІ БОР** — вёска ў Чырвоненскім с/с, за 10 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 228 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 26 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 8 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, працавала кузня. У 2-й пал. 1930-х гг. у вёску сселены жыхары бліжэйшых да яе хутароў. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Чырвоны Бор» (цэнтр — в. Семянча). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХЛУПІН**— вёска ў Перароўскім с/с, за 49 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 282 км ад Гомеля; на Пн воз. Песа, на Пд нац. парк «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрніцы—Жыткавічы. 138 гаспадарак, 377 жыхароў (2004 г.).

У 19 ст. ў вёсцы знаходзіўся адзін з Тураўскіх крыжоў (з каменю, адносіцца да часоў прыняцця хрысціянства), што сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 17 двароў, у 1816 г. 73 жыхары, у 1834 г. 19 двароў, 130 жыхароў, у Тураўскім казённым маёнтку. З 1896 г. працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 294 жыхары. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 412 жыхароў. У 1911 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 446 жыхароў. У выніку пажару, які быў учынены 5.11.1920 г. войскам Булак-Булаховіча, загінулі 6 жыхароў. У 1925 г. 87 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У 1940 г. 112 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. За час акупацыі карнікі загубілі 58 жыхароў. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 657 жыхароў. Цэнтр агракомплекса «Хлупін» нац. парка «Прыпяцкі». Дзейнічаюць 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай уздоўж возера з ПдЗ на ПнУ, да якой з У далучаецца завулак. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХЛУПІНСКАЯ БУДА** — вёска ў Перароўскім с/с, за 52 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 284 км ад Гомеля, на тэрыторыі нац. парка «Прыпяцкі». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Чэрнічы—Жыткавічы. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Перароўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 24 жыхары. У 1908 г. 13 двароў, 56 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары. У складзе нац. парка «Прыпяцкі». Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦІМАШЭВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад Жыткавіч, 21 км ад чыг. ст. Мікашэвічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 282 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк. 79 гаспадарак, 116 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. Паводле інвентара 1820 г. 11 двароў, у складзе фальварка Леніна, ва ўладанні палкоўніка Бабанскага. У 1834 г. 26 двароў, у валоданні кн. Л.П.Вітгенштэйна. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 263 жыхары. У 1908 г. ў Ленінскай вол., 32 двары. Паводле Рыжскага дагавора 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 90 двароў, 459 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лютым 1943 г. ням. акупанты спалілі 89 двароў і загубілі 38 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 490 жыхароў. У складзе саўгаса «Ленінскі» (цэнтр — в. Леніна). Дзейнічаюць аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАРАЦЯНКА** — вёска, падпарадкавана Жыткавіцкаму гар. Савету, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 245 км ад Гомеля; на Пд і У мяжуе з лесам, на Пн Жыткавіцкі батанічны заказнік рэсп. значэння. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым

аўтадарозе Жыткавічы—Чэрнічы, 30 гаспадарак, 56 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Людзяневіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 48 жыхароў. У 1908 г. 11 двароў, 93 жыхары, у 1917 г. 195 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1921 г. 36 двароў, 301 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Чарацянка», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. спалілі вёску. Вызвалена 5.7.1944 г., 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Цэнтр вучгаса СПТВ-182. Дзейнічаюць пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАЕ** — пасёлак, цэнтр Чырвоненскага с/с, за 24 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 257 км ад Гомеля; на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Марохарава—Любань. 569 гаспадарак, 1490 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Асноўнымі заняткамі пасялкоўцаў, апрача земляробства, былі рыбная лоўля і здабыча торфу. Дзейнічаюць торфабрыкетны з-д «Жыткавічы», сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Забудова муравая і драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА** — пасёлак у Руднянскім с/с, за 6 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 239 км ад Гомеля; на У вадаём рыбгаса, на Пд і З лес. Побач аўтадарога Жыткавічы—Чэрнічы. 88 гаспадарак, 206 жыхароў (2004 г.).

Заснаваны ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 286 жыхароў. Цэнтр рыбгаса «Чырвоная Зорка». Дзейнічае б-ка. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі (уздоўж вадаёма) і забудаванай пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЭРНІЧЫ** — вёска, прыстань на р. Прыпяць, у Азяранскім с/с, за 26 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 259 км ад Гомеля, на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з Жыткавічамі. 134 гаспадаркі, 247 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі селішча ранняга жалезнага веку (за 0,5 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Старое Сяло) і селішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага часу (за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Балонне) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска у Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Шматлікія сядзібы і лясы, што былі побач, выкупіла ў графа Салагуба і ген. Сялябіна англійская кампанія, якая за 3 гады вырубіла і вывезла шмат лесу. Імператар Павел I загадаў вярнуць кампаніі грошы і спыніць знішчэнне лесу. У 1811 г. 48 двароў, уладанне казны. У 1816 г. 248 жыхароў. У 1834 г. 252 жыхары, у складзе Тураўскага казённага маёнтка. У 1864 г. ўпамінаецца ў запісах афіцэраў Ген. штаба рас. арміі, якія вывучалі гэту мясцовасць. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 520 жыхароў, часоўня, кузня. У 1908 г. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 78 двароў, 648 жыхароў. У 1914 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 117 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «16 партз'езд», працавала кузня. У 1940 г. 120 двароў, 580 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням. акупанты спалілі 110 двароў і загубілі 40 жыхароў. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 620 жыхароў. У складзе калгаса

«Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Азараны). Дзейнічаюць клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд пад вострым вуглом далучаюцца 2 паралельныя прамалінейныя вуліцы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЮРКЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Юркевіцкага с/с, за 28 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жыткавічы (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 251 км ад Гомеля; на У вадаём рыбгаса, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 111 гаспадарак, 254 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентара 1742 г. 11 дымоў, 9 коней, 30 валоў, карчма. У інвентарах 1747, 1776 і 1789 гг. пазначаны як прыватнаўласніцкі фальварак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1816 г. ўладанне Кеневічаў. У 1834 г. 24 двары. У 1850 г. цэнтр аднайменнага маёнтка. У 1879 г. ўпамінаецца ў ліку сяленняў Ленінскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. вёска (309 жыхароў) і фальварак (47 жыхароў), хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 44 двары, 343 жыхары, у 1917 г. 380 жыхароў. Дзейнічала земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 57 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Юркевіцкага с/с Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.), з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. Размяшчалася пагранічная камендатура. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», дзейнічалі смалярня і кузня. У 1932 г. пабудавана памяшканне для пач. школы. У 1940 г. 88 двароў, 456 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група. У лютым 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. У баі каля вёскі загінулі 6 воінаў і 7 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў парку). 87 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 515 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі Жыткавіцкага маторабудаўнічага з-да. Дзейнічаюць участак Жыткавіцкага лясгаса, смолзавод, швейная майстэрня, лясніцтва, сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 4 магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца 2 завулкі, з З — 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара медыцынскіх навук В.Р.Лінкевіч.

**ЯМІЦЫ** — вёска ў Руднянскім с/с, за 13 км на У ад Жыткавіч, 3 км ад чыг. ст. Брынёва (на лініі Лунінец—Калінкавічы), 224 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Калінкавічы. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Заснавана ў 19 ст. як хутар у Жыткавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1879 г. ўпамінаецца як сяленне ў Жыткавіцкім царк. прыходзе. У 1908 г. 4 двары, 31 жыхар, у 1917 г. 73 жыхары, у 1921 г. 15 двароў, 88 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Яміцы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 5.7.1943 г. вызвалена ад ням. акупантаў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў. У складзе саўгаса «Жыткавічы» (цэнтр — пас. Грабянёўскі). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Архіў Гомельскага абласнога краязнаўчага музея, ф. 5, спр. 2.
Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 311, спр. 248.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2331; ф. 6, воп. 1, спр. 2470; ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6753, 6755; ф. 34, воп. 1, спр. 801; ф. 42, воп. 2, спр. 964, 969, 974—977, 979—984, 1676, 1680, 1749, 1815—1817, 1820—1822, 1824, 1825, 1827, 1829, 1830, 4587,

4592, 4594, 4600, 4604, 4606; ф. 3126, воп. 1, спр. 454; ф. 332, воп. 1, спр. 919; ф. 353, воп. 1, спр. 3801; ф. 4386, воп. 2, спр. 380.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333; воп. 1, спр. 381; воп. 9, спр. 48, 54, 56, 60, 62, 63, 166, 166а, 380, 381, 473, 553, 555, 583, 585, 593, 729; ф. 440, воп. 1, спр. 7; ф. 694, воп. 2, спр. 1233; ф. 834, воп. 1, спр. 5; ф. 854, воп. 1, спр. 2, 10; ф. 1401, воп. 2, спр. 3; ф. 1461, воп. 2, спр. 9; ф. 1477, воп. 1, спр. 1724; ф. 1595, воп. 2, спр. 1916; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 946, 968, 1230, 1563, 1564, 1567, 1574, 2034, 2040, 2042, 2173, 2272, 22.3, 2422/2.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 389, воп. 1, спр. 166; ф. 1290, воп. 11, спр. 1318, 1321.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 2, 5. СПб., 1848—53.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9. Ч. 4. СПб, 1848.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Зеленский И. Минская губерния. Ч. 1. СПб., 1864.
Географо-статистический словарь Российской империи. Т. 3. СПб., 1867.
Ревизии пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском, составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем. Вильна, 1867.
Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.
Список землевладельцев Минской губернии на 1876 год. Мн., 1877.
Памятная книжка Минской губернии на 1878 год. Ч. 2. Мн., 1878.
Описание церквей и приходов Минской епархии, составленное по официально затребованным от причтов сведениям. Вып. 5. Мн., 1879.
Живописная Россия. Т. 3. СПб.; М., 1882.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.
Обзор Минской губернии за 1900 год. Мн., 1901.
Товаров А.В. Памятная книжка Минской епархии на 1901 год. Мн., 1901.
Вся Россия. СПб., 1902.
Обзор Минской губернии за 1901 год. Мн., 1902.
Обзор Минской губернии за 1904 год. Мн., 1905.
Обзор Минской губернии за 1907 год. Мн., 1908.
Обзор Минской губернии за 1908 год. Мн., 1909.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Обзор Минской губернии за 1909 год. Мн., 1910.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книга записей. Т. 1. СПб., 1910.
Виленский временник. Кн. 6. Вильна, 1915.
Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3 (1900—1917 гг.). Мн., 1953.
Воссоединение Украины с Россией. Т. 2. М., 1954.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1, Мн., 1959.
Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура. М., 1964.
Полки идут на запад: Воспоминания и очерки об освобождении Белоруссии от фашистских оккупантов. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Древности Белоруссии. Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 3. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Жыткавіцкага раёна. Мн., 1994.
З глыбіні вякоў: Наш край. Вып. 2. Мн., 1997.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.



# КАЛІНКАВІЦКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. ў Мазырскай акрузе, 27.9.1930 г. перайменаваны ў Мазырскі р-н, з 3.7.1939 г. зноў утвораны Калінкавіцкі р-н у Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай вобл. 16.9.1959 г. ў сувязі са скасаваннем Васілевіцкага р-на ў склад Калінкавіцкага р-на ўключаны Зеляноцкі, Ліпаўскі, Нахаўскі, Чкалаўскі, Хобенскі с/с і в. Навінкі Васілевіцкага с/с. 20.1.1960 г. ў сувязі з ліквідацыяй Даманавіцкага р-на ў Калінкавіцкі р-н ўключаны Даманавіцкі, Капліцкі, Крукавіцкі, Навасёлкаўскі, Хоміцкі с/с і г.п. Азарычы з падпарадкаванымі пас. савету населенымі пунктамі. Уключае 132 населеных пункта. Размешчаны ў цэнтр. частцы Гомельскай вобласці, у межах Гомельскага Палесся. На ПдУ — Юравіцкае



Жанчыны Калінкавіцкага раёна ў святочным адзенні (1920-я г.).



Калінкавіцкі строй (1920-я г.).

ўзвышша. Мяжуе на Пд з Мазырскім, на У — з Хойніцкім і Рэчыцкім, на Пн — са Светлагорскім і Акцябрскім, на З — з Петрыкаўскім р-намі. Плошча — 2744 км$^2$, насельніцтва — 68,2 тыс. чалавек. Сярэдняя шчыльнасць 30,8 чал. на 1 м$^2$. Гарадское насельніцтва — 31,2%. Цэнтр — г. Калінкавічы, 22 сельсаветы і пасялковы Савет. Рэкі: Прыпяць з прытокамі Трэмля, Іпа, Ненач, Закованка, Віць. З мінеральных глеб 76,4% пясчаных, 19,8% супясчаных, 3,8% суглінкавых. Пад с.-г. угоддзямі 40% тэрыторыі. Якасць ворных зямель 42 балы, кармавых угоддзяў — 34, усіх с.-г. угоддзяў — 38 балаў. Пад лесам 48% тэрыторыі. 19 калгасаў, 10 саўгасаў, эксперыментальная база і доследная с.-г. станцыя. Асушана 65 тыс. га забалочаных зямель, у тым ліку 34 тыс. га тарфянікаў. Праходзяць чыгункі Брэст—Гомель і Жлобін—Оўруч, аўтадарогі Бабруйск—Калінкавічы—Оўруч, Гомель—Жыткавічы, Лельчыцы—Калінкавічы і інш. 53 агульнаадук. школы, 1

спец. школа-інтэрнат, 40 дашкольных устаноў, краязнаўчы музей, 55 клубных устаноў, 46 б-к, 74 спарт. збудаванні, 4 бальніцы, 39 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 279 устаноў гандлю і грамадскага харчавання.

**КАЛІНКАВІЧЫ** — горад, цэнтр Калінкавіцкага р-на, вузел чыгунак Лунінец—Гомель, Жлобін—Оўруч, за 122 км на З ад Гомеля, за 275 км ад Мінска. Плошча 17 км². Аўтадарогамі звязаны з Гомелем, Парычамі, Жыткавічамі, Славечнам. 37,8 тыс. жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы бронзавага і ранняга жал. вякоў, а таксама эпохі Кіеўскай Русі (0,5 км на ПдЗ ад горада) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Аб гэтым сведчыць і знойдзены ў 1961 г. ў Калінкавічах манетны скарб (загорнутыя ў тканіну, каля 2,5 тыс. манет, пераважна медныя соліды Каралеўства Польскага і ВКЛ 1660—61, 1663—66 гг., схаваныя ў 2-й пал. 17 — 1-й пал. 18 ст.). Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як в. Валенкавічы Мазырскага пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, вялікакн. ўласнасць. Упершыню ўпамінаецца пад 1560 г., у Багрымавіцкім старостве Мазырскага пав. Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб межах Каленкавіч з в. Гулевічы. У 1778 г. сяленне (25 хат), цэнтр Каленкавіцкай парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1793 г. да 1805 г. ва ўладанні кн. Шахаўскога. У 1795 г. мяст. Старыя Каленкавічы (35 двароў) і в. Новыя Каленкавічы, на паштовай дарозе Бабруйск—Мазыр. З 1805 г. уласнасць казны, у арэндзе М.Міражнікавай. У 1839 г. 64 двары. У 1856 г. ўзведзены будынак Мікалаеўскай царквы (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1827 г.). У 1858 г. 653 жыхары. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1885 г. 42 вучні). У 1866 г. 100 двароў. Памешчык Галалобаў меў у вёсцы ў 1876 г. 71 дзес. зямлі, крупарушку. Са здачай у эксплуатацыю 15.2.1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачала дзейнічаць чыг. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 1096 жыхароў, 2 малітоўныя школы, 2 майстэрні па апрацоўцы скур, з-д колавай мазі, 27 лавак, 3 карчмы, 3 пастаялыя двары. У сяле Каленкавічы ў гэты час былі 73 двары, 388 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Меліся паштова-тэлегр. кантора, аптэка. У 1908 г. мястэчка (196 двароў, 2022 жыхары), сяло (63 двары, 487 жыхароў) і фальварак (2 двары, 14 жыхароў). З 1909 г. дзейнічала гандлёва-прамысловае т-ва. У 1916 г., калі закончылася будаўніцтва чыг. Жлобін—Оўруч, Калінкавічы сталі важным транспартным вузлом. У крас. 1917 г. створаны валасны Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З 26.4.1919 г. ў Рэчыцкім пав. Гомельскай губ. З 24.2 да 17.12.1918 г. пад акупацыяй германскіх, з 6.3 да 29.6.1920 г. — польскіх войск, якія толькі ў выніку пагрому, учыненага ў сак. 1920 г., загубілі 19 чалавек. 10.11.1920 г. мястэчка захапілі банды С.Н.Булак-Балаховіча, якія ўчынілі жорсткія расправы над мірнымі людзьмі (загубілі 45 чалавек). 17.11.1920 г. Калінкавічы вызвалены. З 9.5.1923 г. да 17.4.1924 г. цэнтр Калінкавіцкай вол., у склад якой увайшлі тэрыторыі скасаваных Аўцю-



*Цэнтр г. Калінкавічы.*

цевіцкай і Дудзіцкай валасцей. З 17.7.1924 г. у складзе БССР. У 1924—30 гг. і з 1939 г. цэнтр Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г.) акр. З 3.7.1925 г. гар. пасёлак, які хутка рос. У 1926 г. 6152, у 1939 г. 9799 жыхароў. Дзейнічалі рамеснае т-ва (у 1926 г. 109 чалавек), паравы млын з лесапільняй (з 1916 г.), бачарня, кузня, электрастанцыя (з 1932 г.), цагельня (з 1930 г.), ткацкая (з 1927 г.), шавецкая (з 1929 г.), кравецкая (з 1929 г.) майстэрні, тэлеф. станцыя (з 1929 г.), конная крупарушка (з 1917 г.). У 1930-х г. пабудаваны грыбакансервавы камбінат, ф-ка гнутай мэблі і шмат інш. прадпрыемстваў і жылля. Працавалі лесазавод, МТС, лясгас (з 1936 г.), швейная, шавецкая, абодная і бандарная арцелі, калгас «Чырвоны араты», раённая бальніца і б-ка, 3 сярэднія школы (адкрыты з 1932, 1934 і 1936 гг.), выходзіла раённая газета. З 20.2.1938 г. ў Палескай, з 8.1.1954 г. ў Гомельскай вобл. У 1939 г. 9,8 тыс. чалавек. У маі 1941 г. ў Калінкавічы пераведзена Мінскае ваенна-пяхотнае вучылішча. У Вял. Айч. вайну ў час абарончых баёў 1941 г. супраць ням.-фаш. захопнікаў мужна змагаўся мясц. знішчальны батальён. 21.8.1941 г. горад захоплены ням. войскамі. З вер. 1941 г. да снеж. 1943 г. дзейнічала падп. арганізацыя «Смугнар» («Смерть угнетателям народа»), кіраўнікамі былі К.М.Бакун, К.Я.Ярмілаў, М.Судак. У чэрв. 1942 г. партызаны ўзарвалі электрастанцыю. Вялікую падрыўную работу вяла падп. група чыгуначнікаў (кіраўнікі П.С.Ануфрыеў і В.І.Баравік), куды ўваходзілі 37 чал. У жн. 1942 г. акупанты арыштавалі і загубілі большасць членаў падп. арганізацыі. З вер. 1942 г. дзейнічала маладзёжная падп. арганізацыя (кіраўнік М.М.Судас, 11 чалавек). 27.9.1941 г. акупанты расстралялі 300 вязняў (старых, жанчын, дзяцей; пахаваны ў магіле ахвяр фашызму на вул. Савецкай, каля чыг. пераезда). За час акупацыі загублена 455 жыхароў. Вызвалены 14.1.1944 г. воінамі 61-й арміі. У баях за вызваленне Калінкавіч загінулі 853 воіны (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Савецкай і Куйбышава). У ліку пахаваных Героі Сав. Саюза А.Дз.Данілаў, А.М. Азёрын, М.С.Барысаў, Ц.І.Брагонін, М.І.Быкоўскі, А.А.Лысенка, А.Р.Ніканаў, Б.М.Сураўцаў, П.М.Суркоў. 12.1.1944 г. ў раёне горада камандзір 54-га бамбардзіровачнага палка, палкоўнік М.А.-Крыўцоў накіраваў самалёт, які загарэўся, на скапленне варожых войск. 21-й часці і злучэнню прысвоена найменне «Калінкавіцкіх». Адна з вуліц горада носіць імя ген.-палк. П.А.Бялова, кавалерыйскі корпус якога ўдзельнічаў у вызваленні Калінкавіч. У барацьбе супраць акупантаў на фронце і ў партызанах загінулі 720 жыхароў. У 1959 г. 14,9 тыс. чалавек. З 7.3.1963 г. горад абл. падпарадкавання. У 1966 г. да горада далучана суседняя в. Карчага. У 1970 г. 23,9 тыс. жыхароў. Размешчаны мясакамбінат (з 1930 г.), хлебазавод, ф-кі мэблевая (з 1960 г.) і бытавой хіміі (склалася ў 1960-я г. на базе створанай у 1930-х г. арцелі «Спартак»), Палескі хімлясгас, камбінаты хлебапрадуктаў (з 1959 г.) і бытавога абслугоўвання, прамкамбінат, плодакансервавы камбінат, рамонтна-механічны з-д, раённае аб'яднанне і Палескае спецыялізаванае аддз. сельгасхіміі, з-д і палігон жалезабетонных вырабаў, цэх Мазырскага домабудаўнічага камбіната, з-д дахавых матэрыялаў, раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, аўтатранспартнае прадпрыемства, лакаматыўнае дэпо. Дзейнічаюць 9 сярэдніх, муз. і спарт. школы, 17 дашкольных устаноў, Дом школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 60 спарт. збудаванняў, 2 паліклінікі, 3 бальніцы, 4 б-кі, 6 аддз. сувязі, райаграпрамтэхніка, аптэка, краязнаўчы музей (адкрыты 23.3.1991 г.). Працуе мясц. радыёвяшчанне, выходзіць раённая газ. «Калінкавіцкія навіны» (з 1941 г.). 4.11.1993 г. адкрыта царква ў імя Казанскай Багародзіцы. Планіроўка

квартальная, абапал чыгункі, на Пд шаша Лунінец—Гомель адасабляе вял. ўчастак горада. Забудова цэнтра вялася на аснове гіст. плошчы, перыметр якой забудаваны грамадскімі будынкамі. Найбольш старажытнымі з'яўляюцца вуліцы Сялянская, Савецкая, Чырвонаармейская, Пралетарская, Калініна і завулкі Сялянскі і Мазырскі. Узведзены новыя мікрараёны Поўнач, Цэнтр, Меліяратар, Залінейны, Паўднёва-Усходні. У цэнтры горада — мемарыяльная Алея Герояў. Забудова мураваная і драўляная, значная яе частка шматпавярховая. Радзіма яўр. паэта С.А.Ляльчука, бел. пісьменнікаў В.А.Казько, Я.І.Сергіевіча, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР А.Г.Выгоннага, засл. дзеяча мастацтва БССР К.К.Казелкі, бел. мастакоў А.І.Дулубу, Т.І.Кіршчынай, доктара эканам. навук, праф. А.І.Мілюкова, засл. трэнера БССР В.П.Капылова, маці-гераіні С.І.Федаровіч (выгадавала 10 дзяцей). Паблізу ёсць залежы гліны, суглінку і жалезняку.

**АБУХАЎШЧЫНА** — вёска у Бярозаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 166 км ад Гомеля. На З — пойма р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 32 гаспадаркі, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1834 г. 25 двароў. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Абуховіча, 26 двароў, 217 жыхароў, у 1876 г. 2162 дзес. зямлі і 3 конныя млыны. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Юравіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 524 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 44 двары. У 1930 г. 79 двароў, 432 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Абухаўшчына». У 1940 г. 90 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 360 жыхароў. У 1970 г. 327 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Нахаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**АВАНГАРД** (Лускі, да 1937 г. Камуна) — вёска у Даманавіцкім с/с, за 31 км на Пн ад Калінкавіч, 6 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 153 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 47 гаспадарак, 82 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў. У складзе калгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Халоднікі). Планіровачна складаецца з дугападобнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 157 км ад Гомеля; на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 97 гаспадарак, 236 жыхароў (2004 г.).

У 1958 г. ў вёсцы знойдзены манетны скарб, які адносіцца да 1635 г., што сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ў валоданні Аскеркаў. У 1834 г. 17 двароў. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Алексіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 77 двароў, 500 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1908 г. ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав., 85 двароў, 580 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 9.6.1927 г. цэнтр Агародніцкага с/с Юравіцкага р-на Рэ-

чыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1930 г. 150 двароў, 731 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны партызан» і імя В.М.Молатава, пач. школа (у 1935 г. 143 вучні), 2 кузні, паравы млын, вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 88 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 74 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 465 жыхароў. Цэнтр калгаса імя В.І.Чапаева. Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя сад-яслі, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаецца кароткая вуліца. Забудова рэдкая, драўляная сядзібнага тыпу.

**АЗАРЫЧЫ** – гарадскі пасёлак, цэнтр Азарыцкага пас. савета, за 42 км на Пн ад Калінкавіч, 20 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы–Жлобін), 164 км ад Гомеля, на р. Віша (прыток р. Іпа). Аўтадарога звязвае Азарычы з Калінкавічамі, Бабруйскам, Акцябрскім. 1,5 тыс. жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 1559 г. ўпамінаецца ў матэрыялах рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных. У 1762 г. ўладальнік мястэчка Царынскі збудаваў тут Петрапаўлаўскую драўляную царкву. Польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1786 г. надаў Азарычам правы мястэчка і дазволіў правядзенне 2 штогадовых кірмашоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Імператар Павел I у 1799 г. пажалаваў староства Азарыцкае з усімі вёскамі, якія яму належалі, тайнаму саветніку Л.Лашкарову. У час нашэсця Напалеона французскія фуражыры ў ліп. 1812 г. абрабавалі вёску, але з-за актыўных дзеянняў рус. войскаў тут яны болей не паяўляліся. У 1838 г. 64 двары. У 1858 г. 700 жыхароў, у 1866 г. 101 двор. Памешчык Н.Г.Лашкароў меў тут у 1862 г. 1200 дзес. зямлі, вадзяны млын (з 1859 г.), карчму. У 1869 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 69 вучняў). У хуткім часе была адкрыта і гімназія, для якой у 1912 г. збудавана ўласнае памяшканне. Памешчык Дацэнка меў тут 628 дзес. зямлі і вадзяны млын. Праз Азарычы праходзіла ваенна-камунікацыйная дарога. У 1885 г. цэнтр воласці, у якую ўваходзілі 16 сяленняў з 319 дварамі. Вялікую шкоду мястэчку наносілі пажары, якія здараліся час ад часу. 24.4.1881 г. пажар знішчыў 21, а 2.8.1899 г. – 39 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 132 двары, 850 жыхароў, царква, 2 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, 8 лавак, аптэка, карчма, прыёмны пакой. У 1899 г. ўзведзены драўляны будынак Васкрасенскай царквы. У 1908 г. 230 двароў, 2025 жыхароў. У чэрв. 1915 г. навабранцы разам з прыбыўшымі на кірмаш сялянамі разграмілі некалькі лавак і крам. У 1913 г. адкрыты бальніца і тэлефонны вузел, мелася паштовае аддз. Каля мястэчка ў 1920 г. дзейнічаў партыз. атрад (да 500 чал.), які змагаўся супраць польскіх войскаў. 3.7.1920 г. Азарычы вызвалены ад польскіх акупантаў. На базе нар. вучылішча і гімназіі ў 1923 г. створана 7-гадовая школа. У 1925 г. 136 двароў, 884 жыхары. З 20.8.1924 г. да 17.11.1959 г. цэнтр Азарыцкага с/с, з 25.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. З 15.7.1935 г. да 27.9.1938 г. мястэчка, з 17.7.1924 г. да 8.7.1931 г. цэнтр Азарыцкага р-на. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі 2 рамесныя т-вы (у 1926 г. 99 чалавек), кузня, шавецка-кравецкая і мэблевая (з 1929 г.) майстэрні, паравы млын (з 1911 г.). У 1940 г. 357 двароў, 1265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 17.2.1942 г. партызаны ў выніку 3-х гадзіннага бою разграмілі варожы гарнізон, які стварылі ням. акупанты ў вёсцы. Было за-

хоплена 6 станкавых і 2 ручныя кулямёты, 35 вінтовак, шмат патронаў, у ням. банку — 3 мяшкі савецкіх грошай і аблігацый, якія затым былі перапраўлены ў Маскву, вяскоўцам раздадзена 850 т збожжа. У студз. 1944 г. карнікі спалілі 280 двароў, загубілі 487 жыхароў. У сак. 1944 г. непадалёку ад вёсак Азарычы, Дзерць і Падасінавік акупанты стварылі 3 лагеры смерці, куды пад выглядам эвакуацыі прывезлі больш за 50 тыс. грамадзян з розных месц. Людзі ўтрымліваліся пад адкрытым небам, на абгароджаных калючым дротам пляцоўках, над імі ўчыняліся масавыя здзекі: атручвалі, заражалі сыпным тыфам і іншымі інфекцыйнымі хваробамі для распаўсюджання іх сярод мясц. насельніцтва і воінаў Чырв. Арміі. Да вызвалення засталося ў жывых 33 480 чалавек (у 1965 г. тут узведзены мемарыяльны комплекс). Вызвалена 20.1.1944 г. часцямі 65-й арміі. У баях за Азарычы загінулі 659 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах па вул. Самсонавай і Бабруйскай). На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 197 жыхароў. У пасляваенны час была цэнтрам Даманавіцкага р-на да яго ліквідацыі 20.1.1960 г. Паводле перапісу 1959 г. 1799 жыхароў. З 17.11.1959 г. гар. пасёлак. Адначасова быў ліквідаваны Азарыцкі с/с, а населеныя пункты гэтага с/с перададзены ў адм. падпарадкаванне Азарыцкага пас. савета. У 1966 г. да Азарыч далучана в. Холма. Цэнтр саўгаса «Азарычы». Дзейнічаюць маслазавод, лясгас, хлебапякарня, цэх камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, дзіцячы сад, аптэка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх з З далучаецца сетка прамалінейных вуліц. На Пд адасоблены ўчастак забудовы. Для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц у 1990—91 гг. пабудаваны мураваныя дамы на 148 сямей. Радзіма літаратуразнаўцы, праф. Ц.Б.Ліякумовіч і доктара фізіка-матэм. навук, праф. Р.А.Шульмана, засл. трэнера БССР Д.І.Фрэнкеля.

У склад Азарыцкага п/с да 1966 г. ўваходзіў пас. Ціхаўка (не існуе).

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Малааўцюкоўскім с/с, чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), за 10 км на Пн ад Калінкавіч, 110 км ад Гомеля. На Пн р. Шыздра (прыток р. Ненач) і меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 192 гаспадаркі, 385 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 1 двор, у складзе маёнтка Даманавічы. У 1867 г. вяскоўцы выступалі супраць праведзенага ў карысць памешчыка размежавання зямель, і ўлады прымянілі да іх рэпрэсіўныя меры. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Аўцючаўскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 233 жыхары, карчма. У 1908 г. 63 двары, 446 жыхароў. У 1917 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У 1940 г. 187 двароў, 672 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў ліп. і снеж. 1943 г. спалілі 180 дамоў і інш. пабудоў, загубілі 10 жыхароў. У 1943—44 гг. ў баях каля вёскі загінулі 597 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры і за 1 км на Пн ад вёскі). У маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Хуснае (Петрыкаўскі р-н), якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе. 95 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 786 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Галявічы». Размешчаны пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыяльна і забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 126 км ад Гомеля, на р. Ненач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 99 гаспадарак, 212 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Аскеркаў, затым Горватаў, 5 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Дудзіцкім царк. прыходзе. Прыкладна ў гэты час побач з вёскай складвалася слабада, якая затым стала самастойным населеным пунктам Новая Антонаўка. Паводле перапісу 1897 г. ў Дудзіцкай валасці, 26 двароў, 196 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1904 г. адбыліся выступленні сялян супраць памешчыка Горвата. З 20.8.1924 г. да 28.6.1973 г. цэнтр Антонаўскага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на, з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі цагельня і смалакурня, дзейнічала пач. школа, ператвораная затым ў 7-гадовую (у 1935 г. 172 вучні). У Вял. Айч. вайну 14.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 441 жыхар. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Гарбавічы). Размешчаны клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Паблізу размешчана гаспадарка па вырошчванню чарнабурых лісіц і норак. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы. Забудова шчыльная, драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць залежы жалезняка.

**АНТОНАЎСКАЯ РУДНЯ** (раней Дудзіцкая Рудня) — вёска у Гарбавіцкім с/с, за 4 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 127 км ад Гомеля. На Пн р. Ненач (прыток р. Прыпяць). Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 124 гаспадаркі, 242 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археалагамі гарадзішча (1,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Горбаўшчына, на левым беразе ракі) і курганны могільнік (10 насыпаў, побач з гарадзішчам) сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. ў Дудзіцкай вол. У 1847 г. ва ўладанні Талстых. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 100 жыхароў. Побач была аднайменная сядзіба з вадзяным млынам. У 1908 г. 41 двор, 249 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі ў 1944 г. 15 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 14.1.1944 г., 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 545 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі раённага аб'яднання «Сельгасхімія» (цэнтр — в. Гарбавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**БАБРОВІЧЫ** — вёска ў Гарочыцкім с/с, за 14 км на Пн ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 136 км ад Гомеля; на З Канава Ненач. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 998 гаспадарак, 2338 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1560 г. ўпамінаецца ў «Акце рэвізіі Мазырскага павета». Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб межах вёскі з суседнімі сяленнямі. У 1778 г. 10 дымоў, у Калінкавіцкай царк. парафіі. Мелася капліца Святой Троіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Бабровічы (16 двароў) і в.

Старыя Бабровічы (20 двароў). Пад 1811 г. пазначана як вёска ва ўладанні Аскеркаў. У 1834 г. 19 двароў. У 1850 г. ўласнасць казны, 26 двароў, 180 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. Бабровічы-Кулыбы (32 двары, 189 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак), Бабровічы-Мухі (31 двор, 208 жыхароў) і сядзіба з конным млынам. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. в. Кулыбы (52 двары, 294 жыхары) і в. Мухі (45 двароў, 285 жыхароў). Пазней гэтыя вёскі склалі адзін населены пункт — в. Бабровічы. У 1928 г. арганізаваны калгас «Культура», дзейнічалі кузня і вятрак, пач. школа (у 1935 г. 109 вучняў). У Вял. Айч. вайну ням. карнікі расстралялі 70 жыхароў. У баях каля вёскі ў пач. 1944 г. загінулі 132 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Вызвалена 12.1.1944 г., 125 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1751 жыхар. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Размешчаны падсобная гаспадарка раённага аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання, з-д па глыбокай пераапрацоўцы драўніны, сярэдняя школа, б-ка, бальніца, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова муравамымі і драўлянымі будынкамі.

**БАЕЦ** — пасёлак у Бярозаўскім с/с, за 34 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 156 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 42 гаспадаркі, 78 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1939 г. 234 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары. У 1966 г. да пасёлка далучаны сумежны Пасёлак № 1. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Бярозаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы з завулкам, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕРАЗНЯКІ** (раней была вядома пад назвай Бярозавічы) — вёска у Крукавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 22 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 152 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 82 гаспадаркі, 188 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мінскай губ. У 1834 г. 25 двароў, уладанне Гатоўскіх. У 1850 г. належала памешчыку Грузневічу. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 215 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У 1925 г. 85 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Саветаў», працавалі цагельня, кузня, пач. школа, ператвораная затым ў 7-гадовую (у 1935 г. 165 вучняў). У Вял. Айч. вайну 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 421 жыхар. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Размешчаны аддз. сувязі, 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, лясніцтва. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы, засл. будаўніка БССР П.Л.Бабака.

**БЛАЖКІ** — вёска ў Зеляноцкім, с/с за 19 км на ПнУ ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 125 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 23 гаспадаркі, 33 жыхары (2004 г).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы

ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 288 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Зяляночы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**БОРУСК** — вёска ў Вялікааўцюкоўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Калінкавіч, 14 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 144 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 77 гаспадарак, 149 жыхароў (2004 г.).

За 2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Кунаядзь захаваліся 4 курганы, якія сведчаць аб дзейнасці ў гэтых мясцінах чалавека ў далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1834 г. 17 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Аўцючавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 494 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 80 двароў, 598 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Борускага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Боруск», працавалі 2 ветракі, кузня, пач. школа (у 1935 г. 132 вучні). У 1940 г. 142 двары, 465 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. карнікі спалілі вёску і загубілі 23 жыхары. 71 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 529 жыхароў. У складзе саўгаса «Галявічы» (цэнтр — в. Аляксандраўка). Планіровачна складаецца з працяглай, крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУДА** — вёска ў Дудзіцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 117 км ад Гомеля, на р. Ненач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 70 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне (3 дымы) у Каленкавіцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 7 двароў. У 1850 г. ўласнасць казны, 214 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 260 жыхароў. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага павета, 270 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1923 г. для яе збудавана сваё памяшканне. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Буда», працавалі 2 ветракі, кузня, пач. школа (у 1935 г. 76 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 477 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 13.1.1944 г., 41 вясковец загінуў на фронце. У маі 1944 г. жыхары з вёскі, якая знаходзілася ў франтавой паласе, былі пераселены ў в. Есіпава Рудня, дзе яны размяшчаліся да пач. аперацыі «Баграціён», калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц. Паводле перапісу 1959 г. 426 жыхароў. Цэнтр калгаса «Садружнасць». Размешчаны падсобная гаспадарка раённага спажывецкага т-ва, аддз. сувязі, б-ка. Планіровачна складаецца з 2-х частак: паўн. (да прамалінейнай шыротнай вуліцы далучаецца з Пд пад прамым вуглом кароткая прамалінейная вуліца) і паўд. (ад вясковай дарогі адыходзяць веерам на У 3 кароткія вуліцы). Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць залежы жалезняку.

**БУЛАЎКІ** — вёска ў Дудзіцкім с/с, за 14 км на Пн ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 133 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Каля вёскі знаходзіцца вялікі валун чырвонага граніту (даўжыня 5,5 м, узвышаецца на 2 м над узроўнем зямлі). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадаро-

зе Гомель—Лунінец. 81 гаспадарка, 173 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне (10 хат) у Каленкавіцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне казны, 21 двор. Паводле перапісу 1897 г. в. Булаўкі (яна ж Бабровічы), 53 двары, 385 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага павета, 70 двароў, 442 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рухавік рэвалюцыі», працавалі конная крупарушка (з 1906 г.), кузня, пач. школа (у 1935 г. 95 вучняў). У Вял. Айч. вайну вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў партыз. руху. Цяжкія баі супраць карнікаў вялі партызаны мясц. атрадаў за вёску 11—12 кастр. 1943 г. Не аднойчы сяленне пераходзіла з рук у рукі. У маі—чэрвені 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Туравічы, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. 69 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 604 жыхары. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр — в. Дудзічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, адна з якіх арыентавана мерыдыянальна, другая — з ПдЗ на ПнУ. На Пд яны злучаюцца і перакрыжоўваюцца прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Адна з вуліц названа ў гонар ураджэнца І.Т.Дроніка, актыўнага ўдзельніка калгаснага будаўніцтва.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска, цэнтр Бярозаўскага с/с, за 39 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 162 км ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Хойнікі. 169 гаспадарак, 401 жыхар (2004 г.).

За 0,5 км на У ад вёскі выяўлены сляды неалітычнага пасялення, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. ўладанне Аскеркаў. У 1834 г. 42 двары. Памешчык Пржыбара меў у вёсцы 1610 дзес. зямлі, маслабойню, конны млын і карчму. Пад 1885 г. пазначана як вёска ў Юравіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. ў Юравіцкай вол., 82 двары, 497 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 90 двароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Бярозаўскага с/с Юравіцкага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 97 двароў, 541 жыхар. Побач у пач. 1920-х г. заснаваная в. Новая Бярозаўка. Паводле перапісу 1926 г. ў в. Старая Бярозаўка 785, у в. Новая Барозаўка 226 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоная Бярозаўка» і імя К.Я.Варашылава, працавалі вятрак, 2 кузні, пач. школа, ператвораная затым у 7-гадовую (у 1935 г. 291 вучань). У Вял. Айч. вайну ням. акупанты спалілі вёску. У баях каля Барозаўкі загінулі 168 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 140 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Старая Бярозаўка 702, у в. Новая Бярозаўка 423 жыхары. У снеж. 1966 г. вёскі Старая Бярозаўка і Новая Бярозаўка аб'ядналіся і склалі адзін населены пункт — Бярозаўка. У 1970 г. 268 двароў, 960 жыхароў. Цэнтр калгаса «50 гадоў БССР». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтамат. тэлефонная станцыя, магазін. Планіровачна складаецца з 3 частак: усх. (дугападобная шыротная вуліца), сярэдняй (прамалінейная вуліца мерыдыянаць-

най арыентацыі) і зах. (да кароткай далучаюцца такіх жа памераў вуліцы з ПнЗ і З). Забудова пераважна двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма маці-гераіні А.А.Скідан (выгадавала 11 дзяцей). Непадалёку ёсць залежы жалезняку.

**ВАДОВІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад раённага цэнтра, 35 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 154 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 68 гаспадарак, 144 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 25 двароў. З 1848 г. працавала вінакурня. У 1876 г. дваранін Аскерка меў у вёсках Вадовічы і Маканавічы (цяпер Рэчыцкі р-н) 17 329 дзес. зямлі, вятрак і смалярню. У 1908 г. ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. фальварак Вадовічы Вялікія (65 жыхароў), фальварак Вадовічы Малыя (19 жыхароў) і ўрочышча Вадовічы (6 жыхароў). У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі паравы млын (з 1927 г.), кузня, стальмашня, пач. школа (у 1935 г. 19 вучняў). Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікія Вадовічы 83 (далучана да п. Леніна), у в. Малыя Вадовічы — 529 жыхароў. Зараз адна вёска — Вадовічы. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Агароднікі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЕЦЯЛЬСКАЯ** — вёска ў Міхнавіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 145 км ад Гомеля, на З меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1925 г. 26 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 76 вучняў). Паводле перапісу 1959 г. 285 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінская Іскра» (цэнтр — в. Якімовічы). Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ВІША** — вёска ў Крукавіцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 22 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 154 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Віша (прыток р. Іпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча пад мясц. назвай Акоп (2 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як уладанне Гатоўскіх. У 1834 г. 12 двароў. У 1856 г. памешчык меў 1370 дзес. зямлі і маслабойню. Дзейнічала царква на могілках. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 81 жыхар. Побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губерні, 32 двары, 146 жыхароў, у фальварку 15 жыхароў. У 1925 г. ў вёсцы 27, у фальварку 6 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну 33 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пд раздвойваецца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ВІШАР** — вёска ў Дудзіцкім с/с за 12 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 119 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўсту-

пілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 150 жыхароў. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з 2-х кароткіх прамалінейных, шыротнай арыентацыі вуліц. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Вял. Айч. вайну ў Палескай вобл. В.А.Караткевіча (быў камандзірам 99-й Калінкавіцкай партыз. брыгады).

**ВУГЛЫ** — вёска ў Крукавіцкім с/с за 28 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 21 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 151 км ад Гомеля; на У р. Віша і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 63 гаспадаркі, 108 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 12 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, працаваўшая ў гэтых месцах у 1890-х г. Пад 1879 г. значыцца ў Навасёлкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 18 двароў, 214 жыхароў, капліца. У 1908 г. 39 двароў, 257 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 64 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. У 1930-х г. для школы ўзведзены ўласны будынак (у 1935 г. 65 вучняў). У Вял. Айч. вайну 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 405 жыхароў. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВУЖЫНЕЦ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 36 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 157 км ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Калінкавічы. 94 гаспадаркі, 170 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. пазначана як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Аскеркі. У 1834 г. 20 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Алексіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 430 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 конныя млыны. Побач быў аднайменны фальварак. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Вужынецкага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», працавалі вятрак, кузня. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 99 вучняў). У 1940 г. 150 двароў, 642 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 615 жыхароў. У складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Агароднікі). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаецца з У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Беларусі ў Вял. Айч. вайну І.А.Яраша (загінуў у 1942 г.).

**ВЯЗАВІЦА** — вёска ў Ліпаўскім с/с за 41 км на ПнУ ад Калінкавіч, 8 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля. На Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 93 гаспадаркі, 177 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, уладанне Горватаў. У 1834 г. 28 двароў, 116 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Ліпаўскага царк. прыхо-

да. Паводле перапісу 1897 г. 238 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага павета, 54 двары, 274 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 110 вучняў). У 1940 г. 91 двор, 373 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 ням. акупанты спалілі 85 двароў і загубілі 6 жыхароў. 65 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 507 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Ліпаў» (цэнтр — в. Ліпаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ АЎЦЮКІ** — вёска, цэнтр Вялікааўцюкоўскага с/с, за 23 км на ПдУ ад Калінкавіч, 15 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 120 км ад Гомеля, на р. Дымарка (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель — Лунінец. 272 гаспадаркі, 611 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як в. Аюцічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. У 1552 г. ў вопісу Мазырскага замка пазначаны характар і памеры павіннасцей, якія абавязаны былі выконваць вяскоўцы на карысць замка. Пад 1560 г. значыцца ў актах аб размежаванні вёскі з суседнікім сяленнямі. У 17 ст. перасяленцы з в. Аўцючавічы заснавалі новую вёску і назвалі яе Малыя Аўцюкі, а в. Аўцючавічы стала звацца Вялікія Аўцюкі, але ў назве вёсак словы Аўцюкі і Аўцючавічы яшчэ доўга жылі побач. Захавалася скарга ўладальнікаў вёскі Менчынскіх цару Аляксею Міхайлавічу, пісаная восенню 1654 г. ў сувязі з разрабаваннем вёскі. Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб удакладненні межаў вёскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Захавалася квітанцыя Мінскага рэкруцкага дэпартамента Мазырскаму старосце Яленскаму аб прыняцці ад яго 24.4.1797 г. рэкрутаў з вёскі Аўцюцевічы Вялікія і Аўцюцевічы Малыя. У 1795 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 116 двароў. У 1811 г. ў Вялікіх Аўцюках 108, у Малых Аўцюках 90 двароў. Дзейнічала Параскіеўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1818 г.). На месцы старога ў 1850 г. ўзведзена новы будынак царквы. У 1821 г. адбыліся антыфеад. выступленні сялян вёсак Вялікія і Малыя Аўцюкі. У 1844 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1848 г. 113 двароў. У 1885 г. 161 двор, 1025 жыхароў. Цэнтр воласці, у склад якой у 1890 г. ўваходзілі 20 сяленняў з 907 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 191 двор, 1373 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 карчмы. У 1908 г. 278 двароў, 1791 жыхар. З 8.12.1926 г. цэнтр Вялікааўцюкоўскага с/с Юравіцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны барэц» і «Чырвоная зорка», працавалі паравы млын (з 1925 г.), конная крупарушка (з 1926 г.), кузня і ваўначоска. У 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 341 вучань). У 1940 г. 490 двароў, 1620 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 290 двароў і расстралялі 32 жыхары. Вызвалена 12.1.1944 г. У баях каля вёскі загінулі 315 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле за 2 км на Пд ад вёскі). У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза А.А.Князеў. 214 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 1639 жыхароў. У складзе саўгаса «Галявічы» (цэнтр — в. Аляксандраўка). Размешчаны сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Вёска шырока вядома сваім гумарам. У 1995 г. тут адбыўся першы, а ў 1997 г. — другі Усебел. фестываль сатыры і гумару. Планіро-



*Я.Р.Маскаленка.*

вачна складаецца з працяглай крывалінейнай шыротнай вуліцы і паралельнай да яе кароткай прамалінейнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза Я.Р.Маскаленкі, арганізатара і кіраўніка падп. і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну А.А.Стомы.

**ВЯЛІКІЯ ЛІЦВІНАВІЧЫ** — вёска ў Азарыцкім пас. савеце, за 48 км на Пн ад Калінкавіч, 23 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 166 км ад Гомеля. На зах. ускраіне р. Віша (прыток р. Іпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Азарычаў. 44 гаспадаркі, 91 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1563 г. як в. Ліцвінавічы ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1844 г. цэнтр маёнтка двараніна У.Вальтбека, 20 двароў, у 1876 г. 620 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 320 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач была сядзіба. У 1907 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. ў Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ., 63 двары, 443 жыхары. У 1917 г. 71 двор, 464 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», працавалі 3 ветракі, кузня. У 1940 г. 110 двароў, 387 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. карнікі спалілі 36 двароў, загубілі 25 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 113 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 54 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 359 жыхароў. У 1977 г. 66 двароў, 125 жыхароў. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака А.П.Новіка.

**ГАРА** — вёска ў Крукавіцкім с/с, за 44 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 22 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 160 км ад Гомеля, на р. Віша (прыток р. Іпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1908 г. 18 двароў, 170 жыхароў. У 1925 г. 43 двары. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 87 жыхароў. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца завулак. Забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ГАРБАВІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 7 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 130 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 105 гаспадарак, 166 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1811 г. ўладанне Ракіцкіх, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 15 двароў. У 1850 г. ўладанне Горвата, 25 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Калінкавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 354 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай воласці, 67 двароў, 494 жыхары. У 1917 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну каля вёскі базіраваўся партыз. атрад «Храбрацы». У баях за вёску і яе наваколле ў 1944 г. загінулі 84 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 14.1.1944 г., 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. У маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы

размяшчаліся жыхары в. Клінск, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. Паводле перапісу 1959 г. 827 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гарбавічы). Размешчаны аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Адасоблена ад галоўнай праходзяць на Пн 2 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць залежы жалезняка.

**ГАРБАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Гарбавіцкага с/с, за 11 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 132 км ад Гомеля, на У Канава Ненач. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 163 гаспадаркі, 352 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ. Па матэрыялах метрыкі караля Жыгімонта II Аўгуста ў 1572 г. сяло ў Мазырскай вол., валоданне К.Стужынскага. З 1580 г. ў валоданні Стэфана Лавейкі. У 1769 г. Я.Аскерка зрабіў фундушавы запіс на карысць мясц. царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 30 двароў. У 1834 г. уладанне Горвата, 34 двары. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Дудзіцкім царк. прыходзе. У 1887 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце. Каля вёскі прайшоў пракладзены экспедыцыяй І.Жылінскага ў 1878—80 гг. магістральны канал Ненач (62 вярсты). Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 406 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав., 70 двароў, 538 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-ці з'езд калгасаў», працавалі кузня і 2 ветракі. Дзейнічалі 2 пач. школы (у 1935 г. 257 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 165 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). Вызвалена 14.1.1944 г. У маі 1944 г. вёска знаходзілася ў прыфрантавой паласе і жыхары былі пераселены ў в. Турцэвічы, дзе яны размяшчаліся да пач. ваеннай аперацыі «Баграціён», калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц. 68 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 952 жыхары. У 1970 г. 243 двары, 945 жыхароў. З 28.6.1973 г. цэнтр Гарбавіцкага с/с. Цэнтр падсобнай гаспадаркі вытв. аб'яднання «Райсельгасхімія». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца шыротная вуліца, раздвоеная на З. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ГАРОХАЎКА** — вёска ў Шыіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 141 км ад Гомеля, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Сухавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 137 жыхароў. У 1908 г. 23 двары, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. У маі 1944 г. вёска знаходзілася ў прыфрантавой паласе, і жыхары былі пераселены ў в. Смалянка, дзе яны размяшчаліся да пач. ваеннай аперацыі «Баграціён», калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У складзе аграфірмы «Ненач» (цэнтр — в. Шыічы). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРОЧЫЦКІ** — пасёлак і чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), у Гарочыцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад раённага цэнтра, 16 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 138 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 80 гаспадарак, 150 жыхароў (2004 г.).

Са здачай у эксплуатацыю ў 1915 г. чыгункі Жлобін—Калінкавічы тут пачала дзейнічаць чыг. станцыя і складваўся пасёлак. Назва пасёлку была зацверджана Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1. 1969 г. Паводле перапісу 1959 г. 318 жыхароў. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з 2 аднабакова забудаваных па абодва бакі чыгункі вуліц (адна прамалінейная, другая выгнутая). Арыентацыя блізкая да мерыдыянальнай. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ГАРОЧЫЧЫ** — вёска, цэнтр Гарочыцкага с/с, за 15 км на ПнУ ад Калінкавіч, 2 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 137 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 260 гаспадарак, 560 жыхароў (2004 г.).

За 2 км ад вёскі курганы, якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. ў складзе маёнтка Даманавічы, уладанне памешчыка Міхайлава, 24 двары. У 1867 г. пры правядзенні размежавання зямель вяскоўцы выступілі супраць несправядлівых дзеянняў мясц. улад. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 492 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, пастаялы двор. У 1912 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь»; вятрак, паравы млын, кузня, смалакурня і лесапільня. Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 297 вучняў). У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У баях каля вёскі загінулі 94 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах на могілках і на паўн.-зах. ускраіне). Вызвалена 12.1.1944 г., 99 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 791 жыхар. З 21.10.1968 г. цэнтр Гарочыцкага с/с. У 1970 г. 362 двары, 1146 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Калінкавіцкі». Размешчаны Васілевіцкі ільнозавод, лясніцтва, Азарыцкі лясгас, механічныя майстэрні, камб. быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, 2 клубы, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, ветэрынарны ўчастак, 2 сталовыя, 6 магазінаў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Надтачаеўка Нараўлянскага р-на. Для іх збудаваны мураваныя дамы на 60 сямей.

**ГОГАЛЕЎ** — пасёлак у Ліпаўскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Калінкавіч, 14 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 68 км ад Гомеля, на Пд і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 38 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (1,5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Пасёлак засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1929 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Мелася пач. школа (у 1935 г. 35 вучняў). У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік С.П.Алісейка, загінуў). У 1943 г. ў вёсцы і навакольных лясах базіраваліся Васілевіцкая падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Васілевіцкая

партыз. брыгада імя П.К.Панамарэнкі Палескага злучэння. 12 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе эксперыментальнай базы «Ліпаў» (цэнтр — в. Ліпаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд пад прамым вуглом далучаецца з У другая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, двухбаковая сядзібнага тыпу.

**ГРАДА** — вёска ў Юравіцкім с/с за 30 км на Пд ад раённага цэнтра, 29 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 148 км ад Гомеля, 4 км ад прыстані Юравічы на р. Прыпяць (прыток р. Дняпро), на Пд меліярацыйныя каналы і пойма р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 13 двароў. У 1850 г. ў складзе аднайменнага маёнтка ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 15 двароў, 155 жыхароў. Гаспадар маёнтка М.Ф.Кулеш валодаў тут у 1876 г. 436 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Юравіцкага царк. прыхода. У 1908 г. ў Юравіцкай вол., 49 двароў, 275 жыхароў. У 1930 г. 63 двары, 320 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак, кузня. У вясковай пач. школе навучаліся ў 1938 г. 59 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1940 г. 90 двароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 80 двароў. 39 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Юравічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да цэнтра якой з З пад вострым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ГУЛЕВІЧЫ** — вёска ў Сыродскім с/с, за 5 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 128 км ад Гомеля, на р. Закованка (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 166 гаспадарак, 369 жыхароў (2004 г.).

Побач з зах. ускраінай вёскі ёсць селішча, якое сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1560 г. пазначана ў актах аб размежаванні, а ў 1774 г. ў дакументах аб удакладненні межаў паміж вёскамі Гулевічы і Каленкавічы. У 1778 г. ў Каленкавіцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 24 двары. У 1850 г. ўласнасць казны, 34 двары, 233 жыхары, дзейнічала царква. У 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1886 г. 310 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 545 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 112 двароў, 754 жыхары. З 21.8.1925 г. да 16.7.1984 г. цэнтр Гулевіцкага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У выніку пажару, што адбыўся ў маі 1927 г., у вёсцы згарэлі 16 двароў і будынак школы. У 1929 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавала кузня. У 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 254 вучні). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 75 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 13.1.1944 г. У маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Беседкі (Петрыкаўскі р-н), якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе. 104 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе калгаса

«Дружба» (цэнтр — в. Сырод). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да зах. канца якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ДАВЫДАВІЧЫ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 32 км на Пн ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 154 км ад Гомеля; на У Канава Ненач. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 98 гаспадарак, 191 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 22, у 1850 г. 38 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 424 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак, конны млын. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 99 двароў, 682 жыхары. У 1925 г. 120 двароў. У 1930 г. 129 двароў, 795 жыхароў, калгас «Чырвоная зорка» (з 1929 г.), вятрак, кузня. У пач. школе ў 1935 г. 117 вучняў. У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 566 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Кутузава (цэнтр — в. Даманавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Я.І.Каршукова.

**ДАМАНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Даманавіцкага с/с, за 29 км на Пн ад Калінкавіч, 7 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 151 км ад Гомеля. Праз вёску цячэ Канава Ненач. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 254 гаспадаркі, 705 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, велікакняжацкая ўласнасць. Пад 1774 г. пазначана ў звестках аб межах вёскі з суседнімі сяленнямі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. уладанне Радзівілаў, 26 двароў, 135 жыхароў, затым уладанне казны. У 1817 г. збудавана драўляная царква. З 1849 г. працавала вінакурня. У 1850 г. 35 двароў. У 1862 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. Памешчык Міхайлаў меў тут і ў наваколлі ў 1876 г. 9935 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, вятрак, конны млын, 6 карчэм, вінакурню. Пазней маёнтак перайшоў да Шышкіных. Цэнтр воласці, у склад якой у 1885 г. ўваходзілі 16 сяленняў з 610 дварамі. Праз вёску праходзіў тракт з Рагачова на Валынь, на паштовай станцыі служылі 8 перавозчыкаў. Працавала паштова-тэлеграфная кантора. Паводле перапісу 1897 г. вёска і пасёлак, 92 двары, 679 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, нар. вучылішча, 2 лаўкі. Побач былі аднайменныя сядзіба і фальварак з вінакурняй. У 1904 г. ўзведзены мураваны школьны будынак, да якога ў 1930-я г. прыбудаваны 2 бакавыя крылы, а ў 1960-я г. — двухпавярховы корпус. 9.5.1919 г. польскія акупанты ўчынілі яўр. пагром, у выніку якога загінулі 6 чалавек. У 1921 г. 159 гаспадарак, 1125 жыхароў. 13.1.1924 г. арганізавана сельгасарцель. З 20.8.1924 г. цэнтр Даманавіцкага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 12.3.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавалі паравы млын, 2 крупарушкі, кузня, б-ка, лесапільня. У 1932 г. створана МТС 12.2.1935 г. арганізаваны Даманавіцкі р-н, а в. Даманавічы становіцца яго цэнтрам (у пасляваенны час да ліквідацыі р-на 20.1.1960 г. яго цэнтрам было мяс-

тэчка, а з 17.11.1959 г. г.п. Азарычы). Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 322 вучні). З 15.7.1935 г. да 27.9.1938 г. мястэчка, затым зноў аднесена да пасяленняў сельскага тыпу. У Вял. Айч. вайну ў лясах каля вёскі базіраваліся Даманавіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, 101-я Даманавіцкая партыз. брыгада. Акупанты стварылі ў вёсцы свой гарнізон, які партызаны разграмілі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 74 жыхары Даманавіцкага с/с, на ўшанаванне памяці якіх у 1969 г. пастаўлены на могілках скульптурны помнік. Ням. акупанты часткова спалілі вёску. У баях за вёску ў 1943—44 гг. загінулі 75 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 12.1.1944 г. 66 вяскоўцаў загінулі на франтах. У 1944 г. адкрыты дзіцячы дом для дзяцей-сірот. Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар. У 1966 г. да вёскі далучаны вёскі Анісавічы, Лампекі. У 1971 г. 253 двары, 779 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.І.Кутузава. Размешчаны агароднінасушыльны з-д, пякарня, камб. быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны участак, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 працяглых, крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Адна з вуліц названа ў гонар К.Ф.Яфімава — аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля ў г. Калінкавічы ў Вял. Айч. вайну. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Вяпры Нараўлянскага р-на, для якіх у 1988—92 гг. збудаваны мураваныя дамы на 50 сямей. Радзіма маці-гераіні Л.С.Майсюковай (выгадавала 10 дзяцей).

**ДЗЕНІСОВІЧЫ** (да 12.7.1965 г. Блудзім) — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 49 км на ПнУ ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 118 км ад Гомеля. Назва ў памяць аб ўраджэнцы вёскі Н.М.Дзенісовіч, удзельніцы партыз. руху ў Вял. Айч. вайну, камісара партыз. атрада, закатаванага ням. акупантамі. На Пд, Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 34 гаспадаркі, 53 жыхары (2004 г.).

Пачатак вёсцы паклаў фальварак Блудзім. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 1 двор, 13 жыхароў. У 1920-я г. тут, на былых памешчыцкіх землях, актыўна будаваліся перасяленцы з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», працавала кузня. У баях каля вёскі ў Вял. Айчынную вайну загінуў 31 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі), 35 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У складзе калгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Халоднікі). Планіровачна складаецца з 2 (адна прамалінейная, другая выгнутая) амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ДЗЕРАВІШЧА** — вёска ў Хобненскім с/с, за 40 км на У ад Калінкавіч, 14 км ад чыг. ст. Маканавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 114 км ад Гомеля, на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 29 гаспадарак, 40 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пад 1811 г. пазначана як уладанне Ракіцкіх у Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 9 двароў. У 1930 г. 37 двароў, 230 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 62 двары, 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 300 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Хобнае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай

шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБНЯКІ** — вёска ў Савіцкім с/с, за 41 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 43 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 163 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, якая працавала ў гэтых месцах у 1890-х г. У 1879 г. сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 180 жыхароў. У 1908 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 30 двароў, 183 жыхары. У 1915 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. У 1940 г. 57 двароў, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты спалілі 38 двароў і загубілі 13 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе саўгаса «Трамлянскі» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУДЗІЧЫ** — вёска, цэнтр Дудзіцкага с/с, чыг. станцыя (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 9 км на Пн ад раённага цэнтра, 129 км ад Гомеля, на Пн і З р. Ненач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 267 гаспадарак, 767 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1518 г. кароль Жыгімонт I Стары падараваў двараніну Я.Стэцковічу маёнтак Дудзічы. У 1925 г. ў вёсцы знойдзены скарб манет, якія адносіцца да 1624 г. У 1776 г. на сродкі ўладальніка вёскі Вальтока пабудавана драўляная Святатроіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 62 двары. Маёнткам Дудзічы ў 1840—45 гг. валодалі Н.Яленскі і М.Аскерка. У 1835 г. заснавана вінакурня. Дваранін Горват меў у 1876 г. ў вёсках Галоўчыцы і Дудзічы 44 688 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, 5 корчмаў, вінакурню. Праз вёску праходзіў тракт з Рагачова на Валынь, дзейнічала паштовая станцыя з 5-цю экіпажамі. У 1885 г. 268 жыхароў. Цэнтр Дудзіцкай вол., у склад якой уваходзілі 15 сяленняў з 413 дварамі. У 1886 г. 268 жыхароў, школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1911 г. для яе збудавана сваё памяшканне. У раёне вёскі дзейнічала Зах. экспедыцыя па асушэнні балот, якая праклала побач магістральны канал Ненач (62 км). Паводле перапісу 1897 г. 87 двароў, 579 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, у аднайменным фальварку — 4 двары, 29 жыхароў, царква, вінакурня, кузня, конны млын. У чэрв. 1905 г. ў вёсцы адбылося адно з буйнейшых на Беларусі рэв. выступленняў с.-г. рабочых, у якім удзельнічала каля 200 чал. Забастоўка была падаўлена ўладамі. У 1908 г. 115 двароў, 672 жыхары, у фальварку 3 двары, 40 жыхароў. Пасля здачы ў эксплуатацыю ў 1915 г. чыгункі Жлобін—Калінкавічы пачала дзейнічаць чыг. станцыя. З 17.12.1918 г. да 28.1.1919 г. пад акупацыяй герм. войскаў. З 20.8.1924 г. цэнтр Дудзіцкага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У пач. 1929 г. арганізаваны калгасы імя М.І.Калініна, «Новыя Дудзічы», «Чырвоны Кастрычнік», працавалі цагельня, млын (з 1918 г.), смалакурня, кузня. Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 253 вучні). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 28 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Вызвалена 13.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 755 жыхароў. У

1971 г. 236 двароў, 736 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Дудзічы». Размешчаны Палеская с.-г. вопытная станцыя, навук.-вытв. прадпрыемства «Бульба», падсобная гаспадарка Палескага с.-г. тэхнікума імя В.Ф.Міцкевіча, сярэдняя і муз. школы, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова мураваная і драўляная, двухбаковая сядзібнага тыпу. З 1986 г. цэнтр. частка вёскі забудоўваецца двухпавярховымі мураванымі дамамі. Радзіма рэвалюцыянера, дзеяча тэатра і кінамастацтва Д.М.Басалыгі і рэвалюцыянера К.М.Басалыгі, бел. мастакоў М.С. і У.С. Басалыгаў. Паблізу ёсць залежы балотнай руды.

**ЕСІПАВА РУДНЯ** — вёска ў Малааўцюкоўскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Калінкавіч, 3 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 113 км ад Гомеля, на р. Закаванка (прыток р. Ненач); на Пд і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 65 гаспадарак, 131 жыхар (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. 52 двары, 415 жыхароў. У 1923 г. вяскоўцы на свае сродкі ўзвялі будынак школы, і ў наступным годзе пачаліся заняткі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну 96 вяскоўцаў загінулі на фронце. У маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары в. Буда, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. Паводле перапісу 1959 г. 337 жыхароў. Размешчаны падсобная гаспадарка «Палессе» трэста «Калінкавічыводбуд», пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Азарыцкім пас. савеце, за 51 км на Пн ад Калінкавіч, 10 км ад чыг. ст. Блудзім (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 164 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. У 1875 г. ў фальварку пачала дзейнічаць вінакурня двараніна К.А.Валадзько. У 1908 г. фальварак у Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ., 7 жыхароў. Найбольш актыўнае засяленне прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 18 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. У 1944 г. да вёскі далучаны хутар Востраў. Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, на Пд невялікі адасоблены ўчастак забудовы (б. хутар Востраў). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу, пастаўлены рэдка.

**ЗАЛАТУХА** — вёска, цэнтр Чкалаўскага с/с, за 42 км на ПнУ ад Калінкавіч, 7 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Гомель—Лунінец), 111 км ад Гомеля; на паўн. ускраіне р. Ведрыч (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 276 гаспадарак, 588 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча пад мясц. назвай Гарадзінка (4 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Дубовае) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1858 г. ўласнасць казны, 29 двароў, 243 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. в. Залатая (яна ж Дуброва), 93 двары, 686 жыхароў, царк.-прыходская школа, карчма, хлебазапасны магазін, конны млын. У 1908 г. 120 двароў, 822 жыхары. З 8.12.1926 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Залатушскага с/с

Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага р-на Рэчыцкай (да 9.6.1927 г.) і да 26.7.1930 г. Гомельскай акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 18.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. 235 двароў, 1297 жыхароў, 2 школы (пераўтвораны ў 1930-х г. у 7-гадовую), аддз. спажывецкай кааперацыі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Залатая Дуброва», працавалі кузня, вятрак, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 126 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўваюць скульптура воіна і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых. Вызвалена 22.11.1943 г., 144 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1330 жыхароў. У складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Навінкі). Размешчаны аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін. Планіровачна складаецца з 2 крыху выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц (адна працяглая, другая кароткая), блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якія ў цэнтры перакрыжоўваюцца 2 кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Непадалёку Залатухінскае радовішча нафты.

**ЗАМАШЧАНЫ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 48 км на Пн ад Калінкавіч, 13 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 153 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 21 двор. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 330 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У 1908 г. ў Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ., 90 двароў, 459 жыхароў. У 1917 г. 521 жыхар. У 1925 г. 103 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рухавік рэвалюцыі», працавалі кузня, пач. школа (у 1935 г. 116 вучняў). У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 50 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 247 жыхароў. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАМОСЦЕ** — вёска ў Нахаўскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Нахаў (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 104 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 244 гаспадаркі, 471 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Да 1632 г. адносіцца прывілей караля Жыгімонта III Вазы Валяр'яну Вольскаму на Замосце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. пазначана як сяло. У 1834 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 13 двароў. Была цэнтрам аднайменнага маёнтка, гаспадар якога Абрамовіч валодаў у 1876 г. 568 дзес. зямлі. У 1879 г. сяленне ў Насавіцкім царк. прыходзе. Калі ў 1878—80 гг. пракладваўся магістральны канал Закаванка, ад яго было зроблена адгалінаванне да в. Замосце. Паводле перапісу 1897 г. 80 двароў, 545 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, конны млын. У 1908 г. ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав., 118 двароў, 806 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Замосцеўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-на Рэчыцкай (да 9.6.1927 г.), затым Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 275 двароў, 1100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—43 гг. ням. акупанты спалілі 75 двароў і загубілі 20 жыхароў. У наваколлі ў 1943—44 гг. загінулі 49 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 160 вяскоўцаў

загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1110 жыхароў. У 1971 г. 360 двароў, 1080 жыхароў. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, на Пн раздвоенай, вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд і Пн далучаюцца па 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Р.Н.Ракаеда.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Шыіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 134 км ад Гомеля, на Пн р. Абедаўка (прыток р. Ненач). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 32 гаспадаркі, 68 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб межах вёскі з суседнімі сяленнямі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Сухавіцкім старостве, 20 двароў. У 1800 г. 75 жыхароў. У 1834 г. 27 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. ўласнасць казны, 35 двароў, 181 жыхар. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Сухавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 353 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол., 58 двароў, 385 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Заполле», працавалі кузня, конная крупарушка. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 248 жыхароў. У складзе аграфірмы «Ненач» (цэнтр — в. Шыічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаецца кароткая, выгнутая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗЕЛЯНОЧЫ** — вёска ў Зеляноцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Калінкавіч, 6 км ад чыг. ст. Убалаць (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 148 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 150 гаспадарак, 366 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Сухавіцкім старостве, уладанне Яленскіх, 20 двароў. У 1850 г. ўласнасць казны, 30 двароў, 237 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Насавіцкім царк. прыходзе. Каля вёскі пракладзены ў 1878—80 гг. экспедыцыяй І.Жылінскага магістральны канал Закаванка. Паводле перапісу 1897 г. 70 двароў, 454 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 108 двароў, 788 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1924 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. З 20.8.1924 г. цэнтр Зеляноцкага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 16.9.1959 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 12.2.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Камунар» і «1 Мая», працавалі смалакурня, вятрак, 2 кузні. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 167 вучняў). У 1940 г. 135 двароў, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну партызаны разграмілі варожы апорны пункт, які тут размяшчаўся. У вёсцы і наваколлі базіраваліся Калінкавіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб 99-й Калінкавіцкай партыз. брыгады Палескага злучэння. У студз. 1944 г. карнікі спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. Вызвалена 12.1.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 134

жыхары Зеляноцкага с/с, памяць аб якіх увекавечваюць курган і дошкі з імёнамі, узведзеныя ў 1971 г. каля клуба. Цэнтр калгаса «Камунар». Размешчаны 9-гадовая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, амбулаторыя, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая вуліца. На Пд і Пн, за каналам — кароткія прамалінейныя, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1988 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей. У склад Зеляноцкага с/с да 1968 г. ўваходзіў пасёлак Васілевіцкага пенькazавода (не існуе).

**ІГНАТА-ФАБІЯНАЎКА** — вёска ў Прудоцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Калінкавіч, 19 км ад чыг. ст. Галявічы (на лініі Гомель—Лунінец), 142 км ад Гомеля, на Пд меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Хойнікі—Калінкавічы. 39 гаспадарак, 68 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Ігнатаўка (9 двароў, 121 жыхар) і Фабіянаўка (10 двароў, 127 жыхароў). У 1908 г. вёскі Ігнатаўка і Фабіянаўка аб'ядналіся ў адну, 28 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «XII з'езд Саветаў», працавалі кузня і пач. школа (у 1935 г. 66 вучняў). У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупантаў. У май—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Баянава (Петрыкаўскі р-н), якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе. 52 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 294 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі імя Ф.Э.-Дзяржынскага міжраённага аўтатранспартнага прадпрыемства (цэнтр — в. Прудок). Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн. (кароткая шыротнай арыентацыі вуліца, былая в. Ігнатаўка) і паўд. (кароткая мерыдыянальная вуліца, да Пд якой далучаецца другая кароткая вуліца, былая в. Фабіянаўка). Забудова няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**КАВАЛЬКІ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 39 км на Пн ад Калінкавіч, 14 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 154 км ад Гомеля. Меліярацыйны канал, што на Пн, аддзяляе вёску ад суседняй в. Хамічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. 41 двор. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 16 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 38 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**КАЗАНСК** (да 1920 г. Курадзічы) — вёска ў Казловіцкім с/с, за 36 км на Пн ад Калінкавіч, 12 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 158 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы і р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 137 гаспадарак, 306 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне (25 хат) у Азарыцкай царк. парафіі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 27 двароў, побач была гаспадарская сядзіба. У 1834 г. ўласнасць казны, 32 двары, у 1850 г. 243 жыхары. У 1885 г. ў Рэчыцкім пав., 53 двары, 332 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Казанск-Замосце (43 двары, 253 жыхары, царква) і Казанск—Баўдыры (48 двароў, 278 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, кон-

ны млын). У 1908 г. 114 двароў, 735 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Сейбіт», «Чырвоны Казанск» і «Перамога», працавалі вятрак, кузня, 7-гадовая школа (у 1935 г. быў 181 вучань). З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Марцінавіцкага с/с Даманавіцкага р-на Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 136 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 102 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 599 жыхароў. У 1971 г. 184 двары, 560 жыхароў. Цэнтр калгаса «Сейбіт». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай працяглай вуліцы, да цэнтра якой з З далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы Т.П.Лукашэнкі і засл. настаўніка Беларусі Л.А.Тозіка.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Казловіцкага с/с, за 33 км на Пн ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 154 км ад Гомеля, на аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 211 гаспадарак, 470 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча пад назвай Акты (4 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Горы) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста значыцца пад 1567 г. як селішча, у валоданні М.Прушаноўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., 33 двары. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Талстых. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Навасёлкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Казловічы-1 (48 двароў, 291 жыхар, хлебазапасны магазін, конны млын), Казловічы-2 (39 двароў, 212 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, конны млын, пастаялы двор) і фальварак. У 1908 г. ў в. Казловічы-1 53 двары, 309 жыхароў, у в. Казловічы-2 49 двароў, 443 жыхары, у Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. З 1913 г. працавала школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце (у 1935 г. 112 вучняў). У 1925 г. ў в. Казловічы-1 123 двары, у в. Казловічы-2 73 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 153 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў паўн. частцы вёскі). Вызвалена 12.1.1944 г. 90 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1950-х г. адбылася трансфармацыя ў назвах вёскі: в. Казловічы-1 стала звацца Верхнія Казловічы, в. Казловічы-2 — Ніжнія Казловічы. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Верхнія Казловічы 323, у в. Ніжнія Казловічы — 410 жыхароў. У 1960-х г. вёскі Верхнія Казловічы і Ніжнія Казловічы аб'ядналіся і склалі адну вёску Казловічы. З 21.10.1968 г. цэнтр Казловіцкага с/с. У 1971 г. 214 двароў, 632 жыхары. Цэнтр калгаса «1 Мая». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых меліярацыйным каналам частак: зах. (да кароткай прамалінейнай вуліцы далучаецца з Пн другая кароткая вуліца) і ўсх. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1988 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей. Радзіма Героя Сац. Працы К.А.Мятлушкі.

**КАПЛІЦКІ ВАРАТЫН** — вёска ў Савіцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 40 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 160 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 30 гаспадарак, 48 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як засценак у Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 163 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 298 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). 44 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 195 жыхароў. У складзе саўгаса «Трамлянскі» (цэнтр — в. Савічы). Размешчана аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Пабудавана 136 мураваных дамоў катэджнага тыпу, у якіх размясціліся перасяленцы з Чарнобыльскай зоны, пераважна з в. Даўляды Нараўлянскага р-на.

**КАПЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Капліцкага с/с, за 33 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 155 км ад Гомеля; на У і Пн меліярацыйныя каналы і р. Віша (прыток р. Іпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 262 гаспадаркі, 666 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў в. Вялікія Каплічы 36 і ў в. Малыя Каплічы 20 двароў, у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Навакоўскіх. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-х г. Дваранін Навакоўскі меў у вёсцы ў 1875 г. 1980 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Якімавіцкага царк. прыхода. У 1885 г. 296 жыхароў, вінакурня (з 1842 г.) і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. 362 жыхары, царква, карчма. У 1890—98 гг. недалёка ад вёскі меліярацыйнай экспедыцыяй І.Жылінскага быў пракладзены канал Іпа (27 вёрст). У 1898 г. адкрыта школа, для якой у 1899 г. збудавана ўласнае памяшканне. У 1908 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 134 двары, 468 жыхароў. У 1913—14 гг. у вёсцы адбываліся хваляванні ў сувязі з прымусам улад да ссялення на хутары. З 20.8.1924 г. цэнтр Капліцкага с/с у Калінкавіцкім, з 27.9.1930 г. Мазырскім, з 12.2.1935 г. Даманавіцкім, з 20.1.1960 г. Калінкавіцкім р-не Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня, школа (у 1935 г. 248 вучняў), стальмашня, паравы млын. У 1930-х г. у вёску ссялены бліжэйшыя хутары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі тут свой апорны пункт, які партызаны разграмілі. У раёне вёскі 13.1.1944 г. малодшы лейтэнант Ю.П.Шлыкаў накіраваў свой гарэўшы самалёт на скапленне варожых войск. У баях за вёску і наваколле загінулі 342 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 114 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 392 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучана в. Пяскі. У 1971 г. 307 двароў, 937 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Каплічы». Размешчаны з-д травяной мукі, швейная і шавецкая майстэрні, навук.-вытв. прадпрыемства «Бульба», сярэдняя і 9-гадовая школы, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай, мерыдыянальнай вуліцы, да якой з У далуючацца 3 кароткія і 1 працяглая прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны збудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка У.І.Краўчанкі, маці-гераіні М.М.Зубаравай (выгадавала 11 дзяцей).

**КАРМА** — вёска ў Зеляноцкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Калінкавіч, 15 км ад

чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Гомель). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 49 гаспадарак, 108 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1850 г. 20 двароў, 97 жыхароў. У 1876 г. памешчык В.П.Сакун меў тут 530 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. хутары Карма Малая (19 жыхароў) і Карма Вялікая (145 жыхароў). У 1908 г. 28 двароў, 242 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі кузня, пач. школа (у 1935 г. 30 вучняў). У 1940 г. 68 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску. У баях каля вёскі загінулі 23 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 24 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 298 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Насавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца з Пн крывалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**КЛІНСК** — вёска ў Якімавіцкім с/с, чыг. станцыя (на лініі Гомель—Лунінец), за 13 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 137 км ад Гомеля, на У р. Іпа (прыток р. Прыпяць). За 3 км ад вёскі знаходзіцца помнік прыроды — плантацыя ландыша звычайнага (вакол гарадзішча, каля 10 га). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 116 гаспадарак, 252 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (3 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзінка) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 14 двароў. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Талстых, 16 двароў. З уводам у эксплуатацыю ў лют. 1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд. Паводле перапісу 1897 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 54 двары, 373 жыхары. У 1908 г. ў вёсцы 68 двароў, 482 жыхары, на чыг. раз'ездзе 14 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у 1924 г. для яе ўзведзены ўласны будынак. З 21.8.1925 г. да 1939 г. цэнтр Клінскага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на, да 27.9.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г. Мазырскай акр., з 20.2.1938 г. Палескай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 90 вучняў). У Вял. Айч. вайну 14.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. У маі 1944 г. жыхары з вёскі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, былі пераселены ў в. Гарбавіцкая Рудня, дзе яны размяшчаліся да пач. ваеннай аперацыі «Баграціён» і калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц. 70 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 716 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінская Іскра» (цэнтр — в. Якімавічы). Размешчаны аддз. сувязі, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**КОСЕТАЎ** — вёска ў Ліпаўскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Калінкавіч, 10 км ад чыг. ст. Блудзім (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля. На Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 60 гаспадарак, 105 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў складзе маёнтка Ліпаў, у валоданні Горватаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе

Рас. імперыі. У 1795 г. 19 двароў, у 1834 г. 28 двароў, 148 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 186 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 47 двароў, 282 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 110 вучняў). У Вял. Айч. вайну 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 487 жыхароў. У складзе эксперыментальнай базы «Ліпаў» (цэнтр — в. Ліпаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пд далучаюцца пад прамым вуглом 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза У.Ц.Алісейкі.



*У.Ц.Алісейка.*

**КОШЧЫЧЫ** — вёска ў Казловіцкім с/с, за 35 км на Пн ад Калінкавіч, 20 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 157 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 167 гаспадарак, 352 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі за 2,5 км двухпляцовачнае гарадзішча сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Першыя пісьмовыя звесткі аб вёсцы адносяцца да пач. 17 ст. Пад 1567 г. пазначана ў попісу войска Літоўскага. Закладныя лісты на часткі вёскі Котчышчы захоўваліся ў Мазырскім замку і ў час пажару 9.6.1601 г. згарэлі разам з замкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Пазначана і пад 1801 г. У 1850 г. 45 двароў; уладанне надворнага саветніка Галянішчава-Кутузава, які меў у 1876 г. ў сёлах Кошчычы і Якімавічы 24 043 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 3 карчмы. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Навасёлкаўскім царк. прыходзе. У пач. 1880-х г. непадалёку ад вёскі прайшоў канал Ненач, які пракладваўся экспедыцыяй І.Жылінскага. Паводле перапісу 1897 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. в. Сербіны (яна ж Кошчычы), 47 двароў, 303 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, і в. Улукі (яна ж Кошчычы), 33 двары, 134 жыхары, конны млын. З 1899 г. працавала лесапільня. У 1908 г. 93 двары, 704 жыхары. У 1910 г. пачала дзейнічаць школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», працавалі кузня, вятрак, пач. школа (у 1935 г. 110 вучняў). У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску. Вызвалена 12.1.1944 г., 105 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 889 жыхароў. У 1972 г. 200 двароў, 415 жыхароў. Цэнтр калгаса «Чырвоная Дуброва». Размешчаны швейная і шавецкая майстэрні, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных адна шыротна, другая — з ПдУ на ПнЗ і злучаных кароткай вуліцай. Забудова пераважна драўляная двухбаковая сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы У.І.Паліграй.

**КРАСНАЯ НІВА** — вёска ў Дудзіцкім с/с, за 11 км на Пн ад Калінкавіч, 2 км ад чыг. ст. Дудзічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 131 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 53 гаспадаркі, 109 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр — в. Дудзічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРОТАЎ** — вёска ў Капліцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 152 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Іпа (прыток

р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 121 гаспадарка, 270 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Кароль Стэфан Баторый у канцы 16 ст. выдаў прывілей на в. Кротава (дакумент згарэў 9.6.1601 г. ў Мазырскім замку). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 28 двароў, уладанне Навакоўскіх. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-х г. У 1875 г. дваранін Навакоўскі меў у вёсцы 1931 дзес. зямлі. Пад 1879 г. упамінаецца ў ліку сяленняў Якімавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 383 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 66 двароў, 478 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кротаў», працавалі кузня, вятрак, пач. школа (у 1935 г. 103 вучні). У Вял. Айч. вайну 157 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 673 жыхары. У складзе саўгаса «Каплічы» (цэнтр — в. Каплічы). Размешчаны 9-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З далучаюцца 2 завулкі, з У — адзін завулак. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака С.А.Цімохава.

**КРУКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Крукавіцкага с/с, за 43 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 23 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 165 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 202 гаспадаркі, 504 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 36 двароў. З 1848 г. ўладанне Ваніных, у маёнтку працавала вінакурня. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 231 жыхар. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых мясцінах у 1890-х г. Пад 1879 г. у ліку сяленняў Навасёлкаўскага царк. прыхода. У 1885 г. 285 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Крукавіцкай вол., 41 двор, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. У 1903 г. праведзена размежаванне з улікам выдзялення часткі вяскоўцаў на хутары. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1914 г. для яе ўзведзены свой будынак. У 1925 г. 123 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр Крукавіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 27.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Зорка Беларусі», працавалі вадзяны млын, кузня, пач. школа (у 1935 г. 90 вучняў). У Вял. Айч. вайну 104 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 369 жыхароў. У 1972 г. 125 двароў, 387 жыхароў. У 1978 г. да вёскі далучана в. Мядзведаў. Цэнтр саўгаса «Беразнянскі». Размешчаны навук.-вытв. прадпрыемства «Бульба», сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы, пераважна з вёсак Асіпоўка і Ражава Нараўлянскага р-на. Для іх у 1986 г. ўзведзены мураваныя дамы на 52 сям'і. Радзіма кавалера ордэна Славы 3-х ступеней У.Р. Маджара.

**КРЫШЫЧЫ** — вёска ў Прудоцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 150 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Хойнікі—Калінкавічы. 34 гаспадаркі, 52 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1552 г. пазначана ў «Літоўскай метрыцы». У 1674 г. уладальніца вёскі Б.Лошчына аддала Крышычы езуітам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 25 двароў, 216 жыхароў. У 1834 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 52 двары. У 1876 г. гаспадар аднайменнага маёнтка дваранін Александровіч валодаў 1133 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Юравіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 475 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак, конны млын. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі. У 1908 г. ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 90 двароў, 490 жыхароў. У 1926 г. 688 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 1.10.1973 г. цэнтр Крышыцкага с/с Юравіцкага, з 26.7.1931 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 26.7.1931 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі вятрак, кузня, стальмашня. Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 141 вучань). У Вял. Айч. вайну ням. акупанты часткова спалілі вёску. 94 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 423 жыхары. У 1972 г. 132 двары, 322 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі імя Ф.Э.Дзяржынскага міжраённага аўтатранспартнага прадпрыемства (цэнтр — в. Прудок). Размешчаны 8-гадовая школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, адасоблена ад якой на Пн размешчаны 2 кароткія вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ў 1930-х г. выяўлены жалезарудныя залежы.

**ЛАДЫЖЫН** — вёска ў Сыродскім с/с, за 4 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 119 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 44 гаспадаркі, 71 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 35 вучняў). У Вял. Айч. вайну 45 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 423 жыхары. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Сырод). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых меліярацыйным каналам частак: зах. (да шыротнай прамалінейнай далучаюцца з Пн пад прамым вуглом 2 кароткія вуліцы) і ўсх. (2 кароткія шыротнай арыентацыі вуліцы). Забудова пераважна двухбаковая, рэдкая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЕНІНА** — пасёлак у Бярозаўскім с/с, за 37 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 158 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 33 гаспадаркі, 61 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. У 1966 г. да пасёлка далучана в. Вялікія Вадовічы (у 1959 г. 83 жыхары). У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Бярозаўка). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛІПАВА** — вёска, цэнтр Ліпаўскага с/с, за 35 км на ПнУ ад Калінкавіч, 7 км

ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 124 км ад Гомеля. На У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 293 гаспадаркі, 721 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як маёнтак Горватаў, які пераходзіў ад адных наследнікаў да другіх. У 1737 г. ў яго склад уваходзілі вёскі Вязавіца, Хамічы, Косетаў, Ператок, Узнаж, Людзвінаўка, Вялікая Людзвінаўка, Рудня, Зарэчча, Караны, Лядзец, Асіпоўка і фальваркі Яўтушкавічы, Атолін і Каранёў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 6 двароў. У 1800 г. збудавана драўляная Параскіеўская царква. У 1843 г. памешчык Горват меў у вёсках Ліпаў і Яўтушкавічы 15 820 дзес. зямлі, вінакурню, 2 конныя млыны і 2 карчмы. У 1850 г. на ўсх. ускраіне вёскі Горват заклаў вялікі сад, высадзіў шмат рэдкіх дрэў і кустоў. Тут жа ў 1855—62 гг. быў узведзены мураваны палац, які складаўся з 3 карпусоў, аб'яднаных агульным дахам (зараз размяшчаецца адміністрацыя эксперыментальнай базы «Ліпава»). У палацы меліся б-ка і карцінная галерэя. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1910 г. для яго ўзведзена памяшканне. З 1860 г. працавала цагельня, з 1880 г. — піваварны з-д, з 1899 г. — смалакурня двараніна А.І.Горвата. Паводле перапісу 1897 г. вёска (10 двароў, 48 жыхароў, царква, нар. вучылішча, 2 лаўкі) і аднайменны фальварак (10 двароў, 135 жыхароў, вінакурня і кузня). З 20.8.1924 г. цэнтр Ліпаўскага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага р-на Гомельскай вобл. У 1920-х г. створаны саўгас «Ліпава», працавалі паравы млын, цагельня, 2 кузні, маслабойня, стальмашня, крухмальны (пераабсталяваны ў 1925 г. з вінакурні) з-д, дзейнічала 7-гадовая школа (у 1935 г. 167 вучняў). У Вял. Айч. вайну саўгасная тэхніка была эвакуіравана ў Пензу, жывёла — у Тамбоўскую вобл. Ням. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які партызаны ў снеж. 1942 г. разграмілі. У выніку боя згарэлі крухмальны з-д, паравы млын і палац А.Горвата. У 1943 г. карнікі часткова спалілі вёску. У снеж. 1943 г. ў баях каля вёскі загінулі 190 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1956 г. 7-гадовая школа ператворана ў сярэднюю, на базе саўгаса «Ліпава» створана Палеская с.-г. доследная станцыя Бел. н.-д. ін-та земляробства. Паводле перапісу 1959 г. 716 жыхароў. У 1978 г. 264 двары. Цэнтр эксперыментальнай базы «Ліпава». Размешчаны швейная майстэрня, сярэдняя і муз. школы, клуб, б-ка, дзіцячы сад, б-ца, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаюцца 2 кароткія вуліцы, на Пд — забудова ў выглядзе квартала. Жылыя дамы мураваныя і драўляныя сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны пабудавана 50 мураваных дамоў катэджнага тыпу. Ёсць парк. Радзіма маці-гераіні Г.М.Пінчук (выгадавала 11 дзяцей).

У склад Ліпаўскага с/с да 1966 г. ўваходзіла в. Садавіты Востраў (не існуе).



*Жылы дом у в. Ліпава.*

**ЛОЗКІ** — вёска ў Нахаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы, 102 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 37 гаспадарак, 53 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. упамінаецца як сяленне ў Аўцючавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 209 жыхароў. У 1908 г. ў Аўцюцевіцкай вол., 46 двароў, 282 жыхары. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Лозкаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай акр. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 125 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 22.6.1942 г. ням. акупанты сагналі жыхароў у 3 хаты, падпалілі, а тых, хто ўцякаў, — расстрэльвалі. Было загублена 476 чалавек (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму). 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 330 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Замосце). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛУБНАЕ** — вёска ў Нахаўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Нахаў (на лініі Гомель—Лунінец), 94 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. 18 двароў, 86 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 49 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 16 жыхароў. 24 вяскоўцы загінулі на фронце. У складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Нахаў). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой на З далучаецца кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛУКІ** — вёска ў Чкалаўскім с/с, за 48 км на ПнУ ад Калінкавіч, 14 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Гомель—Лунінец), 100 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 169 гаспадарак, 410 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (2,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., калі сяло Лукі было ва ўладанні Патоцкіх, а затым Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 14 двароў. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Адамовіча, 29 двароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Какуевіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 435 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 79 двароў, 455 жыхароў. У грамадз. вайну ў баі каля вёскі загінулі 3 чырвонаармейцы (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). У пач. 1920-х г. адкрыта школа, якая першапачаткова размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. 127 двароў, 639 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Лукі», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 60 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 79 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, якая была пастаўлена ў 1966 г. каля клуба. Вызвалена 22.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 559 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.В.Фрунзе. Размешчаны лесапільня, млын, 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы,

арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Паралельна да яе на Пн і Пд праходзяць кароткія вуліцы, злучаныя з галоўнай. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛЯСЕЦ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 44 км на Пн ад Калінкавіч, 20 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 165 км ад Гомеля, на З р. Віша (прыток р. Іпа) і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад г.п. Азарычы. 134 гаспадаркі, 348 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Пад 1778 г. пазначана як сяленне (20 хат) у Азарыцкай царк. парафіі. З 1799 г. ў валоданні тайнага саветніка Л.Лашкарова. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 523 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 129 двароў, 658 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа. У 1917 г. 783 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 114 вучняў). У 1940 г. 186 двароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі 109 двароў, загубілі 61 жыхара. 101 вясковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 563 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучаны в. Салавейкі (да 1925 г. Рагоўцы) і пас. Пчальнік. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Размешчаны аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаюцца кароткія вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 60 сямей. Радзіма бел. паэтэсы С.М.Шах.

**ЛЯСКІ** — вёска ў Зеляноцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Гомель—Лунінец), 124 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 170 воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 193 жыхары. У калгасе імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Насавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Хаткі Нараўлянскага р-на.

**МАЛЫЯ АЎЦЮКІ** — вёска, цэнтр Малааўцюкоўскага с/с, за 13 км на У ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 116 км ад Гомеля. На Пн меліярацыйныя каналы і р. Закованка (прыток р. Прыпяць). Паблізу ў 1980 г. створана вадасховішча. Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 417 гаспадарак, 902 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст., калі перасяленцы з в. Аўцючавічы заснавалі новую вёску і назвалі яе Малыя Аўцюкі, а в. Аўцючавічы стала звацца Старыя Аўцюкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Захавалася квітанцыя Мінскага рэкруцкага дэпартамента старосце Яленскаму аб прыняцці ад яго 24.12.1794 г. рэкрутаў з в. Малыя Аўцюцевічы. У 1795 г. 82 двары. У 1821 г. адбыліся антыфеад. выступленні сялян вёсак Вялікія і Малыя Аўцюкі. У 1843 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1875 г. збудавана для яго ўласнае памяшканне. У 1849 г. ўзведзена драўляная Параскіеўская царква. У 1885 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 95

двароў, 620 жыхароў. У 1878—80 гг. экспедыцыяй І.Жылінскага быў пракладзены побач з вёскай магістральны канал Закованка працягласцю 87 вёрст (зараз рака). Паводле перапісу 1897 г. ў Аўцюцевіцкай вол., 122 двары, 1048 жыхароў, царква, царк.-прыходскае і нар. вучылішчы, хлебазапасны магазін, карчма. 12.11.1920 г. ў баях з бандамі Булак-Балаховіча тут загінуў камандзір брыгады Чырв. Арміі В.Д.Каўшоў (пахаваны ў Маскве, каля Крамлёўскай сцяны). З 20.8.1924 г. цэнтр Малааўцюкоўскага с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 27.9.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У выніку пажару 9.9.1927 г. згарэла 13 пабудоў. Пач. школа ў канцы 1920-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 248 вучняў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі смалакурня і кузня. На балоце каля вёскі ў 1937 г. пачаліся торфараспрацоўкі. У 1940 г. 476 двароў, 1683 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. і снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 450 двароў, загубілі 17 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 290 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле, 1 км на ПдУ ад вёскі). 117 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 1772 жыхары. У 1972 г. 547 гаспадарак, 1802 жыхары. У складзе саўгаса «Галявічы» (цэнтр — в. Аляксандраўка). Размешчаны з-д травяной мукі, падсобная гаспадарка вучэбна-вытв. камбіната, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой (адна працяглая, другая кароткая) вуліц, да якіх з У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. На Пн да працяглай далучаецца крывалінейная вуліца з завулкамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ ЛІЦВІНАВІЧЫ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, 46 км на Пн ад Калінкавіч, 24 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 167 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад г.п. Азарычы. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Бабруйскім пав. Мінскай губ., засн. перасяленцамі з в. Ліцвінавічы. У 1828 г. в. Малыя Ліцвінавічы (яна ж Нівін) у валоданні ротмістра Валодзькі, які меў тут 620 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-х г. У 1876 г. дваранка Дзерангоўская мела тут 410 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Азарыцкай вол., 20 двароў, 111 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1908 г. 29 двароў, 136 жыхароў. У 1917 г. 27 двароў, 169 жыхароў, у 1925 г. 37 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новыя Ліцвінавічы», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі 10 двароў і загубілі 2 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІКУЛІНСК** — пасёлак у Зеляноцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 127 км ад Гомеля, на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як пасёлак у Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 5 двароў. У 1850 г. ва ўладанні памешчыка Міхайлава. Пад 1879 г. пазначана як

сяленне ў Даманавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 37 жыхароў. У 1908 г. 83 жыхары. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі пасёлак і загубілі 2 жыхароў. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Зеляночы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІРОНЕНКІ** (да 12.7.1965 г. Мнагаверш) — вёска ў Ліпаўскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Калінкавіч, 7 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 158 км ад Гомеля. Назва ў памяць Героя Сав. Саюза І.А.Міроненкі. На Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 158 гаспадарак, 429 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 17 двароў. У 1834 г. ў складзе маёнтка Горватаў Ліпава, 32 двары, 141 жыхар. Пад 1879 г. пазначана ў Ліпаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 232 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 62 двары, 340 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы Мнагаверш». У 1935 г. ў вясковай школе 64 вучні. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 185 воінаў і партызан, у іх ліку Герой Сав. Саюза І.А.Міроненка (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 157 землякоў. Паводле перапісу 1969 г. 404 жыхары. Цэнтр калгаса імя С.М.Кірава. Размешчаны млын, лесапільня, 9-гадовая школа, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1988 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей.

**МІХАЙЛАЎСКАЕ** — вёска ў Савіцкім с/с, за 49 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 52 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 171 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 49 гаспадарак, 98 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. слабада, уладанне памешчыка. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, што працавала ў гэтых месцах у 1890-х г. У 1908 г. 196 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 25 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі вятрак, кузня, стальмашня. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 4 жыхароў. 58 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 177 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана в. Пагарэлая Слабада. У складзе саўгаса «Трамлянскі» (цэнтр — в. Савічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу.

**МІХНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Міхнавіцкага с/с, за 21 км на З ад Калінкавіч, 143 км ад Гомеля; чыг. ст. Кацуры (на лініі Гомель—Лунінец). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 164 гаспадаркі, 373 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Па звестках 1567 г. маёнтак Міхнавічы павінен быў выдзяляць сваіх апалчэнцаў для фарміравання ўзброеных атрадаў ВКЛ. Пад 1568 г. пазначаны ў матэрыялах метрыкі

караля Жыгімонта II Аўгуста як сяленне ў Мазырскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 39 двароў. З пач. 19 ст. дзейнічала царква (да 1818 г. была прыходскай). У 1834 г. уладанне памешчыка Пятроўскага, 247 жыхароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 289 жыхароў. У 1866 г. 90 двароў. У 1876 г. памешчыца Падгаецкая мела тут 3550 дзес. зямлі і карчму. Са здачай у эксплуатацыю ў лют. 1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд. Паводле перапісу 1897 г. 100 двароў, 662 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, карчма, чыг. прыпынак. У 1902 г. ўзведзены будынак і пачала працаваць школа. Апрача земляробства сяльчане займаліся рознымі промысламі, у тым ліку вырабам карзін, кашалёў і сетак для рыбнай лоўлі. У 1908 г. ў Слабодаскрыгалаўскай вол. Мазырскага пав., 122 двары, 851 жыхар. 2.4.1929 г. арганізаваны калгас. З 1939 г. цэнтр Клінскага, з 1.10.1973 г. Міхнавіцкага с/с Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-на Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын (з 1926 г.), крупарушка, кузня, стальмашня, пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 227 вучняў). У Вял. Айч. вайну ням. акупанты загубілі 60 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 398 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). 98 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 780 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінская іскра» (цэнтр — в. Якімавічы). Размешчаны млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваных 3 шыротнымі вуліцамі. Да паўд. шыротнай вуліцы далучаецца з У дугападобная вуліца з завулкам. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма парт. і дзярж. дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, Героя Сав. Саюза, ген.-м. А.Я.Кляшчова.

**МУРАВЕЙНІЦА** — вёска ў Дудзіцкім с/с, за 6 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 129 км ад Гомеля, на зах. ускраіне меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ненач (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 53 гаспадаркі, 112 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр — в. Дудзічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**МУЦІЖАР** — вёска ў Хобненскім с/с, за 43 км на У ад Калінкавіч, 10 км ад чыг. ст. Маканавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 110 км ад Гомеля, на Пд і З меліярацыйныя каналы, на З р. Віць (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 52 гаспадаркі, 70 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Аўцючавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 9 двароў. У 1850 г. уладанне двараніна Аскеркі, 16 двароў, 73 жыхары. У 1876 г. гаспадар меў у вёсцы і наваколлі 3939 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў у Хобненскім цjudк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 168 жыхароў, школа граматы і хлебазапасны магазін. Побач быў фальварак Старча-Муцїжар. У 1908 г. 39 двароў, 214 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Муціжарскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1930 г. 76 двароў, 388 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня. У 1940 г. 110 двароў. У Вял.

Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 532 жыхары. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Хобнае). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Капліцкім с/с, за 25 км на Пн ад Калінкавіч, 16 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 147 км ад Гомеля, на У р. Іпа (прыток р. Прыпяць) і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 139 гаспадарак, 274 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Дзейнічала Петрапаўлаўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1792 г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 28 двароў. У 1818 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У ёй знаходзіўся мясцовапаважаны абраз св. Мікалая. У 1850 г. 62 двары, 444 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 111 двароў, 657 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, конны млын, 2 ветракі. У 1908 г. 140 двароў, 992 жыхары. У 1925 г. 251 двор. З 20.8.1924 г. да 21.10.1968 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Калінкавіцкага р-на Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта пач. школа, якая ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 247 вучняў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавалі 3 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 260 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ва ўсх. частцы вёскі). 121 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 799 жыхароў. У складзе саўгаса «Каплічы» (цэнтр — в. Каплічы). Размешчаны 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ вуліц (адна працяглая, другая кароткая). Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**НАВІНКІ** — вёска ў Чкалаўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Гомель—Лунінец), 108 км ад Гомеля; на Пн канал Мадзведка (прыток р. Ведрыч), на Пд канал Лужонка (упадае ў канал Мадзведка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 262 гаспадаркі, 568 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (3 км на ПнУ ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. як сяленне ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1825 і 1879 гг. пазначана ў складзе Васілевіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 560 жыхароў, школа граматы. У 1908 г. 105 двароў, 577 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 30.12.1927 г. цэнтр Навінкаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага р-наў Гомельскай акр. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1930 г. 176 двароў, 994 жыхары. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. група (кіраўнік А.Ф.Фралоў). У баях каля вёскі загінулі 109 воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах на могілках і ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 146 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўваюць скульптура воіна і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1963 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 1214 жыхароў. Цэнтр калгаса «Іскра». Размешчаны лесапільня, млын, швейная майстэрня, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2



*А.А.Белы.*

магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаецца на Пд кароткая вуліца, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза А.А.Белага і кавалера ордэна Славы 3-х ступеней І.А.Цімашэнкі.

**НАСАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Зяляноцкага с/с, за 34 км на ПнУ ад Калінкавіч, 13 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 120 км ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 129 гаспадарак, 288 жыхароў (2004 г.).

Выяўленае археолагамі гарадзішча (1,5 км на Пд ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1560 г. ўпамінаецца ў «Акце рэвізіі Мазырскага павета». У 1620 г. памешчыца Т.Камароўская аддавала прыбыткі ад вёскі на карысць мазырскіх базыльянаў. Пад 1774 г. пазначана ў дакументах аб межах вёскі з суседнімі сяленнямі. У 1785 г. ў Сухавіцкім старостве, дзейнічала драўляная Крыжаўзвіжанская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Яленскіх, затым — казны, 69 двароў. У 1850 г. 378 жыхароў. З 1857 г. працавала школа (у 1885 г. 18 вучняў). У 1859 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1864 г. адкрыта царк.-прыходская школа і ўзведзены для яе будынак. Калі ў 1878—80 гг. пракладваўся магістральны канал Закованка, ад яго было зроблена адгалінаванне да в. Насавічы. У 1885 г. 476 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 222 двары, 714 жыхароў, царква, нар. вучылішча, вятрак, конны млын. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 1090 жыхароў. 9(22) студзеня 1918 г. ў мястэчку адбылася дэманстрацыя ў сувязі з гадавінай расстрэлу рабочых 9.1.1905 г. ў Пецярбургу. У 1929 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавалі вятрак, конная крупарушка, кузня. Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 301 вучань). У Вял. Айч. вайну ням. карнікі загубілі ў 1942 г. 7 жыхароў, а ў вер. 1943 г. спалілі 133 двары. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 174 землякі, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1972 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 608 жыхароў. Цэнтр калгаса імя М.І.Калініна. Размешчаны лесапільня, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая драўляная сядзібнага тыпу.

**НАХАЎ** — вёска, цэнтр Нахаўскага с/с, за 30 км на ПнУ ад Калінкавіч, 2 км ад чыг. ст. Нахаў (на лініі Гомель—Лунінец), 102 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 162 гаспадаркі, 429 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1795 г. ўладанне Ракіцкіх, 3 двары. У 1876 г. дваранін Радзіеўскі меў у вёсцы 55 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Насавіцкім царк. прыходзе. З 1896 г. дзейнічала паштовае аддз. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 130 жыхароў. Побач былі аднайменны хутар і вёска, у якой жылі стараверы (41 двор, 255 жыхароў, стараверчы малітоўны дом). У 1908 г. ў Васілевіцкай вол. Рэчыцкага пав. вёскі Нахаў Стары (26 двароў, 162 жыхары) і Нахаў Новы (32 двары, 195 жыхароў). З 8.12.1926 г. цэнтр Нахаўскага с/с Васілевіцкага, з 4.8.1927 г. Рэчыцкага, з 5.4.1935 г. Мазырскага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з

16.9.1959 г. Калінкавіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай вобл. У пач. 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі смалакурня і дрэваапрацоўчая майстэрня. У 1930 г. 184 двары, 814 жыхароў, школа, аддз. спажывецкай кааперацыі, клёпачны з-д. У 1940 г. 180 двароў, 754 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—43 гг. ням. акупанты спалілі 80 двароў і загубілі 2 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 76 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1971 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 348 жыхароў. Цэнтр калгаса «50 гадоў Кастрычніка». Размешчаны лесапільня, млын, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да Пд якой далучаецца прамалінейная вуліца з 2 завулкамі. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы У.Д.Юрчанкі.

**НАХАЎСКІ** — пасёлак і чыг. ст. Нахаў (на лініі Гомель—Лунінец), у Нахаўскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Калінкавіч, 98 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 27 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Са здачай у эксплуатацыю ў лют. 1886 г. чыгункі Лунінец—Гомель тут пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд, а пазней чыг. станцыя. Побач складваўся пасёлак. У 1930 г. 31 двор, 120 жыхароў. У 1940 г. 60 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1941—43 гг. спалілі 10 двароў і загубілі 10 жыхароў. У баях за пасёлак і наваколле загінулі 199 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры пасёлка). 18 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 716 жыхароў. Сучаснае найменне пасёлку нададзена Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. У складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Нахаў). Размешчаны лясніцтва, 9-гадовая школа, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з бессістэмнай забудовы каля чыгункі і прасёлачнай дарогі. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**НІКАНАВА** (да 12.7.1965 г. Рылавічы) — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 42 км на Пн ад Калінкавіч, 16 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 158 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Назва ў памяць Героя Сав. Саюза А.Н.Ніканава. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1522 г. кн. Фёдар Іванавіч дараваў вёску І.Палазовічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 330 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, карчма. У 1908 г. ў Азарыцкай вол. Бабруйскага пав., 66 двароў, 404 жыхары. У 1917 г. 475 жыхароў. У 1921 г. адкрыта школа. У 1923 г. 78 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавалі вятрак, кузня. У Вял. Айч. вайну 28.6.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі 10-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіяй. 66 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 348 жыхароў. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай вуліцы, да якой з З і У далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова пераважна няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць залежы жалезняку.

**НОВАЯ АНТОНАЎКА** — пасёлак у Гарбавіцкім с/с, за 5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 127 км ад Гомеля; на Пд р. Ненач (прыток р. Прыпяць).

Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лунінец—Гомель. 174 гаспадаркі, 482 жыхары (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з в. Антонаўка. Паводле перапісу 1897 г. слабада ў Дудзіцкай вол., 16 двароў, 115 жыхароў, яўр. малітоўная школа. У 1908 г. 18 двароў, 137 жыхароў. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Размешчаны Калінкавіцкі зверасаўгас, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд пад вострым вуглом далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.



*У.А.Барысенка.*

**НОВЫЯ НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Капліцкім с/с, за 25 км на Пн ад Калінкавіч, 18 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 149 км ад Гомеля; на Пд і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 71 гаспадарка, 154 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, пераважна з в. Навасёлкі, на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 367 жыхароў. У складзе саўгаса «Каплічы» (цэнтр — в. Каплічы). Размешчана пач. школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЛУКІ** (да 1955 г. Уюнішчы) — вёска ў Чкалаўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Калінкавіч, 17 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 115 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 34 гаспадаркі, 81 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. хутар Лукі (ён жа Уюнне). У 1908 г. ў Чэрнінскай вол. Бабруйскага пав., 341 жыхар. У 1925 г. ў Казловіцкім с/с Бабруйскай акр., 37 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 251 жыхар. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Лукі). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕНІЦА** — вёска ў Сыродскім с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 132 км ад Гомеля, на паўн. ускраіне р. Дымарка (прыток р. Закованка), на З — ландшафтны заказнік «Мазырскія яры». Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 29 гаспадарак, 45 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ва ўладанні памешчыцы Б.А.Лошчынай, якая 18.3.1674 г. аддала Пеніцу езуітам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Калінкавіцкім царк. прыходзе. У 1885 г. 156 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 43 двары, 282 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Змычка», працавалі кузня, торфазавод, пач. школа (у 1935 г. 34 вучні). У Вял. Айч. вайну 13.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары. У 1970 г. 237 жыхароў. У складзе калгаса «Дружба» (цэнтр — в. Сырод). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, крыху выгнутых шыротных вуліц, злучаных дарогай і забудаваных няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза У.А.Барысенкі, маці-гераіні К.К.Баравік (выгадавала 11 дзяцей). Паблізу ёсць жалезарудныя залежы.

**ПЕРАДЗЕЛЬНАЕ** — вёска ў Гарочыцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 120 км ад Гомеля; на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. пазначана як в. Перадзеліна, уладанне графа Юдзіцкага. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі кузня і пач. школа (у 1935 г. 74 вучні). У 1940 г. 48 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты спалілі 30 двароў, загубілі 2 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРАТОК** — вёска ў Ліпаўскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Калінкавіч, 7 км ад чыг. ст. Блудзім (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 127 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 50 гаспадарак, 77 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1737 г. ў маёнтку Ліпаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 11 двароў, у 1834 г. ўладанне Горватаў, 15 двароў, 94 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 217 жыхароў. У 1908 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 45 двароў, 266 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.М.Галадзеда, працавалі вятрак, кузня, пач. школа (у 1935 г. 56 вучняў). У 1940 г. 78 двароў, 377 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты спалілі 76 двароў і загубілі 37 жыхароў. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Міроненкі). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да цэнтра якой з У далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЕРАТРУТАЎСКІ ВАРАТЫН** — вёска ў Савіцкім с/с, за 43 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 42 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 162 км ад Гомеля; на У і Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 320 гаспадарак, 924 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1876 г. дваранін Венцлавовіч меў у гэтых месцах 8607 дзес. зямлі, карчму і вятрак. З 1894 г. працавала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 164 жыхары. У 1909 г. 34 двары, 204 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 42 двары, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. ням. акупанты спалілі 38 двароў і загубілі 13 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 132 жыхары. Цэнтр саўгаса «Радзіма». Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРУДОК** — вёска, цэнтр Прудоцкага с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 145 км ад Гомеля, на аўтадарозе Хойнікі—Калінкавічы. 119 гаспадарак, 288 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1722 г. жонка мазырскага падстаросты М.Пшыбожына аддала частку вёскі юравіцкім езуітам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у скла-

дзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Мазырскім пав., уладанне Прозараў. 42 двары, 295 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Юравіцкім царк. прыходзе. У 1876 г. дваранка Парфянкава мела ў вёсцы 86 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 550 жыхароў, 86 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 90 двароў, 550 жыхароў, капліца, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач былі 2 фальваркі. У 1908 г. ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 105 двароў, 570 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Прудоцкага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1926 г. 514, у 1939 г. 808 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны 2 калгасы, дзейнічалі крухмальны з-д, пач. школа (у 1935 г. 109 вучняў). У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1943 г. часткова спалілі вёску. Вызвалена 12.1.1944 г. У баях за вёску і наваколле загінулі 212 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўдн. ускраіне). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 166 землякоў — жыхароў вёсак Прудоцкага с/с, памяць аб якіх увекавечваюць курган са скульптурай воіна на вяршыні і 7 пліт з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1967 г. на паўд. ускраіне. Паводле перапісу 1959 г. 513 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі імя Ф.Э.Дзяржынскага міжраённага аўтатранспартнага прадпрыемства. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, швейная і механічная майстэрні, лесапільня, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца пад прамым вуглом кароткая прамалінейная вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**РАКАЎ** — вёска ў Ліпаўскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Калінкавіч, 6 км ад чыг. ст. Асташкавічы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 119 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 43 гаспадаркі, 80 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1796 г. 2 двары, уладанне Яленскіх. У 1834 г. 13 двароў, 116 жыхароў. У 1850 г. ў складзе маёнтка Ліпава памешчыка Горвата, 17 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ліпаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. вёскі, падзеленыя ручаём (даўно высах) Ракаў-1 (11 двароў, 136 жыхароў) і Ракаў-2 (10 двароў, 138 жыхароў). У 1907 г. адбыліся выступленні сялян супраць памешчыка Горвата. У 1908 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 48 двароў, 324 жыхары. У 1922 г. на свае сродкі вяскоўцы ўзвялі будынак школы, а ў 1923 г. ў ёй пачаліся заняткі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Ракаў», працавалі вятрак, кузня, пач. школа (у 1935 г. 69 вучняў). У Вял. Айч. вайну 60 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 379 жыхароў. У складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Міроненкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, якая на З далучаецца да кароткай мерыдыянальнай вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**РУДЗЕНЬКА** — вёска ў Гарочыцкім с/с, за 18 км на Пн ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 135 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 56 гаспадарак, 104 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Яленскіх, 9 двароў. У 1850 г. 12 двароў, 74 жыхары. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, працаваўшая ў гэтых месцах у 1890-х г. У

1930 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 332 жыхары. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУДНІЦА** — вёска ў Гарочыцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Калінкавіч, 10 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель—Лунінец), 122 км ад Гомеля; на Пд і праз вёску праходзілі меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 82 вучні). У 1940 г. 45 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў снеж. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 157 жыхароў. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд і Пн далучаюцца 2 кароткія вуліцы. На Пн, за каналам, кароткая, прамалінейная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**САВІЧЫ** — вёска, цэнтр Савіцкага с/с, за 44 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 166 км ад Гомеля; на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 218 гаспадарак, 571 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Ракіцкіх, затым Празараў, 20 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, працаваўшая ў гэтых месцах у 1890-х г. Пад 1879 г. значыцца як сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 401 жыхар, царква, хлебазапасны магазін. У 1904 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, у 1912 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. Мелася паштовае аддз. У 1908 г. цэнтр Савіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 175 двароў, 874 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Савіцкага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Капаткевіцкага, з 24.3.1960 г. Калінкавіцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 12.2.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня, стальмашня, цагельня. У 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 250 вучняў). У 1940 г. 276 двароў, 1104 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты стварылі ў вёсцы апорны пункт, які партызаны разграмілі. У лют. 1944 г. карнікі спалілі 253 двары і загубілі 3 жыхароў. У баях за вёску і наваколле ў 1944 г. загінулі 416 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). 115 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Трамлянскі». Размешчаны лесапільня, млын, швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц (працяглая і 2 кароткія), блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Да працяглай вуліцы далучаюцца з 3 дзве паралельныя паміж сабой кароткія вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы месц, пераважна з в. Вяпры Нараўлянскага р-на. Для іх у 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 55 сямей. Непадалёку размешчаны Савіцкія нафтавыя залежы.

**САДКІ** — вёска ў Якімавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Садкі (на лініі Калінкавічы—Лунінец), 143 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 22 гаспадаркі, 66 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 28 двароў, 167 жыхароў. У 1910 г. праведзена размежаванне ў мэтах рассялення на хутары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 58 вучняў). У 1940 г. 65 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. У баях у наваколлі загінулі 68 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле за 1,5 км на У ад вёскі). 37 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінская Іскра» (цэнтр — в. Якімавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**САЛАНІК** — пасёлак у Зеляноцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Калінкавіч, 13 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 119 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 25 гаспадарак, 53 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 17 пасялкоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 125 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Насавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Нахаўскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Калінкавіч, 12 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 119 км ад Гомеля; на Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 149 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Замосце). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СЕЛЬЦЫ** — вёска ў Гарочыцкім с/с, за 27 км на Пн ад Калінкавіч, 12 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 142 км ад Гомеля; на Пд канал Ненач і інш. меліярацыйныя каналы. Побач аўтадарога Калінкавічы—Бабруйск. 36 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 6 двароў. У 1850 г. ўласнасць казны, 17 двароў, 85 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Даманавіцкага царк. прыхода. У 1908 г. 47 двароў, 273 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новыя Сельцы», працавалі вятрак, пач. школа (у 1935 г. 77 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 59 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 29 вяскоўцаў не вярнуліся з фронту. Паводле перапісу 1959 г. 384 жыхары. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудова драўляная, двухбаковая сядзібнага тыпу.

**СІТНЯ** — вёска ў Дудзіцкім с/с, за 3 км на Пд ад раённага цэнтра і 5 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 126 км ад Гомеля; на Пн

меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель–Лунінец. 31 гаспадарка, 59 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як сяленне ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. ўладанне Горвата, 6 двароў. З 1842 г. дзейнічала царква. Упамінаецца ў статыстычным даведніку 1886 г. як слабада. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 326 жыхароў, яўр. малітоўная школа. У 1908 г. 42 двары, 270 жыхароў. У выніку пагрому, які 10.11.1920 г. ўчыніла банда Булак-Булаховіча, загінулі 11 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 28 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў маі–чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з сяленняў, якія знаходзіліся ў прыфрантавой паласе. 26 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 149 жыхароў. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр – в. Дудзічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАБОДКА** (раней Бярозаўская слабада) – вёска ў Бярозаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель–Лунінец), 159 км ад Гомеля; на Пн р. Тур'я (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель–Лунінец. 78 гаспадарак, 138 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі паселішча сярэдняга этапа днепраданецкай культуры эпохі неаліту (3 км на ПдЗ ад вёскі), паселішча (1,5 км на ПдЗ ад вёскі) і паселішча (2 км на З ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв., уладанне Абуховічаў, затым Аскеркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 22 двары. У 1885 г. ўпамінаецца як сяленне ў Юравіцкім царк. прыходзе. Вялікі ўчастак меў тут у 1880-х г. памешчык М.Я.Піятровіч. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 414 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. вёска (84 двары, 462 жыхары) і ўрочышча (6 жыхароў), у Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Слабодкаўскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. Па перапісу 1926 г. 694 жыхары, у 1930 г. 146 двароў, 763 жыхары, арганізаваны калгас «Новы быт», працавалі вятрак, пач. школа (у 1935 г. 76 вучняў). У 1939 г. 765 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 14.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 91 вясковец загінуў на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 680 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр – в. Бярозаўка). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СМАГЛАЎ** – вёска ў Дудзіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Калінкавіч, 5 км ад чыг. ст. Галявіцы (на лініі Гомель–Лунінец), 115 км ад Гомеля; на Пд, У і Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель–Лунінец. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў маі–чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Шыічы, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр – в. Гарочычы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Непадалёку размешчаны невялікія залежы жалезных руд.

**СМАЛЯНКА** – вёска ў Дудзіцкім с/с, за 8 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель–

Лунінец), 118 км ад Гомеля; вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 32 гаспадаркі, 64 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 65 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Гарохаў, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У складзе саўгаса «Калінкавіцкі» (цэнтр — в. Гарочычы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая мае загіны на У і З. Забудова няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Савіцкім с/с, за 47 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец),168 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1816 г. шляхецкая ўласнасць, 4 двары. Па рэвізскіх матэрыялах 1850 г. 100 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Колкаўскім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 182 жыхары. У 1908 г. 37 двароў, 248 жыхароў. У 1925 г. 65 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 46 вучняў). У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У складзе саўгаса «Трамлянскі» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**СУХАВІЧЫ** — вёска ў Шыіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 136 км ад Гомеля; на З канал Ненач. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 45 гаспадарак, 102 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяло ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1720 г. на сродкі памешчыцы Т.Камаровай збудаваны базыльянскі кляштар, б-ка якога ў той час налічвала 103 тамы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. цэнтр Сухавіцкага староства, уладанне Яленскіх, 40 двароў, паштовая станцыя. У 1796 г. згарэў манастырскі касцёл, і ў хуткім часе на тым жа месцы быў узведзены новы будынак касцёла. Дзейнічала і правасл. Іаанабагаслоўская царква (у ёй захоўваліся метрычныя кнігі з 1808 г.). У пач. 19 ст. ва ўладанні казны. У 1830 г. кляштар закрыты. У 1836 г. ўзведзены новы драўляны будынак царквы. У 1843 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1872 г. для яе збудавана ўласнае памяшканне. У 1885 г. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., 226 жыхароў. Побач з вёскай у 1878—90 гг. пракладзены экспедыцыяй І.Жылінскага магістральны канал Ненач (62 вярсты). Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 323 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав., 82 двары, 442 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Сухавіцкага (да 1939 г.) с/с Калінкавіцкага, з 27.9.1930 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», працавалі 2 ветракі, 2 кузні, пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 159 вучняў). У Вял. Айч. вайну 77 вяскоўцаў загінулі на фронце. Вызвалена 13.1.1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 318 жыхароў. У складзе саўгаса

«Ненач» (цэнтр — в. Шыычы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія шыротныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Побач Сухавіцкае радовішча торфу з агульнымі запасамі 5,5 млн. т.

**СЫРОД** — вёска, цэнтр Сыродскага с/с, за 8 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 120 км ад Гомеля; на Пн меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 224 гаспадаркі, 620 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. згадваецца як сяленне ў Аўцючавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 266 жыхароў. У 1908 г. 66 двароў, 366 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас, працавалі смалакурня, пач. школа (у 1935 г. 74 вучні). У Вял. Айч. вайну ў маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Церабаў (Петрыкаўскі р-н), якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. 79 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 26.6.1973 г. цэнтр Сыродскага с/с Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. Цэнтр калгаса «Дружба». Размешчаны 9-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн пад прамым вуглом далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу. Побач радовішча валуна-жвіравага дарожнага матэрыялу. Радзіма маці-гераіні Е.Г.Дулуб (выгадавала 11 дзяцей).

**СЫШЧЫЦЫ** — вёска ў Крукавіцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 17 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінквічы), 152 км ад Гомеля; на У і Пд меліярацыйныя каналы і р. Віша (прыток р. Іпа). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 67 гаспадарак, 128 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 27 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, працаваўшая ў гэтых месцах у 1890-х г. Паводле перапісу 1897 г. ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 36 двароў, 277 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1903 г. праведзена размежаванне з улікам вылучэння некаторых гаспадарак на хутары. У 1925 г. 103 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава; працавалі вятрак, крупарушка, кузня, ваўначоска. У 1940 г. 112 двароў, 506 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў студз. 1944 г. спалілі 70 двароў і загубілі 101 жыхара. У баях за вёску і наваколле загінулі ў 1941 і 1943—44 гг. 1052 воіны (пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-зах. ускраіне). 81 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 379 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана в. Шарыпічы. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і з ПдУ на ПнЗ, злучаных на Пд. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**СЯМЁНАВІЧЫ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 45 км на Пн ад Калінкавіч, 24 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 167 км ад Гомеля; на Пд, У і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад г.п. Азарычы. 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пад 1778 г. пазначана як сяленне (12 хат) у Азарыцкай царк. парафіі. Пас-

ля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 20 двароў. З 1799 г. ў валоданні тайнага саветніка З.Л.Лашкарова. У 1800 г. ў Рэчыцкім пав., 26 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ., 34 двары, 247 жыхароў, карчма. У 1908 г. 53 двары, 343 жыхары. У 1917 г. 413 жыхароў. У 1921 г. пачала дзейнічаць школа. З 1939 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Халмянскага с/с Даманавіцкага р-на Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1925 г. 84 двары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, працавалі 2 ветракі. У 1940 г. 78 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. карнікі спалілі 41 двор і загубілі 36 жыхароў. 62 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 253 жыхары. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТАРКАНЫ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Калінкавіч, 4 км ад чыг. ст. Убалаць (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 138 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 46 гаспадарак, 95 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Пад 1750 г. пазначана ў актах Гал. Літоўскага трыбунала. У 1834 г. 15 двароў, у валоданні памешчыка Міхайлава. У 1850 г. ў складзе маёнтка Даманавічы. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Даманавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 207 жыхароў. У 1908 г. 46 двароў, 312 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 71 вучань). У Вял. Айч. вайну 59 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 390 жыхароў. Размешчана падсобная гаспадарка камбіната хлебапрадуктаў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца з Пн кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ТРАМЕЦ** — вёска ў Савіцкім с/с, за 51 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 31 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 173 км ад Гомеля, на Пд р. Мядзведзь (прыток р. Трэмля). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як хутар у Рудабельскай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 91 жыхар. У 1908 г. 13 двароў, 97 жыхароў. У 1917 г. 106 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 72 двары, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў. У складзе саўгаса «Трамлянскі» (цэнтр — в. Савічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТУРАВІЧЫ** — вёска ў Шыіцкім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 138 км ад Гомеля. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 56 гаспадарак, 121 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Да 1703 г. адносіцца прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста мазырскаму земскаму пісцу Я.Камароўскаму на в. Туравіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Яленскіх, 47 двароў, затым — казны. У 1850 г. 215 жыхароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне Сухавіцкага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 516

жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 562 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», працавалі паравы млын, кузня, пач. школа (у 1935 г. 141 вучань). У Вял. Айч. вайну 13.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. У маі 1944 г. жыхары з вёскі, якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе, былі пераселены ў в. Булаўкі, дзе яны размяшчаліся да пач. ваеннай аперацыі «Баграціён» і калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц, 67 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. У складзе саўгаса «Ненач» (цэнтр — в. Шыічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца завулак, а з Пн — 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ТУРЦЭВІЧЫ** (да 12.7.1965 г. Каўбасічы) — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 130 км ад Гомеля. На ўсх. ускраіне канал Ненач. Побач аўтадарога Гомель—Лунінец. 184 гаспадаркі, 501 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ўладанне Аскеркаў, 30 двароў. Пры размежаванні зямель у 1867 г. ўлады ігнаравалі пажаданні сялян, што прывяло да адкрытых выступленняў вяскоўцаў. У 1871 г. дваранін А.Болтуц меў у вёсцы 310 дзес. зямлі, вадзяны і конны млыны. Побач з вёскай прайшоў пракладзены экспедыцыяй І.Жылінскага ў 1878—80 гг. магістральны канал Ненач. У 1885 г. 208 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 350 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 51 двор, 422 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 63 вучні). У Вял. Айч. вайну 14.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. У маі—чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаліся жыхары з в. Гарбавічы, якая знаходзілася ў прыфрантавой зоне. 54 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 723 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі райсельгасхіміі (цэнтр — в. Гарбавічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пд і ў цэнтры перакрыжоўваецца кароткімі выгнутымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сав. Саюза М.Ф.Турцэвіча (у гонар яго нададзена імя вёсцы), аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Р.М.Ігнаценкі (быў камісарам партыз. брыгады імя С.М.Будзённага Пінскай вобл.).

**УБАЛАЦЬ** — вёска ў Зеляноцкім с/с, за 21 км на ПнУ ад Калінкавіч, 6 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 126 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 80 гаспадарак, 146 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1850 г. ў складзе маёнтка Даманавічы, уладанне памешчыка Міхайлава, 18 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Даманавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 324 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. ў Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 71 двор, 478 жыхароў. У 1915 г. з уводам у эксплуатацыю чыгункі Жлобін—Калінкавічы, пачаў дзейнічаць чыг. раз'езд Убалаць (4 км ад вёскі). У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларуская Акадэмія навук», працавалі вятрак, конная крупарушка, кузня, пач. школа (у 1935 г. 56 вучняў. У Вял. Айч. вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 129 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на



*Ручнік з в. Убалаць. 1930-я г.*

могілках). Вызвалена 12.1.1944 г. 53 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 594 жыхары. У складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Зяляночы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных дарогамі і арыентаваных амаль мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ХАЛОДНІКІ** — вёска ў Даманавіцкім с/с, чыг. станцыя на лініі Жлобін—Калінкавічы, за 28 км на ПнУ ад Калінкавіч, 150 ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 155 гаспадарак, 336 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У 1834 г. 32 двары, у валоданні памешчыка Міхайлава. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Даманавіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 254 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1908 г. 66 двароў, 432 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1915 г. з уводам у эксплуатацыю чыг. Жлобін—Калінкавічы пачала дзейнічаць чыг. станцыя. З лют. да 21.12.1918 г. пад акупацыяй герм. войск. У 1929 г. створаны калгас «Новыя Халоднікі», працавалі цагельня, вятрак, кузня, пач. школа (у 1935 г. 178 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску. У 1943—44 гг. у баях у наваколлі загінулі 358 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза П.Ф.Саладко. Вызвалена 12.1.1944 г. 90 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 769 жыхароў. Цэнтр калгаса імя І.У.Мічурына. Размешчаны 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 47 км на ПнУ ад Калінкавіч, 11 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 118 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі, у Азарыцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. З 1799 г. ў валоданні тайнага саветніка Л.Лашкарова, затым у складзе маёнтка Ліпава памешчыка Горвата. У 1816 г. 12 двароў. Па рэвізскіх матэрыялах 1834 г. 27 двароў. У 1885 г. 21 двор, 190 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 277 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні, а ў 1919 г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак з маёнтка Белькаўшчына. У 1917 г. 302 жыхары. У 1923 г. 47 двароў, 382 жыхары. З 20.8.1924 г. да 21.10.1968 г. цэнтр

Хамічоўскага с/с Азарыцкага, з 8.7.1931 г. Мазырскага, з 12.2.1935 г. Даманавіцкага, з 20.1.1960 г. Калінкавіцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі вятрак, кузня, пач. школа (у 1935 г. 117 вучняў). У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падполле. У баях за вёску і наваколле загінулі 144 воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 222 жыхары. Часта вёску называюць Хамічы Азарыцкія. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Размешчаны аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, працяглай, шыротнай арыентацыі, рэдка забудаванай вуліцы, да цэнтра якой з Пн далучаецца кароткая вуліца. Паралельна да галоўнай на Пн праходзіць кароткая вуліца. Забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У вёсцы размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы, пераважна з в. Хаткі Нараўлянскага р-на. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Міншчыне ў Вял. Айч. вайну Е.Д.Гарбачова.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Ліпаўскім с/с, за 40 км на Пн ад Калінкавіч, 15 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 120 км ад Гомеля; на Пд меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 127 гаспадарак, 305 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. У 1-й трэці 17 ст. ў складзе маёнтка Ліпава, уладанне Горватаў, 5 службаў, 30 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. 12 двароў. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Ліпаўскім царк. прыходзе. У 1885 г. 21 двор, 190 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў Карпавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 25 двароў, 221 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 48 двароў, 274 жыхары. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1925 г. 66 двароў. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр Хаміцкага с/с Калінкавіцкага р-на Мазырскай акр. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі кузня і пач. школа (у 1935 г. 108 вучняў). У 1940 г. 96 двароў, 435 жыхароў. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падп. група (кіраўнік С.П.Алісейчык, загінуў). У студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі 8 двароў, загубілі 7 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 167 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на зах. ускраіне). 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 532 жыхары. Часта вёску называюць Хамічы Ліпаўскія. У складзе эксперыментальнай базы «Ліпава» (цэнтр — в. Ліпава). Размешчаны аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Паблізу ёсць невялікія залежы жалезняка.

**ХАТЫНІ** — вёска ў Чкалаўскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Калінкавіч, 16 км ад чыг. ст. Васілевічы (на лініі Гомель—Лунінец), 120 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар у Якімава-Слабодскай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 3 двары, 16 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 55 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 255 жыхароў. У складзе калгаса імя М.В.Фрунзе (цэнтр — в. Лукі). Планіровачна складаецца з дугападоб-

най вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ХОБНАЕ** — вёска, цэнтр Хобненскага с/с, за 40 км на У ад Калінкавіч, 19 км ад чыг. ст. Нахаў (на лініі Гомель—Лунінец), 119 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, злучаны з Канавай Тур'я. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 168 гаспадарак, 372 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пад 1566 г. пазначана ў матэрыялах аб межах новых паветаў ВКЛ, створаных па адм. рэформе 1565—66 гг. Уладальніца вёскі Б.Лошчына (з роду Юдзіцкіх) 18.3.1674 г. сваім запісам у Мазырскім судзе перадала частку сваіх уладанняў, у тым ліку с. Хобнае, езуітам. У 1834 г. ўладанне Аскеркаў, 46 двароў. Дваранін Мараўскі меў тут у 1876 г. 1954 дзес. зямлі. У 1885 г. 58 двароў, 400 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 588 жыхароў, Іаанабагаслоўская царква, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1889 г.), хлебазапасны магазін, карчма. Побач быў фальварак, 4 двары, 48 жыхароў. У 1908 г. ў Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав., 144 двары. З 8.12.1926 г. цэнтр Хобненскага с/с Юравіцкага, з 8.7.1931 г. Хойніцкага, з 20.2.1938 г. Васілевіцкага, з 16.9.1959 г. Калінкавіцкага р-наў Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1930 г. 950 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Змагар». У 1940 г. 205 двароў, 710 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 39 жыхароў. У баях за вёску і наваколле загінулі 36 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 182 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўваюць 2 стэлы і 15 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых, пастаўленыя ў 1975 г. каля клуба. Паводле перапісу 1959 г. 868 жыхароў. Цэнтр калгаса «Зара». Размешчаны лясніцтва, швейная майстэрня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой з Пн далучаюцца адна і з Пд — 2 кароткія вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая сядзібнага тыпу. Паблізу ёсць тарфяныя залежы.

**ЦІДАЎ** (раней Цыдавічы) — вёска ў Казловіцкім с/с, за 34 км на Пн ад Калінкавіч, 13 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 149 км ад Гомеля, на аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 26 гаспадарак, 43 жыхары (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Азарыцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1890—98 гг. у гэтых месцах працавала меліярацыйная экспедыцыя І.Жылінскага, якая праклала канал Іпа (27 вёрст, непадалёку ад вёскі). Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 194 жыхары. У 1908 г. 237 жыхароў. У 1917 г. 289 жыхароў. У 1924 г. 45 двароў, 302 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 65 вучняў). У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі 6 двароў і загубілі 6 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаецца невялікі завулак. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧАПЧЫН** — вёска ў Зеляноцкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Калінкавіч,10 км ад чыг. ст. Гарочычы (на лініі Жлобін—Калінкавічы), 122 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 34 гаспадаркі, 64 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1908 г. фальварак, у Даманавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 7 жыхароў. Найб. актыўнае засяленне гэтых месц адносіцца да 1920-х г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 31 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 209 жыхароў. У складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Насавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца крывалінейная, блізкая да шыротнай арыентацыі вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЧОРНАЎШЧЫНА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 34 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 155 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 25 гаспадарак, 61 жыхар (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав. У 1879 г. пазначана як сяленне ў Юравіцкім царк. прыходзе. У 1908 г. 26 двароў, 215 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавалі конная крупарушка, кузня, ваўначоска, пач. школа (у 1935 г. 36 вучняў). У 1940 г. 62 двары, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 11 жыхароў. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапіпсу 1959 г. 225 жыхароў. У складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Бярозаўка). размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБОДКА** (да 1925 г. Адверніца) — вёска ў Азарыцкім пас. Савеце, за 41 км на Пн ад Калінкавіч, 15 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 156 км ад Гомеля; на У меліярацыйныя каналы і р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 84 гаспадаркі, 240 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе саўгаса «Азарычы» (цэнтр — в. Азарычы). Размешчана сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 60 сямей.

**ЧЫСТАЯ ЛУЖА** — вёска ў Крукавіцкім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Калінкавіч, 28 км ад чыг. ст. Халоднікі (на лініі Калінкавічы—Жлобін), 170 км ад Гомеля; на З канал Межалішчанскі, злучаны з р. Трэмля (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Крукавіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1875 г. ўладальніца аднайменнага маёнтка дваранка Яленская мела тут 23 442 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1925 г. 20 двароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 95 вучняў). У 1940 г. 30 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў студз. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 21 жыхара. 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. У складзе саўгаса «Беразнянскі» (цэнтр — в. Крукавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма доктара мед. навук, праф. А.С.Калугіна.

**ШАЛЫПЫ** — вёска у Дудзіцкім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—

Лунінец), 132 км ад Гомеля; на З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 78 гаспадарак, 180 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1834 г. 23 двары. З 1883 г. маёнтак ва ўладанні Горватаў. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 291 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 57 двароў, 359 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х гадоў для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», працавалі вятрак, пач. школа (у 1935 г. 136 вучняў). У 1940 г. 108 двароў, 432 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 107 двароў і загубілі 19 жыхароў. 40 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 401 жыхар. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр — в. Дудзічы). Размешчаны аддз. сувязі, 9-гадовая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыроткай вуліцы, якая на З раздвойваецца і да яе далучаецца з Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма М.М.Карнейчук, удзельніцы баёў у гады Вял. Айч. вайны, якая загінула на фронце. Яе імя носіць адна з вуліц вёскі.

**ШАРЭЙКІ** — вёска ў Юравіцкім с/с за 28 км на Пд ад раённага цэнтра, 31 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 120 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з воз. Горкі, на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 37 гаспадарак, 63 жыхары (2004 г.).

Выяўленае археолагамі паселішча эпохі неаліту і ранняга жал. веку (0,5 км на Пн ад вёскі) сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пад 1552 г. пазначана ў «Літоўскай метрыцы» як в. Шарэйкавічы, уладанне Лозкі. У 1722 г. жонка Мазырскага падстаросты М.Пшыбожына зрабіла фундушовы запіс кляштару езуітаў у Юравічах на частку вёскі Шарэйкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. уладанне Прозараў, 17 двароў. У 1859 гаспадар маёнтка дваранін Дабравольскі меў тут 928 дзес. зямлі. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Юравіцкім царк. прыходзе. Калі ў 1878—1880 гг. пракладваўся магістральны канал Закованка, ад яго было зроблена адгалінаванне да в. Шарэйкі. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 216 жыхароў, царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. Побач былі фальварак і маёнтак. У 1908 г. ў Юравіцкай вол. Рэчыцкага пав., 90 двароў, 450 жыхароў. З 8.12.1926 г. да 10.11.1927 г. цэнтр Шарэйкаўскага с/с Юравіцкага р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. Мазырскай акр. У 1930 г. 122 двары, 564 жыхары, арганізаваны калгас «Першамайскі», працавалі кузня і ваўначоска. У 1935 г. ў вясковай школе 55 вучняў. У Вял. Айч. вайну 12.1.1944 г. вызвалена ад ням. акупацыі. 49 вяскоўцаў загінулі на фронце. У складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Юравічы). Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі. Побач размешчаны тарфяныя залежы.

**ШАЎЛОЎ** — вёска у Хобненскім с/с, за 35 км на У ад Калінкавіч, 9 км ад чыг. ст. Лозкі (на лініі Гомель—Лунінец), 118 км ад Гомеля, вакол меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар у Аўцюцевіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ. 9 двароў, 55 жыхароў. У 1930 г. 20

двароў, 112 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1943 г. ням. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 97 жыхароў. У складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Хобнае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШЫЧЫ** — вёска, цэнтр Шыіцкага с/с, за 14 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 16 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 140 км ад Гомеля, на ўсх. ускраіне канал Ненач і меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 231 гаспадарка, 585 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мазырскім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Да 1703 г. адносіцца прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста Мазырскаму земскаму пісару Я.Каляроўскаму на в. Шычы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло, 48 двароў, 251 жыхар, уладанне Яленскіх, затым — казны. У 1872 г. пісар Віленскай ваен. акругі Ф.Садоўскі меў у вёсцы конны млын і 348 дзес. зямлі. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, працаваўшая ў гэтых месцах у 1890-х г. Пад 1879 г. пазначана як сяленне ў Сухавіцкім царк. прыходзе. Побач з вёскай у 1878—80 гг. пракладзены экспедыцыяй І.Жылінскага магістральны канал Ненач (62 вярсты). Паводле перапісу 1897 г. у Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 114 двароў, 657 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 876 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. З 1939 г. цэнтр Сухавіцкага, з 1.10.1973 г. Шыіцкага с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новыя Шычы», працавалі вятрак і кузня. Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 258 вучняў). У Вял. Айч. вайну вызвалена 13.1.1944 г. У маі 1944 г. вёска знаходзілася ў прыфрантавой паласе, і жыхары ў мэтах іх бяспекі былі пераселены ў в. Смаглаў, дзе яны размяшчаліся да пач. ваеннай аперацыі «Баграціён» і калі ваенныя дзеянні перамясціліся далёка ад гэтых месц. У баях за вёску і наваколле загінулі 166 воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне). 115 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 638 жыхароў. Цэнтр аграфірмы «Ненач». Размешчаны лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Для перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў 1986 г. збудаваны мураваныя дамы на 110 сямей. Радзіма бел. мастака А.У.Отчыка.

**ЮРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Юравіцкага с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра, 34 км ад чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 92 км ад Гомеля, 1 км ад прыстані Юравічы на р. Прыпяць, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Прыпяць (прыток р. Дняпро). Каля мястэчка вышэйшы пункт раёна (167,5 м над узроўнем мора). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 333 гаспадаркі, 743 жыхары (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча ранняга жал. веку (на тэр. калгаснага саду) і курганны могільнік — з 14 насыпаў захаваліся 6 (на Пд ад гарадзішча), паселішчы позняга палеаліту (у цэнтры вёскі), эпохі мезаліту (1—1,5 км на ПдЗ ад цэнтра вёскі) і эпохі неаліту (1 км на З ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Па легендзе тут (прыкладна ў 1170 г.)



*Будынак былога касцёла езуітаў у в. Юравічы.*

быў горад Межымосце, але ў выніку войнаў і татара-мангольскіх набегаў ён быў дашчэнту разбураны. Па інш. звестках называлася Відолічы, мела ўмацаваны замак, які ў 1240 г. спалілі татары. Адно з ранніх пісьмовых упамінанняў адносіцца да 1430—32 гг. У 1510 г. кароль Жыгімонт І Стары дараваў «на вечнасць» сяло Юравічы свайму чыноўніку Багдану Сербінаву. Пад 1552 г. упамінаецца ў вопісе Мазырскага замка. У 2-й пал. 17 ст. пабудаваны драўляны кляштар. З 1674 г. актыўную дзейнасць разгарнулі тут езуіты. Яны валодалі вял. зямельнымі надзеламі. У 1683 г. кароль Ян III Сабескі выдаў грамату, якой зацвярджаліся за Юравічамі правы мястэчка. У 1705 г. езуіцкія будынкі згарэлі, пазней на месцы б. драўлянага кляштара езуіты ўзвялі мураваны касцёл (у ім захоўваліся метрычныя кнігі з 1707 г.). Да яго пазней быў далучаны двухпавярховы мураваны кляштар, які спалучаў у сабе суровыя рысы простай архітэктуры жылога корпуса і ўзнёслую маляўнічасць фасада. Касцёл і кляштар былі абнесены высокай чатырохвугольнай мураванай сцяной, па цэнтры і вуглах кожнай з 4-х яе частак размяшчаліся мураваныя абарончыя вежы. У гэты час Юравічы мелі статус сяла. У 1722 г. да езуітаў перайшлі фальварак Рудня, частка фальварка Шарэйкі, у 1724 г. — маёнткі Кустаўшчына, Міцькаўшчына, затым — Канатоп, Крышычы, Тульгавічы і Брагін, дзе езуіты заснавалі сваю місію. З 1756 г. працавала школа, якую ў 1773 г. перавялі ў Мазыр. З 1778 г. езуіты мелі тут сваю калегію (да 1820 г.). З 1778 г. па грамаце караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага сяло зноў пераведзена ў разрад мястэчак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. кляштар і касцёл перададзены бернардзінскаму ордэну. У 1831 г. касцёл і кляштар закрыты, але ў 1840 г. іх дзейнасць узнавілася. У 1834 г. мястэчка (51 двор) і сяло (66 двароў), цэнтр Юравіцкай вол. ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ., уладанне Харэвічаў, сядзіба Аскеркаў. У 1836 г. збудавана драўляная правасл. царква ў імя св. Багародзіцы. У 1848 г. вотчына Аскеркаў, 115 двароў. Будынак касцёла ў 1864 г. перададзены правасл. царкве, а ў 1866 г. ён перабудаваны ў правасл. стылі. Імператар Аляксандр Мікалаевіч у 1867 г. дараваў царкве абраз св. князя Аляксандра Неўскага ў сярэбрана-пазалочанай рызе. У 1865 г. адкрыта мужч. нар. вучылішча (у 1885 г. 45 вучняў). У 1866 г. 134 двары. З 1875 г. дзейнічала жаночае вучылішча (у 1885 г. 28 вучаніц). Цэнтр аднайменнага маёнтка, гаспадар якога купец Бакуненка валодаў у 1875 г. 3590 дзес. зямлі і конным млыном. Апрача земляробства местачкоўцы і сяльчане займаліся гандлем і рознымі промысламі, у тым ліку ганчарствам. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка (201 двор, 1320 жыхароў, царква, капліца, 2 малітоўныя школы, 40 лавак, 4 майстэрні па апрацоўцы скуры, 2 карчмы) і сяло (108 двароў, 600 жыхароў, капліца, 2 нар. вучылішчы, паштова-тэлеграфная кантора, аптэка, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, конны млын, карчма). Побач быў аднайменны фальварак. У 1905 г. створаны сялянскі саюз. У чэрв. 1917 г. арганізаваны валасны савет. У выніку пагрому, які ўтварылі ў ліст. 1920 г. банды Булак-Балаховіча, загінулі 18 жыхароў. Да 17.7.1924 г. цэнтр воласці Рэчыцкага пав. Мінскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губ. З 8.12.1926 г. 8.7.1931 г. цэнтр Юравіцкага

р-на Рэчыцкай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мазырскай акр. З 8.9.1026 г. да 10.11.1927 г. і з 1930 г. цэнтр Юравіцкага с/с. У 1928 г. адкрыты дзіцячы дом. У 1930 г. у вёсках Юравічы-1 і Юравічы-2 300 двароў, 1537 жыхароў, у мястэчку 114 двароў, 463 жыхары. Былі арганізаваны калгасы «Чырвоны Сцяг», «Ударнік», працавалі цагельна-ганчарная, кузнечная, шавецкая, аўчынная арцелі, паравы і ветраны млын, 2 кузні, крупарушка. Пач. школа ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 504 вучні). У 1936 г. арганізаваны нар. хор, які ў хуткім часе атрымаў шырокую вядомасць. З 27.9.1938 г. вёска. У 1939 г. 2546 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў крас. 1943 г. партызаны разграмілі апорны пункт, які стварылі тут акупанты. У баях каля вёскі загінулі 312 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 188 жыхароў Юравіцкага с/с, памяць аб якіх увекавечвае абеліск, пастаўлены ў цэнтры ў 1967 г. Паводле перапісу 1959 г. 1861 жыхар. Цэнтр калгаса імя У.І.Леніна. Размешчаны цагельны з-д, швейная і шавецкая майстэрні, лясніцтва, саўгас-тэхнікум, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, дзіцячы сад, краязнаўчы музей, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 5 магазінаў. Планіровачна складаецца з працяглай, дугападобнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якая ў цэнтры перакрыжоўваецца амаль прамалінейнай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма дзярж. дзеяча Беларусі У.Ф.Міцкевіча (яго імя носіць саўгас-тэхнікум), ген.-м. войск сувязі Я.А.Аляскоўскага, маці-гераіні Ю.К.Чухалёнак (выгадавала 10 дзяцей). Непадалёку размешчаны залежы жалезняку.

**ЮШКІ** – вёска і чыг. ст. (на лініі Жлобін–Калінкавічы), у Дудзіцкім с/с, за 11 км на ПнУ ад Калінкавіч, 137 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель–Лунінец. 136 гаспадарак, 307 жыхароў (2004 г.).

Выяўленыя археолагамі гарадзішчы (2 км на Пн і 1,5 км на ПнЗ ад вёскі) сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. У 1834 г. 12 двароў. Маёнтак з 1883 г. ва ўладанні Горвата. Пад 1879 г. пазначала як сяленне ў Дудзіцкім царк. прыходзе. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 210 жыхароў. У 1908 г. у Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав., 41 двор, 291 жыхар. Пасля здачы ў эксплуатацыю ў 1915 г. чыгункі Жлобін–Калінкавічы пачаў дзейнічаць раз'езд, а затым чыг. станцыя. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Юшкі», працавалі кузня і вятрак. У 1940 г. 140 двароў, 660 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 1.7.1941 г. байцы знішчальнага батальёна ў час бамбардзіроўкі варожай авіяцыяй чыг. ст. Юшкі і раённага цэнтра Калінкавічы залпам з вінтовак падпалілі двухматорны варожы самалёт, які зрабіў вымушаную пасадку каля в. Антонаўская Буда, а экіпаж быў захоплены. У кастр. 1943 г. ням. акупанты спалілі 115 двароў і загубілі 7 жыхароў. Вызвалена 13.1.1944 г., 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 615 жыхароў. У складзе саўгаса «Дудзічы» (цэнтр – в. Дудзічы). Размешчана вытв. аб'яднанне «Юшкінафтапрадукт», магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Адна з вуліц носіць імя І.С.Баброва, аднаго з арганізатараў калгаснага будаўніцтва на Гомельшчыне, быў старшынёй калгаса ў гэтай вёсцы (загінуў у 1941 г. пры затрыманні дэзерціра, ураджэнец в. Бабраняты). Радзіма актыўнага ўдзельніка грамадз. вайны П.В.Гарляка (расстраляны ням. акупантамі ў Вял. Айчынную вайну). Яго імем названа вуліца ў вёсцы.

**ЯКІМАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Якімавіцкага с/с, за 24 км на ПнЗ ад раённага цэнтра, 25 км ад чыг. ст. Калін-

кавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 146 км ад Гомеля; на зах. ускраіне р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гомель—Лунінец. 159 гаспадарак, 466 жыхароў (2004 г.).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска ў Мінскім ваяв. ВКЛ, на дарозе Бабруйск—Чарнігаў, велікакняжацкая ўласнасць. У 1526 г. пажалавана двараніну М.Замарэцкаму. Пад 1568 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста як сяленне ў Мазырскай вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 12 двароў. У 1806 г. збудавана драўляная Праабражэнская царква. У яе архіве меліся метрычныя кнігі з 1799 г. У 1850 г. сяло у Рэчыцкім пав., уладанне памешчыкаў Талстых, 39 двароў. Пазначана на карце 1866 г., якой карысталася Зах. меліярацыйная экспедыцыя, якая працавала ў гэтых месцах. У 1876 г. дваранін Галянішчаў-Кутузаў-Талсты меў ў сёлах Кошчычы і Якімавічы 24 047 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 3 карчмы. У 1883 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. У 1885 г. 238 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 80 двароў, 492 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. На Пн ад вёскі размяшчаўся аднайменны маёнтак. Побач з вёскай прайшоў пракладзены меліярацыйнай экспедыцыяй І.Жылінскага ў 1890–98 гг. канал Іпа (27 вёрст). У 1908 г. ў Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав., 92 двары, 569 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Якімовіцкага с/с Калінкавіцкага, 27.9.1930 г. Мазырскага, з 3.7.1939 г. Калінкавіцкага р-наў Мазырскай (да 26.7.1930 г. і з 21.6.1935 г. да 20.2.1938 г.) акр., з 20.2.1938 г. Палескай, з 8.1.1954 г. Гомельскай абл. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавалі конная крупарушка і кузня. У 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую (у 1935 г. 177 вучняў). У Вял. Айчынную вайну ў баях за вёску і наваколле загінулі 220 воінаў і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 70 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 550 жыхароў. Цэнтр калгаса «Ленінская Іскра». Размешчаны лесапільня, механічная і швейная майстэрні, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі, пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма маці-гераіняў М.П.Пятрушэнкі (выгадавала 10 дзяцей) і Г.Ф.Сілівончык (выгадавала 11 дзяцей). У вёсцы пасяліліся перасяленцы з Чарнобыльскай зоны, для якіх у 1988 г. збудаваны мураваныя дамы на 50 сямей. Паблізу (2,5 км ад вёскі) размешчана радовішча пяскоў.

**ЯМНАЕ** — вёска у Капліцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—Лунінец), 142 км ад Гомеля. На Пн і З меліярацыйныя каналы, на З р. Іпа (прыток р. Прыпяць). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар, у Кракавіцкай вол. Рэчыцкага пав., 5 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 54 вучні). У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае стэла, пастаўленая ў 1969 г. ў цэнтры вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У складзе саўгаса «Каплічы» (цэнтр — в. Каплічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, кароткай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯЧНАЕ** — вёска у Якімавіцкім с/с, за 24 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Калінкавічы (на лініі Гомель—

Лунінец), 122 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Калінкавічы—Бабруйск. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1908 г. хутар у Дудзіцкай вол. Рэчыцкага пав. Мінскай губ., 8 двароў, 64 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня, дзейнічала пач. школа (у 1935 г. 75 вучняў). У Вял. Айч. вайну 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 95 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінская Іскра» (цэнтр — в. Якімавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 4, спр. 167; воп. 5, спр. 6755; ф. 31, воп. 1, спр. 856, 886; ф. 34, воп. 1, спр. 801; ф. 42, воп. 2, спр. 658, 1416, 1418, 1424, 1720, 1973, 2013, 4435—36, 4438, 4440-4450, 4453, 4455—57, 4459—60; ф. 48, воп. 1, спр. 5051—52, 5064, 5085—87; ф. 332, воп. 1, спр. 474.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 42, воп. 2, спр. 121, 123, 1422, 1978, 4434, 4437, 4439; ф. 333, воп. 1, спр. 2; воп. 9, спр. 33, 47—48, 53—54, 60, 63, 83, 166, 166а, 183, 262, 341, 343, 347, 380—81, 476, 555, 700, 702—03, 713, 729, 803—04; ф. 604, воп. 1, спр. 1; ф. 834, воп. 1, спр. 3, 56; ф. 843, воп. 1, спр. 2; ф. 897, воп. 1, спр. 1; ф. 971, воп. 1, спр. 1, 4; ф. 1297, воп. 1, спр. 10446; ф. 1461, воп. 2, спр. 8—9, 12, 19.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, 1318, 1332; воп. 2, спр. 194.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9. Ч. 4. СПб, 1848.

Городские поселения Российской империи. Т. 3, 5. СПб., 1863.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем ВКЛ, составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем. Вильна, 1867.

Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.

Список землевладельцев Минской губернии на 1876 год. Мн., 1877.

Памятная книжка Минской губернии на 1878 год. Ч. 2. Мн., 1878.

Описание церквей и приходов Минской епархии, составленное по официально затребованным от причтов сведениям. Вып. 5. Мн., 1879.

Обзор Минской губернии за 1881 год. Мн., 1882.

Акты Виленской археографической комиссии. Т. 12. Вильна, 1883.

Архив юго-западной России. Т. 1. Ч. 7. Киев, 1886.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ 1889/90 учеб. год. Могилев, 1890.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.

Обзор Минской губернии за 1899 год. Мн., 1900.

Поваров А.В. Памятная книжка Минской епархии. 1901 год. Мн., 1901.

Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796). Вильна, 1903.

Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905.

Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1912.

Литовская метрика. Т. 1. Юрьев, 1914.

Литовская метрика. Книга публичных дел. Петроград, 1915.

Литовская метрика. Т. 33. Ч. 3. Петроград, 1915.

Известия Гомельского Совета. 13 января 1918.

Список населенных мест БССР (б. Минской губернии). Мн., 1924.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1930.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.

Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 гг.). Мн., 1961.

Полки идут на запад. Воспоминания и очерки об освобождении Белоруссии от фашистских оккупантов. Мн., 1964.
Борьба за советскую власть в Белоруссии. 1918—1920. Т. 1. Мн., 1968.
В грозные годы. Мн., 1973.
Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Т. 2—3. Мн., 1984—85.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Храналогія гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993 (карта).
Наш край. Мн., 1996.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мн., 1997.
Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Калінкавіцкага раёна. Мн., 1999.
Пинчуков В.П., Старовойтов М.И. Гомельщина многонациональная (20—30-е годы XX века). Вып. 1. Гомель, 1999.
Литовская метрика (1566—1574). Кн. 51. Вильнюс, 2000.





МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛ.
СЛАЎГАРАДСКІ РАЁН
КРАСНАПОЛЬСКІ РАЁН
ЧАЧЭРСКІ РАЁН
РАГАЧОЎСКІ РАЁН
п.Мікольск
Баравая Глінка*
Паштовая Глінка
Хляўно*
Залатаміна*
Касаль
Казіміроў
Сож
Акцяброва
Кургание*
Лабыроўка*
Касцюкоўка*
Салабута*
Жавуніца*
Рудня
Дубравіна
Студзянец
Бярозаўка
Бор
п.Пакроўск
п.Дубролеж
Вашчанкі
п.Першая Ступень*
п.Касаляцкі
Ясень*
Зяцькавічы
Кучын
п.Вазнясенск
Ліцвінавічы
Корсунь
Валынцы
Калюды
Каменка
Янаўка
Кляпінская Буда
Лебядзёўка
Сямёнаўка
Струмень*
Кляпіна
Задуб'е
Вынашаўка
Труд*
Пятравічы
Бялёў
Барсукі
Сырск
Сырская Буда
Карма
Лазовіца*
Лубянка
Куракаўшчына
Нов.Зенькавіна
Стар.Зенькавіна
Курганіца*
Пасека-Слабодка
Стараград
Восаў*
Рэвут
Навасёлкі
Хізаў
Малянік*
Тарахаўка
Кароцькі
Вострае
Сапажкі
Васілеўка*
Малашкі*
Берастаўец
Багданавічы
п.Рудня
Добрыч
Халапаўка*
п.Каўказ
Лесавая Буда
Шаламеі
п.Праўда
п.Чамушаль
Высокае
Баравая Буда
Коласаў
Жабін
Струкачоў
Шрахаўская Буда
Енцы
Ворнаўка
Норкаўшчына
Лужок
Гарадок
Аляксандраўка
Міхалёўка
Расохі
Іванаўка
Дубавіца
Скартынь
Вострая Карма
Матораўка
53°00'
31°00'
30°45'
Маштаб 1 : 270 000



# КАРМЯНСКІ РАЁН

Утвораны 17.7.1924 г. ў Магілёўскай акрузе, на ПнУ вобласці, у сярэднім цячэнні Сажа. 20.12.1962 г. скасаваны, 30.7.1966 г. адноўлены. З 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. Мяжуе на Пн з Краснапольскім і Слаўгарадскім р-намі Магілёўскай вобл., на З — з Рагачоўскім і Буда-Кашалёўскім, на Пд і У — з Чачэрскім р-намі Гомельскай вобл. Пл. 0,9 тыс. км$^2$. Насельніцтва 17,8 тыс. чал. (2004 г.). Гарадское насельніцтва складае 12,6%. Сярэдняя шчыльнасць 36,1 чал. на 1 км$^2$. На працягу 1991—97 гг. у сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пераселены ў чыстыя месцы 1490 сямей (3755 чалавек). Падзяляецца на 12 сельсаветаў. Цэнтр — г.п. Карма. У межах раёна Струменскі батанічны заказнік. Тэрыторыю р-на перасякаюць шашэйныя дарогі Чачэрск—Карма—Журавічы, Карма—Доўск—Рагачоў. Карысныя выкапні: 2 радовішчы мелу з агульнымі запасамі 1,2 млн. т, 4 радовішчы цагельнай сыравіны — 0,6 млн. куб. м, радовішча буд. пяску. З ПнУ на Пд цячэ р. Сож з прытокамі Касалянка, Кармянка, Добрыч, Горна, Кляпінка і Жавуніца. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя і алювіяльныя. З мінеральных глебаў 53,8% суглінкавых, 34,9 супясчаных, 11,3% пясчаных. Якасць ворных зямель 51 бал, кармавых угоддзяў 27 балаў, усіх угоддзяў — 43 балы. Пад лесам 26% тэрыторыі р-на. Прамысл. прадпрыемствы ў асн. ў г.п. Карма. У р-не 9 калгасаў і 9 саўгасаў, пад сельгасугоддзямі 69% тэрыторыі. Дзейнічаюць 15 агульнаадук. школ, 20 б-к, 25 клубных устаноў, 5 бальніц, 17 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 79 магазінаў і 30 прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

**КАРМА** — гар. пасёлак, цэнтр Кармянскага р-на, за 55 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 110 км ад Гомеля, 278 км ад Мінска, на р. Кармянка (прыток р. Сож). Аўтадарогамі злучаны з Журавічамі, Доўскам, Рагачовам. 6,2 тыс. жыхароў (2004 г.). У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС праведзена дэзактывацыя, частка жыхароў перасялена ў чыстыя месцы. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Упамінаецца ў інвентары Чачэрскага староства 1726 г. як вёска. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У статыстычным апісанні Магілёўскай губ. 1784 г. названа мястэчкам. План мястэчка, складзены ў 1791 г.,

*Будынак раённага выканаўчага камітэта ў г.п. Карма.*







*Будынак царквы ў г.п. Карма.*

*Забудова вул. Ільюшчанкі ў г.п. Карма.*

сведчыць, што ў валоданні жыхароў мелася 3251 дзес. зямлі. З 1796 г. працавала цагельня. У Айч. вайну 1812 г. каля мястэчка адбываліся сутычкі франц. войск з атрадамі рус. генерала Ф.Ф.Эртэля. У 1826 г. 926 жыхароў. У 1832 г. збудавана мураваная Свята-Мікалаеўская царква. У 1847 г. цэнтр Кармянскай вол., 125 двароў. У 1890 г. ў склад Кармянскай вол. ўваходзілі 58 сяленняў з агульнай колькасцю 1421 двор. У 1860 г. 1487 жыхароў, царква, сінагога, 2 малітоўныя школы, 4 млыны, ўладанне памешчыка М.Ф.Быкоўскага, які ў 1867 г. меў тут 1691 дзес. зямлі, карчму і паром на Сажы. Праз мястэчка праходзіў Чарнігаўскі тракт, мелася паштовая станцыя. Дзейнічала нар. вучылішча (адкрыта ў 1864 г.), у якім у 1889 г. навучаліся 57 хлопчыкаў. З 1889 г. працавала паштовае аддзяленне, пераўтворанае ў 1911 г. ў паштова-тэлеграфнае. Паводле перапісу 1897 г. 200 двароў, царква, 2 капліцы, нар. вучылішча, 2 малітоўныя дамы, 51 лаўка, 2 ветракі, 7 крупарушак, 7 маслабоен, карчма; 3 разы ў год праводзіліся кірмашы. Побач быў аднайменны фальварак. Працавалі 2 вінакурні, пабудаваныя ў 1885 і 1913 гг. З 1911 г. пры школе дзейнічала б-ка. У студзені 1918 г. легіянеры Доўбар-Мусніцкага нарабавалі ў мястэчку каля 100 вазоў маёмасці, але пры спробе вывезці іх былі разгромлены партызанамі. Разбілі партызаны і 2 конныя варожыя атрады. У сувязі з наступленнем герм. войск у пач. 1918 г. быў створаны баявы атрад. 25.2.1919 г. ў Карме ўспыхнуў мяцеж, які быў хутка падаўлены. З 26.4.1919 г. Кармянская вол. у Гомельскай губ. РСФСР, 9.5.1923 г. да яе далучана тэр. Расохскай, а таксама частак Доўскай і Меркулавіцкай валасцей. З 1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Кармянскага с/с, з 24.9.1926 г. местачковага Савета. З 17.7.1924 г. да 28.12.1962 г. і з 30.7.1966 г. цэнтр Кармянскага р-на. Пераважную частку жыхароў складала яўрэйскае насельніцтва (у 1926 г. 71,4%). З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свабода». Працавалі маслазавод (з 1930 г.), ільнапеньказавод (з 1932 г.), друкарня, цагельня (з 1929 г.), кавальская, шавецкая і кравецкая майстэрні, хлебапякарня, 2 крупарушкі, нафтавы млын, сукнавальня, кузня, Кармянскае лясніцтва, маслабойня. У першыя дні Вял. Айч. вайны быў створаны атрад нар. апалчэння (193 чалавекі). Падпольшчыкі выпусцілі ў Кармянскай друкарні некалькі лістовак, а потым вынеслі ў партыз. атрад шрыфты, і з іх дапамогаю выпускалася падп. газета «Партызан Гомельшчыны». Ням. акупанты загубілі каля 1,5 тыс. жыхароў гар. пасёлка і навакольных вёсак (пахаваны на могілках па вул. Леніна). У ліп. 1943 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон і захапілі збожжа, якое гітлераўцы падрыхтавалі да адпраўкі ў Германію. Вызвалена 25.11.1943 г. 121-й гв. дывізіяй 3-й арміі Беларускага фронту. У баях за Карму загінулі 72 воіны і партызаны (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). З 25.12.1962 г. ў Рагачоўскім, з 6.1.1965 г. да 30.7.1966 г. ў Чачэрскім





*Музыкальная школа ў г.п. Карма.*

*Забудова вул. Фрунзе ў г.п. Карма.*

р-нах. Размешчаны ткацкая ф-ка, ільнозавод, камбінаты буд. матэрыялаў і быт. абслугоўвання, пладова-агародніннны з-д, спіртзавод, хлебазавод, раённае аб'яднанне аграпрамтэхнікі, племянная і санэпідэміялагічная станцыі, ветлячэбніца, спецыялізаванае аддз. сельгастэхнікі, 2 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, 38 спарт. збудаванняў, раённыя вузлы паштовай і электрычнай сувязі, муз. і спарт. школы, 4 дашкольныя ўстановы, Цэнтр культуры і адпачынку, 2 б-кі, аптэка, бальніца. Вядзецца мясц. радыёвяшчанне, выходзіць раённая газета «Зара над Сожам» (з 1932 г.). Цэнтр калгаса «Перамога» і саўгаса «Кармянскі». Планіроўка квартальная, шчыльная. Асн. частка забудовы на У і Пн ад р. Кармянка. Будаўніцтва апошніх дзесяцігоддзяў вялося паводле генплана 1964 г., складзенага Гомельскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Дзе раней быў гіст. цэнтр (рыначная плошча), зараз сквер, а новы грамадскі цэнтр склаўся ў пач. вул. Ільюшэнкі — цэнтр. плошча, па перыметры якой узведзены грамадскія будынкі. Пераважная частка забудовы цэнтра мураваная, новая жылая забудова з 3—5-павярховых дамоў на ПнУ. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў грамадз. вайну І.М.Антоненкі (быў камандзірам Кармянскага чырвонагв. атрада і кіраўніком партыз. атрада), доктара медыцынскіх навук, прафесара Г.Д.Дазорцавай, засл. артыста БССР В.В.Смірнова, засл. настаўніцы Беларусі Т.К.Кадрэвіч.

У склад Кармянскага пасялковага Савета ўваходзілі да 1966 г. пасёлкі Бурны, Красны Бор, Новы Прамень, в. Масцеравая Слабода (не існуюць).

**АКЦЯБРОВА** (да 30.7.1964 г. в. Новая Быч і Старая Быч) — вёска, цэнтр Акцяброўскага с/с, за 17 км на Пн ад Кармы, за 55 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 120 км ад Гомеля; на р. Бычанка (прыток р. Касялянка). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Крычаў—Бабруйск. 239 гаспадарак, 565 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як в. Быч у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1884 г. цэнтр воласці, у Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. Пазней падзялілася на 2 вёскі: Старая Быч і Новая Быч. У 1893 г. ў в. Новая Быч адкрыта школа і збудавана для яе памяшканне. Вёска Старая Быч з 20.8.1924 г. цэнтр Старабычанскага, з 25.3.1965 г. Акцяброўскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгасы «2-я пяцігодка» і «Спартак», працавалі 3 ветракі, кузня. Некаторы час у Вял. Айч. вайну тут у 1943 г. размяшчаўся штаб Беларускага фронту. У баях каля вёскі загінуў 31 воін (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 234 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Новая

Быч 455, у в. Старая Быч — 582 жыхары. У 1964 г. вёскі Старая Быч і Новая Быч аб'ядналіся ў адну пад назвай Акцяброва. Цэнтр саўгаса «Зара камунізму». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з падзеленых ракой 2 частак: паўн. (да прамалінейнай шыротнай вуліцы далучаюцца 3 завулкі і невял. ўчастак забудовы на З) і паўд. (амаль прамалінейная, блізкая да шыротнай арыентацыі вуліца). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

У склад Акцяброўскага с/с да 1987 г. ўваходзіў пас. Забалоцкае (не існуе).

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Лужкоўскім с/с, за 16 км на Пд ад Кармы, за 75 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 103 км ад Гомеля; на р. Горка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 44 гаспадаркі, 101 жыхар (2004 г.).

Заснавана ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, гал. чынам з в. Лужок, што побач, за ракой. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Лужок). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая пад прамым вуглом перакрыжоўваецца кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**БАГДАНАВІЧЫ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Кармы, за 50 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 105 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 78 гаспадарак, 172 жыхары (2004 г.).

Асваенне чалавекам мясцовасці, дзе зараз вёска адносіцца да старажытнейшых часоў, аб чым сведчыць выяўлены археолагамі курганны могільнік (7 насыпаў, за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пад 1704 г. упамінаецца ў інвентары Чачэрскага староства як баярскі пасёлак, 5 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 108 двароў. У 1847 г. 118 двароў, у Расохскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1848 г. ў складзе маёнтка памешчыка Гржыбаўскога. У 1868 г. 674 жыхары, у 1880 г. 151 двор, хлебазапасны магазін і вінакурня. Гаспадар аднайменнага фальварка меў у 1870 г. 116 дзес. зямлі. Дзейнічалі часоўня, школа, млын. Паводле перапісу 1897 г. вёска і аколіца; 203 двары, 1071 жыхар, царква, школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны, 2 ветракі. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (92 вучні), якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 212 двароў, 1307 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», мелася кузня. У хуткім часе пачала працаваць машынатрактарная станцыя. Паводле перапісу 1959 г. 739 жыхароў. У складзе саўгаса «Багданавічы» (цэнтр — в. Хізаў). Размешчаны клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ручаём частак: зах. (крыху выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з зах. боку далучаюцца 2 завулкі, забудавана двухбакова) і ўсх. (да крыху выгнутай мерыдыянальнай вуліцы далучаецца з У завулак, забудавана аднабакова). Будынкі драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма доктара філасофскіх навук, прафесара І.І.Акінчыца.

**БАРАВАЯ БУДА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Кармы, за 68 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 102 км ад Гомеля; на ўсх. ускраіне пачынаецца р. Чачора (прыток р. Сож). Аўтадарога звязвае вёску з Кармой. 170 гаспадарак, 430 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Па інвентары 1720 г. 7 дымоў, 7 валок зямлі, у Меркулавіцкім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай

(1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Па рэвізскіх матэрыялах 1859 г. ў валоданні памешчыка А.І.Жукоўскага. У 1880 г. 67 двароў, 448 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Меркулавіцкай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 655 жыхароў, царк.-прыходская школа, лаўка, карчма. У 1909 г. 111 двароў, 794 жыхары, 1129 дзес. зямлі, млын. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Баравабудскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Землеўпарадак», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 544 жыхары. Цэнтр саўгаса імя В.І.Чапаева. Размешчаны цагельня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай вуліцы, да цэнтра якой далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**БАРАВАЯ ГЛІНКА** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, 25 км на ПнУ ад Кармы, за 80 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 135 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро); на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Слаўгарад—Доўск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы 26 сямей перaселены ў 1990—92 гг. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 137 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в. Залатаміна). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных завулкам. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРСУКІ** — вёска, цэнтр Барсукоўскага с/с, за 6 км на З ад Кармы, за 54 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 116 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 180 гаспадарак, 543 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1848 г. ў складзе аднайменнага маёнтка. У 1858 г. 37 двароў, 372 жыхары, уладанне памешчыка Случаноўскага. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 101 двор, 602 жыхары, вятрак, піцейны дом. У 1909 г. 727 жыхароў, 830 дзес. зямлі. У 1918 г. ў час акупацыі герм. войскамі партызаны захапілі на складзе ў вёсцы шмат зброі і боепрыпасаў. З 20.8.1924 г. цэнтр Барсукоўскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, працавалі вятрак, кузня, ваўначоска. З 1920-х г. існуюць вёскі Вялікія Барсукі і Малыя Барсукі. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 72 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 155 землякоў, імёны якіх увекавечваюць мемарыяльныя дошкі, пастаўленыя побач з брацкай магілай. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Вялікія Барсукі 231, у в. Малыя Барсукі — 84 жыхары. З 1962 г. вёскі аб'ядналіся. Цэнтр саўгаса імя М.М.Валадарскага. Размешчаны сярэдняя школа (у 1990 г. пабудаваны новы мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, швейная майстэрня. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, да якой з Пн і Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная. Пасля Чарнобыльскай катастрофы ў 1987 г. ўзведзены мураваныя будынкі на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджа-

ных радыяцыяй месц. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы, доктара пед. навук, прафесара М.А.Дзмітрыева.

У склад Барсукоўскага с/с уваходзілі да 1962 г. в. Малыя Барсукі, пас. Сямёнаўка, да 1966 г. в. Вялікія Барсукі (не існуюць).

**БЕРАСТАВЕЦ** — вёска ў Стараградскім с/с, за 18 км на З ад Кармы, за 41 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 96 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з невял. лесам, на Пд меліярац. каналы, ад якіх адыходзіць безымянны ручай, што цячэ праз вёску і ўпадае ў вадасховішча (каля в. Хізаў), а потым у р. Добрыч. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Карма—Ямнае і шашы Доўск—Гомель. 100 гаспадарак, 183 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Упамінаецца ў інвентары Меркулавіцкага староства за 1720 г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1859 г. ў валоданні памешчыка А.А.Манкевіч. Паводле перапісу 1897 г. 85 двароў, 544 жыхары, хлебазапасны магазін, 3 ветракі. У 1909 г. 91 двор, 660 жыхароў, 783 дзес. зямлі. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара Беларусі», працавалі кузня, 2 ветракі, конная крупарушка. Паводле перапісу 1959 г. 647 жыхароў. У складзе саўгаса «Багданавічы» (цэнтр — в. Хізаў). Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з працяглай амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы, паралельна да якой праходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**БЕРВЯНЫ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Кармы, за 62 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 117 км ад Гомеля; на З безымянны ручай (прыток р. Добрыч), на У (1,5 км) — р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (11 сямей) пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 79 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Кармянскі» (цэнтр — в. Кароцькі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОР** — вёска ў Каменскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Кармы, за 110 км ад Гомеля, за 55 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін); на ПдУ мяжуе з лесам, на Пн р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Журавічы. 17 гаспадарак, 34 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны суседні пас. Ляды. У складзе саўгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, на Пд да якой далучаецца кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**БЯЛЁЎ** — вёска ў Барсукоўскім с/с, за 8 км на З ад Кармы, за 47 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 102 км ад Гомеля; на Пн і З меліярац. каналы, злучаныя з р. Дабрыца (прыток р. Добрыч). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Карма—Янаў. 4 гаспадаркі, 17 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальваркі Малы

Бялёў (3 двары, 26 жыхароў) і Вялікі Бялёў (2 двары, 8 жыхароў). У 1909 г. фальваркам належала 300 дзес. зямлі. У 1920-я г. склалася вёска. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.М.Валадарскага, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Сямёнаўка. У складзе саўгаса імя М.М.Валадарскага (цэнтр — в. Барсукі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова няшчыльная, драўляная сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Каменскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Кармы, за 48 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 25 км ад Гомеля, на р. Гутлянка (прыток р. Дняпро); на З меліярац. канал, злучаны з р. Гутлянка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым аўтадарозе Слаўгарад—Доўск. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў (2004 г.).

Каля вёскі знаходзіцца курганны могільнік (3 насыпы, 1,5 км на Пд ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1704 г. — 1, у 1726 г. 3 дымы, у 1765 г. — 16 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 392 жыхары; у Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Захаваўся пабудаваны ў 1905 г. вятрак (зараз помнік традыц. прамысловага дойлідства). У 1909 г. 68 двароў, 466 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 227 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Топкі Лог. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Планіровачна складаецца з 2 злучаных завулкам частак: усх. (да вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца перпендыкулярна 2 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы) і зах. (Г-падобная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ). Забудова рэдкая, пераважна двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма ўдзельніка ўмацавання сав. улады ў Беларусі Ф.М.Давыдзенкі (загінуў у баі з мяцежнікамі). Яго імя носіць вуліца ў г.п. Карма.

**ВАЗНЯСЕНСК** — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 7 км на Пн ад Кармы, за 117 км ад Гомеля, за 62 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), на р. Вілейка (прыток р. Сож), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

За 0,3 км на Пд ад пасёлка знаходзіцца гарадзішча (мясцовая назва Гарадок) мілаградскай культуры ранняга жал. веку (7 ст. да н.э. — 3 ст. н.э.). Сучасны пасёлак заснаваны ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВАЛЫНЦЫ** — вёска, цэнтр Валынецкага с/с, за 20 км на ПнУ ад Кармы, за 76 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 130 км ад Гомеля, на р. Кляпінка (прыток р. Сож), побач Струменскі батанічны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. 75 гаспадарак, 198 жыхароў (2004 г.).

За 3,5 км на Пн ад вёскі знаходзіцца селішча і курганны могільнік (38 насыпаў). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г.

цэнтр Валынецкага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі», працавала кузня. З 15.7.1935 г. да 27.9.1938 г. мястэчка. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падпольная патрыят. група (кіраўнікі Т.І.Абатурава, потым В.Я.Паўлава). Ням. акупанты спалілі вёску. У баях за вёску і наваколле загінулі 168 воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне, каля школы). Паводле перапісу 1959 г. 340 жыхароў. З 1960 г. працуе Валынецкае лясніцтва. У 1970 г. 168 двароў, 535 жыхароў. Цэнтр падсобнай гаспадаркі «Валынцы» раённага аб'яднання «Сельгасхімія». Дзейнічаюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы, якая на Пд перакрыжоўваецца дугападобнай кароткай вуліцай, арыентаванай амаль мерыдыянальна. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЕЎКА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Кармы, за 63 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 118 км ад Гомеля, на З р. Сож (прыток р. Дняпро), на Пн і Пд мяжуе з лесам, на У і Пн Струменскі батанічны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Струмень—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (4 сям'і) пераселены ў 1990—92 гг. у чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў глыбокай старажытнасці ў гэтых мясцінах сведчыць паселішча (0,5 км на ПнУ ад вёскі, каля возера Пральня) эпохі мезаліту і датуецца 8—4-м тысячагоддзямі да н.э. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 47 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 51 жыхар, 216 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 123 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Васілеўка. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струмент). Забудова аднабаковая, рэдкая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ВАШЧАНКІ** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Кармы, 72 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля, на р. Вілейка (прыток р. Сож); на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 69 гаспадарак, 164 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентару 1704 г. вёска (3 дымы) і пры ёй Васілеўская Слабада, у Ліцвінавіцкім войтаўстве Чачэрскага староства. У 1765 г. 21 гаспадарка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1859 г. ў валоданні графа І.І.Чарнышова-Круглікава. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 446 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1909 г. 79 двароў, 579 жыхароў, 530 дзес. зямлі, школа, млын, у Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 150 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 717 жыхароў. У складзе калгаса імя М.П.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Размешчаны клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на Пн. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма ген.-м. Ц.К.Бацанава.

**ВОРНАЎКА** — вёска, цэнтр Ворнаўскага с/с, за 13 км на Пд ад Кармы, за 50 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 77 км ад Гоме-

ля, на р. Горна (прыток р. Сож) і аўтададарозе Карма—Чачэрск. 175 гаспадарак, 432 жыхары (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць выяўленне археолагамі гарадзішча (1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Грэнск, на правым беразе Сажа), мілаградскай і зарубінецкай культур, датуецца 7—6 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. Ад наймення ўрочышча і стараж. гарадзішча атрымала назву Грэнская археал. культура, якая адносіцца да плямён, што жылі ў Верхнім Падняпроўі ў познім палеаліце і раннім мезаліце. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Упамінаецца пад 1726 г. у інвентары Чачэрскага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. Паводле перапісу 1897 г. сяло і аколіца Ворнаўка разам з сумежнай в. Катрынполле (яна ж Ухватаўка) мелі 137 двароў, 790 жыхароў. Дзейнічалі царква, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. З 20.8.1924 г. цэнтр Ворнаўскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рэвалюцыя», працавалі 2 ветракі, кузня. У Вял. Айч. вайну 12.12.1942 г. партызаны разграмілі гарнізон, які стварылі тут акупанты. У баях каля вёскі загінулі 63 воіны (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). Паводле перапісу 1959 г. 410 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пасёлкі Курганіца, Лашчынец, Лядцы, Туры-Бор. У 1978 г. ў вёску перасяліліся жыхары суседняга пас. Тарфяны. Цэнтр калгаса імя Г.М.Дзімітрова. Размешчаны млын, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 падзельных ракой частак: паўн. (2 прамалінейныя, амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя 2 завулкамі) і паўд. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца). На У і Пд — адасобленыя жылыя ўчасткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей для перасяленцаў з забруджаных месц пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Ворнаўскага с/с уваходзілі: да 1962 г. пасёлкі Красны, Курганіца, Лашчынец, Лядцы, Рабнік, Туры-Бор, в. Старая Халапаўка, да 1978 г. пас. Тарфяны (не існуюць).

**ВОСАЎ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 12 км на У ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля; на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Струмень—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (3 сям'і) перасялены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1726 г. 7 дымоў, у Отарскім войтаўстве Чачэрскага староства. Паводле вопісу 1765 г.




*Інтэр'ер сельскай бібліятэкі ў в. Ворнаўка.*

23 гаспадаркі, карчма, млын, сукнавальня, уладанне памешчыка Збарамірскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1858 г. ва ўладанні памешчыка Каспарава. Паводле перапісу 1897 г. 51 жыхар, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. вяскоўцы мелі 146 дзес. зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавала ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 63 жыхары. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струмень). Планіровачна складаецца з кароткай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы. Хаты драўляныя сядзібнага тыпу.



*Р.В.Лашкевіч.*

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Кармы, за 61 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 116 км ад Гомеля, на р. Добрыч (прыток р. Сож) і аўтадарозе Баравая-Буда — Карма; на Пн мяжуе з лесам. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як сяленне ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. сяльцо, 2 двары. У 1868 г. пачала працаваць сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 199 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў валоданні вяскоўцаў было 349 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Востраў», працавалі вадзяны млын і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 96 жыхароў. У складзе саўгаса «Кармянскі» (цэнтр — в. Кароцькі). Забудова драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма чл.-кар. АН Беларусі, чл.-кар. Акадэміі с.-г. навук БССР, доктара с.-г. навук, прафесара Г.І.Лашкевіча.

**ВОСТРАЯ КАРМА** — вёска ў Ворнаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Кармы, за 49 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 69 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пачатку 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова адносіцца да 1920-х г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вострая Карма», працавалі торфараспрацоўчая арцель і вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У складзе калгаса імя Г.М.Дзімітрова (цэнтр — в. Ворнаўка). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫНАШАЎКА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 2 км на Пн ад Кармы, за 57 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 112 км ад Гомеля, на аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма; на ўсх. ускраіне меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Кармянка (прыток р. Сож). 100 гаспадарак, 191 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 51 двор, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ў складзе фальварка Стэфанова, уладанне памешчыцы П.Дзерналовіч. Побач была аднайменная аколіца, у якой у 1868 г. 2 двары, 18 жыхароў. З 1884 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 710 жыхароў, 3 ветракі. У 1909 г. 121 двор, 933 жыхары, 903 дзес. зямлі, у Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. У 1930 г. арганізаваны калгас, працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 687 жыхароў. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — Новая Зенькавіна), размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, злучаных паміж сабой 2 завулкамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка школ БССР Р.Р.Ганжурава.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Ворнаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Кармы, за 63 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 118 км ад Гомеля, на р. Добрыч (прыток р. Сож); на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Добрыч. Побач аўтадарога Карма—Чачэрск. 127 гаспадарак, 347 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ва ўладанні памешчыцы Ю.З.Казарынавай. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 62 вяскоўцы, памяць аб якіх ушаноўвае помнік, пастаўлены ў цэнтры вёскі ў 1975 г. Паводле перапісу 1959 г. 207 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Красны. Цэнтр калгаса «Світанне». Размешчаны клуб. фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай мерыдыянальнай вуліцы, паралельна да якой праходзіць меншая па памерах вуліца, злучаная з гал. 2 завулкамі. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Кармы, за 68 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 85 км ад Гомеля, на р. Чачора (прыток р. Сож), на З — невялікая сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 37 гаспадарак, 57 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1882 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 523 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гарадок», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 462 жыхары. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Працуе льнозавод. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: зах. (прамалінейная мерыдыянальная вуліца, на Пд да якой далучаецца невял. адасобленая забудова) і ўсх. (кароткая, размешчаная ўздоўж ракі, аднабакова забудаваная вуліца). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 3 км на У ад Кармы, за 58 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 113 км ад Гомеля, на р. Сож; на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Кармянка (прыток р. Сож).Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 21 жыхар, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. 25 жыхароў, 445 дзес. зямлі. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнікі У.І.Майсейкаў, А.А.Вішнеўскі). Паводле перапісу 1959 г. 205 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Новы Прамень. Забудавана пераважна аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДОБРЫЧ** (да 27.4.1963 г. Новы Млын) — вёска ў Ворнаўскім с/с за, 8 км на ПдУ ад Кармы, за 63 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), 104 км ад Гомеля, на р. Добрыч (прыток р. Сож); на У — безымянны ручай (прыток р. Добрыч). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 11 гаспадарак, 24 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1816 г. 4 двары. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 95 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня. У 1909 г. 97 жыхароў, 84 дзес. зямлі, млын і сукнавальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг».

Паводле перапісу 1959 г. 113 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр – в. Высокае). Планіровачна складаецца з хаатычна пастаўленых драўляных сядзіб.

**ДУБАВІЦА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, 22 км на ПдЗ ад Кармы, за 78 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 95 км ад Гомеля, на У, Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 140 гаспадарак, 423 жыхары (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкай старажытнасці сведчыць выяўленае археолагамі гарадзішча (1 км на ПнУ ад вёскі, на мысе берага р. Горна), вядомае даследчыкам з 1873 г. Паводле крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Расохскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ўладанне памешчыка І.К.Быкоўскага. У 1881 г. 47 двароў, 220 жыхароў у хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 365 жыхароў, школа граматы, піцейны дом. У 1909 г. 65 двароў, 447 жыхароў, 772 дзес. зямлі, млын. У выніку пажару 16.4.1925 г. згарэла 58 пабудоў з 20 двароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дабраволец», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 344 жыхары. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Дубраўка-2. Цэнтр калгаса «Камуніст». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, млын, лесапільня, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад. Планіровачна складаецца з 2 арыентаваных з ПдУ на ПнЗ вуліц і злучаных на ПдУ кароткай вуліцай. Да ПдЗ боку вёскі далучаецца вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыялістычнай Працы К.К.Нікіціна.

**ДУБРАВІНА** (да 30.7.1964 г. Кабылічы) — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Кармы, 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 30 гаспадарак, 73 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1923 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1931 г. арганізаваны калгас «Беларусь», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, якая на З перакрыжоўваецца невял. прамалінейнай вуліцай, а на Пн паралельна да гал. праходзіць яшчэ адна такая ж вуліца. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ДУБРОЛЕЖ** — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 17 км на Пн ад Кармы, за 63 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 127 км ад Гомеля; на р. Вілейка (прыток р. Сож), на поўдні лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 6 жыхароў, належаў графу Чарнышову-Круглікаву. У 1920-я г. свае пабудовы тут узводзілі перасяленцы з суседніх вёсак. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 128 жыхароў. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ЕНЦЫ** — вёска ў Ворнаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Кармы, за 50 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 77 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадаро-

зе Карма—Чачэрск. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1704 г. Чачэрскага староства баярскі пасёлак, 6 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. аколіца, 12 двароў, у Расохскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1868 г. 32 двары, 209 жыхароў. Гаспадар аднайменнага фальварка ў 1875 г. меў тут 294 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1883 г. 55 двароў, 148 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска і аколіца; 74 двары, 532 жыхары, 2 ветракі, побач быў фальварак. У 1909 г. ў аколіцы 32 двары, 170 жыхароў, 201 дзес. зямлі, у вёсцы 73 двары, 442 жыхары, 344 дзес. зямлі. У 1911 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 309 жыхароў. У складзе калгаса імя Г.М.Дзімітрова (цэнтр — в. Ворнаўка). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўн. (крывалінейная вуліца з аднабаковай забудовай) і паўд. (крывалінейная вуліца з забудовай уздоўж ракі). Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза П.У.Несцяровіча, акадэміка Нац. АН Беларусі, доктара біялагічных навук, прафесара, засл. дзеяча навук БССР, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР М.Д.Несцяровіча (яго імя носіць адна з вуліц вёскі).

**ЖАБІН** — вёска ў Лужкоўскім с/с, за 14 км на Пд ад Кармы, за 51 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 78 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару Чачэрскага староства (1704 г.) баярскі пасёлак, 10 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1848 г. у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць казны. Гаспадар маёнтка ў 1850 г. меў 113 дзес. зямлі. Побач з вёскай у 1858 г. была аколіца (4 двары, 25 жыхароў), уладанне памешчыка Міляўскага. У 1868 г. 69 двароў, 405 жыхароў, у Расохскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 97 двароў, 559 жыхароў, 2 ветракі. У 1909 г. ў вёсцы 102 двары, 562 жыхары, 951 дзес. зямлі, у аколіцы 9 двароў, 53 жыхары, 64 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Лужок). Планіровачна складаецца з 2 кароценькіх вуліц. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.



*М.Дз.Несцяровіч.*

**ЖАВУНІЦА** — вёска ў Валынецкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Кармы, за 74 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 129 км ад Гомеля, на Пд р. Жавуніца (прыток р. Сож), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (41 сям'я) перасяленыя ў 1990-я г. ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавалі 2 ветракі. Паводле перапісу 1959 г. 289 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Валынцы» (цэнтр — в. Валынцы). Плаіровачна складаецца з 2 мерыдыянальных дугападобных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЗАДУБ'Е** — вёска ў Старагградскім с/с, за 11 км на З ад Кармы, за 44 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 99 км ад Гомеля, на р. Дабрыца (прыток р. Добрыч); на З мяжуе з

лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае і шашы Доўск—Гомель. 108 гаспадарак, 275 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Доўскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 35 двароў, у валоданні памешчыка І.Ф.Янушкевіча. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі, гаспадар аднаго з якіх меў у 1868 г. 276 дзес. зямлі і вятрак, а другога ў 1870 г. — 213 дзес. зямлі. З 1884 г. працаваў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 122 двары, 669 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак, карчма. Побач былі 3 аднайменныя фальваркі, 42 жыхары, вятрак. У 1908 г. 138 двароў, 907 жыхароў, 1032 дзес. зямлі. У 3 фальварках 8 двароў, 30 жыхароў, 544 дзес. зямлі. У 1909 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. ёй быў перададзены нацыяналізаваны будынак. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Задубскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавалі вятрак, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 36 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 741 жыхар. У складзе саўгаса «Стараградскі» (цэнтр — в. Стараград). Размешчаны клуб, сярэдняя школа, б-ка. Планіровачна складаецца з блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, да якой з У далучаецца кароткая вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛАТАМІНО** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Кармы, за 79 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 130 км ад Гомеля, на р. Аўсовіна (прыток р. Сож); на У невял. вадасховішча, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (170 сямей) перасялены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў глыбокай старажытнасці ў гэтай мясцовасці сведчыць гарадзішча (за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе безымяннага ручая). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, вялікакняжацкая ўласнасць. У 1525 г. сяло Залатарэвічы ўпамінаецца ў дакументах караля Жыгімонта І Старога, калі было аддадзена ў валоданне дваранінy Г.Цішковічу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі; у Магілёўскай губ. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. карнікі ў 1943 г. часткова спалілі вёску. З 15.8.1974 г. цэнтр Хляўнянскага, з 2.9.1975 г. да 1986 г. Залатамінскага с/с Кармянскга р-на Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 236 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны в. Слабада, пасёлкі Бакунава, Дуброўка і Воеўка (да яго ў 1949 г. далучаны пас. Новы Шлях), да 1974 г. пас. Леніна. Была цэнтрам саўгаса «Руднянскі». Размяшчаліся млын, лесапільня, камбінат быт. абслугоўвання, аўтатранспартная майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі, б-ца, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху дугападобнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы. Забудавана рэдка, пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У склад Залатамінскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Бакунава, Воеўка, з якім у 1949 г. аб'яднаўся пас. Новы Шлях, в. Слабода, да 1979 г. в. Міхееўка, да 1987 г. пас. Дуброва (не існуюць).

**ЗЯЦЬКАВІЧЫ** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Кармы, за 65 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 120 км ад Гомеля, на р. Вілейка (прыток р. Сож); на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па

прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 75 гаспадарак, 152 жыхары (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў глыбокай старажытнасці ў гэтых мясцінах сведчаць выяўленыя археолагамі гарадзішча, мілаградскай культуры (за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Мужанка, ва ўрочышчы Гарадок), датуемае 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э., і курганны могільнік (3 насыпы, за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1629 г. кароль Жыгімонт III дазволіў у сяле Зяцькавічы Чачэрскай вол. адзін раз у год 3-дзённы кірмаш без гандл. пошлін. У 1704 г. 2 дымы, царква, у Ліцвінавіцкім войтаўстве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Паводле вопісу Чачэрскага староства 1765 г. 12 гаспадарак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1832 г. дзейнічала карчма, з 1884 г. хлебазапасны магазін. У 1909 г. 73 двары, 579 жыхароў, 502 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 443 жыхары. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Размешчаны клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі. Забудавана двухбакова драўлянымі сялянскімі сядзібамі.

**ІВАНАЎКА** — вёска ў Ворнаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Кармы, за 65 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 102 км ад Гомеля. Побач аўтадарога Карма—Чачэрск. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. У складзе калгаса імя Г.М.Дзімітрова (цэнтр — в. Ворнаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, да якой з Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЗІМІРОЎ** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Кармы, за 75 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 130 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў глыбокай старажытнасці ў гэтых мясцінах сведчаць паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку (за 0,7 км на У ад вёскі, на невысокім узвышшы) і курганны могільнік — 46 насыпаў (за 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Сож). Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Каля вёскі размешчаны невял. радовішчы мелу і жалезняку.

**КАЛЮДЫ** — вёска ў Валынецкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Кармы, за 73 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 128 км ад Гомеля, на р. Кляпінка (прыток р. Сож); на З і Пд мяжуе з лесам, на Пд і З прасціраецца Струменскі батанічны заказнік. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Кляпінская Буда—Карма. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Паводле інвентару Чачэрскага староства ў 1704 г. 7, у 1726 г. 9 дымоў. Паводле вопісу Чачэрскага староства 1765 г. 26 дымоў, уладанне памешчыка Маліноўскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас.

імперыі. Паводле рэвізіі 1859 г. ў Чачэрскім маёнтку графа І.І.Чарнышова-Круглікава. З 1880-х г. працаваў хлебазапасны магазін, у Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік Кастрычніка», працавала кузня. У 1940 г. 30 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 302 жыхары. У складзе падсобнай гаспадаркі «Валынцы» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Валынцы). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска, цэнтр Каменскага с/с, за 12 км на ПнЗ ад Кармы, за 52 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля; на У мяжуе з лесам і праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Журавічы—Карма. 77 гаспадарак, 158 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Чачэрскім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару Чачэрскага староства 1726 г. пазначана як вёска Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1788 г. фальварак і вёска, 24 двары. Праз вёску праходзіла паштовая дарога з Кармы ў Новы Быхаў. У 1881 г. 39 двароў, 233 жыхары, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 50 двароў, 339 жыхароў, у аднайменным фальварку 3 двары, 16 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, будынак для якой на свае сродкі ўзвялі вяскоўцы. З 5.8.1929 г. цэнтр Каменскага, з 5.8.1929 г. Кураніцкага, з 30.6.1966 г. Каменскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.6.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прамень 1 Мая», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 77 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 255 землякоў, у памяць аб якіх у цэнтры вёскі пастаўлены мемарыяльны знак. Паводле перапісу 1959 г. 451 жыхар. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, 9-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, яслі-сад. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У склад Каменскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Курганне, Топкі Лог (не існуюць).

**КАРОЦЬКІ** — вёска, цэнтр Кароцькаўскага с/с, за 4 км на Пд ад Кармы, за 65 м ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 114 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна. 192 гаспадаркі, 548 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1729 г. в. Кароткавічы, 10 двароў, у Чачэрскім старостве. Падкрэслівалася, што мяжуе яна з в. Карма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Побач былі 2 фальваркі, гаспадар аднаго з якіх меў у 1855 г. 121 дзес. зямлі, другога ў 1867 г. — 120 дзес. зямлі. У 1868 г. 128 двароў, 774 жыхары, у Кармянскай валасці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска і аколіца, 171 двор, 942 жыхары, 3 ветракі, карчма. У 1905 г. адкрыта царк.-прыходская школа, пераўтвораная ў 1913 г. ў земскую (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). У 1909 г. мелася 2623 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. цэнтр Кароцькаўскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», працавалі вятрак, конная крупарушка, куз-



*Помнік воінам-землякам у в. Кароцькі.*

ня. У Вял. Айч. вайну батальён пад камандаваннем маёра М.С.Цыбульскага 22.11.1943 г. фарсіраваў р. Сож і вызваліў вёску (загінуў у баі, пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 152 землякі, у памяць аб якіх у скверы пастаўлена ў 1970 г. скульптурная кампазіцыя. Паводле перапісу 1959 г. 510 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Кармянскі». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Каля вёскі размешчана радовішча мелу (0,9 млн. т).

**КАСАЛЯЦКІ** — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Кармы, за 65 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 120 км ад Гомеля, на р. Сож (прыток р. Дняпро), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

У 1964 г. на размытай дажджом лясной дарозе, якая вядзе да пасёлка, была знойдзена вялікая колькасць усходніх манет IX ст., што сведчыць аб дзейнасці чалавека ў наваколлі ў далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак заснаваны ў канцы 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 2 жыхары, вадзяны млын, у Кармянскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 22.11.1943 г. вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 48 жыхароў. Размешчана птушкафабрыка «Сож». Жылая забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮКОЎКА** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Кармы, за 72 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін); на р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (36 сямей) пераселены ў 1990-я г. ў чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць выяўленае археолагамі паселішча каменнага і бронзавага вякоў (за 0,8 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Узлужжа). Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бераг», працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну 22.11.1943 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У памяць аб гераізме сав. воінаў на месцы прарыву варожай абароны ў лістападзе 1943 г. (за 0,5 на Пн ад вёскі, на беразе р. Сож) насыпаны ў 1968 г. Курган Славы. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў. У 1979 г. да вёскі далучана суседняя в. Міхееўка. Уваходзіла ў склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в. Залатаміно). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна. Забу-

дова двухбаковая, рэдкая, жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Побач невял. радовішчы мелу і крэменю.

**КАЎКАЗ** — пасёлак у Воранаўскім с/с, за 7 км на Пд ад Кармы, за 62 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 117 км ад Гомеля; на р. Добрыч (прыток р. Сож), на Пд і У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Карма—Чачэрск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 35 жыхароў. У складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Высокае). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КЛЯПІНА** — вёска ў Валынецкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Кармы, за 73 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 129 км ад Гомеля, на р. Кляпінка (прыток р. Сож), на аўтадарозе Кляпінская Буда—Карма, на тэр. Струменскага батанічнага заказніка. 33 гаспадаркі, 79 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкай старажытнасці сведчыць выяўлены археолагамі курганны могільнік — 4 насыпы (за 3 км на Пн ад вёскі, абапал дарогі ў в. Валынцы). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1758 г. 21 гаспадарка, вадзяны млын, побач слабада. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1890 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1895 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас, працавалі паравы млын, лесазавод (31 рабочы), кузня, сукнавальня. У 1940 г. 157 двароў, 728 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 123 двары, загубілі 22 жыхары. На вясковых могілках пахаваны камандзір партыз. атрада «Другія» П.П.Качуеўскі (загінуў у баі 4.7.1942 г.). Паводле перапісу 1959 г. 551 жыхар. У складзе падсобнай гаспадаркі «Валынцы» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Валынцы). Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўн. (прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі) і паўд. (да амаль прамалінейнай шыротнай вуліцы з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца). Забудова пераважна двухбаковая, рэдкая, жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу. Радзіма ўдзельніка барацьбы за ўмацаванне сав. улады ў Рэчыцы і Чэрыкаве М.Д.Шчарбітава. Яго імя носіць адна з вуліц вёскі.

**КЛЯПІНСКАЯ БУДА** — вёска ў Валынецкім с/с, за 21 км на ПнУ ад Кармы, за 75 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 131 км ад Гомеля, на р. Будзянка (прыток р. Кляпінка); на Пд і З Струменскі батанічны заказнік. Аўтадарога звязвае вёску з Кармой. 27 гаспадарак, 50 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой вяскоўцы на свае сродкі збудавалі памяшканне. У 1929 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 397 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Валынцы» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Валынцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЛАСАЎ** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Кармы, за 66 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 97 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож), аўтадарога Карма—Баравая Буда. 31 гаспадарка, 57 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 20 двароў, 114 жыхароў, уладанне памешчыка Турчанінава, які ў 1857 г. купіў яе ў памешчыка Маліноўскага. У

1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас», працавала ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Розавы. У складзе саўгаса імя. В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма супрацоўніка міліцыі І.І.Балахонава, які загінуў пры выкананні службовага абавязку. Яго імем названы вуліцы ў Карме і ў г. Чачэрск.

**КОРСУНЬ** — вёска ў Валынецкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Кармы, за 71 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 127 км ад Гомеля, на р. Кляпінка (прыток р. Сож); вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Струмень—Карма. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У складзе падсобнай гаспадаркі «Валынцы» райсельгасхіміі (цэнтр — в. Валынцы). Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ захаду на ПнУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОСАЛЬ** — вёска ў Акцяброўскім с/с, за 18 км на Пн ад Кармы, за 73 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 128 км ад Гомеля, на р. Касялянка (прыток р. Сож); на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Акцяброва—Рэкта—Доўск. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Магілёўскай губ. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнй сял. хаце, а ў 1911 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 370 жыхароў. У складзе саўгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Акцяброва). Планіровачна складаецца з паўвыгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**КОСАЛЬСКІ ПРУДОК** — вёска ў Акцяброўскім с/с, за 21 км на Пн ад Кармы, за 76 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 131 км ад Гомеля, на р. Касялянка (прыток р. Сож); на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Акцяброва—Доўск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (13 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Прудок», працавалі 2 ветракі, кузня, сукнавальня. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Акцяброва). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КУРАКАЎШЧЫНА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 1 км на Пд ад Кармы, за 56 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 109 км ад Гомеля, на р. Кармянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. 128 гаспадарак, 288 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1816 г. 27 двароў. У 1859 г. ў складзе маёнтка Карма, уладанне памешчыка М.Ф.Быкоўскага. У 1880-я г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 287 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 362 жыхары, 426 дзес. зямлі, у Кармянскай воласці. З 20.8.1924 г. да 19.9.1963 г. цэнтр Куракаўшчынскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Побач быў саўгас імя П.Л.Войкава, у 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», працавалі

вінзавод (з 1919 г.), кузня (з 1925 г.), масласырзавод (з 1925 г.), сталярная майстэрня (з 1931 г.). Паводле перапісу 1959 г. 397 жыхароў. У складзе саўгаса «Кармянскі» (цэнтр — в. Кароцькі). Планіровачна складаецца з працяглай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы з завулкамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма І.А.Ільюшэнкі, удзельніка ўмацавання сав. улады, закатаванага мяцежнікамі. Яго імя нададзена адной з вуліц г.п. Карма.



*А.А.Філімонаў.*

**КУРГАНІЦА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 13 км на У ад Кармы, за 68 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 123 км ад Гомеля; на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (14 сямей) пераселены ў 1990-х г. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 18 жыхароў. У 1909 г. 21 жыхар, 86 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. Была ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струкачоў). Планіровачна складаецца з кароткай, рэдка забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой далучаецца з ПдЗ завулак. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КУРГАННЕ** — пасёлак у Акцяброўскім с/с, за 12 км на Пн ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля, на р. Касалянка (прыток р. Сож); на Пн, З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары (10 сямей) пераселены ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчаць выяўленыя археолагамі курганныя могільнікі (адзін — 15 насыпаў, за 0,4 км на Пд, другі — 20 насыпаў, за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі). Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Уваходзіў у склад саўгаса «Зара камунізму» (цэнтр — в. Акцяброва). Забудова хаатычная, драўляная сядзібнага тыпу.

**КУЧЫН** — вёска ў Каменскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Кармы, за 55 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 120 км ад Гомеля, на аўтадарозе Журавічы—Карма; на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). 108 гаспадарак, 322 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1880-я г. адкрыты хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся рознымі промысламі, у іх ліку вырабам саламяных карабоў для сяўбы збожжавых. Іх узоры экспанаваліся ў Магілёўскім губ. музеі. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 376 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 477 жыхароў, 498 дзес. зямлі, школа, млын. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі 2 ветракі, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 305 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Курганне. Цэнтр калгаса «Кастрычнік». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд і Пн далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза, доктара гіст. навук, прафесара А.А.Філімонава.

**ЛАБЫРОЎКА** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Кармы, за 73

км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 118 км ад Гомеля; на р. Аўсовіна (прыток р. Сож). Аўтадарога звязвае вёску з Кармой. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (50 сямей) пераселены ў 1990-х г. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст., калі тут сталі сяліцца перасяленцы з суседніх вёсак. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы мір», працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 283 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в. Залатаміно). Планіровачна складаецца з паўвыгнутай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАЗОВІЦА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 9 км на У ад Кармы, за 64 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 119 км ад Гомеля; на р. Асецкая (прыток р. Сож), на тэр. Струменскага батанічнага заказніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (25 сямей) пераселены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1858 г. 7 двароў, 36 жыхароў, у валоданні памешчыка Лавянецкага. У 1868 г. 19 двароў, 130 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 129 жыхароў, вятрак, вадзяны млын, у Кармянскай вол. У 1909 г. 37 двароў, 147 жыхароў, 500 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», працаваў вадзяны млын. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струкачоў). Рака дзеліць вёску на 2 часткі: паўн. (да вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, далучаецца кароткая прамалінейная вуліца) і паўд. (кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, падыходзіць да ракі і праз мост злучаецца з паўн. часткай вёскі). Забудова паўн. часткі двухбаковая, паўд. — пераважна аднабаковая. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА** — вёска ў Каменскім с/с, за 4 км на З ад Кармы, за 53 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 110 км ад Гомеля, на р. Каромка (прыток р. Сож); на Пн мяжуе з лесам, на З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Карма—Журавічы. 41 гаспадарка, 104 жыхары (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у старажытныя часы сведчыць выяўлены археолагамі курганны могільнік — 7 насыпаў (за 0,25 км на ПдУ ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. 48 двароў, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ў валоданні І.І.Богуша. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 343 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 69 двароў, 483 жыхары, 554 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калагс. Паводле перапісу 1959 г. 494 жыхары. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЕСАВАЯ БУДА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Кармы, за 91 км ад Гомеля, за 46 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін); на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чачора (прыток р. Сож). Побач шаша Доўск—Гомель. 58 гаспадарак, 104 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Меркулавіцкім старостве Рэчыцкага пав. Мінскага ваяв.

Паводле інвентару 1720 г. 1 дым. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Праходзіў тракт Віцебск—Гомель, мелася паштовая станцыя (5 коней). Паводле перапісу 1897 г. 2 фальваркі, 4 двары, 36 жыхароў. У 1907 г. адкрыта школа, якая ў пач. 1920-х г. размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. Паштовае аддз. ў 1907 г. адкрыла прыём тэлеграм. У 1909 г. 2 фальваркі і паштовая станцыя, 3 гаспадаркі, 28 жыхароў, 1192 дзес. зямлі, вінакурня, у Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 366 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн. (да шыротнай вуліцы з Пд перпендыкулярна далучаецца кароткая, прамалінейная вуліца) і паўд. (да шыротнай кароткай вуліцы далучаюцца 2 завулкі). Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*П.М.Лепяшынскі.*

**ЛІЦВІНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Ліцвінавіцкага с/с, за 8 км на ПнУ ад Кармы, за 68 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 118 км ад Гомеля, на рэках Вілейка і Касялянка (прытокі р. Сож); на З мяжуе з лесам. Аўтадарога звязвае вёску з Кармой. 423 гаспадаркі, 1120 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкай старажытнасці сведчаць выяўленыя археолагамі курганны могільнік (3 насыпы, за 0,3 км на З ад вёскі) і паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку (за 2 км на У, на правым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Цялец). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Праз Ліцвінавічы праходзіў тракт Магілёў—Гомель. Паводле інвентару 1704 г. 8 дымоў, а ў 1726 г. іх колькасць павялічылася да 16, дзейнічалі крупарушка, млын, цэнтр войтаўства Чачэрскага староства. Паводле вопісу 1765 г. 42 гаспадаркі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1806 г. дзейнічала Свята-Казьма-Дзям'янаўская царква (у 1865 г. рамантавалася). У пач. 19 ст. пачала працаваць сукнавальня, у 1832 г. — карчма і 2 млыны. На Сажы мелася пераправа грузападымальнасцю 100 пудоў. Паводле рэвізіі 1859 г. ў валоданні графа Круглікава-Чарнышова. У 1864 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1881 г. 91 двор, 653 жыхары, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1880-х г. адкрыты хлебазапасны магазін. У 1886 г. 93 двары. З 1885 г. дзейнічала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. сяло (127 двароў, 884 жыхары) і фальварак (3 двары, 16 жыхароў, вінакурны з-д). У 1909 г. 147 двароў, 1068 жыхароў, 1281 дзес. зямлі, казённая вінная лаўка, млын. У фальварку 14 жыхароў, 8531 дзес. зямлі. Летам 1918 г. публіцыст, доктар гіст. навук, дзеяч рэв. руху П.М.Лепяшынскі заснаваў тут школу-камуну, для якой мясц. ўлады выдзелілі памяшканне, а абсталяванне прыбыло з Масквы. Навучанне спалучалася з працай. Значнае месца ў дзейнасці школы займала эстэтычнае выхаванне. У канцы 1919 г. школа была пераведзена ў Маскву. З 20.8.1924 г. цэнтр Ліцвінавіцкага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Гомельскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя П.М.Лепяшынскага, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі ў ліст. 1943 г. загінулі 105 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле побач з вёскай). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 76 вяскоўцаў, якія ўвекавечаны мемарыяльнымі дошкамі з імёнамі загінуўшых, пастаўленымі побач з помнікам на брацкай магіле.

Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Рагозны, у 1963 г. — пас. Калініна. Цэнтр калгаса імя П.М.Лепяшынскага. Размешчаны млын, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з працяглай, зігзагападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 3 кароткія вуліцы і 4 завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У скверы, перад будынкам школы, у 1968 г. П.М.Лепяшынскаму пастаўлены помнік, яго імя носяць мясц. калгас і школа. 12.3.1968 г. пачаў дзейнічаць мемарыяльны музей П.М.Лепяшынскага (філіял абл. краязнаўчага музея), экспазіцыя якога створана на базе экспанатаў з маскоўскай кватэры П.М.Лепяшынскага.

У склад Ліцвінавіцкага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Рагозны, да 1963 г. пас. Калініна, да 1978 г. пас. Барысаўка (не існуюць).

**ЛУБЯНКА** — вёска ў Старагарадскім с/с, за 10 км на З ад Кармы, за 45 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 100 км ад Гомеля; на З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дабрыца (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 25 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. У 1834 г. 47 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 480 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветракі. У 1909 г. — Лубянка (яна ж Хізаўская Буда), 91 двор, 643 жыхары, 756 дзес. зямлі, у Доўскай вол. Рагачоўскага пав. У 1923 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 12 воінаў 121-й стралк. дывізіі 3-й арміі Бел. фронту (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 370 жыхароў. У складзе саўгаса «Старагарадскі» (цэнтр — в. Старагард). Планіровачна складаецца з 2 частак: паўд. (дзве шыротныя кароткія вуліцы, падзеленыя дарогай) і паўн. (кароткая шыротная крывалінейная вуліца). Забудова рэдкая, двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ЛУЖОК** — вёска, цэнтр Лужкоўскага с/с, за 15 км на Пд ад Кармы, за 75 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 104 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 121 гаспадарка, 360 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1859 г. ва ўладанні памешчыка І.К.Быкоўскага. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 84 двары, 559 жыхароў, 992 дзес. зямлі, школа, капліца, млын, у Расохскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1919 г. для яе было пабудавана ўласнае памяшканне. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», працавалі 2 ветракі, кузня, ваўначоска, конная крупарушка. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 25 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 244 землякі, на ўшанаванне памяці якіх побач з помнікам на брацкай магіле пастаўлены дошкі з іх імёнамі. З 1939 г. цэнтр Расохскага, з 30.6.1966 г. Лужкоўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 453 жыхары. Цэнтр калгаса «Бальшавік». Размешчаны млын, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа (у 1989 г. ўзведзены новы мураваны будынак), Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, амбулаторыя, дзіцячы сад. Планіро-

вачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: паўн. (да працяглай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы далучаюцца на У і З 2 кароткія вуліцы) і паўд. (кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ). Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу. У 1987 г. пабудаваны мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з забруджаных радыяцыяй месц пасля Чарнобыльскай катастрофы. Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну Р.М.Вайцянкова. У склад Лужкоўскага с/с да 1986 г. ўваходзіў пас. Замошша, да 1993 г. — пас. Асінаўка, да 1995 г. — в. Ляксандраўка (не існуюць).

**ЛУНАЧАРСК** — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Кармы, за 80 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 135 км ад Гомеля; на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (9 сямей) пераселены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць выяўленае археолагамі гарадзішча мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур, датуецца 6 ст. да н.э. — 3 ст. н.э. (за 0,8 км на У ад пасёлка, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Сож). Пасёлак заснаваны ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары. Уваходзіў у склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в. Залатаміно). Планіровачна складаецца з вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛАШКІ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 12 км на У ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 122 км ад Гомеля, на р. Змейка (прыток р. Даражывель); на Пн, У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (20 сямей) пераселены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як аколіца ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца, 19 двароў, 131 жыхар, вятрак. У 1909 г. 20 двароў, 151 жыхар, 302 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Непераможны», працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струкачоў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудавана двухбакова рэдка драўлянымі сялянскімі сядзібамі. Побач радовішчы мелу і мергелю.

**МАЛЯНІК** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 16 км на У ад Кармы, за 66 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 126 км ад Гомеля, на тэр. Струменскага батанічнага заказніка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (24 сям'і) пераселены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як аколіца ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1868 г. 15 двароў, 120 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 183 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1906 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1913 г. для яе было пабудавана ўласнае памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «Усход», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. ба-

рацьбе загінулі 65 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у 1967 г. на зах. ускраіне пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струкачоў). Размяшчаліся пач. школа, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн і Пд далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная сядзібнага тыпу.

**МАТОРАЎКА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Кармы, за 70 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 88 км ад Гомеля; на Пд мяжуе з лесам; на З і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Горна (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Меркулавічы—Чачэрск. 23 гаспадаркі, 33 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 167 жыхароў. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дубавіца). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**МІКОЛЬСК** — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 21 км на Пн ад Кармы, за 76 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 131 км ад Гомеля, на р. Асовіна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2004 г.).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁЎКА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Кармы, за 59 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 94 км ад Гомеля; на Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Доўск—Гомель. 35 гаспадарак, 59 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Расохскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ва ўладанні памешчыка І.Грушэцкага. У 1880-я г. адкрыты хлебазапасны магазін. У 1909 г. 62 двары, 417 жыхароў, 708 дзес. зямлі, школа граматы, млын. У 1911 г. пабудавана школьнае памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 433 жыхары. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дубавіца). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой перпендыкулярна далучаюцца на У, З і па цэнтры кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Барсукоўскім с/с, за 6 км на З ад Кармы, за 61 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 116 км ад Гомеля; на Пн і У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае. 28 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле інвентару 1848 г. 75 жыхароў, у складзе маёнтка памешчыка Бялецкага. У 1854 г. ўзведзены будынак Свята-Троіцкай царквы. У 1858 г. 28 двароў, 233 жыхары, у валоданні Случаноўскіх. З 1881 г. дзейнічалі крупарушка і хлебазапасны магазін. У 1875 г. гаспадар маёнтка меў тут 1160 дзес. зямлі, 2 млыны і сукнавальню. У 1886 г. 50 двароў, 480 жыхароў, валавы млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло (83 двары, 2 ветракі) і аднайменны фальварак (3 двары, 15 жыхароў, карчма). У 1898 г. ад-

крыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1907 г. 56 вучняў), а ў 1912 г. для яе пабудаваны ўласны будынак. У 1909 г. 92 двары, 665 жыхароў, 809 дзес. зямлі. У фальварку 30 жыхароў, 1268 дзес. зямлі. З 1911 г. пры школе працавала б-ка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Памяць Леніна», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 281 жыхар. У складзе саўгаса імя М.М.Валадарскага (цэнтр — в. Барсукі). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных у цэнтры завулкам. На Пн — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, рэдка пастаўленыя.

**НОВАЯ ЗЕНЬКАВІНА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, побач з усх. ускраінай Кармы, за 56 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 11 км ад Гомеля; на р. Кармянка (прыток р. Сож), на У меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. 126 гаспадарак, 349 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Кармянскай валасці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 20 двароў. У 1881 г. 25 двароў, 188 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 287 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 43 двары, 349 жыхароў, 461 дзес. зямлі, млын. Уцякаючы на Дон у ліст. 1917 г. з турмы г. Быхава, генералы Карнілаў, Дзянікін, Луканскі, Маркаў разам са сваёй аховай (Цекінскі полк) заначавалі ў вёсцы, а раніцой спрабавалі пераправіцца цераз р. Сож, але на іх напаў Кармянскі партыз. атрад, захапіў палонных і некалькі павозак. 28.11.1917 г. ў жорсткай бітве пад Унечай карнілаўскі атрад быў канчаткова разбіты. У 1930 г. арганізаваны 2 калгасы, працавалі 2 конныя крупарушкі, конны і паравы млыны, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 342 жыхары. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Красны Бор. Цэнтр калгаса «Перамога». Размешчаны клуб, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да цэнтра якой пад прамым вуглом падыходзіць кароткая вуліца і паралельна да паўн. часткі вуліцы далучаюцца 2 кароткія вуліцы. На У, за меліярацыйным каналам, невял. адасобленая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**НОРКАЎШЧЫНА** — вёска ў Стрykачоўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Кармы, за 57 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 91 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна. 44 гаспадаркі, 101 жыхар (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Расохскай валасці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 52 двары, 230 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1902 г. пачаліся заняткі ў вясковай школе, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1921 г. для яе пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 328 жыхароў, вятрак, карчма. У 1909 г. 78 двароў, 486 жыхароў, 1002 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы прасвет», працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 432 жыхары. У складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дубавіца). Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На Пд амаль паралельна да яе праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАКРОЎСК** — пасёлак у Каменскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Кармы, за 50 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 127 км ад Гомеля; на Пд мяжуе з лесам, на Пн (за 0,5 км) пачынаецца р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па прасёлачнай,

потым аўтадарозе Слаўгарад—Доўск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць выяўлены археолагамі на паўн. ускраіне курганны могільнік (7 насыпаў). Сучасны пасёлак заснаваны ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАСЕКА-СЛАБОДКА** — вёска ў Стараградскім с/с, за 16 км на З ад Кармы, за 41 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 100 км ад Гомеля; на р. Дабрыца (прыток р. Сож), на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Доўскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1847 г. ў складзе маёнтка Стараград. Паводле рэвізіі 1858 г. 19 двароў, 133 жыхары. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 161 жыхар. У 1909 г. 42 двары, 248 жыхароў, 371 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары. У складзе саўгаса «Стараградскі» (цэнтр — в. Стараград). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАШТОВАЯ ГЛІНКА** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 27 км на ПнУ ад Кармы, за 82 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 137 км ад Гомеля; на р. Сож (прыток р. Дняпро), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў пач. 20 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. Найбольш актыўная забудова прыпадае на 1920-я г. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 189 жыхароў. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕРШАЯ СТУПЕНЬ** (да 1951 г. — Кажаны) — пасёлак у Ліцвінавіцкім с/с, за 7 км на Пн ад Кармы, за 62 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 117 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 69 жыхароў. Уваходзіў у склад калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПРАЎДА** — пасёлак у Струкачоўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Кармы, за 50 км ад чыг. станцыі Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 117 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож). Побач аўтадарога Карма—Зялёная Паляна. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 92 двары, 281 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 88 двароў і загубілі 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Ба-

равая Буда). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ПЯТРАВІЧЫ** — вёска ў Стараградскім с/с, за 18 км на З ад Кармы, за 37 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 93 км ад Гомеля; на р. Дабрыца (прыток р. Добрыч). Побач аўтадарога Карма—Ямнае. 77 гаспадарак, 177 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1829 г. гаспадар аднайменнага маёнтка Стракоўскі меў тут 288 дзес. зямлі, якія дасталіся яму па спадчыне. У 1856 г. памешчык меў у вёсцы 326 дзес. зямлі, карчму і млын. Паводле рэвізіі 1858 г. 19 двароў, 177 жыхароў. У 1880-я г. адкрыты хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 581 жыхар, мураваная царква, 2 хлебазапасныя магазіны, вятрак, побач быў аднайменны фальварак. У 1908 г. ў вёсцы 111 двароў, 822 жыхары, 958 дзес. зямлі, у фальварку 3 двары, 10 жыхароў, 327 дзес. зямлі. У 1909 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. ёй быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. Дзейнічалі пазыка-ашчадная каса, аддз. паштовай сувязі,ператворанае ў 1911 г. ў паштова-тэлеграфнае. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», працавалі 2 млыны і кузня. У 1939 г. да вёскі далучаны пас. Мышакоўка. Паводле перапісу 1959 г. 591 жыхар. У складзе саўгаса «Стараградскі» (цэнтр — в. Старагpад). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з зах. боку далучаюцца 3 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**РАСОХІ** — вёска ў Лужкоўскім с/с, за 15 км на Пд ад Кармы, за 53 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская (на лініі Гомель—Жлобін), за 80 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 50 гаспадарак, 111 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1785 г. 64 жыхары, уладанне памешчыка С.Вязьміцінава. У 1791 г. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква. У 1848 г. 42 двары. Паводле рэвізіі 1859 г. ва ўладанні памешчыка І.К.Быкоўскага. У 1863 г. адкрыта школа, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1881 г. 63 двары, 307 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 70 двароў, 541 жыхар, вятрак, вадзяны млын, піцейны дом. У 1909 г. 82 двары, 2131 дзес. зямлі, вінная лаўка, прыёмны лячэбны пакой. Цэнтр воласці (да 9.5.1923 г.), у якую ў 1910 г. ўваходзілі 25 населеных пунктаў з 1394 дварамі. З 1911 г. пры школе дзейнічала б-ка. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. З 20.8.1924 г. да 1939 г. цэнтр Расохскага с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Саюз», працаваў вадзяны млын. У 1930-х г. 2 вёскі: Старыя Расохі і Новыя Расохі. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Старыя Расохі 383, у в. Новыя Расохі 215 жыхароў. З 1980-х г. адна вёска Расохі. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Лужок). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца 3 завулкі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Кармы, за 68 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 126 км ад Гомеля; на р. Касялянка (прыток р. Сож), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў старажытнасці ў гэтых мясцінах сведчыць выяўленае археолагамі гарадзішча (за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Касялянка). Паводле пісьмовых кры-

ніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Гаспадары аднайменнага фальварка ў 1876 г. мелі 1054 дзес. зямлі і 2 вадзяныя млыны. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 77 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын, сукнавальня. У 1909 г. 27 двароў, 150 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Руднянскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У Вял. Айч. вайну вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. 22.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 531 жыхар. У 1978 г. да вёскі далучаны пас. Барысаўка. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з працяглай, зігзагападобнай мерыдыянальнай вуліцы з завулкамі. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — пасёлак у Ворнаўскім с/с, за 7 км на Пд ад Кармы, за 63 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 82 км ад Гомеля, на р. Добрыч (прыток р. Сож), на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Чачэрск—Карма. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальварак Рудня Добрыцкая, 2 двары, 7 жыхароў. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г., калі перасяленцы з суседніх вёсак сяліліся тут на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», працавалі вадзяны млын, сукнавальня. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў. У складзе калгаса «Світанак» (цэнтр — в. Высокае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЭВУТ** — вёска ў Барсукоўскім с/с, за 7 км на З ад Кармы, за 62 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 117 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае. 17 гаспадарак, 33 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Гаспадар аднайменнага фальварка меў тут у 1870 г. 155 дзес. зямлі, якія ён атрымаў па спадчыне. У 1880-я г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Рэвут (яна ж Навасёлкі) 71 двор, 415 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 443 жыхары, 797 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сормавец», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў. У складзе саўгаса імя М.М.Валадарскага (цэнтр — в. Барсукі). Планіровачна складаецца з падзеленай ручаём вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**САЛАБУТА** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Кармы, за 71 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 126 км ад Гомеля, на р. Аўсовінка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (21 сям'я) перасялены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», працавалі 2 ветракі, кузня. У 1940 г. 50 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў верасні 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 48 двароў. У баі каля вёскі 8.11.1943 г. вызначыўся ст. сяржант, камандзір узвода разведкі С.І.Ушакоў (удастоены звання Героя Савецкага Саюза). Вызвалена 22.11.1943 г. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. Уваходзіла ў склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в.

Залатаміно). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, мерыдыянальна арыентаванай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**САПАЖКІ** – вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 4 км на Пд ад Кармы, за 57 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 105 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Чачэрск; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Добрыч (прыток р. Сож). 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).



*П.В.Мажэйка.*

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пад 1726 г. пазначана ў інвентары Чачэрскага староства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У інвентары 1848 г. сяленне ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1859 г. ва ўладанні памешчыка М.Янушкевіча. Паводле перапісу 1897 г. вёска і аколіца, 70 двароў, 380 жыхароў. У 1906 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 78 двароў, 671 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», працавалі вадзяны млын, вятрак, кузня. Паводле перапісу 1959 г. 230 жыхароў. У складзе саўгаса «Кармянскі» (цэнтр — в. Кароцькі). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На З ад гал., за аўтадарогай, кароткая шыротная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Савецкага Саюза П.В.Мажэйкі, імя якога носіць адна з вуліц вёскі. Паблізу радовішча цагельнай сыравіны.

**СКАРТЫНЬ** – вёска ў Лужкоўскім с/с, за 13 км на Пд ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 104 км ад Гомеля; на У меліярацыйны канал, злучаны з р. Сож. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 34 двары, 150 жыхароў. У 1880-я г. пачаў дзейнічаць хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 242 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 47 двароў, 353 жыхары, у Расохскай воласці Рагачоўскага пав. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працаваў вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 275 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Лужок). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРАГРАД** – вёска, цэнтр Старажградскага с/с, за 16 км на З ад Кармы, за 44 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 94 км ад Гомеля; на р. Дабрыца (прыток р. Добрыч). Побач аўтадарога Карма—Ямнае. 122 гаспадаркі, 349 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць курганны могільнік, выяўлены археолагамі за 0,2 км на Пн ад гасп. двара саўгаса. Аб гэтым сведчыць і знойдзены тут у 1917 г. скарб сярэбраных талераў 17 ст. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Доўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1847 г. ў складзе маёнтка Стараград, уваходзілі таксама вёскі Хізаўская Буда і Пасека. З 1850 г. працавала сукнавальня. Гаспадар маёнтка меў тут у 1874 г. 1004 дзес. зямлі, 2 млыны і сукнавальню, атрыманыя ім па спадчыне. Паводле перапісу 1897 г. 57 жыхароў. У 1909 г. 7 двароў, 22 жыхары, 862 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі вятрак і кузня. У 1940 г. да вёскі далучаны пасёлкі Крынічны, Загалкоўе і Зарэчча. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 19 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 269 землякоў, памяць

аб якіх увекавечвае стэла, пастаўленая ў 1976 г. на паўдн. ускраіне вёскі. З 16.7.1954 г. цэнтр Стараградскага с/с Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Гомельскай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Стараградскі». Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўд. (кароткая шыротная вуліца) і паўн. (кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаецца завулак). Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

У склад Стараградскага с/с уваходзілі пасёлкі да 1939 г. Мышаўка, да 1940 г. Загалкоўе, Крынічны (не існуюць).

**СТАРАЯ ЗЕНЬКАВІНА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 1 км на ПдУ ад Кармы, за 56 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 111 км ад Гомеля; на р. Кармянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. 81 гаспадарка, 170 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. як вёска ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. 31 двор. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 402 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1906 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1909 г. 64 двары, 476 жыхароў, 693 дзес. зямлі, царква, млын. У 1931 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 365 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучаны пас. Бурны. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Новая Зенькавіна). Планіровачна складаецца з 2 розных па памеры і паралельных паміж сабой, амаль шыротнай арыентацыі вуліц, злучаных 2 завулкамі. На У адасобленая невял. вуліца ўздоўж ракі. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Радзіма контр-адмірала П.Ц.Бандарэнкі. Яго імем названы вуліцы ў вёсцы і ў г.п. Карма.

**СТРУКАЧОЎ** — вёска, цэнтр Струкачоўскага с/с, за 14 км на ПдЗ ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 96 км ад Гомеля; на р. Горна (прыток р. Сож) і аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна, на Пд меліярацыйны канал. 107 гаспадарак, 337 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Паводле інвентару 1759 г. 20 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1859 г. ў валоданні памешчыка І.К.Быкоўскага. У 1880-я г. пачаў дзейнічаць хлебазапасны магазін. У 1886 г. 95 двароў, 541 жыхар, 2 ветракі, у Расохскай вол. Рагачоўскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 150 двароў, 859 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, піцейны дом. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (85 вучняў). У 1909 г. 183 двары, 1095 жыхароў, вінная лаўка. З 1911 г. пры школе дзейнічала б-ка. З 20.8.1924 г. цэнтр Струкачоўскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, працавалі вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 49 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 391 жыхар. У 1974 г. да вёскі далучана в. Лозкі, да якой у 1962 г. былі далучаны пасёлкі Доркі і Дуброўка-1. Доўгі час вясковец К.К.Нікіцін працаваў старшынёй мясц. калгаса, дабіўся вял. поспехаў, быў удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Размешчаны Дом культуры, аддз. сувязі, сярэд-

няя школа (у 1986 г. ўзведзены новы мураваны будынак), б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 сямей, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля Чарнобыльскай катастрофы.

У склад Струкачоўскага с/с уваходзілі да 1962 г. пас. Доркі, Дубраўка-І, Дубраўка-ІІ, да 1974 г. в. Лозкі, пас. Жданаў, да якога ў 1962 г. былі далучаны пас. Круглы і Крывы Рог (не існуюць).

**СТРУМЕНЬ** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Кармы, за 69 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 119 км ад Гомеля; на р. Струменка (прыток р. Сож) і аўтадарозе Валынцы—Карма, на Пд, У і Пн Струменскі батанічны заказнік. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (170 сямей) перасёлены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчаць паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку (за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Струменка, ва ўрочышчы Нарач), паселішча верхнедняпроўскай культуры (3-е тысячагоддзе да н.э., за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Біручыха). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў 16 ст. ў сувязі з ваен. дзеяннямі паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Паводле інвентару Чачэрскага староства 1704 г. 8 дымоў, у Валосаўскім войтаўстве. Пазначана і ў інвентары Чачэрскага староства 1726 г. Паводле вопісу 1765 г. 17 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. З 1788 г. дзейнічала царква. Паводле рэвізіі 1858 г. ў валоданні памешчыцы Кузьміцкай. У лясной дачы (паблізу вёскі) з 1864 г. працаваў бярозава-дзягцярны з-д (6 рабочых). У 1880 г. 76 двароў, 399 жыхароў, вінакурня, хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў аколіцы 100 двароў, 563 жыхары, вятрак, у вёсцы 27 двароў, 200 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1907 г. працавала нар. вучылішча (83 вучні). У 1909 г. ў вёсцы 31 двор, 232 жыхары, 307 дзес. зямлі, у аколіцы 126 двароў, 1480 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. да 1986 г. цэнтр Струменскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г. Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Новы свет» і «Камунар», працавалі вятрак, конная крупарушка, кузня. Працавала Струменскае лясніцтва. У Вял. Айч. вайну дзейнічала патрыят. падпольная група (кіраўнік А.І.Хадановіч). Ням.-фаш. карнікі ў 1942 г. часткова спалілі вёску. У баях каля вёскі загінулі 47 воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 137 вяскоўцаў, у памяць аб якіх побач з помнікам на брацкай магіле пастаўлены дошкі з імёнамі загінуўшых. Паводле перапісу 1959 г. 753 жыхары. Была цэнтрам калгаса «Радзіма». Размяшчаліся хлебапякарня, малочны з-д, швейная майстэрня, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, 2 б-кі, б-ца, аптэка, вет. ўчастак, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 мерыдыянальных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма кавалера ордэна Славы 3 ступеней Л.С.Хадановіча.

У склад Струменьскага с/с уваходзілі да 1962 г. пасёлкі Васільеўка, Розавы (не існуюць).

**СТУДЗЯНЕЦ** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Кармы, за

69 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 124 км ад Гомеля; на р. Аўсовіна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясцовай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарыят», працаваў вятрак. У Вял. Айч. вайну 22.11.1943 г. ў час бою за вызваленне вёскі камандзір асобнай стралк. роты капітан М.Г.Калінкін закрыў сваім целам амбразуру дзота (пасмяротна ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза, пахаваны на ўсх. ускраіне вёскі). У гэтым баі вызначыўся таксама ст. сяржант М.М.Шыкін (удастоены звання Героя Савецкага Саюза). Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У складзе калгаса імя П.М.Лепяшынскага (цэнтр — в. Ліцвінавічы). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі. Каля вёскі размешчаны радовішчы крэмнію, гліны, мелу і будаўнічага пяску.

**СЫРСК** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, побач з зах. ускраінай Кармы, за 55 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 110 км ад Гомеля; на р. Кармянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па аўтадарогах, якія адыходзяць з Кармы. 220 гаспадарак, 486 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як вёска ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1816 г. ўласнасць казны, у 1858 г. 42 двары, 317 жыхароў, ва ўладанні памешчыцы П.Ф.Дзерналовіч. З 1880-х г. дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 443 жыхары, хлебазапасны магазін, 2 ветракі, крупарушка, карчма. У 1909 г. 81 двор, 592 жыхары, 606 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, працавалі вятрак, кузня, санна-калёсная майстэрня. Паводле перапісу 1959 г. 609 жыхароў. У 1966 г. да вёскі далучана суседняя в. Масцеравая Слабада. У складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Новая Зенькавіна). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных завулкамі. Да паўн. вуліцы далучаюцца з Пн 2 кароценькія вуліцы. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка БССР К.В.Савельевай.

**СЫРСКАЯ БУДА** — вёска ў Барсукоўскім с/с, за 4 км на З ад Кармы, за 51 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 114 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Янаў; на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Кармянка (прыток р. Сож). 21 гаспадарка, 45 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1881 г. 34 двары, 255 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Буда (яна ж Сырская Буда), 50 двароў, 334 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1909 г. 55 двароў, 401 жыхар, 420 дзес. зямлі. У 1912 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў пач. 1920-х г. для яе быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Непераможны», працавалі вятрак, кузня, ваўначоска. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У складзе калгаса імя М.М.Валадарскага (цэнтр — в. Барсукі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Алеся Астапенкі.

**СЯМЁНАЎКА** — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 3 км на Пн ад Кармы, за 58 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 113 км ад Гомеля;

на Пн мяжуе з лесам, на Пд і меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Кармянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарогах, якія адыходзяць ад Кармы. 57 гаспадарак, 154 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г., калі тут, на былых памешчыцкіх землях, сяліліся перасяленцы з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сямёнаўка», працавала кузня. Паводле перапісу 1959 г. 65 жыхароў. У складзе к-са «Перамога» (цэнтр — в. Новая Зенькавіна). Размешчаны клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай вуліцы, да якой з Пд боку далучаюцца 2, а з Пн — адзін завулак. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу.

**ТАРАХАЎКА** — вёска ў Барсукоўскім с/с, за 10 км на З ад Кармы, за 50 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 105 км ад Гомеля; на р. Добрыч (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае. 16 гаспадарак, 35 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Гаспадар аднайменнага фальварка меў тут у 1879 г. 541 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, вятрак і карчму. У 1881 г. 44 двары, 313 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 67 двароў, 372 жыхары, хлебазапасны магазін, сукнавальня, вятрак, вадзяны млын. У 1909 г. в. Млынок-Тарахаўка, 87 двароў, 519 жыхароў, 408 дзес. зямлі. У фальварку 14 жыхароў, 345 дзес. зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 327 жыхароў. У складзе саўгаса імя М.М.Валадарскага (цэнтр — в. Барсукі). Планіровачна складаецца з 2 падзеленых р. Добрыч частак: паўн. (дугападобгная шыротная вуліца) і паўд. (кароткая вуліца ўздоўж ракі). Забудавана рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРУД** (да 1963 г. Асецкая) — вёска ў Кароцькаўскім с/с, за 10 км на У ад Кармы, за 65 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 120 км ад Гомеля; на р. Асецк (прыток р. Сож), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (10 сямей) перdesigned ў 1992 г. ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 20 ст. У 1930 г. арганізаваны калгас «Труд», працавала кузня. У гонар баявой дзейнасці партызан Кармянскага атрада ў Вял. Айч. вайну ў 1976 г. ў вясковым скверы пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 155 жыхароў. Уваходзіла ў склад калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Струкачоў). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай у цэнтры завулкам. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ХАЛАПАЎКА** — вёска ў Ворнаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Кармы, за 57 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 102 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Чачэрск. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС жыхары пераселены ў чыстыя месцы.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. У 1909 г. аколіца, 57 двароў, 342 дзес. зямлі, царква, млын. У 1930 г. 2 вёскі: Старая Халапаўка і Новая Халапаўка. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Старая Халапаўка 84, у в. Новая Халапаўка 64 жыхары. У 1960-я г. — в. Халапаўка. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Ратнік. Уваходзіла ў склад калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Высокае). Планіровачна ўяўляе хаатыч-

ную забудову драўлянымі будынкамі сядзібнага тыпу.

**ХІЗАЎ** — вёска ў Стараградскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Кармы, за 45 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 98 км ад Гомеля; на р. Добрыч (прыток р. Сож), у якую каля вёскі ўпадае р. Дабрыца. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Ямнае. 148 гаспадарак, 466 жыхароў (2004 г.).

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць курганны могільнік — 18 насыпаў (за 2 км на У ад вёскі). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне ў Рагачоўскім пав. Магілёўскай губ. У 1797 г. тут пачало дзейнічаць прадпрыемства па вырабе шкла (63 рабочыя). Па рэвізіі 1816 г. аколіца. У 1844 г. збудавана драўляная Свята-Георгіеўская царква. У 1858 г. 49 двароў, у валоданні памешчыка Дзібрыцкага. У 1877 г. заснавана сукнавальня з млынам, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1886 г. 65 двароў, 507 жыхароў, царк.-прыходская школа, вадзяны млын, у Доўскай воласці. Паводле перапісу 1897 г. 124 двары, 707 жыхароў, царк.-прыходская школа, вятрак, 2 маслабойні, 2 лаўкі, карчма. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі (3 двары, 20 жыхароў, вадзяны млын). У 1909 г. 132 двары, 877 жыхароў, 1126 дзес. зямлі, вінакурня, вінная лаўка. У верасні 1917 г. ў Стаўку Вярх. галоўнакамандуючага Рас. войск з Рагачова была накіравана тэлеграма аб тым, што «ў сяленні Хізаў утварылася самастойная рэспубліка, якая зусім не прызнае Часовы ўрад». З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Хізаўскага с/с Кармянскага р-на Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы свет», працавалі вятрак і кузня. Побач быў пас. Хізаўскі (не існуе). У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 30 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 144 вяскоўцы, на ўшанаванне памяці якіх на паўд.-ўсх. ускраіне пастаўлены ў 1952 г. абеліск. паводле перапісу 1959 г. 568 жыхароў. Цэнтр саўгаса «Багданавічы». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых р. Добрыч частак: паўд. (зігзагападобная, амаль шыротная вуліца з завулкам) і паўн. (хаатычна забудаваная шыротная вуліца). Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У 1987 г. ўзведзены мураваныя дамы на 50 сямей для перасяленцаў з забруджаных радыяцыяй месц. Радзіма ген.-м. Т.Л. Уласава і ўдзельніка партыз. руху на Гомельшчыне ў Вял. Айч. вайну М.Л.Хілінскага (яго імя носіць адна з вуліц вёскі).

**ХЛЯЎНО** — вёска ў Ліцвінавіцкім с/с, за 21 км на ПнУ ад Кармы, за 76 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 131 км ад Гомеля; на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ліцвінавічы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (81 сям'я) перaселены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у глыбокай старажытнасці сведчыць курганны могільнік — 4 насыпы (за 0,3 км на У ад вёскі, на ўсх. ускраіне могілак). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1898 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце, а ў 1900 г. пабудавана для яе ўласнае памяшканне. Часта вёска цярпела ад пажараў, асабліва ў 1920-я г. З 20.8.1924 г. да 15.9.1974 г. цэнтр Хляўнянскага с/с Кармянскага, з 25.12.1962 г. Рагачоўскага, з 6.1.1965 г.

Чачэрскага, з 30.7.1966 г. Кармянскага р-наў Магілёўскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Гомельскай вобл. Дзейнічаў саўгас «Хляўно», у 1929 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, працавалі 3 ветракі і кузня. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 290 воінаў і 5 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). Паводле перапісу 1959 г. 590 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Руднянскі» (цэнтр — в. Залатаміно). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой мерыдыянальных вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменнікаў А.С.Дзеружынскага і І.П.Клімянкова.

**ЧАМУШАЛЬ** — пасёлак у Лужкоўскім с/с, за 10 км на Пд ад Кармы, за 67 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 102 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў. У складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Лужок). Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**ШАЛАМЕІ** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Кармы, за 66 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 95 км ад Гомеля, на аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як сяленне Шаламея (яно ж Нялепаўшчына) у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяв. У інвентары Меркулавіцкага староства за 1720 г. пазначана як слабада. Паводле інвентару 1758 г. фальварак і вёска, 13 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1840 г. памешчык меў у вёсцы 228 дзес. зямлі. Паводле рэвізіі 1858 г. 39 двароў, 249 жыхароў. У 1881 г. 44 двары, 326 жыхароў, у Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 63 двары, 388 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Побач быў фальварак Шаламеі (ён жа Сальца). У 1909 г. 70 двароў, 442 жыхары, 518 дзес. зямлі, у Расохскай вол. Рагачоўскага пав. У фальварку 1 двор, 200 дзес. зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», працавалі конная крупарушка, кузня, нафтавы млын, вятрак. Паводле перапісу 1959 г. 186 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЭРАХАЎСКАЯ БУДА** — вёска ў Струкачоўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Кармы, за 66 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 95 км ад Гомеля. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Карма—Зялёная Паляна. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска ў Меркулавіцкай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. З 1872 г. працавала крупарушка. У 1881 г. 50 двароў, 312 жыхароў. У 1909 г. 78 двароў, 552 жыхары, 645 дзес. зямлі, млын. У 1930 г. арганізаваны калгас «13-ы Кастрычнік», працавалі вятрак і кузня. Паводле перапісу 1959 г. 197 жыхароў. У складзе саўгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Баравая Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНАЎКА** — вёска ў Каменскім с/с, за 8 км на З ад Кармы, за 57 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 119 км ад Гомеля; на Пд, З і Пн меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гутлянка (прыток р. Дняпро). Побач аўтадарога Карма—Журавічы. 17 гаспадарак, 42 жыхары (2004 г.).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як сяленне ў Кармянскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 21 жыхар. У 1909 г. 2 двары, 21 жыхар, 506 дзес. зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты стварылі ў вёсцы свой апорны пункт, які 6.11.1942 г. партызаны разграмілі. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў. У складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Кучын). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца кароткая, аднабакова забудаваная вуліца. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ЯСЕНЬ** — вёска ў Валынецкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Кармы, за 73 км ад чыг. ст. Рагачоў (на лініі Магілёў—Жлобін), за 129 км ад Гомеля; вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Валынцы—Карма. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем пасля Чарнобыльскай катастрофы жыхары (26 сямей) перасёлены ў пач. 1990-х г. у чыстыя месцы.

Засн. ў пач. 20 ст. Найбольш актыўная забудова вялася ў 1920-я г., калі тут, на былых памешчыцкіх землях, сяліліся перасяленцы з суседніх вёсак. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1959 г. 156 жыхароў. Уваходзіла ў склад саўгаса «Валынцы» (цэнтр — в. Валынцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова і арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Архіў інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1, спр. 11.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6755; ф. 42, воп. 2, спр. 4084, 4085, 4086, 4087, 4088, 4089, 4090, 4093, 4094, 4095, 4096, 4097, 4098, 4100, 4102, 4104, 4105, 4106, 4107, 4108, 4109, 4110, 4111, 4112, 4119; ф. 516, воп. 1, спр. 454; ф. 1297, воп. 1, спр. 10446; ф. 2151, воп. 1, спр. 75.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 448, воп. 1, спр. 46; ф. 1251, воп. 1, спр. 65, 163, 166; ф. 1297, воп. 1, спр. 6417, 18715; ф. 2001, воп. 1, спр. 17, 974, 1193; ф. 2151, воп. 1, спр. 65, 74, 126, 159, 163, 164, 167, 193; ф. 2254, воп. 1, спр. 66; воп. 4, спр. 14; ф. 2882, воп. 1, спр. 1; ф. 3363, воп. 1, спр. 438; ф. 3388, воп. 1, спр. 1; ф. 3389, воп. 1, спр. 1.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 16, воп. 1, спр. 763; ф. 1290, воп. 2, спр. 1366, 1966; воп. 11, спр. 1966.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 год. Могилев, 1861.
Волости и гмины. Могилевская губерния. Ч. 23. СПб., 1863.
Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Могилев, 1889.
Отчет о состоянии Могилевской губернии за 1889 год. Могилев, 1890.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892.
Сборник императорского Русского исторического общества. Т. 35. Ч. 1. СПб., 1892.
Историко-юридические материалы. Вып. 28. Витебск, 1900.
Обзор Могилевской губернии за 1907 год. Могилев, 1908.
Памятная книжка училищ Могилевской дирекции на 1907—08 учебный год. Могилев, 1908.
Обзор Могилевской губернии за 1908 год. Могилев, 1909.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 35. Вильна, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.

Обзор Могилевской губернии за 1911 год. Могилев, 1912.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 38. Вильна, 1914.
Статистический обзор Могилевской губернии на 1914 год. Могилев, 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Трудящие Гомельщины в борьбе за власть Советов (1917—1920 гг.): Хроника событий. Гомель, 1958.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности Беларуси (1795—1961 гг.). Мн., 1966.
В грозные годы. Мн., 1973.
Рабцевич В.Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977.
Павлов Я.С. Народная война в тылу интервентов и белогвардейцев. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. Мн., 1985.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Вяртанне. Мн., 1996.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Чачэрскага р-на. Мн., 2000.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ РАЁНАЎ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

Паводле адміністрацыйнага значэння

- Цэнтр вобласці
- Цэнтры раёнаў
- Цэнтры сельсаветаў

Паводле тыпу паселішча

- ЖЛОБІН — Гарады
- Брагін — Пасёлкі гарадскога тыпу
- *Заазер'е* — Сельскія населеныя пункты
- *Залессе** — Адселеныя вёскі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС

### МЕЖЫ

- дзяржаў
- абласцей
- раёнаў
- нацыянальных паркаў і запаведнікаў

### ШЛЯХІ ЗНОСІН

- Чыгункі

Аўтамабільныя дарогі

- Аўтамагістралі
- з удасканаленым пакрыццём
- з пакрыццём
- без пакрыцця
- грунтавыя дарогі

Скарачэнні, прынятыя на картах раёнаў

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| *вдсх.* | вадасховішча | *запав.* | запаведнік | *п.* | пасёлак |
| *Верх.* | Верхні | *кан.* | канал,канава | р-н | раён |
| вобл. | вобласць | *Ніж.* | Ніжні | *Стар.* | Стары |
| *воз.* | возера | *Нов.* | Новы | *Чырв.* | Чырвоны |
| *Вял.* | Вялікі | | | | |

абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадук. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
асн. — асноўны
бел. — беларускі
ваен. — ваенны
вайск. — вайсковы
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
вобл. — вобласць
воз. — возера
вол. — воласць
вытв. — вытворчы
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы

гар. — гарадскі
гасп. — гаспадарчы
гіст. — гістарычны
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
дакумент. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад
зах. — заходні
з-д — завод
каап. — кааператыўны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
крас. — красавік
культ. — культурны
ліп. — ліпень
ліст. — лістапад
МТС — машынна-трактарная станцыя
мяст. — мястэчка
мясц. — мясцовы
найб. — найбольшы
навуч. — навучальны
нам. — намеснік
нар. — народны
нач. — начальнік
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
падп. — падпольны
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
пас. — пасёлак
пас. Савет — пасялковы Савет
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
Пд — поўдзень
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
Пн — поўнач
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
прамысл. — прамысловы
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
рас. — расійскі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
скульпт. — скульптурны
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
с/с — сельсавет
ст. — стагоддзе
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сял. — сялянскі
тэр. — тэрыторыя
У — усход
узбр. — узброены
усх. — усходні
фабр. — фабрычны
фаш. — фашысцкі
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чыг. — чыгунка
чыг. ст. — чыгуначная станцыя
чэрв. — чэрвень

## ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**
**Энцыклапедыя**

**Том 1**
**Кніга 1**

**Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч**

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**


Рэдактары: *Ю.Я.Гаева, В.В.Грынявецкі, Н.А.Дзянісава, М.Г.Нікіцін, В.С.Пазднякоў, А.В.Скараход, Л.У.Языковіч*

Мастацкае афармленне *Н.У.Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У.Кондрада*

Мастацкі рэдактар *Н.У.Кузьмянкова*

Тэхнічны рэдактар *Н.М.Шэвель*

Карэктары: *В.М.Чудакова* (заг. карэктарскага аддзела), *Л.А.Варабей, Г.Т.Глушчанка, В.А.Кульбіцкая, В.М.Лапцева*

Камп'ютэрны набор: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, Н.У.Мітраховіч, Т.М.Саленік, Н.А.Стасевіч, С.М.Хаустовіч*

Камп'ютэрная вёрстка: *С.В.Вераценнікава, С.А.Макаёнак, А.Л.Шалканаўцава*

У томе змешчаны фотаздымкі А.П.Дрыбаса, А.В.Кляшчука, архіва БелЭн, БелТА, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь, Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай АН Беларусі, БелНДІП горадабудаўніцтва.

Падпісана да друку 13.08.2004. Фармат 84 × 108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Пецярбург. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 66,36. Ум. фарб.-адб. 266,7. Ул.-выд. арк. 58,9. Тыраж 4000. Заказ 271.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ №02330/0056830 ад 02.03.2004. Рэспубліка Беларусь. 220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінская фабрыка каляровага друку». Рэспубліка Беларусь. 220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

**Г20** **Гарады і вёскі Беларусі:** Энцыклапедыя. Т. 1, кн. 1. Гомельская вобласць / С.В.Марцэлеў; Рэдкал.: Г.П.Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мн.: БелЭн, 2004. — 632 с.: іл.

ISBN 985-11-0303-9.
ISBN 985-11-0302-0.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і інш. крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Першы том выдання прысвечаны населеным пунктам 11 раёнаў Гомельскай вобласці.

**УДК 908(476.2)**
**ББК 63.3 (4Беи)**

ISBN 985-11-0303-9

9 789851 103030